УДК 82-3
ББК 84
К26

Шрифты предоставлены компанией «ПараТайп»

**Карповіч Лявон**
К26 Маё мястэчка Луна-Воля / Лявон Карповіч. — [б. м.] : Издательские решения, 2021. — 370 с.
ISBN 978-5-0053-5207-1

Кніга паўстала як краязнаўчыя артыкулы аб цудоўным мястэчку з цікавай старажытнай гісторыяй, амаль невядомай яго жыхарам.

Забытыя і напаўзабытыя падзеі, зьвязаныя з мястэчкам Луна-Воля, складаюць зьмест кнігі. Але не толькі яны. Бо тое, што адбываецца на нашых вачах, праз некаторы час становіцца гісторыяй, якая не толькі мае ўласьцівасьць забывацца, але якую вельмі часта стараюцца зьмяніць. Таму гісторыю варта фіксаваць сучасьнікамі і сьведкамі падзей

**УДК 82-3**
**ББК 84**

12+ В соответствии с ФЗ от 29.12.2010 №436-ФЗ

ISBN 978-5-0053-5207-1 

# Оглавление


Зварот да чытача . . . 5
Прадмова . . . 7
Спачатку быў лёд . . . 10
  Пачатак . . . 10
  Арыі? . . . 13
Над Лунай . . . 17
  У летні вечар з аблокаў . . . 17
  Будучыня мінулага . . . 21
Луна і Воля . . . 25
  Дзьве гісторыі . . . 25
  Vola Warszowiensis . . . 28
  Гісторыя ўзьнікненьня Луненскай Волі . . . 29
  Падзел маёмасьці. Камень Боны Сфорцы . . . 30
  Сапегі ў гісторыі Луна — Волі . . . 35
  Легендарны Францішак Сапега . . . 43
  Маёнтак Воля ў 19 стагодзьзі . . . 46
  Лёс апошніх уладальнікаў Волі . . . 50
  Апошнія з Сапегаў . . . 54
  Ромэры — апошнія ўладальнікі Луны . . . 60
Пад Расейскай акупацыяй . . . 70
  Лістападаўскае Вызвольнае Паўстаньне . . . 70
  Масавыя абурэньні . . . 75
Студзеньскае Вызвольнае Паўстаньне . . . 78
  Ян Каменьскі-паўстанец . . . 82
  «Кіргіскі кароль» . . . 88
  Вяртаньне на Радзіму . . . 92
Каралева польскай прозы і пакутлівай праўды . . . 95
  Вяртаньне Элізы Ажэшка . . . 95
  Грамадзянская пастава Элізы Ажэшка . . . 97
  Сярод вясковага люду . . . 100
  Эліза Ажэшка ў Луне . . . 107
Русыфікацыя. Гаспадарчае жыцьцё . . . 112
  Зьнішчэньне мястэчка . . . 112
  «Славутыя кірмашы ў мястэчку Луна» . . . 115
  Бежанства . . . 117
  Дзякуй, Амэрыка! . . . 124
  Акупацыя нямецкая. Страчаная Незалежнасьць. Польска-бальшавіцкая вайна . . . 130

Выбух другой Сусветнай вайны . . . 142
«Вызваленьне» і «зачыстка» . . . 142
Напад фашыстаў. Успаміны і дакумэнты . . . 146
Луна-час пакуты . . . 161
Лёс Луненцаў падчас Савецкай акупацыі . . . 161
Выратаваньне вайной . . . 172
«Бальшавікі нас вызвалілі...» . . . 175
Габрэі Луна-Волі. Жалобная памяць аб страчаным сьвеце . . . 178
«Было калісьці мястэчка пад назвай Луна...» . . . 178
Лічыць, што іх не было? . . . 179
Беларусь — прыстанішча для выгнаньнікаў . . . 181
Габрэі Луна — Волі. Дарогі жыцьця... . . . 185
Пажары і адбудовы . . . 196
Рапсодыя Луненскага кірмашу . . . 204
Пагаршэньне палітычнай і эканамічнай сытуацыі . . . 212
Тэатар у мястэчку . . . 219
Прыход Чырвонай Арміі . . . 222
Пад Нямецкай акупацыяй . . . 224
Галакост . . . 230
Габрэйскае мястэчка бэз габрэяў . . . 232
«Дзьве схемы ГЕТА Луна-Воля: месца застаецца ў мінулым і сучаснасьці» . . . 238
Уводзіны. Дзьве схемы . . . 238
Незьнікаючы боль... . . . 244
Залман Градоўскі «Дарога ў пекла» . . . 246
Рут Маркус пра сябе . . . 254
Зьмены . . . 256
Луна- Воля ў гады Другой сусьветнай вайны . . . 259
Немцы ў Луна-Волі . . . 259
Трагедыя Княжаводцаў . . . 262
Бітвы за вызваленьне Луна — Волі . . . 264
Пасьляваенныя гады . . . 279
Гаспадарчае жыцьцё. Утварэньне калгасу. Перасьлед . . . 279
Самалёт генэрал — палкоўніка Сяргея Жукоўскага . . . 300
Прыход застойных гадоў . . . 302
Успаміны Валянціны Карповіч . . . 303
Нёман — рака часу . . . 309
Эпілёг . . . 330
Незалежнасьць і яе вынікі . . . 330
Аграгарадок . . . 339
«Выбары» . . . 343
Храналёгія падзеяў з гісторыі мястэчка Луна — Воля . . . 358

# Зварот да чытача

Мы жывем адначасова ў двух гарадах
Падваеньне асобы зрывае нам дах
Дык няўжо нам ніколі не склеіць, не сшыць
Менск і Мінск —
дзьве паловы сталічнай душы?
Лявон Вольскі

Паважаны магчымы чытач...

Зьвяртаюся да Цябе з просьбай паразуменьня. У гэтай кніжцы я сабраў у адно сваё бачаньне, мары, сны, сваё адчуваньне мястэчка Луна-Волі, таксама ўспаміны, замалёўкі, назіраньні іншых людзей. Не адкідаў у бок знойдзеныя дакумэнты. Але ўсё напісанае і сабранае адносіцца да таго майго, мной успрынятага мястэчка Луна-Волі. Гэта не гістарычны твор. Калі гэтыя запісы трапяць у рукі чытачу ці то з «агрогородка Лунно», ці то (прабачце за нясьціпласьць) з гішпанскай Гернікі дэ Луна, ці яшчэ якога месца з падобнай назвай і ён раптам пазнае ў нейкім пэрсанажы сябе ці свайго знаёмага, ведайце, што Вы чытаеце мае суб'ектыўныя думкі да тога «майго» мястэчка без прэтэнзіі, што гэта адзіная правільная ацэнка падзеі ці асобы... Для кагосьці, магчыма, не існуе мястэчка Луна-Воля, а ёсьць вёска Лунна, ці «агрогородок Лунно», так як піша Лявон Вольскі пра Менск і Мінск. Кожны мае права на сваё бачаньне...

Да ўсяго знойдзенага, хоць трошкі зьвязанага з мястэчкам матэрыялу, я адносіўся вельмі хціва. Мне шкада было нешта не ўключыць. Але гэта прывяло да таго, што я ня змог аб'яднаць мае набыткі ў адно цэлае. Так атрымаліся часткі тэксту, аб'яднаныя ці-то ў часе, ці гістарычнай падзеяй, ці лёсам людзей, ці аддзельнай тэмай, напрыклад, пра Нёман.

Я марыў зрабіць кніжку аб улюбёным мной мястэчку, бо канчаткова перакананы, што людзі павінны ведаць гісторыю свайго роду, сваёй «малой радзімы», дзе нарадзіўся ён ці яго продкі, Гісторыю сваёй Айчыны. Не, я не памыліўся, напісаўшы Гісторыя з вялікай літары, бо Гісторыя сваёй Айчыны для грамадзяніна заўсёды вялікая, нягледзячы на яе сьветлыя і цёмныя старонкі. Кажуць, што ў нашых продкаў існаваў такі звычай, калі юнака пасьвячалі ў мужчыны, то адным зь іспытаў было веданьне гісторыі свайго роду ў сямі пакаленьнях! Ня ведаеш, ня маеш права быць мужчынам! Гэта забясьпечвала, каб чалавек дбаў пра гонар свайго роду і памнажаў яго. Спадзяюся, што з дапамогай гэтых запісаў частка жыхароў мястэчка больш блізка пазнаёміцца з гісторыяй Луна-Волі і больш яго палюбіць.

У зьбіраньні матэрыялаў пра мястэчка мне дапамагалі без перабольшваньня пару дзясяткаў людзей. Усіх пералічыць не магу нават з той пры-

чыны, што кагосьці ня ўспомню і гэта будзе несправядліва. Але не магу не назваць Язэпа Палубятку, які заахвоціў мяне да гэтай працы і першы вычытваў, набіраў на кампутары і друкаваў у газэце «Мастоўскі весьнік» першыя артыкулы; Уладзіміра Хільмановіча, які не даваў памерці надзеі ў вынік, першы вычытаў усё сабранае і дапамог выправіць недахопы, упарадкаваць матэрыялы; Рут Маркус з Тэль-Авіва, якая сваёй патрыятычнай паставай да мястэчка Луна-Волі і велізарнай працай па зьбіраньню і захаваньню памяці аб месцы, дзе жылі яе бацькі, натхняла да працы, а таксама дазволіла выкарыстаць яе матэрыялы ў гэтай кніжцы; ксяндза Люцыяна Радомскага, які падзяліўся сваімі матэрыяламі аб гісторыі мястэчка; маю жонку Валянціну Карповіч, якая напісала свае ўспаміны і дадала ў кнігу; Паўла Мажэйку, які забясьпечыў усё, што зьвязана з першым выданьнем кнігі, бо без яго працы выданьне было б немагчымым.

З павагай,
аўтар сабраных і дададных запісаў Лявон Карповіч з Луны-Волі



Цэнтар Луна. 2020 год. Крыніца: https://yandex.by/collections/card/5e04d6373959b2e14b267eeb/

# Прадмова

…І няма ў людзей больш простага
способу ўдасканальвацца, як праз
веданьне дзеяў мінулых.
Палібій

«Бацькаўшчына мая, родная маці Беларусь! Ты ё для мяне найдаражэйшым, найцаньнейшым скарбам: пры табе я жыву кожнай думкай сваёй! Бацькаўшчына Беларусь, люблю я цябе, тваё поле і пожні вялікія, што разьвярнуліся ўсім сваім хараством перад вокам чалавека. Люблю цябе, Беларусь, бо я частка цябе. Люблю цябе, бо ты мая: усюды, дзя я цябе бачу, — бачу сябе. Люблю я гутарку тваю найхарашэйшую і найразумнейшую, бо ў ёй я толькі адчуваю, што я праўдзівы сын Беларусі. Люблю цябе, мая мова родная, ты для мяне неацэнны скарб, бо ты ўліта мне ў душу маёй маткай роднай, калі яшчэ быў у калысцы. Ня буду браць прыкладу з другіх сыноў Беларусі, што, паехаўшы ў сьвет, наўмысьля стараюцца забыцца свае роднае мовы і чураюцца перад другімі нацыямі назваць сябе беларусамі… Такі чалавек не дастойны называцца сынам Беларусі, ён здраднік свае Бацькаўшчыны і ўсяго Беларускага народу.

Беларусь, маці мая, зямля маіх бацькоў, дзядоў і прадзедаў, што дзеля цябе жылі, крывёй сваёй і духам сваім цябе баранілі. Беларусь, Бацькаўшчына мая, на цябе я хачу глядзець аж да сьмерці. Ты для мене ёсьць жыцьцём, навукаю, ты вучыш мяне ад калыскі да дамавіны кахаць цябе, цярпець за цябе і дзеля цябе…» — 1921 г. Язэп Шпэт.

Чытаючы словы Язэпа Шпэта, можа падацца, як усё проста. Як проста быць сынам Беларусі: толькі любі Бацькаўшчыну, любі родную мову…

І ў задуменьне прыводзяць другія словы: «Люди, которые говорят на белорусском языке, не могут делать ничего, кроме как разговаривать на белорусском языке, потому что по-белорусски нельзя выразить ничего великого. Белорусский язык–бедный язык. В мире существует только два великих языка: русский и английский». А. Лукашэнка. З выступа на сесіі Гомельскага гарсавета 1 сьнежня 1994 г. «Народная газета» 01.02.1995 г.

Як, адкуль і чаму могуць у людзей узьнікаць такія пачуцьці і думкі аб самым сьвятым? Комплекс гістарычнай непаўнавартасьці, манкуртызацыя, служэньне не свайму народу, а захопнікам, мае гістарычныя прычыны.

Беларусь два стагодзьдзя была паланянкай, якую закавалі ў кайданы і кінулі ў вязьніцу. Ды крый Божа, каб хто яе ўбачыў, каб магла яна варухнуцца і даць аб сабе знаць. Бо баяліся яе і нашай прыгожай, велічнай, мудрай гісторыі. Баяліся і баяцца тыя, хто не хацеў і не хоча, каб падняўся

з небыцьця ды годна расправіў плечы адзін з найстаражытнейшых эўрапейскіх народаў–беларусы.

Час сьціскае стагодзьдзя, збліжае падзеі. Час абыякавы. Але вечны чалавек, яго памяць, яго трывогі і надзеі. Гэта чалавек надае часу рух. Нястрыманая і вечная плынь часу зносіць і людзкую радасьць і людзкі смутак. І зьнесла бы ўсё ў нябыт без астатку, калі б не былі такімі глыбокімі і чыстымі крыніцы народнай памяці, што песьняй і казкай, балядай і паданьнямі зьвязалі нас з далёкімі продкамі нашымі і далі магчымасьць дазнацца адкуль ёсьць і пайшла наша Беларусь, што прайшла, чаму сьведкаю была і што перажылі людзі ад тых часоў, як памятаюць сябе... Пакуль ёсьць гэтая памяць–жыве Беларусь!

Вобраз роднай зямлі ў кожнага чалавека свой, адметны, непаўторны. У ім колеры і пахі, гукі і мроі, факты гісторыі і ўласныя перажываньні. І гэты вобраз становіцца пэрлам толькі для таго, хто не парваў сваіх каранёў, чые пачуцьці асьветлены любоўю.

Кожнай жывой істоце неабходна ведаць свой дом. У кожнага з нас ён ёсьць. Разам у ім жывуць нашыя родныя і ўтвараюць сям'ю. Побач у сваіх дамах жывуць суседзі. Усе мы жыхары Беларусі жывём у доме-краіне Рэспублiцы Беларусь. Беларусь мае сваіх суседзяў, тыя — сваіх, і ўсе людзі жывуць у доме — плянэце Зямля.

Каб дом быў добрым, людным, прыгожым, неабходна берагчы яго, клапаціцца аб ім, любіць яго. Каб любіць вялікую Зямлю, неабходна спачатку палюбіць невялікую яе частачку–Радзіму. Так як любоў да чалавецтва, праяўляецца праз любоў да блізкіх, так любоў да Зямлі праяўляецца праз любоў да месца, у якім жывеш.

Як часта можна пачуць выказваньне: «Ад мяне нічога не залежыць. А вёска наша нікому не патрэбная». Гэта дакладна тое, аб чым марыць, над чым працуюць ворагі Беларусі, каб так думала большасьць.

Кажуць, што мы, беларусы, гістарычна малады народ. Каля 1000 гадоў таму назад у нас адбыўся культурны выбух. Практычна адначасова ўзьніклі гарады, пісьменнасьць, дзяржава, распаўсюдзілася хрысьціянства. За вельмі кароткі час нашы продкі вышлі з гістарычнага нябыту і стварылі вялікую магутную цывілізаваную дзяржаву, якая стала культурнай зьявай Эўропы...

Сэрцам эўрапейскай культуры былі гарады. Беларускія гарады карысталіся Магдэбурскім правам, мелі самакіраваньне і вольнае саслоўе, былі цэнтрамі гандлю, рамесьніцтва, адміністрацыі і рэлігіі, станавіліся духоўнымі і культурнымі цэнтрамі народу. Але для гэтага паміж гарадамі і астатнім людам, вясковым, павінна была існаваць надзейная сувязь. У сярэднявяковай Беларусі, гэта значыць у Вялікім Княстве Літоўскім гэтая сувязь ажыцьцяўлялася праз славутыя беларускія мястэчкі. Мястэчка было цэнтрам кіраваньня і парафіі.. Тут былі і царква, і касьцёл, і сынагога. Тут жылі ня толькі сяляне, але і гандляры, мяшчане і рамесьнікі, былі крама, школа, аптэка, шпіталь, пошта, кляштар і палац. У мястэчку існавала галоўная гандлёвая плошча і рынак. Мястэчкі мелі самакіраваньне, магдэбурскія

гербы і вольных жыхароў. Мястэчкі разьмяшчаліся на адлегласьці 12—16 км адно ад другога... Жыхар любой вёскі ў любы час мог у разе патрэбы на працягу адной — дзьвюх гадзінаў трапіць у мястэчка. У мястэчку адбываўся культурны абмен паміж горадам і вёскай.

Каб разарваць культурны ланцуг расейскія акупанты ліквідавалі ня толькі гэту важнейшую функцыю мястэчак, але і саму назву, ператварыўшы іх у «дзярэўні» або ў «гэпэ» («городские посёлки»). А ў 1964 годзе быў распрацаваны плян ліквідацыі на Беларусі вясковых паселішчаў, дзе яшчэ захоўвалася беларуская мова і жыла беларуская гістарычная памяць. «Працэс» працягваецца. Цяпер былым мястэчкам надаюць абразьлівую і недарэчную назву «агрогородок».

Ідзе змаганьне і, каб зрабіць асэнсаваны выбар, паспрабуем прыадкрыць пліты памяці роднай зямлі, на якіх пыл многіх вякоў. Прыадчынім, каб ніхто па легкадумнасьці або невуцтву недасьведчанасьці, ня плюнуў на пліту памяці, незнарок зачапіўшыся за яе ў сваім неасэнсаваным мітусьлівым бегу па пакутных дарогах жыцьця. Бо той, хто плюне на памятныя знакі мінулага, здольны плюнуць на ЧАЛАВЕКА, на МАЦІ, на АЙЧЫНУ... Тысячы год жыве памяць людзкая, каб папярэдзіць разумных і неразумных, злых і добрых: асьцярожна, тут жыве наша з вамі ГІСТОРЫЯ.

Мястэчкі, як людзі: у кожнага свой твар, свой характар свой лёс. Гісторыя мястэчка–далёкая і блізкая–вартая засьведчаньня ў дакумэнтах, летапісах, творах. Узрост мястэчка — прадмет гонару для мястачкоўцаў.

Кожнае пакаленьне разумее гісторыю па-свойму, бо ў кожнага пакаленьня сваё разуменьне ЧАСУ.

Паспрабуем зазірнуць у тоні ЧАСУ і, калі ўдасца, убачым і «простых» людзей, якія сваімі мазалямі кармілі яснавяльможнае шляхецтва, а на плячах сваіх трымалі дзяржаўны падмурак. І тых, хто жыцьцём і кроўю баранілі родны край, бо ён належаў ім, а яны–яму. І тых, каму выпала стаяць на вяршыні ўлады, каб служыць народу і Айчыне. Не мінем і тых, хто аказаўся падманутым, не мог разабрацца ў хітраспляценьнях варожага лябірынту, і тых, хто ў здрадзе шукаў і шукае асабістую выгаду, прадаўшы ворагу і мінулае і будучыню і душу. І тых, у каго сілком адабралі памяць і зрабілі манкуртамі. Бог усім судзьдзя.

Знайма толькі, калі ёсьць яны-носьбіты і ахоўнікі вечнага Духу Любові да Літвы-Беларусі, верныя рыцары яе «Пагоні» і Бел-Чырвона-Белага Сьцяга, яму ня згаснуць і шляху нашаму не зарасьці быльнягом забыцьця.

«Мы здалёк убачылі свабоду,
І яшчэ ня вырваліся з пут.
Божа, не дадай майму народу
Пошасьці, нязгоды і пакут».
Генадзь Бураўкін.

# Спачатку быў лёд

Неўміручасьць даўніх пакаленьняў,
Водгульле мінулага быцьця,
мы — як сьведкі вашага існеньня,
Ваш далейшы паясок жыцьця.
Ларыса Геніюш

## Пачатак

У апошнія 5 мільёнаў гадоў на мясьціну, дзе мы жывём 5 разоў насоўваліся і адступалі ледавікі. Апошні раз ледавік пакінуў нашу мясцовасьць 14 тысяч гадоў таму назад. Разам з ледавіком адышлі холадалюбівыя жывёлы, найважнейшыя для першабытных людзей — мамант і валасаты насарог. Паляваньне на гэтых волатаў забясьпечвала людзей ежай, скурай для адзеньня і жытла, вялікія косьці таксама выкарыстоўваліся ў будаўніцтве, з меншых рабілі прылады працы і ўжывалі як палівa. Таму людзі вандравалі сьледам за мамантамі, якія вандравалі за ледавіком. Першымі паляўнічымі на мамантаў былі нэандэртальцы. Так іх назвалі вучоныя па назьве мясцовасьці, дзе знайшлі іх жытло. Па невядомай прычыне 40—35 тысяч гадоў таму назад нэандэртальцы поўнасцю зьнікаюць. І каля 26 тысяч гадоў да новай эры (да Нараджэньня Хрыстова) на тэрыторыі сучаснай Беларусі ўжо знаходзіліся краманьёнцы — другая галіна першабытнага чалавека. 10 тысяч гадоў таму назад заканчваецца ледавіковая эпоха. Валасаты насарог і маманты зьнікаюць. Асноўным аб'ектам паляваньня становіцца паўночны алень. Кліматычныя зьмены холаду і цяпла прымушаюць людзей прыстасоўвацца, вынаходзіць спосабы захаваньня жыцьця, робяць іх больш разумнымі і ўмелымі. Яны выраблялі прылады працы з дрэва, косьці, крэмню, палявалі на дзікіх коней, першабытных быкоў, аленяў, пясцоў, умелі рабіць сякеры, цёслы, глянцавальнікі, іголкі, нават тлушчавыя сьвечкі, вынайшлі лук і стрэлы.

7—6 тысяч гадоў да нашай эры вызваленыя ледавіком землі заняў лес — бярэзьнікі і хвойнікі, а пры пацяпленьні сталі расьці дубы, вольхі, асіны, арэшнік. Зьяўілася многа расьліннай ежы: лясных і вадзяных арэхаў, жалудоў, каранёў, грыбоў, ягад. Каб іх захоўваць патрэбен быў посуд, які сталі рабіць з гліны. Лес засялілі высакародны алень, тур, зубар, ласі, дзікі, казулі, мядзьведзі, птушкі. У рэках і азёрах было шмат рыбы, баброў.

Першабытныя людзі засялялі новыя землі, рухаючыся ўздоўж рэк, паволі засялілі ўсю цяперашнюю тэрыторыю нашай краіны. Яны жылі ў паўзямлянках радавымі абшчынамі, займаліся паляваньнем, рыбалоўствам ды зьбіральніцтвам. Аснову абшчыны, якая налічвала 25—30 чалавек складалі родзічы па маці, таму гэты пэрыяд гісторыі называецца матрыярхатам. З родавых абшчын з цягам часу ўтварылася племя. Колькасьць насельніцтва ў сёньняшніх межах Беларусі магло быць каля 6000 чалавек.

Той час называюць каменным векам па матэрыялу прыладаў працы. Прыблізна 4 тысячы гадоў да нашай эры ў жыцьці першабытных людзей адбыліся вельмі важныя зьмены, або, як іх называюць, тэхналягічная рэвалюцыя: чалавек авалодаў новай тэхнікай апрацоўкі крэмню, пачаў шліфаваць прылады працы, навучыўся вырабляць гліняны посуд, вынайшаў лук і стрэлы, ткацтва. Дзякуючы гэтаму людзі сталі пераходзіць да аселага ладу жыцьця, асвойваць земляробства ды жывёлагадоўлю.

У найбольш зручных для жыльля мясьцінах рабілі свае паселішчы некаторыя абшчыны, ствараючы гнёзды, што добра відаць на карце стаянак каменна — бронзавых вякоў, выяўленых ля Песак, Мастоў, Дубна, Луна, на Нёмні, Шчары, Росі і Зяльвянцы.




Стаянкі каменнага і бронзавага вякоў

Паляваньне ажыцьцяўлялася разнастайнымі спосабамі. Рабілі аблавы з выкарыстаньнем агню і ям, высочваньнем з выкарыстаньнем масак. Але найбольш вытрымкі, сілы і вынослівасьці патрабаваў гон –пераследаваньне жывёлы да яе зьнясіленьня. Для такога паляваньня зімой выкарыстоўваліся лыжы. Лукі рабілі з вяза, дуба, цеціва была даўжынёй 150—180 см. Стрэлы былі драўляныя або трысьняговыя, з крамянёвым наканечнікам, даўжынёй 70—90 см. Чалавек прыручыў сабаку і меў дамашнюю жывёлу: сьвіней, авечак, коз, коней. Незвычайна вялікую ролю ў жыцьці

першабытнага чалавека адыграў крэмень, пра які Вольга Іпатава піша, як пра жывую істоту: «агонь у жылах крэмню».

Усё найбольш дасканалыя прылады працы першабытныя людзі рабілі з крэмню, які зьбіралі спачатку на паверхні, а потым сталі здабываць у шахце, бо на паверхні не было камянёў вялікіх памераў 30—40 см у папярочніку для вырабу сярпоў, сякер і іншых вялікіх памераў прылад.

Такія шахты былі па суседзтву з Лунай па сярэднім цячэньні Росі, каля пасёлку Краснасельскі.



*Крэмнездабыўныя шахты на Росі. Здабыча і апрацоўка крэмню.*

Краснасельскія шахты

Для здабычы крэмню ў крэйдавай тоўшчы спачатку выкопвалі калодзеж — ствол дыямэтрам да 1,5 м і глыбінёй у залежнасьці ад заляганьня крэмню ад 2 да 8 м. Далей рабіліся падбоі да 1 мэтра даўжынёй. Даўжэйшыя не рабілі, каб пазьбегнуць абвалу. Разумней было выкапаць побач новую шахту. Выпрацаваныя шахты засыпалі друзам з суседніх шахтаў, застаўляючы месцы для майстэрні па апрацоўцы крэмню. На крэйдавых радовішчах Росі знаходзілася некалькі тысяч шахтаў. Тут была выраблена незьлічоная колькасьць крамянёвых вырабаў, найважнейшымі з якіх былі сякеры. Вырабы распаўсюджваліся на ўсё Панямоньне і па-за яго межамі. Такія сякеры знойдзены і ў Луна і знаходзяцца ў школьным музэі. Краснасельскія шахты, крэмнеапрацоўчыя майстэрні, паселішчы шахцёраў і майстроў, суседзкія стаянкі ўтварылі ідэальны комплекс, які існаваў некалькі тысяч гадоў, бо каменнымі сякерамі карысталіся нават у жалезным веку. Дзівіць сучасьнікаў, як правільна былі сканструяваны шахты, прадуманы спосаб здабычы крэмню, дасканаласьць шахцёрскага інструмэнту, некаторыя захаваліся да нашага часу, Якасьць яго гаворыць аб вельмі высокім узроўні першабытнай вытворчасьці, у якой існаваў прафэсійны падзел працы шахцёраў, майстроў па апрацоўцы крэмню і мянял, якія мянялі вырабы з крэмню на нешта іншае.



Крамянёвыя сякеры на стэндзе музэю Луненскай школы

Апрацаваўшы крэмень, першабытныя людзі, не маглі не адкрыць «агонь у жылах крэмню» — уласьцівасьць утварэньня іскры, а магчыма і лекавыя ўласьцівасьці, распрацаваныя цяпер Алесем Белакозам, стваральнікам Гудзеўскага літаратурна-краязнаўчага музэю.

## Арыі?

Тут спляліся карані ятвягаў,
прусаў, крывічоў.
Бацька Нёман...
Беларуская магутная рака...
Птушак гоман...
Штосьці шэпча патаемна асака....
Генадзь Аўласенка

У канцы III і пачатку II тысячагодзьдзяў да нашай эры ва ўсёй Эўропе адбыліся ключавыя зьмены. Сюды прыйшлі плямёны, якія размаўлялі на аднолькавай мове, што была раньняй формай санскрыту. Яны атрымалі назву індаэўрапейцы або арыі. У Беларусь арыі прыйшлі праз басэйны Нёмна і Дняпра. Праўда вядомы нямецкі вучоны Пашэ лічыць, што радзі-

маю арыяў была тэрыторыя сучаснай Беларусі. Прышлыя насельнікі ўжо карысталіся бронзавымі прыладамі працы (з чым зьвязаны пачатак бронзавага веку і на нашай тэрыторыі), займаліся матычным земляробствам і жывёлагадоўляй, жылі ў дамах слупавай канструкцыі. Сьвятынямі для арыяў былі, агонь сонца і вада. Сьляды санскрыту поўняць сучасную беларускую мову.

Адбылося, што на зьмену эпохі каменных прыладаў працы, рыбалоўства і зьбіральніцтва, калі галоўную ролю ў грамадзтве выконвала жанчына (матрыярхат), прыходзіць час бронзавых прылад працы, жывёлагадоўлі, земляробства, новых адносін паміж людзьмі, калі ўзрастае галоўная роля мужчыны (патрыярхат). Арыі прыдумалі і выкарыстоўвалі кола, што было сапраўднай тэхнічнай рэвалюцыяй, роўнай з выкарыстаньнем мэталю. Індаэўрапейцы лічылі, што сьвет пабудаваны з трох міроў, якія аб'ядноўваліся дубам. У верхнім міры былі арлы, вораны. У ніжнім міры жылі зьмеі і рыбы. Сьвяшчэннымі былі мядзьведзь, бык, конь. Месца пакланеньня знаходзілася каля збудаваных з камянёў ідалаў і сьвяцілішча, дзе спальвалі памерлых.

Але галоўная гістарычная заслуга арыяў у тым, што ў выніку доўгага сумеснага жыцьця з мясцовым насельніцтвам, карыстаючыся яго мовай і звычаямі, утварылі шмат розных народаў, такіх як: германцы, кельты, італійцы, грэкі, славяне, балты, венды, індусы ды іншыя. Амаль усю сучасную тэрыторыю Беларусі да 1- 7 ад Н.Х. (1300 год таму назад) засялялі балцкія плямёны (яцьвягі, літва). Новыя вялікія зьмены ў жыцьці людзей на зямлі прынесла адкрыцьцё жалеза. Зьяўленьне жалезных прыладаў працы і жалезнай зброі зьмяніла спосаб жыцьця людзей і адносіны між імі. Земляробства становіцца больш дасканалай і надзейнай крыніцай ежы. З дапамогай жалезных прылад лягчэй было вырабляць розныя патрэбныя чалавеку рэчы. І сама апрацоўка жалеза, і прылад працы ды зброі з яго садзейнічалі разьвіцьцю рамёслаў. Аднак трэба сказаць, што калі ў Эўрапейскім Гальштаце жалеза ведалі ў 8 да Н.Х., то ў Панямоньні жалеза пачалі вырабляць з балотнай руды каля 500 гадоў да Н. Х. Балотную руду варылі ў печах — домніцах з гліны і крэйды 50 см у папярочніку, куды пластамі засыпалі драўляны вугаль і балотную руду. Дзякуючы ўдзіманьню паветра тэмпэратура ў печы дасягала 1200 градусаў, што недастаткова, каб расплавіць жалеза, але дастаткова, каб атрымаць з руды простую жалезную масу — крыцу. Крыцу трэба было ў разагрэтым у гарне стане апрацоўваць на накавальні, каб атрымаць «крычнае» жалеза. Першыя молаты і накавальні былі з каменю.

У 370-х гадах качавы народ гуны пачалі прасоўвацца з Азіі на захад. Гэта дало штуршок Вялікаму перасяленьню народаў, прычын якому было многа: колькасны рост плямён, неспрыяльныя ўмовы жыцьця на спустошаных землях, ціск суседзяў, распад абшчынных адносінаў у выніку ўзьнікненьня бедных і багатых, усталяваньне ваеннай дэмакратыі, калі галоўную ролю адыгрывалі ваенныя дружыны і іх кіраўнікі.

На Панямоньне, дзе ўжо не меней двух тысячагодзьдзяў жылі балты пачынаюць у X стагодзьдзі пранікаць славяне. Рухаючыся па рэках, славяне сяліліся побач з балтамі, часам падпарадкоўваючы іх, займалі іх гарадзішчы.

Панямоньне было краем пушчаў і балот з невялікай колькасьцю насельніцтва, таму славяне часьцей за ўсё, сяліліся на новых землях без ваенных дзеяньняў, мірна. Яны мелі лепшыя, чым у балтаў прылады працы, больш дасканалую гаспадарку. Панямоньне стала месцам працяглага сумеснага жыцьця балцкіх плямёнаў яцьвягаў, літвы і славянскіх плямёнаў дрыгавічоў і крывічоў. Стагодзьдзямі тут была зьмешаная балта-славянская зона і менавіта тут сталі выпрацоўвацца асаблівасьці беларускай мовы-аканьне, дзеканьне, цеканьне, цьвёрдае «р» і інш.

Раскрываем 3 том «Жывапіснай Русі» на стар. 87 і прачытаем: «Шафарык лічыць, што народы Літоўскі і Славянскі ў дагістарычныя часы складалі дзьве галіны аднаго племені, але ў гістарычную эпоху так паміж сабой разьдзяліліся, што цяпер трэба іх прымаць за два племені розныя, хаця ж паміж індаэўрапейскімі плямёнамі самыя родныя».

Салаўёў жа гаворыць, што «насупраць, у дагістарычны час славяне і літоўцы належалі двум розным плямёнам, але ў гістарычную эпоху так паміж сабою зблізіліся, што з усіх індаэўрапейскіх народаў зьяўляюцца самымі роднымі».

А яшчэ там сама на стар. 11: «Достоверно однако то, что Литовцы и Белорусы сидят на землях собственных, унаследованных спокон века».

Але мне асабіста больш да спадобы гіпотэза майго добрага знаёмага Віктара Стахвюка. Страшэнна энэргічны, працавіты і таленавіты чалавек. Мастак, пісьменьнік, бізнэсовец, патрыёт сваёй вёскі і навакольнай прыроды. Захапляецца падводным фатаграфаваньнем. Усяго не пералічыць.

Сутнасьць ідэй спадара Віктара, як я іх зразумеў наступная.

Першабытны чалавек пакінуў свае сьляды на этнічнай тэрыторыі Беларусі 100 000 г. таму. Беларусы жывуць на сваёй зямлі спакон веку. Яны не прышэльцы, а знаходзяцца на сваёй зямлі па задумцы Ўсявышняга, які абʼявіў вытокі і ісьціну быцьця ва ўсіх формах і мірах. Да 7 тысячагодзьдзя да нашай эры былі заселены ўсе этнічныя землі беларусаў, у тым ліку дрыгавіцка-крывіцкае Панямоньне. І магчыма мы не стварыліся ні з каго, а ёсьць старымі, як і іншыя дабіблейскія народы.

Багоў ня выдумалі, а ведалі ад пачатку, бо розум і сьведамасьць у справах рэлігіі найменш прыдатныя. Першабытны чалавек верыў, а жрэц ведаў, што прырода адухатвораная, жывая і разумная і намнога дужэйшая за самога чалавека, якога яна яго самога, яго род ці племя можа ўзнагародзіць, а можа пазбавіць усяго. Гэту веру арнамэнтавалі абрадамі, пэрсанафікацыяй зьяў прыроды, ідалапаклонствам. Але істота веры ёсьць нязьменная. Гэта вера ў зьверхпрыроду сілаў дабра і зла, без якіх нішто не адбываецца. Нішто немажліва: ні прырода ні час. Гэта вера ў Бога. Ёю спакон веку быў надзелены чалавек. Гэта вера жывая да сёньня і не зь-

мянілася нічуць. Трэба ня блытаць веру ў Бога і форму абрадаў на розных ступенях разьвіцьця чалавека. Разьвіваліся і зьнікалі абрады — твор чалавечага розуму, але ня вера, вытокі якой па-за розумам, выплываюць з глыбіняў памяці ці інтуіцыі.

На шатах паганскіх ідалаў былі напісаны іх імёны. Праславяне мелі свой алфавіт, які быў зьнішчаны разам з ідаламі з прыходам хрысьціянства. Станіслаў Якубоўскі ў кнізе «Bogowie Slowian» піша, што біскуп Цэтмар брат цэзара Генрыха II бачыў запісаныя пісьмом runiernym імёны багоў на адзежы, у якую былі апрануты ідалы.

Не магу не расказаць пра цікавы выпадак, які адбыўся са мной летась у Кіеве. Я ўпарта шукаў паштоўку з помнікам князёўны Вольгі. Перабраўшы ўсе наборы паштовак і не знайшоўшы патрэбнае, запытаўся, чаму няма такой паштоўкі. На што пачуў адказ ад адной з гандлярак: «Мы ня любім Вольгу, таму і няма». «Але ж побач з Вольгай Сьв. Кірыл і Мяфодзій». «І што з таго. У нас пісьменнасьць была да іх» — прагучала ў адказ.

Дзясяты век як магічная граніца гісторыі ўсёй славяншчыны, якая з гэтага моманту раптам становіцца густа заселена, мае свае гарады і замкі, дзяржавы, у якіх уладарылі князі, паводле ўстаноўленага права і сваёй рэлігіі. Што было прычынаю, тымі дражджамі гісторыі, што запоўнілі прастору і час бурлівым жыцьцём і данесьлі да нас памяць мінулага? Гэта было хрысьціянства элітнае і адукаванае. Праціўнікам яго было лагоднае, як характар славян, паганства, багі якога не ўвасаблялі ваяўнічасьці, а ні хітрасьці, таму былі асуджаны на гібель. На Панямоньне ў 11 ст. прыйшлі не славяне, а прыйшло хрысьціянства. «Зрэшту в школах нас увогулэ нэ ўчылі про дрыговічув, бо нас одэ нэ мело быці! Алэ мы одэ былі» -Віктар Стахвюк.

Многа гадоў Панямоньне было не ў сваёй краіне. За гэтыя гады чатыры разы памянялася назва карэннага насельніцтва: крывічы — дрыгавічы — ліцьвіны — рускія — беларусы. А чалавек павінен жыць у рэчышчы свайго Этнасу і Роду. Той, хто разрывае сувязі, бярэ адказнасьць ня толькі за сябе, але і за будучыя пакаленьні.

Такі зьмястоўны водступ, на мой погляд, патрэбны каб мець хоць які шанс зразумець, адкуль тая нітачка, якая пятае стагодзьдзе трымае тут беларускую культуру.

Спляліся ў Панямоньні
Зямля, Вада і Неба.
Дзіўлюся ў аняменьні
На непаўторны сьвет.
Праз сон тысячагодзьдзяў
Радзіма па каменьні
Плыве...
Пятро Ламан

# Над Лунай

Індура, Лунна… Прыгожыя назвы вёсак непадалёку ад Гродна. Упершыню пачуў іх у раньнім юнацтве, са старонак вялікага патрапанага аднатомніка Усевалада Крастоўскага, дзе апроч любоўных вершаў («Андалузская ночь горяча, горяча…», «Ванька-ключник» і іншае), апроч рамана «Деды» былі яшчэ цікавыя і вясёлыя нататкі афіцэра гродзенскага, здаецца, драгунскага палка. Лунну потым я ўбачыў. Там і пачуў ад незнаёмага дзядзькі пра красу гэтай мясьціны над Нёманам: «Здаецца, браце, і хлеба трэба менш — так хораша!». Янка Брыль «Пішу як жыву»

## У летні вечар з аблокаў

Луна… Колькі таямніча-чароўнага, летуценнага, ласкава-пяшчотнага у гэтай назве. Луна над Нёманам…

Каб пазнаць усе чары Луна, трэба выбраць летні вечар, калі сонечныя цені толькі-толькі зьніклі. У гэта імгненьне зьяўляюцца цені мінулага. У шэпце Нёмна ўзьнікаюць водбліскі вогнішча, заціхае тужлівая песьня, разносіцца лёгкі стогн, бераг ажывае. Гэта бурлакі дайшлі да адпачынку. над Нёмнам. Калыхаюцца на хвалях цені караблёў. Над мостам пралятае кавалькада за шыкоўнай карэтай. Можа сам Леў Сапега аглядае свае ўладаньні. На адлегласьці пару соцень крокаў вырысоўваецца палац. Шэлест доўгіх сукенак, о! ужо і пацалунак прагучаў над люстэркамі ставаў пад покрывам палянэза Агінскага. Ці не сабраліся ў паноў Ромэраў госьці? Хто там раз-пораз нагінаецца долу, вырывае травінку, разглядае і хавае паміж лісткамі? Так, гэта яна і «людзі і кветкі над Нёмнам». Людзі і кветкі і Эліза Ажэшка. Вось нібы маланка мільганула постаць чароўнай амазонкі на крылатым кані. Гэта кінулася ў бой за Радзіму Эмілія Плятэр. Аж ускалыхнуўся звон у касьцельнай званіцы. Бон… бон… Бона… бон… І над касьцёлам узьнікла цень у каралеўскім убраньні. Але бляск убораў не пакрывае халоднага павеву ад суровага італьянскага твару фундатаркі Луненскага касьцёлу каралевы Боны Сфорцы, сьпевамі званоў якога захаплялася Эліза Ажэшка. Далей шумы нарастаюць, цені ўсё гушчэй, яны мільгаюць як сьпіцы ў коле.

Швэды, рускія, французы, палякі немцы, бальшавікі, фашысты, камуністы… Радасьць, боль, сьлёзы, нянавісьць. Усім насычана паветра! Душа халадзее. Дзе міласьць, дзе любоў? Павінна ж быць! Хутчэй, хутчэй, далей.

Хвілінка цішы і прасторы. І зноў енкі, грымоты, мэтастазы расійскага мата… Не, гэта ўжо не цені. Гэта абак царквы-мураўёўкі ідзе ідэалягічнае…. мерапрыемства пад назвай дыскатэка. Царква, клюб, сельсавет утвараюць нейкі мясцовы бэрмудзкі трохкутнік. Рэзка павернем улева, каб выйсьці з гэтае мясьціны.

Але тут, дзе празрыстай ніткай уецца, барукаючыся за жыцьцё, рачулка Лунянка цені згусьціліся ў чорную хмару з жоўтымі шасьціканцовымі зоркамі. Дзіцячы плач, гартанныя выкрыкі на незразумелай мове, дзіўныя мэлёдыі, і скрыпка. Скрыпка плача і высьпеўвае смутак, як бы пытае: чаму? Чаму нас забылі? А нас было 1549. 1549 жыхароў Луна сталі ценямі і зьвяртаюцца да жывых — успомніце, дайце нам знак, што вы памятаеце. Ці пачуюць? Ноч хавае цені.

Апяклі мяне росы раньнія,
Краскі водарам абдалі,
Прыпадаю я сэрцам раненым
Да каханай сваёй зямлі.
А яна, на кускі пакрамсаная,
У хлусьлівым чужым тумане,
Плугам родных сыноў неўзараная,
Ціха помачы просіць у мяне.
Ларыса Геніюш

І сапраўды, як водарам абдаў Бел-Чырвона-Белы Сьцяг… і надпіс «Жыве Беларусь!» Гэта знак таго, што ўсё будзе яшчэ добра!

Як жа ўзьнікла гэта цудоўная назва Луна?



Лунь на паляваньні

Балта — яцьвягі маглі даць такую назву ад слова Liunas, што значыць балота. Бо мясьціна тут да сярэдзіны XX стагодзьдзя была вельмі бало-

цістай. І славяне крывічы ці дрыгавічы далі б такую назву, бо амаль заўсёды вісеў у вышыні зоркі шуляк, выглядаючы здабычу. Шуляк ці лунь балотны. Ён і гнездаваўся тут, гэты прыгожы (сівы як лунь) драпежнік.

Называлася гэта паселішча дакладна так Луна. Гэтаму ёсьць многа доказаў. Так на карце Вялікага Княства Літоўскага, выдадзенай Мікалаем Радзівілам-Сіроткам у 1613 годзе складзенай Тамашам Кшыштафам Макоўскім у Нясьвіжы выразна напісана Luna.




Радзівілаўская карта (1613)

Луна на карце ВКЛ 1665 года выданьня.




Фрагмэнт Карты Вялікага Княства Літоўскага 1665 года

Так і на многіх пазьнейшых картах замежнага выданьня (карта ВКЛ і Русі Белай з Нюрынбергу ад 1687 г., карта ВКЛ з Нюрынбергу ад 1710 г., карта ВКЛ з Амстэрдаму ад 1733 г.) Луна з адным «н» згадваецца разам з Гродна, Мастамі, Ваўкавыскам, Слонімам.

Фрагмэнт Карты Слонімскага намесьніцтва 1796 г.

Гістарычная назва Луна (з адным «н» трымалася вельмі доўга. У заяве вучыцеляк Волькі Рубаніхі і Галены Бубяненкі ў Вучыцельскую раду Гарадзеншчыны (так напісана ў арыгінале) ад 20.9. 1919 г. напісана: «Не зрабіўшы нічога ў Луне, нам вельмі не хацелася ехаць з пустымі рукамі ў Гарадзен...». Дый цяпер жыхары навакольных вёсак кажуць: «Паеду да Луны...». Гучыць, як да цёткі ў госьці.




Луна і Воля на карце 19 ст.

Калі зьяўілася другая «н» у назве Луна дакладна цяжка сказаць. Хутчэй

за ўсё пасьля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, калі тэрыторыя ВКЛ была акупавана Расейскай імпэрыяй. Так, у Рапартах земскага спраўніка Гарадзенскаму губэрнатару ад 1862 года друкуецца ўжо «Лунна». Хаця на старажытных дакумэнтах можна сустрэць напісаньне з двума «n», як, напрыклад, у дакумэнце пра Луненскі ключ.



KLUCZ ŁUNIENSKI
MIASTECZKO ŁUNNA

Do Iurisdictiey y Przysądu Dworu ... go miasteczko to należało. A że tam przed tym Dwory ... bywał, za którego zniesieniem Miasteczko to dla przechodzącego żołnierza y Goscia często ... bez obrony y Ochrony Dworskiey zostające w ruinę poszło. Przeto tam Dwor zbudować y Podstarościego postanowić przynależące do niego powinne wsi ordinuiemy.

— w Rynku

Jakub Bilida
Kazimierz Butewicz

Пабудова двару і ўтварэньне Луненскага ключа

## Будучыня мінулага

> Не ведаючы, што адбывалася
> да таго, як нарадзіўся, гэта так
> як бы ніколі не стаць дарослым.
> Цыцэрон.

Людзі заўсёды цікавіліся паходжаньнем чалавека і сваім мінулым. Яшчэ ў VIII ст. да Н.Х. грэцкі пісьменьнік Гесіёд пісаў, што чалавецтва прайшло ў сваім разьвіцьці пяць вялікіх гістарычных эпох. Самую раньнюю ён назваў Залатым векам, калі «людзі знаходзіліся ў спакоі». А самую апошнюю — Ваенным векам, пад час якога даводзілася цяжка працаваць і перажываць найвялікшае гора. Дапамагаюць пазнаць мінулае археолягі, сапраўдныя сьледапыты, дасьледчыкі і аналітыкі. Яны ствараюць уражаньне

сьмелых падарожнікаў і паляўнічых на скарбы, дэтэктываў, якія дасьледуюць таямніцы даўно мінулага. Але сучасная археалёгія — гэта не паляваньне на скарбы і не фантазіі накшталт пошукаў загінуўшых сьветаў — гэта сыстэмнае дасьледаваньне чалавецтва ў мінулым. 99% гісторыі вывучаюць дагістарычныя археолягі.

Дагісторыя — гэта частка чалавечай гісторыі, якая існавала яшчэ да ўзьнікненьня пісьменнасьці і архіўных крыніц. Гістарычныя археолягі свае знаходкі могуць пацьвердзіць дакумэнтамі. Археолягі маюць тры галоўныя мэты: вывучэньне культурнай гісторыі, рэканструкцыя спосабаў жыцьця ў мінулым, тлумачэньне прычын культурных зьмен. Гэта аснова ўсіх дасьледаваньняў, бо канчатковая задача вельмі простая — апісаньне, разуменьне і тлумачэньне чалавечых паводзін у мінулым. Дагістарычныя археолягі дасьледуюць жыцьцё чалавека шляхам выяўленьня сьлядоў яго існаваньня ў археалягічных рэштках ежы, пабудовах, рэчах, выробленых чалавекам. Вельмі важна адносіцца да кожнага археалягічнага помніка (якім зьяўляецца любы прадмет зьвязаны з чалавечай дзейнасьцю) як да апошняга і непаўторнага. Толькі тады ў мінулага будзе будучыня. І той, хто зьнішчыў у Луна сынагогу і стары млын, габрэйскія могілкі і самалёт генэрала Жукоўскага, назвы вуліц і палац Ромэраў нанесьлі непапраўную страту мінуламу і будучаму.

Праца дагістарычных археолягаў дазволіла скласьці карту стаянак каменнага і бронзавага вякоў, выяўленых на тэрыторыі Мастоўшчыны. Знаходкі экспэдыцыі доктара Сырасека, занатаваныя ў І т. «Варшаўскай бібліятэкі» пацьвярджаюць, што ў каменным веку на нашых землях жылі нашчадкі арыяў?: балты — яцьвягі і славяне дрыгавічы і крывічы, якія карысталіся вырабамі з крэмню. У 1879 г. гэта экспэдыцыя дасьледавала старадаўняе селішча на беразе Нёмна ля Луна. Ужо ў савецкія часы археоляг Уладзімір Ісаенка знайшоў сьляды паселішча бронзавага веку (2—3 тысячагодзьдзя да Н.Х.) У нашай мясцовасьці знойдзены і дасьледаваны археалягічныя помнікі характэрныя для яцьвягаў у выглядзе курганоў і каменных магіл. Іх на Луненскай тэрыторыі на левым беразе Нёмна ва ўрочышчы Баторыя каля вёскі Жылічы дасьледаваў Л. Д. Побаль. Ф. Д. Гурэвіч, кіраваўшая ў 1955 г. археалягічнай экспэдыцыяй, выявіла да 10 курганоў паміж Дзенькаўцамі і Кавалямі, якія адносяцца да рэдкіх тыпаў помнікаў мінулага. У 1982 г. каля в. Навасёлкі геоляг А. В. Квяткоўская знайшла 60 магілаў з падшліфаванымі магільнымі плітамі і тарчма пастаўленымі камянямі.

Яцьвягі займаліся паляваньнем, жывёлагадоўляй, бортніцтвам, земляробствам. У канцы X і пачатку XI ст. адбываецца калянізацыя яцьвягаў дрыгавічамі. Аб чым сьведчыць зьмяненьне характару археалягічных помнікаў, якія ўжо належалі, відавочна, не ўласна яцьвяскаму насельніцтву, а славянізаваным нашчадкам або славянам, якія перанялі яцьвяскі пахавальны абрад.

Племя яцьвягаў зьнікла, хоць яшчэ доўга заставаліся сьляды ў гісторыі. Так Т. Нарбут у 1807 г. чытаў надпіс на зрубе Скідальскай царквы, што ней-

кі Варфаламей хрысьціў яцьвягаў у 1553 г. А П. Д. Бранцаў выдаўшы ў 1899 г. «Гісторыю Літоўскай дзяржавы і старажытных часоў» пісаў: «У ваколіцах мястэчка Скідаль жыве насельніцтва праваслаўнай веры, гаворыць на беларускім нарэччы, але з літоўскім акцэнтам. Яны адрозьніваюцца ад іншых беларусаў смуглым колерам твару, чорнымі валасамі і некаторымі асаблівасьцямі нораваў. Вельмі магчыма быць, што гэта патомкі яцьвягаў».

У ваколіцах Луна многа вялікіх валуноў, але толькі адзін з іх мае ўласнае імя. Гэты камень ляжаў паміж в. Камянчаны і Стральцы, ля шашы, што вядзе ў Гародню. У народзе завуць яго Турэцкая шапка і распавядаюць, што пад час нашэсьця туркаў, адзін з іх згубіў тут сваю шапку.



Камень «Турэцкая шапка»

Вось такія веліканы — ворагі нападалі на нашых продкаў, але ўцякалі пабітыя так, што гублялі шапкі... Аналягічных помнікаў аб Луне выяўлена не багата, але гэта не значыць, што іх няма.

Краязнаўцы Ваўкавыска зрабілі свой горад старэйшым на 277 гадоў, знайшоўшы пісьмовыя ўспаміны аб Ваўкавыску ад 1005 г. Для краязнаўцаў, улюбёных у свой край, кніга гісторыі ніколі не заканчваецца...

Гісторык Павал Бароўскі, апісваючы спусташэньне Гродзеншчыны ў 1241 г. піша: «З упадку сталіцы ўпала ўдзельнае княства Гарадзенскае. Пасярод спустошанай краіны, яшчэ стаяць рэшткі ўмацаваньняў, калі ў тым жа годзе прыйшлі з поўначы літоўцы (літвіны?) пад кіраўніцтвам сваіх князёў Эрдзівіла, Вікінда, Таўціла Манцівілавічаў, высланых дзядзькам сваім, Вялікім князем Міндоўгам, для заняцьця спустошаных і безабаронных зямель славянскіх. Эрдзівіл без супраціву зрабіўся ўладаром гораду, аднавіў умацаваньні і паблізу вала з драўлянай сьцяной, па звычаю Славянаў, пабудаваў умацаваную вежу. Усё гэта было зроблена з такой хуткасьцю і з такім посьпехам, што, калі манголы, у спадзяваньні новай здабычы, рушылі з поўдня пад началам царэвіча Шэйбака і разьбілі Міндоўга на берагах

Нёмна бліз Луна, Эрдзівіл, маючы апору на Гарадзенскія ўмацаваньні, сьмела рушыў на дапамогу свайму дзядзьку і садзейнічаў бліскучай паразе мангольскіх полчышчаў дзесьці ў Лідзкім уезьдзе. Шэйбак загінуў, манголы ўцяклі і Міндоўг, трыюмфуючы і ў другіх перамогах зрабіўся ўладальнікам многіх зямель, складаючых цяперашнюю Гарадзенскую губэрню»... Як тут зразумець? Луна існавала ў 1241 г.? Ці гэта толькі прывязана да сучаснай мясцовасьці? На гэтыя пытаньні трэба шукаць адказу.




Заснавальнік Вялікага Княства Літоўскага першы Вялікі Князь і кароль Міндоўг. Блёк пошты Літувы, выдадзены ў 2003 годзе

З прац пісьменьніка — краязнаўца Дзімітрыя Гаўрыліна можна зрабіць выснову, што ў 1409 г. паміж Луна і Ваўкавыскам адбылася бітва Гарадзенскіх дружын з крыжакамі, якія ў 1284 г. упершыню зьяўіліся ў нашых мясьцінах і пасьля каля 20 разоў паўтаралі напады аж да 1410 г.

Але першы ўспамін аб Луне (Волі) у гістарычных дакумэнтах пад годам 1503. Заўважым, што і далей будуць пераплятацца: маёнтак Луна, мястэчка Луна і мястэчка Воля, якую ў цяперашні час называюць «сельгасхімія», якой ужо там няма.

Пры нападзе Масквы на Смаленск князь Канстанцін Крошынскі страціў там сваю маёмасьць і атрымаў ад вялікага князя Аляксандра двор Дубна над Нёмнам, а на пусташах у 1513 годзе пабудаваў двор Луна? (Воля)? і запісаў свайму зяцю Янухне Багдановічу Сапегу (1490—1546).

Так з прац гісторыкаў і археолягаў можна навобмацак складаць гісторыю Луны, тым самым надаючы мінуламу будучыню.

# Луна і Воля

Libertas civitatis.
(Вольны народ. Вольная краіна.)
Воля-не тое, што рукі разьвяжуць,
Зьменяць на большую клетку малую.
Воля-не тое, што«вольны ты» — скажуць.
Воля-то воля, якую адчую.
Ларыса Геніюш

## Дзьве гісторыі

Са старажытных часоў Луна мела свайго «спадарожніка» — Волю. Таму старажытнае Луна мае як бы дзьве гісторыі: самога Луна і Волі. У тым, што Луна старажытнае, няма ніякага сумневу. Найбольшы ўзрост надае паселішчу кніга «Памяць, Мастоўскі раён»: «Лічыцца, што гэта паселішча ўзьнікла не пазьней 12 ст.». Але ж з часоў позьняга нэаліту (2-я пал. 3-га тыс. да Н.Х.) вядомыя так званыя «бурштынавыя шляхі». Адзін з іх праходзіў па Нёмне і Заходняму Бугу. Ці не існавала Луна ўжо тады? А ці не мог існаваць «крамянёвы шлях» з Краснасельскага комплексу крамянёвых вырабаў праз Луненскі «порт»? Але напэўна Луна існавала, калі дзейнічаў на Нёмне і «шлях з варагаў у грэкі» у 9—13 ст., што адпавядае запісу ў кнізе «Памяць».

На жаль пісьмовых крыніц аб гэтым я не знайшоў. І, як часта здараецца ў жыцьці, пісьмова ўпершыню ўспамінаецца не Луна, а яе «спадарожнік» Воля. Калі ж спасылацца на кнігу «Памяць» Мастоўскага раёна, можна знайсьці наступныя запісы пра Луна: «У літаратуры канстатуецца такі факт, што вясной 1400 г. крыжакі ішлі ў Ваўкавыск праз Луна». У 1410 г. адбылася вырашальная бітва пад Грунвальдам, у якой удзельнічалі 17 беларускіх харугваў. «Ёсьць меркаваньні, што ў іх былі жыхары Мастоўшчыны, бо наш край уваходзіў у гэтыя (Гродзенскае і Ваўкавыскае) княствы. А ў гэты час існавалі Масты, Луна, Пескі, Мікелеўшчына, Сьцяпанішкі». Многія нашы прашчуры загінулі на полі бою, а ўдзячныя землякі насыпалі ў іх гонар сымбалічныя курганы. Такія курганы захаваліся ў ваколіцах Луна ва ўрочышчы, якое называецца Цвінтар. Старажылы сьцьвярджаюць, што ў мінулым тут была царква. «Відаць курганы былі насыпаны пасьля адпяваньня па загінуўшых на ратным полі», — распавядаецца ў «Памяці». І як ня

прыкра пра гэта гаварыць, але «зь песьні слова ня выкінеш»... Па загадзе калгаснага начальства разаралі тыя курганы «магутнымі трактарамі» і пасеялі цукровыя буракі. Як успамінае былая калгасьніца Гэлена Байкоўская, ёй маладой тады яшчэ дзяўчыне, далі дзялку тых буракоў. Але яна не магла іх абрабляць, бо калі прыходзіла на поле, то яе тут жа пачынала рваць ад выгляду мноства раскіданых чалавечых касьцей...




Шлях з «Варагаў у грэкі» па Нёмне. Малюнак В. Сташчанюка. Кісялёў У. М. Пуцявінамі Наднямоньня. Мн.: Полымя, 1994. Стар.113

Але вернемся ў 16 ст., зь якога аб Луне засталіся канкрэтныя зьвесткі.

У артыкуле глыбокапаважанага пана Вітольда Карпызы «Восемдзесят гадоў пазьней» («Magazyn Polski» №2—3, 1992г.) разьмешчана «Штабоўка ваколіц Росі», на якой каля мястэчка Луна знаходзіцца населены пункт Воля. Воляй няволяй пачаўся пошук зьвестак пра Луненскую Волю. На жаль ні ў кнізе «Памяць» Мастоўскага раёна ні ў Беларускіх Энцыкляпэдыях (ці не сымбалічна?) Волі няма. Толькі ў Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы «воля» мае аж восем значэньняў. Знайшлося і патрэбнае: воля — свабода, незалежнасьць. Прышлося зьвярнуцца да польскіх крыніц. У «Слоўніку геаграфічным каралеўства польскага і другіх краін славянскіх з 1880 г.» паселішчам з назвай Воля прысьвечана 46 старонак, на якіх даюцца кароткія зьвесткі аб больш чым 900 такіх мясьцінах на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. З іх толькі 22 разьмешчаны на этнічнай тэрыторыі беларусаў. Праўда, кажуць, што ва ўсходняй частцы Беларусі паселішчы такога тыпу называлі «слабада», але і слабод у нас зусім не багата.




Луна і Воля на расейскай карце 1910 г.

Воля (libera villa, libertas). Пачынаючы з 13 ст. каб загаспадараваць незаселеную (пустую, пусташ) зямлю ўладальнік (князь, рыцар, духавенства) запрашаў вольных людзей, нават іншаземцаў, каб яны сяліліся і гаспадарылі на яго зямлі на льготных умовах. Пасяленцам (каляністам) даваліся надзелы зямлі з звальненьнем да 20 гадоў ад усялякіх чыншаў, аплат і падаткаў. Пры гэтым часта давалася права на самакіраваньне ці магдэбурскае права. Чым не свабодная эканамічная зона? Такім мясьцінам давалі назву Воля, часта з дадаткам ад назвы бліжэйшага мястэчка ці іншым дадаткам, напрыклад, Воля Красная, або Воля Вялікая, заложаная Сапегамі на Шчары... Росквіт Воляў прыйшоўся на 14 ст. з паступовым рас-

паўсюджваньне на ўсход, што дыктавалася палітычным і эканамічным станам у Эўропе.

## Vola Warszowiensis

Сярод шматлікіх «воляў» непасрэднае дачыненьне да нашай гісторыі мае Вялікая Воля — вёска і прадмесьце Варшавы (Vola Warszowiensis). Тут на роўным сухім узвышшы, пануючым над Варшавай, адбываліся выбары караля Польшчы (значыць і Вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага) ад Стэфана Баторыя (1575г.) пачаўшы. Месца выбараў было аточана ровам і валам. У сярэдзіну вялі тры брамы, прызначаныя для ўезду прадстаўнікоў Вялікапольшчы, Малапольшчы і Літвы. Для сэнатараў будавалася драўляная павець. Вакол павеці разьмяшчалася кола рыцарскае і паслы. Шляхта, якая прыбывала з добрай волі, мела вызначанае праз маршалка месца ў пэўным аддаленьні і групавалася паводле ваяводзтваў. Абоз разьмяшчаўся па-за валам у намётах. Нярэдка падчас выбараў адбываліся бойкі. У 1587г. падпалілі павець, у 1669 г. стралялі ў сэнатараў... Астатнімі былі выбары ў 1764г. Станіслава Аўгуста. Пазьней тут адбываліся знакавыя бітвы: у час паўстаньня 1794 г. з Прусакамі, у 1831г. з маскалямі. Пашырэньне Варшавы зрабіла з Волі прадмесьце, улюбёнае млынарамі, бо ўзвышша спрыяла працы ветракоў.



Сойм элекцыйны ў Вялікай Волі

У 1831г. Вялікую Волю абараняла 1200 паўстанцаў пад камандай генэрала Іосіфа Савіньскага, вэтэрана без нагі, якую згубіў у вайну 1812г. Якраз на Волю рушылі галоўныя сілы Расейскага войска, На шанцы №54, калі абаронцаў амаль ня стала, а маскалі радаваліся перамозе, нехта з патрыётаў узарваў парахавы склад і ўсё ўзьляцела ў паветра. Шанец №57 абараняла каля сотні паўстанцаў. Толькі, калі іх засталося чатыры, вораг сьвяткаваў перамогу. Апошнія абаронцы Волі на чале з генэралам І. Савіньскім зачыніліся ў касьцёліку. Генэрал без сіл сеў каля алтара і сказаў: «Жаўнеры, я буду апошнім». Маскалі ўварваліся ў касьцёлік і ўсіх закалолі штыкамі. Пасьля ўтраты Волі шансаў утрымаць Варшаву не было. Паўстаньне пала.

## Гісторыя ўзьнікненьня Луненскай Волі

Вернемся да Волі каля Луны. Час і гісторыя ўзьнікненьня Луненскай Волі вядомы дакладна. У 1487 г. войска вялікага князя Маскоўскага Івана III захапіла Смаленскія землі, дзе вотчынамі валодалі князі Крошынскія (Крашынскія?) герба «Ліхтар». Адзін з іх князь Канстанцін Фёдаравіч Крошынскі акольнічы і казначэй Смаленскі атрымаў ад Вялікага князя Літоўскага Аляксандра 8 красавіка 1503 г. маёнткі Дубна і Луна ў Гарадзенскім павеце «на хлебокормленье» князю да «очищеня» вотчыны яго, захопленай «Маскоўскім непрыяцелем», «съ челядю неволною, и з жытомъ, и с коньми и з жывотиною, и з людми путными и тягълыми, и с конюхи, и з рыболовы, и зъ земълями пашными и бортъными, и с озеры, и з даньми грошовыми и медовыми, и з дяклы, и з бобъры, и со въсимъ с тымъ, какъ тотъ двор былъ на нас държанъ». Вялікі князь Жыгімонт пацьвердзіў гэтае наданьне 8 сьнежня 1506 г., а затым лістом ад 30 кастрычніка 1509 г., бо «многие люди хотели ся в насъ подъ нимъ того двора и людеи подъпрохивати», і нарэшце трэцяе пацьверджаньне было ад 5 кастрычніка 1512 г. Ачышчэньня вотчыны ад «непрыяцеля Маскоўскага» аднак у хуткім часе не адбылося і не прадбачылася. Выдаючы дачку Ганну за пана Яна Багданавіча Сапежыча, Канстанцін Іванавіч 8 ліпеня 1513 г. запісвае ў якасьці пасагу дварэц на рацы Луннай, які ён справіў на пустоўшчынах двара Дубенскага, 60 службаў і 40 пустоўшчынаў каля двара Луна і за Нёмнам на р. Чарлёнай, «а сеножатеи дворныхъ Чесноковъскихъ за Новоселцы у Крестовъ на две стирте», а таксама землі, лясы і трэць вярсты берага бабровага на Сьвіслачы, (які адспрэчваў яшчэ раней сам князь Крошынскі з баброўнікамі гарадзенскімі, каторыя між іншым напэўна і заснавалі сёньняшнюю вёску Баброўнікі на р. Сьвіслачы). Далей у пасазе агаворваліся два стаўкі на р. Луннай і перавоз на Нёмне зь перавозьнікамі

Іванцом і Багданцом Карпавічамі, а так жа палі дворныя, сенажаці, луг і лес Хмельнік, што былі з боку двара Лаўнае пана гараднічага (напэўна гарадзенскага гараднічага Федзькі Гаўрылавіча) і паабапал Чарлёнскага рова, гумно на Чарлёньскім полі, «и озеро уступъное з Немъна, и сякли, по которымъ сеножатемъ здавъна к тому озеру бывали на имя Бурносовъская, Ровец, Безовъщина Черленьская, на другои стороне Немъна Волчегребъ, а против Ширневых сяклъ Клепачовская», а таксама колькі чалавек чэлядзі дубенскай ды смаленскай, якую пасьпелі прывесьці з сабой Крошынскія, пакідаючы свае смаленскія ўладаньні. У 1515, а пасьля ў 1523 годзе Януш Багданавіч Сопежыч заручаецца пацьвярджальным лістом Вялікага Князя на гэтыя ўладаньні. Выдаючы другую дачку Мар'ю за пісара вялікакняскай канцэлярыі пана Копця Васільевіча, Канстанцін Іванавіч недзе ў адзін час з Сопежычам запісвае ў якасьці пасагу 30 службаў-конюхаў Церашкоўскіх «подле церкви Сьвятого Спаса» ў Дубенскай воласьці, на што той неўзабаве ў 1517 годзе атрымлівае вялікакняскі пацьвярджальны ліст. Двор на дубеньскіх пустоўшчынах князь Крошынскі справіў і для дзяржаўцы ўруцкага Міхаіла Міхаілавіча Халецкага, за катораго выдаў трэцюю сваю дачку. Княгіня Ганна ўжо пасьля сьмерці мужа князя Канстанціна і двух зяцёў Сапегі і Копця просіць у траўні 1531 г. апекі і абароны ў Вялікай княгіні Боны ад наездаў і рабаваньня з боку суседзяў — ад уціску з боку ўладаньняў Воўпы, князя біскупа луцкага й берасьцейскага Паўла і з боку ўладаньняў, якія меў каля двара Дубна Мікалай Юр'евіч Пацэвіч. Разам з гэтым княгіня Ганна «по своемъ животе» перадала двор Дубна Боне, заручыўшыся аднак аб захаваньні сваім дачкам і ўнукам іх уладаньняў.

## Падзел маёмасьці. Камень Боны Сфорцы

Бона Сфорца, каралева Польская і Вялікая княгіня Літоўская, другая жонка Жыгімонта I Старога, маці Жыгімонта II Аўгуста. Імкнулася ўзмацніць уладу караля і Вялікага князя эканамічным шляхам, усяк павялічвала зямельную ўласнасьць Ягелонаў. Заслугі Боны Сфорца ў Вялікім Княстве многія і рознастайныя цяжка пераацаніць. Дзякуючы Боне Сфорца Эўропа пачула «Песню пра зубра», менавіта пры яе падтрымцы знакамітая паэма Мікалая Гусоўскага была выдадзеная ў 1523 годзе ў Кракаве. Зь яе віны сталі нашы продкі карыстацца да гэтага невядомымі ім відэльцамі. У выніку ўзнагародаў, падараваньняў і купляў займела многія воласьці, вярнула многія захопленыя фэадаламі землі, у тым ліку Гарадзенскае староства. Акрамя феадальнага маёнтку намесьнік каралевы Боны Ежы Заляпуха зь яе загаду на рацэ Лунянцы заснаваў у 1531 г. месца Луна, дзе Бона Сфор-

ца фундавала драўляны касьцёл. Наведваючы свае ўладаньні, каралева «часта ў гэты касьцёлік заходзіла».



Бона Сфорца на карціне Яна Матэйкі з сынам Жыгімонтам Аўгустам

Да сёньня ля касьцельнай агароджы (апошним часам перанесены на касьцельную тэрыторыю) ляжыць вялікі камень з чырвонага граніту, які нібыта каралеўскімі ручкамі быў закладзены Бонай у падмурак касьцёла.



Камень Боны Сфорца

Маладыя пары, якія бяруць шлюб без дазволу бацькоў павінны прыйсьці да гэтага каменя, каб папрасіць каралеву ня помсьціць ім, як яна гэта зрабіла сваёй нявестцы каралеве Барбары Радзівіл.

Пасьля пажару апошні кароль Польшчы і Вялікі князь ВКЛ Аўгуст Панятоўскі фундаваў тут у 1744 г. новы касьцёл мураваны ў строгіх формах клясыцызму, які быў перабудаваны і набыў сучасны нэаклясычны выгляд у 1895 г. на сродкі князя Друцкага-Любецкага.

Але Сапегі падалі скаргу на Заляпуху, што ён «на ўласных іх грунтах двара Луненскага» стварыў паселішча. Каралева Бона прызначыла для разгляду гэтай справы спэцыяльную камісію. Вывады камісіі былі разгледжаны і зацьверджаны 6 сакавіка 1532 г. Вядома, Луна засталося ўласнасьцю каралевы Боны. Але ж князь Канстанцін Крошынскі, як раней успаміналася, запісаў свой маёнтак Волю свайму зяцю Янушу Багданавічу Сапегу. Тады ж была ўстаноўлена граніца паміж уладаньнямі па рацэ Лунянцы (ці Луннай? па назве таго часу). Гэта граніца існавала аж да часоў другой сусьветнай вайны, падзяляючы паселішча на дзьве часткі: Луна і Волю. З вышэй сказанага можна зрабіць выснову, што маёнтак Луна існаваў да перадачы яго Князю Канстанціну Крошынскаму і дата яго заснаваньня застаецца таямніцаю. Воля ж узьнікла ў выніку дзейнасьці князя.

Пасьля сьмерці Янухны (1530г.) яго спадкаемцамі становяцца сыны Міхал, жанаты на Марыне з Быстрыцкіх, Глеб, Дзьмітрый, Сьцяпан, а таксама дачкі Тацьцяна, якая выйшла замуж за Ждана Словіка, і Настасься, якая была замужам за Гаўрылам Тышкевічам. Паколькі паміж братамі не было згоды, па ініцыятыве Глеба ў 1541 г. маёнткі Луна, Сьвіслач і Вайкелішкі былі падзелены на шэсьць роўных частак. На працягу 40–50-х гадоў XVI ст. Чарлёна паступова вылучаецца ў асобны двор. Гэты працэс суправаджаўся судовымі спрэчкамі і ўзаемнымі нападамі братоў і сваякоў адзін на аднаго. У 1552 г. Андрэй Мацкевіч скардзіцца ад імя маці і айчыма Сьцяпана Сапегі на Дзьмітрыя, які напаў на іх спадчыну Луна і забраў лісты. У 1554 г. памірае малодшы з братоў Міхал і Сьцяпан бясправўна займае яго спадчыну. У сувязі з гэтым у яго была судовая справа з Мацвеем Быстрыцкім, каралеўскім каморнікам, родным братам жонкі Міхала Сапегі Марыны Быстрыцкай, якая памянялася з братам завешчанай ёй часткай маёнтка Луна на іншы маёнтак. У 1555 г. Мацвей Быстрыцкі напаў на чарлёнскія валоданьні Сапегаў. У 1556 г. ужо Дзьмітрый і Сьцяпан Сапегі са швагрaltі Жданам Словікам і Гаўрылам Тышкевічам, а таксама служылымі людзьмі і падданымі ў колькасьці каля 300 чалавек нападаюць на ўладаньні Чарлёна Быстрыцкага і рабуюць іх. Пасланыя ў двор Сапегаў гаспадарскі дваранін Ян Васільевіч Клікоўскі, судовыя выканаўцы і служылыя людзі былі абстраляны апошнімі, прычым некалькі чалавек загінула. У 1557 г. за 12 коп. грошай Быстрыцкі адмаўляецца ад сваіх прэтэнзій на Чарлёну. Браты дамаўляюцца аб сумесным валоданьні набытымі землямі, але дамоўленасьці не прытрымліваюцца. Спрэчкі заканчваюцца тым, што ў час чарговага нападу ў 1560 г. (паводле іншых дадзеных у 1561 г.) людзі Сьцяпана ў час учыненай перастрэлкі забіваюць Дзьмітрыя. Маёмасьць атрымаў трэці сын Глеб, які адказваў перад судом за даўгі бацькі і, неўзабаве, памёр.

Пасьля гібелі Дзьмітрыя ў 1561 г. стрыечны брат іх бацькі Павел спрачаўся з Глебам за частку Луна і Чарлёны, якую Глеб самавольна захапіў пасьля сьмерці Дзьмітрыя. Павел даказваў, што Дзьмітрый яшчэ ў 1558 г. пазычыў у яго 500 коп. літоўскіх грошай і да моманту іх вяртаньня аддаў Паўлу ў арэнду свае часткі Луна і Чарлёны.

Удава па Сцяпану Сапегу па першым мужу Мацкевічава запісала трэць маёмасьці свайму сыну ад першага мужа Андрэю. Сваркі за маёмасьць набылі яшчэ большы размах. Анрэй Мацкевіч жаліцца каралю і просіць дапамогі ў споры з Міхалам Сапегам ваяводам Падляскім сынам Івана Багданавіча дваюрадным братам Паўла Сапегі. Не гледзячы на спрыяньне караля Андрэю, Міхал у 1565г. насылае сваіх людзей з Чарлёны на ўладаньні суседа. Натоўп напаў на двор Волю, запасы зьнішчыў і разрабаваў, сялян зьбіваў, а некалькі зьвязаных у Чарлёну прывалок. Чым закончылася гэта вайна, невядома, але з маёмасьці каралеўскай эканоміі Гарадзенскай была вылучана прыватная ўласнасьць Воля. А Міхал Сапега сам прыехаў у Луна і непадзельна запанаваў над маёнткам.

Сынам Міхала, Мікалаю і гродзенскаму земскаму судзьдзі Льву, пасьля бацькі і бязьдзетных дзядзькаў Глеба, Дзьмітрыя і Стэфана дасталіся часткі зямель маёнткаў Луна (Воля), Чарлёна і Кулёўшчына. Гэта выклікала незадавальненьне сваякоў па жаночай лініі, а менавіта Грыгорыя Война, ваўкавыскага земскага судзьдзі, які выступаў ад імя дачок, Настасьсі з Сапегаў Тышкевіч і яе сына Міхала, а таксама трох братоў Словікаў, з якімі абодва браты вымушаны былі судзіцца. Суд прысудзіў Мікалаю і Льву тры часткі маёнткаў Луна і Чарлёна.

Восеньню 1567 г. Мікалай прыслаў са сваіх уладаньняў у Луна ў каралеўскі лягер для радашковіцкай выправы двух конных і аднаго пешага салдата. У той час ён служыў у падканцлера літоўскага Еўстафія Валовіча. Перад 25 студзеня 1574 г. Мікалай стаў каралеўскім дваранінам. 7 студзеня 1581 г. браты падзялілі маёмасьць. Луна (Воля) адышла Льву. 21 сакавіка 1586 г. суд у Гродна пацьвердзіў іх правы на датыхчасовую маёмасьць. Леў, віцебскі войскі, быў малодшым сынам Міхала. 21 жніўня 1593 г. браты зноў падзялілі маёмасьць. Леў атрымаў аседлую службу Шчэчыцы, якая належала да Луна (Волі) і плошчы з агароднікамі ў Гродна каля замку і над Нёмнам. Такім чынам, канчаткова аддзяліліся маёнткі Луна (Воля) і Чарлёна. Граніцай паміж імі была рака Нёман.

Луна заставалася ўласнасьцю каралевы Боны да 1557г., да яе сьмерці і ўваходзіла ў склад Гарадзенскага староства, а з 1558 г. стала «уласнасьцямі сталовымі», значыць даход з Луненскіх земляў быў прызначаны на ўтрыманьне караля, і ўвайшла ў склад «эканоміі Гарадзенскай», якая дзялілася на валасьці, а тыя на ключы. Для прыкладу, у 1680 г. ключ Луненскі Гарадзенскай эканоміі прынёс 9866 злотых польскіх 26 грошаў гадавога даходу.

7 лютага 1589 г. кароль здаў у арэнду мястэчка Луна разам з вёскамі Марцінаўцы і Петрашоўцы Мікалаю Сапегу. Па некаторых дадзеных Сапегі

іх арандавалі па 1680 г. 20 сьнежня 1602 г. Мікалай Сапега пісаў да Льва Сапегі: «У Гродна ў цяперашні час небясьпечна (у сувязі з эпідэміяй), а там назначана правядзеньне сойміка, таму я выбраў прыгажэйшае месца і зусім небясьпечнае ў маіх арэндных уладаньнях мястэчка Луна для правядзеньня сойміка ў адпаведнасьці з унівэрсалам 3 лістапада». Соймік у ВКЛ у 16—18ст. — сход шляхты павета (зямлі, ваяводства). На сойміках шляхецкая супольнасьць прымала рашэньні і выбірала двух прадстаўнікоў ад павета для ўдзелу ў сойме.




Леў і Мікалай Сапегі, малюнак праектаваны, 1709 г. https://pl.wikipedia.org/wiki/Sapiehowie_herbu_Lis

Тут ужо вельмі цяжка разабрацца, у якім выпадку размова ідзе пра Волю, а ў якім пра Луна. Кухмайстар у 1593г. мяняе Луна са сваім братам Львом судзьдзёй гарадзенскім на выспу з царквою на Возеры Троцкім.

# Сапегі ў гісторыі Луна — Волі

Абодва брата Мікалай і Леў былі праваслаўнымі. Дзякуючы стараньням Мікалая ў 80—90 гадах 16 веку ў Чарлёне была пабудавана царква, у каторай ён быў пахаваны ў 1611 годзе, а пазьней і яго жонка.



Царква ў Чарлёне. Сучасны выгляд

Леў Сапега сын Мікалая (не блытаць з канцлерам ВКЛ Львом Сапегам) у завяшчаньні, напісаным у Луна 20 жніўня 1610 г., выказаў жаданьне, каб яго пахавалі ў садзе маёнтка Луна. Хутка пасьля напісаньня завяшчаньня памёр. Яго астатнюю волю занесьлі 20 верасьня 1610 г. у кнігі Літоўскага трыбунала. Леў Сапега быў жанаты на Алене, дачцэ мінскага кашталяна Міхаіла Гарабурды. Дзяцей у яго не было. Усю сваю маёмасьць завяшчаў сынам брата Мікалая — Яну Дамініку, Мікалаю і Фрыдэрыку, пры ўмове, што яны заплацяць яго жонцы 4 тыс. коп. грошай літоўскіх.

Каралі Рэчы Паспалітай апекаваліся мястэчкамі. У прыватнасьці, у 1612 г. Луна ахапіў страшны пажар — практычна ўсё мястэчка згарэла. Кароль Польскі і Вялікі князь Літоўскі Жыгімонт III Ваза вызваліў луненскіх мяшчан «ад падводнай павіннасьці, пабораў і чыншу з сенажацяў, палявых, агародных участкаў і падаткаў у дзяржаўную казну» тэрмінам на 4 гады.

31 жніўня 1615 г. браты Ян Дамінік і Фрыдэрык падзялілі маёмасьць. Трэці брат Мікалай быў псыхічна хворым. Фрыдэрык атрымаў Чарлёну, а Ян Дамінік стаў гаспадаром Луна. 31.10.1637г. Фрэдэрык Сапега,

стараста Астрынскі і Гарадзенскі, разам са сваёй жонкай Крысьцінай Пацеявай каля свайго двара Чарлёна фундуюць уніяцкі манастыр для 4 манахаў-базыльянаў пры старадаўнім храме Раства Найсьвяцейшай Панны Марыі і сьвятога Мікалая. У гэтым храме, як напісана ў акце, пахаваны целы бацькоў Фрэдэрыка Сапегі Мікалая Сапегі кухмайстра ВКЛ, Астрынскага, Луненскага старасты і Багданы Масальскай Сапегі, маці Фрэдэрыка; а таксама — манашак Ганны і Ефрасіньні — сясьцёр-базыльянак; Мікалая Сапегі — брата і Рыгора Валовіча, старасты Рагачоўскага, Дубіцкага, Канеўскага, сына Алены Сапегі і Рамана Рыгоравіча Валовіча.




Фрэдэрык Сапега, малюнак праектаваны, 1709 г. https://pl.wikipedia.org/wiki/Fryderyk_Sapieha

Сярод вялікай радні Мікалай меў цёзку Мікалая Сапегу, які выкраў ікону Одэнскай Багародзіцы, напісаную Сьв. Аўгусьцінам, у папы Урбана VIII, а ў 1635г. пасьля пакаяньня прасіў пакінуць сьвятыню ў Кодэні. Кароль Ян Казімір дорыць сьвятыні рубін. З канца 17ст. ікона мела рызу і кнігу для

запісваньня цудаў ад яе. 26 чэрвеня 1723г. сьвятыня каранавана і з 1927г. знаходзіцца ў Кодэнскім касьцёле.

Ян Дамінік памёр пасьля 1622 г. Ні Ян Дамінік ні Фрэдэрык не аставілі патомства, таму іх уладаньні перайшлі да іх блізкіх kроўных. Хто стаў наступным уладальнікам Луна, невядома. Але ў 1645–1647 гг. Луна сярод іншых зямель выкупіў ад Ізабэлы Трызніны і Андрэя Войны Павел Сапега гербу «Ліс» (1609–1665), віцебскі, потым віленскі ваявода і Вялікі гетман Літоўскі. Павел Сапега быў сынам Яна Пятра Сапегі і Соф'і з Вэйгэраў, унукам Паўла Сапегі, які згадваўся вышэй. Постаць Паўла Сапегі апісана ў рамане Хэнрыка Сянкевіча «Патоп». Яго дзейнасьць патрабавала вялікіх выдаткаў, таму большасьць уладаньняў была закладзена або абцяжарана даўгамі.



Павел Сапега гербу «Ліс» (1609–1665). Pierre Landry (XVII w.). https://pl.wikipedia.org/wiki/Pawe%C5%82_Jan_Sapieha

У 1654—1667гг. адбылася Маскоўская навала на землі ВКЛ. У Мастах Маскоўскае войска спаліла касьцёл. У Гарадзенскім павеце, у склад якога ўваходзіла Луна, колькасьць насельніцтва скарацілася з 174 398 чал. да

115 323. Маскоўцамі было забіта 59 075 чалавек або 33,9% насельніцтва павета.

У 1655г ад маскоўскага войска ў Чарлёньскім кляштары хаваліся менскія манахі базыльяне.

Дакладных зьвестак няма, але ў 1685 годзе маёнтак Чарлёна адкупляе ад Вільчкаў Казімір Ян Сапега старэйшы сын Сапегі Казіміра Яна Паўла (каля 1642–1720), віленскі ваявода, Вялікі гетман Літоўскі. Яго хрышчоным бацькам быў сын знакамітага канцлера, потым Вялікага гетмана Літоўскага Льва Сапегі Казімеж Леон (Леў) (1609–1656), вялікі пісар, потым маршалак надворны, потым Літоўскі падканцлер. Жанаты з Тэадорай Крыстынай Тарноўскай (1626–24.10.1652), Казімеж Леон сваіх дзяцей не меў, таму ўсе свае вялікія ўладаньні завяшчаў хрышчонаму сыну Казімежу Яну, яго бацьку Паўлу Сапегу і Аляксандру Хілярыю Палубінскаму.



Казімір Ян Павал Сапега, малюнак праектаваны, 1709 г.: М. Каламайска-Сээд, Генэалёгія праз выявы..., с.226

Можна меркаваць, што наступным уласьнікам двара Луна-Чарлёна становіцца маршалак Вялікі Літоўскі Аляксандр Павал Сапега (1672—1734) сын Казіміра Яна, полацкі ваявода. Вучыўся ў езуіцкім калегіюме ў Брунсбергу (Браневе), у 1685—1689 у Парыжы. Чашнік ВКЛ у 1692, маршалак дворны ў 1692—1698, маршалак Вялікі ў 1698—1703, 1705—1708 і з 1713. Удзельнічаў у Алькеніцкай бітве 1700, у час Паўночнай вайны 1700—

1721 стаў на бок швэдаў і караля Станіслава Ляшчынскага, які таксама даў яму пасаду Вялікага маршалка (1705—1708). Пасьля аднаўленьня ўлады Аўгуста II у 1709 у апазыцыі да яго. Валодаў Друяй, Іказьню, Сапежынам, Дуброўнам і іншымі маёнткамі.



Аляксандр Павал Сапега. Фрагмэнт акварэлі М. Янушэвіча, 1846:.: М. Каламайска-Сээд, Генэалёгія праз выявы..., с.233

Кароль Ян III Сабескі ў 1680 г. для папаўненьня даходаў каралеўскай казны арганізаваў Луненскі ключ у Гродзенскай эканоміі. Яго арэндны даход быў вызначаны ў 9686 злотых польскіх [11]. Ключ складаўся з наступных населеных пунктаў: Луна, Марцінаўцы, Жылічы Вялікія, Жылічы Малыя (Рачкі), Нецеча, Каменны мост, Шчарбавічы, Мяшэтнікі, Хамічы, Глядавічы. Папярэдне была праведзена рэвізія. У выніку ў мястэчку Луна налічвалася 125 «дымаў», разьмешчаных на чатырох вуліцах: Воўпенскай, Мсьцібаўскай, Гродзенскай, Азёрскай. Пляніроўка населенага пункта была веернай-усе вуліцы выходзілі ад базарнай плошчы, на якой знаходзіліся карчма і касьцёл. У мястэчку працавалі 4 мясьніка, 4 хлебапёка, 4 сольніка, 1 цясьляр, 1 каваль, 1 кравец, 5 Шаўцоў, 2 гарбара. Яны плацілі ў казну па 6 грошаў..

Нэгатыўны ўплыў на сацыяльна-эканамічны стан мястэчка аказала другая Паўночная вайна. Панямоньне стала арэнай ваенных дзеяньняў паміж швдзкімі і расейскімі войскамі. Да таго ж супрацьстаяньне разгарнулася паміж шляхецкімі канфэдэрацыямі: прыхільнікамі Карла XII і Пятра I.

У выніку беларускія землі падверглíся глыбокаму спусташэньню. На фоне эпідэмій лютаваў голад. У 1712 г. каралеўскі камісар Міхал Дамброўскі правёў рэвізію Луненскага ключа Гродзенскай эканоміі. Каралеўская камісія канстатавала, што ключ больш за дзесяць гадоў знаходзіўся ў занядпадзе ад ваенны дзеяньняў. Арэндны даход зьменшыўся ў 9 разоў і склаў 1069 злотых польскіх. Зьяўілася шмат пустак-неапрацаванай ральлі. Напрыклад, калі ў 1680 г. на Мсьцібаўскай вуліцы было 20 жылых «дымоў», то ў 1712 г. — 1. З рамесьнікаў засталіся 1 цясьляр, 1 каваль, 1 шавец. Пастановай Сойма ўсе ключы Гродзенскай каралеўскай эканоміі былі вызваленыя ад гіберны (падатак, які сяляне плацілі дзяржаве на ўтрыманьне войска), але павінны былі плаціць падводную павіннасьць на ўтрыманьне пошт. Унівэрсалам караля Аўгуста II ад 1699 г. унёсак месяцова склаў 20 злотых польскіх.

10 сакавіка 1711 г. на балтыйскім узьбярэжжы ў Караляўцы (Калінінград) нарадзіўся яшчэ адзін з уладальнікаў Луны (Волі) Міхал Антоні.



Міхал Антоні Сапега (1711—1760). Партрэт сярэдзіны 18 ст. Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі, Мн., 2006, т.6, с.227

Міхал Антоні атрымаў Эўрапейскую адукацыю, а пасьля сьмерці братоў Казіміра і Язэпа, вялікую спадчыну: Стары і Новы Быхаў, Баўкладава, Даболшча, Багуславічы, Яўсевічы, Сялец, Дзярэчын, Галынка, Вострава, Зэльва, Чарлёна, Луна, Лаўна. Яму належаў палац у Ружанах, маёнткі ў Жмудзі і

Польшчы. У 1741 г. разам са сваёй жонкай Кацярынай з Сапегаў выдзеліў сродкі на існаваньне Базыльянскага манастыра і царквы ў Чарлёне. Манастыру прыдавалася «вёска Казакоўцы з усімі лясамі, лугамі, агародамі, глебай і падданымі». Новыя сродкі былі выдзелены 27 жніўня 1751 г., але пры ўмове, што манахаў павінна быць не чатыры, а пяць.

Міхал Антоні атрымаў тытул падканцлера ВКЛ, у 1744 г. узнагароджаны ордэнам Белага Арла, але расчараваўся ў дзяржаўнай службе і выйшаў у адстаўку. У 1753 г. надрукаваў кнігу твораў Вальтэра, якую сам пераклаў. У Дзярэчыне застаўся, але перароблены ў царкву, фундаваны князем касьцёл Унебаўзяцьця Найсьвяцейшай Панны Марыіі. 11 верасьня 1760 г. Міхал Антоній памёр у Слоніме не аставіўшы нашчадкаў.

У завяшчаньні Міхал Антоні распараджаўся Чарлёнай, Лаўна, Луна, Сямаскаўшчынай, Воляй і г.д. (цяжка сказаць ці пад Луна і Воляй разумеюцца розныя маёнткі ці адзін і той жа). Паколькі сваіх дзяцей не меў, спадкаемцам Чарлёны, Лаўна і Луна (Волі) стаў сын брата Казіміра Леона Міхал Ксаверы.



Сапега Міхал Ксаверы (1735–1766). https://pl.wikipedia.org/wiki/Micha%C5%82_Ksawery_Sapieha

Гаспадарку Сапегі вялі з пераменным посьпехам, хоць укладалі ў яе шмат таленту і намаганьняў. Часта прыходзілася закладаць частку ўладаньняў, выкупляць і зноў закладаць…

Сапега Міхал Ксаверы (1735–1766), які атрымаў у спадчыну валоданьні дзядзькі Міхала Антонія, памёр 24 лістапада 1766 г. у Беластоку. Яго пахавалі ў картузаў у Бярозе. Сваёй сям'і ён не меў і землі перайшлі да брата Аляксандра Міхала, які стаў наступным уладальнікам Луна (Волі). Аляксандр Міхал Сапега (1730—1793) канцлер ВКЛ, жанаты на Магдалене Агнешцы з роду Любамірскіх. Аляксандр Міхал распачынае актыўную гаспадарчую дзейнасьць у Дзярэчыне. Пры ім зьяўілася ў яго ўладаньнях бульба, якая з цягам часу стала гаспадыняй стала. На Шчары А. М. Сапега збудаваў паселішча Воля з прыстаньню. Цікава, што і Луненскія ўладаньні Сапегаў называліся Воля, і тут у Луне, Каўшах, Чарлёне, былі прыстані. Гандлёвыя флятыліі курсавалі ад Шчары да Караляўца. З Балтыкі прывозілі заморскія тавары: соль, жалеза, францускае віно, ды ангельскае піва, шкло і посуд і, нават «арфы» ці «млыны для ачысткі зерня». У Каралявец па Нёмне плыло жыта, пшаніца, пянька, пакульля, рагозы, футры, воск, скуры, драўніна, попел...




Аляксандр Міхал Сапега (1730—1793). Партрэт сярэдзіны 18 ст. Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі, Мн., 2006, т.6, с.227

Аляксандру Міхаілу Сапегу належалі многія паселішчы на вялікіх абшарах цяперашняй Беларусі, Польшчы ды Украіны. Але аблюбаваў ён для сваёй рэзыдэнцыі на жаль не Луна, а суседні Дзярэчын. Хаця ж Луненскія мясьціны не ўступаюць, а, на мой погляд, прыгажэйшы за Дзярэчынскія,

не гаворачы, што ў Дзярэчыне няма Нёмна. У 1760—1770 гг. Аляксандр Міхал найбольш увагі аддае Дзярэчыну і будуе тут 1765 г. тэатар, а ў 1768 г. Вайсковую акадэмію для 30 сыноў вышэйшых дзяржаўцаў ВКЛ. У 1786 г. саксонец Я. С. Бэкер разам з мясцовым архітэктарам Лаўрынам Гуцэвічам будуюць палац, варты рэзыдэнцыі Сапегаў. Палац упрыгожваў картуш з гербам роду Сапегаў з выявай сьвятой для ўсіх беларусаў «Пагоні». Разам з Дзярэчынам у 18 ст. праслаўляецца на ўсю Эўропу сваімі кірмашамі невялікая дагэтуль мястэчка Зэльва. У 1720 г. Антоній Казімер Сапега атрымаў Каралеўскі прывілей на правядзеньне ў мястэчку штогадовых «ярмонок ілі торгов».

## Легендарны Францішак Сапега

Аляксандр Міхал меў сына Францішка Аляксандра (1772—1829), які стане бацькам Яўстаха паўстанца. Францішак стаў ці не самым легендарным уладальнікам нашых ваколіц. Пражыўшы ўсяго 57 год, ён прыняў удзел у паўстаньні Тадэвуша Касьцюшкі, пасьпеў адбіць каханку ў Напалеона Банапарта, сабраць вялізную колькасьць каштоўнасьцяў, старадрукаў, мастацкіх палотнаў у сваім Дзярэчынскім палацы, што пасьля вызвольнага паўстаньня 1830 г. супраць Расейскіх акупантаў канфіскаваны. З канфіскаванага Дзярэчына адных толькі карцінаў і каштоўных упрыгожаньняў было вывезена 303 пуда 25 фунтаў (каля 5 тонаў). У 21 год Францішак ужо атрымлівае званьне генэрала артылерыі, а яго мужнасьць і адвагу засьведчыў Ордэн Сьвятога Станіслава. 22 траўня 1794 г. генэрал Ф. Сапега сканцэнтраваў сваё войска ў Дзярэчыне і далажыў у Вільню, што рыхтуецца да баявых дзеяньняў, ахвяраваўшы на паўстаньне 6 тысяч дукатаў, ды яшчэ апісаў на патрэбы паўстаньня даход з аднаго з маёнткаў у 16 тысяч рублёў. Пасьля паразы паўстаньня лёс спрыяў ці схітрыў генэрал, каб выратаваць сябе і свае маёнткі, перадаўшы пакаянны ліст да Кацярыны II? Вызвалены ад перасьледу з вялікай ласкі імпэратрыцы, Францішак едзе ў Пецярбург і дамагаецца вызваленьня Т. Касьцюшкі, які паранены сядзіць у Петрапаўлаўскай цьвердзі. Але дарэмна. Т. Касьцюшку вызваляе пасьля сьмерці царыцы Павел I, які люта ненавідзеў усё, што рабіла яго маці. А можа гэтаму паспрыяў прыём, наладжаны Паўлу I у Дзярэчыне, дзе былы паўстанец прымаў яго ў сваім палацы, падносячы каранаванай асобе легендарнага «Івана» і замовіўшы слова за свайго легендарнага галоўнакамандуючага? Не блага ўспомніць, што Францішку было ў гэты час мала больш за 20 гадоў. А ў 25 ён ужо трымаў на руках нашчадка — першынца і будучага паўстанца Яўстаха Каятана. Далей было каханьне з фаварыткай Напалеона Маргарытай Жазефінай Вальтэр, ноч, у якую, па чутках прай-

граў у карты 15 млн. золатам, падарожжа ў кратар Вэзувія, дзе ледзь не задыхнуўся ад вульканічнага дыму, пакарэньне горных вяршынь у Пірэнэях, дзе двойчы трапіў пад сьнегавыя лявіны, назіраньне за карыдай у Гішпаніі... Вэнэцыю параўнаў з беларускім бабром, што сядзіць у вадзе, высунуўшы галаву на паверхню, ды калекцыянаваў жаночыя пацалункі, за што заслужана атрымаў тытул ліцьвінскага Казановы. Гэта ўсё не перашкаджала Францішку Аляксандру дасылаць у Дзярэчын вазы з заморскімі кнігамі, творамі мастацтва, ды іншыя набыткі на яшчэ не народжаную радасьць Расейскіх захопнікаў.



Францішак Сапега (1772—1829). Партрэт 19 ст.

У 1809—1810 гадах Францішак Сапега ад таго, што ў Партугаліі горача, у Англіі туманна, у Вільні не хапала сяброў, у Варшаве сумна без картаў, а толькі ў Парыжы і Дзярэчыне — у самы раз, праводзіць час у Дзярэчыне. Тут і памёр легендарны Францішак Сапега ў 1829 г. і пахаваны ў Бярозе — Картускай. Нельга не дадаць, што ў « Таямніцах Парыжа «улюбёнец жанчын Жан Марэ стварае вобраз рамантычнага Рудольфа дэ Геральштайна, прататыпам якога паслужыў беларускі князь з роду Сапегаў, паўстанец і шукальнік прыгод Францішак Аляксандр. Каго зацікавіў гэты князь і Дзярэчын, можа прачытаць аб гэтым і аб многім іншым у неадарвальнай кнізе Міхася Скоблы « Дзярэчынскі Дыярыюш».



Герб роду Сапегаў

На жаль да Луны (Волі) Францішак быў не вельмі прыхільны, бо 4 лютага 1799 г. ён прадае свае ўладаньні Чарлёна, Лаўна, Воля і Сямаскаўшчына за 500 тыс. польскіх злотых князю Францішку Друцка-Любецкаму.



Францішак Ксаверы Друцка-Любецкі, мал. Валянтэго Слівіцкага (1765—1857): www.polona.pl

Фота Соф'і Хамятоўскай з дому Друцка-Любецкіх захавала выгляд палацу.



Двор Друцка-Любецкіх у Чарлёне (1936 г.)

## Маёнтак Воля ў 19 стагодзьзі

У маёнтак уваходзілі фальваркі Воля, Сямаскаўшчына і Віктарын, мястэчка Воля і чатыры вёскі — Залескі, Загараны, і Касілы, у якіх налічвалася 58 сялянскіх двароў. Сістэма паляводзтва ў маёнтку была трохпольнай. Сялянскія двары былі надзелены ад няпоўных дзесяці да звыш дзесяці дзесяцін зямлі, ад адной да звыш двух дзесяцін сенакосаў. Сяляне ва ўсіх вёсках павінны былі адбываць прыгонныя дні — цяглыя па тры дні, паўцяглыя па два дні ў тыдзень. Павінны былі адбываць згоны — па 12 дзён у год з рабочай душы, за выключэньнем адной душы, якая заставалася ў хаце для нагляду за гаспадаркай. Акрамя гэтага сяляне павінны былі адбываць шарваркі па 12 дзён у год з двара. Яны ж па чарзе несьлі начны каравул, павінны былі выдзяляць па два дні пешых у год са двара на выпрацоўку воўны, палатна і сукна, у якасьці даніны аддаваць 10 яек, 2 курыцы і адну капу грыбоў у год. Для абагравальня хат сяляне атрымлівалі лес ад уладальніка, а для пашы жывёл кожнаму адводзілася месца. Праваслаўных сялян налічвалася 330. Яны належалі да Радзівонавіцкага і Ваўпянскага

прыходаў. Сялян рыма-каталікаў было 82. Усе належалі да Луненскай парафіі.

У «Сьведчаньнях аб маёнтку Воля» за 1845–1848 гг. ёсьць запіс аб тым, што маёнтак знаходзіцца ў вотчынным валоданьні Юльяна Крывіцкага, перайшоў яму ў спадчыну ад бацькі Ксавэрыя Крывіцкага, а апошні набыў яго ў князя Любецкага ў 1809 г. Радавым гняздом Крывіцкіх быў г. Хэлм (Польшча). У канцы 16 в. Крывіцкія пасяліліся на Літве. У Геаграфічным слоўніку чытаем: «Воля. Мястэчка і маёмасьць паблізу Нёмна Гродзенскага павета, у 3 акрузе паліцыйнай, гміны Луна, 46 вёрст ад Гродна, 665 жыхароў, пераважна жыдоў, сынагога, дом малітоўны жыдоўскі, гарбарня. Да мястэчка належыць 14 дзесяцін. Маёмасьць, уласнасьць Вікторыі Крывіцкай, маюць 3 фальварка Семаскаўшчына і Вікторын 1037 дзесяцін (670 пад пабудовамі і ральля, 137 лугоў і пашы, 141 лесу, 83 неўжыткаў). Першым уладальнікам Волі і Зельвян стаў Ксаверы Крывіцкі — ротмістар Гарадзенскі судзьдзя земскі Ваўкавыскі. З жонкай Каралінай Дзяньkоўскай дачкой Антона падскарбія надворнага Літоўскага Ксаверы Крывіцкі меў трох сыноў. Сярэдні сын Ксаверыя Юльян нарадзіўся ў 1806 г. і зрабіў нядрэнную кар'еру. У 1863- 67 гадах быў маршалкам шляхты Гарадзенскай губэрні сапраўдным саветнікам штату, кавалер Ордэна Сьв. Ганны I ступені. Згубіў павагу шляхты за ліст цару, у якім выказваў сваю вернападданасьць. З жонкай Вікторыяй з Эйсмантаў меў дзьве дачкі Юзэфу і Караліну. На ім і закончыўся род Крывіцкіх. Юзэфа Памела Крывіцкая выйшла замуж за Уладыслава Тарасовіча, які паходзіў з Гнезна. У выніку Воля і Зяльвяны сталі ўласнасьцю Тарасовічаў. Уладыслаў і яго брат прынялі удзел у Паўстаньні, яго маёнтак Конна быў канфіскаваны. Юзэфа Тарасовіч імкнулася выратаваць хаця б частку іх агульнай з мужам маёмасьці. На імя імпэратара Аляксандра II ў красавіку 1864 г. яна падала прашэньне з просьбай вярнуць ёй грошы, якія яе муж атрымаў за яе ў якасьці пасагу. Юзэфа разам з двума дзецьмі паехала сьледам за мужам у ссылку. Аб гэтым сьведчыць просьба Уладыслава Тарасовіча аб выдачы яму і яго сям'і грашовай дапамогі з казны, накіраваная ў 1865 г. на імя Тамбоўскага губэрнатара. У Юзэфы быў вельмі ўплывовы бацька Юльян-Ксаверый Крывіцкі, які займаў пасаду маршалка шляхты Гродзенскай губэрні. Яго сувязі адыгралі вельмі важную ролю пасьля таго, як яго зяць Уладыслаў Тарасовіч быў высланы ў г. Казлоў Томскай губэрні (знаходзіўся там ужо ў сьнежні 1864 г.). Усе свае магчымасьці і знаёмствы Юльян-Ксаверый накіраваў на тое, каб выратаваць маёмасьць зяця і вярнуць яго на радзіму. 23 сьнежня 1865 г. было абнародавана «Высочайшее повеление», якое давала магчымасьць Тарасовічу прадаць яго маёнтак Конна. Дазвол быў атрыманы і 25 лютага 1867 г. Тарасовіч выехаў з Казлова на радзіму. Верагодна, іншай нерухомасьці Уладыслаў не меў. Ён мог жыць толькі ў маёнтках Зяльвяны і Воля. Пасьля сьмерці Ксаверыя Крывіцкага па разьдзельным запісе ад 5 жніўня 1830 г. яго сыну Юльяну-Ксаверыю адышоў маёнтак Воля. Пасьля сьмерці самога Юльяна-Ксаверыя Крывіцкага каля 1884 г. на яго спадчыну прэтэндавалі дачка Юзэфа Тарасовіч і ўнук ба-

рон Сігізмунд Сігізмундавіч Дангель. Адпаведна ўводнага ліста яны былі ўведзены ў агульнае валоданьне маёнткам Воля.



Герб роду Тарасовічаў

Уладыслаў Тарасовіч і Юзэфа пасьля сьмерці былі пахаваны ў Гнезна, дзе пры касьцёле ёсьць помнік з надпісамі: «SP Wladyslaw Tarasowicz ur 24 stycznia 1826 r, zmarl 1 lutego 1892 r. SP Krywickich Jozefa Tarasowicz, ur 22 czerwca 1836 r. Zm 2 grudnia 1903 r». Маці Юзэфы Вікторыя перажыла іх. Цэцылія з Талочкаў Цешкоўская ў «Размове аб тым, што было «узгадвае Волю таго часу: «А дзьве мілі ад Зяльвян быў другі маёнтак Тарасовічаў, Воля, у якім у вельмі прыгожым старым доме з вялікім паркам жыла бабка Юлька Тарасовіча пані Крывіцкая са сваёй дачкой удавою Юзэфай Тарасовіч. Пані Крывіцкая была вельмі дастойнаю старэнькаю. Дробная, акружаная старою службаю, сядзела самотна і не мела таварыства». У 1832г. Крывіцкія пабудавалі ў Волі цікавы двор у клясычным стылі, падобны да будынку ў Росі. Двор падрабязна апісаны Раманам Афтаназы ў артыкуле «Воля каля Луны», дзе зьмешчана аж 4 здымкі будынка з 1939 г. Фатаграфію двара з 1934 г. надрукавала ў сваёй кнізе амэрыканская падарожніца Louise Arner Boyd. Добра адлюстраваны палац і на малюнку В. Карпызы. Наступным уладальнікам Волі стаў сын Юзэфы Юліян Тарасовіч. У 1911 г. Юльян Тарасовіч памёр. Юльян меў адзінага сына Эдварда-Мар'яна (? –пасьля 1939) і дачку Юзэфу Марыю (1899–

1932). У спадчыну пасьля бацькі зусім яшчэ юнаму Эдварду дастаўся маёнтак Воля. Нарадзіўся Эдвард Тарасовіч у 1891 г. Скончыў Сельскагаспадарчую акадэмію ў Дублянах. Перад І-й сусьветнай вайной ён ажаніўся з Ядвігай-Эміліяй Дзяконскай (1895–1939) з маёнтка Пятровічы Кобрынскага павета. У час вайны, адпаведна расійскаму праву, Эдвард Тарасовіч не быў мабілізаваны, таму што быў адзіным сынам. Летам 1915 г. пачалося актыўнае наступленьне нямецкіх войск, многія жыхары заходніх рэгіёнаў Беларусі пакідалі свае родныя мясьціны, перамяшчаліся на ўсход. Цішэўская падрабязна апісвала переезд у Менск, які працягваўся тыдзень. Цяжка было знайсьці месца для начлегу, а мясцовыя жыхары па-рознаму ставіліся да бежанцаў. Сем'і Тарасовічаў і Талочкаў пасяліліся ў Менску ў адным доме №16 на вул. Захар'еўскай, разам вялі гаспадарку.

У 1920–1930-я гг. сям'я Эдварда і Ядвігі-Эміліі Тарасовічаў жыла ў Волі, дзе была адноўлена вельмі прыгожая сядзіба, яе тагачасны выгляд захавалі старыя здымкі.



Маёнтак Воля. Выгляд да 1939 г.

Гэтую сям'ю яшчэ памятаюць старэйшыя людзі ў ваколіцы. Зь іхніх слоў гаспадар быў страшным карцёжнікам. Частку маёнтку прайграў у карты. З-за гэтага напэўна Эдвард Тарасовіч меў фінансавыя праблемы, таму што маёнтак Воля быў закладзены ў Віленскім Земскім банку. Нягледзячы на гэта ў пачатку 20 ст. новы ўладальнік Эдвард Тарасовіч адрамантаваў увесь будынак, але ў час першай сусьветнай вайны ён быў зьнішчаны. Адноўлены ў 1928г. Па дадзеных на 1937г. за гэтым маёнткам пляцам 561 га значылася пазыка ў 104 тыс. 224 зл. Двор стаяў у парку плошчай 3 га. З

правай стараны вяла да яго шырокая ўязная алея тапалёвая, якая заканчвалася стылёвай брамай, завешанай на двух мураваных акруглых слупах. Перад домам быў вялікі газон, праз які вяла сьцежка сярод дэкаратыўных кустоў і штамбавых руж. Другі газон быў з тыльнага боку дома, Спадаў ён да гуляючай у нізе рачулкі, праз якую перабягалі два бярозавыя масткі. За рэчкаю ляжаў агарод. Газоны акружалі ёлкі, лістоўніцы, ліпы, бярозы і таполі.

## Лёс апошніх уладальнікаў Волі

У Тарасовічаў было два сыны, абодва зьяўіліся на сьвет у маёнтку Воля. Старэйшы Казімір нарадзіўся 20 сьнежня 1919 г., малодшы Станіслаў — 22 траўня 1922г. Хлопчыкі вучыліся ў гімназіі бацькоў-езуітаў у Вільні.



Маёнтак Воля. Пасьля паляваньня

У гары са стрэльбамі Станіславаў, унізе — Казімір Тарасовічы. Фота сярэдзіны 30-х гг. XX ст.

Фота з кнігі: В. М. Папко. Род Дзяконьскіх і іх маёнткі на Брэстчыне ў XIX-XX стст. Брэст: Альтэрнатыва, 2009.



Ядвіга-Эмілія Тарасовіч з сынамі Станіславам і Казімірам

На старых здымках тых часоў усе члены сям'і выглядаюць шчасьлівымі.



Ядвіга і Эдвард Тарасовічы з сынам Казімірам (1938 г.)

Адзін са здымкаў прадстаўляе Ядвігу-Эмілію, яе мужа і сына Казіміра каля матацыкла. Маці дарослага сына, гэтая жанчына захоўвала стройнасьць і дзявочую фігуру. Здымак прадстаўляе яе на матацыкле, які ў тыя часы зьяўляўся сымбалям дастатку і тэхнічнага прагрэсу.



Эдвард, Казімір і Станіслаў Тарасовічы,1939 г. Фота з кнігі: В. М. Папко. Род Дзяконьскіх...

20 сакавіка 1939г. памерла Ядвіга-Эмілія, яна была пахаваная ў Варшаве на Павонзках. Пасьля верасьня 1939 г. па прыходзе савецкіх войскаў Эдвард Тарасовіч і яго сын Станіслаў былі арыштаваныя ў Вільні. Невядома толькі ці ў 1939 г., ці ў 1940–1941 гг. Па другой вэрсіі ён быў арыштаваны разам з маці Ядвігай. Эдвард Тарасовіч памёр ад дызэнтэрыі 8 верасьня 1941 г. у лягпункце №47 лягернага комплексу Севуралляг Сьвярдлоўскай вобласьці Расійскай фэдэрацыі. Лёс яго маці Ядвігі невядомы.

Станіслаў апынуўся ў ваколіцах Ташкента, пасьля патрапіў у войска Андэрса. Ваяваў пад Монтэ-Касіна. Пасьля вайны патрапіў у Англію, дзе сустрэўся са сваёй будучай жонкай Марыен-Элан (нар. у 1932г.). Хутка сям'я пераехала ў канадзкі Манрэаль. Станіслаў Тарасовіч пачаў выкарыстоўваць англізаваную форму свайго імя і прозьвішча — Стэнлі Дэ Тэры. Працаваў графікам. У 1987г. прыяжджаў у Польшчу, каб сустрэцца з братам. Станіслаў памёр у Манрэалі 9 сьнежня 1992 г., дзе да гэтага часу жыве яго жонка і двое дзяцей. Дачка Джэнет у шлюбе з Лей Харысанам мае дачку Ізабэлу Доун і сына Марка. Сын Станіслава Роджар Дэ Тэры нарадзіўся ў 1963 г., жонкі і дзяцей не мае. Лей Харысан валодае ў Манрэалі фабрыкай шкла і люстэркаў, дзе працуе яго жонка Джэнет і яе брат.

Лёс Казіміра быў вельмі складаным. У 1939г. ён не патрапіў у савецкія турмы. З прыходам немцаў пасяліўся ў Луна, таму што маёнтак на той час быў ужо разрабаваны. Паколькі добра ведаў нямецкую мову, быў войтам. У часы акупацыі ў Луне дзейнічала Армія Краёва. Застава АК належала да акругі «Левы Нёман». Камэндантам заставы Луна быў падпаручнік Казімір Тарасовіч, згодна з запісамі Вітольда Карпызы, апошні ўладальнік Луна–Волі. Яго зьвесткі заснаваны на ўспамінах жыхаркі Луны Ірэны Алізар: «Казімір Тарасовіч быў у войску (пасьля экзамэну і падхарунжоўкі). У часы акупацыі нямецкай жыў у Луне (знаў бегла нямецкую мову) і быў войтам. Быў таксама камандзірам узводу АК у нашай акрузе. Тарасовіч быў уладальнікам маёнтка Воля. На пачатку 1945 г. быў арыштаваны. У лягеры працаваў як фэльчар. Да краю вярнуўся ў 1956 г. Нядаўна даведалася, што памёр». Па другіх зьвестках пасьля вызваленьня Беларусі ў 1944 г. быў арыштаваны, атрымаў 25 гадоў за супрацоўніцтва з Войскам Арміі Краявой.



Казімір і Людвіка Тарасовіч з дачкой Ядвігай. Фота з кнігі: В. М. Папко. Род Дзяконьскіх і іх маёнткі на Брэстчыне ў XIX-XX стст.

У 1953 г. яго выслалі ў Казахстан. Дзяўчына з Луна Людвіка Швед, якая слала ў лягер пасылкі свайму бацьку, падтрымлівала пасылкамі на працягу

знаходжаньня ў лягеры і Казіміра. Ён прапанаваў ёй у лісьце выйсьці за яго замуж. Яна доўга не згаджалася, бо была простай дзяўчынай, да таго ж нянька ў дзяцінстве вывіхнула ёй лапатку, і ў яе пачаў разьвівацца горб. Але потым усё ж паехала да яго. Казімір меў адукацыю фэльчара, разам з жонкай працаваў у шпіталі ў Акчатаў. У 1955г. нарадзілася адзіная дачка Казіміра — Ядвіга-Стэфанія. Праз год сям'я атрымала дазвол на пераезд у Польшчу і пасяліліся ў сучасным Заходнепаморскім ваяводзтве. Па дарозе туды ў касьцёле вёскі Каменка каля Скідаля Казімір і Людвіка ўзялі шлюб і пахрысьцілі маленькую Ядвігу. Да пэнсіі Казімір працаваў фэльчарам, памёр у Гнезна праз месяц пасьля спатканьня з братам 17 лютага 1988г.

Ядвіга-Стэфанія скончыла філялягічны факультэт, выйшла замуж за Паўла Хэлміняка (нар. у 1956г.), мае адзінага сына Міхала-Ежы, які нарадзіўся ў 1981г. Ядвіга працуе настаўніцай польскай мовы і літаратуры ў Гнезна.

## Апошнія з Сапегаў

Але, калі ўспамінаць пра ўсіх уладальнікаў Луна, то трэба зноў вярнуцца да Сапегаў. А каб падзеі выглядалі больш зразумела, зірнем на Сапегаўскае радавое дрэва. Вядомы нам Аляксандр Міхал, заснавальнік радавой рэзыдэнцыі ў Дзярэчыне, меў сына Францішка, які ў сваю чаргу быў бацькам Яўстаху — паўстанцу. Яўстах Каятан Сапега з 1821 г. жыў у Англіі. Але ў лістападзе 1830 г. выбухнула Вызвольнае Паўстаньне супраць Расейскіх акупантаў. Трыццацігадовы князь пакідае маёнтак у графстве Лянкашыр, магілу жонкі Мары Патэн Больд і вяртаецца ў радавое гняздо. У раньзе падпаручніка так змагаецца з ворагам, што ўзнагароджваецца Залатым Крыжом Віртуці Мілітары (Вайсковага Гонару). Не толькі адвагай у баях, але, прадаўшы маёнтак у Ружанах, Яўстах Каятан грашыма падтрымлівае паўстаньне, так, як гэта зрабіла і Эмілія Плятэр. Пасьля паразы паўстаньня князь з сотнямі сваіх сяброў вымушаны падацца ў эміграцыю. Жыве спачатку ў Англіі, потым у Францыі ў гарадку Бяланкурт пад Парыжам. Назапашвае сродкі з надзеяй на новае паўстаньне, але 16 лістапада 1860 г. памірае. Пахаваны на Манмартры. Усе ўладаньні на Радзіме былі сканфіскаваны. Сьпіс вывезенага дабра з Дзярэчына ў Расею складаецца з 124 лістоў. Толькі мастацкіх палотнаў ды ўпрыгожаньняў было вывезена 303 пуда 25 фунтаў (каля 5 тон).

Памяць Яўстаха Каятана шануецца ў Дзярэчыне. У 1999 г. мясцовыя патрыёты ўстанавілі ў адноўленым касьцёле мэмарыяльную дошку:

«Яўстаху Каятану Сапегу (1797- 1860)

уладару Дзярэчына ўдзельніку нацыянальна — вызвольнага паўстаньня 1830- 1831 гг».



Яўстах Каятан Сапега (1797—1860). Партрэт 19 ст.

Яўстах Каятан меў сына Яна Паўла Аляксандра. У 1877 годзе афіцэр арміі Яе Вялікасьці Каралевы Вялікай Брытаніі ўзяў шлюб з Севярынай Урускай — Тызенгаўз, якая ў якасьці пасагу мела маёнтак Спушу, што ў 12 км ад Скідаля. Гэта стала адзінай маёмасьцю на акупаванай тэрыторыі Вялікага Княства некалі магутнага роду Сапегаў. Праз чатыры гады ў маладой пары нарадзіўся сын Яўстах Каятан, названы так у гонар дзеда. Атрымаўшы адукацыю ў Цюрыху (Швэйцарыя) і ажаніўшыся на Тэрэзе Ізабэле з Любамірскіх, Яўстах Каятан пасяляецца ў радавым маёнтку Спушы (цяпер — Старая Спуша Шчучынскага раёна). Правадыр Польшчы Юзаф Пілсуцкі запрашае яго на дыпляматычную службу паслом у Англію, пазьней прызначае на пасаду міністра замежных спраў Польшчы. У 1921 г. баль-

шавікі з немцамі падпісалі ганебную Рыскую дамову, разадраўшы Беларусь на дзьве часткі. Яўстах Каятан не можа з гэтым пагадзіцца і пакідае Ўрад Пілсудскага.



Яўстах Каятан — унук (1881—1963).

«Трэба было адбудаваць Спушу з руінаў, якія засталіся па вайне», — успамінае сын былога міністра Яўстах Севярын, які нарадзіўся тут 7 жніўня 1916 г. і пражыў у Спушы з невялікімі перапынкамі 23 гады. Пасьля заканчэньня аднаўленчых работ палац у Спушы выглядаў вельмі прыгожа: мураваны двухпавярховы, з мансардай, галерэямі і бальконамі. Каля палаца разьлягаў прыгожы лесапарк. У 1933 г. Яўстаху Сапегу польскі ўрад зьвярнуў сканфіскаваныя Расеяй у яго дзеда паўстанца маёнткі і землі. Валянцін Дубатоўка піша, што сярод вернутых былі Ружаны, Дзярэчын, Зэльва, Новая Мыш, Луна. Як былі ўладкаваны справы з Тарасовічамі, невядома. У 1939 г. Яўстах Каятан быў арыштаваны распачаўшымі вайну саветамі і пасаджаны ў Менскую турму. Потым былі допыты на Лубянцы, сьмяротны прысуд сталінскай « тройкі «... Але Лаўрэнцій Берыя замяніў расстрэл на катаржныя работы на Беламор — канале. Уратаваньне прыйшло праз

армію Андэрса, з якой Яўстах пападае ў Афрыку. Так род Сапегаў назаўсёды пакідае родную зямлю. І толькі праз паўстагодзьдзя 4 верасьня 1998 г. князь Яўстах Севярын Сапега выйшаў з вагона Варшаўскага цягніка на Гарадзенскім вакзале.



Яўстах Севярын Сапега

Сын апошняга з Сапегаў — уладальнікаў Луна жыў у Афрыцы ў горадзе Найробі краіны Кеніі. Ён не забыў сваіх каранёў. У Варшаве надрукаваны плён яго працы, прысьвечанай Бацькаўшчыне і свайму роду: васьмісотстаронкавы фаліянт «Сапегаўскі дом» з падрабязнымі біяграфіямі, фамільны-

мі партрэтамі, апісаньнямі маёнткаў... Пераадолеўшы 7 тысяч кілямэтраў, князь Яўстах Сапега крочыў ля руін Ружанскага палаца, схіляў галаву перад мэмарыяльным знакам свайму прадзеду ў Дзярэчынскім касьцёле, марыў пабудаваць невялікі дом у Спушы...



Апошні дзень нараджэньня ў Найробі

Мястэчка ж Луна працягвала заставацца ў складзе Гарадзенскай эканоміі, створанай у 1588 г. з дзяржаўных маёнткаў Гарадзенскага павета. Маёнткі яе здаваліся ў арэнду. Становішча сялян эканоміі было цяжкім, але лепшым, чым у магнацкіх і царкоўных уладаньнях. Значныя страты эканоміі нанесьлі войны 17—18 стст., эпідэмія чумы ў 1709—10 гг. У другой палове 18 ст. у выніку галоснай рэфарматарскай дзейнасьці Антона Тызенгаўза гаспадарка аднаўляецца, уводзяцца новыя тэхналёгіі ў жывёлагадоўлі, садоўніцтве... Але пасьля захопу Вялікага Княства Расеяй маёмасьць Гарадзенскай эканоміі распрадаецца і раздорваецца акупантамі. Луненскі ключ (адміністрацыйная адзінка эканоміі) у складзе маёнтка Луна з вёскамі Стральцы, Жылічы, Камянчаны, Гледавічы, Шчарбавічы 12 лістапада 1795 г. быў падараваны сапраўднаму стацкаму саветніку графу Мікалаю Аляксандравічу Самойлаву. Але ён чамусьці не зьяўіўся. Луна становіцца ўласнасьцю графа Міхала Валіцкага. Род Валіцкіх вядомы ў Ваўкавыскім павеце з 1567 г. У 1821 г. маёнтак быў куплены Чахоўскім. Згодна з другімі дадзенымі, маёнтак стаў належаць Чахоўскім у выніку жаніцьбы судзьдзі Яна Чахоўскага з Верай Валіцкай. Ян Чахоўскі памёр у 1823 г., а Вера Чахоўская ў 1857 г. У 1833 г. маёнтак выстаўляўся на продаж, прыносіў даход 43 000 злотых, але, напэўна, ня быў прададзены. Ад Яна, сына Аляксандра Чахоўскага, пасьля яго сьмерці ў

1858 г., уладаньні пераходзяць да яго ўдавы і дачок Аляксандры Паліксены, Эміліі Люцыі Марыі і Актавіі Эўфразіны Юзэфы. Апекуном быў князь Станіслаў Сьвятаполк Чацвярцінські. Юзэфа Чахоўская гербу «Окша» ў 1833 г. выйшла замуж за Эдварда Матэуша Ромэра, які стаў уладальнікам маёнтка. Бацька Э. М. Ромэра Эдвард Ян Ромэр быў удзельнікам вызвольнага руху, а род Ромэраў багаты на таленты, то і зьвестак аб іх жыцьці і дзейнасьці засталося многа. Раскажам аб тых, што мелі адносіны да Луны крыху пазьней у аддзельным апавяданьні.

У часы міжваенныя Луна заставалася ўласнасьцю Юзэфы Ромэр і Марыі Камаровай. Яны валодалі яшчэ фальваркам Жылічы і мелі 1400 га зямлі. Яшчэ каля іх палацу можна было ўбачыць некалі багатыя рыбай ставы і стары прыгожы парк.

На тэрыторыі Волі немцы стварылі ГЕТА. Габрэі з ГЕТА былі вывезены ў лягеры сьмерці. Таму пасьля вайны амаль усе жыхары Волі абнавіліся. На ўладаньнях Тарасовічаў былі пабудаваны майстэрні Сельгастэхнікі і склады Сельгасхіміі.



Палац Тарасовічаў. 2010 г.

Палац адвялі пад клюб, краму і жыльлё. Зьніклі клясычныя калёны, кветнікі, парк, брама, мосьцікі... Пасьля развалу Імпэрыі развалілася і Сельгастэхніка і Сельгасхімія. Даўно забытая назва Воля... Сярод руін палаца і будынкаў майстэрняў, сярод зарасьляў кустоўя тут дажываюць сваё жыцьцё пару дзясяткаў пэнсіянэраў, якія з радасьцю бягуць на датэрміновыя «выбары», бо гэта адзінае імгненьне, калі яны адчуваюць сябе патрэбнымі і, і ў адместку сваім няўдзячным нашчадкам, «галасуюць»...

# Ромэры — апошнія ўладальнікі Луны

Луна дарогаю сваяцтва (па іншых зьвестках куплена ў 1821 г., бо расейскія памешчыкі распрадавалі падараваную маёмасьць) перайшло ў валоданьне Чахоўскім, аб чым можа сьведчыць надпіс у Луненскім касьцёле: «Вера з Валіцкіх Чахоўская заснула ў Богу 1857 г. 21 сакавіка ў веку гадоў 76. Пакой яе душы». Напэўна была яна жонкай судзьдзі, аб якім другі надпіс у гэтым жа касьцёле гаворыць. «Тут ляжыць прах с. п. Яна Чахоўскага, судзьдзя, які нарадзіўся 1772 г. траўня 21 дня, памёр у 1823 г., чэрвеня другога дня. Найчулей аплакваючы яго страту, сын гэты знак паставіў».



Здымак труны з фамільнага склепу Чахоўскіх ля Луненскага касьцёла.

У час газыфікацыі, калі капалі траншэю да касьцельнай кацельнай у 2005 г., выпадкова быў праламаны склеп ля помніка Аляксандру Чахоўскаму і праз невялікую адтуліну можна было апусьціць у склеп руку з фотаапаратам. Так зьяўіўся гэты здымак.

Чахоўскія валодалі Лунам нядоўга, бо ўжо ў 1833 г. у «Кур'еры Літоўскім» №70/1833 была зьмешчана аб'ява, што маёнтак Луна Чахоўскіх прадаецца. У яго склад уваходзяць два фальваркі (невялікія панскія службы), 5 вёсак і мястэчка, якое мае дымоў (сялянская гаспадарка адзінка абкладаньня падаткам) хрысьціянскіх 199, жыдоўскіх–78, душ 527. Гадавы даход з маёнтка выносіць 43 000 злотых». Няведама, ці быў прададзены і хто яго купіў. Мажліва Ромэры, але не выключана, што маглі яны Луна атрымаць як пасаг, бо Чахоўскія і Ромэры ўзаемна радніліся. Вынікае гэта з наступнага касьцельнага надпісу: «Аляксандр і Валерыя з Ромэраў Чахоўскія Дня 17 ліпеня 1857 г». Таксама ўспамінаная праз Э. Ажэшка Юзэфа Ромэр была ў доме Чахоўскіх, а гэта было ўжо ў 1902 г.

Бясспрэчным уладальнікам Луны быў муж Юзэфы, Эдвард Матэуш Ромэр. Ромэры–знакаміты шляхецкі род нямецкага паходжаньня (Romer), цэ-

лая дынастыя, прадстаўнікі якой унесьлі значны ўклад у разьвіцьцё культуры Беларусі, Літвы, Украіны, Польшчы, былі пасьлядоўнымі і актыўнымі змагарамі за незалежнасьць краю, у якім жылі. Сярод іх былі мастакі, выдаўцы, журналісты, палітычныя дзеячы, вучоныя.

Бацька Матэуша Эдвард Ян Ромэр (1806—1878) падчас паўстаньня 1830—1831 сябар Віленскага цэнтральнага паўстанцкага камітэту.


Edward Jan Römer

Wyprawa do wód z Litwy do Normandii

Kartki z dziennika 6 czerwca – 16 listopada 1861

Opracowanie i wprowadzenie Danuta Kamolowa

Edward Jan Römer – autoportret z 1863 roku

Аўтапартрэт Эдварда Яна Ромэра на вокладцы кніжкі яго аўтарства «Выправа на воды з Літвы да Нармандыі».

У 1833 годзе арыштаваны і асуджаны на пажыцьцёвую ссылку ў г. Волагда, аднак праз год атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. У 1834 усталяваў сувязь з Літоўскім камітэтам (Вільня), таксама падтрымліваў адносіны з эмігранцкім лягерам польскага «караля дэ-факта» А. Ю. Чартарыйскага. У ліпеню 1838 зноў арыштаваны за супрацу з эмісарам Маладой Польшчы Шыманам Канарскім., асуджаны да сьмяротнага пакараньня, замененага новай 13-гадовай ссылкай у Волагду а пазьней — у Вялікі Усьцюг. Разам з ім у ссылцы знаходзілася яго жонка Соф'я з Белазораў. Тут 19 верасьня 1848 года і нарадзіўся іх сын-Эдвард Матэуш Ромэр. (Поўнае імя — Edward Mateusz Jan Oktawiusz Romer). Аб чым сьведчыць таксама эпітафія ў Луненскім касьцёле: «Эдвард Матэуш Ромэр нар. у Волагдзе, пм

22.11.1900 г». Пасьля вяртаньня ў Вільню быў пад наглядам паліцыі. У сваім падарожным дзёньніку:» Wyprawa do wód z Litwy do Normandii: kartki z dziennika 6 czerwca — 16 listopada 1861» між іншым запісаў наступнае: «Zdawało się, że te czasy minęły, gdy lud w męczarniach i ucisku Bogu swę żale przesyła w peśni — a oto są obecne. Chwytano po kościołach, do więzienia wtrącano tych, którzy spiewali — a oto spiewają, wszyscy i wszędzie». (Здавалася, што тыя часы ўжо мінулі, калі люд у муках і прыгнёце Богу свае крыўды пасылае ў песьні — але яны наяве. Хапалі па касьцёлах, да вязьніцы ўкідалі тых, якія сьпявалі — а сьпяваюць, усе і ўсюды». ) Пад час паўстаньня 1863—1864 гг. знаходзіўся пад хатнім арыштам.



Сям’я Ромэраў. Малюнак Эдварда Яна Ромэра (бацька Матэуша). 1829 г.

Здольны ад прыроды да мастацтва Эдвард Матэуш Ромэр вучыўся малюнку спачатку ў бацькі мастака-аматара, потым у Катаяна Русецкага і Яна Зянкевіча. Скончыўшы ў 1867 г. Віленскую гімназію выехаў на вучобу ў Акадэмію Мастацтваў у Дрэздэн. Настаўнікам яго быў К. Шульц. Малюнкі Э. М.Ромэра зьмяшчаліся ў «Ляйпцігскай ілюстраванай газэце». У 1870 г. ён пераевёўся ў Мюнхэнскую Акадэмію Мастацтваў, дзе навучаўся пад кіраўніцтвам Г. Аншуца, А. Сойтца, А. Ромберга, у майстэрні баталіста Ф. Адама. Э. М. Ромэр калегаваў з эмігрантамі былой Рэчы Паспалітай В. Чахурскім, Ю. Брандтам, Ю. Косакам, М. Гедымскім. Некаторы час Э. М. Ромэр працаваў у майстэрні Ксаверы Пілата. Першыя працы ў Мюнхэне «Вяртаньне зь ярмаркі» і «Пікет».

З 1873 г. многа падарожнічаў: пабываў у Вене, Меране, Варшаве.

У 1878 г. вярнуўся ў Вільню і адкрыў на Бакшце ў старым доме Ромэраў, які дастаўся яму ў выніку падзелу маёмасьці паміж братамі, мастацкую майстэрню і карыстаўся ёй сумесна з братам Альфрэдам Тэадорам Ромэрам і сябрам Францішкам Юргілевічам. 16 сакавіка 1880 г. ажаніўся з Юзэфай Чахоўскай (дачкой Аляксандра Чахоўскага і Валерыі Ромэр) і атрымаў у якасьці пасагу Луна.



Партрэт Эдварда Матэвуша Рэмера (1885). Намаляваў яго брат Альфрэд Ромэр (1832—1897). Літоўскі мастацкі музэй

У гэты час пісаў ён галоўным чынам бытавыя жанравыя сцэнкі, пэйзажы: «Завіруха», «Перад вакзалам», «Перад майстэрняй». Маляваў партрэты «Каваль», «Селянін у футравай шапцы». Майстэрскі напісаны «Партрэт бацькі мастака» –бацькі свайго сябра Ю. Юргілевіча.

Шэраг твораў прысьвечаны паўстанцам 1863 г.: «Патруль», «Хаціна ў лесе». У 1873 г. Эдвард Матэуш Ромэр экспанаваў свае працы ў Кракаўскім Таварыстве сяброў мастацтваў: «Адпачынак перад карчмой», «Вузкакалейка на Літве», «Чыгуначная станцыя», У парку», «Куліч», «Пад таполямі», «Мяцеліца». На выставе ў Варшаве палотны «Чыгуначная станцыя», «На запусты», «Пасьля работы», «Вяртаньне» былі куплены Таварыствам падтрымкі мастацтваў. У 1894 г. на выставе сучаснага мастацтва ў Львове карціна «Мяцеліца-2» была ўганаравана срэбным мэдалём. Выстаўляў свае працы Эдвард Матэуш Ромэр у Парыжы, Вене, Берліне, Мюнхене, дзе карціна «Мая хата» атрымала прыз і была куплена прафэсарам мастацтва з Брусэля І. Дэ Гасам.

Пэндзьлю Эдварда Матэуша Ромэра належыць партрэт народнага літоўскага паэта Анастаса Страздаса. На палатне паўстае постаць волата. Палац, местачковыя дамы, нават ветраны млын у параўнаньні зь ім здаюцца цацачнымі. Паэт бы магутная глыба стаіць на зямлі, сягаючы да неба. Апрануты сьціпла, ён стаміўся, зьняў галаўны ўбор і павесіў на ручку кавенькі, на якую апіраецца, у правай руцэ трымае хусьцінку, якой толькі што выцер твар. Непакорныя валасы, шырокі твар, прасьветлены лоб,

на маршчыністым валявым задуменным твары трывога і надзея. Такое ўражаньне, што паэт вандруе па вёсках і мястэчках, заклікаючы народ да змаганьня за лепшую долю.



Партрэт народнага літоўскага паэта Анастаса Страздаса. Эдвард Матэуш Ромэр

Карціны Э. М. Ромэра можна паглядзець у Народным Музэі ў Варшаве («Амазонка»), Кракава («На папасьцы-2»), у Музэі Мастацтва ў Вільні (7 работ) і ў музэі Каўнаса.

Апошнімі яго працамі былі пэйзажы з хлопчыкам на кані, зімовая карціна «Тры каралі» і незакончаная праца «Адʼезд дыцэзіі жмудзкага біскупа». Засталося многа эскізаў. Акрамя карцін ён пакінуў мноства эскізаў.

На працягу 20 год Эдвард Матэуш Ромэр быў уладальнікам Луна. Ці адлюстравана ў яго работах Луна? Магчыма, але адказ на гэта пытаньне чакае свайго дасьледчыка. Таму будзем спадзявацца, што сярод яго твораў ёсьць малюнкі, прысьвечаныя Луна. Трэба толькі іх адшукаць.



Зімовы пэйзаж. Праца Эдварда Матэуша Ромэра вельмі нагадвае прыроду і рачулку Лунянку каля палацу Ромэраў у Луне

У сям'і Ромэраў было трое дзяцей. Сын Эдвард нарадзіўся ў 1881 годзе, але памёр удзяцінстве ў 1901 г. Дачка Рэгіна нарадзілася ў 1882 годзе. 18 кастрычніка 1909 г. у Вільні яна выйшла замуж за свайго траюраднага брата Міхала Піўса Пасхаліса Ромэра (1880–1945). Сын Ежы нарадзіўся ў 1896 годзе і таксама мала пражыў. Уся сям'я мела клопаты са здароўем. Пасьля цяжкага запаленьня лёгкіх меў клопаты са здароўем і бацька Эдвард Матэуш Ромэр. Нягледзячы на гэта, шмат займаўся гаспадарчымі і сямейнымі справамі і да апошніх дзён не пакідаў маляваць.

Памёр Эдвард Матэуш Ромэр 22 лістапада 1900 года ў Луне, пахаваны ў радзіннай капліцы ў Троках. Гэта дата вынікае з цытаванай вышэй эпітафіі ў Луненскім касьцёле і папаўшай мне ксэракопіі нэкралёгу, прысьвечанага Эдварду Матэушу Ромэру. Але многія крыніцы чамусьці падаюць іншую дату сьмерці -10 лютага 1900 года.

Нэкралёг на сьмерць Эдварда Матэуша Ромэра

Пасьля сьмерці брата Ежы у 1920 годзе Рэгіна стала спадкаемніцай маёнтку Луна. Яе муж Міхал Ромэр быў адным з галоўных ідэолягаў лібэральна-дэмакратычнага крыла краёўцаў. У 1913—15 распрацаваў канцэпцыю новай Рэчы Паспалітай у выглядзе канфэдэрацыі Польшчы і «гістарычнай Літвы» як самастойных і дэмакратычных дзяржаў.

Пра Міхала Піуса Ромэра больш можна даведацца ў працы: Смалянчук А. Дзёньнік Міхала Ромэра як крыніца па гісторыі Беларусі пачатку XX ст. // Беларускі Гістарычны Агляд. 1998. Т. 5. Сш. 1 (8); ён жа. Ромэр Міхал Піус //.

Але Міхал Ромэр у Луне хіба ня быў ды і з жонкай Рэгінай неўзабаве разьвёўся.

У міжваенны час Луна пазаставалася ўласнасьцю Рэгіны Ромэр. Гэтыя ўладаньні разам з фальваркам Жылічы налічвалі 1400 га. Былі ў арэндзе, магчыма ў Марыі Камаровай, якая ў дакумэнце выступае ўладальніцай. Рэгіна сышлася з сэквэстрам Крупіньскім. З дачкой Цэлінай у яе былі сапсаваныя адносіны. Станіслава Швед жыхарка в. Луна гаварыла, што дачка кінула яе, бо Крупіньскі не быў знатнага паходжаньня, а магчыма, яшчэ па нейкай прычыне. Гаспадарка Ромэраў была ўзорнай. Хто і калі пабудаваў двор, невядома. Перад прыходам савецкіх войск у верасьні 1939 г. Рэгіна Ромэр і Крупіньскі ўцяклі. Драўляны палац Ромэраў, паводле Станіславы Швед, быў разабраны ў 1940 г. У галоўнай браме стаяла статуя Маці Божай, якую ксёндз Мончка аддаў у Жалудок.



Міхал Піус Ромэр — фота з сайта be.wikipedia.org/wiki/

Але Стасюкевіч Яся, таксама жыхарка Луна, апавядае, што пасьля вайны будынак палаца яшчэ стаяў. Я паказаў спадарыні Стасюкевіч малюнак Напалеона Орды палаца з Гродзеншчыны, але з невядомага канкрэтна месца. Спадарыня Яся сказала, што малюнак вельмі падобны да таго палаца Ромэраў.



Малюнак Напалеона Орды палаца з Гродзеншчыны

Сёньня на месцы дома Ромэраў знаходзіцца будынак старой школы.



Рэшткі ставаў і будынак «старой» школы. 2011 год

Ад былога сядзібна-паркавага комплексу Луна засталіся рэшткі былога парку і побач зь імі, абсаджанае дрэвамі, месца былых ставаў.



Мост праз Лунянку. 1928 г.

У ставах вырошчвалі рыбу. Ставы запаўняліся вадой у выніку перакрыцьця р. Лунянкі плацінай, якая адначасова служыла для прывядзеньня ў рух вадзянога млына. Млын не захаваўся. На беразе ставу да 2009 г. расло

старое дрэва, якое было самым тоўстым у акрузе (2 м у дыямэтры і больш за 6 м у абхваце). Яго відаць на здымку 1928 г. зьлева. У 2009 г. гэта гістарычнае дрэва сьпілавалі ў пляне правядзеньня палітыкі пераводу кацельных на «мясцовае паліва». Па гэтай прычыне тады былі сьпілаваны многія дрэвы былога парку Ромэраў. Да канца 20 ст. ставы яшчэ запаўняліся вадою. Пасярэдзіне ставаў знаходзіліся альтанкі, да якіх вялі драўляныя масткі. Пры пабудове новай школы будаўнічае сьмецьце было сапхнутае бульдозэрам у ставы. Заняпад набыў незваротны працэс.



Мост праз рэчку Луняеку каля палацу Ромэраў (1928 год)

На другім пляне віднеюцца абрысы будынкаў палацавага комплексу Ромэраў.

Нядаўна я знайшоў паведамленьне аб тым, што ў Інстытуце Гувера ў Архівах калекцыі Мечыслава Ялавецкага (Mieczysława Jałowieckiego) ў скрынцы 18 захоўваецца такі экспанат: 964. ŁUNNA Dwór. ziemia Grodzieńska /N/ bar. Romer. Магчыма гэта і ёсьць малюнак палацу Ромэраў, зроблены Мечыславам Ялавецкім?

# Пад Расейскай акупацыяй

## Лістападаўскае Вызвольнае Паўстаньне

Пасьля захопу расейцамі зямель Вялікага княства Літоўскага, пачынаючы з 14.11.1795 г. Луна ў складзе Гродзенскага павета, з 14.12.1795 г. — у Слонімскай губэрні, з 11.12.1795 г. — Літоўскай, а з 1801 г. у Гродзенскай губэрні.

Расійскае панаваньне на захопленых землях пачалося з рабаваньня. Вывозілася ўсё, што мела каштоўнасьць. Рабаваліся музэі і палацы, вывозіліся калекцыі мастацкіх твораў, кнігі, летапісы. Цяпер яны ўпрыгожваюць зборы Эрмітажа, Трацякоўкі і іншых музэяў Расіі. І зараз ніхто не думае іх вяртаць.

Луненскі ключ (579 мужыкоў і 573 жанчыны) разам з вёскамі Стральцы, Камянчаны, Жылічы, Глядавічы быў аддадзены графу Н. А. Самойлаву, але той не зьяўіўся на вызначаныя ўладаньні. Таму знайшлі другога графа М. Валіцкага. Сяляне папалі пад прыгон. Паўсюдна адмяняліся прывілеі, беларускія законы, забаранялася беларуская мова, зьнішчалася ўніяцтва, да якога належала 80% вернікаў Беларусі. Нават грыгарыянскі каляндар (новы стыль), уведзены Вялікім Князем ВКЛ Стэфанам Баторыем, быў адменены. Пачаўся набор у рэкруты, чаго ніколі не было ў Вялікім Княстве Літоўскім. На 25 гадоў забіраліся сяляне на службу ў расейскую армію.

У 1812 годзе пачалася франка — расейская вайна. Многія літвіны спадзяваліся, што Напалеон дасьць магчымасьць аднавіць незалежнасьць ВКЛ, таму ішлі служыць у французскае войска. Для беларусаў гэта была не Айчынная, а братазабойчая вайна. Пры адступленьні французаў Луна занялі войскі графа Атароўскага. 12.12.1812 г., яны ішлі да Беластока праз Луна-Адэльск, частка ў напрамку Воўпа-Крынкі.

І французы і расейцы несьлі спусташэньні, забіралі ў сялян апошняе.

Пасьля вайны пачаўся эканамічны заняпад. Расейскія памешчыкі пачалі прадаваць дараваныя землі. У 1821 годзе Луна куплена Чахоўскім і яго жонкай Валерыяй фон Ромэр. Па зьвестках П. О. Баброўскага, Луна страціла статус мястэчка, але гандаль яшчэ цепліўся.

Літвіны не зьмірыліся з агульнай стратай незалежнасьці. У 1830-1831 гг. адбылося Лістападаўскае Вызвольнае Паўстаньне. У час паўстаньня ў раёне Луна дзейнічаў атрад паўстанцаў генэрала Хлапоўскага, які ў 1831 г. зьнішчыў ля Луна расійскі абоз у 418 вазоў, што ішоў з Брэста на Луна-Скідаль. 26.05 1831 г. ля Воўпы Д. Хлапкоўскі зрабіў засаду, у якую трапілі казакі, што адбіла ахвоту генэралу Герсьценфейту атакаваць тылы

паўстанцаў. У гэтым атрадзе ваявала беларуская Жана Д'Арк — Эмілія Плятэр.



Эмілія Плятэр на чале касынэраў

Хлапоўскі ўспамінаў: «Калі мы праходзілі праз вёскі, народ спачатку прызнаваў нас за маскалёў і не адразу хацеў верыць, што мы Палякі, а калі ўпэўніваўся, дык плакаў ад радасьці, прыносіў прадукты, што толькі меў, ніколі не хацелі браць грошы, тым ня менш я прымушаў іх браць грошы за авёс і сена, гаворачы, што маю на гэта строгі загад».

«Алфавітны сьпіс удзельнікаў паўстаньня 1831 г». па Гродзенскай губэрні, складзены сьледчай камісіяй, уключае прозьвішчы 474 чалавек. У ім паўстанцы з Мастоўшчыны: сяляне С. Дзяшко, Ф. Курпіньскі, Ф. Трусевіч; памешчыкі М. Матусевіч, браты Т. і Ф. Палубіньскія, Ф. Шабаньскі, Антоні Эйсымонт, князь Е. Сапега; шляхціцы Актавіян Эйсымонт і Мінучыц, а таксама 37 паўстанцаў з Ваўкавыскага павета. Бацька аднаго з апошніх уладальнікаў Луны Эдварда Матэуша Ромэра Эдвард Ян Ромэр (1806—1878) падчас паўстаньня 1830—1831 быў сябрам Віленскага цэнтральнага паўстанцкага камітэта. Падрабязьней аб гэтым у апавяданьні пра Ромэраў.

**Дзеяньні акупацыйных уладаў пасьля разгому Лістападаўскага Паўстаньня**

Пасьля расправы з паўстанцамі 1831 года былі разрабаваны маёнткі паўстанцаў, вывезены каштоўнасьці з музэяў і бібліятэк, канфіскаваныя

землі, разам з сем'ямі раздаваліся расійскім памешчыкам і чыноўнікам, дробная беларуская шляхта пераводзілася ў прыгонных.

Але перад расіянамі паўстала пытаньне: што трэба зрабіць, каб пазьбегнуць паўтору такіх падзей. Дзеля адказу на гэта пры імпэратары Мікалаі I быў створаны дарадчы орган — спэцыяльны Камітэт па справах залежных губэрняў, які павінен быў распрацаваць прапановы і рэкамэндацыі ўраду па пераўтварэньні Беларусі ў расійскую адміністрацыйную адзінку (губэрню) на векі вечныя. Распрацаваны быў плян працы: па-першае — адабраць у беларусаў іх мову і гісторыю; па-другое — ліквідаваць беларускую царкву. Для выкананьня пляну ўжо ў 1832 годзе быў зачынены Віленскі ўнівэрсытэт, а ў 1834 г. пераведзена навучаньне ва ўсіх школах на расейскую мову. Каб настаўнікі вучылі па-расейску, у Віцебску заснавалі настаўніцкую сэмінарыю, а ў Полацку ў старадаўніх езуіцкіх мурах–кадэцкі корпус. Так была створана «кузьніца» расейскамоўных настаўнікаў і афіцэраў–манкуртаў, пазбаўленых роднай мовы і ведаў аб мінулым Радзімы.

У 1839 годзе была скасавана Берасьцейская Ўнія. Цяпер сьвятары вялі набажэнства па маскоўскіх службоўніках, на расейскай мове трэба было весьці ўсю справаздачу. Беларускія кнігі, службоўнікі, іконы тысячамі спальвалі на вогнішчах. За ўдзел у паўстаньні зьнішчаліся кляштары. Быў зьнішчаны цэлы старажытны другі па значэньні ў ВКЛ горад Брэст з старажытным замкам і 10 кляштарамі каталікаў і ўніятаў, а на яго месцы пабудавана Брэсцкая крэпасьць.

З 1840 года па царскаму ўказу забаранялася назва «Беларусь» і ўводзілася назва «Северо-Западный край». Адмаўлялася дзеяньне Статута Вялікага Княства Літоўскага і ўводзілася расійскае заканадаўства. Губэрнатар і расійскі ўрад былі ўпэўнены, што зрабілі ўсё, каб беларусы зьніклі як народ.

Але супраціў расіянам не сьцішаў. Найбольшую актыўнасьць праяўлялі сяляне, становішча якіх было невыносным. Ва ўмовах расейскага прыгоннага права сапраўднай трагедыяй былі былі рэкруцкія наборы ў расейскую армію. Рэкрутаў набіралі прымусова і да 1834 г. яны служылі пажыцьцёва, з 1834–29 год, з 1855 па 1872 –12, 10 і 7 гадоў. Сяляне адказвалі на прыгнёт бунтамі.

На становішча ў краіне спрабавалі актыўна ўплываць уцекачы — эмігранты. Былі арганізаваны выправы патрыётаў для арганізацыі партызанскага руху. Першай была экспэдыцыя палкоўніка Ю. Заліўскага, ініцыятара Лістападаўскага паўстаньня і дзеяча Лялевелеўскага камітэта. Ужо ў другой палове 1832 года ўзяўся за арганізацыю экспэдыцыі на Радзіму. Землі Беларусі падзяляліся на акругі, кожная на два паветы, куды прыяжджалі камандзіры і 2—3 памочнікі. Акругу Гродзенскага і Лідзкага паветаў узначаліў Марцэлі Шыманскі, Слонімскага і Наваградзкага — Міхал Валовіч з Парэчча. Створаныя М. Валовічам і іншымі партызанскія атрады выклікалі вялікую трывогу захопнікаў. Былі арганізаваныя шматлікія аблавы. У вышуках прынялі ўдзел звыш 10 тыс. салдатаў толькі ў Гродзенскай губэрні.

Партызаны і кіраўнікі былі арыштаваны. Іх звозілі ў Гродна, дзе трымалі ў астрозе, разьмешчаным у былым езуіцкім кляштары. 24 ліпеня 1833 года генэрал-губэрнатарам М. Дуўгарукавым быў зацьверджаны прысуд:

М. Валовіча–да павешаньня, 6 чалавек–да біцьця розгамі і высылкі на катаргу ў Сібір, 3-х чалавек–да біцьця розгамі скрозь строй у 500 салдат і ў арыштанцкія роты.



Паўстанцы Міхал Валовіч і Лявон Працлаўскі, гравюра XIX ст.

2 жніўня Міхал Валовіч пры вялікім натоўпе мясцовых жыхароў быў павешаны ля Скідальскай заставы. Ноччу яго патаемна пахавалі, каб «не было тайных молений при теле преступника». Чарговым эмісарам на Беларусі вясной 1835 г. быў Шыман Канарскі, удзельнік Лістападаўскага паўстаньня і экспэдыцыі Ю. Заліўскага. Сваёй мэтай ён ставіў падрыхтоўку народу да разуменьня заклiку: «Айчына, Вольнасьць!» і яднаньня шляхты з народам. Але ў 1838 годзе Ш. Канарскі быў арыштаваны. Перад сьледзтвам прайшло 221 чалавек. 15 (27). 02. 1839 г. Шыман Канарскі быў расстраляны. Праз суд прайшло 150 чалавек. Нягледзячы на крывавы перасьлед хваляваньні і бунты працягваліся. Толькі да 1845 года адбылося 207 бунтаў. У 1847 г. у Гродна ўведзены ваенны стан. «Вясна» 1848 г. у Эўропе спрыяла росту супраціву.



Шыман Канарскі (ананімны партрэт, перад 1839, алей на палатне)

У ліпеню 1833 г. Мікалай I быў вымушаны выдаць Указ, у якім прадпісвалася, што рабіць у выпадку мяцяжу, падобнага да 1831 г.: вінаватых дзяліць на 4 разрады і канфіскоўваць маёмасьць. Вінаватых 1 разраду судзіць ваенна-палявым судом (нават расстрэл), 2 разраду — ссылаць у Сібір, 3, 4 разраду — прысуды зацьвярджае галоўнакамандуючы. Прыняцьце такога Ўказу гаворыць аб становішчы на Беларусі. Указ ішоў паўторна ў 1848 г.

Падзеі ў краіне не маглі не закрануць і луненцаў. У сьледчых матэрыялах ёсьць запісы аб сялянах-удзельніках паўстаньня з недалёкіх ад Луна вёсак. «Біяграфіі» асобных сялян па выніках сьледзтва даюць магчымасьць уявіць іх месца ў паўстанцкіх атрадах і далейшы лёс. Так, селянін з маёнтка Радзівонавічы Гродзенскага павета Сьцяпан Дзяшко «знаходзіўся ў шайцы мяцежнікаў з ружжом», хутчэй за ўсё пад началам Ц. Пуслоўскага. Адбываў арышт у Гарадзенскім астрозе, пасьля быў адпраўлены ў Табольск для залічэньня ў Сыбірскія лінейныя батальёны. Адтуль зьбег на радзіму, выкарыстаўшы імя таварыша па службе, але быў схоплены і вернуты нанова. Фелікс Карпінскі з маёнтка Забалацьце Ваўкавыскага павета служыў лякеем у генэрала Д. Хлапоўскага, які прыйшоў у Беларусь на чале польскага войска. Захварэў і быў захоплены ў палон

у Коўне. Сядзеў у Дынабургзкай крэпасьці, потым адпраўлены ў Гродна. У лютым 1833 г. дараваны і адпушчаны дадому. Да Хлапоўскага падаўся, тайна пакінуўшы памешчыка, Фёдар Цімафеевіч Трусевіч (Трушэвіч) з в. Ябланава таго ж павета. Там служыў дзеншчыком у паручніка Забельскага. Пасьля паразы пад Коўнам спрабаваў прабрацца ў Каралеўства Польскае, але быў злоўлены ў Кобрынскім павеце. Сьледзтва адбыў у Гродзенскім астрозе. У ліпеню 1832 г. атрымаў прабачэньне і вернуты пад расьпіску памешчыка наглядаць за яго паводзінамі.

## Масавыя абурэньні

Пасьля разгрому паўстаньня ціск на беларушчыну ўзмацніўся шматкротна. З 1839 г. забаронены казаньні ў цэрквах і касьцёлах на беларускай мове. З 1840 года па ўказу цара тэрмін «Літва» як і «літвін» сталі таксама забароненымі. Адказ беларусаў быў адпаведны. У 1845 г. адбылося 207 бунтаў. Расія ўсё больш эканамічна і тэхнічна адставала ад многіх краінаў сьвету. Нарастала небясьпека перарасту сялянскага антыпрыгоньніцкага руху ў рэвалюцыю. Гэта прымусіла расейскага імпэратара Аляксандра II 19 лютага 1861 г. падпісаць Маніфэст і «Палажэньне аб вызваленьні сялян ад прыгоннай залежнасьці», што карэнным чынам зьмяняла іх становішча. Але многія палажэньні Маніфэсту (часовыя абавязкі па захаваньню паншчыны і выплатай аброку, выкуп надзелаў, парушэньні памешчыкамі саміх Палажэньняў 19 лютага) выклікалі масавыя абурэньні. Калі ў 1860 г. на Беларусі адбылося каля 50 сялянскіх выступленьняў, то ў 1861г.–379, а ў 1861—63 гг. пік сялянскіх бунтаў дасягнуў 1100. Сярод бунтаўшчыкоў былі і сяляне Луненскай воласьці.

У 1843 г. па Ўказу Ўрадавага Сэнату Луна, якое ў той час належала рымска-каталіцкай царкве, пераходзіць у казённае ведамства. Фальварак складаўся з 2 двароў у в. Луна і ў в. Пілкі.

25 верасьня 1859 г. Віленскі генэрал-губэрнатар зрабіў прадпісаньне гродзенскаму губэрнатару «Аб правядзеньні неадкладна найстражэйшага дасьледаваньня аб буянскім учынку сялян маёнтка Луна», бо сяляне адмовіліся ад згонаў–выхадаў на ўборку панскага ўраджаю ўсяго працаздольнага насельніцтва, пачынаючы з 12 гадоў. У воласьць былі накіраваны 57 паліцэйскіх. Але звыш 200 чалавек узброілася палкамі і перагарадзілі дарогу паліцэйскім.

У 1859 г. на тэрыторыі, ахопленай Волпай, Росьсю і Луна, адбыўся «цьвярозы» рух. Сяляне на сходах прынялі пастановы ў царскіх кабаках віно і гарэлку не купляць. «У нас няма ні п’янства, ні распусты, ні крадзяжу.

Хату хоць на цэлы дзень пакідай адчыненай — ніхто трэскі не возьме», — піша пра звычаі нашай мясцовасьці Эліза Ажэшка.




Антыалкагольны плякат

Для ўціхамірваньня сялян у ліпеню 1862 г. урад накіраваў роту салдат. Валасны старшыня загадаў забіраць у сялян прадукты харчаваньня, «рэзаць жывёлу». Супраціўленьне луненскіх сялян было зломленае.

Не прынялі ўстаноўчых грамат сяляне вёсак Шчарбавічы, Глядавічы, Стральцы, Жылічы, Камянчаны. У сялян былі адабраны добра ўгноеныя землі, а аддадзены непрыдатныя, на якіх нічога не радзіла. Аб гэтым напісалі скаргу Віленскаму генэрал-губэрнатару ў кастрычніку 1862 г. З-за непісьменнасьці сялян складаў скаргу і зрабіў подпісы за іх нейкі Антоній Багуслаўскі. Праз пяць дзён больш за 100 сялян скасілі частку панскага лугу. 19 кастрычніка 1862 г. ад Віленскага генэрал-губэрнатара Назімава прыходзіць «Адносіна» Гродзенскаму губэрнатару «...аб сходзе сялян Луненскай воласьці Гродзенскага павета аб павялічэньні паншчыны, прысваеньні іх грошай і распрадажы маёмасьці беднякоў памешчыкам». У «Адносіне» распавядаецца на што скардзяцца сяляне « сельских обществ Луненской вол»., што міравы пасрэднік абʼявіў аб адмене згонаў, а летам прымушаў адбываць згонныя павіннасьці звыш вызначанай паншчыны, і штрафуе за невыхады. Што ў 1830 г. зярно з сельскага запаснога магазына (склад для семяннога зерня сялян) было забранае на харчаваньне войска, а грошы 2000 р. забраў памешчык сабе, і хлебны запас папоўнены недастаткова. Скарб 23 сялянскіх гаспадарак распраданы за нядоімкі, бо па прычыне дрэннага ўраджаю і падзяжу ската

гэтыя сяляне не змаглі і не адпрацавалі на памешчыка. Толькі ў 1858 годзе ў сялян адабрана 500 дзесяцін зямлі, а эканомія павялічыла грашовыя плацяжы на 1 руб. 46 кап. з двара. Таксама на 1 дзень павялічана баршчына і склала 5 дзён на тыдзень замест чатырох.

Скаргі на гэта міравому пасрэдніку і земскаму спраўніку не далі ніякіх вынікаў і таму сяляне хадайнічаюць аб утварэньні сьледчай камісіі для справядлівага разгляду іх скаргаў. У дакумэнце адзначаецца, што і раней у некаторых вёсках Луненскай воласьці адбываліся беспарадкі з нагоды патрабаваньняў памешчыкаў, якія не адпавядалі Ўстаўным граматам.

Якія былі наступствы скаргі сялян і адносіны Віленскага генэрал-губэрнатара сьведчыць «Рапарт Гродзенскага земскага спраўніка Гродзенскаму губэрнатару аб прымяненьні ваеннай сілы пры ўвядзеньні Ўстаўной граматы ў Луненскай воласьці» ад 25 сьнежня 1862 г « (...) То, чтобы восстановить порядок и повиновение, тем более во избежание распространения подобных беспорядков и в других местах, я отнёсся к Командиру 3-го батальона Калужского пехотного Его Величества короля прусского полка, дабы в виде экзекуции послать в деревни Каменчаны, Стрельцы, Жиличи, Шкробовичи и Глядовичи на каждый двор (которых всего 150) по два человека и сьверх того устроил в местечко Лунно особый караул из 60 человек, для арестования или же в случае надобности наказания более виноватых и упорных крестьян и на счёт размещения низших чинов при приличном содержании я назначил ежедневного экзекутного платежа по 5-ти копеек на человека и за переход по 1 1/2 копейке на версту и требовал чтобы те же постояльцы непременно тот час доставили ко мне в Лунну каждый своего хозяина и таковыми они всё были собрать, то я сделал им при мировом посреднике соответствующее внушение, заставил быть спокойными и выслушать Уставную Грамоту, а когда это кончилось с желаемым успехом я крестьянам возобновил приказание, чтобы руководствовались и повинности исполняли по Грамоте, а нижних чинов для 11 роты удовлетворить следуемыми деньгами, в чём малейшего сопротивления со стороны крестьян я уже не встретил, а как по местному дознанию моему оказалось: что к означенному неповиновению более всего виновен крестьянин деревни Каменчаны Иван Олизар, который чувствуя свою вину, до прихода моего скрылся, то я предписал приставу Бугардту за возвратом Олизара доставить его за караулом ко мне в Гродно для воздержания его от подобных поступков».

Сяляне яшчэ паспрабавалі паскардзіцца самаму імпэратару Аляксандру II. Але скарга ў Пецярбург не дайшла, а асела ў канцылярыі самага Гродзенскага губэрнатара Івана Галера.

# Студзеньскае Вызвольнае Паўстаньне

«Паўстаньне тут было больш зацятае, упартае, чым у Каралеўстве. Наймужнейшыя, найшляхетнейшыя, найгарачэй мілуючыя загінулі ад кулі, ад ссылкі, ад эміграцыі».
Эліза Ажэшка

Беларускія, польскія і літоўскія патрыёты рашылі выкарыстаць сытуацыю, каб вызваліцца ад акупантаў. У канцы 1850-х гг. і пачатку 1860-х на Беларусі, у Польшчы і Літве ўзьніклі канспіратыўныя арганізацыі, а з восені 1861 г. падрыхтоўку паўстаньня ачоліў Камітэт у Вільні. Генэрал-губэрнатар Міхаіл Мураўёў называе нашу краіну «самой мяцежной колонией России».

3 верасьня 1861 года Гродна і губэрня абвешчаны на ваенным становішчы (зьнятае 28 кастрычніка 1862 г. і зноў абвешчана 26 студзеня 1863 г.). Яшчэ ў сакавіку 1861 г. з бацькаўскай Якушоўкі з мэтай стварэньня кансьпіратыўнай вызвольнай арганізацыі ў Гародню накіраваўся Кастусь Каліноўскі. Сярод іншых у Гарадзенскую арганізацыю ўвайшлі Валеры Ўрублеўскі, Эразм Заблоцкі, Ян Заржыцкі і Ян Ванькові́ч. З ліпеня 1862 года пачынае выпускацца Кастусём Каліноўскім «Мужыцкая праўда» — першая рэвалюцыйна-дэмакратычная газэта ў Беларусі.

«У нас, дзецюкі, адно вучаць у школах, каб ты знаў чытаці па-маскоўску, а то для таго, каб цябе саўсім перарабіці на маскаля… — зьвярталася газета да простага люду. — За тое, што мы цару 25 лет на войнах служым без людскай стравы і адзежы, мала таго, што не дае шляхецтва, но, сабача юха, не дае нават куска зямлі, каб, хаця цяжка гаруючы, дабіціся да спакойнай смерці… А што грэху набярэшся перад Богам, спрыяючы маскалю, таго ніколі Бог не даруе. Ідзе француз даваці вольнасьць мужыкам, бунтуюцца местачковыя да і маладзёж за сваю і нашу вольнасьць і веру, а мы-то даем рэкрута, і нашымі грудзямі цар маскоўскі застаўляецца, і нашымі рукамі ўсмірае бунты… Ён-то, перакупіўшы многа папоў… плаціў грошы, каб толькі пераходзілі на праваслаўе, і, як гэты антыхрыст, адабраў ад нас нашу справядлівую ўніяцкую веру і пагубіў нас перад Богам навекі, а зрабіў гэта для таго, каб мог нас без канца драці, а Бог справядлівы не меў зьлітаваньня над намі».

«Падумайце добра да, памаліўшыся Богу, станьма дружна разам за нашу вольнасьць! Нас цар ніц не падмане — не падвядуць маскалі: няма для іх у нашых сёлах ні вады, ні хлеба, для іх мы глухія і нямыя — нічога

не бачылі і не чулі. А пакуль яшчэ пара, трэба нашым хлопцам спяшаць з віламі ды з косамі там, гдзе дабіваюцца волі да праўды, а мы, іх бацькі да жонкі нашы, сьцерагчы будзем да ўведамляць, адкуль на іх сягне нячыстая маскоўская сіла, да ад душы памагаць усялякімі спосабамі дзецюкам нашым, што за нас пойдуць біцца. А будзе ў нас вольнасьць, якой не было нашым дзядам ды бацькам», — заклікае Кастусь Каліноўскі ў «Мужыцкай праўдзе».

Шырокую дзейнасьць разгарнуў Кастусь Каліноўскі на Гарадзеншчыне. Валеры Ўрублеўскі стаў ваенным начальнікам Гродзенскага ваяводзтва, будучы генэрал Парыскай камуны. У губэрні паўстанцы ўтварылі акругі, адпавядаючыя 5-ці станам. Цывільным кіраўнікам Гродзенскага павету быў прызначаны Ян Каменьскі ўладальнік Мінявіч з Луненскай воласьці. Ян Каменьскі заслугоўвае таго, каб аб ім і яго лёсе было расказана падрабязьней, што будзе зроблена ў аддзельным апавяданьні пазьней.



«Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў 1863 г.» Карціна Пётры Сергіевіча

Унук паўстанца Язэпа Шамета з в. Дубраўляны (апошні час жыў у Седзянеўцах) успамінаў, што яго дзед быў сувязным паўстанцкіх атрадаў, што ў нашай мясцовасьці дзейнічала каля трох тысяч паўстанцаў, узброеных драбавікамі, шаблямі, пікамі ды косамі. Пасьля паразы каля Кнышава Язэп Шамет вывез з поля бою параненага паўстанца Жалезьнякоўскага з в. Хамічы, а самому ўдалося пазьбегнуць палону. Мясцовыя сяляне вялікай актыўнасьці ў паўстаньні не праявілі, але калі паўстанца агітатара з в. Камянчаны Івана Алізара арыштавалі, то 30 сялян зьяўіліся ў Луненскае

валаснoе праўленьне, зьбілі старшыню Малашку і вывезьлі ў невядомым накірунку. Але на самой справе «Малашка (Małaszko) Ян, с. Шымона, войт Лунна, быў арыштаваны ў першыя дні сакавіка 1866 г. [? памылка — 1863] за захаванне паўстанчай літаратуры. У той час меў 45 гадоў», гэта значыць — быў паўстанцам.

Невядома, якую пазыцыю ў адносінах да паўстаньня занялі гаспадары маёнтка Луна, але ён не быў абкладзены часовым зборам з маёнткаў памешчыкаў польскага паходжаньня на ўтрыманьне сельскіх каравулаў у пэрыяд з 1 кастрычніка 1863 г. да 1 мая 1864 г. Сельскі каравул у Луна складаўся з дзяржаўных сялян Ваўпянскага і Дубнаўскага вясковых грамадзтваў, якія забясьпечваліся хлебам з запасных абшчынных магазынаў, а грашовыя сродкі выдзяляліся з харчовага і мірскага капіталаў.

22 ліпеня 1863 года Гродзенскі губэрнатар Уладзімір Бобрынскі па прапанове Віленскага генэрал — губэрнатара Міхаіла Мураўёва распараджаецца «о строжайшем запрещении женщинам носить траур, а мужчинам польские национальные костюмы или же другие революционные знаки». Аб'ява аб гэтым была надрукавана ў «Гродненских губернских ведомостях» і аддзельнымі публікацыямі.

У І864 г. Паўстаньне было задушана, а Кастусь Каліноўскі 22.03. І864 г. павешаны на Лукіскім пляцы ў Вільні і тайна пахаваны, каб і магілы яго не было. У «Лісьце з-пад шыбеніцы» ён пісаў для свайго народу: «... Браты мае, мужыкі родныя. З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіць мне да вас пісаці, і, можа, раз астатні. Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, — но не жаль згінуць за тваю праўду... Няма ш, браткі, большага шчасьця на гэтым сьвеце, як калі чалавек у галаве мае розум і навуку... Но як дзень з ноччу не ходзіць разам, так не ідзе разам навука праўдзіва з няволяй маскоўскай. Дапокуль яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацтва і ніякай навукі, — адно намі, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, но на пагібель нашу... Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тагды толькі зажывеш шчасьліва, калі над табою Маскаля ўжо не будзе.

Твой слуга

Яська-гаспадар з-пад Вільні».

Варта сказаць пра жанчын, якія актыўна, ці ўскосна ўдзельнічалі ў змаганьні, душой і сэрцам падтрымалі яго высокія ідэі.

Пад наглядам паліцыі па Гродзенскай губэрні за спачуваньне Паўстаньню і ўдзел у ім знаходзілася 64 кабеты. Многія жанчыны паехалі ў Сыбір за сваімі мужамі. Некаторыя несьлі гэты крыж разам са сваімі дзецьмі: Канстанцыя Сядлецкая і дачка Сафія, Владычанская Яна з дачкой Вікторыяй, Малевічова Людвіка з дачкою Аляксандраю Лявонія Каменьская з дачкой Марыяй і сынком, які памёр у Сыбіры...

У 1863 г. у Гродзенскую турму былі кінуты 638 чалавек, з іх — 36 жанчын. Найчасьцей — шляхецкага паходжаньня і высокага сацыяльнага ста-

тусу: жонка «предводителя дворянства Гродненского уезда» Севярына Ромэра — Тэадора, сёстры Людвіка і Крыстына Нарбуты і інш.

Аб вялікай самаахвярнасьці жанчын і нялюдзкасьці, дзікай жорсткасьці царскай жандармэрыі сьведчыць і тое, што ў турму кінулі жанчын разам з дзецьмі: Казіміра Высоцкая і трое маленькіх дзяцей — Казімір, Мар'яна, Станіслава; Канстанцыя Высоцкая і дочкі Аўгусціна і Тэрэза; Антановіч Канстанцыя з дачкою Юліяй і 4-х гадовым сынам Казімірам і інш.

Ссылалі жанчын і за непасрэдны ўдзел у Паўстаньні: Караліна Станішэўская ў Цвер за збор ахвяраваньняў і перадачы ежы паўстанцам, Багдановіч Эвеліна ў Кастраму — за збор ахвяраваньняў для сем'яў паўстанцаў і шмат інш.

Пратэст жанчын працягваўся і пасьля падаўленьня паўстаньня, набываў цікавыя формы. Кабеты масава пачалі апранаць жалобнае адзеньне з сымбалічнымі знакамі — чорная доўгая сукенка, абшытая чырвонай і блакітнай стужкай, чорны капялюш, на якім знаходзілася спражка герба Паўстаньня. Найбольш распаўсюджана гэтая зьява была ў Віленскай і Гродзенскай губэрнях.

Пратэст жанчын набыў такі масавы характар, што царскі ўрад быў вымушаны прыняць самыя жорсткія меры і інструкцыі: «Принять меры к прекращению преступных манифистаций, воспретить носить траур и другие мятежницкие знаки... начали эти беспорядки в здешнем крае женщины...».

Ад тых часоў каля в. Мінявічы засталася магіла-курган 40 паўстанцам.

Штогод патрыёты ўшаноўваюць памяць паўстанцаў. На што ўлады адказваюць затрыманьнямі, арыштамі і штрафамі.




Ушанаваньне Паўстаньня 1863 у Сьвіслачы скончыўся затрыманьнямі

# Ян Каменьскі-паўстанец

Загінем, — добра, але гэты наш крык, крывёю і сьлязьмі сплываючы, застанецца ў паветры, і тым, што пасьля нас прыйдуць, памерці не дасьць, і сонных зрываць будзе з пуховых пасьцеляў, і стане сном чорным і сном залатым народу, і лупцуючым яго да вечнай барацьбы пугай, а тады толькі адгучыць, калі пераможа-ідэя. Эліза Ажэшка «Gloria victis» — «Слава пераможаным»

**Цывільны начальнік Гродзенскага павету**

У кастрычніку 1862 г. кіраўнікам Літоўскага правінцыяльнага камітэту стаў Кастусь Каліноўскі. У канцы сакавіка 1863 г. ён зноў прыяжджае ў Гародню з усімі паўнамоцтвам, і як рэвалюцыйны камісар ваяводзтва.

«Дзяцюкі, — зьвяртаецца К. Каліноўскі да сялян — Жывучы пад рондам маскоўскім, кожны ведае, што ён нас абдзірае і глуміць, но мала хто добра падумаў, чы можна ад яго спадзяваціся чаго-лень для нас альбо для дзяцей нашых?» І ў канцы пісьма: «Так з гэтага пісьма і відна: што няма чаго ждаці ад нікога, бо той толькі жне, хто пасее. Дык сейце ж, Дзяцюкі, як прыйдзе пара, поўнаю рукою, не шкадуйце працы — каб і мужык быў чалавекам вольным, як е на цалюткім сьвеце. Бог нам дапаможа!!!

Яська-гаспадар з-пад Вільні.

Каштуе грошы 5».

Кастусь Каліноўскі і Валеры Урублеўскі ствараюць рэвалюцыйны камітэт партыі «чырвоных», абʼядноўваюць пяць паветаў. Сябрамі камітэта сталі Баляслаў Заблоцкі, Аляксандар Гінтаўт, Ян Ванькові, Станіслаў Сонгін, Ян Казлоўскі, Фелікс Ражанскі, Ян Заржыцкі. Камісію апекі ў складзе жаночага камітэта ачольвае Эліза Ажэшка. Гродзенская губэрня дзеліцца на два ваяводзтва — Гродзенскае і Берасьцейская.

Цывільным начальнікам Гродзенскага павету быў прызначаны Ян Каменьскі ўладальнік Мінявіч з Луненскай воласьці.

Ян Каменьскі названы Эліза Ажэшка «рыцарам з брыльянтавай душой» паслужыў ёй прататыпам Андрэя Карчыньскага ў рамане «Над Нёмнам», а маёнтак Мінявічы названы ў рамане Карчынам, у 1862 г. зьвярнуўся да люду: «Маці Бацькаўшчына прыгавораная да сьмерці, як жа дзецям яе не плакаць… Павер у Міласэрдзе Божае, большае за грахі народу, малю братоў сваіх у поўным зьдананьні выйсьці на адно поле, поле бітвы, са штандарам са знакам Арла і Пагоні і Міхала Анёла, да адной мэты, якой ёсьць вызваленьне Бацькаўшчыны».



Герб Паўстаньня: Белы Арол — Герб Польшчы, Пагоня — Герб ВКЛ (Беларусі), Сьвяты Архангел Міхаіл — Герб Русі (Украіны)

Вядома пра Яна Каменьскага, што ён нарадзіўся 16 сьнежня 1827 г. у фальварку Камянец пад Заблудавым.

Верагодна, дзед Яна Каменьскага — Міхал Ігнат Каменьскі (нарадзіўся ў 1758 годзе ў Ленчыцы, памёр у 1815 годзе ў Раскошы) — дывізіённы генэрал Варшаўскага княства.

Пасьля заканчэньня кадэцкага корпусу ў 1770—1776 паступіў 1 верасьня 1777 у 5 полк франтавой гвардыі кароннай у званьні прапаршчыка. Пасьля праходжаньня ніжніх афіцэрскіх чыноў ён атрымаў званьне ў маёра ў 1789. У 1790 стаў падпалкоўнікам. У 1792 годзе ваяваў супраць расейскай інтэрвэнцыі. Ён вызначыўся пад Вішняполем, атрымаў у 1793 годзе званьне палкоўніка 5 палка франтавой гвардыі і стаў кавалерам Крыжа Ордэна Віртуці Мілітары. 10 красавіка 1794 года пасьля ўзнагароджаньня ў баі пад Шчэкацінамі авансаваў у генэрал-маёры. Пад Мацеевіцамі трапіў у расейскі палон. Узнагароджаны Залатым пярсьцёнкам Радзіма Абаронцы Свайму №20. У 1795 дзякуючы намаганьням калегаў ён здабыў свабоду і абгрунтаваўся на ралі. У 1808 годзе служыў у Генэраль-

ным штабе Арміі Варшаўскага Княства. У 1809 годзе ваяваў пад Рашынам, за Замосьце, з генэралам А. Ражнецкім, заняў Львоў і арганізоўваў там Часовы ўрад. Паддаўся на выхад у поле расейцам, якія як «саюзьнікі» выціснулі яго з Малапольшчы Ўсходняй. У адсутнасьць сіл для абароны вёў з імі партызанскую вайну. У 1810 ваенны камэндант Сядлецкага дэпартамэнту. Удзельнічаў у Напалеонаўскай кампаніі 1812 года, камандаваў коннай дывізіяй V Польскага корпуса Вялікай Арміі. Як камандуючы франтавой ахо-вай Вялікай Арміі пацярпеў паразу пры Раманаве. Камэндант Смаленска. Цяжка паранены падчас баявых дзеяньняў у абароне маршала Оўдзінота трапіў у палон. Вярнуўся з Расеі ў 1814 г. у Сядлецкі дэпартамэнт, бо тут у 1814—1815 гадах арандаваў фальварак Літоўнікі. Памёр 31 сьнежня 1815 года (1 студзеня 1816 года) у Раскошы блізу Бялай, пахаваны пры касьцёле Сьвятой Ганны ў Бяла-Падляскай.

Бацька Яна Юзаф Каменьскі (нарадзіўся ў 1789, памёр 5.1842) сын Міхала Ігнація ў 1806 годзе, як кадэт паступіў у 2-й Полк Кавалерыі Варшаўскага Княства, у 1807 г. стаў падпаручнікам Францускa — польскай гвардыі, а ў 1808 г. лейтэнантам. Адбыў кампанію супраць Прусіі 1807 г. У 1808 годзе быў удзельнікам баёў у Гішпаніі, а ў 1812 годзе выступіў з Напалеонам на Маскву. У 1809 г. узнагароджаны Кавалерскім крыжам Ганаровага легіёна, у 1820 г. — ордэнам Сьв. Ганны ІІ клясу. У 1812 годзе ён быў ужо падпалкоўнікам 19 Палку Уланаў Літоўскіх, у 1825 годзе — камандзір 4-га Коннага стралковага палку, а ў 1831 г. — брыгадным генэралам. Маршалак Гродзенскага палку, паўстанец лістападавы — брыгадны генэрал, прыгожы бляндын і яго велікавокая прыгажуня жонка Разалія Мразоўская –бацькі Яна Каменьскага — паўстанца — абодва ляжаць у Луне каля касьцёла.

Пасьля заканчэньня вядомай гімназіі ў Сьвіслачы і атрымаўшы дадатковую навуку ў Маскве, Ян Каменьскі загаспадарыў уласнасьць у Мінявічах, якая належала яго роду з XVII ст. Двор у Мінявічах стаў месцам кантактаў, складам і кузьняй зброі для паўстанцаў.

Эліза Ажэшка так апісвае паўстанцаў, з каторымі мела непасрэдны кантакт у Кобрынскім павеце: «Мноства постацей і твараў, вялікая разнастайнасьць іх афарбоўкі і выразу. Ёсьць тут сыны дамоў заможных, дзеці дастатку і элеганцыі, з нясьцёртай плямай іх у рухах і адзеньні. Ёсьць маладыя вучоныя, дзеці думкі і ведаў, з не пазбытым іх сьвятлом на чолах і ў вачах. Ёсьць усе амаль лясьнічыя з плячамі шырокімі, позіркамі крыху панурымі, але хуткімі, для пранікненьня скрозь гушчы і змрокі прыстасаванымі. Ёсьць уся моладзь двароў дробнашляхецкіх, шпаркая, сьмелая, з усьмехамі, лёгкімі размашыстымі рухамі. І ёсьць яшчэ некалькі постацяў кволых, найменш выразных, прыдатныя быць ценямі, каторыя ідуць за тымі. Гэтых з мястэчак, дзе-нідзе з вёсак халопскіх, якіхсьці можа дарог памылковых і нешчасьлівых прывялі сюды заклікі, каторыя сонныя душы страсянулі, надзеі будучыні лепшай, каторыя шаром сплылі на злую сучаснасьць».



Ян Каменьскі

Гарачы абаронца народнай справы Ян Каменьскі братаўся з засьцянковай (дробнай) шляхтай і быў у добрых адносінах з сялянамі ў сваіх уладаньнях. Але менавіта адзін з халопаў, нейкі Глэмбоцкі, злакоміўся на юдзіны срэбранікі і данёс царскім жандарам, што ў Мінявіцкім двары хаваюць зброю ды адліваюць кулі. Быў арыштаваны 12.VI. 1863 г. (Віленскі генэрал-губэрнатар Мураўёў-вешальнік выдаў загад аб узнагародзе за кожнага выдадзенага паўстанца.)

**Сьмяротны прысуд**

Рота жандараў расейскіх спаліла дом.

Ян Каменьскі «посредник для дел владельцев» нёс службу, як абраная асоба. Віленскі генэрал-губэрнатар Мураўёў-вешальнік выкарыстаў дадзеныя яму царом надзвычайныя правы адносна дзяржаўных службоўцаў і

выдаў Яну Каменьскаму сьмяротны прысуд, якога ня меў права рабіць для чыноўнікаў цывільнай службы.

«Бацька, прысуджаны да расстрэлу, стаяў ужо прывязаны да слупа, чакаючы на экзэкуцыю, калі ў астатнюю хвіліну надышоў царскі маніфэст, каб што дзясятага асуджанага (была гэта экзэкуцыя вялікай колькасьці паўстанцаў) ад кары сьмерці вызваліць, а выслаць у Сібір на пажыцьцёвую катаргу. Бацька быў тым дзясятым» — пераказвае ўспаміны дачкі Яна Каменьскага Марыі яе дачка ўнучка Яна.

«Бачыла напад пераможцаў, расьпіхваючых усіх ва ўсіх месцах, таптаўшых усё, што было нашым: на рэшткі людзей, застаўшыхся на зямлі, на мову, рэлігію, звычаі.

(...) Ня толькі не перабольшваю, але на чвэрць не магу заключыць тысячнага зьместу той трагедыі, каторая полымем і мячом ударыла ў мае дваццацігадовыя вочы і сэрца» — пісала ў пісьмах Эліза Ажэшка.

Быў тады Ян Каменьскі мужам і бацькам. З Лявоніяй Станіславай з Судзінаў меў дзьве маленькія дачкі: 8-гадовую Янку і 6-гадовую Станіславу. З цяжкім сумам пакідаў Мінявічы, застаўляючы, па іх канфіскацыі, сям'ю на волю лёсу.

«Чалавек гэты, такім, якім быў у маладосьці, паслужыў мне як вобраз Андрэя Карчыньскага з той розьніцай, што той загінуў, а гэты многа гадоў на катарзе, а затым, там дзесьці ў стэпе», — пісала Эліза Ажэшка.

Аб далейшым лёсе Яна захаваў зьвесткі яго ўнук Станіслаў Дмахоўскі, які жыве ў Варшаве, сын наймалодшай дачкі Яна і Лявоніі Каменьскіх, Марыі. Яна прыйшла на сьвет у Омску, і потым многа расказала сыну аб сыбірскім жыцьці дзеда. Захавалася шмат розных лістоў і фатаграфій. На адной з іх на адваротным баку надрукавана: «Фотография при С-Петербургской тюремной крепости». Значыць праз Пецярбург везьлі ссыльных у Сібір. Ян Каменьскі–кропля ў пятай самай крывавай хвалі рэпрэсій 1863–64 гадоў. Яна ўражвае сваімі маштабамі–128 чалавек былі пакараны сьмерцю, 12 483 адпраўлены на катаргу і пасяленьне ў Сібір, арыштанцкія роты.

Дарога была доўгай. «Адпачывалі ў этапавых турмах у цеснаце, духаце і гразі. Слабыя паміралі ад тыфу ці ад страты сіл, а выжыўшыя былі этапаваныя далей аж да Омска. Сьнежныя завеі і бураны затруднялі рух. Трэба было цягнуцца па глыбокім па калена сьнезе, ледзьве выцягваючы з гурбаноў закутыя ў кайданы ногі.

Кайданы! Колькім беларусам дастаўся такі падарунак ад расейскіх братоў! Насілі іх над халявамі абутку, прымацаваныя рамянём да пояса. Невідочныя для вока, пры кожным руху выдавалі востры, хоць ціхі, звон. Трэба было купіць за свае грошы спэцыяльныя скураныя падкладкі, бо без іх жалезныя абручы да крыві ранілі ногі. Канструктары кайданаў добра папрацавалі. Кайданы давалі магчымасьць працаваць, таму іх ніколі не здымалі.

Захаваліся фатаграфіі Яна Каменьскага ў вопратцы ссыльнага. Высланы ў Старлітамак, Арэнбургзкай губэрні.



Ян Каменьскі ў катаржнай сярмязе, якой накрылі труну па яго сьмерці

Ян Каменьскі прыйшоў да высновы, што толькі праца, хоць самая цяжкая, адзіны спосаб выжыць. Бо ўмовы жыцьця ў Омскай цьвердзі вялі да згубы здароўя. Таму накіраваньне на цяжкую працу ў саляварню было сустрэта з задавальненьнем. Ранкам усіх, хто працаваў выстройвалі перад кардэгардай на дзядзінцу турмы. Там «кандуктар» дзяліў катаржан на партыі і разьмяркоўваў на розныя работы. І гэта былі найлепшыя хвіліны дня.

Калі цямнела і канваір зачыняў на засаўку цяжкія дзьверы камэры, калі было ўжо вядома, што ніхто з «начальства» не прыйдзе, камэра пачынала жыць сваім жыцьцём. Вязьні запальвалі свае сьвечкі і кожны пачынаў займацца сваёй справай: латалі адзеньне, плялі кошыкі на продаж, ігралі ў карты.

Паўстанцы ўспаміналі родных, сяброў, Радзіму.

Сярод фатаграфій, якія зьберагае ўнучка Яна ёсьць адна з пабляклым лесам крыжоў. На другім баку дата 4 чэрвеня 1865 г. Тлумачэньне:

«Пагост ссыльных у Кунгуры Пермскай губэрні» і два вершаваныя радкі:

1864 год гэты ясна выкажа іх думкі і жарсьці.
Таму ўдзячнасьць Ім братняя, хвала Іх памяці.

Так пражыў Ян Каменьскі цэлыя 7 гадоў. У 1871 годзе кайданы з яго былі зьнятыя і праца катаржніка зьменена на «пасяленьне». Мог цяпер жыць пад Омскам, дазволены быў прыезд сям’і.

## «Кіргіскі кароль»

Скора Лявонія з Судзінаў Каменьская, далікатны профіль з цяжкім вузлом валасоў на фота, зробленым перад выездам, з 13-гадовай дачкой Стасяй прыехала ў 1872 г. да мужа. Старэйшая дачка Яна засталася ў Варшаве, каб не перарываць вучобу.



Лявонія з Судзінаў Каменьская, жонка Яна Каменьскага

Яе лёс быў больш ласкавы, ніж гераіні Андрэевай Карчыньскай. Былі разам. Спрабавалі будаваць жыцьцё аднова. Каменьскі — як бараніў сваіх

сяльчан у Мінявічах–цяпер у Омску станавіўся на абарону падманваемых праз расейскіх жулікаў кіргізаў.



Дачка Марыя, якая нарадзілася ў Сыбіры

Тут у Сыбіры ў сьнежні 1877 г. нарадзілася дачка Марыя, пазьней Андрэева Дмахоўская. Дзякуючы пазьнейшым запісам Марыі, засталіся ўспаміны аб жыцьці сярод кіргіскіх стэпаў. А яшчэ быў сын, але гэта дзіцё было заслабое, каб перажыць марозную сыбірскую зіму. Марыя перажыла некалькі такіх зімаў. Помніла аулы ў кіргіскіх стэпах з некалькіх кібітак і юрт ці палатак з шэрага лямцу. Цёмнарудыя кіргіскія дзеці да 7 гадоў амаль голыя шукалі цяпла ў попеле вогнішча. Вогнішча гарэла ўвесь час на плоскім камяні, разьмешчаным пасярод юрты, напаўняючы яе едкім дымам, нягледзячы на дзірку ў даху.

Помніла старога Кіргіза, аб якім гаварылі, што ён сьвяты, бо зьдзіўляў ня толькі ссыльных паўстанцаў, але і ўсё племя тым, што спаў голы на сьнезе ў любы мароз.



Паўстанцы 1963 г. у ссылцы. Зьлева стаіць Ян Каменьскі

Ян Каменьскі распавядаў аб кіргізах, што былі шчырыя, удзячныя і ўчцівыя. Калі кіргіз знаходзіў у стэпе сярэбраную падкову, то не падымаў яе гаворачы: «Няхай яе забярэ той, хто згубіў». Займаліся паляваньнем, земляробствам, пасьвілі жывёлу і бессаромна эксплуатаваліся царскімі чыноўнікамі і купцамі. «Чыноўнікам» павінны былі плаціць «ясак» — даніну, а купцы з Омска, прывозячы да аулаў соль і другія тавары першай патрэбы, выкарыстоўвалі прастадушша сваіх вузкавокіх кліентаў і абманвалі іх неміласэрна. Таму кіргізы былі глыбока ўдзячны Яну Каменьскаму, які бараніў іх, таргаваўся, лічыў і спрачаўся з неўчцівымі купцамі.

Малая Маня бачыла, як гасьцінна віталі бацьку ва ўбогіх юртах, садзілі ля вогнішча на лямцавым дыване і частавалі кумысам, які налівалі са скураной торбы ў драўляныя кубкі, як частавалі варанай без солі канінай, якую даставалі з катла рукамі. Гаспадар юрты разрываў мяса на кавалкі і падаваў гасьцям адразу ў рот. Трэба было мець многа добрай волі, каб прыняць такі, выплываючы з глыбіні сэрца, пачастунак. Помніла ўжо іншыя сцэны з вуліц Омска. «Калі кіргіз прыяжджаў у горад, а падыходзіў час малітвы, то злазіў з каня, расьсьцілаў пасярод вуліцы свой лямец і сядаў на яго для выкананьня малітвы з падкручанымі пад сябе нагамі. Тым часам расейскія хлопцы, а, нават, і дарослыя штурхалі яго, цягнулі за лямец, сьмяючыся, каб пакаціць кіргіза. Калі на такую сцэну трапляў Каменьскі, то разганяў «жартаўнікоў», заслугоўваючы ўсё большую павагу кіргізаў. Расейскія чыноўнікі незадаволена ўспрымалі папулярнасьць паўстанца і іранічна называлі яго «кіргіскім каралём», але перашкодаў яму не чынілі.



Цюрма для паўстанцаў-катаржан каля салянага промыслу ў Соль-Ілецку

Праз некалькі гадоў Ян Каменьскі атрымаў дазвол на жыцьцё ў самым Омску. Быў гэта ў тыя часы адзін з буйнейшых гарадоў Сыбіры, дзе разьмяшчалася рэзыдэнцыя генэрал-губэрнатара Заходняй Сыбіры. Але дамы ў Омску былі ўсе драўляныя, а вуліцы без бруку. Не было кнігарні, бібліятэкі, нават газэты, яшчэ не было чыгункі, якая б злучала Омск з эўрапейскай часткаю Расеі.

«Кіргіскі кароль» стаў працаваць у краме, якая належала паляку Паўлоўскаму, таксама ссыльнаму. Калі Паўлоўскі атрымаў дазвол на вяртаньне на Радзіму, Ян Каменьскі адкупіў краму, вёў справу разам з жонкай і старэйшай дачкой аж да таго часу, калі пасьля 20 гадоў ссылкі, дзякуючы Маніфэсту цара Аляксандра III, змог вярнуцца на Радзіму, сардэчна разьвітваючыся з кіргіскімі прыяцелямі. Захаваліся абʼявы аб продажы

тавараў «складу Варнаўскага» у Омску. Прадавалася абсталяваньне крамы, вазы і коні, а нават партыя французскіх він. Аб'ява ад 14 лістапада 1886 г. Але толькі 14 ліпеня 1887 г. падарожнікі прыбылі ў Гродна.

## Вяртаньне на Радзіму

Падарожжа было цяжкім і доўгім. З Омска вырушылі суднам, праз Уральскія горы перапраўляліся на конях, потым зноў на караблі да Ніжняга Ноўгарада. Адтуль чыгункай да Масквы і далей ужо да роднага краю. Эліза Ажэшка радасна вітала вяртаньне «кіргіскага караля» да Мінявіч.

«Гурточак наш пабольшваецца праз пасяленьне панства Каменьскіх, якія ўжо ад арэнды свае землі атрымалі і стала на ёй пасяляюцца», — пісала ў пісьме да Карловіча.

Ян Каменьскі адваяваў частку канфіскаванай маёмасьці для двух дачок, народжаных перад паўстаньнем.

«А зямля! Божа! (...) Я кожную расьліну, кожную кроплю вады, кожны яе камень любіў», — гаворыць яго словы герой рамана «Над Нёмнам». Калі ў 1888 г. — перадапошняе лета ў Менявічах–прыехала спадарыня Эліза Ажэшка над Нёман, астанавілася «100 крокаў» ад дому Каменьскіх «што нам спраўляе вялікую прыемнасьць, бо ёсьць высакародныя, мілыя і шчыра з намі пасябраваныя, засмуткавала, бачачы, як далёка жыцьцё зноў паўтарыла дзеі яе рамана, як Каменьскі, так як Бенекдыкт, з цяжарам ратаваў менавіта «Корчын». «Ён па дваццаці колькі гадох выгнаньня першы год на сваім кавалку зямлі гаспадарыць, але што скажу? Адразу паразу неўраджаю мець будзе, бо на палях ад вялікай сушы ўсё жаўцее і чарнее. Так вось лёсы спрыяюць сваім абранцам». 8 гадоў бітвы былі яшчэ перад Янам Каменьскім.

Вясною 1896 г. ужо горка пісала Эліза Ажэшка: «Мы ў гэтыя дні глыбока засмучаныя цяжкаю хваробаю многагадовага сябра нашага і многазаслужанага патрыёта спадара Яна Каменьскага. Яшчэ жыве, але на думцы лекара, не толькі дні, але гадзіны яго палічаны. Меншае нас тут меншае, а нашчадкі — на жаль — пад Волгай і Амурам».

Памёр 31 сакавіка. «...Знаходзімся пад смутным цёмным уражаньнем сьмерці Яна Каменьскага. Амаль не хочацца верыць, што яго больш не ўбачым.

Знаходзяцца ў нас дзьве яго дачкі, улюбёнае бядацтва ў жалобе, сплаканае і прыгнечанае».

А ў пісьме да свайго прыяцеля Леапольда Мэыэта пані Эліза пісала: «Уладальнік Мінявіч пан Ян Каменьскі разам з жонкай і дочкамі гэтым летам з Сыбіры вярнуўся. Знала гэтых людзей ад найраньнейшай мала-

досьці, з радасьцю іх сустрэла, але сапраўдную раскошу спраўляе багаты вобраз гэтага дзельнага і ўчцівага чалавека, праўдзівага мучаніка ідэі і любові, вітаючага па дваццаці некалькілетняй адсутнасьці роднае месца, адпачываючага ад кайданаў і падзямельляў катаржніка, ад лягчэйшых, але таксама цяжкіх пакутаў пасяленца, роднае паветра, родныя гукі і выгляды.

Быў гэта ў часах рэвалюцыйных адзін з найгарачшых і найуплывовых паплечнікаў справы люду на Літве, таму халопы віталі яго грамадою з узрушаючымі да глыбіні праявамі памяці і ўдзячнасьці».

«У глыбіні, над цёмнай калянадай пераплеценых гольлем елак, ахінуты іхнім ценем, узвышаўся невялікі пагорак, даўгаваты і з такімі схіламі, падобны не то на вал, не то на курган, відаць, калісьці насыпаны рукамі людзей, і як уся гэта паляна, зарослы няроўнымі гарбатымі кусьцікамі травы.

Ян моўчкі пагорак гэты Юстыне паказаў, яна таксама моўчкі кіўнула галавой; знала, што гэта сумесная магіла.

— Колькі? — ціха запытала.

— Сорак — адказаў...» — так апісвае Эліза Ажэшка месца пахаваньня 40 паўстанцаў у лесе ля Мінявіч. Тут па яе вэрсіі пахаваны і Андрэй Карчыньскі – прататыпам якога стаў Ян Каменьскі.



Крыж на магіле 40 паўстанцаў у Мінявічах

А на магіле-кургане 40 паўстанцам, тымі, хто помніць і ганарыцца, пастаўлены памятны крыж. Сюды прыяжджаюць патрыёты з Польшчы, каб ушанаваць памяць змагароў за Свабоду і Вольнасьць. Заўсёды тут ёсьць кветкі і бела-чырвоныя стужкі. Але няма бел-чырвона-белых, ні чырвона-

зялёных. Яшчэ не прыйшла пара, яшчэ не прачнуліся беларускія патрыёты...

Дызайнерам помніка ў Міневічах зьяўляецца Ядвіга Бачыньска, ініцыятарам — ксёндз Адам Рудніцкі, тагачасны парафіяльны сьвятар у Луне. «Па ініцыятыве сьвятара Адама Рудніцкага палякі, якія жывуць у Луне і ваколіцах, разам са студэнцкай моладзьдзю з Польшчы ўзяліся за будаўніцтва помніка. Помнік мы пабудавалі сваімі рукамі ў 1993 годзе да 130-годзьдзя Паўстаньня. [...] Запіс пра падзею ёсьць у парафіяльнай кнізе Лунна ад 1993 года» — піша Ядвіга Бачыньска.

Але Ян Каменьскі выжыў. Адбыў катаргу і вярнуўся на радзіму. Пахаваны ён на парафіяльных могілках у Луна. Сьціплы помнік з надпісам: «Grób rodziny Kameńskich» патрабуе рамонту і дагляду.  На жаль пакуль не прыходзяць на магілу паўстанца 1863 г. ні школьнікі, ні беларускія патрыёты. Варта было б стварыць такую традыцыю. Наведваюць магілу толькі сябры Зьвязу палякаў на Беларусі, прадстаўнікі Косульства РП і польскія турысты.




Помнік на магіле Яна і Лявоніі Каменьскіх на могілках у Луне

Між тым Эліза Ажэшка аб Паўстаньні на Беларусі піша: «Паўстаньне тут было больш зацятае, больш упартае чым у Каралеўстве. Самыя мужныя і шляхетныя, найгарачэй мілуючыя загінулі ад кулі, ад ссылкі, ад эміграцыі. Засталіся за малым выключэньнем самыя слабыя, самалюбівыя і парадзілі, а пасьля выхавалі дзяцей пад чорнымі крыламі тэрору, у трывозе, у згрызьлівай турбоце, у прыніжэньні, у сумневе (...). Край наш заняла глухая цёмная ноч...».

# Каралева польскай прозы і пакутлівай праўды

Трапіць страла ў сэрца — вынь яе,
упадзе жменя гразі на галаву —
сатры яе, а з ранаю і плямаю,
якую час змые — змагацца далей.
Эліза Ажэшка

## Вяртаньне Элізы Ажэшка

«1. 14. 1902 г. Луна». Праходзіць лета без сьвятла і цяпла, хмурае, халоднае, заплаканае... Перашкаджае гэта свабоднаму разгляданьню прыроды і ўзмацненьню сіл усебаковых на доўгую і мёртвую зіму. Нягледзячы на гэта бываюць моманты прыгожыя, у якія можна глядзець на палеткі збажыны і групы дрэў на палянах, а заўсёды ёсьць тут гэта найдзіўнейшая ціша вясковая, якой ніякая частка тутэйшага жыцьця замяніць і ўзнагародзіць не можа. Луна ёсьць вёска без асобай прыгажосьці, але мае прыгожыя палі, прыгожы сад сапраўды цудоўны, прыгожыя паляны, старыя дрэвы двару. Ёсьць тут дакладней акацыі так вялізныя, якіх у клімаце нашым не бачыла ніколі, і вельмі прыгожыя векавыя ліпы. Усё гэта, нягледзячы на дажджы і халады, у моманты распагоджваньня неба спраўляе мне многа прыемнасьці... што да людзей, то акрамя гаспадароў дому, у якім з Марыяй Абрэбскай знаходзімся, маем блізкую суседку, уладальніцу Луна, пані Рамэрову, яшчэ даволі маладую, мілую і сумную, з якой павязалі стасунак ветлівы і прыемны. Ёсьць сумнаю, бо няпоўныя два гады таму страціла ў адзін год мужа і дарослага сына, а другі сын малы пад пагрозай сухотаў, якія забілі таго. Сама хворая, самотная, лагодная і простая, мае пані Рамэрова штосьці ў сабе чуйнае і самой доляй сваёй прывабная. Маем тут таксама ксяндза, мала адукаванага, але нязьмерна чэснага чалавека, велізарна адданага колу працы адукаваньня і ўмаральненьня люду і доктара, які што хвіліну прыходзіць мне на памяць Бальзакоўскага «Вясковага доктара», — так піша Эліза Ажэшка аб нашым мястэчку ў лісьце на імя Канстанціна Скірмунта.

У пачатку 2001 года адданыя паклоньнікі творчасьці Элізы Ажэшка ў Луне на падыходзе да 60-годзьдзя з дня нараджэньня вялікай пісьменьні-

цы, улічваючы той факт, што Эліза Ажэшка наведвала Луна і пакінула аб вёсцы прыемныя ўспаміны, вырашылі памяняць назву вуліцы Камсамольскай, былой Паштовай, на вуліцу Элізы Ажэшка. У тыя дні на вуліцы было паштовае аддзяленьне, да якога, магчыма, Эліза Ажэшка прыходзіла. Вуліца таксама вяла да палаца Ромэраў, да ўладальніцы якога пані Рамэровай заходзіла ў госьці пісьменьніца. Кандыдат гістарычных навук настаўнік гісторыі Луненскай школы Станіслаў Сільвановіч падрыхтаваў інфармацыю аб асабістых і літаратурных заслугах Элізы Ажэшка перад Наднёманскім краем і непасрэдна перад мястэчкам Луна. Актывісты сабралі подпісы людзей, якія прасілі назваць вуліцу Камсамольскую вуліцай імя Элізы Ажэшкі. Гэта заява была разгледжана на паседжаньні дэпутатаў Луненскага сельскага Савету, якія аднагалосна пагадзіліся даць вуліцы Камсамольскай новую назву Элізы Ажэшкі.



Вуліца Камсамольская, раней Паштовая, па каторай хадзіла Эліза Ажэшка на пошту і ў госьці да Ромэраў

Але дарэмна цешыліся аматары творчасьці Элізы Ажэшка. Тры мясцовыя камуністы і «вэртыкаль» Мастоўскага раёна кінуліся абараняць назву вуліцы. Па мястэчку пачалі распаўсюджваць улёткі ў падтрымку Скідальскіх камсамольцаў!? Выдумалі, што вуліца названа ў іх гонар, чаго ніхто ніколі ня ведаў. У раённай газэце «Зара над Нёманам» былі надрукаваныя сфальсыфікаваныя матэрыялы на гэтую тэму. Галоўны Мастоўскі начальнік казаў: «Хто такая гэта Ажэшка? Што яна такое напісала хіба на польскай мове...?». У нецэнзурных выразах характарызавала маральнасьць прыватнага жыцьця пісьменьніцы загадчыца Луненскай бібліятэкі. Нарэшце адзін з камуністаў праціўнік перанайменаваньня вуліцы склаў сьпіс нязгодных і падрабіў у гэтым сьпісе подпісы. Паседжаньне сельсавета адбылося нанова, але абаронцы вуліцы Камсамольскай нават на яго не зьяўіліся. Ім гэта

было ўжо непатрэбна. «Вэртыкальшчык» з Мастоў забараніў мяняць назву вуліцы. Не называю імёнаў «герояў» гэтых падзеяў у сувязі з тым, што ўсе яны маюць дзяцей і ўнукаў. На думаю, што для іх гэтая веды былі б прыемнымі.

Каб не працягваць распальваньне нянавісьці сярод жыхароў Луна, распачатага мясцовымі камуністамі, ініцыятары зьмены назвы вуліцы прапанавалі: прадставіць дакумэнтальны доказ таго, што вуліца была названая ў гонар Скідальскіх камсамольцаў, і калі такі дакумэнт будзе, то і назваць вуліцу вуліцай Скідальскіх камсамольцаў; распачаць працаваць над тым, каб надаць імя Элізы Ажэшка Луненскай бібліятэцы.

Вядома, ніхто не рухнуў нават пальцам. У Луненскай бібліятэцы няма нават твораў Элізы Ажэшка, за выключэньнем «Над Нёмнам» на беларускай мове.

Для гэтага важна, каб нагадаць нам усім аб дзейнасьці Элізы Ажэшка не толькі як пісьменьніцы, аўтара хронік жыцьця і характараў нашага рэгіёну, але і як вялікай патрыёткі і ўдзельніцы Вызвольнага Паўстаньня 1863 года.

## Грамадзянская пастава Элізы Ажэшка

Эліза Ажэшка з Паўлоўскіх прыйшла на сьвет 26 (6) чэрвеня 1841 года ў радавым маёнтку Мількаўшчына паблізу Скідаля. Бацька Бенедыкт Паўлоўскі, вальтэр'янец, актыўны сябар Гарадзенскай масонскай ложы «Сябры чалавецтва», быў багатым абшарнікам і адукаваным правазнаўцам. Меў шырокая інтэлектуальныя інтарэсы, сабраў у сваім доме багатую калекцыю карцін і бібліятэку з некалькіх тысяч тамоў. На жаль ён памёр у 1843 годзе, калі Элізе Ажэшка было ўсяго два гады. Маці Францішка з Каменьскіх, у 1849 годзе, праз шэсьць гадоў пасьля сьмерці мужа, выйшла замуж і выхаваньнем Элізы занялася бабуля Эльжбета Каменьская. У 1851 годзе, паьсля сьмерці адзінай сястры Клемянціны, бабуля аддала дзяўчынку на выхаваньне ў адзін з лепшых манастырскіх пансіёнаў у Варшаве. Тут яна пазнаёмілася і пасябравала з Марыяй Васілоўскай, пазьней знакамітай паэтэсай Канапніцкай.

Пасьля заканчэньня пансіёна, на сямнаццатым годзе жыцьця, яе выдалі замуж за 35-гадовага палескага шляхціца Пятра Ажэшку. Стала жыць з мужам у Людвінаве каля Кобрына на Палесьсі, дзе стварыла разам з малодшым братам яе мужа Фларыянам Ажэшка школу для дваццаці сельскіх дзяцей. Яна прымала актыўны ўдзел у дыскусіях камітэту землеўладальнікаў, прызначаным уладамі Расеі ў мэтах распрацоўкі сацыяльна-эканамічных рэформаў у краіне. Узнёслыя парывы маладой жонкі былі адной з

прычын непаразуменьняў з яе мужам. Шлюб не быў пасьпяховым, у 1862 годзе яна пакінула мужа і пераехала ў Варшаву.

У пэрыяд Студзеньскага Паўстаньня вярнулася ў Людвінава для праўдзеньня дапаможнай дзейнасьці паўстанцам, у тым ліку арганізавала палявы шпіталь у маёнтку мужа і становіцца сувязной партызанскага атрада Рамуальда Траўгута.

Рызыкуючы жыцьцём, Эліза Ажэшка ратавала, цяжка параненага пасьля апошняй бітвы і разгрому атрада ў Горацкіх лясах, Рамуальда Траўгута, а затым вывезла яго ў сваёй карэце да межаў Каралеўства Польскага. Па гэтай і ня толькі прычыне ўсе трое братоў Ажэшкаў — Фларыян, Пётр і нават паралізаваны Браніслаў — былі сасланыя ў Сыбір. Пасьля Паўстаньня Эліза Ажэшка была вымушана прадаць Людвінава.



Касінеры

У 1864 г. не прынятая на працу расейскімі чыноўнікамі ў Варшаве, вяртаецца ў разрабаваную Мількаўшчыну. Пачынае самаадукацыю і пісаць. Вясною 1866 г. зьяўляецца першае друкаванае апавяданьне «Малюнак з халодных гадоў» пра голад беларускай прыгоннай вёскі. І з гэтага часу ўся творчасьць Элізы Ажэшка прысьвячаецца Прынёманскаму краю, яго гісторыі, а галоўнае людзям, якія спрадвеку лічылі гэтую зямлю сваёй Радзімай.

У 1869 г. Эліза Ажэшка вымушана прадаць Мількаўшчыну. Калі была зачынена кніжная крама ў Вільні, якую яна фінансавала, укладваючы вялікія грошы каб распаўсюджваць польскія кнігі, асуджана на 5 гадоў і інтэрніраваная ў Гародню пад нагляд паліцыі з абавязковым рэгістраваньнем кожны тыдзень.

Ад восені 1869 г. жыве ў Гародні. Мінула 5 гадоў ад растаптаньня, падаўленьня, расстрэлу Паўстаньня. Перажыла яго асабіста. Дваццацігадовай дзяўчынай пазнала Траўгута, глядзела на кроў, скаргі, папялішча, руіны. «Паўстаньне тут было больш зацятае, упартае, чым у Каралеўстве», — скажа. «Наймужнейшыя, найшляхетнейшыя, найгарачэй мілуючыя загінулі ад кулі, ад ссылкі, ад эміграцыі. Асталіся за малым выключэньнем найслабейшыя, найсамалюбівейшыя і здрадзілі, а затым выхоўвалі дзяцей пад чорнымі крыламі тэрору, у трывозе, у грызучай забоце, у зьнявазе, у сумненьні... Край наш аблажыла глухая цёмная ноч... Перажыла ноч гэту ў месцы, дзе яна была найдаўжэйшая і найцямнейшая». Тым глушэйшая і цямнейшая таму, што навакол лютаваў «езьдзіў шумна, граў, сьпяваў, танчыў, локцямі нас сьпіхваў [...] зіхатлівы, танцуючы, трыюмфуючы сьвет расейшчыны». Да апошняй хвіліны засталася вернай памяці паўстанцам. «Ніколі не траціла іх (паўстанцаў, аўт.) з памяці, з думкі поўнай павагі, з сэрца поўнага жалю», — скажа на прыканцы жыцьця.

У рапарце гродзенскага паліцмайстра Ціманава ад 5 траўня 1882 года губэрнатару напісана: «Маю паінфармаваць Яго Эксцэленцыю, што ў красавіку бг. у сьпісе асоб пакінутых пад наглядам зьмешчана пад нумарам 3418 шляхцянка грамадзянка Эліза Ажэшка, аддана пад нагляд паліцыі на тры гады, ад красавіка бг. Згодна з загадам аддзелу судовага дэпартамэнту дзяржаўнай паліцыі ад 12 красавіка [...]».

Не ўпала на калені, але зьдзейсьніла не толькі велізарны літаратурны чын і патрыятычны подзьвіг, які павінен служыць прыкладам да падобнага дзеяньня: « (...) перажыла дзясятак генэрал-губэрнатараў тут пад іх вокам спраўляючы дом галоснапольскі і НІКОЛІ, З НІЯКАЙ АКАЗІІ АДНАГО СЛОВА ПА-РАСЕЙСКУ НЕ ВЫМАВІЛА...»

«Былі тут кроў, жальба, папялішчы, руіны існаваньня і маёмасьці, — піша Ажэшка. — Моладзь расла пад чорным крылом тэрору (...). Тыя, якія не выехалі да ўнівэрсытэту расейскага, убогія ці менш здольныя займелі найніжэйшае і найгоршае становішча ў грамадзтве і пад сталай пагрозай згубы кавалка жабрацкага хлеба, аточаныя калегамі і начальнікамі з расейцаў».

Ад выданьня «Марты» (1883 г.), Мэіра Эзафовіча» (1879) становіцца слаўнай. Атрымлівае дзясяткі лістоў, візытаў, слоў падзякі.

«Будуць напэўна ў будучым дзеі лепшыя, справы важнейшыя, учынкі большыя–але мы былі працаўнікамі найсмутнейшымі з смутных, гэтага нам будучыня пэўна не запярэчыць», — спадзявалася.

Дом Элізы Ажэшка стаяў па вуліцы Мураўёўскай. Калісьці насіла прыгожую назву Раскоша па назьве вясёлай карчмы. Пасьля атрымала назву Міхаіла Мураўёва, якога сама царыца прасіла са сьлязамі, каб «ратаваў Літву» у 1863 г. і аб якім цар Аляксандр ІІ пісаў да брата элегантна: «ніколі не меў да яго вялікай сымпатыі» і які атрымаў у народзе мянушку «вешальнік». У дворыку пані Элізы пры вуліцы Мураўёва (ад гадоў міжваенных да сёньня вуліца носіць назву Элізы Ажэшка) дзейнічаў ад 1894 г. тайны ўнівэрсытэт. «У гэтым жыцьці цёмным, як шум бору ў ноч лістападаўскую, жыў кліч: «Вернасьць і стойкасьць». Ёй ужо створаныя пранікнёныя запальным пафасам творы пра беларускі народ: «Нізіны» (1884), «Дзюрдзі» (1885), Хам (1888), які ў сваёй арыгінальнай вэрсіі быў азагалоўлены «Рыбак наднёманскі», «Рэха», «Тадэвуш», «У зімні вечар», «На сьледзтве» (...) і знакаміты раман «Над Нёмнам» (1887). Дзе чэрпала сюжэты аб звычаях, радасьцях і пакутах, адкуль такія поўныя карціны жыцьця беларускай вёскі?

## Сярод вясковага люду

З 1870 г. Эліза Ажэшка штогод праводзіць летні адпачынак у вёсках Сьвіслач, Панямоньне, Мінявічы, Луна. Але наўрад можна назваць гэта адпачынкам. Зьбірала матэрыял для сваіх твораў як сапраўдны рэпарцёр. Каб выехаць да Луна Эліза Ажэшка, знаходзячыся пад наглядам жандараў у блакітных мундзірах, змушана старацца аб дазволе ад губэрнатара. На выезд да Варшавы патрэбна згода міністра. У пісьмах зьяўляюцца далікатныя намёкі аб «грубых прыкрасьцях, чынімых мне людзьмі ў нябескім убраньні». Вырываецца з-пад іх нагляду на Нёман. «Вясковы кут, хоць наняты, мілейшы для мяне ёсьць таму ад гэтага горада, у якім асадзілі мяне лёсы (...) брак разумовага і артыстычнага пачуцьця тут узнагароджваецца цішынёй, спакоем, а над усім прыродай прыгожай, бо без патрэбы нават высоўвацца праз акно з глыбіні пакоіка майго бачу Нёман і за Нёмнам бор сасновы».

Гэта былі вакацыі ў Мінявічах. Лета і восень 1881 г. Эліза Ажэшка мае 40 гадоў. Непрыгожая, малая, з кароткай шыяй, цяжкія рысы, пухлыя губы, узграмаджаная карона пасыпаных срэбрам валасоў і вельмі прыгожыя вялікія чорныя вочы. Мае за сабою раньняе сіроцтва, няўдалае і распаўшаеся замужжа, страту радзіннага маёнтка, сьмерць маці, якая ніколі яе не разумела і не любіла, расстаньне з каханым, якому адмовіла ўстрою сумеснага жыцьця ў Расеі...

«23.08.1882 г. Мінявічы.

(...) Жыву ў Мінявічах, якія з погляду здароўя служаць мне дасканала. Даўно ўжо не адчувала сябе такой здаровай як гэтым летам. Уплывае на гэта пэўна праўдзівы паўднёвы клімат, які ў гэтым годзе ў нас запанаваў. Аж да сёньняшняга дня дні былі ўпальныя, а вечары цёмныя, ціхія, зорныя, цудоўныя».



Эліза Ажэшка. Партрэт Эдварда Ромэра

Мінявічскі дворык, нібы падвешаны над берагам Нёмна, тут жа абак шляхецкага засьценка Багатырэвічы, вельмі скромны, шэры і малы. Папярэдні спалены агнём 1863 г. Гаспадароў не стала. Ян Каменьскі, уладальнік Мінявіч і начальнік цывільны Луненскай акругі ў Паўстаньні Студзеньскім,

першаўзор Андрэя Карчынскага з рамана «Над Нёмнам» прапаў дзесь у Сыбіры.

Да нанятага флігеля, які ацалеў з пажару, ад 1881 да 1889 года, кожнае лета, часам ужо ад траўня да кастрычніка пачала прыяжджаць Эліза Ажэшка.



Так выглядаў «Мінявічскі дворык, нібы падвешаны над берагам Нёмна...», дзе працавала пісьменьніца над раманам «Над Нёмнам».

«3 верасьня 1883, Мінявічы.

(...) Прыглядзелася таксама пільна шляхце дробнай. Адтуль некаторыя знаёмства і нават сяброўства з тымі сымпатычнымі людзьмі. Калісьці напішу пра іх пару навэлаў».

Выканала сваё абяцаньне, ды яшчэ як: « (...) і паэма «Пан Тадэвуш», і раман «Над Нёмнам», і паэма «Новая зямля» — гэта небывала шырокія панарамныя малюнкі жыцьця, па сутнасьці, на адной і той жа самай наднёманскай зямлі», — піша Уладзімір Казьбярук у прамове да беларускага перакладу «Над Нёмнам» у сэрыі «Скарбы сусьветнай літаратуры». Францішак Багушэвіч, паўстанец 1863 г., аўтар неўміручых слоў: «Не пакідайце роднай мовы, каб не памерлі», сябра Эліза Ажэшка першым з беларускіх пісьменьнікаў належным чынам ацаніў значэньне яе творчасьці, назваўшы «Каралевай польскай прозы і пакутлівай праўды» і прысьвяціў ёй верш «Яснавяльможнай пані Арэшчыне»:

Шмат ксёнжак пісалі
Не аб нашым браце:
Лепш чужых пазналі,
Як у сваёй хаце.
А нас, подлых кмеці,
Міналі здалёка
І хавалі дзеці

Ад нашага вока.
А ты, пані, сьмела
Заглянула ў хату,
Усё зразумела
І нашаму брату
Працягнула руку
І сэрцам балела,
Глядзеўшы на муку,
І пяром умела
Валіць смутак гэты, —
Што аж душа рвецца...

«Вывучэньне якіх-небудзь бакоў жыцьця народа я параўнала б з выбіраньнем жмені канапляных зярнят з бочкі маку. Апынуўшыся ў ролі вучня, я бачыла няёмкасьць, нават баязьлівасьць сваіх настаўнікаў — простых сялян, у якіх я распытвала пра што-небудзь» — піша ў нарысе «Людзі і кветкі над Нёмнам».

Яна магла дайсьці да сэрца, таямніц, драмаў жыцьця, здабыць давер. «Люд у гэтых аколіцах (не гаворачы аб шляхце засьцянковай, якая з сяброўскага пункту гледжаньня, ёсьць вельмі азвычаяна) валодае абыходам лагодным і добрым, незнаёмых нават вітае па-старасьвецку словамі «Няхай будзе пахвалёны!» і гасьцінна іх, калі ў гэтым выпадзе патрэба, у хатах сваіх прымае» — такую ацэнку дасьць у Віленскай «Вісьле». Нязвыклае «знаўства краіны расьлін» уражвала Элізу Ажэшка пасярод наднёманскага люду: « (...) сьмела сьцьвярджаць можна, што ад найвышэйшага дзерава да найменшай травінкі, з гэтай самай, што ён, зямлі вырасшай, няма расьліны, якая б у яго мове не мела б назвы».

27/11 1887 года з вёскі Мінявічы Эліза Ажэшка пісала да Блюмберг: «У апошні час з прыемнасьцю займаюся і з вялікай карысьцю народнай батанікай. Люд наш тутэйшы, польскі і русінскі (г. зн., беларускі, Л.К.), добра знаёмы з расьліннасьцю і мае багатую, вельмі трапную, амаль маляўнічую тэрміналёгію. Я вучуся гэтаму ў вясковых жанчын і вязу з сабой пару гербарыяў з некалькімі сотнямі прадстаўнікоў мясцовай фауны і, што больш важна, з запісамі аб спосабах іх ужываньня тутэйшым людам. І гэта таксама нейкая шчыліна, праз якую можна заглянуць у глыбокую, сумную і вельмі малавядомую душу нашага народа». Пісьмо гэтае сьведчыць, што пісьменьніца нават у вывучэньні расьліннасьці Беларусі знаходзіла матэрыял для больш глыбокага азнаямленьня з душою народа.

З дапамогай Глядавіцкай лекаркі Люці апісала 228 беларускіх назваў расьлін — лекавых і прысушлівых, вядомых і маларaспаўсюджаных. « (...) Усеагульнай павагай і зычлівасьцю ў радыюсе некалькіх міль карыстаецца лекарка Люця з наднёманскай вёскі Глядавічы“, — напіша і дае магчымасьць і нам пазнаёміцца з гэтай незвычайнай жанчынай: „Гэта пяцідзесяцігадовая кабета, невысокага росту, хударлявая, з круглым румяным і ўжо паморшчаным тварам, на якім блішчаць малыя чорныя і вясёлыя

вочы. Выраз яе твару лагодны, пачцівы і прыемны. Адзеньне носіць чыстае і акуратнае.

Яна гаспадыня люднай хаты: мае мужа, жанатага сына, дарослых дачок, некалькі малых унукаў, расказвае пра сваю сям'ю весела і ахвотна». І далей: «Гэтая Люця (а падобных да яе лекарак мае кожная ваколіца) — цудоўная крыніца, з якой можна чэрпаць веды пра веру і звычаі народа».



Лекарка Люця з Глядавіч. Тэкст на паштоўцы написаны Элізай Ажэшка

Абок «купаньня кветкавага і «батанізаваньня» (з якіх нараджаліся не толькі старонкі «Над Нёмнам», але таксама мастацкія гербарыі Э. Ажэшка, якія да сёньня захаваліся ў музэях Варшавы і Гародні) было яшчэ захапленьне прыгажосьцю звычаяў і іх, часам упаэтызаваны, але заўсёды

дасканалы запіс. Вось прыгатаваньне да жніва ў Багатырэвічах: «Дзяўчаты ўбіраюцца ў новыя кофты і ў кветкі, моладзь мужчынкая прыбіраецца ў сьнежнай белізны кашулі і цёмныя штаны і старанна вычышчаны абутак». Гэты кароткі запіс у «Людзях і кветках» знаходзіць мастацкае развіцьцё ў рамане. Знакамітае, поўнае размаху і колеру апісаньне лову аўсяніка ці «яціцы» у «Людзях і кветках» займае ў «Над Нёмнам» ледзьве старонку, але многія ўражаньні з гэтых вечароў рассыпае аўтарка па цэлай эпапэі.

Яціца — такая дзіўная і рамантычная істота, ні то дзіця страказы ні то камар, з мноствам назваў: аднадзёнка, мятліца, аўсянік, падзёнка, ручайнік... Да гэтай пары надзвычай папулярнымі ў рыбакоў зьяўляюцца лічынкі яціцы для нажыўкі. Хоць падобная да камара, баяцца яе ня трэба, бо не ўкусіць, не мае роту. Два гады жыве ў вадзе ў форме лічынак і кукалак. А выходзіць з вады ўжо крылатым матыльком толькі на адзін дзень. Выходзіць у такой колькасьці, што ўлетку можна назіраць мяцеліцу з гэтых матылькоў. Толькі на дзень, дзеля каханьня, працягу роду. Таму ня маюць роту, ня маюць патрэбы ў харчаваньні. Жывуць адзін дзень, кахаюцца, паміраюць. Таму і завуцца аднадзёнкамі.



Яціца

Кожнае лета на пераломе ліпеня і жніўня Эліза Ажэшка была сьведкаю лоўнай містэрыі.

«Усіх лодак было каля дваццаці. Быццам чароўныя прывіды, яны паволі сьлізгалі па нерухомай рацэ глыбока ўнізе; і таксама паволі калыхаліся іх адлюстраваньні ў цёмнай бездані, а твары і фігуры людзей, азораныя чырванаватым сьвятлом, са скульптурнай выразнасьцю вылучаліся на цёмным фоне неба і вады.

Але яшчэ больш дзіўнай, амаль што фантастычнай зьяўай здавалася густая імгла, якая ахутала лодкі з людзьмі мірыядамі дробных, як сьняжынкі, камячкамі і засьцілала белай дымкай яркія кастры. Ні ў паветры, ні ў прамежках паміж лодкамі камячкоў гэтых не было, і нельга было зразумець, адкуль яны. Неўзабаве, аднак, усе ўбачылі, што гэта малюсенькія матылькі, якія выляталі з вады, трапечучы беласьнежнымі крыльцамі. Іх было незьлічонае мноства, як пясчынак на дне Нёмна, у глыбінях якога яны нараджаліся. Пакінуўшы родную стыхію, яны ў няспынным парыве ляцелі да асьляпляльных агнёў. Каварныя рыбакі, спрытна ўзмахваючы рукамі, зграбалі ў мяхі гэтую крылатую завіруху, якая заносіла беласьнежнымі камякамі іх саміх і іх лодкі.

Каб не ўспудзіць баязьлівае вадзяное стварэньне нават самым ціхім шоргатам, рыбацкія лодкі сьлізгалі паволі і бясшумна, нават не ўсплёскваючы вёсламі. Уздоўж усёй ракі, наколькі бачыла вока, мільгалі ў цемры чырвоныя агеньчыкі, а каля іх чырванаватыя сылуэты сядзячых людзей.

Ціха было ўсюды — і ў небе і ў паветры, на зямлі і ў вадзе; толькі дзесьці ўверсе над дрэвамі гудзелі, кружачыся ў вышыні, раі нёманскіх матылькоў. Здавалася, што гэта аднастайнае мэталічнае гудзеньне выпускала дрыгатлівая струна, нацягнутая паміж цёмнай стужкай ракі, якую ўсеялі вогненныя кропкі, і небам, дзе віселі воблакі, падобныя на лёгкі дым або на шматкі разарванага крэпу». Эліза Ажэшка. Над Нёмнам.



Ад Мінявіч выплываюць лодкі з полымямі паходняў. Насустрач ім сунуцца чаўны з Багатырэвіч

Ад Мінявіч выплываюць лодкі з полымямі паходняў. Насустрач ім сунуцца чаўны з Багатырэвіч. Над бляскам агнёў віруе і ападае белае воблака надводных матылькоў. Пануе цішыня. Раптам перарывае яе малады сьмех і мэлодыя песьні: «Выйшла дзяўчына, выйшла адзіна, як ружы кветка». «За Нёман, гэн прэч», — гучыць ужо цэлы хор, далёка ўжо па рэчцы несучы-

ся. З далечыні адгукваецца яму ўжо другі — «непадобны, сумны». Гэта вёска сялянская засьпявала... Паветра над Нёмнам дрыжыць ад тонаў. Хлопцы ўдараюць вяслом па вадзе, удар гучыць як стрэл! На шляхецкіх лодках разьлягаюцца ўвесь час усё новы польскія песьні, здалёк ім неперастанна адпавядае песьня беларуская, цёмная лодачка іграе ўвесь час на гармоніку. З верхняга берагу адзываецца скрыпка, з поля — песьня паўстанцаў... І рэха, рэха, рэха. Бор паўтарае яго тройчы. Вяртаюцца стрэлы. Вяртаецца памяць у «Над Нёмнам» легендай аб Яне і Цэцыліі, магілай сарака паўстанцам пасярод бору. Свае праўдзівыя карціны жыцьця Эліза Ажэшка брала з самой рэчаіснасьці. Да Людвіка Еніке (рэдактара «Штотыднёвіка ілюстраванага»): Ажэшка піша «О, якой бы я была шчасьлівай, калі б магла тут у сябе паказаць Вам маіх Багатырэвічаў, Стралкоўскіх, Занеўскіх, магільны помнік Яна і Цэцыліі, цудоўны наднёманскі яр і... Андрэя Карчынскага, які ў мінулым годзе вярнуўся ў родныя Мінявічы. Бенядыктаў таксама па-суседзтву ёсьць многа; толькі Вітольда і Юстыны не пакажу, бо іх выдумала».

«29 верасьня 1883

З вялікім задавальненьнем прабыла б тут яшчэ з месяц (...). У цёмныя восеньскія ночы праплываючы амаль пад вокнамі Нёман пражынае цемру серабрыстай стужкай, і на ім рыбакі распальваюць у лодках вялікія вогнішчы (...). У дне занеманскі лес ціха стаіць спавіты ў дажджлівай імгле, плыты павольна сьлізгаюць па заімглёнаму люстэрка ракі (...), на шырокіх аголеных палях граюць працяглыя сурмы пастухоў».

# Эліза Ажэшка ў Луне

Эліза Ажэшка была ў Луне ў час канікул з 2 ліпеня па 24 жніўня 1902 года. Пісала адгэтуль у паштоўцы Тадэвушу Грабоўскаму: "4.VII.1902 г. З-над Нёмна блакітнага, з ціхага двара, з ценю белых акацый, якія сьнегам цьвітуць, віншаваньне і падзяка за картку пасылаю. Вясьцей новых і рукапісаў чакаю. Аб добразычлівым захоўваньні памяці прашу».. (E. Orzeszkowawa. Listy zebrane. Tom 3, s.188)

«13 VIII 1902, Луна (Гродна)

Сьпяшаюся перасламць словы найвышэйшага спачуваньня дзеля цяжкага засмучэньня Пана. Абы што найхутчэй зьмянілася ў радасьць выздараўленьня ганаровай хворай! Маё здароўе не ёсьць дрэннае, за два тыдня вёску пакідаю. Няхай мне Пан адправіць слоўка аб вяртаньні рэчы так нязьмерна Пану, а мне сардэчна цікавай; вельмі прашу аб гэтым. У якім пісьме знайшоў Пан згадваньне пра нас?

шчыра кажучы дружалюбна

Эл. Аж.».

Вось таямніца да разгадваньня: у якім доме жыла Пані Эліза падчас свайго знаходжаньня ў Луне? Можа ён усё яшчэ жывы?

«Ёсьць блізка касьцёлік невялікі, прыгожа пабудаваны і з густам абстаўлены, каторы кожную раніцу, апоўдні і вечар найпрыгажэй звоніць на Анёл Панскі. Я не магу пераказаць, якое дзіўнае ўражаньне аказвае на мяне адгалос гэтага звону. Нешта накшталт пакліканьня ўгару, як бы рассыпаючыеся ў паветры тоны музычныя. Першы раз прыйшло мне таксама да думкі, якім прыгожым і глыбокім ёсьць звычай касьцельны».



«...касьцёлік вясковы, прыгожы, як цацка з эпохі Рэнэсансу...»

Невядома ці тыя самыя званы граюць для вяскоўцаў сёньня, бо ў 1935 годзе, калі ксяндзом стаў Мечыслаў Радзішэўскі, на званіцы ні то зьмянілі, ні то адрамантавалі тры званы. Кожны з іх мае сваё найменьне: «Мацей» — размешчаны з боку былога рынку, «Ганна» і «Марыя» — з боку вуліцы Ваўпянскай (кірунак да Залескаў).

«Дарагі Пане

Вялікі дзякуй за памяць. Ёсьць мне на вёсцы цудоўна, нягледзячы на пануючую тут непагоду. Маю тут мноства пышных дрэў, незьлічоныя птушыныя хоры і касьцёлік вясковы, прыгожы, як цацка з эпохі Рэнэсансу, і што вечар прыгожа граючы на Анёл Панскі. Няхай мне Пан напіша, калі хоць прыблізна атрымаю апошнія разьдз [елы] Astr? Мушу паразумецца аб гэтым з рэдакцы [яй] Бібл [іятэкі] Варш [аўскай]

Найдабразычлівейшы паклон пасылаю.

Эл. Аж».

У тым касьцёліку, які ёсьць «прыгожы як цацка з эпохі Рэнэсансу», аглядаем у бочнай наве прыгожы, багата аздоблены абраз Маці Божай з Дзіцяткам у срэбнай сукенцы.

Людзкая памяць пераказвае легенду, як бы перад гэтым абразам бралі шлюб Ян і Цэцылія — першыя з Багатырэвічаў...

Згадкі пра яго ёсьць і ў «Над Нёмнам», калі жанчыны высьмейвалі занадта багаты строй сукенкі Ядвіські Дамунтаўны: «Езус! Ну і прыгожыя ружы на гэтым веёры! І гэтыя залатыя лісьці дакладна такія, як у Луне у Маці Божай на алтары...»

Абраз гэты праўдападобна ёсьць старэйшы за касьцёл, фундаваны каралевай Бонай, і паходзіць з ранейшага касьцёла, аб якім нічога невядома. А на алтар з гэтым абразам фундавала сродкі Эліза Ажэшка.



Абраз Маці Божай з Дзіцяткам у срэбнай сукенцы

У гэтым «касьцёліку» у 1838—1841 гадах працаваў Павал Хрынашкевіч (ці Грамашкевіч), гэта сьвятар Адама Міцкевіча. Гутаркі з ксяндзом Хрынашкевічам знайшлі сваё адлюстраваньне ў дыялёгах Пустэльніка са ксяндзом у IV частцы «Дзядоў». Памёр Павал Хрынашкевіч 22 сьнежня 1841 года. А ў ліпеню 1926 года ў гэтым касьцёле працаваў арганістам Францыск Кольбэ брат Максіміліяна Кольбэ.

Ёсьць тут па левай старане і лёжа Пані Ажэшкі, так названая таму, што там займала яна месца падчас касьцельнай службы.



Лёжа Элізы Ажэшка

Зімой 1906 г. пачала пісаць цыкл паўстанчых уражаньняў «Gloria victis» («Слава пераможаным»). Нязвыклы Post scriptum да «Над Нёмнам». Эпітафія для «месцаў, людзей, іх слоў і дзеяў года 1863... Пісала адным дыхам, аб тым, каго цаніла найбольш. Пісала так, што аж каштаны вакол доміка расьцьвілі і кожная кветка прамянела ў сонцы, як ружовая паходня».

«Так ідзе маё жыцьцё. Толькі там, за горадам, над узгоркам наднёманскім паміж крыжамі і бярозамі ціша і сон... з якога ніхто не ўстане. Там, тыя, якім ужо нічога не трэба, якія пераплылі, зьніклі», — пісала. Там яе магіла.

Рускаму царызму было мала тых зьдзекаў, што рабіліся Элізе Ажэшка пры жыцьці. Помсьцілі пасьля сьмерці.

У сьнежні 1911 года ў Віленскай судовай палаце пачаўся суд над яе кнігай. Прысуд быў сьмяротны. Але 20 кніг «Gloria victis», што засталіся ў кнігарні былі імгненна раскуплены.

Няма ўжо фальварку ў Багатырэвічах — той, да якога прыяжджала Эліза Ажэшка, згарэў падчас першай Сусьветнай вайны. Засталіся фундамэнт і лавачка паміж двума клёнамі, дзе пісьменьніца любіла пасядзець, прыглядаючыся з стромага берагу плыні Нёмна і рыбакам на выдзеўбаных чаўнах. Няма тут ужо ні Стралкоўскіх, ні Каменьскіх...

Пад канец 2005 г. у Багатырэвічах жыло толькі 5 чалавек — старых і пакінутых. Самі выбралі такі лёс, бо што яны могуць зрабіць здаля ад сва-

ёй зямлі. Аўтобус і аўталаўка (крама ў грузавіку) прыяжджаюць сюды раз на тыдзень. Па Стралкоўскім застаўся невялікі мураваны дом з трэшчынамі праз усю сьцяну. Вецер гуляе у пустых, зьнішчаных пакоях. Былы двор Каменьскіх-Карчынскіх — гэта толькі фундамэнты і мураваная афіцына з прыгожымі скляпеньнямі, загаспадараваная летам экскурсійным. Сьцены яшчэ стаяць і маюць добры дах. Драўняны дом западае ў руіны. Хто ацаліць гэтыя мясьціны? Хто надасьць ім жыцьцё?




Франтон дому Каменьскіх. 2000 г.

Ужо няма ў Луне ні палаца Ромэраў, ні цудоўных акацый, ні векавых ліпаў, пра якія пісала Эліза. Чарговае зьнішчэньн адбылося ў 2009 годзе.

Але застаўся «касьцёлік невялікі, ладна збудаваны і густоўна ўбраны», адноўлены «звычай касьцельны» рассыпаць «у паветры тоны музычныя», «найцудоўней званіць на Анёла Панскага»...

Засталася памяць аб адважнай паўстанцы і вялікай пісьменьніцы, зачараванай краявідамі нашай краіны і ракою людзкога жыцьця ў Мінявічах, Багатырэвічах, Луне...

# Русыфікацыя. Гаспадарчае жыцьцё

## Зьнішчэньне мястэчка

Надалей усе намаганьні Расейскай імпэрыі былі накіраваны на тое, каб навек замацавацца на гэтай зямлі. Але жыхары мястэчак добра ведалі сваю гісторыю (тую яе частку, якая датычыла іх правоў), старанна захоўвалі прывілеі, выдадзеныя іх продкам Вялікімі князямі Літоўскімі і Каралямі Польскімі, і выкарыстоўвалі іх у барацьбе за асабістую свабоду і зямлю. Аднак расейскія ўлады, як правіла, адмаўлялі местачкоўцам у пацьвярджэньні іх ранейшых правоў. Паказальным у гэтых адносінах зьяўляецца рашэньне Сэнату ад 28 сакавіка 1824 г., што датычыла м. Масты, але мела і агульнае значэньне. У гэтым рашэньні гаварылася: «Не предстоит никакого сомнения, что обыватели тех местечек должны производить все господские работы и всякие исправлять повинности наравне с крепостными (выдзелена мной) крестьянами, ибо всемилостивейшее пожалование представляет всякому лицу над теми крестьянами право вотчинничества и вместе с тем владение и распоряжение по силе дворянской грамоты. А за сим, если которые жители городов и местечек имеют право отыскивать свободу или привилегии, то могут производить дело об оных установленным порядком, пребывая, однако, до разрешения о них дел в полном повиновении своих владельцев» (Улащик Н., С. 435.). Сенат спаслаўся тут на Даравальную грамату дваранству 1785 г. Такім чынам, менавіта гэты заканадаўчы дакумэнт, а не прывілеі манархаў Рэчы Паспалітай, выступіў для расійскіх уладаў у ролі крыніцы права ў дадзенай сытуацыі. Гэты ўказ Сэнату, нягледзячы на некаторыя агаворкі (права адшукваць свабоду), фактычна скасоўваў усе ранейшыя прывілеі мяшчанаў, ператвараў іх у прыгонных і пазбаўляў права іску, бо больш яскравых доказаў правоў на мяшчанскі статус, чым мелі жыхары мястэчак Гродзеншчыны, наўрад ці можна было знайсьці.

Вельмі распаўсюджанымі заняткамі местачкоўцаў, асабліва габрэяў, былі вытворчасьць і продаж алькагольных напояў. У 1829 г., напрыклад, у мястэчках Гродзенскага ўезда налічвалася 42 вінакурні: у Скідалі — 10, Азёрах — 9, Луна — 6, Індуры — 5, В. Бераставіцы і Каменцы — па 4, Крынках — 3, Волі — 1. Воўпа на той час была ў складзе Ваўкавыскага ўезда, там існавалі 3 вінакурні. У дадзеным архіўным дакумэнце зьмешчана скарга-прашэньне, якую падавалі гродзенскаму губэрнатару габрэі мястэ-

чак Луна, Крынак, Індуры, Вялікай Бераставіцы і Азёр, дзе прасілі не забараняць ім займацца «піцейным промыслам».

Прывядзём выказваньне пра мястэчка польскага дасьледчыка Пятра Эберхардта, які пісаў: «Перапляценьне трох культур і трох рэлігіяў — артадаксальнай габрэйскай, шляхецкай польскай і сялянскай беларускай — стваралі разам непаўторную атмасфэру і фальклёр. Гэтыя тры разнастайныя культуры жылі ва ўзаемным сымбіёзе. Пазьнейшыя гістарычныя падзеі зьнішчылі гэтую ўнікальную полікультурнасьць. Вынішчэньне габрэйскага насельніцтва, а потым таксама ў вялікай ступені тое самае ў адносінах да польскай супольнасьці прывяло да заняпаду шматкультурнасьці. Пазьнейшая саветызацыя і русыфікацыя таксама прынесьлі ў поўнай меры зьнішчэньне культурных асаблівасьцяў беларусаў. Беларускія мястэчкі, якія прадстаўлялі незвычайную зьяўу ў гісторыі культуры, загінулі. У якасьці сьлядоў тых далёкіх часоў засталіся толькі зьнішчаныя касьцёлы, сынагогі і цэрквы, а таксама пакінутыя і спустошаныя рэшткі старых габрэйскіх і каталіцкіх могілак». (Эберхардт П., С.97.)

У Луна было ўтворана габрэйскае мяшчанскае таварыства, сябры якога вылучалі дэпутатаў у праўленьне местачковага старасты, якія абавязкова павінны былі валодаць расейскай мовай, мець добрыя паводзіны і быць палітычна надзейнымі. Русыфікацыя ішла па ўсіх накірунках. На нашых землях запанавала праваслаўная рэлігія. Масава будаваліся цэрквы, якія ў народзе атрымалі назву па прозьвішчу іх фундатара Віленскага губэрнатара М. Мураўёва–мураўёўкамі.



Царква Сьвята-Яна-Прадцечанская 1889 г. па праекту Трубнікава

У 1876 г. архітэктарам Трубнікавым быў распрацаваны праект храма для в. Індура, які з-за падаражаньня будаўнічых матэрыялаў не быў прыняты і прапанаваны для Луна. Свята-Яна-Прадцечанская царква была пабудавана ў 1889 г. з цэглы ў стылі тыповым для таго пэрыяду. Стыль атрымаў назву «псэўдарускі», а цэрквы ў народзе называюць «мураўёўкамі» у гонар іх фундатара — пасьля падаўленьня Паўстаньня 1863 г. губэрнатара гэтага краю Мураўёва-вешальніка. Характэрнай рысай такіх храмаў зьяўляюцца цыбулепадобныя купалы. Але Луненская царква выключэньне — без цыбулін. Яе настаяцель Іван Халічэўскі за посьпехі ў русыфікацыі насельніцтва атрымаў ад Аляксандра III мэдаль. У царкве ёсьць каштоўныя іконы, сабраныя з іншых цэркваў і вялікі абраз Хрыста ўкрыжаванага з XVI ст., які па ўспамінах вернікаў быў забраны з уніяцкай царквы, што стаяла на могілках ля вёскі Навасёлкі.

У І864 г. пачынае працаваць «Начальное училище Министерства народного просьвещения», дзе дзеці простых людзей навучаліся па-расейску.

У польскім «Геаграфічным слоўніку» ад І884 г. запісана, што ў мястэчку Луна 1211 жыхароў, у тым ліку 465 габрэяў і што ў І879 г. палова Луна згарэла. Парафія Гродзенскага каталіцкага дэканату І679 душ. Капліцы ў Ябланаве і Чарлёне. А таксама, што ў Луна ёсьць абсэрвацыйная станцыя на Нёмне. А Луненская зямля належала калісьці панам Валіцкім, потым Чахоўскім. Энцыклапэдыя па гісторыі Беларусі даводзіць, што ў І886 г. мястэчка Луна цэнтар Луненскай воласьці, І392 жыхары, касьцёл, сынагога, 3 габрэйскія малітоўныя дамы, 40 крам, 3 шынкі, 2 харчэўні. Гаспадарчая сфэра — гандаль, рачны транспарт, рамесьніцтва, сельская гаспадарка. Уверх па цячэньні баржы цягалі нёманскія бурлакі. З часоў Вялікага Князя Літоўскага Яна III Сабецкага (І676-І696) нашы продкі вырошчвалі бульбу. У 1882 годзе ў маёнтку Луна быў вінакурны і цагельны заводы, якія арандаваў Ізраіль Раймес. У год на вінакурным заводзе было выпушчана 5000 вёдраў сьпірту на суму 3000 руб., працавала 5 рабочых і 1 майстар. На цагельным заводзе працавалі — 1 пячнік, 2 рабочых, 1 майстар, за год было выпушчана 100 000 цэглы на суму 1000 руб. У І883 г. адчыняецца тэлеграфная станцыя ў доме Сары Райнес, з якой прыстаў 3 стану Шышкевіч падпісаў кантракт па найму. У мястэчку адчыняецца аптэка правізара Курачыцкага, працуе вольнапрактыкуючы ўрач І. Л. Казакевіч. З 80-х гадоў XIX в. ходзіць пасажырскі параход Гродна-Масты (параход кампаніі О’Брыен дэ Ласьсі). У 1901 г. мешчанін Іосель Рубіновіч зьвярнуўся за дазволам на адкрыцьцё фатаграфічнага салона, на што атрымаў згоду.

Пры непасрэдным удзеле каталіцкага духавенства ствараліся польскія школы. Асабліва актыўна дзейнічала духавенства на Гродзеншчыне. Сярод іншых ксёндз Міхневіч стварыў тайныя школы ў мястэчку Луна, у вёсках Астравы і Кулікі. У Гродзенскай губэрні дзейнічала Польская сацыялістычная партыя (ППС). Пэпээсаўцы ўжо летам 1904 г. заклалі ў Горадні тайную друкарню: «Друкарню заснавалі ў кватэры Яніны Міхноўскай (псэўданім «Пані»), уладальніцы маёнтка Мінявічы ў Гарадзенскім павеце, якая была

актыўнай дзяячкай і сябрам гарадзенскага камітэта ППС. Чатырохпакаёвая кватэра Міхніцкай на вуліцы Пясковай, якая адначасова з’яўлялася пунктам сустрэч і кантактаў. Бывала тут шмат людзей, а часам трэба было каму-небудзь і заначаваць. Гэта прыцягнула ўвагу паліцыі, адбыўся вобыск і на пачатку 1905 г. абедзьве гаспадыні былі арыштаваныя... Міхноўскую праз пару месяцаў выпусьцілі. Яна памерла ў ліпеню 1906 г. і была пахаваная ў Луне.

Па дадзеных на 1897 г. плошча Гродзенскага ўезда складала 3770 кв. вёрст, колькасьць жыхароў — 206770 чал. (беларусы, палякі, габрэі, літоўцы, немцы, татары, рускія). На тэрыторыі Гродзенскага ўезда знаходзіліся 1 горад (Гродна), 11 мястэчак (Азёры, Воля, Воўпа, Вялікая Бераставіца, Друскенікі, Індура, Каменка, Крынкі, Луна, Масты, Скідаль), 955 вёсак, фальваркаў і іншых сельскіх паселішчаў.

З паведамленьня з Луна: «У мястэчку ёсьць двукласнае вучылішча; цяпер жыды складаюць грошы, каб адкрыць гарадзкое 4-класнае вучылішча; нашыя-ж сяляне пакуль-што ня вельмі рупяцца а прасьвеце». (Наша ніва.1910. №15.).

## «Славутыя кірмашы ў мястэчку Луна»

Дзякуючы Апанасу Цыхуну можам зрабіць з вамі падарожжа ў часе і завітаць на кірмаш у Луне, які з вялікай дакладнасьцю ён апісаў у сваім творы «Пройдзеныя шляхі-пуцявіны»:

«Два разы на месяц адбываліся славутыя кірмашы ў мястэчку Лунна. Мястэчка сяляне называлі па-рознаму, адны Луна, другія казалі: «паедзямо да Лунай». Правільна трэба называць — Лунна.

Дакумэнты яго называюць у 1668 годзе. Гэта мястэчка нагадвае нам былых яцьвягаў, жыхароў былой Чорнай Русі, як і населеныя пункты Котра, Волпа, Бершты, Яцьвезь, а таксама — Кандакі, Мадэйкі, Дзергеле (у ваколіцах Зэльвы). Што абазначаюць іх назвы, цяжка ўстанавіць, бо ня ведаем яцьвяскай мовы. Яцьвягі згубілі сваю незалежнасьць. На іхных землях пасяліліся іншыя народы, а памяць аб іх захавалася толькі ў назвах населеных пунктаў. (З гэтымі выказваньнямі спадара Цыхуна я не пагаджаюся, ды ён іх і нічым не аргумэнтуе. Што датычыць даты — 1668 г., то гэта сьведчыць толькі аб тым, што дакумэнты з ранейшымі датамі Апанасу Цыхуну былі незнаёмыя).

Кірмашы ў Луне адбываліся на плошчы каля былой уніяцкай царквы. Праходзілі вельмі бурна, своеасабліва. Мястэчка ажывала, зьвінела ад стуку аб брук колаў сялянскіх вазоў, рыку кароў, піску сьвіньняў, людзкой гамонкі, музыкі. Асабліва славіліся бандарныя вырабы зь вёскі Бандары. Бан-

дары на кірмашы прывозілі прадаваць балеі, цабэркі, ушаты, дзежкі, бойкі, кваскі, бочкі двухдонныя на сіроп, бочкі на капусту, гэтак званыя кадкі, дойніцы, даёнкі, конаўкі для піцьця вады, стаўніцы для захоўваньня збожжа, кублы для адзежы. Бандарам не саступалі сваімі вырабамі і ганчары. Жыхары вёскі Гліняны, што на Скідальшчыне славіліся сваімі ганчарнымі вырабамі з чорнай гліны. Славіліся сваімі вырабамі з чорнай гліны і ганчары зь вёскі Тарасюкі. Іх вырабы знаныя былі на ўсю акругу. Вядомыя ганчарныя вырабы: гаршкі, збонкі, ладышкі, верцяхі, глякі былі на кірмашах і ў ганчароў з-пад Горадні, зь вёсак Гібулічы, Малахавічы, Альшаніцы й Цьвіклічы. На Луненскіх кірмашах вялікі попыт быў на вырабы з лазы й усялякай драніны. Гэтымі вырабамі славіліся жыхары вёскі Канюхі, што ў Азёрскім сельсавеце. Яны прадавалі: калупашкі, кошыкі, бучы для рыбы. Вялікі попыт быў на вырабы як з лазы так і з саломы: севанкі, сявенкі, гарцы, корабы для захоўваньня збожжа, асьвянцоўкі, розныя кошыкі. Вырабамі з саломы славіліся калісьці жыхары вёскі Саломенка, радзімы беларускага астранома й асьветніка Марціна Пачобута-Адляніцкага. Сяляне зь вёскі Стральцы, што на Скідальшчыне, прывозілі на кірмашы прадаваць свае вырабы з драўніны: церніцы, ламачкі, трапачкі, шчоткі для апрацоўкі лёну, сані, гнутыя дугі, разворкі да вазоў. Стальмахі зь вёскі Бубны прывозілі на кірмашы калёсы да вазоў, калёсы для драўляных плугоў, драўляныя плугі, драўляныя бароны й іншыя прылады.



Кірмаш у Луне. 1958 г. Сайт Рут

На Луненьскіх кірмашах прадавалі й куплялі апрача ўказаных вырабаў коні, каровы, сьвіньні, авечкі, гусі, куры. У час купліва й продажу дапама-

галі: фактары, васмахтары, махляры, перакупцы, асобы зь ліку габрэяў. Часта прыяжджалі цыганы. Яны ў асноўным гандлявалі коньмі. Каб лепей выглядаў конь ці кабыла, яны іх нейкім спосабам надзьмувалі. У выніку чаго коні выглядалі ўскормленымі, поўнымі, гладкімі. А каб бадзёрымі былі, цыганы паілі коней гарэлкай. Адным словам цыганы часта абдурвалі сялянаў.

Будучы гаспадаром і я часта наведваў Луненскія кірмашы. Недалёка Лунны, у вёсцы Радзівонавічы жыў мой швагер Віталь Буркас, прозьвішча якога таксама нагадвала мне яцьвягаў. Вось з жонкай разам да яго і заяжджалі ў госьці, наведвалі кірмашы. Швагер Віталь Буркас дапамагаў мне ў купліве, адзін раз дапамог купіць вельмі добрага каня. Звычайна пад канец кірмашу, прыходзілі музыкі: гарманіст, скрыпач, бубняр. Да глыбокай начы не сьціхала музыка, гуляньне. Моладзь толькі на сьвітаньні разыходзілася па хатах. Госьці, пахмяліўшыся, ехалі й ішлі да сваіх населеных пунктаў, вёсак, хутароў.

Луненскія кірмашы садзейнічалі збліжэньню людзей, моладзі, калектыўнаму адпачынку, збыту й куплі розных тавараў, жывёлы. Прыносілі сялянам вялікую карысьць. Аднак яны часта скончваліся трагічна. Паміж хлопцамі з розных вёсак узьнікалі бойкі. Асабліва агрэсіўнымі лічыліся кавалеры з-за Нёмана, іх называлі — Занямонцамі. У выніку боек не абходзілася, каб каго-небудзь з хлопцаў не пабілі, парэзалі або забілі.

Але неўзабаве пачалася вайна Расеі зь Нямеччынай. Майго бацьку забралі ў царскую армію».

## Бежанства

Пачынаецца першая сусьветная вайна. З 1914 года Луна ў каторы раз зноў у зоне актыўных ваенных дзеяньняў. На Беларусі разьмясьцілася 1,5 мільённая групоўка расейскай арміі.

Адступленьне расейскіх войскаў у 1915 г. суправаджалася масавым, часта прымусовым бежанствам соцень тысяч людзей, у большасьці старых, жанчын і дзяцей, на ўсход.

У бежанства пад час Першай сусьветнай падаліся беларусы толькі праваслаўнага веравызнаньня і толькі з заходніх абшараў нашага краю. Габрэі і каталікі ў бежанства не падаваліся. Таму паспрыяла праваслаўная царква. Як толькі распачаліся вайсковыя дзеяньні праваслаўныя сьвятары пад час службы цьвердзілі прыхаджанам, што «...немец будзе іх забіваць, гвалтаваць і г. д». Зьяжджалі вёскамі па меры прасоўваньня расейска-германскага фронту на ўсход, пачынаючы ад Беластоку.

Геаграфія пражываньня беларусаў-бежанцаў вельмі шырокая: Адэса, Харкаў, Саратаў і іх ваколіцы, Казахстан, Урал і іншыя мясьціны тагачаснай Расейскай імпэрыі.



Людзі з вёсак рушылі на ўсход...

Да пачатку 1916 года ў Менскай губэрні знаходзілася больш за 157 тыс. чалавек, у Віцебскай — 90 тыс. чалавек, а праз Магілёўскую губэрню прайшло каля 1 млн. бежанцаў. Царскія ўлады спрабавалі выкарыстоўваць бежанцаў у якасьці таннай рабочай сілы на пабудове дарог, мастоў, на работах па ўмацаваньню баявых пазыцый. Аднак разьлікі не апраўдаліся, бо на 80% бежанцы былі няздольныя да фізычнай працы.

Людзі памкнулі на ўсход, пакідаючы несабраны ўраджай. Афіцыйныя цыркуляры прадпісвалі забіраць у бежанцаў перад выездам усю хатнюю жывёлу, а пры пасадцы на чыгунку — і коней. Тым, хто заставаўся, належала пакідаць аднаго каня, адну карову, месячны запас мукі, зерня, фуражу.

Мне не ўдалося знайсьці ні сьведкаў аб бежанстве з Луна-Волі ні матэрыялаў. Але лёс бежанцаў з навакольных мясьцін быў такім жа.

Вось успаміны Апанаса Цыхуна: «Але неўзабаве пачалася вайна Расеі зь Нямеччыны. Майго бацьку забралі ў царскую армію. У хуткім часе наша вёска Кунцаўшчына апынулася пад пагрозай. Па загадзе царскіх уладаў усе жыхары павінны былі пакінуць сваю маёмасьць і на фурманках ехаць у Расею як бежанцы. Пакінулі сваю родную вёску і мы з маткай. Мне было тады пяць год, але я добра памятаю, як маці паказвала, як гарэла наша Кунцаўшчына. Як толькі жыхары выехалі, яе падпалілі казакі, відаць было на небе вялікае зарыва. Помню, як матка аглядалася едучы й плакала. Па-

мятаю, як ехалі на возе ў будзе, як цыганы. Як няўмела кіравала мышастай кабылкай маці, як насіла яна наш воз з будай са стромкіх узвышшаў, як мы з братам Іванам трымаліся адзін за аднаго й плакалі. На фурманках даехалі мы аж да мястэчка Шклова. Там усе сяляне, у тым ліку і мы з маткай, здалі коні й вазы дзяржаве, а самі цягнікам паехалі ў горад Шую, а затым пераехалі да дзядзькі Максіма ў Петраград».

Успамінае жыхар вёскі Падбараны, якую казакі спалілі таксама, Уладзімір Андрэевіч Дзяшук. Калі выехалі бацькі Дзешука, хлопцу ішоў 20-ты год.

«Да Смаленска ехалі фурманкамі. У горадзе здалі коней і фурманкі, пераселі на цягнік. Бежанцаў было шмат, таму маладзейшыя ехалі на даху вагонаў. Даехалі так да Ніжняга Ноўгарада».

Падчас бежанства многія жыхары Падбаранаў сталі салдатамі царскай арміі, а пасьля ўдзельнічалі ў грамадзянскай вайне. Такі лёс напаткаў і Дзешука. Але вось прыйшоў 1921-ы год. Становішча ў Паволжы ўскладнілася, там пачаўся голад, таму бежанцы сталі зьбірацца да ад'езду ў родныя мясьціны.

У гэты час тэрыторыя нашага краю ўваходзіла ў склад Польшчы. Падбаранамі валодаў новы пан — Мазалеўскі. Дзяшук успамінае:

«Пасьля вяртаньня нашы селішчы зарасьлі. Я не мог купіць зямлю, бо вярнуўся з Савецкай Расіі. Ледзь уладкаваўся на працу ў цагельні, што ў Суцьках. Пазьней набыў каня і ўзяў у арэнду кавалак панскай зямлі».

Ўспамінае другі жыхар Падбаран У. І. Рамашка:

«Пасьля вяртаньня бацька пабудаваў зямлянку. Нейкім чынам у нашу вёску трапіла сям'я эмігранткі з Расіі — Разнатоўскай. Яна гаварыла, што трэба вучыць дзяцей. Мой бацька чытаў газэту „Русское Слово", па ёй і вучыў чытаць мяне. Калі ў бацькі пыталіся, чаму не вучыць дзяцей па-польску, адказваў, што не ўмее сам чытаць на гэтай мове. Праўда, крыху давялося хадзіць у польскую школу, але падпольна хадзілі да эмігранткі і вучыліся па-руску».

Пра жыцьцё ў бежанстве ўспамінае Надзея Мікалаеўна Буйко з вёскі Занеманск былога Ваўкавыскага павету, зараз раён горада Масты. Яна ў бежанстве з сям'ёю была з 1915 года па 1922-гі ў адной са станіцаў Чалябінскай вобласьці.

«Пасьля таго, як муж гаспадыні пайшоў на вайну адбылася рэвалюцыя. Ён пісаў жонцы, што калі будуць ісьці бальшавікі, то высыпай ці закапвай зерне, бо яны адбіраюць усё да каліва. Так рабілі ўсе. Гаспадыня пакідала мяне з дзіцём, а сама ноччу насыпала ў воз збожжа, зьверху пакрывала пасьцілкаю, везла ў поле і высыпала. Вясною сям-там былі бачны кучы чорнага зерня.

Прыехаў атрад бальшавікоў. Маладыя хлопцы з Іванава, у скураных куртках. Напачатку маладзіца хавалася, бо муж пісаў, што яны будуць усіх гвалтаваць. У бежанцаў зерня не адбіралі, адбіралі ў казакоў. Прыйшла вясна, сабраліся сеяць. «Колькі на дзесяціну зерня ідзе?» «Дзесяць пудоў».

«Ат, хопіць і пяць». Засеялі. Каліва ад каліва на мэтар і пайшло зельле. Раней казакі выкошвалі асот, але зараз яго было столькі, што выкасіць стала немагчыма. На наступную вясну пачаўся голад.

Пачалі зьбірацца дамоў, бо далей тут жыць было немагчыма. Распрадалі ўсё, што нажылі. Здабылі 72 капейкі серабром і пяць рублёў золатам. Залатую манэтку бацька схаваў у абух сякеры, серабро ў дзежку з маслам. Паколькі састаў фармаваўся месяц, то тыя, хто напачатку заняў вагоны, вымушаны былі доўга чакаць Не было ніякай санітарыі. Людзі сталі хварэць. Па дарозе на тыф захварэў бацька. Амаль на кожнай станцыі правяралі вагоны, і каб ніхто не падумаў, што бацька хворы — а хворых здымалі з цягніка — да яго садзілі здаровых дзяцей. У Оршы на базары дзяўчаты пабачылі, што прадаецца нешта мутнае. Бацька здагадаўся: самагонка. Маці дастала з з масла срэбныя манэткі і купіла бацьку бутэльку гарэлкі. Ён піў па 50 грамаў што дзень замест лекаў. Орша была першым горадам на шляху дамоў, дзе можна было нешта купіць. У Стаўбцах, на савецка-польскай мяжы (тады ў 1922 годзе яна нічым не вызначалася) усіх пагналі ў лазьню. Тут выявілі, што бацька хворы і паклалі ў лякарню. Усе астатнія паехалі дамоў. Прыехалі. Хата без гаспадароў і догляду струхлела. На наступны дзень прыходзіць стараста: «Плаці падатак». Плаціць няма чым. Так ён прыходзіў што дня на працягу тыдня, пакуль маці не пазычыла грошы і не заплаціла. Потым яна паехала ў Стаўбцы, праведала бацьку, а як вярнулася дык кажа: «Дзеці, будзем з бацькам».

Апанас Цыхун: « (...) а мы, дзеці, вярнуліся з бацькамі ў 1918 годзе на радзіму ў Кунцаўшчыну, якая апынулася пад нямецкай, а затым пад польскай акупацыяй. Вёска была амаль поўнасьцю спалена. У ёй заставалася адна хата й дзьве адрыны. (...) На сялянскіх сядзібах расла вышэй чалавечага росту крапіва. У садох красаваліся сонцам налітыя яблыкі, грушы, сьлівы, але ніхто іх не зрываў, бо не было людзей. Начамі вакол хаты чутно было, як цяўкалі лісіцы. Страшна было выходзіць з хаты ўначы, бо падбіраліся ваўкі. Мае бацькі дзівіліся, як магла жыць у такой глушы сям'я Краўцэвічаў. І нам было страшна, але паступова зь цягам часу Кунцаўшчына пачала аджываць, адраджацца. Пачалі вяртацца з розных куткоў Расеі яе былыя жыхары. З кожным днём іх прыбывала. Жылі яны ў скляпах, якія захаваліся, у зямлянках, буданах. Паступова набывалі жывёлу, коней і кароў. Будавалі хаткі й адрыны. Пачалі апрацоўваць лесам зарослыя надзелы зямлі. Засьпявалі ў вёсцы пеўнікі, закудахталі куры. Зазьвінелі і дзіцячыя галасы. Паступова і мы сталі жыць самастойна. Купілі ў Індуры нейкую курную хату. Разабралі яе, перавезьлі ў Кунцаўшчыну й паставілі на старым падмурку. Вядома, у ёй змайстравалі ў першую чаргу хлебную печ, на якой можна было пагрэць плечы. І пачалі жыць. Хата хоць і старая была, але моцная. Ейныя сьцены былі прасякнуты дымам, здаровыя й смольныя».

Калі ўспамінаць пра вёску Падбараны, то немагчыма не напісаць пра тое, што 8 чэрвеня 1930 года ў вёсцы Падбараны нарадзіўся Яўген Кан-

станцінавіч Петрашэвіч. Дзякуючы яму, вёска Падбараны стала вядомай на ўсю Эўропу. У розны час Яўген Петрашэвіч кіраваў аркестравымі групамі пры народным ансамблі «Нёман», «Вянок». Быў кіраўніком дзіцячага ўзорнага фальклёрнага ансамбля «Гарадзенскія дударыкі», які неаднойчы выступаў у Польшчы, Літве, Францыі, Нарвэгіі, Швэцыі. У Гданьску ансамбаль атрымаў Гран-Пры «Zloty Kogucik».



Дударыкі гукаюць вясну, 1993 г.

З успамінаў Яўгена Петрашэвіча пра родную вёску: «Мая вёска некалі называлася Падбарамі. Лясы высеклі, і пры Польшчы назвалі Podbozany. А пры саветах — „Подборяны". Беларусы цяпер называюць Падбараны. Такім чынам, назва вёскі выклікае перакошаную грымасу найменьняў, але сьмеху не выклікае, а калі выклікае сьмех, то праз сьлёзы. Вёска Падбараны, якая раскінулася на левым беразе Нёмана ўніз на два кілямэтры ад мястэчка Луна, была некалі ажыўленая... Там за польскім часам хадзілі параходы, яны называліся „Баторы", „Ягайла", а ў 1939 годзе, калі прыйшлі Саветы, іх перайменавалі ў „Пушкіна" і „Сталіна". Плытагоны нас вучылі рабіць сьвісьцёлкі, сьвістулькі з бярозавай кары, а турысты, што ад Стоўбцаў плылі, затрымліваліся, каб паслухаць іх сьвіст».

Пачатковую школу Яўген скончыў у мястэчку Луна. У 1939 пераехалі ў Гродна. Бацькі Яўгена Канстанцінавіча былі рэпрэсіраваныя, як агітатар і шпіёнка, за перапіску з матуліным бацькам Васілём і цёткамі Наталкай і

Алесяй, якія жылі ў Амэрыцы. «Нам бацька часта гаварыў: „Дзеці, сёньняшняя ўлада на пяску пабудавана. Яна не вечная, доўга не ўтрымаецца“. Ён мог так свабодна казаць, за тое і паплаціўся» аспамінае Яўген.

Бацька — на 15 гадоў, маці — на 25 гадоў былі адпраўлены ў ссылку. У іх дом пасялілі жыць кэгэбістаў. Бацька ў Ангарску, а маці ў Архангельску адбылі ў ссылцы па 5 год. «Вярнуўшыся дахаты, я быў павязаны па руках і нагах. З-за арышту бацькоў у мяне было шмат праблем і перашкодаў у працы і творчасьці. Здаецца, чаго прасьцей — узяць аловак, напісаць мэлёдыю і сыграць у калектыве. Але не! Тут ты знаходзішся „пад каўпаком“. Гэта як фэрзь: ён стаіць, але ўжо дзейнічае, хоць не было ніводнага яго ходу. Але мяне гэта толькі загартоўвала». Пасьля вяртаньня на Радзіму бацькі былі рэабілітаваныя.



Маленькі Яўгенік з цёткамі Зінаідаю і Людмілаю,1937

За сваё жыцьцё Яўген Петрашэвіч выдаў зборнікі вершаў «Пасынкі», «Віншаванкі», «Байкі-непазяхайкі», «Балада пра Грунвальд», «Сказ пра Каложу». Напісаў цыкл песень-балад на гістарычную тэму Яна Чачота, зборнік песень «Беларускі вясёлкавы край», песеньнікі «Сьпявайце, братцы, сьпявайце» і «Пяшчотнасьць». Як мастак Яўген Петрашэвіч зьяўляецца аўтарам гранітнай скульптуры ў гонар заснаваньня вёскі Гудзевічы Мастоўскага раёна, драўлянай скульптуры «Вікінг» у Даніі, за якую атрымаў мэдаль вікінгаў.



Адзін з канцэртаў у Нарвегіі (2000г.)

Памёр Яўген Петрашэвіч 11 сакавіка 2017 г. І пахаваны ў Гродне.




Яўгена Петрашэвіч і яго крэда

«А сакрэты? Якія там сакрэты! Трэба шчыра любіць сваё, роднае, разумець дзяцей і з замілаваньнем ставіцца да той справы, якую абраў. Дзеці гэта адчуюць, іх немагчыма падмануць». Так казаў Яўген Канстанцінавіч на пытаньні пра сакрэты сваіх посьпехаў.

# Дзякуй, Амэрыка!

«… быў галодны Я, і вы далі Мне есьці; быў сасьмяглы, і вы напаілі Мяне; быў падарожны, і вы прынялі Мяне; быў голы, і вы адзелі Мяне; быў хворы, і вы адведалі Мяне; у цямніцы быў, і вы прыйшлі да Мяне.
Тады праведнікі скажуць Яму ў адказ: «Госпадзе! калі мы бачылі Цябе галоднага і накармілі? альбо сасьмяглага і напаілі? калі ж мы бачылі Цябе падарожнага і прынялі? альбо голага і адзелі? калі ж мы бачылі Цябе хворага, альбо ў цямніцы, і прыйшлі да цябе?».
І Цар скажа ім у адказ: «праўду кажу вам: як што зрабілі вы гэта аднаму з братоў Маіх меншых, дык зрабілі Мне»».
(Паводле Мацьвея 25:35—41)

75 гадоў таму адна з вуліц у Гродне насіла імя амэрыканскага інжынэра, а пасьля і 31-га прэзыдэнта ЗША — Герберта Гувера. Гербэрт Гувэр ратаваў ад галоднай сьмерці каля 20 мільёнаў чалавек, больш за ўсіх у гісторыі чалавецтва. Подзьвіг Гувэра не меў прэцэдэнтаў. 1914–1924 гадах пад ягоным кіраўніцтвам разьмеркавана ў Эўропе больш за 33 мільёны 841 тысячу тон дапамогі коштам больш за 5 мільярдаў 234 мільёны даляраў. Калі ў 1921 годзе ў савецкай Расеі пачаўся голад, Гувэр, нягледзячы на супраціў бальшавікоў, дамогся права ратаваць ахвяры ў Расеі, Украіне й Беларусі. Гэта было зроблена ва ўмовах вайны і разбурэньня, калі ўрады старых і новых дзяржаваў былі засяроджаныя на сваіх унутраных праблемах.

Гербэрт Гувэр нарадзіўся ў 1874 годзе, а памёр 1964. Ён быў прэзыдэнтам ЗША з 1929 па 1933 гг.

У выніку наступу нямецкай арміі ў ліпеню 1915 г. расейцы вымушаны былі пакінуць Польшчу і заходнія губэрні (Беларусь) імпэрыі Раманавых. У выніку прапаганды з боку вайсковых колаў і Праваслаўнай царквы сотні тысяч людзе сталі бежанцамі, апынуліся на дарогах. З Заходняй Беларусі выехала тады 1мільён 400 тысяч чалавек. Апусьцелыя вёскі сьледам палілі казакі. На беларускай тэрыторыі прымянялася тактыка «выпаленай зямлі», каб нічога не пакінуць ворагу пасьля адступленьня. Але гэта прывяло да таго, што вяртацца трэба было на гэтую ж «выпаленую зямлю».



Гарыць пакінутая бежанцамі вёска, падпаленая казакамі

Ад голаду, хвароб і іншых прычын у Расеі загінуў амаль кожны трэці бежанец. У 1918 годзе людзі пачалі вяртацца. Эпідэміі і шалеючая вайна прымусілі ўцекачоў вяртацца на спустошаныя сядзібы ў іншую краіну.



Бежанцы

У 1919 годзе арганізацыя, утвораная з ініцыятывы Гувэра — American Relief Administration (Амэрыканская адміністрацыя дапамогі), у скароце

АРА, — пачала дапамогу Польшчы, таму што, «калі хто-небудзь у сьвеце меў патрэбу ў дапамозе, дык гэта жыхары ўсходніх раёнаў Польшчы — заходніх раёнаў Беларусі, якія апынуліся пад уладай Польшчы».




Фрагмэнт карты пунктаў АРА ў Польшчы ў 1922: каля тысячы амэрыканскіх кухань дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі

Чацьверты рэгіён, дзе падарожнічаў пасланец Гувэра — прадстаўнік АРА Ўокер, уяўляў сабой лінію фронту ад пяці да дваццаці пяці міляў шырынёй, ад Дзьвінску праз Відзы, Паставы, Мядзел, Сьвір, Смаргонь, Крэва, Багданаў, Вішнева й да прыпяцкіх балотаў. Гэта лініі акопаў, дотаў і дзотаў, умацаваньняў з калючага дроту й разьверненых снарадамі палёў. На гэтую

лінію вярталіся тысячы ўцекачоў, каб пачаць жыцьцё без даху над галавой, свойскай жывёлы, ежы й вопраткі. Тыя, хто не хацеў пакідаць родныя мясьціны, хаваліся ў лясах, у зямлянках, дзе й знаходзілі іх супрацоўнікі АРА.

Адмысловы рэцэпт мясцовага хлеба запісаў інспэктар АРА Гершэл Ўокер, які наведаў у 1919 годзе Ліду:

У людзей няма мукі, солі, у гэтым рэгіёне яны пякуць хлеб з сумесі травы, верасу й крапівы. Яны дробна сякуць гэтыя інгрэдыенты, дадаюць нешта для клейкасьці й потым пякуць на агні.

Яшчэ напачатку 1920 Гувэр пастанавіў павялічыць дапамогу менавіта на «Крэсах Усходніх». У траўні пачаліся рэгулярныя даставы прадуктаў у пункты харчаваньня АРА ў Заходняй Беларусі: мука, рыс, бабы, груца, сьвініна й ялавічына, сухое й згушчанае малако, какава, цукар, алей, рыбін тлушч, соль, галеты. Сотні кухняў АРА адчыніліся каля Наваградку, Баранавічаў, Кобрыну, Пружанаў, Нясьвіжу, Ліды, Ваўкавыску, Бераставіцы, Ашмянаў, Багданава, Пінску, Берасьця й Гародні.



Дзеці ў Гародні ў вопратцы з мяхоў. 1919—1920 гг. (Фота з архіву газэты «The New York Times»)

Гарадзенскія дзеці ўваходзілі ў лік дзясяткаў тысяч сірот вайны, у якіх у пэрыяд з 1914 па 1920 гады бацькі загінулі на палях бітваў, ці памерлі ў ваенных шпіталях ад эпідэмій і голаду. Амэрыканская дапамога ў першую чаргу была скіраваная дзецям. У першы час пастаўкі адзеньня ў Гродна

былі абмежаванымі, таму вопратку часта шылі з мяхоў, у якіх звычайна перавозілі амэрыканскую муку. Успамінае спадарыня Каханоўская: «Я хадзіла ў школу, і нам давалі абеды. І ўсё аказалі: АРА дае. Але мы ўяўлялі сабе, што АРА гэта нешта такое абстрактнае: дае абеды рука нейкая. А што гэта? Гэта ж былі дзеці. Малако добрае было. Давалі добры кубак какава, булачку, і гэта можна было піць колькі хочаш. Бацька ж мой працаваў і прыносіў прадукты таксама — прадукты АРА. Фасоля была такая смачная. Можа якіх дзесяць гатункаў фасолі. І нават былі фасолькі з пражылкамі, з рознымі рысункамі. А смак — ну надзвычайны».

На вуліцы Ўрыцкага дом №26 у 20-е гады працавала лякарня ў рамках амэрыканскай гуманітарнай дапамогі паводле пляну Гувэра.

Але далей дапамога АРА была спыненая — бальшавікі нанесьлі ўдар у адказ, і пачалося імклівае польскае адступленьне. Кухні АРА апынуліся пад пагрозай: ніякага пагадненьня з саветамі не існавала, трэба было ратаваць складавыя запасы й абсталяваньне. Палякі хутка адступалі, і часам пагрузка маёмасьці АРА заканчвалася, калі бальшавіцкія часткі ўваходзілі ў горад. 11 ліпеня чырвонае войска ўзяло Менск, 18-га — Баранавічы, 19 ліпеня Гародню, 23-га — Пінск. Бальшавікі рухаліся так хутка, што паўстала пытаньне ўжо не ратаваньня маёмасьці, а больш істотнае: ці амэрыканскаму пэрсаналу ў Польшчы працягваць працу пасьля захопу краіны бальшавікамі.

У дзень падзеньня Пінску Гувэр паслаў каблаграму з Нью-Ёрку ў Эўрапейскі офіс АРА:

На мой погляд, калі нашыя людзі мяркуюць, што гэта бясьпечна, яны мусяць працягваць працу пунктаў харчаваньня за лініяй, занятай бальшавікамі… Пасьля пачатковай сумятні яны, магчыма, змогуць ізноў распачаць працу ў акупаванай бальшавікамі Польшчы ў межах пэўнага пагадненьня.

Дзейнасьць АРА ў Заходняй Беларусі аднавілася ў лістападзе, калі была падпісана дамова аб перамір'і. Даставы харчу й адзеньня адразу вярнуліся на даваенны ўзровень, кухні працавалі на поўную моц. Толькі ў Берасьцейска-Пінскім рэгіёне штомесяц адпускалі 50–70 тысяч абедаў для дзяцей і дарослых, пераважна ўцекачоў.

Ад траўня 1920 па красавік 1922 польская АРА разьмеркавала на тэрыторыі сучаснай Беларусі каля 15 тысяч 300 тон харчовай дапамогі на суму каля 3 мільёнаў 670 тысяч даляраў. Таксама дастаўлялася мыла й асобна — адзеньне. Было выдадзена 150 тысяч 318 паліто, 133 тысячы 759 пар чаравікаў і 137 тысяч 522 пары панчохаў на суму каля 900 тысяч даляраў.

Напачатку 1922 года, калі польская эканоміка выразна пайшла ўгару, апошні кіраўнік АРА ў Польшчы Філіп Болдуін паведаміў польскаму ўраду пра закрыцьцё місіі ў чэрвені.

Унівэрсытэты Кракава, Варшавы, Львова ганаравалі Гувэра званьнем доктара, гарадзкія ўлады называлі пляцы й прысвойвалі званьні ганаровага месьціча, скульптары ляпілі бюсты. «Амэрыка дала нам сэрца ў да-

памозе, прыклад у мэтадзе працы. Дзякуй за першае і за другое», — Юзэф Пілсудскі. Цытата з альбому, падоранага Гербэрту Гувэру польска — амэрыканскім Камітэтам дапамогі дзецям, 1 чэрвеня 1922 г.

Менавіта тады вуліца імя Гербэрта Гувэра зьяўілася ў Гародні. Гарадзкія ўлады вырашылі ў 1922 годзе перайменаваць вуліцу Іванаўскую ў Гувэра. Вуліца Гувэра ў Гародні праіснавала да верасьня 1940 года. Затым яе перайменавалі ў Тэльмана — у гонар нямецкага камуніста. Гэту назву яна носіць і цяпер.

Дзеці з міскамі з вёскі Дубна на фоне ўдзячнага пісьма. Сотні падобных лістоў слалі ўдзячныя дзеці й дарослыя з Беларусі на адрас АРА

У пачатку 1990-х гадоў гарадзенскі гісторык Ігар Трусаў выказаўся за вяртаньне забытай назвы вуліцы. Яго выказваньні ў сваёй працы «Пры-

годы АРА ў Беларусі» публікаваў Аляксандр Лукашук: «Жывуць зараз на нашай зямлі людзі, якіх бы не было, калі б гэты высакародны чалавек Гербэрт Гувэр не спрабаваў накарміць і апрануць галодных людзей у незнаёмай, далёкай, разбуранай вайной краіне. Было б правільна і справядліва калі-небудзь адрадзіць вуліцу названую ў яго гонар». Ці не пара? Бо «Свабоды ня бывае без ПАМЯЦІ» (Гербэрт Гувэр).

Ад 1922 года АРА пачала апэрацыі ў падсавецкай Беларусі — Менску й шасьці паветах, з насельніцтвам менш за 2 мільёны чалавек. Асобныя прадстаўніцтвы АРА былі адкрытыя ў Гомелі й Віцебску, якія тады адміністрацыйна належалі РСФСР. Разам у трох беларускіх акругах АРА жыло каля 7 мільёнаў чалавек.

## Акупацыя нямецкая. Страчаная Незалежнасьць. Польска-бальшавіцкая вайна

З 3 верасьня 1915 года па 1919 год Луна пад нямецкай акупацыяй. Фрыдрых Грэле, салдат нямецкай арміі, успамінаў: «Мы рушылі далей да месца Люмна-Воля (Луна), разьмешчанага непасрэдна на Нёмане. [...] Тут мала каменных дамоў, у асноўным яны драўляныя, вуліцы не выбрукаваны. Усе габрэі былі яшчэ тут, сядзелі ў сынагозе, у школе і ў дамах. Пасьля таго як мы ўвайшлі сілай аднаго палка, рускія пачалі з іншага берага абстрэльваць горад гранатамі. Мы разьмясьціліся за сынагогай, дзе расейцы не маглі нам нашкодзіць, але сярод насельніцтва было некалькі параненых, што выклікала кашмарную паніку. Усе з крыкамі, лаянкамі і крыкамі, прыхапіўшы з сабой дзяцей і маёмасьць, рушылі з месца».

Акупацыйныя ўлады пастановай аб'ядналі Луну і Волю ў адзін населены пункт, дазволіўшы функцыянаваньне двух сынагог у Луне і адной у Волі.

Нямецкія акупанты сваімі паводзінамі мала адрозьніваліся ад расейскіх. Яны забіралі коней, кароў, іншую хатнюю жывёлу, фураж, адзеньне, абутак, прымушалі выконваць абозную службу. Большасьць мужчын сілком была мабілізавана ў расейскую армію, таму на ўсіх работах асноўнай рабочай сілай былі дзеці і жанчыны.

Пасьля заваёвы ўлады ў Расеі бальшавікамі падзеі на Беларусі разгортваюцца як у калейдаскопе. 25 сакавіка 1918 года прыхільнікамі незалежнасьці абʼяўляецца Беларуская Народная Рэспубліка.

Карыстаючыся разгубленасьцю нямецкіх вайсковых уладаў атрады польскай самаабароны на кароткі час займаюць Сапоцкін, Індуру, Масты.

У Гародні 11 лістапада ўтвараецца Саюз Вайсковых Палякаў, а крыху пазьней Самаабарона Гродзенскай Зямлі. Рыгор Лукомскі і Рафаэль Сталярскі пішуць на гэтую тэму:

«Вялікую ролю адыграла каталіцкае духавенства, пасьпяхова выкарыстоўваючы свой уплыў у грамадзтве. Натхняльнікам і стваральнікам дзеяў быў ксёндз пралат Лявон Жаброўскі, тагачасны дэкан у Гродне. (...) Годным было стаўленьне сьвятароў у Гродзенскім дэканаце. Яны дапамаглі не толькі маральна і матэрыяльна, але і стаялі на чале асобных аддзелаў. У якасьці прыкладу можна назваць кс. Пётра Мазура, які абяззброіў нямецкі паліцэйскі ўчастак у Луне, кс. Іосіф Бяляўскі на чале дзясятка жаўнераў Самаабароны захапіў пасты ў Квасоўцы і Занявічах, кс. Іосіф Зэра сьмелай атакай здабыў пост у Сакулцы».



Канстанцін Бялецкі (20.1 (1.2).1874 — 8.12.1926) — беларускі грамадзкапалітычны дзеяч

У адказ па ініцыятыве праваслаўнага эпіскапа Уладзіміра, Яўгена Курлава (літаратара, уладальніка маёнтку Навасёлкі Індурскага павета), адстаўных афіцэраў Л. Модля і Сяргея Ілавайскага, тэхніка Мікалая Марозава і доктара Канстанцін Бялецкага (сын кіраўніка пошты ў м. Луна) пачынаец-

ца падрыхтоўка па скліканьню на 1—2 сьнежня 1918 г. з'езду праваслаўнага насельніцтва Гродзенскай губэрні.

Некалькі слоў пра нашага земляка Канстанціна Бялецкага. Скончыў Гродзенскую гімназію (1894), Пецярбургскую ваенную мэдыцынскую акадэмію (1899). З 1899 ваенны ўрач пяхотнага палка ў Гродне. З 1912 член Гродзенскага таварыства апекуноў ваенна-санітарных ведаў. У 1-ю сусьветную вайну галоўны лекар палявога шпіталя на Заходнім фронце, кантужаны. Са студзеня 1919 лекар Першага беларускага палка ў Гродне, адзін з кіраўнікоў і старшыня часовага праўленьня беларускага клюба «Наша хатка» («Беларуская хатка»), сябра Гродзенскай губэрнскай управы, Беларускага нацыянальнага камітэта ў Гродне (з 28.3.1920 віцэ-старшыня), арганізацыйнага камітэта па скліканьні беларускага зьезду Гродзеншчыны. У красавіку 1919 кааптаваны ў склад Літоўскай Тарыбы. У 1920-я г. даглядаў дзяцей Гродзенскага беларускага прытулку. З дзёньніка А. Луцкевіча, які неаднаразова гасьціў у хаце К. Бялецкага ў студзені 1919 года: «Чалавек сярэдніх гадоў, шчыры беларус, хоць і гаворыць па-расейску... Цікавіцца культурнай работай, апрацоўвае статут беларускага клюба...». Зьяўляўся апекуном Гродзенскага беларускага прытулку. Між іншым, у канцы 1921 года даглядаў за хворай Станіславай Буйло. У 1922 годзе беспасьпяхова вылучаўся ад блёку №16 — нацыянальных меншасьцяў на выбарах у Сэнат па пятай акрузе (Беласток). У рапарце польскай паліцыі за лістапад 1924 года Канстанцін Бялецкі ўзгадаваўся ў якасьці аднаго з найбольш актыўных прадстаўнікоў беларускай «нацыянальнай плыні» у Гродне.




Маркі і штэмпэль пошты ў Луне ў 1919 годзе

1 студзеня 1919 г. беларусы-бальшавікі аб'явілі аб стварэньні Беларускай Савецкай Рэспублікі. 27 лютага 1919 года бальшавікі абвяшчаюць аб стварэньні Савецкай Беларуска-Літоўскай Рэспублікі. Паўстае незалежная Польшча і разгортваецца польска-бальшавіцкая вайна. У гэты пэрыяд у Луне дзейнічала мясцовая пошта, паштовыя маркі якой і штэмпэль адлюстраваў у сваім Каталёгу вядомы амэрыканскі калекцыянэр Павук.

У сярэдзіне лютага 1919 г. Луна было занятае палякамі, аб чым сьведчыць данясеньне: «5. З паведамленьня апэратыўнага раніцай 20 лютага 1919. Літва і Беларусь. Група ген. Івашкевіча: Луна — Воля занятыя.

Участак ад Мастоў да Скідаля забясьпечваецца і патрулюецца.

Гняздо бальшавіцкай агітацыі на тылах нашых знаходзіцца ў Крынках.

Масты чыгуначныя ў Мастах і Зельвянах у стане да выкарыстаньня. Чыгуначная кампанія №10 прыняла ўчасткі чыгункі Ваўкавыск-Зэлва, Ваўкавыск — Масты».

19 ліпеня 1920 г. да Луна-Волі падышла Чырвоная армія бальшавікоў. Пачалася драматычная гісторыі абароны Луна-Волі. Больш за год цягнулася вайна польска-бальшавіцкая, якая ў ліпеню 1920 г. пераходзіла ў вырашальную фазу. Польскае войска адступала пад ціскам перавышаючых сілаў ворага. Рака Нёман была натуральнай перашкодай ля наступаючых бальшавікоў. Таму менавіта тут Юзаф Пілсуцкі пастанавіў правесьці адну з вырашальных бітваў і затрымаць ворага. Выконваючы загад 17-я Вялікапольская дывізія пяхоты пераправілася на левы бераг Нёмна і распачала рыхтавацца да абароны. Уздоўж засталіся нямецкія акопы з Першай Сусьветнай вайны. Гэта аблягчала палякам падрыхтоўку. Правы бераг Нёмна быў больш высокі, што пагаршала ўмовы абароны і рабіла добрымі ўмовы для абстрэлу ворагам. 21 ліпеня 1920 г. жаўнеры 68 Вялікапольскага палка пяхоты перайшлі Нёман і зьнішчылі мост, каб перашкодзіць бальшавікам фарсіраваць раку, і занялі абарону ў Луна-Волі і ваколіцах. Дасьведчаныя ў баях, але змучаныя і з частковымі стратамі, рыхталіся да доўгатэрміновай абароны. Камандуючы 17 дывізіяй Станіслаў Тачак лічыў, што менавіта тут адбудзецца галоўны ўдар Чырвоных. 22 ліпеня пачаўся варожы наступ з моцнага артылерыйскага агню. Затым пяхота бальшавікоў спрабавала фарсіраваць Нёман. Удалося ім дайсьці бродам да сярэдзіны ракі, але моцны абстрэл з кулямётаў і дакладны агонь артылерыі 17 палку артылерыі палявой, які стаяў побач з пяхотай, спынілі наступ. Атака яшчэ больш пераканала палкоўніка Тачака, што галоўны ўдар будзе менавіта тут. Гэтае перакананьне было памылковым. Каля вёскі Дубна быў брод. Глыбіня ракі тут была ня больш 1 мэтра. Абарону на левым беразе займаў 70 полк пяхоты. Пасьля мнагадзённых пераходаў і бітваў складаўся ён толькі з 47 афіцэраў і 413 жаўнераў, а павінен быў абараняць лінію фронту каля 7 км. 11 дывізія кавалерыі казакаў пад кіраўніцтвам Фёдара Марозава пераважала лічэбна ў тры разы абаронцаў. 23 ліпеня бальшавікі пачалі масавую атаку. Казакам удалося фарсіраваць Нёман. Яны захапілі пляцдарм і хутка павялічылі свае сілы ў гэтым месцы. Спробы палякаў контратакаваць посьпеху ня мелі. Казакі цяпер маглі атакаваць польскія пазыцыя ля Луна-Волі з флянгу. Палякі вымушаны былі адступіць. Баі працягваліся на вуліцах Луна-Волі. Мястэчка некалькі разоў пераходзіла з рук у рукі. У ваколіцах Луна- Волі казакі атачылі невялікую групу «крэсавых» стральцоў 28 палка. Камандаваў імі маладзюткі падпаручнік Міхал Казэка. «Не падаёмся»! — загадаў сваім жаўнерам. Бой быў кароткі і крывавы.

Ніхто з абаронцаў не паддаўся. Усе загінулі. Захоп Луна-Волі і пабудова пераправы праз Нёман прывяла да таго, што ў тыле Польскага войска апынулася вялікая колькасьць чырвонаармейцаў. Пад пагрозай акружэньня Польскае войска зноў павінна было адступіць.




Камандзір 68 Палку Пяхоты Вінцэнты Навачыньскі

Падчас баявых дзеяньняў быў двойчы паранены камандзір 68 палку пяхоты маёр Вінцэнт Навачыньскі — паўстанец Вялікапольскі, адстаўны палкоўнік Войска Польскага. За мужнасьць атрымаў ордэн Virtuti Militari і званьне маёра. Нарадзіўся ў Камянцы ў 1883 г. Забіты немцамі ў 1940 г.




Адзнака Літоўска — Беларускай дывізіі

24 ліпеня 1920 г. Літоўска — Беларуская дывізія пад кіраўніцтвам генэрала Лятоўра, адступаючы ад Белавіч на Рось, уступіла ў лес, званы Хомін Бор. Дывізія страціла шмат сіл у баях пад Пескамі, Мастамі і Луна. З боку Росі і Воўпы ўжо былі войскі бальшавікоў.

У тым і другім войску былі беларусы. Нягледзячы на няроўнасьць у сілах, 1-я Літоўска-Беларуская дывізія даволі пасьпяхова з мінімальнымі стратамі вымкнула з акружэньня ў напрамку на Навасёлкі. Страты склалі каля 200 чалавек. Перайшоўшы р. Рось каля Тэаліну і далей на Шаўкі, дывізія далучылася да польскага войска і потым прымала актыўны ўдзел у «цудзе над Віслай».




Становішча польскіх і бальшавіцкіх войскаў у ноч з 24 на 25 ліпеня 1920 г. у раёне Луна-Волі

Баі ў ваколіцах Луна-Волі спыніліся. Фронт пайшоў на захад. Мясцовыя жыхары пахавалі забітых жаўнераў і польскіх і бальшавіцкіх. Жаўнераў

войска Польскага пахавалі на каталіцкіх могілках і паставілі драўляны крыж. Жыхары ня ведалі прозьвішчаў загінуўшых.

Адразу па прыходзе чырвонаармейцаў пачалі ствараюцца ваенна-рэвалюцыйныя камітэты (валрэўкомы). 28 ліпеня 1920 года такі рэўком быў створаны і ў Луна. Старшынёй быў абраны работнік палітаддзела 4-ай дывізіі Котаў. Захаваўся цікавы дакумэнт аб стане маёнткаў Луненскай воласьці. Акрамя іншых зьвестак ён дае магчымасьць даведацца, што вырошчвалі на ворнай зямлі ў тыя часы.

З даклада зямельнага аддзела Луненскага валаснога ваенна-рэвалюцыйнага камітэта аб стане маёнткаў Луненскай воласьці Гродзенскага павету ад 9 жніўня 1920 г.

«11 августа 1920 г.

В район земельного отдела Луненского волостного военно-революционного комитета входит 8 имений:

1. В имении «Воля» бывшего владельца Тарасевича числится 300 дес. пахотной земли, леса — 200 дес., лугов — 30 дес., пастбищ — 30 дес., а всего 560 десятин. Из них помещиком засеяно на 1920 г. рожью 20 дес., пшеницей — 1 1/2 дес., ячменем — 6 дес., овсом — 8 дес., картофелем — 6 дес., горохом — 9 дес. Итого на 1920 г. засеяно 50 1 /2 дес. Обработка земли производилась батраками и местными крестьянами. Хлеб сложен в скирды, охраняется комитетом рабочих и находится в распоряжении местного ревкома.

2. В имении «Семашковщина» Тарасевича числится 56 дес. пахотной земли, засеяно на 1920 г. рожью -51/2 дес., пшеницей -21/2 дес., овсом -51/2 дес., местные мещане- евреи засеяли — на 1/2 часть 170 дес. ржи. Итого на 1920 год засеяно 183 дес. Обработка земли производилась батраками и арендаторами. Кроме 560 дес. пахотной земли, других угодий в имении не числится. Хлеб убран батраками и арендаторами, сложен в скирды и находится в распоряжении местного ревкома.

3. В имении «Миневичи» бывшего владельца Стржелковского числится 300 дес. пахотной земли, леса строевого — 45 дес., кустарника — 75 дес., лугов — 15 дес., пастбищ — 29 дес. Всего 464 дес., из них на 1920 г. засеяно владельцем имения рожью — 20 дес., пшеницей — 6 1/2 дес., ячменем — 4 дес., овсом — 3 дес., картофелем — 1 дес., горохом — 1 1/2 дес., всего на 1920 г. засеяно 36 дес. Хлеб убран батраками и местными крестьянами, сложен в скирды и находится в распоряжении местного ревкома.

4. В имении «Сутьки» владельца Мазолевского находится пахотной земли 140 дес., леса — 100 дес., лугов — 10 дес. Всего 250 дес., из них арендатором Кохманом Сановым на 1920 г. засеяно: рожью — 20 дес., пшеницей — 1 дес., ячменем — 6 дес., овсом — 20 дес., картофелем — 1 1/2 дес. Итого на 1920 г. засеяно 48 1/2 дес. Имение взято на учет опродкомом 4-й стрелковой дивизии, весь хлеб убран, производится его молотьба, он находится в распоряжении опродкома.

5. В имении «Лунна» бывшего владельца Ромэра числится пахотной земли 180 дес., леса — 10 дес., лугов — 5 дес., пастбищ — 10 дес. Всего 265 дес., из них засеяно на 1920 г. крестьянами м. Лунно на 1/3 часть рожью — 28 дес., ячменем — 4 дес., овсом -12 дес., картофелем — 25 дес. Всего на 1920 г. засеяно 69 дес. Хлеб убран крестьянами и находится временно в их распоряжении.

6. Имение «Нетечи» бывшего владельца Ромэра отдано в аренду Мовше Вельбелю за плату 4000 руб. в год. В нем числится 100 дес. пахотной земли, засеяно на 1920 г. арендатором имения рожью 6 дес., пшеницей — 2 1/2 дес., ячменем — 1/2 дес., овсом — 2 дес. Всего на 1920 г. засеяно 13 дес. Хлеб убран арендатором, сложен в гумно и взят на учет местным ревкомом.

Имения Радионовичи и Жиличи обрабатывались крестьянами разных деревень по 1 дес. и меньше. Для уборки имений были мобилизованы люди из ближайших деревень.

Заведующий земотделом

Делопроизводитель»

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф. 689. Воп. 1. Спр. 42. Л. 66, 66 абар.

Напэўна тут трэба растлумачыць, што дзесяціна — адзінка вымярэньня зямельнай плошчы. Найбольш пашырана была так званая новая (казённая) дзесяціна — 1,0925 га.

Падчас польска-савецкай вайны 1919—1920 на поле бою зьяўіўся новы тып зброі ў польскіх узброеных сілах. Гэта былі ваенна-паветраныя сілы.

«У першы дзень дзеяньняў павінны быць дасьледаваны пілётамі:

а) перасоўваньне флянгавых калён 2 Арміі, Гродна, тылы Гродна і чыгуначная лінія Гродна — Варена — задача лётчыкаў 2 Арміі,

б) рух 3 Дывізіі Легіёнаў, лінія Нёман паміж Луна Воля і Мастамі, шашой Гродна — Ліда — задача лётчыкаў пры штаб-кватэры,

в) назіраньне дарог Ваўкавыск — Слонім, Пружаны — Слонім, чыгункі Тэўле — Баранавічы і Кобрын — Пінск і, нарэшце, дарог, якія вядуць з усходу на фронт 4-й Арміі — задача авіятараў 4 Арміі,

г) вынікі назіраньня перадаваць у Галоўную штаб-кватэру, адкуль будуць разасланыя да зацікаўленых».

Пасьля Цуду над Віслай бальшавіцкае войска пачало ўцякаць на ўсход. Нёман зноў апынуўся ў цэнтры падзей. Стратэгі бальшавікоў спадзяваліся запыніць наступ Польскага войска менавіта на Нёмне. З 20 верасьня да 26 верасьня (некаторыя лічаць ды 28 верасьня) адбылася другая па значнасьці перамога Польскага войска, пасьля Цуду пад Варшаваю, якая скончылася разгромам Чырвонай Арміі Заходняга фронту і ў выніку прывяла да падпісаньня Рыскай мірнай дамовы.

Падчас Нёманскай апэрацыі ў верасьні 1920 года Луна-Воля знаходзілася на баявым шляху 3. Пяхотнай дывізіі легіёнаў Лявона Бербецкага, якая вяла наступ ва ўсходнім кірунку.

24 верасьня рускія правялі шэраг контратак, але папалі пад агонь польскай артылерыі. «Жаўнеры Чырвонай Арміі біліся выключна, мабыць, з-за прысутнасьці на фронце Леніна і Троцкага. 6-ая, 5-ая, 21-ая, 56-ая, 33-яя, часткі 8-й, 38-й, 27-й і 11 дывізіі пёртыя адначасова з раёна Мніхава, Бераставіцы Вялікай і Малой 3-й дывізіяй легіёнавай на поўнач на пераправы нёманскія ў Мастах і Луна Волі, пасьля зацятых адбітых контратаках на Адэльск і Бераставіцу, адступалі, спальваючы за сабой масты і зьнішчаючы дарогі, праз Нёман і далей, праз Скідаль, Зажэча, Шчучын, Радунь, у напрамку на Ліду». (п. WARSZAWA, WTOREK 5 PAŹDZIERNIKA 1920. Żołnież POLSKI. n166). Пра прысутнасьць у Луне Троцкага піша таксама ў сваіх успамінах Іцхак Эліяшберг, жыхар мястэчка Луна: «Троцкі падчас польска-бальшавіцкай вайны спыніўся са штабам у адным з тутэйшых дамоў». Успаміны апублікавала Рут Маркус на www.shetetlinks.jewishgen.org




Бітва на Нёмне (па-польску: Bitwa nad Niemnem) — апошняя знакавая бітва ў польска-савецкай вайне 1919—1920 гадоў

Чырвонаармейцы несьлі вялікія страты, таму, калі каля гадзіны 18 палякі аднавілі наступ, яны не змаглі арганізаваць эфэктыўны супраціў і пачалі адступленьне. Перадавыя польскія войскі знаходзілі нямала кінутай зброі, што было ўспрынятае як першыя прыкметы дэзарганізацыі ў шэрагах праціўніка.

З апэратыўнага загаду 2. Арміі ад 26 верасьня вынікае, што на ўчастку 3. Дывізіі легіёнаў вораг адступіў 25 верасьня на ўсходні бераг Нёмана і 26 верасьня заняў абарону пераправаў. Ня гледзячы на гэта частцы сіл 23 палку пяхоты з 3 Дывізіі пяхоты легіёнаў удалася пад вечар 26 верасьня пераправіцца праз раку пры дапамозе хутка зробленага парому. Адначасова сапёры 3 батальёну сапёраў пабудавалі кладку на Нёмне, па каторай ноччу пераправіўся 1. батальён пяхоты гэтага палку. «Справаздача паветранай выведкі ад 26.IX: ч. 10 м. 30 Луна: палі з моста засталіся, мост заняты. Станцыя Масты: масты ў агні. Станцыя пустая. Дарога да Жалудка непрыяцельскай 8000 пяхоты, 6 батарэй і 10000 фур. З данясеньня Тадэуша Кутшэбы, два батальёна 3-яй ДП пераправіліся днём 26 верасьня пад прыкрыцьцём артылерыйскага агню па кладцы, пабудаванай на разбураным мосьце на ўсходні бераг Нёмана, адкінуўшы слабыя сілы праціўніка, і занялі чыгуначны вузел Масты. Тут жа прыступілі да рамонту амаль цалкам разбуранага моста пад Лунай, з мэтай пераправы артылерыі».

25 верасьня да поўдня супраціў рускіх слабеў з кожнай хвілінай, і толькі велізарная стомленасьць польскіх салдат затрымлівала тэмп перасьледу. У гэты дзень войскі Заходняга фронту на Нёмане — дывізіі 15-й арміі пачалі адступленьне. Увечары 6-ы батальён пяхоты легіёнаў заняў Луна — Волю.




Паліткарыкатура 30-х гадоў 20 ст.

Па выніках Рыскай дамовы 18 сакавіка 1921 Луна-Воля апынулася ў складзе Польшчы як мястэчка, цэнтар гміны Гродзенскага павету Бела-

стоцкага ваяводзтва. Беларусы сталі жыць у разарванай краіне, падзеленай на расейскі і польскі бок. Гэтыя ваенныя ператрусы прывялі эканоміку Луна да поўнай гаспадарчай разрухі.

Калі напачатку бальшавікі гулялі ў беларускасьць, то на заходніх землях на поўную ішоў працэс апалячваньня. Лепшыя землі вакол Луна былі аддадзены асаднікам — удзельнікам вайны з бальшавікамі, якія ў асноўным былі палякамі. Ужо 15 лістапада 1921 г. было забаронена ўжываньне ў школах беларускай мовы. У Луненскай сямігодцы таксама вучылі папольску.




Вучні 6 і 7 клясаў з настаўнікамі каля будынка польскай школы. Луна, 1932 год

Па панядзелках прыходзіў бацюшка, які вучыў па-расейску Божаму закону праваслаўных, а па аўторках–ксёндз, вядома, па-польску.

Большасьць жа праваслаўнага сьвятарства на Гарадзеншчыне, як вынікае са зьвестак паліцэйскіх уладаў, зьяўлялася паводле сваіх перакананьняў прыхільнікамі расійскай нацыянальнай ідэалёгіі. Так, пра сьвятара з Луны Аляксандра Калішэвіча камэндант паліцыі паведамляў, што «ёсьць гарачым расійскім патрыётам (...) да польскай дзяржаўнасьці ставіцца прыхільна». У Скідальскай гміне, дзе беларускі рух быў асабліва моцным, праваслаўныя сьвятары атрымалі наступную характарыстыку: «Зьяўляюцца расійскімі патрыётамі, варожа настроены супраць усяго, што ёсьць польскае, агітуюць мясцовае насельніцтва, нібы польскі ўрад хоча забраць ім цэрквы»

Луна заставалася габрэйскім мястэчкам. Таму ў сынагогах і малітоўных дамах вучылі габрэйскіх дзяцей габрэйскім мовам. Габрэйскае насельніцтва займалася рамяством і гандлем, бо набываць габрэям зямлю ва ўласнасьць было забаронена. Цэнтар Луна ўтварала скучаная з-за дарагавізны зямлі габрэйская забудова. Вялікая колькасьць цагельных будынкаў захавалася да цяперашняга часу і выкарыстоўваецца пад жыльлё і адміністрацыйныя будынкі, крамы ды склады. У 1924 г. у Луна 1884 жыхары, 107 двароў.

Часта вандраваў па вёсках Павал Валошын (31.7.1923 абраны дэпутатам польскага Сэйму, увайшоў у Беларускі пасольскі клюб. Стаў адным з заснавальнікаў БСРГ) і арганізоўваў мітынгі ў Гродне, Беластоку, Луне, Крынках, Індуры, Алекшыцах. Дзякуючы яму БСРГ на Беласточчыне і Гродзеншчыне мела шмат прыхільнікаў.

У 1928 годзе зь ініцыятывы Луненскага настаўніка, прозьвішча якога не захавалася, жыхары Луна-Волі сабралі грошы на помнік загінуўшым воінам. Так зьяўіўся пастамэнт — пліта з Крыжам «Virtuti Militari» і надпісам «Невядомаму жаўнеру — чэсьць». 11 лістапада 1928 г. Магілу невядомаму жаўнеру ўрачыста асьвяціў пробашч тутэйшай каталіцкай парафіі ксёндз Мечыслаў Радзішэўскі. Вуліцамі Луна-Волі ўрачыста прамаршыраваў аркестар 81 палку гарадзенскіх стральцоў. У такі спосаб аддалі даніну павагі невядомым жаўнерам, якія паклалі жыцьцё за незалежнасьць Радзімы на беразе Нёмна ля Луна-Волі.



Помнік з надпісам: «Невядомаму жаўнеру чэсьць» на Луненскіх каталіцкіх могілках

Перад магілай ў 1998 г. пастаўлены крыж Стражы Польскіх Магіл з Уроцлава загінуўшым у баях за Радзіму ў розныя гістарычныя пэрыяды.

# Выбух другой Сусветнай вайны

## «Вызваленьне» і «зачыстка»

Паводле Рыскай дамовы 1921 года Беларусь была падзелена, вядома ж бяз яе згоды, між Расеяй і Польшчай. Да Польшчы адышло 80,5 тыс. кв. км плошчы і 3,5 млн. чалавек. Як сьведчаць польскія крыніцы, штогод у польскае войска заклікалася ня менш як 20 тыс. беларусаў. Беларусы служылі ў кавалерыі і пяхоце, артылерыі, нават у марскім флёце. Некаторыя палкі ўланаў, якія лічыліся гонарам Войска Польскага, амаль цалкам складаліся з беларусаў. Напярэдадні нападу Германіі ў Польшчы была праведзена масавая мабілізацыя, у тым ліку і у Заходняй Беларусі. Так што Другая Сусьветная вайна для беларусаў пачалася 1 верасьня 1939 г.

17 верасьня 1939 г. праз 2,5 тыдні пасьля нападу Нямеччыны на Польшчу, напалі на яе Саветы, згодна савецка-нямецкага пакту ад 23 жніўня 1939г. У выніку ваенных дзеяньняў у нямецкім палоне апынулася 40 тыс. нашых землякоў з Войска Польскага і звыш 50 тыс. у савецкім палоне. Некаторыя з савецкіх палонных былі адпушчаны дадому, але многія засталіся вязьнямі ГУЛАГаў. Частка прыняла сьмерць разам з польскімі афіцэрамі ў Катыні і другіх месцах камуністычных злодзеяў.

22 верасьня 1939 г. Чырвоная Армія заняла Гродна, а праз два дні 24 верасьня-Луна. Але яшчэ да прыходу чырвонаармейцаў у Луна нейкім Фёдарам Семянякам быў створаны атрад з прыхільнікаў савецкай улады з ліку беларусаў і габрэяў-жыхароў мястэчка. Атрад ня толькі захапіў уладу, але 18 ці 19 верасьня заняў стратэгічна важны мост праз Нёман, утрымліваючы яго да падыходу «вызваліцеляў». Жыхар Жылічаў Юзаф Галема ў сваёй кніжцы «Кара Божая» так апісвае падзеі таго часу ў Луне:

«Увечары, 17 верасьня 1939 года ў вёску Жылічы прыйшлі да старасты два знаёмых паліцыянтаў з мясцовай гміны Луна. Адзін з іх быў паранены. Яны сказалі, што баяліся, увайсьці. Яны думалі, што чырвоныя бандыты забілі Галемаў, бо на доме вісіць чырвоны сьцяг, але, даведаўшыся ў чым справа (фляг Галему прымусілі вывесіць «вызваліцелі Л.К.), прыйшлі прасіць даць ім мажлівась пераадзецца ў цывільнае адзеньне, бо на пастарунак у Луне напалі бальшавіцкія бандыты. Бараніліся ўсю ноч. Некалькі паліцэйскіх былі забітыя. У першай палове камэндант пастарунку аддаў загад прарвацца ў і вырвацца з аблогі Толькі дваім удалося гэта выканаць. Астатнія загінулі. 17 верасьня ані стараста ані паліцыя не чакалі, што так далёка ад фронту ад граніцы ўсходняй пагражала гібель і небясьпека для народу.

Паліцыянты, пераадзетыя ў цывільнае, пасьля вячэры прайшлі ў напрамку Гродна каб пазьбегчы аблавы. Недалёка адышлі ад Асады Жылічы. На дарозе іх сустрэлі расстаўленыя банды і калёны дывэрсійныя, каторыя затрымлівалі пешых і едучых. Хто выклікаў падазрэньне ці быў у сьпісе або распазнаны як паліцыянт, жандар, афіцэр ці служачы — на месцы быў расстраляны. Таксама расстраляныя былі два паліцэйскія, з Луны.

Як высьветлілася пазьней, у той жа дзень, з 16 па 17 верасьня 1939 г. нанесены былі вялікія спусташэньні на цэлых Крэсах Усходніх.

Перарэзаныя лініі тэлефонныя, зьнішчаны дзяржаўныя ўстановы. Раззбройваліся і мардаваліся нават найменшыя адзінкі Войска Польскага. Выразана сьпячых жаўнераў з 16 ці 18 Палку ўланаў, каторы разьмяшчаўся ў лесе над Нёмнам паблізу чыгуначнай станцыі Чарлёна».




Юзаф Галема з сваёй кніжкай «Кара Божая»

Гісторык Зьміцер Люцік («Беларускі фронт») так піша аб прыходзе Чырвонай Арміі ў Луна: «У мястэчку Лунна, якое знаходзілася ў 40 км на паўночны захад ад Ваўкавыска дзейнасьць падпольнага камуністычнага актыва таксама была адчувальная. Яшчэ за некалькі дзён да ўступленьня Чырвонай Арміі ў Лунна актыў з навакольных вёсак пад кіраўніцтвам былых членаў КПЗБ (У. І. Касіла, Рымарчык, Я. І. Глод) стварыў рэвалюцыйны камітэт. Вынікам яго дзейнасьці была арганізацыя патруля на мосце праз Нёман. Прадстаўнікі мясцовай польскай улады і паліцэйскія зьбеглі з мястэчка ўжо 17 верасьня. На працягу гэтага часу народная міліцыя — «ястрабкі», як яны сябе называлі, лавілі адступаючых польскіх салдат, паліцэйскіх і іншых падазроных асоб, адбіраючы ў

іх зброю і абмундзіраваньне. Саміх арыштаваных садзілі ў імправізаваную турму. Праўда разам з сапраўднымі актывістамі КПЗБ ў Лунна хапала і напоўкрымінальнага элемэнта. Мясцовае насельніцтва дасюль успамінае гэты час як пэрыяд безуладзьдзя і хаоса. Жыхарка м. Лунна С. Швед згадвае: «Адзін босы, з чырвонай лентай. Сеў на каменю і бье камушкам па вінтоўцы прыгаворваючы: «Ішоў па вуліцы — знайшоў уладу!» Сярод жыхароў мястэчка самаабвешчаная «улада» таксама правяла арышты. Былі арыштаваны ксёндз і праваслаўны сьвятар, а таксама некалькі найбольш багатых яўрэяў (праўда пасьля прыходу Чырвонай Арміі ўсіх іх выпусьцілі). Аднаго яўрэя, уладара крамкі па продажы ліманаду, прымусілі збіраць на вуліцы конскі навоз. Можа таксама і з-за такіх «рэцэдываў» Чырвоную Армію віталі радасна, кветкамі (якія моладзь аператыўна нарвала на палісадніку ў арыштаванага ксяндза) і ўрачыстай брамай. На дамах вешалі чырвонае палатно — адныя з радасці, іншыя са страху — каб не ўпасьці ў няміласць новай уладзе. З прыходам арміі безпарадкі ў мястэчку спыніліся».

Шмат хто з беларусаў і габрэяў, не ведаючы аб злачынствах савецкага рэжыму, падманутыя прапагандай агентаў НКВД, якіх засылалі з савецкага боку, вітаў прыход Чырвонай Арміі. Прычынай гэтага была і палітыка польскага ўрада, якая насіла антыбеларускі і антыгабрэйскі характар. Даходзілі чуткі аб зьверствах немцаў адносна габрэяў на занятых тэрыторыях. Таму для некаторых прыход камуністаў бачыўся як прыход мэсіі на чырвоным кані. У цэнтры Луна сабраўся вялікі натоўп з чырвонымі плякатамі, калі ў Луна ўступалі кавалерысты ў будзёнаўках і палутарка з 4-ствольным кулямётам. Раздаваліся воклічы: «Леніну ўра! Сталіну ўра!». Але ацьвяразеньне прыйшло хутка. Жывыя сьведкі расказваюць амаль анэкдатычныя і трагічныя выпадкі: «Баба таўкла бульбу сьвіньням. Уварваліся чырвонаармейцы: «Что, поляков угощать надумала?» Забралі саган і ўсё з’елі. У Жылічы прыехала 5 кавалерыстаў. Сьледам пусьціўся Максюта Іван (мясцовы «бомж»). Мкне подбегам і паказвае: «тут памешчык і гэты памешчык...». Калі з тых, каго паказаў Максюта, хто не ўцёк, то быў арыштаваны. Настаўніца геаграфіі з польскай школы атрымлівала зьвесткі ад родных з Украіны. А там, як вядома, ад зробленага бальшавікамі спэцыяльнага голаду, памерлі мільёны людзей. Яна распавядала аб гэтым у Луне. Адразу была арыштавана чырвонаармейцамі і зьнікла.

Былы кіраўнік рэвалюцыйнага камітэта ў мястэчку Луна Вікеньці Мікула ўзначаліў аддзел камунальнай гаспадаркі раёна. Георгі Шагун заняў пасаду старшыні Скідальскага пасялковага савета. Вярнуліся з турмаў сакратар Луненскага падпольнага РК КПЗБ Мікалай Іваноўскі і яго паплечнік Іван Мароз.

З расказу Зенянковай А. І.

«Рымарчык А. Д. быў членам КПЗБ, жылі ў Луна. Бацька быў старшынёй сельсавета з 1939 г. Сельсавет быў у будынку школы. Сакратаром сельса-

вету быў Сінкевіч з в. Залескі, жонку яго звалі Юлька. Дэпутатам быў Касьцечка Уладзімір».

Пасьля захопу Заходняй Беларусі бальшавікі распачалі тут шырокае будаўніцтва ваенных аэрадромаў сіламі «зэкаў» (арыштантаў) і мясцовых сялян, якіх зганялі да працы прымусам. Усяго па Беластоцкай вобласьці плянавалі пабудаваць да 1 верасьня 1941 г. 11 аэрадромаў.



Сяляне слухаюць савецкае радыё, усталяванае на бронемашыне, верасень 1939 г.

У лютым 1940 г. вывозілі асаднікаў і іншых «клясавых ворагаў». Быў страшны мароз. Людзей выкідалі з дамоў, не дазваляючы нават дастаць хлеб з печы. Седзячы на возе жанчыны казалі: «Маліцеся за нас». Але часта чулі ў адказ: «Так вам і трэба». Так адбываліся, як цяпер модна гаварыць «зачысткі тэрыторыі». За адзін толькі 1940 г. з Заходняй Беларусі было вывезена больш за 200 000 чалавек. Не называю прозьвішча чалавека-сьведкі тых жудасных часоў, бо ён да гэтага часу баіцца, што яму і яго сям'і гэтыя сьведчаньні могуць зашкодзіць. Я падзяляю яго погляд. У кнізе «Памяць. Мастоўскі раён» у сьпісе ахвяр палітычных рэпрэсій зьмешчана толькі чатыры прозьвішчы рэпрэсаваных жыхароў з мястэчка Луна. Гэта Вежаль Мар'ян Іванавіч, якому было толькі 3 годзіка, і Вежаль Рэгіна Канстанцінаўна маці Мар'яна 20 гадоў, вызвалены 1.7. 1945 г. Рэабілітаваныя 17. 10. 1995 годзе. Аб іх лёсе ніжэй будзе напісана падрабязна. Станкевіч Адэля Канстанцінаўна, 75-гадовая жанчына, рэабілітавана 16.10 1997 г. Рэйзьнер Нахелна Ешалеўна, рэабілітавана 12.5. 1997 г. Фактычна ж рэпрэсаваны былі дзясяткі ні ў чым непавінных людзей, імёны ўсіх да гэтага часу невядомыя.

Калгас у Луна да вайны з гітлераўцамі арганізаваць не пасьпелі. Першы калгас у 1940 годзе быў створаны ў Падбаранах. Стваралі калгасы «по-

литотделы». На сходзе сялян кандыдат у старшыні Кулінка так пераконваў у неабходнасьці калгаса: «У Расеі 20 гадоў людзі страдаюць у калгасах і не плачуць». Гадзіну заля рагатала да сьлёз, але калгас стварылі. «Разумныя людзі не ішлі старшынямі і ў начальства. Ішла галата». Так кажуць удзельнікі тых падзей. Набліжаўся 1941 год. Наперадзе было яшчэ горшае і больш жахліва жыцьцё.

## Напад фашыстаў. Успаміны і дакумэнты

Пэрыяд Другой Сусьветнай Вайны–гэта сучасная гісторыя, жывуць яшчэ, праўда лічаныя, сьведкі. Здавалася б і пісаць аб гэтым проста. Матэрыялаў мноства. У Луне нават створаны «Музэй баявой славы», які на жаль яго стваральнікам і зьнішчаны. (Нядаўна пасьля доўгага перапынку музэй аднавілі ў новай школе.) Але рука не паднімалася да працы. Чаму? Другая Сусьветная Вайна не самы трагічны пэрыяд у гісторыі Беларусі. Былі пэрыяды і больш трагічныя. Толькі апошняя рана яшчэ не зажыла, яна выцякае крывёю і гноем... Гноем няпраўды і несправядлівасьці.

З Усходняй савецкай Беларусі на працягу ліпеня — жніўня 1941 года ў дзеючую армію было прызвана больш за 500 тыс. чалавек.

Успамінае Сядач Яўген Нікадзімавіч.

«На месьце старой школы (у Луне) стаяў панскі палац. Там перад вайной стаяла штабная часьць і рота ўнутраных войскаў, якая ахоўвала мост. У іх былі фуражкі з сінім аколышам. Людзі казалі, што пры абароне мосту яны вельмі моцна біліся. Магчыма ўсе загінулі.

Якраз у нядзелю 21 чэрвеня да салдат прыехалі родзічы. Прынясьлі з сабой яду, курэньне, магчыма гарэлку... Мы былі тады падлеткамі, круціліся каля іх. Разьмясьціліся ўсе каля Нёмна групамі, некаторыя салдаты хаваючыся нешта пілі з бутэлек, а адзін быў сьмялейшы з в. Каўшова, што каля Скідаля, піў не хаваючыся».

22 чэрвеня 1941 г. 3-я армія РККА, штаб якой месцаваўся ў Гародні, была атакаваная з раёна Сувалак 8-м і 20-м армейскімі карпусамі 9-й арміі вэрмахта. Падрабязнасьцяў таго, што адбываецца ў войсках, камандуючы 3-й войскам генэрал-лейтэнант Кузьняцоў не ведаў, ён толькі пасьпеў зразумець, што галоўны ўдар праціўнік наносіць паўночней Гародні. Каб пазьбегнуць акружэньня, ён загадаў адвесьці войскі з Гародні на 30 кілямэтраў да паўднёвага ўсходу, замацавацца на мяжы рэк Котра (правы прыток Нёмна) і Сьвіслачы (левы прыток Нёмна) і вылучыць адну дывізію ў армейскі рэзэрв. Штаб Кузьняцова разьмясьціўся ў лесе каля Луна. Разьмяшчэньне штаба на значнай адлегласьці ад тэатра ваенных дзеяньняў моцна паўплывала на эфэктыўнасьць кіраўніцтва баямі і ў значнай ступені абцяжарвала сувязь.

Ранак 22 чэрвеня для Луна пачаўся трагічна. Над вёскай зьяўіўся нямецкі самалёт. На вуліцы Ваўпянскай знаходзіліся чырвонаармейцы. Уся дарога Гародня — Ваўкавыск была запоўнена адыходзячымі войскамі. Жыхарка м. Луна З. І. Гарбачэўская ўспамінае: «Я стаяла і глядзела на савецкіх салдатаў. Раптам у небе зьяўіўся нямецкі самалёт. Маленькі салдацік з доўгай вінтоўкай пачаў страляць у самалёт. Самалёт адляцеў у бок, разьвярнуўся, праляцеў нізка-нізка над зямлёй, можна было нават разгледзець дробныя дэталі машыны, і паляцеў... Прайшло пятнаццаць хвілін і ў небе над Луна зьяўіліся бамбавікі. Бомбы паляцелі на дарогу і нашыя хаты. Вуліца загарэлася. Згарэлі амаль усе дамы на правым баку вуліцы. У адным з дамоў згарэла дзіця». Была забіта жонка Рабіна Ротберга Раха Міна. (Рабін быў забіты 8 студзеня 1942 года ў канцлягеры Аўшвіц.). Агонь бушаваў з вялізарнай сілай, але драўляны крыж на ўзбочку вуліцы (зараз на тым месцы стаіць той самы крыж) агонь не закрануў. Людзі гэта ўспрынялі як цуд. Пагарэльцаў прынялі ў свае дамы аднасяльчане.



Крыж на вуліцы Хрысьціянскай (Савецкай), які не паддаўся агню ў першы дзень вайны.

По ўспамінах жыхара Луна Э. Эйзеншмідта 22 чэрвеня, немцы выкінулі на парашутах 12 чалавек для захопу мосту праз Нёман. Усе яны загінулі ў баі з савецкімі салдатамі.

Дачка малодшага лейтэнанта 25 асобнага матапантоннага батальёна Шышкіна Н. І. Галіна Мікалаеўна так апісвала пачатак вайны: «22 чэрвеня, раніцай, фашысты сталі бамбаваць аэрадром. Бацьку і іншых камандзіраў выклікалі па трывозе ў частку. Да 11 гадзін яго не было. Тым часам мама пакавала багаж, сабрала мяне і пакуль на вуліцы Луна ішла стральба, мы

сядзелі ў склепе. У 11 гадзін стала ціха. Прыйшоў бацька, сказаў, што хутка за намі прыйдуць машыны, і каб мы ехалі на радзіму. Машыны прыбылі пад вечар. Пасадзілі ўсіх на 5 машын. Разам з машынамі батальёна ехалі ўсю ноч міма разбураных хат і падпаленых самалётаў. Раніцай 23 чэрвеня прыехалі ў вялікі хваёвы лес. Тут у гэтым лесе застаўся наш батальён»

Аэрадромы, якія ўсьпелі пабудаваць у Заходняй Беларусі былі зьнішчаны разам з самалётамі ў першы дзень вайны. Страты ВПС Заходняга фронту за першы дзень вайны склалі 738 самалётаў, палову лічбавага складу. Даведаўшыся аб гэтым, камандуючы авіяцыяй Заходняга фронту генэрал Копец застрэліўся...



Фатаграфія, зробленая нямецкай авіявыведкай. Унізе бачны аэрадром, дзе стаяць у дзьве «лінейкі» крылом да крыла самалёты-бомбаскідальнікі. Дарога вядзе да Нёмна і на мост праз яго... http://s13.ru/archives/17797

Дамо слова дакумэнтам і ўспамінам сьведкаў падзей:

Успаміны жыхара в. Дубна Андрэя Міхайлавіча Сідаровіча, 1926 г. нараджэньня:

«Перад самай вайной каля Скідаля будавалі аэрадром. З вёсак прызначылі людзей вазіць туды на вазах жвір. 21 чэрвеня пад адкрытым небам мы засталіся начаваць у кар'еры, які вартаваў салдат. Ноччу пачулі гул самалётаў і разрывы бомбаў з боку Гродна. Салдату кажам, што пачалася вайна, а ён ня хоча верыць: „Калі б пачалася вайна, то за мной прыехалі б". Для яго можа быць гэта і аргумэнт, а мы кінулі ўсё і панесьліся дахаты. На аэрадроме каля Скідаля тады яшчэ самалёты не базаваліся. На суседнім аэрадроме ў Чарлёне зьнішчальнікаў стаяла дастаткова. Наша дарога дахаты якраз праз Чарлёну пралягала, і бачым такую карціну: ад зьнішчальнікаў на аэрадроме адны толькі шкілеты засталіся, пасьля таго як іх прама на зямлі нямецкія самалёты падпалілі. Лётчыкі сядзяць ля

астанкаў сваіх самалётаў і галовамі ківаюць ад бясьсільля. Тады і мост праз Неман у Луна разбамбілі». (Архіў Мікалая Быхаўцава).




Разьмяшчэньне аэрадрома Чарлёна. Крыніца: http://www.belniva.by/news_full.php?id_news=22039

«Па аэрадрому Чарлёна, дзе базаваўся 16-ы хуткасны бамбардзіровачны полк, і дзе лётчыкі перавучваліся для авалодваньня новымі пікіруючымі бамбардзіроўшчыкамі ПЕ-2, быў зроблены магутны налёт. Пяцьдзесят варожых бамбардзіроўшчыкаў атакавалі самалёты на аэрадроме і зьнішчылі на зямлі 12 ПЕ-2 і 14 СБ». (www.kuraev.ru).

Гэта па афіцыйнай вэрсіі. Але дасьледчыкі задаюцца пытаньнем: «А куды дзеліся 25 „Пе-2“ і 10 СБ?»

Да сёньняшняга часу так і існуюць дзьве вэрсіі падзей над Чарлёнскім аэрадромам і на ім. Афіцыйная вэрсія зацікаўленых асоб — гераічная, і неафіцыйная вэрсія незаангажаваных сьведкаў — трагічная, жудасная і абвінаваўчая. Магчыма праўда дзесь паміж імі.

Але вернемся да падзеяў раніцы 22 чэрвеня.

Васьмёрка малодшага лейтэнанта Дзяругіна С. С. вярталася з патруляваньня над Гродна. У 10.20 каля аэрадрома Чарлёна наткнуліся на групу нямецкіх самалётаў. Пасьля бою самалёты селі на аэрадроме ў Лесішчы. Не вярнуўся самалёт Данілава Андрэя. Яго палічылі прапаўшым без зьве-

стак. Насамрэч паранены пілёт зьдзейсьніў змушаную пасадку ў выніку бою. Вось як выглядае апісаньне гэтага бою Данілавым Андрэем (захоўваецца ў Гарадзенскім гістарычным музэі).



Старшы палітрук Данілаў Андрэй Сцяпанавіч

На сустрэчных курсах, ніжэй сябе, убачылі чацьвёрку нямецкіх бамбавікоў. Атакаваўшы іх сходу, самалёты працягнулі палёт у бок Чарлёны і вынікі нападу не назіралі. На падлёце да аэрадрома, на сустрэчным курсе зьяўілася дзявятка Do-17Z. Паказаўшы сваім лётчыкам «атакуем», Данілаў Андрэй пайшоў наперад. На сустрэчных курсах I-153 адкрыў агонь. Атакуючы ў адзіночку і па асобнасьці вядучага і вядзёнага нямецкай групы, старшы палітрук Данілаў Андрэй патрапіў пад агонь нямецкага зьнішчальніка. Пазьбягаючы атакі і ўстаўшы ў глыбокі віраж, «Чайка» стала зрывацца ў штопар. Пры выйсьці з яго, адчуў тармажэньне левага крыла. Апынулася, што снарад патрапіўшы ў левае верхняе крыло, разарваў абшыўку. Асколкі паранілі твар, левую руку і нагу лётчыка, але палёт працягваўся. Па самалёце забарабанілі кулі. «На імгненьне я адчуў нейкую дзіўную ці-

шыню, што прымусіла пасьпешліва агледзецца навокал. І раптам, з левага боку, да маёй параненай „чайкі“ прыстройваецца Ме-110. Ясна бачу твар лётчыка: чырванашчокі, гарбаносы, у зялёным камбінэзоне, у сіняй пілётцы з крылатай эмблемай. Мы сустрэліся поглядамі, на яго твары ўсьмешка. У запалу гневу рэзкім рухам сэктару газу і рулёў накіраваў самалёт у крыло „месьсеру“. На імгненьне адчуў моцны ўдар, але фашыст не замарудзіў даць поўны газ і адарвацца ад маёй машыны ўгару, а я перавёў самалёт у правае сьлізганьне і імкліва пайшоў да зямлі». На вышыні двухсот мэтраў Данілаў Андрэй перавёў самалёт у гарызантальны палёт і стаў накіроўвацца ў бок аэрадрома ў надзеі сесьці. Аднак з боку Чарлёны паказалася вялікая група нямецкіх бамбавікоў пад прыкрыцьцём зьнішчальнікаў.

Тры зьнішчальніка Ме-109 атакавалі пашкоджаную «чайку» над вёскай Каўшы: «Раптам адчуў моцны ўдар у жывот. Стала бракаваць паветра. Мільганулі ўспаміны з дзяцінства. Неадкладна выключыў матор і прыціснуўшы самалёт у стромкім пікіраваньні прыгатаваўся пасадзіць без шасі на жытняе поле, але пры выраўноўваньні зьнепрытомнеў».

Данілаў ачуняў ад таго, што мясцовыя жыхары Сцепаніда Гурбік і Іван Лапа цягнулі яго па жытнім полі ў бульбяную яму, дзе ўжо хавалася жанчына і чатыры маленькія дзяўчынкі. Потым параненага аднесьлі ў хату Сцепаніды Сцяпанаўны Гурбік. Д. Кіенка ў 2007г. адшукаў адну з тых самых чатырох маленькіх дзяўчынак, што хаваліся ў яме. Яна распавяла: «... маці мая распавядала, што калі бамбавалі аэрадром, зьбілі адзін наш самалёт. Ён здолеў падбіць адзін нямецкі самалёт, але быў зьбіты і зваліўся недалёка ад ямы, дзе мы хаваліся. Лётчык застаўся жывы. Памятаю, яго прывяла маці дахаты і даглядала яго да 24 чэрвеня 1941 г.». Потым яго прывезьлі на возе ў м. Луна ў разьмяшчэньне 4-га пантонна — маставога батальёну і перадалі ваенфэльчару батальёна Ніне Гаруновай. 8 ліпеня 1941 года ў газэтах апублікавалі Ўказ Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР аб пасьмяротным узнагароджваньні ордэнам Леніна лётчыка — зьнішчальніка А.С.Данілава. Але Данілаў вярнуўся ў строй і працягваў ваяваць да Перамогі.

Гэта ліст Георгія Сальнікава. Сакавік, 27, 2005г. Загаловак паведамленьня: Жадаю пазнаць далейшы лёс 16-го ХБАП (хуткасны бамбавальны авіяцыйны полк): «Усім удзельнікам форума дабры дзень! Вэтэранам авіятарам, усім хто жывы, нізкі паклон. Загінулым і памерлым, сьветлая памяць. Я, Сальнікаў Георгій Георгіевіч, сын Сальнікава Георгія Іванавіча стралка радыста 16-го ХБАП. Мой бацька знаходзіўся на лягерным аэрадроме Чарлёна ў момант штурмоўкі немцамі ў 4 раніцы 22 чэрвеня 1941г. Дзесьці ў 52—53 гадах ён мне, хлапчуку, распавёў трагічную гісторыю пачатку вайны. Распавёў, як за суткі да пачатку вайны, з бамбавікоў было зьнятае кулямётна-гарматнае ўзбраеньне, як прачнуўся ад грукату і стральбы. На яго вачах узьляцеў яго камэск Пратасаў і як ён ішоў на таран. Як разумею, ён служыў у яго эскадрыльлі.



Камандзір эскадрыльлі Анатоль Пратасаў

Затым, праз гадзіну зьяўіліся нямецкія матацыклісты, з якімі яны ўступілі ў бой, але неўзабаве зьяўіліся нямецкія бронетранспарцёры з пяхотай і прыйшлося адыходзіць. Дзесьці ў 10—11 раніцы знайшлі кінутую паўтаратонку, бацька выцер мокры трамблёр і завёў яе. На ёй чалавек 20—25 з 16-га палка дабраліся да Ліды, пры іх быў сьцяг палка і штабныя дакумэнты. Іх усіх арыштавалі, але неўзабаве выпусьцілі. Потым бацька лётаў пад Варонежам (лёталі бамбаваць Канстанцу), затым пад Масквой».

Ці не найбольш поўна растлумачвае падзеі ўспамін Асі Барысаўны Фёдаравай-Віршубскай, якая працавала ў ваенгандлі ў 16 хуткасным бамбавальным авіяцыйным полку: «Улетку 1940 на аэрадром у Жалудку селі першыя самалёты, верагодна СБ. Камісарам палка быў Дзьвінскі. У канцы красавіка 1941 года на аэрадром прыгналі каля 200 „зэкаў“ з Калугі. 2—3 траўня 1941 г. полк пераляцеў на аэрадром у Чарлёну. У гэты час на аэрадроме пачалося будаўніцтва паласы. Першы налёт зьдзейсьнены прыкладна ў 4 гадзіны, другі — у 8 раніцы. Пасьля другога налёту самалётаў, прыдатных да палётаў, не засталося. З аэрадрома ўдалося падняцца аднаму самалёту (не ясна, „СБ“ або „Пе-2“) пад кіраваньнем Самарына, якому ўдалося сесьці пад Менскам. У выніку налётаў засталіся толькі 2 „Пе-2“ (не ясна, ці прыдатныя да палёту). Акрамя таго, магчыма, спрабавалі падняцца яшчэ 5—6 самалётаў. Загіблых, акрамя экіпажа Пратасава, тараніўшага СМ, не было. Параненыя і кантужаныя былі. Забітых, ва ўсякім разе, лётчыкаў — не. Тлумачыцца тым, што першы налёт быў зьдзейсьнены на стаянкі самалётаў, а потым — на намётавы гарадок, які да гэтага часу пасьпелі пакінуць і схавацца ў ляску. 23 або 24 чэрвеня, эвакуюючыся на паўтаратонцы, за Наваградкам убачылі групу нямецкіх самалётаў, адзін з якіх дыміў. З яго выскачыла 2 лётчыкі. Іх паланілі і здалі ў камэндатуру. Затрыманьне праводзілі лейтэнант і 4 чырвонаармейцы, якія ехалі ў машыне». (http://edu.grsu. by/rubon/forum/viewtopic. php? t=14).

Але з другой крыніцы: Загінула 15 чалавек, вельмі шмат было параненых і кантужаных. http://www.belniva.by/news_full.php?id_news=22039

Як успамінае Ася Барысаўна, у апошнюю мірную суботу ўвечар быў выдзелены аўтатранспарт і ўвесь кіруючы склад палка, многія лётчыкі паехалі ў Жалудок, да сем'яў. Пратасава тамака чакала жонка Яўгенія Кірылаўна з грудным Ігарком і чатырохгадовай Людмілай. Пілёты клікалі з сабой і Віршубскую, але ў мясцовым лясным «кінатэатры» абяцалі новыя кінафільмы, і яна засталася. Кінасэанс зацягнуўся за поўнач, а ўжо ў 4 гадзіны над яшчэ не пасьпеўшым заснуць лягерам нечакана загулі самалёты: немцы ляцелі бамбаваць чыгуначныя станцыі Чарлёна і Масты.

Толькі ў шасьць гадзінаў раніцы прыбылі з Жалудка машыны з авіятарамі, і намесьнікам камандзіра палка падпалкоўнік Дзівінскі ўпершыню сказаў гэтае страшнае слова: «Вайна!» Лётчыкам загадалі рыхтавацца да вылету, а працаўнікам сталовай — накарміць экіпажы прама ў самалётах, на лётным полі. Ася Барысаўна распавядае, што калі яны ўжо падвезьлі сьняданак да апошняй, пятой, эскадрыльлі, у небе над аэрадромам зьяўілася нямецкая армада з некалькіх дзясяткаў самалётаў.

На далёкіх подступах да аэрадрому ворага спрабавалі перахапіць Данілаў і яго таварышы па 127-му зьнішчальнаму палку, але... Немцы ішлі з розных кірункаў, хваля за хваляй і літаральна засыпалі самалёты на зямлі малакалібэрнымі бомбамі. У гэтым пекле з Чарлёнскага аэрадрому змаглі ўзьляцець толькі два экіпажы, і адзін з іх пайшоў на таран. Гэта быў самалёт капітана Пратасава...




Бамбардзіроўшчык СБ-2М-103 Анатоля Пратасава. Крыніца: http://www.belniva.by/news_full.php?id_news=22039

Капітан Анатоль Пратасаў зьнішчыў нямецкі самалёт Ме-110 таранным ударам свайго бамбардзіроўшчыка СБ-2М-103, пайшоўшы ў лабавую атаку. Агністы клубок з двух самалётаў зваліўся на беразе Нёмана. У асабістай справе пілёта зьяўіўся кароткі запіс: «Забіты ў паветраным бою 22 чэрвеня 1941 года».

Упершыню ў ваеннай гісторыі ён пайшоў на таран варожага зьнішчальніка на бамбардзіроўшчыку, гэта значыць не адзін а з экіпажам з трох чалавек. 65 гадоў спатрэбілася, каб аднавіць памяць аб гэтым учынку. У Чарлёне ля дарогі на Скідаль паміж царквой і магазынам пастаўлены ім помнік. На жаль, каб зрабіць гэты памятны знак, улада не дадумалася ні да чаго лепшага, як зьнішчыць язычніцкі помнік — камень, які ў народзе называлі Турэцкая шапка. Помнік лётчыку і яго экіпажу зрабіў гарадзенскі скульптар, старшыня абласнога аддзяленьня Беларускага саюзу мастакоў Уладзімір Панцялееў. Сам Пратасаў узнагароджаны пасьмяротна ордэнам Чырвонай Зоркі.




22 чэрвеня 2006 г. Адкрыцьцё помніка экіпажу капітана Анатоля Пратасава. Крыніца: http://www.belniva.by/news_full.php?id_news=22039

На пліце, замацаванай на каменю надпіс: «Тут, 22 чэрвеня 1941 года, зьдзяйсьняючы таран фашысцкага зьнішчальніка, загінуў экіпаж бамбавіка СБ-2М пад камандаваньнем капітана Анатоля Пратасава. Гэта — першы ў гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і сусьветнай авіяцыі таран зьнішчальніка бамбавіком». Вядома, на расейскай мове.

Па апублікаваных дадзеных, разам з камандзірам карабля капітанам Анатолем Пратасавым загінулі і абодва іншых чальца яго экіпажа — штурман лейтэнант А. К. Ярулін і стралок радыст Бессарабаў (ці Бесараб; па розных дадзеных — старэйшы лейтэнант ці сяржант). Гэтыя дадзеныя не маюць дакумэнтальнага пацьверджаньня і маюць патрэбу ў дадатковай праверцы.

Успамінае Сенька Ганна з в. Княжаводцы.

«У 10 гадзін я была на станцыі Чарлёна. Там кінуў бомбу нямецкі самалёт. Прыкладна праз паўгадзіны пачуўся нейкі гул. Прыгледзеўшыся, уба-

чыла, што на паўночны захад ад Луны ляцяць два самалёты, за імі яшчэ і яшчэ, да 40 самалётаў. Яны кіраваліся да аэрадрому. Пасьля я ўбачыла як самалёты пачалі разыходзіцца над аэрадромам і пачула гукі разрываў. Падняўся чорны дым, які заслаў увесь аэрадром. З гэтага дыму з заходняй стараны падняліся два самалёты. Першы, адстраляўшыся рушыў на ўсход, а другі на паўднёвы ўсход. Першы быў падпалены за кілямэтры 1,5—2 ад аэрадрома. Ён упаў за цяперашняй дарогай на захад ад вёскі Міклашоўцы недалёка ад лесу. З аэрадрома пачалася страляніна і мы пабеглі за чыгунку ў лес. Калі ўсё заціхла, мы ўбачылі чалавека ў ваеннай форме з страшна абпаленым і параненым тварам. Ён прасіў цывільнага адзеньня. Было яму гадоў 30. Другі самалёт упаў за Нёмнам каля вёскі Ябланова».



Немцы расчышчаюць тэрыторыю аэрадрома Чарлёна. Крыніца: http://vif2ne.ru/rkka/forum/arhprint/93231

У выніку здачы Гродна раніцай 23 чэрвеня па трасе Гродна — Ліда пачалі адступленьне часткі 3-й арміі генэрала В.І.Кузьняцова, штаб якой пераехаў у мястэчка Луна. Нямецкія пляны па акружэньні савецкіх войскаў у Скідзелі не спраўдзіліся. Перад адыходам аддзяленьне У. Д. Аляксандрава з сапёрнай роты школы малодшага камсаставу зьнішчыла чыгуначны мост праз Котру. Наколькі вядома, шашэйны мост зьнішчыць не ўдалося.

Баявое данясеньне. Штарм 3. Лес п-усх. Луна. 24.06.12.10...

«4. Лічу, што праціўнік, абыходзячы правы флянг арміі, наносіць удар у Лідзкім напрамку. Ёсьць небясьпека яго ўдару на Луна і Масты. Мы ніякіх рэзэрваў не маем і парыраваць удар няма чым. Найбольш рэальная сіла 11 мк на працягу 22—23.6, мае вялікія страты ў танках каля 40—50 штук.

5. 56 сд у выніку баёў мае два невялікіх разрозьненых атрады, лікам да 700—800 чал. Значныя страты панесьлі і часьці 85 сд. Страты 27 сд. да 40%. У часьцях склалася цяжкае становішча з боепрыпасамі. Часьці маюць

ад 0,25 да 0, 5 боекамплекта. Не маюць транспарту. Артсклады і базы мне не вядомыя».

Як бачым Луна бараніць не было чым.

А раніцай 25 чэрвеня рэшткі 59-га стралковага палка занялі пазыцыі перад мостам праз Нёман каля Луна. Тут быў сьмяротна паранены адзін з арганізатараў абароны Скідаля палкоўнік Цярэнцьеў.

Былы камандзір 11-га мэханізаванага корпуса генэрал Д.К.Маставенка ў сваіх успамінах адзначае: «На працягу дня корпус вёў баі, а ноччу, пакінуўшы на займаемым рубяжы невялікія атрады, адыходзіў на наступны рубеж... Пры адыходзе драўляны мост каля Луны спалілі, а мэталічны мост у Песках узарвалі».

36-й кавдывізіі было загадана пачаць адыход на ўсход і замацавацца на рубяжы ракі Свіслач, тым самым прыкрыць адыход частак з Беластоцкага выступу. На досьвітку 26 чэрвеня пазыцыя на ўсходнім беразе невялікай рачулкі, якой зьяўляецца Сьвіслач, была занятая.

«...Раніцай таго ж дня стала вядома, што праціўнік фарсіраваў Нёман у раёне Луна і цісьне нашыя часткі ў паўднёвым накірунку. Камандзір дывізіі прыняў наступнае рашэньне: „102 і 24 кавпалкі перакінуць у раён вёскі Рэплі з задачай ня даць магчымасьці праціўніку разьвіваць наступленьне ў паўднёвым накірунку. Камандзіру 24 кавпалку заставіць на рубяжы ракі Сьвіслач адзін узмоцнены эскадрон з узводам станковых кулямётаў“. У раён паўночней Рэплі выехаў і сам камандзір дывізіі разам з начальнікам апэратыўнага аддзела маёрам Сагалінbackspaceым». (www.poisk.slonim.org)

Зьміцер Ягораў у сваёй кнізе «1941. Разгром Заходняга фронту» у Частцы 9 26 чэрвеня, дзень 5-й, піша:

«На пяты дзень вайны баі на рацэ Нёман працягнуліся з ранейшай бязьлітаснасьцю.

Генерал Сахноў разьлічваў вывесьці сабраных ім людзей і аўтатранспарт на паўднёвы бераг Нёмана — у Луна- праз Масты. Аднак у раён Мастоў азначылася выйсьце частак праціўніка. І, як ужо можна лічыць усталяваным, менавіта 26 чэрвеня пасьля ўзяцьця Скідаля і да Луна прадраліся немцы, і ні пра якую пераправу не магло быць і гаворкі. Тут разгуляўся разьлютаваны бой, у якім узмоцненай танкамі і бронетранспарцёрамі пяхоце супрацьстаялі падразьдзяленьні 11-го мехкорпусу і 6-й брыгады СТГ. Недалёка ад Луна на паўночным беразе Нёмана знаходзіўся аэрадром Чарлёна. Усе самалёты, якія знаходзіліся на аэрадроме 16-го бамбавальнага палка 11-й дывізіі, былі зьнішчаны яшчэ 22 чэрвеня, але велізарныя рэзэрвуары з палівам былі цэлыя. Савецкія часткі пасьпелі заняць абарону; танкісты і разьлікі ацалелых гармат прамым навядзеньнем білі па ворагу, які рваўся да пераправы — драўлянаму з аркамі мосту — і да паліва. 679-м СТГП камандаваў маёр Х. Г. Мельнік, але няма дадзеных, ці быў ён жывы 26 чэрвеня. Калі ўтрымліваць мост стала немагчыма, яго аблілі бэнзінам і падпалілі; затым,

пакінуўшы атрад прыкрыцьця, войскі пачалі адыходзіць у бок Мастоў і далей.

Сабраўшы на правабярэжжа Нёмна тылавыя часткі 56-й стралковай дывізіі, яе камандзір С. П. Сахноў павёў іх у кірунку Мастоў, каб пераправіцца праз Нёман і выйсьці ў раён Луна. У раёне заходней Ліды ён сустрэў капітана, відаць, афіцэра сувязі штаба Заходняга фронту, ад якога даведаўся, што штаб 3-й Арміі да таго часу знаходзіўся ў Луна».




Чарлёна. Гармата каля дарогі. Крыніца: http://vif2ne.ru/rkka/forum/arhprint/93231

Вось што пра гэта фота кажа мясцовы жыхар:

«...гэта 100% таксама Черлёна, на першай фотцы відаць гармату каля дарогі, прама ўздоўж яе 23 чэрвеня была лінія абароны зборных частак 85 СД і памежнікаў, яны ўтрымлівалі пераправу суткі, бо за ёй быў штаб 3 арміі літаральна ў 2 км. І ёсьць успаміны, што ў баях на краю аэрадрому была і артылерыя з савецкага боку. Дарэчы, труп, што ляжыць каля згарэўшага матора, гэта салдат з гэтых частак, а не авіятар, усе авіятары сышлі, а сваіх загіблых пахавалі. Загіблых у баях за пераправу пахавалі праз некалькі дзён немцы, зваліўшы ў агульную магілу ў глыбіне лесу за акопамі».

Акунькоў П. М., заг. складам 679 артылерыйскага палку 6 процітанкавай артылерыйскай брыгады ўспамінае: «...Мне запомнілася Луна. Нашы артылерысты занялі абарону ля мосту праз Нёман і прамым навядзеньнем білі па танках і бронетранспарцёрах ворага. Відаць у фашыстаў было на зыходзе гаручае і яны рваліся да рэзэрвуараў. Нашы байцы ваявалі ўстойліва, годна давалі адпор ворагу. Калі ўтрымаць мост стала немагчы-

ма, аблілі яго бэнзінам і падпалілі, балазе пераправа была драўлянай. Адыходзіць пачалі ў бок г. Масты і далей. Пасьля разьлютаваных баёў у жывых, наколькі ведаю, ад брыгады засталося некалькі чалавек... Баі ў Луна і Чарлёне пачаліся ў канцы дня 23 чэрвеня і скончыліся да сьвітанку 25 чэрвеня».



Мост на Нёмне. 1936 г. Фота з матэрыялаў Рут

Некалькі інакш выглядае завяршэньне баёў у Луна ў аповедзе Е. В. Бушман. Яе бацька Бушман Васіль Вільгельмавіч, які служыў у 73 артылерыйскім палку 6 процітанкавай брыгады (камандзір палка маёр Кодыч), удзельнічаў у апэрацыі па падрыву моста. Алена Васільеўна зьвярнулася за дапамогай у музэй баявой славы Луненскай сярэдняй школы дапамагчы ўсталяваць лёс свайго бацькі. Адзіную вестку пра яго яна атрымала ў верасьні 1941 года ад калегі бацькі капітана Кудраўцава. У паштоўцы, якую Кудраўцаў даслаў жонцы В. В. Бушмана, паведамлялася: «Я быў з ім з 4 гадзін раніцы 22 чэрвеня 1941 гады да ночы з 27 па 28 чэрвеня. У гэту ноч мы ўтрымлівалі пераправу праз раку Нёман ля вёскі Луна. Я быў зь ім на мосьце. У 3 гадзіны раніцы мост быў падарваны і частка, у якой служыў В. В. Бушман пачала адыход». Хутчэй за ўсё абодва аўтара гэтых успамінаў у стаўленьні часу зьнішчэньня мосту памыля-

юцца. Баі за мост доўжыліся да 26 чэрвеня, пра што сьведчаць і нямецкія крыніцы.

З кнігі «В июне 1941-го» (кніга 2, Гродна 1999г.):

стар.8. «27 чэрвеня былі адбіты спробы гітлераўцаў захапіць пераправу праз Нёман ля Луна, якую пасьля падарвалі нашыя сапёры».

Стар.89. «Старшы л-т Картухін Георгій Мітрафанавіч 1919 г. нараджэньня ўраджэнец Гомельскай вобласьці намесьнік камандзіра танкавага батальёна «Падразьдзяленьне Г. Картухіна прыняло бой з гітлераўцамі ля Луненскага мосту праз Нёман. Больш за суткі воіны батальёна стрымлівалі люты націск ворага з левага берага ракі.

Радам з імі змагаліся байцы і 204 матамехдывізіі. Пры адбіцьці адной з атак загінуў камандзір батальёна і Картухін прыняў камандаваньне на сябе.

Стрымаць тут націск ворага не ўдалося. Прышлося адступіць да Мастоў і там зноў заняць абарону. Там мост праз Нёман двойчы пераходзіў з рук у рукі».



Аэрадром Чарлёна

З апавяданьня Навіцкага Канстанціна Ігнацевіча 1926 г. нар., в. Камянчаны.

«У 4 гадзіны раніцы нямецкія самалёты разбамбілі Барысаўшчыну. Па расказу сваячніцы, якая працавала на кухні ў лётчыкаў, у ноч з 21 на 22 чэрвеня лётчыкі наладзілі гулянку на прыродзе з жонкамі і дзецьмі. Напіўшыся, многія заснулі, хто на стале, хто пад сталом. А заранку чуць сьвет усё было зьнішчана. Такога жаху я ня бачыла, сама ледзьве за-

сталася жывой. Так быў зьнішчаны аэрадром Барысаўшчына. У 4 гадзіны раніцы ўсе самалёты былі зьнішчаныя. У 8 гадзін раніцы быў зроблены налёт на аэрадром у Чарлёне. Можна было бачыць, як чырвоныя воблакі падніmaліся ўверх. Гарэлі склады паліва, гарэлі самалёты разам з лётчыкамі. Казалі, што быў загад лётчыкам сесьці ў самалёты, але ў паветра не паднімацца. І вось адзін самалёт «кукурузьнік» падняўся ў паветра, праляцеў на невялікай вышыні над Луна і, не далятаючы да Падбаранаў быў зьбіты нямецкім самалётам. Хлопцы бегалі глядзець як загінуў самалёт разам з лётчыкам. Жыхары вёскі Падбараны хавалі гэтага лётчыка. Прозьвішча і імя яго знае Якубчык Міхаіл з в. Падбараны. Адступалі салдаты прасёлкавымі дарогамі. Па шашы Гродна-Луна самалёты ганяліся за кожным паасобным салдатам. Жыхары нашай вёскі давалі адступаючым хто што мог. Пераважна малако і бульбу.

Праз тыдзень пасьля бамбёжкі мы рашылі наведаць родных у Чарлёне. Прайшлі праз ПАНТОННЫ МОСТ. Немцы ўжо яго зрабілі. За мостам уздоўж дарогі на Пладовую ляжала многа мёртвых лётчыкаў, што відаць было па адзеньні. Вельмі многа забітых ляжала каля аэрадрома. Самалёты стаялі па ўсёй тэрыторыі абгарэлыя, некаторыя — узарваныя. Усюды відаць варонкі ад разрываў бомбаў».

У 2001 годзе былі праведзены раскопкі на адным з невядомых пахаваньняў у раёне вёскі Луна. Былі выяўлены рэшткі 9 загіблых ваяроў. На жаль, захаваўся толькі адзін салдацкі мэдальён. Ён прыналежаў З.І.Прысяжнюку, выхадцу з Хмяльніцкай вобласьці Ўкраіны. 23 лістапада 2001 г. рэшткі знойдзеных загіблых з усімі ўшанаваньнямі былі перапахаваны ў брацкую магілу ў вёсцы Залескі Мастоўскага раёна Гарадзенскай вобласьці.

Пасьля пачатку Вялікай Айчыннай вайны выйшаў Дэкрэт Прэзыдыюма Вярхоўнага Савету СССР аб амністыі і вызваленьні польскіх ваеннапалонных. У гэтай сувязі на тэрыторыі СССР зь ліку палонных Войска Польскага пачалося стварэньне 75-тысячнага польскага войска на чале з генэралам Уладыславам Андэрсам. Каб ратавацца з савецкіх лягераў ішлі ў армію Андэрса многія беларусы. Падчас гутаркі з Сталіным у сьнежні 1941г. Андэрс на заўвагу першага, чаму ў шэрагі польскага войска трапляюць беларусы і ўкраінцы, адказаў: «Яны вельмі добрыя вайскоўцы, бо я памятаю, як геройскі яны змагаліся ў верасьні 1939г». 11 воінаў з Гродзенскага павету пахаваныя на могілках Монтэ Касіна. Сарод іх Алізар Нікадзім (нарадзіўся 30.12.1907) старшы стралок 16-га стралковага батальёну з вёскі Камянчаны. Загінуў 12.05.1944, пахаваны у сэктары 6 месца 19. Камянчаны знаходзяцца за 4 км на паўднёвы захад ад Лунны, у пісьмовых крыніцах згадваюцца ў 16 стагодзьдзі, як сяло Каменны Мост.

Прыйшоў час расказаць пра лёс нашага земляка жыхара з Луны Яна Вежаля і пра нашчадкаў паўстанца Яна Каменьскага, якія па волі лёсу папалі ў віхуру гэтых жудасных падзей.

# Луна-час пакуты

І ня бойцеся тых, што забіваюць цела
але ж душы забіць ня могуць; а бойцеся
болей Таго, Хто можа і душу, і цела
згубіць у геене. Мацьвея 10:28

## Лёс Луненцаў падчас Савецкай акупацыі

1 верасьня 1939 г. Казіміра Стралкоўскага выклікалі на вайсковую службу ў Луна, дзе на могілках спачываў яго дзед паўстанец. З тых часоў засталіся ўспаміны дачкі Казіміра і Хані Соф'і. Але вернемся назад у часы царскай акупацыі, каб было зразумелым, хто такі Казімір Стралкоўскі і зьвязаныя зь ім падзеі.

Трагічны лёс не спыніўся на Яне Каменьскім, але ў сваёй незразумелай несправядлівасьці падоўжыўся на яго нашчадкаў.

Ян Каменьскі — паўстанец і цывільны кіраўнік Луненскай акругі ў Паўстаньні 1863 г. з каханай жонкай Лявоніяй-Лоцяй з Сузінаў мелі, акрамя памёршага ў Сыбіры навароджанага сынка, яшчэ тры дачкі. Старэйшая Янка вучылася на курсах у Пецярбургу. Вярнуўшыся ў Мінявічы, пачала тайком вучыць дзяцей, за што была арыштавана і, захварэўшы на сухоты, памерла.

Пасьля сьмерці Яна і Лоці іх дочкамі Стасяй і Мар'яй заапекавалася Эліза Ажэшка. Аб Стасі Каменьскай пісала так: «Адна з найлепшых істот, якіх знаю, а цяпер для мяне найбліжэйшых».

Але і Стася не вызначалася добрым здароўем. Жыцьцё ў Мінявічах для яе было больш спрыяльным, чым у Гародні. Выйшла замуж у 43-гадовым узросьце за дробнага шляхціца, учцівага і прыстойнага чалавека Клеманса Стралкоўскага. Падобна да прарочага апісаньня ў «Над Нёмнам».

Мар'я, ці як яе называлі-Манюся, вучылася ў «тайным унівэрсытэце», арганізаваным Элізай Ажэшка, на курсах гісторыі і літаратуры. У 1900 г. Выйшла замуж за Андрэя Дмахоўскага і ліставалася з Элізай Ажэшка, якая з чуласьцю ёй пісала: «Часта ў дамовым кругу нашым успамінаем цябе з чуласьцю і жаданьнем, каб табе як найлепш было на сьвеце». У яе дачкі Ванды Дмахоўскай на Варшаўскай Ахоце на вуліцы 1 жніўня захаваўся збаночак і некалькі кубкаў, дзе ружовыя матылькі лятаюць над залатымі ружамі. Гэта з Мінявіч. А яшчэ мініяцюра з вобразам бацькі Яна Камень-

скага — паўстанца Юзафа, маршалка Гарадзенскай шляхты, які пахаваны ў Луне ля касьцёла. Ёсьць фота з паблёклым лесам крыжоў. Гэта Сыбірскія магілы паўстанцаў і іх блізкіх. Многа фатаграфій з Мінявіч-правобраза Корчына з рамана «Над Нёмнам».



Станіслава і Яніна Каменьскія

У Стасі і Клеманса лёс патачыўся, як у большасьці жыхароў Беларусі. У 1904 г. Нарадзілася дачка Соф'я, у 1905 — сын Казімір.

У гады Першай Сусьветнай вайны быў спалены двор, дзе пані Эліза Ажэшка пісала «Над Нёмнам». Цэлым застаўся дом Клеманса Стралкоўскага ў Багатырэвічах. Летам 2008 г. пачалося і цалкавітае яго зьнішчэньне. Ужо стаіць ён без даху… Але выкупіць дом зацікаўленым грамадзкім арганізацыям улады не дазваляюць.



Клеманс Стралкоўскі з жонкай Ствніславай і дзецьмі (1903 г.)

У Казіка закахалася Ханя Букавіцка, якая вярнулася аж з Ташкенту, куды былі высланыя яе бацькі ў 1905г. Закахалася і выйшла замуж. Сталі жыць у Варшаве, дзе займелі дзетак Януша (1927) і Соф'ю (1930), названую так на чэсьць цёткі Соф'і, якая стала назарэтанкай. Казік закончыў у 1931г. Сельскагаспадарчую Акадэмію і вярнуўся над Нёман. Яго мама Станіслава Каменьска ўжо ў 1926 г. памерла. Маладыя адрамантавалі сабе драўляны домік і сталі гадаваць трох дзяцей, бо ў 1934г. нарадзіўся наймаладзейшы Збышак.

Надышоў 1939 год. З-за мяжы несьліся заклікі: «Белорусы, убивайте своих панов! Подготовьте нам дорогу!». Усе казалі, што трэба ўцякаць у Польшчу. Але стары Клеманс сказаў, што з Багатырэвіч ня рушыць. Угаворы Хані не дапамаглі. Удалося толькі адправіць старэйшага сына

Януша. Стары Клеманс дапамагаў людзям як лекар і як заступнік на просьбы жонак арыштаваных членаў КПЗБ. Спадзяваўся, што гэта яму дапаможа. Мыліўся. І бацьку і сына арыштавалі 24 кастрычніка ноччу. Ледзьве пасьпелі адзецца. Трымалі спачатку ў Квасоўцы, апісанай Элізай Ажэшка ў навэле «Сьмерць дому». Ханя з перадачай дабралася за 15 км да Квасоўкі. Спаткалася. Казік падтрымліваў саслабеўшага бацьку і пытаўся пра Збышка, які цяжка хварэў на запалене коснага мозгу. Яшчэ запытаўся: «Ці знаеш тых, што па мяне прыйшлі?» -«Так, куплялі ў яго рыбу». Сказаў: «Запомні. Не хачу, каб якая маці ці ўдава з-за мяне плакала».



Ханя Букавіцка

Вярнуўшыся, пабегла па Мінявічах зьбіраць подпісы. Ніхто не адмаўляў. Але не пасьпела. Арыштаваных у Квасоўцы не было... Шукала ў Гродна, Беластоку... Дарэмна. Пакінуўшы 10-гадовую Соф'ю з старымі цёткамі, з хворым Збышкам і старою маткай паплыла ў Гродна ў шпіталь. Ноччу прыйшлі, загрузілі цётак на вазы. Старыя ачунялі толькі ў Скідалі і залямантавалі, што ім не патрэбна чужое дзіця. Дазволілі заставіць. Дзяўчынка з плачам глядзела, як ад'язджаюць вазы... Так уратавалася ад Сыбіры. Першы раз.

Вярнулася ў Багатырэвічы ў разгар рабаваньня дому. Якісьці добры дзядзька запытаўся: «Што хочаш?» -«Дайце мне ляльку». Былі добрымі-далі ляльку. Нікому не спадабалася сподняе з вышытымі нумарамі-бялізна паўстанца з катаргі. Кінулі вар'яту Дадушцы. Той, шчасьлівы, кінуўся ў наднёманскі гушчар. Кіраваў рабункам халоп Мікула.

Вярнулася Ханя з Збышкам і старой маткай на пустое месца. Людзі з Багатырэвіч і Мінявіч прыносілі хто што мог. Да ўсяго захварэлі на тыф. Каб не Казімір Багатырэвіч, памерлі б. Калі з наступным арыштам прыйшлі бальшавікі, то ўбачылі на зямлі тры амаль трупы. Рашылі, што і так памруць. Так уратаваліся ад Сыбіры ў другі раз.

Хоць не зайздросным было тое ратаваньне, але многім не ўдавалася і такое. У запісах Вітольда Карпызы захаваліся ўспаміны Ірэны Алізар аб часах савецкай акупацыі ў Луна.

«Што тычыць арыштаў і вывазу жыхароў Луны ў гадах 1939—40, то ня вельмі многа памятаю, бо жыла тады ў Сьвіслачы. Магу, аднак, удакладніць. Арыштаваныя былі: Ян Вежаль, Ян Швед, абое праўдападобна не вярнуліся ўжо ніколі. Станіслаў Куніцкі-кавалер Ордэну Віртуці Мілітары, Казімір Шчырскі-швагер майго айчыма, Ігар Калішэвіч-сын ксяндза праваслаўнага падпаручнік войска польскага. Гэтыя трое з арміяй Андэрса перабраліся на Захад. Станіслаў Тарасовіч і Эдвард Тарасовіч арыштаваныя ў Вільні. Бацька Эдвард памёр або забіты ў турме. Эдвард Лунеўскі і Казімір Лунеўскі-асаднікі, арыштаваныя і не вярнуліся. Вывезьлі ж: Сабіну Шчырскую-сястру айчыма да Казахстану. Па доўгіх і трудных падарожжах злучыліся з Казімірам у Лондане. Абое ўжо не жывуць. У 1987г. памерла таксама іх дачка Марыя Трывусь. Гэлена Шуроўская настаўніца і загадчыца школы ў Луне, таксама ўжо не жыве. Але ня ўпэўнена, што памерла ў ссылцы. Марыя Гавэнцкая з Шведаў, дачка Яна, сястра афіцэра 3 палка PSK, жонка паліцэйскага з маткаю і дзецьмі вывезена да Казахстана. Пасьля вайны жыла ў Элку. Станіслаў Кундзіч таксама ніколі не вярнуўся».



Праўнук і праўнучка Студзеньскага паўстанца Яна Каменьскага Соф'я і Збышак. 4 разы ацалелі ад Сыбіры

Праз некаторы час па вёсках і мястэчках мясцовая ўлада аб'явіла, каб тыя, хто хоча выехаць у Польшчу, зьбіраліся да ад’езду. Але Ханя сказала, што вельмі любіць Савецкі Саюз і хоча жыць толькі тут і нікуды выяжджаць ня хоча. Так уратаваліся ад Сыбіры ў трэці раз. Бо тых, хто паверыў, павезьлі ў Сыбір.

Але гэта былі толькі адтэрміноўкі. У наступны прыход заставілі толькі хворую старую Лявонію з Сузінаў Букавецку. Ханя, Збышак і Соф’я, загружаныя ў вагоны для перавозкі жывёлы, рушылі ў Сыбір. Цягнік разбамбілі немцы. Так уратаваліся ад Сыбіры ў чацьвёрты раз.

Маладзенькая прыгажуня-жонка Яна Вежаля Рэгіна з Луны не была такой шчасьлівай. Яна з двухгадовым сынком без ніякай адтэрміноўкі апынулася ў вагоне для перавозкі скаціны. У люты мароз вывезены яны былі ў засьнежаны стэп Казахстану. Хлопчык выжыў. Жыве ў Луне і можа асабіста расказаць свае адносіны да ўрачыстых слоў: «За детсво счастливое наше спасибо родная страна». У сына Яна Вежаля Мар’яна засталіся здымкі з луненскай фотамайстэрні, што падцвярджаецца адбіткам на адваротным баку «Lunna 1937r». На адны са здымкаў бачым прыгожага юнака ладна ўбранага з высакародным спакойным выразам твару. Няма разгубленасьці ці непакою, злосьці ці недаверу…



Ян Вежаль перад вайной

Наступны здымак прэзэнтуе ўборы луненскіх паненак, якім пазайздросьцяць хіба і сёньняшнія луненскія модніцы.



Разам з сяброўкамі Янкава каханая, першая зьлева.

У 1938г. Ян з Рэгінай ужо маюць невялікі «Хрысьціянскі склеп спажыўчы», названы так, каб вылучыцца з шэрагу многіх габрэйскіх крамаў.




«Хрысьціянскі склеп спажыўчы» Яна Вежаля. 1938 г.

Неўзабаве зьяўіўся жаданы сынок, названы Мар'янам. Але набліжалася нешта страшнае. Яна прызываюць у войска. Мундзір яму вельмі да твару. І наступнае фота ў ваеннай форме. Але паміж імі — вечнасьць, страшная ў сваёй нечаканасьці і нялюцкасьці... Спачатку бальшавікі арыштавалі толькі Яна. Ён застанецца жывы, але ўжо ніколі ня ўбачыць ні сваю каханую прыгажуню-жонку, ні луненскіх прынёманскіх краявідаў...


Ян у школе сяржантаў перад вайной



Ян Вежаль у школе сяржантаў. 1939 г. І Ян Вежаль у Арміі Андэрса

У 1992 г. сустрэнецца з сынам... У Беластоку. Прыехаць на Радзіму не адважыцца, хоць ваяваў з фашыстамі ў Арміі Андэрса. Гэта потым. А пакуль... Расказваў сыну, што ў арышце яго білі на зьмену бесьперапынна, каб прызнаўся ў тым, чаго не было і чаго ня ведаў. Калі каты змучыліся, сьледчы праявіў «чалавечнасьць», сказаў: «Калі хочаш жыць, падпішы, бо заб'юць да сьмерці». Падпісаў усё. Да сьмерці не даведаўся, што падпісаў. Яшчэ дзевяць сутак праседзеў у камэры сьмертнікаў. На дзясятыя прыйшоў эНКаВэДыст і сказаў: «Радуйся, Сталин подарил тебе жизнь». Завязьлі ў Комі АССР на лесапавал ля Ухты. Адтуль папаў у Армію Андэрса. Гэта было ўратаваньне. Пасьля заканчэньня вайны апынуўся ў Англіі.

1992г. Бацька і сын. Ім ёсьць што расказаць адзін аднаму. Сын ужо змог прыехаць у Беласток. Бацька мог прыехаць у Луна. Не адважыўся... Ці не схацеў? Больш не сустрэнуцца.



Ян і Мар'ян Вежалі. Сустрэча сына з бацькам праз 53 гады ў Беластоку. 1992 г.

На фота з туманнага Альбіёну глядзіць шыкоўны мужчына з пальчаткамі ў руцэ. Не вярнуўся ў Луна. Вярнуўся яго сябра Емяльянчык Сяргей. Дастаў восем гадоў лягернай высылкі.



Ян Вежаль у Англіі

У далёкай Англіі ў Бірмінгеме магіла луненскага хлопца Яна Вежаля-бальшавіцкага лягерніка, героя –воіна, змагара з фашызмам у шарэнгах польскай Арміі Андэрса.




Магіла Яна Вежаля ў Англіі

Аб чым расказваў сын?

Хоць Мар’яну тады было толькі два гадкі, але падзеі, якія адбываліся, былі настолькі нахабнымі, нечалавечымі, што некаторыя з іх урэзаліся ў памяць на ўсё жыцьцё. Везьлі «злачынцаў» у люты мароз у скатавозах-таварных вагонах без ніякага ацяпленьня. Раніцай на прыстанку адчыняліся дзьверы, у вагон залазіў эНКаВэДзіст і выкідваў у дзьвярны праём замёрзлыя трупікі немаўлят. Мар’ян выжыў, бо маці ўвесь час трымала яго пад спадніцай ля жывата. Да фізычных пакутаў дабаўляліся маральныя. У туалет трэба было хадзіць на вачах усіх у дзірку ў падлозе вагона. Найстрашней гэта было рабіць маладзенькім дзяўчатам, якія выхоўваліся зусім па іншым правілам і каштоўнасьцям. Ці можна апісаць пачуцьці людзей, якія бальшавіцкай уладай былі пастаўлены ў такое становішча? Удалую спробу такога апісаньня зрабіў Юзаф Галема.

Нарадзіўся 19 сакавіка 1931 г. у Асадзе Жылічы (7 км ад Луны). Бацька — заслужаны легіянэр Пілсуцкага, арыштавана НКВД у лістападзе 1939 г., а дзевяцігадовы Зюк з маткаю і яшчэ двума братамі і сястрою вывезены ў Сыбір. У 1944 г. перавезьлі іх у «совхоз» на Украіну адкуль у 1946 вырваліся ў Польшчу.

Юзаф Галема назваў сваю кнігу «Кара Божая» (Dopust Boski). Лёс сваёй сям'і прысуджанай да высылкі ў Сыбір апісвае з пункту гледжаньня дзіця-

ці, якім ён быў тады. З дакладнасьцю, як быццам час спыніўся назаўжды ў месцы, дзе страціў дзяцінства. З дзіцячай цікавасьцю ўспрыманы сьвет быў незразумелы, таму што ніхто не ведаў, за што, чаму сустрэла яго гэта «кара Божая». Па-свойму, аднак, было неабходна любой цаной выжыць, каб вярнуцца ўсмуткаванага дому. Перажытае засталося сьвежым, час не сьцёр памяць крыўды, захавалася кожная маленькая дробязь, спраўджваючы падзеі. Таму шчыра раю, каго цікавіць лёс блізкіх, лёс землякоў, нечалавечы твар Савецкай сыстэмы, прачытайце гэтую кнігу нашага земляка.



Мар'ян з мамаю (зьлева) у Казахстане

У Казахстане выкінулі, застаўшыхся жывымі, у пусты засьнежаны стэп. Людзі голымі рукамі разгортвалі сьнег, нажамі, лыжкамі... капалі норы, каб схавацца ад пранізьлівага ветру і сагрэцца хоць цяплом сваіх целаў. З цягам часу норы пашыраліся да нечага падобнага на зямлянку. Мар'ян з маткай выжыў, бо ім дала прытулак казашка, муж якой быў на вайне. Маці пачала хадзіць на працу ў калгас. Малому казашка давала камяк воўны, каб

ён яе разьбіраў. За працу атрымліваў кавалак ляпёшкі, таму ласкава называў казашку Майнушка. Восеньню «жыравалі». Можна было тайком назьбіраць каласоў на полі пасьля ўборкі, выцерушыць рукамі і змалоць на жорнах. Гэта ўжо быў ХЛЕБ, а значыць ратаваньне ад галоднай сьмерці...

## Выратаваньне вайной

Пад разрывамі бомбаў цягнік спыніўся. Дзьверы вагона рассунулі два маладых чыгуначніка з крыкам: «Ратуйцеся, немцы хочуць усіх забіць!» Тут жа немцы загадалі ўсім выйсьці з вагонаў і выстраіцца ў рад. Ханя ў адчаі не магла вырашыць, што рабіць з хворым Збышкам. Калі немцы будуць усіх забіваць, то можа ён уратуецца ў вагоне? Запытала: «Сынок, нас будуць забіваць. Можа застанешся тут? Можа выжывеш?» -«Я хачу з мамаю» - адказаў хлопчык. Узяла яго на рукі і стала ў шарэнгу.



Казімір Стралкоўскі

Гледзячы на гэту шарэнгу, эсэсаўцы рагаталі. Адзін з іх казаў: «Завязем вас да Варшавы. Няхай людзі бачаць, якіх злачынцаў камуністы высылаюць у Сыбір». Неўзабаве жарты скончыліся. Немцы сказалі, што заб'юць усякага, каго праз 30 хвілін застануць у гэтым месцы. Ксёндз арганізаваў вазы. На адным зь іх заехалі ў Квасоўку і зайшлі ў касьцёл памаліцца. Падышоў

ксёндз і сказаў, што пазнаў іх і, што тут загінулі іх бацька і муж. Збышак, які месяц не хадзіў, пачуўшы гэта, устаў і пайшоў. Ксёндз паклікаў сьведку, які паказаў бярозу. Ханя раскапала яшчэ не зьляжалую зямлю і пазнала паліто бацькі і кашулю мужа. Так загінуў унук Яна-паўстанца, які «...залацістай славаю абвіты ляжаў на крывавым воблаку цішы, смутны, у далёкі зубок блакіту загледжаны...».

Пахавалі яго каля дзеда пад драўляным крыжам, які Збышак выразаў з наднёманскага дзерава. Праз год крыж зацьвіў. У 2018 годзе магілу адшукалі пры дапамозе ксяндза Люцыяна Радомскага і намаганьнямі Консульства РП, Звязу Палякаў і Станіслава Вайцеховіча на магіле усталяваны крыж.



Крыж на магіле Клеманса і Казіміра Стралкоўскіх (2020 г.)

З успамінаў Ірэны Алізар: «У часы акупацыі нямецкай арыштаваны Бутрым (ня помню імя), які меў у Луне краму. Не быў перад вайною жыхаром

Луны. Баўмгардт прыехаў да Луны ў час акупацыі з жонкаю і трыма дочкамі. Зяць яго быў арыштаваны за АК у Мастах. Відавочна немцы знайшлі і цесьця ў Луне, верагодна таксама за АК. У часы гітлераўскай акупацыі другіх арыштаваных ня помню, акрамя існаваньня АК і палякажэрчага камітэту Беларускага на чале з лекарам — эмігрантам расейскім Разнатоўскім, які жыў у Падбаранах (3 км ад Луны). Не ўдалося немцам вырабіць палякам большай крыўды дзякуючы таму, што мая мама добра знала нямецкую мову. Паколькі жылі мы блізка жандармэрыі, мама была часта перакладчыцай. Камэндант жандармэрыі быў люты гітлеравец. Гэты часта наведваў нас і аптэку з мэтай, каб спраўдзіць, ці не выдаецца перавязачны матэрыял без кантролю (абавязвала тэрміновае паведамленьне ў такіх выпадках), ці хто падазроны ня круціцца ў аптэцы, ці таксама ў нас у хаце. Аднаго дня гаворыць, што ёсьць у нас тайная арганізацыя. А мама кажа-арганізацыяй павінен кіраваць хтосьці разумны, а ў нас у Луне самыя дурні. У нас пан часта бывае і бачыць, ніхто тут без патрэбы не бывае. Жандару страшна спадабалася, што палякі гэта дурні і амаль у гэта паверыў. Між тым папярэдзілі мы сяброў АК (Салдатаў дакладней, бо былі гэта прафэсіяналы: Росьлік, Сюдай, К. Тарасовіч, А. Плахетка), каб захоўваліся вельмі асьцярожна, асабліва на пераправе праз Нёман (мост быў узарваны). Нас сачылі пад вокнамі- на адхілах заўсёды былі адбіткі ботаў салдацкіх, а сам камэндант па некалькі разоў на дзень наведваў аптэку і наша жыльлё. Нічога ў Луне ня выкрыў, а тым часам разьнеслася пагалоска, што на Разнатоўскага пару разоў нападалі савецкія партызаны і ён выехаў у Гродна, вядома, баючыся іх. І тут жандар размаўляе з мамаю на гэту тэму, што пані думае аб Разнатоўскім і партызанах? Мама: «Лічу, што гэта бедны чалавек. Так яго далягалі, што мусіў пакінуць дом і маёмасьць». Жандар: «І пані верыць у гэтыя напады? Гэта недарэчнасьць. Ён гэта разыграў. Запрасіў нас да сябе і засыпаў даносамі на палякаў, потым даносы прысылаў слугою, а нарэшце поштаю... Праверыў, што даносы не былі праўдзівыя. Знаю, што ніхто на яго не нападаў, не гледзячы на гэта, дазволіў яму выехаць у Гродна. Няхай сабе едзе».

Жыхарка Луны Троцкая Любоў успамінае: «Нямецкая камэндатура была дзе цяпер банк. (Філія банку зачынена і дом прададзены ў асабістую ўласнасьць. Аўт.) У маі 1942г. нас паліцаі забралі (мяне з бацькам). Разам забралі Наташу Стрэшку, Лізу Ігнацюк, Валю Вазьняк, Маню Трубецкую. Спачатку завязьлі нас у Сувалку. Там нас прадавалі за 1,5 маркі за аднаго рабочага. Затым я папала ў Кукурнезе (?) у Германіі. Даілі кароў, кармілі сьвіней, хлеб убіралі. Бацька ад мяне быў далёка Ў Кенісбергу. Там памёр. Вызвалілі нас у сакавіку 45 г».

Немцы выгналі Ханю з дому. Прытуліліся ў імяніньніка бацькі Казіміра Стралкоўскага –Юрасіка. Бралася за любую работу, каб выжыць. Моладзь уцякала ў партызаны. Соф'я хацела ісьці з імі, але маці не пусьціла. Летам 1944г. па Нёмне плылі трупы немцаў і чырвонаармейцаў. Памешчыцу Стралкоўскую ратавалі сяляне Адам Стацкевіч, Ізыдар Багатырэвіч...

## «Бальшавікі нас вызвалілі...»

З успамінаў Ірэны Алізар: «Пасьля другога ўварваньня Саветаў панавала роспач, але больш не было забойстваў, як падчас першага ўварваньня (напрыклад, у 1939 годзе расстралялі на вачах ва ўсёй сям'і дэпутата Сейма, калеку-п. Баладзя і многіх іншых, у асноўным уладальнікаў маёнткаў, якіх яны называлі „памешчыкамі“). Але пасьля „вызваленьня“ рускія таксама былі жудасныя. 12-га і 13-га сьнежня 1944 года рускія вырашылі ачысьціць свой тыл і арыштавалі ўсіх палякаў ад Вільні па Станіславаў і Цярэспаль-усіх мужчын, м. інш. некаторых беларусаў. Бацьку, яго брата і сына павезьлі ў лягер».

«Бальшавікі нас вызвалілі 15 ліпеня 1944г. Ужо 12 і 13 студзеня гэтага года пачаліся масавыя арышты палякаў (у невялікай частцы і беларусаў). У Луне арыштаваны: Юзэфа Трацьцяк, Віктар Трацьцяк, Мячыслаў Трацьцяк- сям'я айчыма. Вінцэнт Аляксейчык-мой дзед, тады 64-гадовы, Казімір Тарасовіч, Яўген Булай-лекар праваслаўны, але разумеючы па-польску, яго брат Анатоль Булай, Антон Кадзевіч, Юзаф Лунеўскі, Станіслаў Швед і многія другія. Клікс-асаднік ваенны. Ян Сезенеўскі арыштаваны ў 1945г., падафіцэр прафесійны кіраўнік партызанкі ў ваколіцах Сезяневічы-Эйсманты-Індура, таксама яго брата (забыла імя). Знаю Паўла Сезянеўскага, пляменьніка Яна, бо разам са Скідзеля высылалі мы пасылкі да сваіх блізкіх, што было не малым дасягненьнем, бо пасылак прымаць не хацелі. Я вынайшла такі спосаб, зь якога карысталіся многа асоб і пасылкі даходзілі. Зразумела, давалі тоўсты хабар начальніку пошты. Неабходна была таксама мая пратэкцыя і прысутнасьць. Знаю, што Ян Сезянеўскі не вярнуўся з лягераў у Комі. Вярнуўся затое яго брат і бацька Паўла, які таксама ўжо не жыве. Аляксандр Антушэвіч... майго добрага кузэна. Вярнуўся з Комі АССР (усе ў той час там знаходзіліся), цяпер ужо не жыве. Браніслава Стэрповіча.

У ліпені 1948 г. пачаліся новыя арышты ў Луне, у тым ліку была мая мама і я. Выдаў нас Мячыслаў Занеўскі, адзін з салдатаў АК. Перад трыбуналам ваенным у кастрычніку 1948г. стаяла нас 19 асоб. Некаторыя былі з ваколіц Луны, іх нават ня ведала.

Адольф Плахетка-камандзір атрада «Сіп». Памёр у 1991г. Аляксандр Кананові́ч, Цэзар Кананові́ч-браты. Аляксандр Шчырскі-памёр у лягеры. Юліан Станюкевіч-памёр у 1957г. у Луне. Казімір Алізар. Урбановіч (ня помню імя). Юзаф Міхалкевіч. Мечыслаў Занеўскі. Юзэфа Трацьцяк-памерла ў 1982г. Браніслава Дамброўская-памерла ў 1984г. Леакадзія Багуцкая, Эмілія Плахетка-Пажарская. Ірэна Алізар. Дзьве асобы былі вызваленыя: І. Драчынская і адзін мужчына (ня помню прозьвішча). 2 асобы атрымалі па 10 гадоў лягераў, а 15, якіх назвала (адной прозьвішча ня помню) былі асуджаны на найвышэйшы карны вырак на 25 гадоў у лягеры аддаленыя (у той час кара сьмерці была забаронена), 5 гадоў пазбаўленьня правоў

грамадзянскіх (ссылка) і канфіскацыі маёмасьці. З турмы ў Гродна паступова вывезена нас да Тайшэту (Усходняя Сыбір Іркуцкая вобласьць) у лягер спэцыяльнага рэжыму. Рэжым быў сапраўды «спэцыяльны», а я дадаткова яшчэ папала да лягеру карнага без ніякай на гэта заслугі. Усе 500 былі мы туды дастаўлены на аснове якогась ключа. Пражыла там год такі жудасны, які можа быць толькі на самым дне пекла. Я адна з 15 туды папала. Роўна ж адна толькі была вывезена на Калыму, да лягеру, з якога ўжо не вяртаюцца згодна з прысудам Сталіна. Паступова ў 1956г. вярталіся з гэтага пекла на зямлю, хто, відавочна, выжыў. Частка з гэтай групы рэпатрыявала да Польшчы, некалькі асоб надалей жыве ў Луне, ці ў ваколіцы, частка ўжо не жыве». (З ліста Ірэны Алізар ад 20.06.1991 г.).



Полькі — вязьняркі калымскіх лягераў пасьля вызваленьня. Зьлева направа: Ірэна Алізар, Марыя Малец, Ядвіга Кісялеўская

«Мушу яшчэ вярнуцца да лёсу палякаў рэпрэсаваных у гадах 1944—1945. Так вось частка з іх была асуджана ў лягерах, звычайна на 8 гадоў. Не ўсе відавочна выжылі. Мая сям'я неяк пазьбіралася. Брат вярнуўся праз год-не судзімы, айчым і яго брат-праз 2 гады-таксама не судзімыя. Дзед быў спачатку ў ссылцы, адкуль уцёк дадому. Праз некаторы час зноў быў арыштаваны, асуджаны і вывезены ў Комі. Зважаючы на дрэнны стан здароўя адпусьцілі яго... Памёр у 1952 г. ад інфаркту». (З пісьма Ірэны Алізар).

Даведка. Ірэна Тэрэза Алізар (1926—2005).

Актыўная гарцэрка, салдат АК, актывістка «Салідарнасьці». Яна нарадзілася ў Луне ў інтэлігентнай сям'і. Вучылася ў школе ў Сьвіслачы. Арышта-

ваная ў 1948 годзе, прайшла праз цяжкае сьледзтва ў турме ў Гродне, была асуджана да 25 гадоў савецкіх лягераў. У жудасных лягерных умовах заставаўся чалавекам незвычайнай сілы духу. Праз год пасьля вызваленьня (1956) выехала ў Польшчу. У савецкай рэчаіснасьці не было для яе месца ў сваёй Радзіме.

У 1947г. Зося (Соф'я) упала з яблыні і зламала хрыбетнік. Як сірату-калеку яе ўдалося перапрaвіць у Польшчу. Там чакаў яе старэйшы брат Януш і цётка сястра-назарэтанка Інэс (Соф'я). Унучка Яна-паўстанца стала назарэтанкай у Альбано пад Рымам. Закончыла філялёгію ў Ягелоньскім унівэрсытэце. У часы акупацыі тайна навучала у Варшаве, ад 1943г. апекавалася вязьнямі ў Кельцах. У лютым 1945г. заснавала ў Кельцах гімназію імя Каралевы Ядвігі і да закрыцьця ў 1960 г. была яе дырэктаркай.



Сястра-назарэтанка Інэс (Соф'я)

Зося вылечылася, здала экзамэны і вучылася на хімічным факультэце Унівэрсытэту ў Лодзі. Абое стараліся вырваць у Польшчу маці Ханю з сынам Збышам, які закончыў 4 класы ў Багатырэвічах, а потым мусіў хадзіць з хворай нагою 5 км у школу да Глядавіч. Меў вельмі добры слых. Паступіў у музычную школу ў Гродна. Але, неўзабаве, быў выключаны. Выехаць дапамагла сястра Дзяржынскага Альдона. У 1953 г. дасталі дазвол на выезд. Ханя жыла ў Кельцах. Працавала сакратаркаю ў ліцэі імя Юліўша Славацкага. Там жыве яе дачка Зося і сын Збышак з жонкаю Крысьцінаю.

# Габрэі Луна-Волі. Жалобная памяць аб страчаным сьвеце

## «Было калісьці мястэчка пад назвай Луна...»



Іцхак Эліашберг сядзіць побач рачулкі Лунянкі (каля 1927). З калекцыі Іцхак Эліашберга. Сайт Рут: http://www.shtetlinks.jewishgen.org/Луна/German.html

«Было калісьці мястэчка пад назвай Луна. Разьмяшчалася яно на паўднёвым беразе Нёмна ў асяродзьдзі густога зялёнага лесу. Мястэчка, у якім жыло 300 габрэйскіх сем'яў, не ўславілася ні геніямі, ні знакамітымі рабінамі ці іх выбітнымі вучнямі, ні чымсьці характэрным у гісторыі. Адзінае,

пра што згадвалася ў мясцовых гістарычных дакумэнтах, гэта тое, што праз яго праходзілі войскі Напалеона падчас свайго паходу на Расею. Ды Троцкі падчас вайны бальшавікоў з палякамі спыняўся ў штабе, які разьмяшчаўся ў адной з местачковых хат. Луна славілася сваімі шавецкіх спраў майстрамі, краўцамі, моцнымі гаспадарамі, кірмашамі, гульнямі, а таксама сваімі пажарамі.

Я наведваў маё роднае мястэчка падчас ханукальных сьвят і доўгіх зімовых вакацый. Да ап'яненьня блукаў я па ім, разам з водарамі ўбіраючы ў сябе яго самую сутнасьць.

Існавала калісьці малюсенькае габрэйскае мястэчка. Сёньня яго больш няма. Яно ператварылася ў попел падчас Галакосту».

Так дзесьці ў канцы 60 — пачатку 70-х гадоў мінулага стагодзьдзя бацька Рут Маркус Іцхак (Іцл) Эліашберг, які нарадзіўся ў Луна 14-га кастрычніка 1910 года, пісаў у сваіх мэмуарах пра Луна. Ён напісаў на ідыш тры апавяданьні: «Ясны дзень у Луна», «Тэатр у Луна» і «Берл дер Фурман» (Берл-возчык).

У 1938 г. 1671 з 2522 жыхароў Луна, гэта значыць 60% зьяўляліся габрэямі. Паводле дакумэнтаў, у гады Другой сусьветнай вайны былі забіты 1549 габрэяў з гэтага мястэчка. Наколькі нам вядома, пасьля Другой сусьветнай вайны ў жывых засталіся толькі 15 чалавек з усяго габрэйскага насельніцтва Луна, трое з іх жывыя дагэтуль.

## Лічыць, што іх не было?

> «Лшона Габоа Бійрушалайм!»
> У наступным годзе ў Ерусаліме!
> З Малітвы.

Калі я параўнальна маладым чалавекам воляй лёсу патрапіў у вёску Луна, каб працаваць настаўнікам матэматыкі ў мясцовай школе, той даволі працяглы час мяне не зацікавіла, чаму ў вёсцы з двума габрэйскімі могільнікамі і пераважна габрэйскай забудовай няма ніводнага габрэя. Выгадаваны як «хомо савецікус», я ўвесь быў накіраваны ў будучыню, у хуткую пабудову камунізму, у што шчыра верыў, гэтак жа як і ў тое, што Бога няма, а рэлігія — «опіюм для народа». Мне самому цяпер гэта здаецца неверагодным і, таму, я разумею пачуцьці і зьдзіўленьне госьцяў з краін не «сацыялістычнага лягера», калі яны сутыкаюцца з нашай рэчаіснасьцю.

Вось, як гэта выказаў адзін са студэнтаў Дортмундзкага каледжа, пасьля таго як ён разам са сваімі калегамі на працягу тыдня аднаўляў закінутыя габрэйскія могільнікі ў Луна:

«На дадзены момант у паездцы, і на працягу некаторага часу пасьля таго як я вярнуўся дахаты, я быў неверагодна расчараваны нашай місіяй. Мы прыехалі з Амэрыкі аддаць даніну павагі і памяці тым, хто памёр, але я адчуваў, што нашы дзеяньні былі амаль марнымі. Што мы разьлічвалі дасягнуць? Наша група праляцела 4000 міль праз увесь сьвет, каб дабрацца да Беларусі і, пабыўшы там на працягу аднаго тыдня, жадалі сказаць людзям, якія жылі ў гэтым рэгіёне шмат пакаленьняў, што помнікі іх гісторыі штосьці значаць для нас, і што яны таксама павінны клапаціцца пра іх. Я адчуваў, што мы атаясамліваем напорысты амэрыканскі стэрэатып. Мяне перасьледавала пытаньне: хіба мы маем права праяўляць гэты напор тут? Некаторыя з гэтых людзей яшчэ зусім нядаўна жылі ў хатах з земляной падлогай і выгодамі ў двары. Што мы ведаем пра гэта? Усьведамленьне гэтага факту асабліва турбуе мяне, але я быў занепакоены і за лёс могілак. З усіх выступаў і абяцаньняў, што мы чулі, я задаваўся пытаньнем, ці сапраўды народ Луна зразумеў нашы клопаты пра частку гісторыі ў іх двары. Калі так, то ці не павінны яны прымаць могілкі і ставіцца да іх так, як быццам іх уласныя сваякі былі пахаваны там? Хіба яны не бачылі, што ўжо ўсе надмагільныя камяні пападалі? Калі яны праходзілі міма могілак, хіба не кідалася ім у вочы, што яны сабой уяўляюць? У той час як я быў у Беларусі, мяне ўвесь час бянтэжыў той факт, што нас, якія жывуць за 4000 міль ад Луна, турбуе Галакост, а іх, што жывуць у Луна, не. Хоць у іх ёсьць штодзённы напамінак: загінуўшая частка жыхароў вёскі і іх хаты, пабудовы, могілкі... Я дагэтуль не магу зьмірыцца з гэтым.

Я цалкам застаўся задаволены ўдзелам у гэтай паездцы, а таксама размаўляньнямі з іншымі ўдзельнікамі і атрыманым досьведам. Нашым агульным неацэнным досьведам было назіраньне, як людзі з розных пластоў грамадзтва адрэагавалі на гэтае мерапрыемства. Я вельмі ўдзячны, што змог выкарыстоўваць меркаваньне іншых удзельнікаў, іх перажываньні, і адчуваць, як гэта ўплывае на мяне. Успамінаючы пра наш час, праведзены ў Польшчы і Беларусі, пра шматлікія рэчы, якія здарыліся, я яшчэ доўга буду ламаць галаву, ацэньваючы ўбачанае і перажытае. Нягледзячы на гэта, я лічу, што патроху я прыходжу да разуменьня, што гэты досьвед для мяне значыць і як ён зьмяніў тое, як я ўспрымаю навакольны сьвет.

Elysa Корін '08».

Штосьці падобнае адбылося са мной пасьля таго, як я ўбачыў надпіс у Сьцяне Смутку ў Мэмарыяльным комплексе Хатынь — могілках спаленых вёсак, што ў в. Луна жылі да вайны 1549 габрэяў і што ўсе яны былі зьнішчаны фашыстамі. Мяне ўразіла тое, што ў самай вёсцы Луна няма нічога, што захоўвала б памяць пра гэту жудасную трагедыю: ні памятнага знака, ні экспазыцыі ў школьным гістарычным музэі, ні ў публікацыях.... Нідзе! Як бы гэтага не было! Тады я пачаў зьбіраць матэрыялы па гісторыі жыцьця габрэяў на нашых землях у цэлым і ў вёсцы Луна ў прыватнасьці.

Так паўстаў мой артыкул: «Лічыць, што іх не было?». Я жадаў не толькі сам пазнаць як мага больш пра лёс габрэяў Луна, але каб пра гэта пазнала

як мага больш жыхароў вёскі і зьмяніла іх, як гэта зьмяніла мяне. Пакуль у мяне не атрымалася апублікаваць мае матэрыялы. Таму другая задача засталася нявыкананай. Але я не губляю надзеі.



Студэнты Дортмундзкага каледжу за працай. Луна. Габрэйскія могілкі. 2005 г.

Прапаную Вам прачытаць тое, што атрымалася мне сабраць.

## Беларусь — прыстанішча для выгнаньнікаў

У выдатнага мастака з Віцебску Юдаля Пэна, настаўніка знакамітага Марка Шагала, ёсьць малюнак «Сьпіна старога Жыда». На малюнку стары чалавек, які кудысьці ідзе, счапіўшы рукі за сьпіной. Не відаць ягонага твару, але яго сьпіна выразна паказвае, які велізарны, хоць і невідомы цяжар ён нясе. Так мастак Юлій Пэн расказвае пра лёс свайго габрэйскага народа. Сам у 1937 г. забіты бальшавікамі, аб чым «скромна» маўчыць як Энцыклапэдыя гісторыі Беларусі, так і Беларуская энцыклапэдыя.

Усім вядомы выраз «Казёл адпушчэньня». Але вядомы ён стаў дзякуючы габрэям. Людзі з даўніх часоў маюць звычай звальваць сваю віну на ін-

шых. У старажытнасьці мудрыя габрэі перакладалі свае віны на казла і прыносілі яго ў ахвяру. Як запісана ў Бібліі: «І панясе казёл на сабе ўсе беззаконьні іх у зямлю непраходную.». Але склалася так, што габрэяў многія народы лічылі і лічаць прычынай усіх няшчасьцяў. Ці то з-за зайздросьці да іх здольнасьцей, ці то з-за таго, што ні ў якіх умовах яны не страчвалі сваёй культуры, свайго Бога, сваёй нацыянальнай адметнасьці.



Юдаль Пэн. Сьпіна старога Жыда (1929)

Умовы і час аседласьці на Гарадзеншчыне габрэяў невядомыя. Вядома, што ў выніку паражэньня хазараў ад Кіеўскага князя Святаслава, сярод палонных былі габрэі. У 11 стагодзьдзя пачаліся перасьледаваньні габрэяў у Чэхіі, Вэнгрыі і правінцыях над Рэйнам. У XII стагодзьдзя Кіеўскі князь Уладзімір Манамах выгнаў габрэяў з сваіх уладаньняў. І напаткаў іх лёс выгнаньнікаў. І Беларусь адвеку стала прыстанішчам выгнанцаў.

«Па вышукам Нарбута і сьведчаньням нямецкіх летапісцаў, габрэі прыйшлі ў Літву ў першай палове дванаццатага стагодзьдзя, першапачаткова з Кіева, адкуль былі выгнаныя Уладзімірам Манамахам за тайныя зносіны з Грэкамі».

«Як запэўнівае Ярашэвіч у м. Эйшышкі ў Лідзкім павеце, на габрэйскіх могілках яшчэ ў мінулым стагодзьдзя адшуканы быў надмагільны камень, на якім значыўся надпіс 1170 года». Так сьцьвярджае расейскі гісторык А. Кіркор у «Жывапіснай Расіі». Па легендзе польскі кароль Казімір Вялікі, закаханы ў прыгажуню Эстэрку, даў вялікія прывілеі габрэям, якія ўцяклі ў Польшчу з Германіі і іншых краін. Другая хваля габрэйскіх перасяленцаў на Беларусь адбывалася ў часы Вітаўта. Гэта быў час усеагульнага выгнаньня габрэяў з Заходняй Эўропы. Першая пісьмовая крыніца аб габрэях на Беларусі — грамата Вялікага Князя ВКЛ Вітаўта ад 1388 г. брэсцкім габрэям. А ў 1389 годзе князь Вітаўт надаў гродзенскім габрэям прывілей, які складаўся з 37 артыкулаў. Вось некаторыя зь іх: «12. Габрэй мае права без перашкод пераяжджаць з месца на месца, калі вязе з сабой тавар і плаціць мыта нароўні з іншымі жыхарамі. 14. Хрысьціянін, які пашкодзіць нешта на габрэйскіх могілках, падлягае кары згодна з мясцовым правам. А яго маёмасьць падлягае канфіскацыі. 25. Габрэйскі дом вызваляецца ад вайсковага пастою. 32. У сувязі з тым, што папскія булы сьцьвярджаюць, што габрэйскае права забараняе ўжываньне чалавечай крыві, забараняецца абвінавачваць габрэяў у забойстве хрысьціянскага дзіцяці, такое абвінавачваньне павінна быць складзена трыма хрысьціянамі і трыма габрэямі. А калі абвінаваўца ня можа даказаць забойства, ён падлягае кары, калі была б даказана яго віна. 36. Сусед — хрысьціянін, які не адгукнуўся ноччу на заклік габрэя аб дапамозе, падлягае кары».

Пазнаўшы пра добрыя адносіны Вялікага Князя беларускай дзяржавы ВКЛ Вітаўта да людзей рознай веры многа габрэяў пасялілася на нашых землях. Цэлыя абшчыны перанесьлі на новыя месцы свае векавыя звычаі, кагальны строй, нямецка — габрэйскую мову — ідыш, рэлігійныя традыцыі, сыстэму талмудзкага выхаваньня, маёмасьць.

Але і ў Вялікім Княстве не абходзілася без»непрыемнасьцяў». Злыя языкі сьцьвярджалі, што Вялікі князь Аляксандр Ягелёнчык залез у вялікія даўгі да габрэяў і, каб выправіць сваё эканамічнае становішча, знайшоў вельмі «просты» выхад, выдаўшы ў 1495 г. загад «Жыдову з зямлі нашай выбіці». Сканфіскаваныя маёнткі перайшлі ва ўласнасьць князя. Так ён «разьлічыўся» з даўгамі ды яшчэ прыбагацеў. Далей яму яшчэ больш пашанцавала. Бо калі Аляксандр заняў трон караля ў Польшчы, габрэі прапанавалі яму значны выкуп за свае маёнткі і за дазвол вярнуцца ў Літву. У 1503 г. кароль даў такі дазвол. Па меркаваньню Нарбута, помнікам, зьвязаным з выгнаньнем габрэяў, ёсьць назва суседняга з Лунай мястэчка Жыдомля, дзе мелася закласьці лягер для запісу гнаных з Гарадзеншчыны габрэяў.

Да канца 15 ст. большасьць габрэйскіх абшчын карысталася прывілеям Вітаўта. У 1507 г. грамата была пацьверджана Вялікім князем ВКЛ Жыгі-

монтам Старым у якасьці дзяржаўнага акта Вялікага княства. Гэты акт меў сілу да 1840 г., калі беларускае права было заменена расейскім.

Першая зьвестка аб габрэях у Луна знайшлася пад 1606 г., калі «жыд з Луны вёз на гандаль 40 цялячых вырабленых шкур».

Да другой сусьветнай вайны ў суседняй Воўпе існавала адна з найпрыгажэйшых на тэрыторыі Беларусі сынагога 18 ст. Турыстам, якія яе наведвалі, паказвалі старую бэльку з выразанаю датаю «1477». Не сьведчыла яна аб гадах бажніцы, але аб многавяковым побыце габрэяў у гэтых мясьцінах. Як выглядала Ваўпянская сынагога і яе апісаньне можна знайсьці ў кнізе А.І.Лакоткі «Драўлянае сакральна — манумэнтальнае дойлідства Беларусі.




Сынагога ў Воўпе. Малюнак Вітальда Карпызы.

Дарэчы, жыды — гэта назва жыхароў ВКЛ габрэйскай нацыянальнасьці, якая ўжывалася ў тагачасным беларускім і польскім пісьменстве і не насіла адмоўнага значэньня. Гэта адмоўная канатацыя была прынесена ў беларускую культуру толькі ў часы акупацыі Расейскай імпэрыяй і канчаткова замацавалася пры Савецкім Саюзе.

Некалькі стагодзьдзяў габрэі і беларусы і палякі ў многіх гарадах і мястэчках жылі разам. Сумеснае жыцьцё не магло адбывацца без уплыву і ўзаемнага пранікненьня культур, што спрыяла іх абагачэньню. Гэты ўзаемны ўплыў праяўляўся ў розных баках жыцьця і творчасьці, у прывычках і звычаях, модзе і мове. У беларускай мове паўнапраўна гучаць габрэйскія словы: кагал, гвалт, шабасоўка, гелда, верхал, лапсердак, гешэфт, шэйгец (хлопец), мішугін (прыдурак), цымес... А габрэй мог казаць: «Рэйдзеле як рэйдзеле, абы добра мейнеле» (Размовы размовамі, абы добрая думка).

# Габрэі Луна — Волі. Дарогі жыцьця...

У Луна габрэі пражылі не меней 336 гадоў (ад першага дакумэнтальнага ўспаміну ў 1606 годзе да 2 лістапада 1942 года). Віктар Белазаровіч лічыць, што габрэі жылі ў Луне з 1541 г. Таму варта ведаць хоць штосьці аб луненскіх габрэях і іх трагічным лёсе.

Аб колькасьці габрэйскага насельніцтва ў Луне ёсьць толькі зьвесткі з 19 стагодзьдзя. У «Кур'еры Літоўскім» №70/1833 ёсьць аб'ява, што маёнтак Луна Чахоўскіх прадаецца. У яго склад уваходзяць 2 фальваркі, 5 вёсак і мястэчка, якое мела дамоў хрысьціянскіх 199, жыдоўскіх 78, душ 527, гадавы даход з маёнтка складаў 43000 злотых польскіх.

«На 1866 г. у мястэчку было 1392 жыхары (з іх 1115 габрэяў), дзейнічала валасное праўленьне, касьцёл, сынагога, габрэйскія малітоўныя дамы, багадзельня, 20 лавак, заезныя двары, 2 харчэўні, лазьня, 2 млыны, народнае вучылішча (89 вучняў, з іх 11 дзяўчынак), праводзіліся базары, пры сядзібе валаснога праўленьня вінакурны завод» (Памяць. Мастоўскі раён. с.551)

«Мястэчка мае 1211 жыхароў, у тым ліку 965 жыдоў. У 1879 г. напалову згарэла. Парафіяльны касьцёл Святой Ганны вымураваны праз Станіслава Аўгуста. Маёмасьць належала калісьці да Валіцкіх. Першы касьцёл пабудаваны Бонай у 1546 г. (Па іншых зьвестках у 1531 г.) Парафія Каталіцкая мае 1649 верных. Капліцы філіяльныя ў Ябланове і Чарлёне» запісана ў слоўніку Геаграфічным Каралеўства Польскага (T.V.c.831).

Супярэчнасьці ў колькасьці жыхароў, магчыма тлумачацца тым, што, згодна са Слоўнікам Геаграфічным, у канцы веку ў прадмесьці Луны — Волі было 665 жыхароў, пераважна габрэяў, якія тут мелі старадаўнюю драўляную бажніцу і дом малітоўны.

У дарожным даведніку Беластоцкага ваяводзтва Арловіча з часоў міжваенных можна даведацца: «Луна, 2400 жыхароў, у тым ліку 550 католікаў, 1550 жыдоў, 200 праваслаўных — беларусаў. Кірмашы адбываюцца 1 і 20 кожнага месяца. Ярмаркі ў красавіку і сьнежні. Цэнтар адбудаваны па нядаўнім пажары. На плошчы ацалела акружаная дрэвамі царква. Сярод старых дрэў стаіць таксама скромны касьцёл з 1785 г. фундацыі Станіслава Аўгуста. Маёмасьць калісьці каралеўская, належала па чарзе Валіцкім, Чахоўскім, Ромэрам, пры якіх стала ўзорнай гаспадарка сялянская. Новы двор пабудаваны Ромэрамі».

Возьмем у сьведкі гісторыкаў, якія жылі ў тыя далёкія часы ці бліжэй, чым мы да тых часоў. Вось якую характарыстыку дае габрэям М. Без-Карніловіч: «Прадпрымальныя, цікаўныя, праніклівыя. З першага позірку, з першых слоў зразумеюць з кім маюць справу. Каб дасягнуць пажаданага, лічаць дазволеным усе сродкі: прыніжаюцца, лісьлівяць, просяць, падкупляюць і рэдка не дасягаюць посьпеху ў сваіх намерах. Наперад разь-

лічваюць барышы, якія можа прынесьці распачатая апэрацыя, падлічаць расходы, і толькі тады возьмуцца за справу. На Беларусі ўвесь гандаль у іх руках... Вінныя водкупы, паштовыя станцыі, перавозы цераз рэкі ўтрымліваюць габрэі, для іх ніякая праца не цяжкая, калі толькі ад яе прадбачаць для сябе карысьць... Габрэі, народ, які глыбока ведае нораў, схільнасьці і звычкі людзей і ўмее карыстацца іх слабасьцямі. Пазьбягаюць утомнай працы: паміж імі знойдзецца многа краўцоў, шаўцоў, шапачнікаў, шкляроў, лудзільшчыкаў, бляхароў, разносчыкаў, разьбяроў пячатак, залатых і сярэбраных спраў майстроў; рэдка сустрэнеш каваля, цесьляра, пільшчыка.». Можна паспрачацца з аўтарам наконт утомнасьці і няўтомнасьці пералічаных прац, але цікавай зьяўляецца выказаная думка.

Гісторык Кіркор характарызуе габрэяў з іншага боку: «Адметнаю рысаю мясцовых габрэяў зьяўляецца любоў да радзімы. Месца, дзе ён нарадзіўся, дзе жылі і памерлі яго бацькі, робіцца для яго дарагім, запаветным і нават бачная карысьць ад перасяленьня, абяцаючага нажыву, паляпшэньня ўмоў жыцьця, не могуць яго прымусіць пакінуць роднае папяліска!»



У пакоі. Здымак 1930 г. Сайт Рут Маркус.

Па рознаму апісваюцца памяшканьні, у якіх жылі габрэі. Вядома ж, не ўсе жылі аднолькава і добра». Зазірніце ў адну з гэтых скучаных брудных хацінаў, здольных на вашых вачахператварыцца ў груду руінаў, і вас уразіць сьпёртае, злаякаснае паветра, — піша чыноўнік з Гродна, — Натоўп напаўапранутай дзятвы ледзь месьціцца ў змрочна — цёмнай хаціне, ¾ якой займае печ, стол і ложак». Але гісторык Алег Субоцін сьведчыць: «Унутры хаты габрэі захоўваюць больш чысьціні, чым вакол сябе: пакоі пабеленыя, чыстыя. У трохі заможных, даволі культурная абстаноўка, асабліва ў параўнаньні з сялянамі ці рускімі мяшчанамі. Нават бедныя хаціны ўсе апальваюцца па беламу, вокны большага памеру, чым у хатах; некалькі пакояў, стараюцца заўсёды аддзяліць адну чыстую, а другую для спальні, а ачаг асобна. І далей «Гонарам кожнага дома зьяўляюцца рэлігійныя кнігі». Цэнтрам дамашняга жыцьця зьяўлялася сталоўка. Тут зьбіралася ўся ся-

м’я: заключаў зьдзелкі бацька, сын і зяць вывучалі талмуд, дочкі займаліся рукадзельлем. У сталовай прымалі гасьцей, адзначалі сьвяты і сямейныя ўрачыстасьці. Асновай жыцьця габрэйскага насельніцтва ва ўсе часы была рэлігія — іудаізм, які спавядала большасьць габрэяў. Запаведзі іудаізму распаўсюджваліся ня толькі на богаслужэньні, але на ўсе бакі жыцьця: дабрачынную дзейнасьць, сяброўскія адносіны, інтэлектуальную і творчую дзейнасьць, нават на ахову здароўя. Асновы іудаізму напісаны ў Торы — Пяцікніжжы Майсея. Габрэйская культура першай у гісторыі чалавецтва вызначыла вяршэнства духоўнага закона над усімі іншымі. Талмуд — тлумачэньне Торы прыпісвае Богу выказваньне, унікальнае для рэлігійных пісаньняў: «Няхай лепей габрэі забудуць Мяне, але будуць насьледаваць Майму Закону».

Гэта габрэйскі мудрэц Гілель (1 да Н.Х.) так сфармуляваў сутнасьць Торы: « Не абыходзься з другімі так, як не хочаш, каб абышліся з табой». А ці не варта ўвагі наступнае выказваньне Гілеля: «І там, дзе няма людзей, старайся быць чалавекам» (Павучэньне бацькоў, Гл.2. Мішна,5).

Культавым будынкам у юдаізьме зьяўляецца сынагога. Ёсьць зьвесткі, што фотаздымак і апісаньне Луненскай сынагогі знаходзіцца ў кнізе «Бажніцы драўляныя» (Пехоткавы М. і К., Варшава, 1957 г.). Старая габрэйская традыцыя з часоў Талмуду вучыць, што ў кожным пакаленьні ёсьць 36 цадзікаў (праведнікаў), якія патаемна твораць дабро. На іх прысутнасьці трымаецца сьвет, а іначай загінуў бы.

Жыцьцё габрэйскай абшчыны арганізоўваў і рэгуляваў кагал — абшчыннае самакіраваньне. Кагал займаўся платай падаткаў, вяршыў суд у цяжбах паміж габрэямі, рэгуляваў усё ўнутранае жыцьцё абшчыны. На чале кагалу былі старшыні ад 3 да 15 чалавек. Штомесяц зьмяняўся галава абшчыны з ліку старэйшых — «парнас» або «парнас — кодэш» — старшыня на месяц. Асноўныя духоўныя абавязкі выконваў рабін, які прызначаўся на 6 гадоў. Гэты тэрмін мог быць падоўжаны яшчэ на 4 гады. Рабін падпісваў рашэньні, кіраваў выбарамі, быў старшынёй габрэйскага суда, выконваў вясельны абрад, адлучаў ад сынагогі, сачыў за школьнай адукацыяй.

Адзінай але абавязковай умовай правядзеньня богаслужэньня ў сынагозе — гэта наяўнасьць міньяна (кворума) з 10 мужчын старшых за 13 год. Службу можа весьці любы чалавек. Галоўнай малітвай зьяўляецца малітва «Шма» — (слухай). Яна пачынаецца словамі: « Слухай, Ізраіль: Госпадзь, Бог наш, Госпадзь адзін ёсьць».

«Неуч не можа быць праведным» — 2 тысячы год таму вучыў Гілель, таму запавет вучыцца — адзін з галоўных. Кожны кагал пад страхам адлучэньня ад сынагогі павінен быў утрымліваць пачатковую школу. Бедных дзяцей кагал забясьпечваў адзеньнем, абуткам і ядой. Таму ўсе без выключэньня хлопчыкі хадзілі ў хедары, якія існавалі ў кожным мястэчку. Згодна з Талмудам, адукацыя павінна быць бясплатнай, таму што Закон быў дадзены народу дарам. У вышэйшых навучальных установах так і

было, але для пачатковага навучаньня маглі быць выключэньні, каб заахвоціць больш людзей для заняткаў з дзецьмі. Пачатковую адукацыю атрымлівалі ў прыватных настаўнікаў — меламэдаў або ў школах — хедарах ці талмуд — торах. У выніку такой сыстэмы сярод габрэяў не было неадукаваных, у чым была рэзкая адметнасьць ад мясцовага насельніцтва.



Старая Сынагога. Луна. Фота з кнігі Луізы Арнер Боуд (Louise Arner Boyd) «Kresy. Fotografie z 1934 roku».

У хедарах дзяцей прывучалі самастойна вывучаць Талмуд і Тору. А з 13 год самыя здольныя пераходзілі ў іешывы, якімі кіравалі знатныя багасловы. У 20—30 гадах 20 ст. на усю Эўропу славілася Гродзенская іешыва Шаарэй ха-Тора на чале з Шымонам Іегуда Шкопам.

Не застаўляў без увагі кагал дзяўчат — беспасажныя працавалі дамашняю прыслугаю, а аплату 10 злотых у год зьбіраў казначэй і бярог іх да вясельля. У 15 год адбывалася вясельле і кагал дадаваў 25 злотых з агульнай касы. Паводле габрэйскай традыцыі, каб вясельле адбылося, паміж жаніхом і нявестай павінен быў быць уладкаваны кантракт. Дакумэнт уключаў умовы заручын (на іўрыце: «Tenaim»), якія выконваліся да вясельнай цырымоніі, і абавязкі мужа па адносінах да сваёй жонкі.

З 12 па пачатак 19 стагодзьдзя tenaim абвяшчаў, што дзьве сям'і дамовіліся аб сватаньні паміж дзецьмі. Дакумэнт вызначаў пасаг і іншыя фінансавыя дамоўленасьці, дату і час вясельля, а таксама штраф, калі якінебудзь з бакоў адмовіцца ад зьдзелкі. Пасьля таго, як шаноўны госьць дакумэнт падпісваў і чытаў уголас, разьбіваўся посуд, каб прадэманстраваць, што разарваньне заручын нельга выправіць.



Вучні і настаўнікі школы ідыш (каля 1922). З калекцыі Іцхак Эліашберга. Сайт Рут.

У час ад заручын да вясельля нявеста павінна была падрыхтаваць пасаг: вышывала на ручніках, навалачках, накідках і пакрывалах на сьвяточны стол розныя прыгожыя арнамэнты.



Абрус для Шабату з вэнзэлем GK

Звычайна вясельле адбывалася ў пятніцу ў дамах аднаго з бацькоў му-

жа ці жонкі. Цырымонія шлюбу адбывалася ў пятніцу днём, спэцыяльнымі запрашэньнямі госьці зваліся на ўрачыстую вячэру. У залежнасьці ад заможнасьці бацькоў, гасьцей магло быць і 200 чалавек. У суботу ўсе ішлі ў сынагогу, пасьля чаго адбываўся сьвяточны абед Шабат, а потым вечарынка, якая завяршалася раніцай у нядзелю.

*Lejb-Ber Szalachman z żoną*
*Boba Jogiel*
*mają zaszczyt prosić Sz. P. na ślub dzieci ich*
*Sary i Eljasza*
*mający się odbyć w dniu 31 lipca 1925 r. o godz. 6 wiecz. w m. Łunno, w d. Boby Jogiel.*
Adr. dla dep.: Łunno, Szalachman, Jogiel.

דוב שאלאכמאן און פרוי
באבע יאגעל
עפֿעליגסט צו באהערן מיט אייער
די האכציים פון זייערע קינדער
שרה און אליהו
וועט פארקומען פרייטאג דעם
1925 אין לונע, אין הויז פון
באבע יאגעל
ה וועט פארקומען 6 אוונט.

Запрашэньне на вясельле Сары (Голда Клебанскі) з абодвух бакоў. Yogiel і Ільля Salachaman (Луна, 1925). Сайт Рут

З другой паловы 16 ст. габрэі пачалі адыгрываць вельмі значную ролю ў эканоміцы ВКЛ. На гэты час прыпадае і беларускі «местачковы бум». У местачковым гандлі дамінуючае становішча займаюць габрэі. Своеасаблівым фэномэнам тагачаснага жыцьця быў фактар. Амаль кожны ўладальнік маёнтка меў свайго фактара, безь якога не мог абысьціся.

«Фактар станавіўся неабходным для прыежджых — продаж, купля, самыя інтымныя справы і адносіны да розных людзей, усё гэта адбывалася цераз фактара. Ён знае ўсіх і ўсе тайны, і абставіны, якія вас цікавяць, адным словам становіцца чалавекам неабходным і карысным, атрымліваючы за сваю старанную працу памяркоўную ўзнагароду» — піша Карамзін. Беларускія габрэі ў сваёй глыбіннай местачковай масе цесна кантактавалі з мясцовым насельніцтвам і пераймалі многія яго якасьці, такія, для прыкладу, як добразычлівасьць, даверлівасьць, цярплівасьць, цярпімасьць, але і беларусам было што пераймаць.

Варта падкрэсьліць як асаблівую рысу габрэяў — міласэрнасьць. Згодна з талмудам кожны чалавек павінен ахвяраваць 1/10 гадавога даходу на карысьць бедным. Калі ахвяруе менш 1/10, то несправядлівы да бедных, калі больш за 1/5, то крыўдзіць сваю сям'ю. Міласэрнасьць у сьветапоглядзе габрэяў мае такое значэньне: «Місія чалавека — прывесьці сябе і сусьвет да канчатковай дасканаласьці: сьвет не можа трымацца на адной міласэрнасьці — тады ў ім не было б справядлівасьці. Міласэрнасьць уносіць колер, размалёўвае і ўпрыгожвае чорна-белую ідэю справядлівасьці» (Каляндар на 5751 г. (1990—1991)).

Успаміны луненскіх жыхароў аб сваіх суседзях габрэях перасягнуты павагай да іх працавітасьці, узаемнай падтрымкі, адукаванасьці, вядзеньня дамашняй гаспадаркі.



Мост праз Нёман, на які выходзіла вуліца Падольная. 1928 г. З калекцыі Міріам Вельбель-Рутэнберг. Сайт Рут

Як тут не ўспомніць верш Францишак Багушэвіча «Падарожныя жыды», калі два беларусы, што падвозілі габрэяў, не захацелі адзін аднаму саступіць дарогу на вузкім мосьце і распачалі з-за гэтага бойку:

«І можа б, так насьмерць пабілі,
Дык хітра ж і жыдкі зрабілі:
Той перасеў таму на воз, а той туды.
І так запхалі абодва без бяды;
І мужыкам так стала бліжэй да дому,
І крыўды ніякай нікому.
Пазналіся жыдкі, пагергаталі,
Дык мужыкі і біцца перасталі,
А што, каб так і мы зрабілі,
А можа бы і нас не білі?»

Успамінаюць луненцы, што ў габрэяў над дзьвярамі прыладжвалася паперка з малітвай Шма Ізраэль, да якой дакраналіся, ідучы ў пакой, і падносячы руку да вуснаў.

Сьцены ўпрыгожваліся малюнкамі гістарычнымі, продкаў, вядомых габрэяў ці царскіх асобаў. На ўсходняй сьцяне ў рамцы вешалі пад шклом Сьвятыя тэксты, упрыгожаныя выявай шчыта Давіда, намаляванымі львамі, каронамі і слупамі. Да гэтай сьцяны станавіліся тварам у час малітвы.

Нават у самых бедных захоўваліся з пакаленьня ў пакаленьне медныя падсьвечнікі на 6—8 сьвечак. Гаспадыні ганарыліся вышыванымі пасьцелямі, выразанымі папяровымі фіранкамі. У кожнай хаце павінна было быць некалькі набораў посуду. Згодна з рэлігійнай традыцыяй забаранялася гатаваць у адным начыньні малочнае і мяснoе. Заможныя мелі асобны посуд для гатаваньня ежы ў час Песаху, калі нельга спажываць дрожджавае цеста.

Ежу габрэяў таксама вызначалі запаветы рэлігіі, дазваляліся толькі дазволеныя (кашэрныя) стравы. Мяса жвачнай жывёлы, якая мае раздвоеныя капыты, толькі хатнюю птушку, а рыбы толькі лускавыя. Забаронена ўжываць мяса з крывёю і земнаводных. Жывёла павінна забівацца імгненна з выкананьнем асаблівых абрадаў, таму кожны кагал меў спэцыяліста рэзьніка. Толькі ён забіваў жывёлу для ежы.

На сьвята гатаваліся цымес — тушаная ялавічына з агароднінай і вострымі прыправамі, фаршыраваная рыба, пірожныя, кугель, пернікі. Маца гатавалася да Песаху. Але ў буднія дні і ў бедных звычайнай ежай былі чорны хлеб з часнаком і селядцамі. На абед пусты суп з крупамі, калі-нікалі ялавічына. На сьвяты, калі была магчымасьць, куплялася разынкавае віно ці трошкі гарэлкі. Пьянтства адсутнічала. ВКЛ было, напэўна, адзіным месцам у Эўропе, дзе габрэі працавалі на зямлі.

Зьнешнім выглядам, а да 19 в. і адзеньнем, габрэі выдзяляліся з натоўпу: « Вонкавы выгляд габрэя рэзка кідаецца ў вочы: правільныя рысы твару, выразныя вялікія вочы, чорныя кучаравыя ці рыжыя валасы, закручаныя пэйсы на скронях, даўгаполы кафтан, шляпа ці картуз на патыліцы і палка ў руках — вось вонкавы выгляд габрэя» — апісвае сучасьнік. Абутак — чаравікі. Бароды ў старэйшых. Падчас набажэнства — накідкі, каробачкі тфілін дапаўнялі адзеньне.

Жанчыны апраналіся менш экзатычна. Звычайна апраналіся ва ўбор, які складаецца са спадніцы, блюзкі, камізэлькі-вестэле, гальштука-галебанда, фартуха, а часам — здымных рукавоў, якія прыточваліся да вестэле. Характэрнай рысай іх адзежы быў таксама шматпавярховы галаўны ўбор. У сьвяточныя дні ў сукні з шоўку і аксаміту. Замужнія габрэйкі галілі валасы на галаве і насілі галаўныя ўборы: хусткі, парыкі, павязкі накшталт чалмы альбо капелюша. Забаранялася мецць у адным касьцюме лён і воўну.

Некалькі сваіх твораў жыцьцю габрэяў прысьвяціла Эліза Ажэшка: «Мэір Эзафовіч» (1877), «Дай квятэк», «Гедалі»... У апошняй навэле галоўны герой — габрэй з суседняга да Луны мястэчка Воўпа. Пераклад «Гедалі»

на беларускую мову выйшаў у кнігарні Марціна Кухты ўжо ў 1907 годзе, прычым у двух варыянтах — лацінкай і кірыліцай. Але ілюстраваным па адбору малюнкаў самой аўтаркай мастаком Андрыёлі быў толькі «Мэір Эзафовіч». Не засталося з той пары фатаграфій. Таму няхай паслужаць і нам ілюстрацыі Андрыёлі.



Ілюстрацыі Михал Андрыёлі да повесьці Элізы Ажэшка «Мейр Эзафовіч», 1878 (Meir, Lejbele i Szmul, ilustracja do powieście Elizy Orzeszkowej Meir Ezofowicz, 1878)

Але жыцьцё габрэяў нельга назваць «салодкім ні ў Рэчы Паспалітай, ні у «Северо-Западном крае», як назвалі нашу Радзіму расейскія акупанты. Раз па раз узьнікалі абвінавачваньні габрэяў у розных паскудзтвах. У 1790 годзе ў Гродне асудзілі рабіна Эльзара як бы за забойства хрысьціянскай дзяўчыны і прыгаварылі да чвартаваньня. Не дапамагла нават забарона Караля Станіслава Аўгуста. Пакараньне адбылося на гарадзкой плошчы ў прысутнасьці тысяч жыхароў. Такія абвінавачваньні паўтараліся.

Праўда да пакараньня сьмерцю справа не даходзіла. Выдумка, што ўсе габрэі жылі багата. У 1881 г. Міністар унутраных спраў пісаў: «Адна гродзенская абшчына габрэйская налічвае да 600 асоб, выжываючых грамадзкай міласьцінай, г. зн. на 50 асоб прыходзіцца 1 жабрак».



Убраньне габрэяў на Беларусі да 1850 г., калі цар Мікалай I забараніў габрэям насіць нацыянальнае адзеньне. http://feinanna.livejournal.com/169122.html

Гродзенскі габрэйскі паэт «пясьняр радаснага аптымізму Найдус пісаў:
«Хацеў бы памагчы народу,
Бо гіне ў болі і самоце.
Хачу яму вярнуць я веру
У бязьмежнасьць хараства на сьвеце,
Каб стала будучыня лепшай».

Ды не стала. На месцы могілак у Гародні, дзе быў пахаваны паэт, савецкая ўлада пабудавала стадыён «Чырвоная Зьмена», цяперашні «Нёман».

У Варшаве на габрэйскіх могілках утворана сымбалічная магіла Найдуса, на камяні якой яго верш:

«Люблю габрэйскай песьні гукі — / напевы шчасьця і цярпеньня /

У іх скаргі сірот, бедных мукі, / надзея ласкі й разуменьня./».

У кожным кагале былі вельмі папулярныя анэкдоты. Іх распавядалі не толькі жартаўнікі прасталюдзіны, але вучоныя і набожныя людзі карысталіся анэкдотам у навучальных мэтах, упрыгожвалі дыспут. Анэкдот быў да месца, у дзелавой размове і сямейнай урачыстасьці.

Луненскі зьбяднелы габрэй меў стары воз на драўляных восях і старую, спрацаваную, худую кабылу. На гэтым возе, запрэжаным у старую клячу, езьдзіў ён па вёсках і скупляў усё, што ўдавалася, узамен на іголкі, ніткі, стужкі, пацеркі і іншыя дробязі, люстэркі для жанчын і забаўкі для дзяцей.

Аднойчы ў пятніцу сьпяшаўся вярнуцца дахаты на падыходзячы шабас. У габрэяў суботняе сьвята шабас распачынаецца з захадам сонца, таму сьпяшаўся, але старая змучаная кабыла не магла цягнуць воз з таварам. Паганяў, біў бізуном, ішоў перад мордай з пукам травы ў руцэ, каб заахвоціць кабылу да руху. Але кляча стаяла, не магла варухнуцца з месца. Разгневаны, ён выпраг кабылу і ўвязаў з заду возу. Сам упрогся ў аглоблі і пацягнуў. Так цягнучы воз, адварочваўся часамі да кабылы, якая паслухмяна ішла за возам і казаў: « Ты, халера! Не хацела ехаць, та ідзе цяпер пеша!»

Рабі Нахум ніколі не прапускаў малітву. І захварэўшы, і ў непагадзь прыходзіў у сынагогу першым. Аднойчы ён прыйшоў так рана, што шамес толькі распальваў печ. Ён запытаў Нахума: «Што здарылася? Вы пэўна памыліліся? Яшчэ надта рана! А можа Вам прысьніўся дрэнны сон?» «Абедзьве твае дагадкі няўдалыя. Мне сёньня нічога не сьнілася, і я ведаю, якая гадзіна. Я ваяваў с йцер hара (злым пачаткам). Калі я прачнуўся, хацеў глянуць на гадзіньнік. Але йцер hара кажа мне пяшчотна: „Нахум! На дварэ холад, завіруха, сьлізка. Закутайся лепей і пасьпі яшчэ пару гадзін“. Я адчуў, што гэтыя словы дзейнічаюць на мяне. Мне страшна захацелася спаць. Але раптам я зразумеў, што яго словы зводзяць мяне з праведнага шляху. Я ўскочыў з ложка і заенчыў: „Ты не паленаваўся ўстаць так рана, каб прымусіць мяне спаць! Ты хочаш угаварыць мяне. Не выйдзе!“ Я хутка адзеўся і пабег у сынагогу. Слава Богу, я здолеў перамагчы!» Прыклад Нахума варты ўвагі, як для дзяцей так і для дарослых.

У той час, як абавязковым было навучаньне габрэйскіх дзяцей у габрэйскіх школах, атрыманьне адукацыі ў другіх навучальных установах было недаступным. Толькі на Сойме 1788 г. для польскіх і літоўскіх (беларускіх) габрэяў быў дадзены дазвол вучыцца ва ўсіх навучальных установах, а навучаньне ў прыходзкіх установах стала абавязковым. Але за захопам Расеяй Вялікага Княства Літоўскага становішча зноў рэзка пагоршылася. 24.06.1794 г. Кацярына II выдала Указ аб « рысе аседласьці» у якім выдзяляліся 15 губэрняў уздоўж заходняй граніцы імпэрыі, дзе маглі сяліцца габрэі. Да гэтага часу габрэяў у Расіі не было. У 1903 г. быў выданы сакрэтны цыркуляр для паліцыі па барацьбе з габрэйскім рухам, які « противоречил началам русской государственной идеи и потому не может быть терпим». У 1840 г. былі адменены кагалы, а ў 1844 г. выйшаў «Указ о просьвещении

еврейскага юношества» з мэтай «сближения с христианским населением і уничтожения предрассудков, вызванных изучением Талмуда». Але барацьбу за «просьвещение» габрэйскага насельніцтва Мікалай І пачаў з увядзеньня падатку на пэйсы (доўгія пасмы валасоў на скронях у набожных габрэяў, якія рэлігійны закон забараняе збрываць), а таксама на нашэньне ярмолак і нацыянальнага адзеньня да іх поўнай забароны ў 1852 г. Расейскія чыноўнікі рабілі намаганьні, каб перавесьці габрэяў у хрысьціянскую веру. Але толькі невялікая частка выхрыстаў (перайшоўшых у хрысьціянства) рабіла гэта з мэтай атрыманьня выгаднага месца працы, атрыманьня дапамогі для выхрыстаў або атрыманьня магчымасьці вучыцца ў навучальных установах, дзе габрэям вучыцца было забаронена.

## Пажары і адбудовы

Пажары заўсёды прыносілі людзям незьлічоныя бедзтвы. Асабліва страшныя яны былі для жыхароў населеных пунктаў у даўнейшыя часы. Цяпер добра наладжана сыстэма пажаратушэньня, працуюць пэўныя службы і г. д. Раней жа ў вёсках Мастоўшчыны такога не было, і пажар, які пачынаўся ў адной хаце, часам зьнішчаў цэлыя вуліцы.

Адзін з такіх страшных пажараў адбыўся ў мястэчку Луна ў 1879 годзе. У Нацыянальным Гістарычным Архіве Беларусі ў горадзе Гродна захавалася шмат дакумэнтаў, датычных гэтага здарэньня. Аднак найбольш цікавымі і поўнымі зьяўляюцца дакумэнты не пра сам пажар, а пра ліквідацыю яго наступстваў і пра меры, якія прымаліся ў Расійскай імпэрыі для дапамогі пацярпелым, якія адшукаў малады Мастоўскі гісторык Дзімітры Краснапеўцаў. У дакумэнце можна назіраць малюнак супрацьстаяньня царскай бюракратычнай машыны і габрэяў — асноўнай часткі насельніцтва тагачаснага Луна.

Пажар у Луна адбыўся 23 жніўня 1879 года. Ужо праз пяць дзён Гродзенскае губэрнскае кіраваньне — выканаўчы орган улады ў Гродзенскай губэрні — накіроўвае даручэньне ў Гродзенскі зьезд міравых пасрэднікаў скласьці плян мясцовасьці, якая пацярпела ад пажару ў мястэчку Луна. Тут трэба сказаць некалькі словаў пра зьезд міравых пасрэднікаў. Пасада гэтая ўзьнікла ў 1861 годзе падчас правядзеньня рэформы па адмене прыгоннага права ў Расейскай імпэрыі. Міравы пасрэднік — асоба, якая прадстаўляла дзяржаву падчас заключэньня дамовы паміж памешчыкам і селянінам аб вызваленьні апошняга і надзяленьні яго зямлёй, вызначэньні павіннасьцей. Міравы пасрэднік быў сам звычайна з прадстаўнікоў чынавенства ці дваран. Пазьней, у 1870-я гады, калі амаль усе сяляне былі вызваленыя, неабходнасьць у гэтай асобе адпала. Аднак царскі ўрад захаваў

пасаду і, больш за тое, нават стварыў у губэрнях адмысловыя зьезды міравых пасрэднікаў як правобраз дваранскіх органаў мясцовага кіраваньня. Канешне, ніякіх паўнамоцтваў гэты орган ня меў.

Але вернемся да луненскага пажару. 3 верасьня гродзенскім павятовым спраўнікам быў накіраваны рапарт мясцоваму губэрнатару аб тым, што «некаторыя пагарэльцы, якія жадаюць як найхутчэй прыступіць да ўзьвядзеньня новых пабудоў сустракаюць перашкоды з-за адсутнасьці дазволу, а таму просяць майго хадайніцтва, каб дазвол быў выдадзены да пачатку зімовага часу». А дазвол мог быць выдадзены толькі тады, калі будзе складзены плян мясцовасьці, якая выгарэла. Таму 6 верасьня губэрнскае кіраваньне ў асобе інжынэра Сьвіты Яго Вялікасьці Імпэратара генэрала Мойфа прысьпешвае работу па складаньню пляна зьездам міравых пасрэднікаў.

Аднак жаданьне пацярпелых ад пажару пачаць адбудову да зімовых халадоў было ва ўмовах тагачаснай бюракратыі ні больш ні менш як фантастычным. Зьезд сабраўся толькі 10 кастрычніка і даручыў складаньне пляна міравому пасрэдніку 2-га ўчастка. Той выбраўся ў дарогу ў наступным месяцы. 18 лістапада ён правёў у памяшканьні луненскага валаснога кіраваньня сход пагарэльцаў, на якім уся выгарэўшая тэрыторыя была падзелена на будаўнічыя ўчасткі і быў абраны адмысловы камітэт у складзе пагарэльцаў Рафала Лобшыца, Ізраэля Райнеса, Зельмана Аркіна, Янкеля Шафера, Шмуэля Аркіна і Юдэля Крынскага, якім было даручана падпісваць усе паперы і «што будзе запатрабавана начальствам».

Плян складаўся амаль два месяцы. 4 студзеня 1880 года ў тым жа памяшканьні валаснога кіраваньня гэтыя давераныя асобы падпісалі плян, складзены міравым пасрэднікам. Яго заверыў таксама луненскі валасны старшыня Л. Сініца. 8 студзеня даверанаму Рафалу Лобшыцу прыйшла павестка зьяўіцца ў Гродна 10 студзеня на паседжаньне зьезда міравых пасрэднікаў, каб падпісаць там пэўныя паперы. Пасьля пайшла доўгая працэдура зацьвярджэньня пляну зьездам, будаўнічым аддзяленьнем губэрнскага кіраваньня, гродзенскім губэрнатарам. Нарэшце пагарэльцы атрымалі дазвол на будаўніцтва новых дамоў.

Але, як толькі пачалося будаўніцтва, адразу ж узьніклі новыя цяжкасьці. 25 лютага жыхаркі мястэчка Энта Аркін і Энта Шейкінд хадайнічалі перад губэрнатарам аб выплаце ім грошаў за зямлю, якая паводле новага пляну адыходзіла пад вуліцу Загаранскую. Раней гэтая зямля была часткаю іх падворка. Як альтэрнатыўны варыянт, яны (жыхаркі правага боку Загаранскай вуліцы) прапаноўвалі пашырыць гэтую вуліцу раўнаважна ў абодва бакі.

Гродзенскі павятовы спраўнік на месцы правёў расьсьледваньне і высьветліў, што «забудова Загаранскай вуліцы складзена няправільна і ў любым выпадку закране жылыя дамы і што Загаранскую вуліцу трэба пашыраць не ў правы, а ў левы бок». У дадатак, 8 сакавіка на імя губэрнатара прыйшло прашэньне местачкоўца Абрама Аркіна (жыхара левага боку

гэтай вуліцы) аб тым, што яго «пляц будзе непрыгожа выдавацца ў Загаранскую вуліцу». Ён таксама прасіў будаўнічае аддзяленьне аб зьмяненьні пляну забудовы.

Апошняе, у асобе галоўнага інжынэра, 18 сакавіка пастанавіла, што «прыняты плян прызнаецца самым зручным і пашырэньне Загаранскай вуліцы не настолькі непрымальнае для пагарэльцаў гэтага боку вуліцы, калі б пашырэньне было з супрацьлеглага боку ці з двух бакоў пароўну. Участкі правага боку значна большыя, чым з левага. Хадайніцтва пакінуць без задавальненьня і грашовая кампенсацыяў таксама не можа быць выплачана, бо ўся зямля належыць уладальніку луненскага маёнтка». А Аркіну адказалі, што яго заява не заслугоўвае ніякай увагі таму, што «пляц ніяк не вылучаецца з агульнага пляну і мае абрысы суадносныя з месцазнаходжаньнем».



Пяць сяброў на вуліцы Загаранскай (1930 г.) З калекцыі Саўла Роберга. Сайт Рут

Аднак жыхары Луна на гэтым не супакоіліся. 28 красавіка на імя губэрнатара прыходзіць заява з просьбай камандзіраваць да іх адмысловага землямера для вымярэньня мясцовасьці вуліцы і забараніць пабудову дамоў усім пагарэльцам Загаранскай вуліцы да заканчэньня расследаваньня. Прашэньне падпісалі Энта Аркін, Лейб Аркін, Энта Шейкінд, Арон Лейтус, Еранім Шермейстэр і Іовель Рубінаў. Адначасова, 30 красавіка, паступіла прашэньне Сары-Рывы Каган што «яе новы пляц занадта маленькі і ў асноўным адыходзіць пад новую вуліцу». Яна прасіла дазволіць адбудаваць пляц па старых плянах.

І гэтыя прашэньні былі пакінутыя ўладамі без увагі. Заява Каган увогуле не была прынятая да разгляду, бо заяўніца не аплаціла гербавы збор (60 капеек). 7 жніўня стараста луненскай грамадзкай малітоўнай школы Іцка Бляхер прадставіў у Гродзенскае губэрнскае кіраваньне плян каменнага будынку гэтай самай малітоўнай школы. Зноў спатрэбілася некалькі месяцаў бюракратычнай перапіскі, каб зацьвердзіць плян.

Прайшоў год. Будаўніцтва новых дамоў сяк-так пачалося. У жніўні 1881 года Луна наведаў з інспэкцыйнай паездкай сам гродзенскі губэрнатар. Якое ўражаньне на яго аказала будаўніцтва пагарэльцаў — невядома. Але архіў захаваў дакумэнт пра анэкдатычны выпадак, якому б ніколі не даў веры, калі б ён не быў старанна занатаваны і падшыты да справы губэрнскім прыставам. Тут ён прыводзіцца цалкам.

«Губэрнатар у жніўні 1881 года падчас праезду праз мястэчка Луна заўважыў няправільна выведзены на вуліцу ганак пры доме местачкоўца Ізраэля Авідона, які знаходзіцца на Паштовай вуліцы, і загадаў прымусіць яго зьнесьці ганак і па выкананьні дакласьці яму асабіста. Авідон па патрабаваньні прыстава ганка не зьнёс, таму была ўзбуджана справа ў міравога судзьдзі 3-га ўчастка, па прыгавору якога ён быў толькі аштрафаваны на чатыры рублі, а пра знос ганка нічога не было сказана. Тады прыстаў перанёс справу ў Зьезд міравых судзьдзяў і Авідон, зразумеўшы, што рашэньне будзе не на яго карысьць, зьнёс ганак добраахвотна 25 красавіка 1882 года». Ён, відаць, спалохаўся, што за гэты ганак прыйдзецца заплаціць яшчэ з дзясятак рублёў.

Тым часам справа будаўніцтва дамоў працягвалася далей. 25 чэрвеня 1882 года ананімныя жыхары Луна напісалі прашэньне ў губэрнскае кіраваньне аб зносе часовых драўляных будак, якія выкарыстоўваліся габрэямі ў якасьці гандлёвых кропак. Яны, маўляў, пагражаюць небясьпекай новага пажару і перашкаджаюць узводзіць прызначаныя плянам пабудовы.

Гэтая скарга выклікала ў будаўнічым аддзяленьні сапраўдны перапалох. Яно ніякага дазволу на ўзьвядзеньне будак не давала. Як высьветлілася цягам месяцавай бюракратычнай перапіскі, лаўкі былі пабудаваныя са згоды Луненскай управы. 20 жніўня губэрнатар загадаў уладальнікам зьнесьці будкі да 15 верасьня, ці інакш на іх будзе накладзены штраф. 7 верасьня на імя губэрнатара паступіла прашэньне Зельмана Заца, Рубіна Райнеса, Беркі Каплана, Мойшы Рубінава, Абеля Цывіна і Беркі Голдзенфеніга аб адмене загада таму, што «новыя лаўкі яшчэ не пабудаваныя». Аднак губэрнатар застаўся няўмольны, і 26 верасьня выйшаў у сьвет пратакол аб узбуджэньні справы ў міравога пасрэдніка ў дачыненьні да габрэяў, якія адмовіліся зносіць лаўкі. Кожны гаспадар абкладаўся штрафам у 5 рублёў.

Днём 31 жніўня 1884 года датуецца рапарт гродзенскага прыстава ў губэрнскае кіраваньне. Згодна з ім жыхары Луна Лейба і Арон Аркіны скардзіліся, што іх суседзі ўзводзяць у прыстройку да сваіх каменных дамоў драўляныя склепы, якія не ўзгоднены з плянам. Аркіны патрабавалі

неадкладна забараніць гэтыя пабудовы. Чым закончылася справа, на жаль, невядома.

13 красавіка 1888 года рапарт прыстава аб тым, што Лейба Каган перабудаваў свой драўляны дом, павялічыўшы яго памеры без захаваньня неабходных пяцісотсажнёвых разрываў паміж будынкамі, як таго патрабуе закон. На гэта выйшла рэзалюцыя губэрнскага інжынэра: хату разабраць.

На дзясяты пасьля пажару год цяжба аб зносе дома ўсё яшчэ працягвалася.

У 1845 г. у Луна ў сям'і журналіста нарадзіўся Ахарон Ліберман, будучы вядомы габрэйскі публіцыст і выдавец. Хлопчык атрымаў традыцыйнае габрэйскае выхаваньне. Пасьля заканчэньня Віленскай духоўнай вучэльні (1861—1867) працаваў настаўнікам у Сувалках (Польшча).




Аарон Самуэль Ліберманам (1845—1880). Надмагільле Лібермана ў Кўінсі, Нью-Ёрк

З 1869г. — вольны слухач Пецярбурскага тэхналягічнага інстытута. У 1873 г. апублікаваў некалькі сваіх работ аб становішчы рабочых габрэяў у часопісе «Вперёд». Вярнуўшыся ў Вільню, стварыў габрэйскі сацыялі-

стычны гурток і ў 1875 г. вымушаны быў уцячы ў Лёндан, дзе заснаваў « саюз габрэяў-сацыялістаў». З 1876 г. у Вене выдаваў сацыялістычны часопіс «Ха-Эмет». У 1878 г. пасаджаны ў турму ў Бэрліне, а ў 1880 г. зьяжджае ў ЗША, дзе ў гэтым жа годзе памёр. У 30—40 гг. 20 ст. зборнікі яго артыкулаў выдаваліся ў Ізраілі.

Дзякуючы таму, што Луна-Воля знаходзіліся ля Нёмна, які быў важным і танным гандлёвым шляхам, тут бойка ішоў гандаль драўнінай і збожжам, якія везьлі ў Крулявец, а прадавалі прывезеныя з далёкага падарожжа соль, селядцы, газу і іншыя імпартныя тавары. Ля прыстані ўздоўж Нёмна з нестраявога лесу стаялі рабочыя пабудовы. Збожжа перавозілі на баржах, а драўніну — на плытах. Луненскія гандляры мелі выгаду, бо атрымлівалі тавар з першых рук. Сяляне з навакольных вёсак сьпяшаліся ў Луна на кірмаш, бо і яны маглі тут купіць менш дарагі тавар. Усё гэта забясьпечвала месцы працы не толькі для гандляроў, але і для цесьляроў, сталяроў, плытагонаў, бурлакоў, грузчыкаў і многіх іншых майстроў. Для сялян забясьпечаны быў збыт іх земляробчай прадукцыі.

Воля, хоць і лічылася самастойным паселішчам, эканамічна была цесна зьвязана з Луна. У Волі будавалі судны для Нёманскай прыстані. Дзякуючы добрай якасьці, майстры з Волі заўсёды мелі заказы ад купцоў на пабудову барж і няблага зараблялі. Заказы нават былі і ад нямецкіх купцоў. Акрамя гэтага жыхары Волі займаліся рыбалоўствам, вырошчвалі садавіну і гародніну.

Усяму гэтаму дабрабыту паклала канец Сусьветная вайна (1914—1918 гг.) Усё было спалена і разбурана. Нямецкімі акупацыйнымі ўладамі былі афіцыйна аб'яднаны Луна і Воля. Гандаль зьнік, а разам з ім усе крыніцы даходу і рабочыя месцы, зьвязаныя з гандлем па Нёмне. Адзінай крыніцай даходу засталіся кірмашы. Эканамічны заняпад вёў да галечы. Аб гэтым падрабязна расказвае ў сваім дакладзе з нагоды дзесяцігодзьдзя Банку «Асацыяцыя для ўсіх» Ізраэль Касоўскі. Кіраўніцтва банка і іншыя паважаныя жыхары Луна-Волі вымушаны былі зьвярнуцца да суайчыньнікаў за мяжой за фінансавай дапамогай.

Не гледзячы на цяжкія ўмовы, але дзякуючы высокаму ўзроўню адукацыі, працавітасьці і кемлівасьці, габрэйская абшчына мела дасягненьні ў эканамічным разьвіцьці, аб чым сьведчаць запісы ў кнізе адрасоў.

У кнізе адрасоў з 1928 г. есьць старонка прысьвечаная Луна, дзе пералічаны прозьвішчы ўладальнікаў розных установ і розных прафэсій. Прывядзём гэты сьпіс у перакладзе з польскай мовы аўтарам:

ЛУНА

Мястэчка, пав. Гродна, суд к. і суд акр. Гродна, 1884 жыхара * (6 км) Чарлёнка&Луна Гродна.

1 касьцёл, 1 царква, 1 сынагога. Каса каапэратыўная.

Ярмаркі: 1-га кожнага месяца. Млыны, цагельні.

Добраахвотная страж агнёвая (пажарная).

Камэндант: Урбановіч.

Дактары: Барташэвіч Антон
Дактары дантысты (зубныя): Велікоўскі П.
Дактары вэтэрынары: Малыгін Мік.
Уладальнікі зямлі: Ромэр Р. (981)
Акушэркі: Ахрэмчук І.
Аптэчныя склады: Каплан Т.
Аптэкі: *Тжэцяк К.
Банкі: *Банк народны жыдоўскі.
Бляхары: Яблоньскі — Рубінштэйн Н.
Скура вышэйшай якасьці: Абін Д.-Бейціховіч В.-Элязбург А.- Элязбург М.- Фрыдман М.- Нахбэ Э.- Він Ц.
Брукарскае прадпрыемства: Цырульнік З.
Будаўнічыя матэрыялы: Казлоўскі А.
Жывёла-гандаль: Гісар Ш.- Гуз Б.
Цагельні: Шчырскі А.- Шота А.- Кадзевіч С.
З цэмэнту вырабы: Каплан Ш.
Рызыкаў Э.- Рызыкаў В.
Шапачнік: Леў М.
Страхары: Давідовіч М., — Мураўскі Ш.
Цесьляры: *Бейраховіч і Ска.
Фарбавальня: Фрыдман.
Дыска І.- Сарока І.
Цырульнік: Пасоўскі Б.
Ганчары: Неманска Р.
Чайная: Бэкер Ш.- Эфрон С.- Фрыдман Р.- Рохкін Ц.- Румшышкер Х.- Шалахман Э.- Шота В.
Гасьцініца: Фрыдман Р.
Гамашнікі: Цюрус Ш.- Каплан Х.
Камянярска — разьбярскае прадпрыемства: Дунецкі І.- Глот І.
Каса пазычальна-ашчадная: *Каса
Кавярня: Марголіс П.
Каляніяльныя артыкулы: Бервц Х.- Эпштэйн Д.- Фурман Э.- Гілдэнфэніг І.-Індыцкі М.- Каган А.- Муршлёйн Б.- Пухасовіч Е.- Паташыньскі Г.- Рэйзнар Л.- Рохкін Ц.- Саламінска Т.- Шалахман Л.- Шэрайховіч Г.- Шклярска М.-
* Ваўкавыскае Акр. Каапературнае Таварыства, Sp. z.o.o.-Зачэпіцка Ш.- Золтын А.- Златаябка Р.
Кавалі: Барэнганс Э.-Новік Ш.- Шнойер З.
Краўцы: Фурман Ц.- Фурман Н.- Янкелевіч Ф.- Красельнік І.- Кравец І.- Кравец М.- Кулікоўскі М.- Левін І.- Напарстак М.- Піньскі А.- Шварцбар Б.- Глембоцкі Э.- Ягель К.- Каган Х.- Левін Ш.- Слапак А.
Ліманада-фабрыкі: Альперштэйн Ш.
Маляры: Яноўскі.
Млыны: Гдыньскі М. (пар.) — Едваб А.- Едваб Ф. (пар.) — Кундзіч А. (вадз.) — Тарасовіч Э. (вадз.)

Муляры: Еліковіч Р.- Канстанцінаў І.- Семашка В.- Шота К.

Агароднае прадпрыемства: Тарасовіч Э.

Пякарні: Бохар Х.- Новік Э.- Новік І.-Рохкін Ш.

Пахавальная служба: Дунецкі І.

Рэстараны: Шугай М.- Купэрфеніг І.

Розныя тавары: Індуцкі Х.- Касоўскі М.

*Сяляньскі Гурток- Новік І.- Рэйзнар Л.- Рохкін Т. Файвал К. Гісар І.- Гісар Ш.- Каган М.- Левін А. Плахетка А.

Шкуры: Дэрэвянска Э.- Фурман Э.- Шафіровіч Ц. Эльянберг

Спажывецкія артыкулы: Бунд Г.- Дражнін Н.- Фрыдман Х.- Каган Ц.- Ластоўска Х.- Марціноўскі І.- Матыльска І.- Роскін Х.- Роткін Н.- Шапшыньскі Х.

Сталяры: Борвін Л.- Дунецкі І.- Каган Ш.- Каплан І.- Кулікоўскі Л.- Мурштэйн С.- Польцын К.

Студні (калодзежы) -будаваньне: Каплан І.

Краўцы: Фурман Э.- Гісар В.- Каган Х.- Каган Ф.- Кагановіч І.- Каплан Х.- Марціноўскі Х.- Мураўскі Л.- Мурштайн М.- Роскін З.- Сагант І.- Шота Ф.- Талокін М.- Вішнеўскі І.

Слесары: Пажарскі Л.- Занеўскі К.

Токары: Ластоўскі С.

Табачныя вырабы: Каган М.- Любіч Э.- Рунізышкер І.

Страхавыя агенцтва: *Бейраховіч В.

Воды газаваныя: Айзэншмідт О.

Вазы-выраб: Кэлнар Э.- Моты А.

Збожжа: Файнзільбер М.- Каган М.- Касоўскі М.- Рабінаў Г.- Вэльбаль Э.

Печнікі: Канстанцінаў І.- Семашка В.

Жалезныя вырабы: Бэркёсаль Э.- Эльязбэрг І.- Голдзін Л.- Зайчык І.

ЛУНА

Гміна вясковая (Сядзіба кіраўніцтва гміннага ў мястэчку Луна) з прыналежнасьцю:

Камянчаны, Жылічы.

Уладальнікі зямельныя (зямлі): Клюкоўская А. (Нецеча 110) —

Мазалеўская Ольга (Радзівонауцы 327) —

Мазалеўскі І. (Суцькі 260) —

Стралкоўскі Кл. (Міневічы 374) —

Тарасовіч Эдв. (Сямашкаушчына 542).

Цагельні: Шнэйер З.

Розныя тавары: * Сельскагаспадарчы Гурток (К. і З.)

Млыны: Галыньскі Ш.

Спажывецкія артыкулы: Майсак С.-Пілко М.

Кніга адрасоў 1928 г.

«У 4 гадзіны ранку едзеш з бацькам на возе на кірмаш, а ўжо браты Енкі працуюць у кузьні ля разадзьмутага горна расказвае жыхар Луна Р. Сырэй. — У дырэктара школы Хуроўскага быў адзіны ў мястэчку легкавы аўтамабіль з карбіднымі фарамі і сігналам грушай. Працавалі тры вадзя-

ныя і два мэханічныя млыны, у «шалахманах» прадавалі гарэлку і закуску, Хэйла трымаў рэстаран, дамы асьвятляліся ад генэратара, які заводзілі ў прыцемках. Першага і дваццатага кожнага месяца адбываліся кірмашы. Цэны на зерне былі ад 1 злотага 60 грошай да двух злотых за пуд, карова каштавала 120 злотых, конь- 300—500 злотых, воз -157 злотых, 1 літар гарэлкі-4 зл. 75 гр. Па соль хадзілі ў Гродна пешшу, але за грошы маглі заехаць аўтобусам ці параходам «Ягайла»



Параход на Нёмне. 1925 г.

Па вечарам моладзь ладзіла забавы. Іграў на скрыпцы Іршко шавец. Танцавалі польку, кадрыля, «страданьні лысага», кракавяк, каробачку, яблычка, факстрот.

## Рапсодыя Луненскага кірмашу

Пра Луненскі кірмаш так красамоўна ўспамінае Іцхак (Іцл) Эліашберг, што не прывесьці гэтыя ўспаміны (у вольным перакладзе) я проста не магу.

«Шэсьць удараў старога гадзіньніка будзяць цябе, і ты яшчэ з паўадчыненымі вачыма пасьля добрага зімовага сну глядзіш на падвойныя вокны ў пакоі, спэцыяльна пастаўленыя для зімы. Паміж вонкавай і ўнутранай рамай есьць слой ізаляцыйнага матэрыялу. Шчыліны ў рамах шкла забітыя паперай і анучкамі, каб холад не праходзіў праз іх. Шкло пакрытае сьнежным налётам, які размаляваў яго ў букеты кветак, жывёл і разнастайныя карціны, якія мог бы зрабіць мастак для дзіцяці каб уразі-

ць яго. У цябе няма жаданьня ўставаць гэтай раніцай і нават высоўваць нос з-пад цёплай коўдры. Хацелася б падрамаць яшчэ трошкі і працягваць марыць. Тым не менш, ты не можаш сабе гэтага дазволіць. Маці, толькі Бог ведае калі яна ўстае, нясецца да цябе і штурхаючы кажа: «Уставай, дзіцё; сёньня ў мястэчку базар».

Ты ўскакваеш з ложка, хутка апранаешся і ідзеш да крана памыцца. Вада вельмі халодная — вада, якую Задзішка, вядомы вадавоз, прынёс учора з калодзежу. Удаецца распырскаць пальцамі ваду так, што яна пападае толькі на кончык носу. Адразу ж пасьля гэтага, ты сядаеш за стол на сьняданьне. Сьвежасьпечаная булка, са смажанай цыбуляй на ёй, якую маці купіла раніцай у пекара Ёске, зьядаецца з вялікім задавальненьнем. Кубак гарбаты з кіпню ў самавары, падсалоджаны 3 лыжкамі «Punch», саграваe тваe маленькае сэрца «Мехае Нэфозэс» (бласлаўленьне для тваёй душы»). Ты заканчваеш есьці, апранаеш шубу і выходзіш з дому на дарогу да базару.



Рынкавая плошча, акружаная габрэйскімі дамамі з невялікімі крамамі. (1958 г.) З калекцыі Аба (Маргуліс) Маргаліт. Сайт Рут

Рынак яшчэ не прачнуўся. Плошча ў цэнтры, таксама яшчэ сьпіць; чорны воран сядзіць на вяршыні свайго намёту і скідвае кавалкі лёду і зацьвярдзелага сьнегу. Некалькі саней негабрэяў з Мазанава (што на іншым баку ракі Нёман) даюць табе адчуваньне, што сёньня сапраўды сьвяточны дзень у горадзе. Гэтыя сяляне выдзяляюцца адзеньнем: па хустках на плячах, па анучах і шнурках, што пакрываюць іх ногі. Яны ўжо прадалі жэрдкі, якія прынесьлі з лесу ў мястэчка і якімі потым людзі будуць паліць печы.

Вельмі холадна. У мястэчку зіма. Сяляне з Мазанава махаюць рукамі, рухаюцца, скачуць для таго, каб сагрэцца. Мароз чапляецца за шчокі ды не дае дыхаць. Нёман замёрзлы. Можна ўбачыць на даху тонкі слой лёду, які падобны на замарожаныя сьлёзы, якія заклікаюць да плачу. Сьнег скрыпіць пад нагамі. Ты аглядаешся і бачыш лядовую горку ля калодзежу, створаную з вады, разьлітай тут і замёрзлай. Стаць на гэтую горку значыць ставіць сваё жыцьцё ў небясьпеку, бо ты можаш пасьлізнуцца і трапіць у калодзеж.

Ты працягваеш ісьці да рынку і сустракаеш Хэйні Мошэ. Мошэ — габрэйскі гандляр канямі, прафэсія перадаецца ў сям'і з пакаленьня ў пакаленьне. Ён высокі і бучны, з доўгай чорнай барадой, і як кажуць людзі, з «двайным падбародкам». Ён ходзіць, не падымаючы ног, апрануты ў доўгую зімовую шубу, у якой каўнер закрывае твар, яго штаны запраўленыя ў боты, а рукі схаваныя ў рукавах. Ён ходзіць павольна, жуючы сьцяблíны сена ў роце, хвалюючыся, думае, што магчыма гэтай раніцай яму ўдасца купіць ці прадаць жарабя або каня. «Добрай раніцы, рэб Мошэ». «З новым годам!» — адказвае ён, і пара з яго роту падобна на тое, як выходзіць дым з трубы ў печы. «Ну, будзе гэта пасьпяховым днём для гандлю, рэб Мошэ?» — «З Божай дапамогай» — адказвае ён басам. «Такая была свайго роду асьцярога, але дзякуй Богу, сёньня на замеценых сьнегам дарогах лепей і, спадзяюся, будзе лепей у гандлі і на рынку». «Ах, Рыбона шэль алам, няхай гэта будзе сапраўды добры дзень; Габрэям заўсёды патрэбны сродкі існаваньня».

Вы вяртаецеся на шлях да Загаранаў і раптам чуеце: « Хай цябе халера!", „хай цябе возьме жахлівая сьмерць", „няхай грып цябе спакутуе", „хай падзеліць твае цела на кавалкі". „Можа вы з'ясьце сёньня Кадохес (малярыя) з кашэрнымі стравамі? «Мешуг, Гвалд»! Не пужайцеся, гэта толькі Кая-Хінда сварыцца з яе мужам Ешуда-Фэйцеш. Калі габрэі сварацца паміж сабой, гэта знак таго, што сёньня будзе добры гандаль на кірмашы. Крама Хая- Хінды малая, толькі чатыры локці. Усё гатовае да кірмашу. Яна падрыхтавала чвэрць бочкі з тлушчам, бочку з селядцамі і расолам. Яшчэ ў яе краме была вэнджаная рыба, каралеўскі далікатэс для мужыкоў. Акрамя таго ў яе быў куфар з тканінай, каробка цукерак з дня Метушалаха (вельмі старыя), яны былі для выпадку, калі мужык захоча набыць іх, як падарунак свайму дзіцяці. У Хая-Хінды і яе мужа Ехуда-Файцеша быў «сапраўды супэрмаркет» гатовы да кірмашу.

Вы працягваеце сваю вандроўку і чуеце мэлёдыю, якая кранае вас за самае сэрца. Гэта мясьнік Алтэр, які напявае сьпеў аб невядомых жаўнерах мінулай вайны і выражае ў сваім сьпеве смутак і спачуваньне ім. Словы гэтага сьпеву такія: « У зялёных — зялёных палях, невядомы жаўнер ляжыць. Ой мой! Ой, ой, ой».

Вы ідзяце па вуліцы і бачыце доўгі рад саней з сялянамі з іншых вёсак, якія прыехалі на кірмаш. Мужыкі сядзяць на вялікіх вазах, якія поўнасьцю забітыя саломай і сенам, а тыя што багацей, сядзяць на такіх жа вазах,

толькі галовы іх коней упрыгожаны бубенчыкамі. Вы падыходзіце бліжэй да саней, штурхаеце вазьніцу за рукаў і просіце каб ён ваз падвёз. Пад час паездкі, вазьніца карыстаецца бізуном, каб падганяць каня. Дарога праходзіць хутка і вы злазіце з воза задаволеныя.

Кірмаш прачынаецца. Адна за другой крамы насупраць кірмашу пачынаюць адчыняцца. На дзьвярах адной з крамаў вісіць чырвоная тканіна, яна вісіць там, для таго каб прываблiваць увагу пакупнікоў і даць ім зразумець, што гэта модны дом. Кравец ужо разьвесіў свае тавары розных разьмераў і на любы густ. Калі мы ўзгадалі пра краўца, то чаму б нам не ўзгадаць пра яго жонку Рэбедзін.


(2189)
KIERMASZ W MALÉM MIASTECZKU, W GUBERNII GRODZIEŃSKIÉJ.

Кірмаш у малым мястэчку, у Гродзенскай губэрні

Згадваючы людзей, нельга забываць і іншых. Наступныя асобы, вельмі добра вядомыя ў нашым мястэчку і яго ваколіцах: Ёсель дэр Мешуге (шалёны), Бэрл дэр Хэн (курыца), Аўрэймель дэр Парач (лысы), Шалом дэр Пардзэске (лялька), Янкель баал Хадзіх (чалавек з адміністрацыі), Аўрэйміл Воцых (баваўняны), Мойша дэр Крывалоб (касы), Лейбл дэр Ханук (безшабашны), браты Катц, Рубцэкакер, і каб не пакрыўдзіць прадстаўніц супрацьлеглага полу, чаму б не ўзгадаць Каісэрыну (імператрыца), чыя лысая галава зьзяла як карона. Зараз яшчэ некалькі: « Курыцке, Хэндзіцке, Цыпке-Дрыпцэ». Гэта тыя людзі, з якімі нават Хершэ лайдак не змог застацца незнаёмым. Калі напрыклад атрыманы ліст

на імя Рубтцэ Какер, то адрас яго ўжо не патрэбны, бо гэта ўсім вядомы чалавек.

Калі мы ўжо ўзгадалі Рубтцэ Какера, нельга не сказаць некалькі слоў аб яго характары. Рубтцэ маленькі габрэй, з маленькай рыжай бародкай, пакрываючай яго твар. Ён бедны габрэй, які вучыць « дардаке» (пачынаючых) для свайго задавальненьня. Кожны пятнічны вечар Рубтцэ прамаўляе сваім голасам на вуліцах гораду: «У шул» (сынагогу). Калі Рубтцэ кліча ўсіх у шул, гэта знак для ўсіх жанчын у горадзе, што гэта час для палаючых сьвечак. «Чэдр» (кляс) Рубтцэ знаходзіцца на тэрыторыі сынагогі і гэта найважнейшая адукацыйная ўстанова для хлопцаў і дзяўчат. Да чатырох гадоў, усе яны наведваюць «Чэдр» і пачынаюць свае навучаньне з «Каматц Алеф» і заканчваюць на главе «Чумаш» (пяцікніжжа). Маленькія дзеці баяцца дубца Рубтцэ. Аднак, калі ён павінен біць дзяўчынку, то адварочваецца, зачыняе вочы і пытае: «Ханна, можна я цябе ўдару?»



Агульны выгляд вуліцы Гродзенскай. (1958 г.)
З калекцыі Аба (Маргуліс) Маргаліт. Сайт Рут

Але давайце вернемся да кірмашу ў мястэчку. Вы паварочваеце на дарогу, якая выводзіць на Гродна і Суцькі, пасьля гэтага вы ідзяце да вугла вуліцы. Мойша Крывалоб, сын рабіна, якога клічуць так з-за яго зайчых вуснаў, тым часам адправіў сваіх дзяцей у тым жа накірунку лавіць сялян, якія прыяжджаюць з таго боку на санях, поўнасьцю загружанымі мяшкамі са збожжам, якое яны хочуць прадаць і сказаць ім, што яны атрымаюць такія высокія кошты, толькі ў яго гандлёвым месцы. Аднак, як костка ў глотцы, гэта Ёлкін Янкель, які таксама мае гандлёвае месца, што знаходзіцца пасярод шляху. Сварка пачынаецца з таго што, з аднаго боку стаіць Мойша з яго сям'ёй, а з другога Янкель са сваёй жонкай Ёлкай і дочкамі, якія

прыйшлі яму дапамагчы. Тут пачынаецца «сапраўдны кірмаш». Яны пачынаюць сварыцца адзін з адным і слаць праклёны. Пельта, дачка Мойшы, цягне каня селяніна за ўзьдзечку ў свой бок, а Янкель і Ёлка ў свой. Селянін не можа зразумець, што ад яго хочуць і што ён павінен зрабіць. Пасьля гэтага ён б'е свайго каня бізуном і пачынае ехаць у бок Мойшы. Пельта, якая ўзрадавалася сваёй перамозе, ідзе да бацькоўскай лаўкі. Аднак, без аніякіх папярэджаньняў, селянін перадумвае і едзе да прылаўку Моці Шэкэля. Селянін вырашыў прадаць збожжа яму. Пельта вярнулася на кут сваёй вуліцы са смуткам і сорамам, але спадзеючыся, што зможа прываніць іншых сялян, якія захочуць прадаць сваё збожжа яе тату.

Рынак перапоўнены людзьмі. Там проста няма дзе яблыку ўпасьці. Многія стаяць на плошчы, а некаторыя ў двары сынагогі са сваімі санямі. Вытворцы абутку ўжо прадставілі свае ручныя працы: вычышчаныя боты з ватай унутры і скуру на продаж. Хэт — вытворца паставіў свае лесьвіцы, каб разьвесіць мадэлі шапак розных памераў, зробленых для сялян.

Ад гандлёвага месца Ёске Бэйкера чуюцца прыемныя пахі сьвежасьпечаных мучных вырабаў, такіх як «Frishe Leibalach» (выпечка ў форме сэрца), белы Халлот (традыцыйны хлеб пятнічнай вячэры), вялікія круглыя абаранкі, чорны хлеб, і штосьці кшталту «булкалах» (рулету). Побач з яго гандлёвым месцам, не габрэй паставіў свае прадуктамі з сьвініны, якая выклікае жах, калі тлушч сьцякае пад час таго, як селянін прадае яе. Каля месца Ёске, Кацярына разьмясьціла ледзянцы ў выглядзе розных жывёл і птушак, зробленыя сваімі рукамі, але толькі Бог ведае з чаго яна іх прыгатавала.

Усе крамы ў цэнтры кірмашу адчыніліся і запрашаюць гасьцей. Жонка Мойшы Гершэля з доўгімі шарсьцянымі панчохамі, якія пакрываюць яе ногі і пальчаткі, зробленыя з шэрсьці, на яе пальцах, уваходзіць хутка ўнутр крамы з гарачай грэлкай для ацяпленьня і чакае пакупнікоў.

Каля крамы з вэльвэтавымі тканінамі кліенты чакаюць сутэнёра, бо да гэтага месца прыводзяць прастытутак. Маладая жанчына, што праходзіць міма, паварочвае сарамліва твар у бок, быццам бы яна не ведае зла, коса аглядаецца, каб упэўніцца, што ніхто яе не бачыць і пачынае ісьці хутчэй.

У гэты жа час гучны голас прамаўляе: « Амэрыканскія цукеркі з французскага заводу, аднойчы ў жыцьці». Адзін селянін падыходзіць і робіць выпрабаваньне свайму лёсу: ён бярэ жменю цукерак, затым спрабуе адгадаць колькі іх там. Нізенькі прадавец пералічвае цукеркі і паведамляе селяніну, што названы ім лік няправільны. Прадавец забірае цукеркі і кладзе іх назад, у маленькі папяровы кулёчак. Калі б селянін правільна адгадаў колькасьць цукерак, яны б аказаліся ў яго кішэні. Але не хвалюйцеся, габрэй — гандляр заўсёды мае маленькую цукерку паміж пальцамі, каб калі гэта спатрэбіцца, пакласьці яе ў яго кулёчак, такім чынам селянін ніколі не адгадае правільную колькасьць цукерак там.

Міма праходзіць Берл, сын Песе-Файгеля. Вядомы жартаўнік у мястэчку і проста добры хлопец. Ён набліжаецца да Шыксэ (негабрэйка), якая

трымае дзясятак яек у сваім шаліку. «Па чым вашы яйкі?» — пытаецца ён. «А колькі твае?» — адказвае яна. Берл ашарашаны яе адказам, але не разгубіўся. Ён падыходзіць блізка да іншай маладой Шыксэ, якая праходзіць міма яго. Гэтая маладая прыгожая Шыксэ носіць чысты белы фартух і нясе прадаваць курыцу. Берл бярэ курыцу з яе рук, б'е па пер'і, як гэта робіць купец, калі хоча даведацца тоўстая курыца ці худая. І раптоўна сьціскае курыцу так, што курыца забруджвае адзеньне Шыксэ. «Фу!» — кажа Берл, — «Гэта хворая курыца!». Шыксэ крычыць. Яе белы фартух, які яна купіла адмыслова для кірмашу, брудны, і ў дадатак, яе курыцца аказалася хворай.

Кірмаш разгараецца, як агонь. Коні ржуць, каровы мычаць, сьвіньні хрукаюць, сяляне каб паставіць падковы коням, вядуць іх у майстэрню Лэйба Блэксміта; іншыя стукаюць пальцамі па мэталу ў майстэрні Ёселя, каб праверыць яго на наяўнасьць дэфэктаў. Чутна соевы пьяных мужыкоў з корчмаў. Усё зьмешваецца разам і «сымфонія» дасягае нябёсаў. «Сымфонія кірмашу і мястэчка».

Адзін мясьнік хоча набыць цяля ў селяніна. «Я хачу да яго дакрануцца» — кажа мясьнік і дае селяніну аплявуху, пакуль ён разглядае зоры на небе. Мясьнік прапануе высокі кошт, але селянін яшчэ не ўступае. Яшчэ трохі перамоваў і справа зробленая, дзякуючы невялікаму стакану гарэлкі ў падыходзячы час. Расслабцеся габрэі, будзе смажаная цяляціна на Шабат.

Групка сялян стаіць ля габрэйскага гандляра, які зьяўляецца госьцем у мястэчку. Гандляр стаіць на лесьвіцы прамаўляючы: «Усё па 50 грошаў! Вы не знойдзеце ніякай лепшай прапановы! Вось першы тавар за 50 грошаў; гэта маленькае круглае люстэрка, каб глядзець у яго і бачыць якія вы прыгожыя. Тавар нумар два: нататнік з алоўкам, для тых хто ўмее пісаць. Усё па 50 грошаў. Адны сяляне купляюць, пакуль астатнія сьпяшаюцца знайсьці іншыя тавары, бо ж усе толькі па 50 грошаў.

Павольна-павольна пачынаецца захад. Сяляне сьпяшаюцца запрагаць сваіх каней у сані. Адзін з іх стукае кіем па дошцы аб'яў, на якой напісана: «У сераду, праз чатыры тыдні з сёньняшняга дню, будзе наступны кірмаш у мястэчку». Як сучасная рэкляма.

Цішэй, адкульсьці чуецца грукат барабанаў. Гэта агонь? Што гарыць? Ці павінны мы бегчы і ратавацца? Дзе вёдры з вадой? Не пужайцеся, габрэі, гэта не пажар, гэта толькі вучэньні. Пажарныя, з чырвонымі стужкамі на адзеньні, і афіцэры з белымі карункамі на грудзях, хутка бягуць і робяць шоў. Яны набліжаюцца да месца, дзе іншыя пажарнікі ўжо стаяць з вёдрамі вады і насосам з доўгім шлянгам для тушэньня дамоў з саламяным дахам.

Надыходзіць вечар. Загараецца адна за адной газавыя (газа — керасін) лямпы. Крамы зачыненыя.

Некалькі п'яных мужыкоў затрымаліся, але неўзабаве пакінуць мястэчка. Габрэі падлічваюць вынікі кірмашу. Але раптоўна кожнаму становіцца

чутная кранаючая мэлёдыя. Хто пяе так позна? Хто плача? Гэта скуліць сабака? Не, гэта Ялуша, вядомы п'яніца ў мястэчку. Ён дагэтуль не супакоіўся ад віна, якое выпіў, і лежачы на тратуары ў сваім забыцьці, пяе мэлёдыю ўчорашняга дню:

«Гора! Як шкада, што кірмаш закончыўся і зьнік так хутка. Кірмаш у мястэчку...»



Выгляд вуліцы Ваўпянскай на перасячэньні з вуліцай Падольнай (1958 г.). З калекцыі Аба (Маргуліс) Маргаліт. Сайт Рут

Луненскія вуліцы мелі назвы Паштовая (цяпер Камсамольская), Гродзенская (потым Леніна, цяпер Гродзенская), Стралецкая, Мяшчанская, Ваўпянская (цяпер Савецкая), Палявая (цяпер Пабеды), Падарэўскага (цяпер верагодна Шасэйная), Касьцельная, Скарбовая...




Схемы Луна-Волі (1930 г.), намаляваныя Эліэзерам Эйзеншмідтам у наш час

«Кравец Бэрка і Златаябка былі самымі багатымі сярод габрэяў, краўцамі былі Фрума і Зымель, браты Лэйшка і Ёсель кавалі, краўчыха Хайка, багатыя, дарагія строі былі ў Фішэл, аптэкарам быў паляк Трацьцяк, таварамі прамысловымі гандляваў Майдэль, Якуб рабіў абутак, быў і свой банкір Бараховіч, зерне закупаў Шулька Каган, Боня і Плахетка рабілі калаўроткі, хамуты ды іншую конскую зброю, сталярнымі справамі займаўся Цэнаж, Лэмаж рабіў цэглу. У мястэчку было 5 млыноў і 5 паліцыянтаў. Дарогі брукаваныя».



Перавулак Шасэйны (Падарэўскага?) ад вуліцы Ваўпянскай (1958 г.). З калекцыі Аба (Маргуліс) Маргаліт. Сайт Рут

У местачкоўцаў да сёньня існуе звычай даваць людзям мянушкі. Таму цяжка судзіць, ці названыя ва ўспамінах Сырая Расьціслава людзі мелі такія прозьвішчы ці мянушкі. Магчыма і тое і тое. Але гэта слабенькі сьлед з міжваеннага Луна.

## Пагаршэньне палітычнай і эканамічнай сытуацыі

18 сакавіка 1921 года прадстаўнікі Польшчы і Саветаў дабілі ў Рызе торг і Беларусь падзялілі. Луна апынулася ў складзе Другой Рэчы Паспалітай. У польскай канстытуцыі, прынятай устаўным соймам 20 сакавіка 1921 г., блізу ўсе правы, прадбачаныя для нацыянальных меншыняў Вэр-

сальскім і Рыскім трактатамі, былі паўтораныя ўжо як нутраны польскі закон. Зразумела, што ў такой сытуацыі габрэі спадзяваліся на дазвол арганізоўваць жыцьцё згодна сваім гістарычным традыцыям. Але праўнаму палажэньню зусім не адпавядала рэчаіснасьць. Дачыненьні польскіх улад да беларусаў і габрэяў на «Крэсах всходніх» рабіліся ўсё больш крыўднымі, несправядлівымі і бяспраўнымі. Габрэі наогул знаходзіліся ў стане пастаяннай пагрозы фізычнай расправы. У Луна гэта не насіла такой вастрыні, бо тут габрэйскае насельніцтва дамінавала, але габрэям не дазвалялася займаць дзяржаўныя пасады, манаполію на гандаль алькаголем і табачнымі вырабамі мелі толькі былыя польскія легіянэры, бізнэс абкладваўся цяжкімі падаткамі... Вынікам такога становішча стала хваля эміграцыі ў Ізраіль. З таго часу існуе пагаворка: «Грабскі (міністар польскага ўраду) заснаваў Тэль — Авіў». Большасьць эмігрантаў з Польшчы ў 1924 -1925 гадах пасяляліся ў Тэль — Авіве.

Але сапраўдны перасьлед пачаўся пасьля травеньскага перавароту ў 1926 годзе, калі да ўлады прыйшлі польскія шавіністы.



На працы (1927 г.)

У Луна жылі хрысьціяне і габрэі. У 1921 годзе габрэйскае насельніцтва ў Луна-Волі складала 1373 чалавек з 1884 жыхароў, гэта значыць 73% ад агульнай колькасьці. У 1938 годзе габрэяў было 66% насельніцтва Луна-Волі. Большасьць негабрэйскіх жыхароў былі каталікамі (палякамі). Хрысьціяне, галоўным чынам, пражывалі кампактна па вуліцы якая злучала Луна з Воляй. Праваслаўныя беларусы, пераважна, жылі ў суседніх вёсках.

Падчас сусьветнага эканамічнага крызісу ў 1930 годзе габрэі Луна пацярпелі ад рэзкага пагаршэньня эканамічнай сытуацыі. Сытуацыя стала

крытычнай у выніку вялікага пажару ў ліпеню 1931 г, які зьнішчыў многія з прадпрыемстваў Луна, у тым ліку збожжавыя склады, а таксама шэраг дамоў. У большасьці, гэтыя дамы і прадпрыемствы былі не застрахаваныя, што пазбавіла магчымасьці атрымаць хоць якую кампэнсацыю ці дапамогу. Агонь таксама зьнішчыў папяровыя грошы многіх жыхароў, якія хавалі іх у сваіх дамах.

| | Jews | Catholic | Pravoslavic | Total | Jews | Catholic | Pravoslavic | Total |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Lunna | 1169 | 496 | 128 | 1793 | 1279 | 546 | 149 | 1974 |
| Wola | 322 | 76 | 61 | 459 | 392 | 84 | 72 | 548 |
| Total | 1491 | 572 | 189 | 2252 | 1671 | 630 | 221 | 2522 |

Колькасьць насельніцтва ў Луна і Волі ў 1931 і 1938 гг.

У выніку многія габрэі, якія страцілі свае дамы і маёмасьць падчас пажару засталіся без прытулку і сродкаў да існаваньня. Невялікая колькасьць, якія мелі сваякоў сярэдняга клясу, атрымала дапамогу ад іх. Для дапамогі бедным быў арганізаваны Камітэт па надзвычайнай сытуацыі на чале з рабінам Тувія Ротбергам.



Дом Мошэ-Юдэля Аркіна (1920-1930-х гадоў). Гэты ж дом Мошэ-Юдэля Аркін (зьлева, двухпавярховы з балконам) пасьля вялікага пажару (1931).
Крыніца: Інстытут юдаікі Сайт Рут

Між тым, сярод негабрэйскага насельніцтва Луна да гэтай пары жыве міт, што габрэі самі падпальвалі свае дамы, каб атрымаць страхоўку і замест драўляных, пабудаваць мураваныя дамы.

У міжваенны пэрыяд у Луна-Волі ў габрэйскай абшчыне актыўна дзейнічалі грамадзкія арганізацыі. Некалькі сіанісцскіх маладзёвых арганізацый актыўна займаліся дапамогай маладым людзям у справе эміграцыі ў Ізраіль і зьбіралі для гэтага сродкі. Існавала актыўная група партыі Бунд,

але яна была немнагалікай. Дарослыя таксама ўтварылі некалькі актыўных грамадзкіх арганізацый. Асацыяцыя «Бікур Халім» — «Наведваньне хворых» («Bikkur Cholim») апекавалася хворымі, забясьпечвала бедных лякарствамі і месцамі ў бальніцы.



На здымку з калекцыі Etel Eliashberg-Prener (Этель Эліашберг-Прэнер) - Сіаніscкі камітэт Луна (1924 г.).Сайт Рут

Linat Tzedek (Лінат Цэдэк) — «Праведныя сядзелкі» — была групай добраахвотнікаў, якія прапаноўвалі кругласутачны догляд за хворымі, даючы такім чынам мажлівасьць родным хворага крыху адпачыць. «Bank Ludowy Żydowski» (Банк народны Жыдоўскі) забясьпечваў патрэбы ў пазычках.



На здымку з калекцыі Саула Ротберга (Saul Rotberg) — сябры руху Хе'Халуц (Ha' Chalutz) у Луне (1927 г.). Сайт Рут

ХЕ-ХАЛУЦ («піянэр»), аб'яднаньне яўрэйскай моладзі, мэтай якога было навучыць сваіх членаў сяліцца на зямлі ў Ізраілі. Першапачатковае значэньне габрэйскага слова — авангард, які вядзе гаспадара наперад.

Існаваў яшчэ Гмілут Хэсед (Gmilut Chesed Fund (GMACH)), які забясьпечваў бедных беспрацэнтнымі займамі.

Быў дом Hekdesh (Хекдэш), дзе маглі начаваць бяздомныя прыежджыя.




На фота з Інстытуту Габрэйскіх дасьледваньняў (Yivo Institute for Jewish Research) сябры Гмілус Хэсед (Gmilus Chesed). Другі справа сядзіць Равін Тува Ротберг (Tuvia Rotberg). Сайт Рут Маркус

Каталікі мелі свой касьцёл, закладзены яшчэ ў 16 стагодзьдзі каралевай Бонай Сфорца, праваслаўныя — царкву, пабудаваную пасьля разгрому Вызвольнага паўстаньня пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага ў 19 ст., габрэі мелі дзьве сынагогі ў Луна і яшчэ адну на Волі. Новая мураваная сынагога была пабудавана 30 гадах 19 стагодзьдзя. А «старая» сынагога была драўлянай, як і тая, што на Волі. У пэрыяд з 1916 па 1921 год пост рабіна ў Луне займаў Ашэр Іегуда Унтэрман (1886—1976). Пасьля 1921 года Унтэрман пераехаў у Гродна, дзе таксама быў рабінам і кіраваў некалькімі ешывамі. Затым ён эміграваў у Англію, дзе з 1924 года быў рабінам горада Лівэрпуль. У 1946 годзе стаў галоўным рабінам Тэль-Авіва-Яфо, а ў 1964—1972 гадах займаў пасаду галоўнага ашкеназскага рабіна ўсяго Ізраіля. У Луне Унтэрмана зьмяніў Туві Ротберг (пасаду рабіна займаў да 1942 года), вядомы, паважаны і актыўны грамадзкі дзеяч. Ён меў трох сыноў, якія на шчасьце ўсьпелі выехаць у Ізраіль дзесь у 1936 ці 1937 гадах. Бацька таксама меў дазвол на выезд, але затрымаўся і яго жонка Раша Міна (Rasha Mina) загінула ў суботу 22 чэрвеня 1941 года пад час налёту нямецкіх самалётаў на Луна. Равін Ротберг быў забіты 8 сьнежня 1942 года ў канцлягеры Аўшвіц (Асьвенцім)



Будаваньне новай сынагогі (1927 г.)

Зьнішчана ў час Другой Сусьветнай Вайны. На гэтым месцы цяпер «Дом культуры».



Фрагмэнт газэты з інфармацыяй аб пабудове сынагогі. Ля Новай сынагогі. У цэнтры з парасонам Равін Тува Ротберг (1930 г.). З калекцыі Саўла Ротберга. Сайт Рут

З Луна да Гродна можна было даехаць на цягніку з чыгуначнай станцыі Чарлёна, на цеплаходзе па рацэ Нёман, або на аўтобусе. Да Чарлёны каля

8 км. Падвозам да станцыі займаўся Бэрл дэр Фурман (Berl der Furman) і яго сыны. З аўтобуснай станцыі на рынкавай плошчы можна было выехаць у Гродна ў 6 гадзін раніцы, або ў 3 гадзіны папалудні. Праз дзьве гадзіны аўтобус прыбываў у Гродна. Найбольш маляўнічым было падарожжа па Нёмне.



Статкі Ягайла і Ядвіга на Нёмне

Да 1928 года на Нёмне працавала паромная пераправа.



Танцы ля Нёмна (1932 г.)

У 1928 годзе пад кіраўніцтвам інжынэра жыхара Луна быў пабудаваны першы драўляны мост праз Нёман. Мост быў зьнішчаны ў 1941 годзе ўцякаючымі чырвонаармейцамі. Немцы аднавілі паром.

Габрэі мелі сваю грамадзкую лазьню і баню для рытуальнага ачышчэньня.

У пэрыяд паміж першай і другой сусьветнымі войнамі культурнае жыцьцё габрэйскай часткі насельніцтва было даволі інтэнсіўным і на непараўнальна вышэйшым узроўні чым цяпер у пачатку дваццаць першага стагодзьдзя.

## Тэатар у мястэчку

У Луна былі два драматычныя гурткі, якія ставілі п'есы габрэйскіх аўтараў на іўрыце і ідыш. І, калі спачатку гледачы павінны былі прыносіць крэсла для сядзеньня з сабой, то ў трыццатыя гады былі зроблены лаўкі. Акрамя таго частымі гасьцямі ў Луне былі артысты з Гродна і Беластока, якія ставілі на луненскай сцэне спэктаклі па творах вядомых пісьменьнікаў, як Перац Хіршбейн (Peretz Hirshbein) і Якаб Гордзін (Jakob Gordin).

У 1970 годзе Йцхак Эліашберг (Yitzchak Eliashberg) быўшы жыхар Луна напісаў свае ўспаміны аб тэатры ў Луна «Тэатар у мястэчку» (Theater in Shtetl). Давайце разам наведаем тэатральную пастаноўку. На двух вялікіх афішах паведамляецца, што ў бліжэйшую суботу ў «тэатральнай залі» адбудзецца спэктакль « Хася сірата» («Khasye the Yesoyme»). На афішах таксама паведамляецца, што спэктакль пастаўлены па твору Якава Гордзіна мясцовымі аматарамі пад кіраўніцтвам Лейба Голдзіна. Пачатак у 8 гадзін вечара, а квіткі можна набыць у касе. Хая глядзіць на афішу і, хлюпаючы носам, усклікае са стогнам з глыбіні сэрца: «О, Мой! Сірата... Як сумна».

Усе ў мястэчку ведаюць, што ўжо каля года ў кожную суботу зьбіралася група маладых людзей, кажучы адзін аднаму: «Сёньня ў нас рэпэтыцыя».

Між тым Берл цырульнік назапасіў пучкі валасоў з яго кліентаў для таго, каб прымацаваць іх на тварах актораў — адным, як вусы, іншым, як бараду або пэйсы. У пятніцу вечарам акторы зьбіраюць розныя вырабы з тканіны, лаўкі і іншыя прадметы, прызначаныя для аздабленьня сцэны. Яны пераходзяць ад хаты да хаты і зьбіраць старыя лаўкі, паліцы, стол і іншыя рэчы, неабходныя для спэктакля, і хтосьці нават даў ім фіранку, каб зрабіць з яе заслону на сцэне. Жыхары Луна даюць гэтыя рэчы для актораў з вялікай шчодрасьцю, і кожны, хто нешта даў, атрымлівае бясплатны білет на спэктакль, які не зьяўляецца дробязьзю.

Людзі радуюцца, яны любяць тэатар у мястэчку, гэта асаблівая падзея. І вось у суботу ноч спускаецца на мястэчка. Павольна людзі запаўняюць залю і садзяцца на крэслах.

Тэатральная заля асьвятляецца газавымі лямпамі. Акторы стараюцца зазірнуць скрозь заслону. Ужо 9:15 вечара, але няма ніякай неабходнасьці сьпяшацца. Хоць на афішы апублікавана, што гульня пачнецца роўна ў 8 гадзін вечара, тым не менш гледачы ведаюць, што калі шоў пачнецца яшчэ да 11 гадзін вечара, гэта не сапраўднае шоў. Людзі, частуюцца з ежы, якую яны прынесьлі з сабой з дому. Некаторыя людзі прынесьлі кураня, іншыя прынесьлі «Tzimes» (салодкія прыгатаваныя кавалкі морквы) і іншыя прысмакі накшталт далікатэсаў, рэшткі абеду суботы. Раптам, нехта стукае ў дзьверы залі. Не палохайцеся! Гэта Адэля, пакаёўка Раі Бераховіч, якая прынесла шакаляд для дачкі Райкі, так як надышла гадзіна піцьця шакаляду ў хатніх умовах. Так чаму б ім не атрымаць яго ў тэатры?



Тры луненскія дзяўчынкі ў ролях гераінь п'есы «Рут» пад кіраўніцтвам Мэндэля Каплана. Фота прысьвечана настаўніку Шмолу (Shmol). 1925 год. З калекцыі Саўла Ротберга. Сайт Рут Маркус.

Аўдыторыя пачынае праяўляць прыкметы нэрвовасьці, бо ўжо за паўгадзіны поўнач. Для таго, каб супакоіць аўдыторыю, зьвініць званочак

за фіранкай, што азначае, што першы акт вось-вось пачнецца. І... заслона падымаецца. Першы і другі акты зоймуць каля гадзіны. Пасьля перапынку пачынаецца трэці акт. Аўдыторыя ідэнтыфікуе сябе з лёсам сірот, сьлёзы цякуць з вачэй, з глыбіні сэрца вырываюцца стогны, калі дзяўчына — сірата сутыкаецца з праблемамі і пакутамі. Калі сытуацыя на сцэне становіцца занадта напружанай і занадта захапляльнай, некаторыя з гледачоў ускакваюць з месцаў і крычаць: «Даволі, даволі!» Але тут раздаецца голас сына Берла Тымстэра Хаўкеля, які спрасоньня не разумее дзе ён і што з ім, і ўсе пачынаюць сьмяяцца. Акторы блытаюцца, кіраўнік крычыць: «Заслону! Заслону!» але заслону як на злосьць заела. Шум узрастае, але на канец заслону ўдаецца закрыць. Трэці акт завершаны. Ужо 4 гадзіны ранку. Па Хрысьціянскай вуліцы каровы ідуць на пашу. Гледачы расходзяцца па дамам. Ім смутна, што тэатар у мястэчку закончыў свой спэктакль так рана. Музычная група «Залатая шасьцёрка» з шасьці прыгожых луненскіх дзяўчат давала канцэрты не толькі ў Луна, але і ў бліжэйшых вёсках. Яны выконвалі песьні, танцы і тэатральныя пастаноўкі.



На фота з калекцыі Сашы Залутскага-Фінкельштэйна (Sasha Zalutzki-Finkelstein) «Залатая шасьцёрка», 1930 год. Сайт Рут Маркус

А пры пажарнай частцы быў духавы аркестар з польскіх і габрэйскіх музыкаў.

Тэатар знаходзіўся на вуліцы Баннай (Beit Merchatz Street). Гэтая вуліца зьяўлялася культурным цэнтрам габрэйскага жыцьця мястэчка. Акрамя тэатру на гэтай вуліцы быў начлежны дом «Гасьціннасьць» пад

кіраўніцтвам Тувія Карпэнтэра для бедных людзей, якія пападалі ў мястэчка каб сабраць міласьціну. Тут яны маглі прытуліцца на нач. На гэтай вуліцы стаяла «віла» Берла дэр Фурмана і яго сыноў -. Хаіма, Іцхака і Хайкеля, якія мелі той жа занятак, як іх бацька. Дзьве школы «Тора Ve'daat» і Цэнтральная школа на ідыш стаялі сьпіной да сьпіны на гэтай вуліцы. Часам ішлі бойкі паміж дзецьмі, якія наведвалі гэтыя дзьве габрэйскія школы. Дзеці домаўладальнікаў вучыліся ў «Торы Ve'daat» школе, у той час як дзеці простых працоўных хадзілі ў ідыш школу, якая знаходзілася пад уплывам сацыялістычнай партыі «Бунд». І, наканец, тут знаходзілася лазьня, будынак якой захаваўся па сёньняшні дзень і служыць местачкоўцам як лазьня. Гаспадарыў лазьняй Ёэл — баншчык. Двойчы ў год у Навагоднія сьвяты і на Пасху Ёэл рабіў спэцыяльную падрыхтоўку і запаўняў лазьню гарачай як агонь парай з араматычнымі рэчывамі. А для паважаных домаўладальнікаў, якія абураюцца, прымаючы ванну разам са звычайнымі людзьмі, ён арганізуе спэцыяльны і нашмат лепш пар.

Пры двух габрэйскіх школах былі бібліятэкі з кнігамі на іўрыце і ідыш. Жадаючыя мелі магчымасьць атрымліваць газэты, якія друкаваліся ў Гродна і Варшаве.

## Прыход Чырвонай Арміі

З пачаткам Другой Сусьветнай вайны ў адносінах паміж польскім і габрэйскім насельніцтвам пачаліся абвастрэньні. Абодва бакі да цяперашняга часу абвінавачваюць адзін аднаго ў агрэсіі і здрадзе. Па ўспамінам Эліазэра Эйзеншмідта ў Луна-Волі арганізавалася група габрэйскай моладзі ад 30 да 40 чалавек з мэтай абароны габрэйскага насельніцтва мястэчка. Гэтыя маладыя людзі ўзбройваліся той зброяй, якая была пакінутая адыходзячымі польскімі войскамі і паліцэйскімі. На рукавы яны прымацавалі чырвоныя стужкі.

Габрэі чакалі прыходу Чырвонай Арміі, як успамінае Арон Вельбельбылы жыхар Луна, «як Месію, уяжджаючым на чырвоным кане». Прычынай была надзея на ліквідаваньне антысэмітызму і страх перад нямецкай акупацыяй, бо даходзілі да Луна-Волі зьвесткі аб адносінах фашыстаў да габрэяў. Па ўспамінам жыхароў у дзень прыхода Чырвонай Арміі ў Луна-Волю вялікі натоўп габрэяў сабраўся на плошчы і вітаў чырвонаармейцаў, выкрыкваючы лёзунгі: «Леніну -Ура! Сталіну-Ура!». Але сапраўднае жыцьцё патачылася зусім не так, як спадзявалася. Адразу былі арыштаваныя і адпраўленыя ў турмы і лягеры тыя габрэі, якіх савецкая ўлада палічыла капіталістамі. Парадокс, але гэта некаторым дазволіла захаваць жыцьцё. Былі нацыяналізаваныя ўсе буйнейшыя прадпрыемствы, такія як

два цагляных завода, лесапілка, тры мельніцы, завод па вытворчасьці газаванай вады, майстэрні па вырабу бочак, майстэрні па вырабу ўпакоўкі і фольгі..., банк, крамы... Але ня толькі. Нават у простых рамесьнікаў адбіралі інструмэнт і прылады працы і прымусова арганізоўвалі каапэратывы. Былі зачынены габрэйскія школы і забаронена навучаньне на іўрыце. Вывучэньне Торы і роднай мовы перайшло ў падпольле. Перапіска падлягала цэнзуры і служыла крыніцай для выяўленьня «варожых элемэнтаў».



Выгляд з плошчы на вуліцу Падольную

У Луна-Волю прыбыла значная колькасьць габрэяў — уцекачоў з Захаду. Мясцовыя габрэі прынялі іх у свае дамы. У 1940 годзе Саветы прапанавалі бежанцам або стаць грамадзянамі СССР, або вярнуцца ў акупаваную немцамі Польшчу. Тыя, хто агаласіўся на вяртаньне ў Польшчу ў асноўным каб злучыцца з сем'ямі, былі вывезены на ўсход Расіі і многія ў выніку, як высьветлілася пазьней, так нечакана ўратавалі сваё жыцьцё, бо не папалі пад нямецкую акупацыю. У цэлым жыцьцё для большасьці жыхароў Луна-Волі было цяжкім, але выносным: сынагогі не былі зачынены, не было беспрацоўя, прыціхлі праявы антысэмітызму.

За сотні гадоў сумеснага жыцьця нікому з луненцаў нават у страшным сьне не мог прысьніцца трагічны лёс, які напаткае іх у час другой сусьветнай вайны. Але найбольш трагічным быў лёс габрэяў.

# Пад Нямецкай акупацыяй

22 чэрвеня 1941 года адразу стала трагічным днём для луненцаў. Калі пачаўся налёт фашыстоўскіх самалётаў, многія людзі пачалі хавацца ў склепах дамоў. Адна з бомбаў упала на дом Йедваба (Yedwab's) на вуліцы Падольнай. У выніку загінула верагодна 10 чалавек, сярод якіх жонка, дзьве дачкі і ўнучка равіна Ротберга (Rotberg's).

А вуліца Хрысьціянская амаль уся згарэла. Уцякаючымі чырвонаармейцамі быў падпалены і згарэў мост праз Нёман.



Воля. Вуліца Хрысьціянская

У суботу 28 чэрвеня ў Луна ўжо гаспадарылі немцы. Панаваньне пачалося з грабяжоў габрэйскага насельніцтва і забойстве габрэяў, якія падазраваліся ў супрацоўніцтве з Савецкай уладай. Былі прызначаны мясцовая ўлада і паліцэйскі аддзел з 12 — 15 паліцэйскіх з мясцовых жыхароў на чале з Міхалам Урбановічам. У сваіх успамінах Эліэзер Эйзеншмідт называе паліцэйскага Саковіча сына габрэйкі і паляка, як найбольш жорсткага па адносінах да габрэяў. Для кіраваньня габрэйскай абшчынай немцы арганізавалі Юдэнрат — Габрэйскі Савет. Габрэям было забаронена зьяўляцца на рынках хадзіць па ходніку (тратуару). Можна было ісьці па правай частцы вуліцы і па аднаму, абавязкова здымаць галаўны ўбор пры сустрэчы з немцам у мундзіры. Драўляная сынагога ў Луна была спалена, а мураваная — разабрана на цэглу, якую старанна ачышчалі і адпраўлялі ў Германію на будоўлю.

Фрэнк Стэла (Stella, Frank) (р. 1936), амэрыканскі мастак, майстар постжывапіснай абстракцыі (у духу «хардэджа» ці «стылю рэзкай грані»), чые

працы ацэньваюцца ў мільёны долараў, у 1971 зьвярнуўся і да гістарычнай тэмы (цыкл Польскія вёскі, навеяны памяцьцю пра Галакост), вырашаючы яе з дапамогай фактурна-канструктыўных беспрадметных рэльефаў, якія нагадваюць дахі драўляных сынагог. Цыкл Польскія вёскі адзін з буйных праектаў Стэлы, прысьвечаны драўляным сынагогам, разбураным падчас Трэцяга рэйху.



Воля. Рэшткі фундамэнту старой драўлянай сынагогі

Гэта праца Стэлы зьяўляецца адначасова і творчай задачай і сьведчаньнем гістарычнай сьвядомасьці.



Lunna Wola (V) 1975. Фрэнк Стэла

Ён абраў для сваіх карцін сынагогі вёсак Пяскі, Лянцкарона, Фельштын, Магельніца, Ябланоў, Насельск, Кажангрудак, Луна Воля, Новае Мес-

ца, Бжаздоўцы, Нароўля... Стэла ўпершыню пазнаў пра тэму драўляных сынагог Польшчы і Беларусі ад свайго даўняга сябра, архітэктара Рычарда Мэйера, які даў яму ангельскі пераклад кнігі Марыі і Казіміра Пяхоткаў Драўляныя сынагогі (1959). За тры гады (1971—1974) інтэнсіўных дасьледаваньняў было створана 130 прац у зьмяшанай тэхніцы памерам: 97 х 107 х 5 цаляў у памяць пра Галакост.

З першых дзён акупацыі немцы загадалі габрэям Луна — Волі абавязкова насіць на правай руцэ вышэй локця жоўтую павязку. Праз месяц быў аддадзены загад зьмяніць павязку на Зорку Давіда, якая павінна была быць прышытая на левай старане грудзей.



Зорка Давіда... Адпраўка на працу

Каб сабраць габрэйскае насельніцтва на рынкавай плошчы для абвяшчэньня загадаў і аб'яў немцы ўжывалі сырэну. Адразу забаронена была адукацыйная і культурная дзейнасьць абшчыны. Габрэі зьбіраліся невялікімі групамі ў суседніх дамах для правядзеньня малітваў і рэлігійных рытуалаў. Быў уведзены камэнданцкі час з 7 гадзін вечара да 6 гадзін раніцы. Выехаць з мястэчка можна было толькі маючы пісьмовы дазвол нямецкай улады. Усе дарослыя мужчыны ад 18 да 60 гадоў прыцягваліся да прымусовай працы па будаўніцтву і рамонту дарог, будаваньню фартыфікацыйных умацаваньняў, разборцы разьбітых савецкіх самалётаў і адпраўцы запчастак у Германію, расьпілоўцы дрэў на лесапілцы... Акрамя таго негабрэйскае насельніцтва магло за невялікую плату ў муніцыпалітэт наймаць сабе работнікаў для працы на гаспадарцы. За працу габрэі не атрымлівалі ніякай аплаты акрамя аднаго кіляграма хлеба на прымусовай працы і

за кармленьне за працу па найму. За дадатковую працу ці за продаж сваіх рэчаў удавалася дабыць дадатковую ежу, каб прынесьці яе ў свае сем'і.



Арка ў Сынагозе на Волі 1939 г.

У верасьні 1941 года немцамі было ўтворана ГЕТА на тэрыторыі Волі. 13 кастрычніка 1941 г. дзяржаўны камісар Лёзэ выдаў загад, паводле якога ўся рухомая і нерухомая маёмасьць жыдоўскага насельніцтва Остлянду належала канфіскацыі. 2 лістапада з 12 да 18 гадзін усе габрэі (а Луна было габрэйскім мястэчкам) былі абавязаны перасяліцца ў гета, мець пры сабе толькі тое, што можна было давесьці на тачцы, дзіцячай калясцы ці вынесьці на сабе. Хрысьціянскія сем'і былі выселеныя з Волі ў габрэйскія дамы ў Луна, а габрэі засяліліся ў іх дамы на Волі. Вызваленых дамоў на Волі было значна менш, таму ўведзена была норма ў 3 квадратных мэтра жылой плошчы на чалавека. Але ўсё роўна ўсім месца не хапала. Будавалі зямлянкі, прыстройкі, другія паверхі пры адсутна-

сьці патрэбных для будаўніцтва матэрыялаў. Была вялікая скучанасьць. У адным доме разьмяшчалася некалькі сем’яў. Заселена была і сынагога. Але спачатку немцы прымусілі вынесьці з сынагогі скруткі ТОРЫ і іншыя сьвятыя кнігі і спаліць іх.




Частка скрутка Торы ў музэі Луненскай школы

За парадкам у ГЕТА павінны былі сачыць паліцэйскія з утворанай у ГЕТА паліцэйскай адзінкі з 6 — 8 паліцэйскіх габрэяў.

Луненскае гета, агароджанае калючым дротам з уваходам праз адны вароты, пачыналася ад доміку Хэлены Дамброўскай да дома Куніцкай уздоўж вуліцы Ваўпянскай за масточкам праз Лунянку пераходзіла на другі бок вуліцы і на Волю. Гета было абнесена калючым дротам і ахоўвалася. Ахоўваць прылягаючыя вуліцы прымушалі мясцовае насельніцтва, за што некаторыя панесьлі адказнасьць пасьля вайны. Кажуць, колькі дзён быў у ахове, столькі атрымаў гадоў зьняволеньня. Многія дамы ў Луне згарэлі ў першы дзень вайны і габрэі прапаноўвалі пагарэльцам займаць іхнія дамы і жыць там. Можа яны спадзяваліся, што яшчэ вернуцца ў свае жытло...

Апавядаюць, што камісар Луна дзесьці ўгледзеў жоўтыя боты, якія яму вельмі спадабаліся. Пасыльны перадаў загад у гета, каб да ранка камісару былі такія боты. Ранкам боты былі гатовыя, дакладна такія, якія хацеў камісар.

Эліэзер Эйзеншмідт быў сьведкаю, як у ГЕТА быў расстраляны габрэй, які за ўдзел у КПЗБ быў арыштаваны палякамі і ў вязьніцы захварэў псыхічна. У 1941 годзе ён вярнуўся ў Луна. Камэндант Луны, убачыўшы яго ў ГЕТА, ці то выпадкова, ці па даносу, адразу загадаў яго расстраляць.

Зімой замерзла труба, па каторай падавалася вада для ахаладжваньня рухавіка млына. Немцы загадалі вязьням ГЕТА насіць ваду вёдрамі з Нёмна, адлегласьць да якога была больш за кілямэтар. Гэту працу выконвалі ў асноўным жанчыны і дзеці, бо мужчыны былі занятыя на другіх работах.

Людзі ў ГЕТА вельмі пакутавалі ад голаду, але яшчэ больш ад холаду, бо не хапала дроў для апалу. Удалося дамовіцца на выкарыстаньне для апалу карчоў, якія заставаліся пры нарыхтоўцы лесу работнікамі з ГЕТА.

Трэба сказаць праўду, што мясцовае хрысьціянскае насельніцтва, дзякуючы прапагандзе, у сваёй большасьці ставілася абыякава да лёсу луненскіх габрэяў. Некаторыя шукалі асабістую выгаду ў магчымасьці заняць дом выгнанай у ГЕТА сям'і або скарыстацца маёмасьцю. Але былі і такія, што ня толькі спачувалі, але рызыкуючы жыцьцём, дапамагалі як маглі. Нельга дакладна намаляваць карціну гэтых адносін, бо толькі лічаныя, як высьветлілася, адзінкі з луненскіх габрэяў выжылі, ды і іншых жыхароў мястэчка Луна пасьля вайны засталося нямнога. Са слоў Эліэзера Эйзеншмідта жыхары суседніх вёсак стараліся як маглі даць дадатковую ежу тым габрэям, каторых накіроўвалі на працу ў гэтыя вёскі. Ён таксама ўспамінае паляка з вуліцы Хрысьціянскай (Ваўпянскай) Багоцкага, які дазваляў габрэям, што былі накіраваныя для працы ў яго сталярную майстэрню, нарыхтоўваць ежу ў навакольлі з рызыкай нават для свайго жыцьця.

Жыцьцё габрэяў у ГЕТА апісала ў сваім артыкуле «Зьнішчэньне Луна-Волі» адной з выжыўшых Этэль Бераховіч — Касоўскай (Etel Berachwicz — Kosovska), які быў апублікаваны ў 1948 годзе на ідыш.

Ноччу 2 лістапада 1942 года жыхарам гета Луна-Воля было загадана сабрацца на рынкавай плошчы. Было дазволена ўзяць з сабой толькі асабістыя рэчы. Стараліся ўзяць з сабой хоць трохі ежы: збожжа, цукру... Некаторыя хавалі ўпрыгожваньні, у тым ліку гадзіньнікі і кольцы, у сваю вопратку. 1 лістапада 1942 года з навакольных вёсак у Луна былі сабраны сяляне з вазамі. 1549 чалавек: 100% габрэйскага насельніцтва Луна было пасаджана на вазы і вывезена ў транзытны лягер Калбасіно, адкуль быў адзін шлях — у крэматорый.

Але немцы абвясьцілі, што іх адпраўляюць у працоўныя лягеры. У начы ад 2 лістапада 1942 года надвор'е было халодным. Падводы, запрэжаныя коньмі пакінулі Луна ў першыя ранішнія гадзіны, калі было яшчэ цёмна, і ехалі каля 40 км па грунтавых дарогах праз розныя вёскі пад аховай некалькіх нямецкіх салдат. Напэўна многія маладыя і дужыя маглі ўцячы, але не хацелі пакідаць сваіх сем'яў і родных.

# Галакост

Габрэі прыбылі ў лягер Калбасіно толькі пасьля цяжкіх 12—14 гадзін шляху. Фашыстамі быў распрацаваны сцэнар прыёму ў лягер. Да ўваходу усіх гналі натоўпам і пачыналі наводзіць «парадак». Аддзялялі мужчын і жанчын, люта зьбівалі і адбіралі ўсё, што на іх думку мела вартасьць. Асабісты прыклад паказваў камэндант лягеру садыст Карл Рынтцлер. (Rinzler).

Лягер Калбасіно раней выкарыстоўвалі як лягер для савецкіх ваеннапалонных.

Палонныя жылі ў зямлянках, якія яны вымушаныя былі выкапаць. Гэта былі вялізныя зямлянкі — баракі 50—100 м у даўжыню, 6—8 м у шырыню і 2 м вышынёй (падлога была паўтара мэтра ніжэй узроўню зямлі). Большасьць ваеннапалонных у Калбасіно памерлі, а астатнія былі дэпартаваныя ў Нямеччыну. У Калбасіно, было шэсьць блёкаў, у кожным блёку 14 баракаў, баракі зьмяшчае каля 500 чалавек. Кармілі зьняволеных паліўкай з гнілой капусты і выдавалі па 100- 150 г хлеба. Ад холаду, голаду і бруду людзі масава хварэлі на дызэнтэрыю і тыф, паміралі без лячэньня. Многія гінулі ад самагубства.



Схема лягеру ў Калбасіно

Да 5 сьнежня 1942 габрэі з Луна, незалежна ад узросту, полу або здароўя, былі вымушаныя жыць у трох бараках у холадзе і сырасьці. Нягледзячы на гэтыя жудасныя ўмовы жыцьця, людзі працягвалі наведваць рэлігійныя службы, выкарыстоўваючы скрутак Торы таемна прывезены з Луна Chaykel Фрыдманам.

Вітольд Карпыза піша: «Апошняя вайна не пашкадавала насельніцтва Луны. Найбольшыя страты панесьлі жыды. Спачатку разьмясьцілі іх у гета на Волі (прадмесьце Луны), а наступна транспартам вывезьлі да Малкіні і праўдападобна далей у лягер сьмерці. Былі праўдападобна і нейкія расстрэлы іх на месцы, калі Бюлетэнь Жыдоўскага Інстытуту Гістарычнага 3 — 4/1982, 4\1976 падае: «З Гродна паехалі мы да Скідаля і Луны. Абок кожнага з гэтых месцаў на полі, каля фундамэнтаў разбуранага дому казалі нам капаць ямы... Ямы былі невялікія, але глыбокія па 2,5 м і на 10 пластоў. Помню, што адна яма зьмяшчала 500, а другая 350 трупаў. У суме адкапалі мы 2000 да 2500 трупаў». Што датычыць апошняга, то ў Луне аб гэтым нічога невядома

Рынтцлер кожны дзень зьяўляўся ў лягеры каб задавальняць свае садысцкія патрэбы: зьбіваў усіх, хто трапляўся, і трэніраваў свае здольнасьці ў стральбе, расстрэльваючы вязьняў. Акрамя таго, штодня 30 — 40 чалавек расстрэльвалі ў лесе за агароджай гета.

У сьнежні 1942 г. вязьняў пачалі вывозіць з Калбасіно ў лягеры сьмерці пад выглядам перасяленьня з-за немажлівасьці ў маразы жыць у зямлянках у месцы з лепшымі ўмовамі. Габрэі з Луна-Волі былі дэпартаваныя з Калбасіно 5 сьнежні 1942 года Мала хто здагадваўся, што «лепшымі умовамі» была сьмерць у газавых камэрах. Ноччу ў буран і мароз напаўразьдзетых людзей, сярод якіх былі дзеці і нямоглыя старыя, гналі пеша на чыгуначную станцыю Ласосна. Ісьці на сьмерць трэба было па загаду Рынтцнера пад мэлёдыі скрыпкі, сьпяваючы песьню:

«Ідэл міт зэйнэм фідэл
Эр ет мільенэн гэлд».
(Жыд са сваёй скрыпкай
Заробіць мільён грошай)

Хто адставаў, таго расстрэльвалі. На станцыі ўсіх застаўшыхся запіхвалі бітком у вагоны для перавозкі жывёлы і грузаў. Праз дзень цягнік прыбываў у лягер сьмерці Трэблінку.

Да Асьвенціму ў муках цягнік цягнуўся 2 — 3 дні. За тыдзень лягер у Калбасіно амаль апусьцеў.). Да канца сьнежня 1942 года, немцы ліквідавалі лягер Калбасіно. Застаўшыхся каля 3000 чалавек вярнулі ў гета ў Гродна.

А з месцаў былога разьмяшчэньня гета даносілі аб атрыманых прыбытках. З Луна 23 студзеня 1943г. паведамлялі: «Прыбытак ад раней прададзенай габрэйскай маёмасьці складае 76309,75 рэйхсмарак. Расход (ахова гета) — 1183,00 рэйхсмарак. Гэта сума пераведзена сёньня на Ваш рахунак у касу павета».

Kreiskommissar
Kreises Grodno
J. 144/43.

Grodno, den 5. März 1943

54

den Herrn Chef der Zivilverwaltung
für den Bezirk Bialystok
in B i a l y s t o k.

Betrifft: Ablauf der Judenaktion.
Bezug: Verfügung vom 5. Februar 1943 – I J.–.

Nachstehend überreiche ich die Zusammenstellung über den weiteren Verlauf der Judenaktion.

| Stadt-bezw. Amtsbez. | Soll-zahl der Juden | Sonstiger-Zugang | Gesamt-bestand | im Lager eingel. | geflüchtet | erschossen | Sonstiger Abgang | Abtransportiert | Zeitpunkt des Abtransports | Bestand am 15.2. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| Sopockinie | 539 | — | 539 | 539 | — | | | | | |
| Lunna | 1549 | — | 1549 | 1549 | | | | | | |
| Skidel | 2330 | — | 2330 | 2330 | | | | | | |
| Jeziory | 1370 | — | 1370 | 1370 | | | | | | |
| Holynka (Lipsk) | 109 | — | 109 | 109 | | | | | | |
| Kamionka | 417 | — | 417 | 417 | | | | | | |
| Ostryna | 1969 | — | 1969 | 1969 | | | | | | |
| Porzecze | 234 | — | 234 | 234 | | | | | | |
| Druskieniki | 805 | — | 805 | 805 | | | | | | |
| Stadt Grodno | 20577 | 14100 | 34677 | 34677 | | | | | | |
| Insgesamt: | 29899 | 14100 | 43999 | 43999 | 300 | 238 | 700 | 41700 | — | 1061 |

.) Zu den Akten.

I.V.

Нямецкі дакумэнт з Гродзенскага архіву з Справаздачай аб зьнішчэньні габрэяў

Маёмасьць замардаваных жыхароў Луна распрадавалі на плошчы каля царквы люду з навакольных вёсак. З надзеяй на танны набытак рабіўся тлум. Немцы наводзілі парадак

дубінкамі і бізунамі. Адной жанчыне так дасталася бізуна, што ля ног заблішчала лужа, куды яна і села.

## Габрэйскае мястэчка бэз габрэяў

Пэдантычныя немцы ўсё дакумэнтавалі. Вытрымкі з дакумэнту: «Аб зьнішчэньні габрэяў у Гродна і Гродзенскім уезьдзе». Агляд выкананьня габрэйскай акцыі ад 5 лютага 1943г. Гродзенская воласьць (Луна); Агульная колькасьць габрэяў — 1549; Адбыўшыся прыток — 0; Канчатковы вынік — 1549; Накіравана ў лягеры зьнішчэньня — 1549.

Засталіся толькі гэтыя дакумэнты. Болей нічога. Ні памятнага знаку, ні назвы вуліц, ні напаміну ў школьным музэі «Баявой славы». Глуха, як бы не было ў Луна 1549 жыхароў.

Але і насельніцтва Луна і дзяржаўныя ўстановы ў вёсцы ўжо болей за 60 гадоў карыстаюцца дамамі, якія былі пабудаваны габрэямі Луна. У гэтых дамах разьмешчаны сельскі савет, кантора сельгаспрадпрыемства «Чарлёна», музычная школа, бібліятэка, пошта, камбінат бытавога абслугоўваньня, вузел сувязі, аптэка, бар, лазьня, амаль усе крамы і склады...

Існавалі двое габрэйскіх могілак у Луна і яшчэ адны ў Волі ў Залескаўскім лесе. «Старыя» могілкі ў Луна закладзены 350 гадоў таму, «новыя» дзейнічалі з канца 19 стагодзьдзя да верасьня 1941 года. У 1958 годзе Якаў Маргуліс, былы жыхар Луна, які пераехаў у Расію ў 1916 годзе, адправіўся ў госьці ў Луна. Якаў Маргуліс выявіў, што старыя могілкі былі зьнішчаны. «Новыя» могілкі выглядалі як поле друзу раскіданага ў траве і кустоўі.



Луна, могілкі (1958). З калекцыі Аба (Маргуліс) Маргаліт. Сайт Рут.

Пасьля айчыннай вайны ў палітычнай лініі СССР сталі намячацца адкрыта антысэміцкія тэндэнцыі. Габрэяў кляймілі як «бязродных касмапалітаў», пазбаўленых усялякіх каранёў, чужынцаў, якія грэбуюць рускай культурай, пакланяюцца заходняму касмапалітычнаму вобразу жыцьця і небясьпечныя для дабрабыту і адзінства савецкай радзімы. Была інсьпіраваная «справа ўрачоў», і толькі са сьмерцю Сталіна падрыхтоўка да судовага працэсу над «урачамі — шкоднікамі» спынілася, а антысэміцкая кампанія прыняла вялацякучыя формы. Габрэйскае грамадзкае жыцьцё ў Беларусі (як і ў цэлым СССР) практычна было загнана ў падполье», — піша Сяргей Піваварчык. Так і ў Луна ў 1970 г. пад кіраўніцтвам дырэктара

школы бульдозэрам канчаткова зараўнялі адны з габрэйскіх могілкаў. Школьнікі лапатамі падпраўлялі і выбіралі людзкія косьці ў кучу, каб потым выкінуць на сьметнік. На месцы могілак пасадзілі дрэвы і паставілі абэліскі на ўшанаваньне памяці землякоў (не габрэяў), якія загінулі ў ВАВ і ў гонар воінаў 64-й стралковай дывізіі 49 арміі 2-га Беларускага фронту, якія 14.07.1944 аднымі з першых фарсіравалі Нёман. Другога месца і лепшага, чым старыя габрэйскія могілкі не знайшлі.

У 1997 годзе Гарріет і Харві Kasow наведалі Луна. Яны паведамілі, што «новыя» могілкі закінутыя, але не зьнішчаны. Іх стан відаць з фатаграфіі



Луна, могілкі (1997, Гарріет і Харві Kasow). Сайт Рут.

У 2000 годзе Сэндзі Айзенах і яе брат, Алан Eisen наведалі могілкі ў Луна-Волі.



Надмагільлі на могілках у Залескаўскім лесе (© 2000, Алан С. Эйзен). Сайт Рут Маркус.

Толькі з канца 80 гадоў пачаўся працэс рэлігійна-культурнага адраджэньня беларускіх габрэяў. Але, на жаль, гэты стваральны час быў вельмі кароткі.



Якімсьці цудам на зьнішчаных могілках застаўся надмагільны камень

Ужо ў 2002г. Якаў Гутман, які ўзначальвае Сусьветнае згуртаваньне беларускіх габрэяў гаворыць: «У Беларусі зараз надзвычай неспрыяльная сытуацыя для габрэяў і далей «цяперашняя беларуская дзяржава праводзіць антысэміцкую палітыку». Пацьверджаньне гэтаму есьць і ў Луненскіх дзеях.

19 студзеня 2004 г. дэпутат Луненскага сельскага Савета Валянціна Карповіч напісала зварот у Луненскі сельскі Савет з прапановай выканаць свой маральны абавязак перад загінуўшымі 1549 жыхарамі в. Луна, устанавіўшы памятны знак напярэдадні 60-годзьдзяя Перамогі. Заява была разгледжана на сэсіі сельскага Савета 20.01.2004. Дэпутаты аднагалосна падтрымалі прапанову. Але Мастоўскі раённы выканаўчы камітэт 05.07.04. даў тлумачэньне, што рашэньне сельсавета незаконнае і запатрабаваў дакумэнтальнага пацьвярджэньня зьнішчэньня фашыстамі 1549 жыхароў в. Луна. Члены Мастоўскага РВК напэўна ніколі не былі ў Хатыні, дзе ў Сьцяне Памяці есьць надпіс: «В. Луна Мастоўскага раёна Гродзенскай вобласьці — 1549 жыхароў», не чыталі кнігі «Гродна ў гады Вялікай Айчыннай вайны 1941 — 1945» (Гродна,1995), дзе на с.96 надрукаваны дакумэнт з архіву «Об уничтожении евреев в Гродно и Гродненском уезде», нарэшце, не чыталі кнігу «Памяць. Мастоўскі раен», дзе на с.168 і на с.551, напісана аб лёсе Луненскіх габрэяў. Тлумачэньне падпісалі В. Кудзеля, О. Ліпская, і Т. Мурына. В. Карповіч быў напісаны запыт у архіў і атрымана пацьверджаньне, але справу з месца скрануць не ўдавалася. Трэба было яшчэ тэлефанаваць на радыё «Свабода,,, на тэлеперадачу студыі «Лад,, і..., нават, пісаць у Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь, каб атрымаць згоду на ўстаноўку памятнага знака. З вялікімі праблемамі архітэктура Ма-

стоўскага раёна вылучыла месца і дала «План благоустройства памятнага места в д. Лунно» без подпісаў. Напэўна найбольш падзейнічала пагроза Лявона Карповіча, што, калі ўлада не дасьць дазволу на ўстаноўку памятнага знака ў Луна, то ён паставіць такі знак у двары свайго дому. Нарэшце ў канцы 2005 г. быў прывезены і ўстаноўлены валун, на якім павінна была быць замацавана шыльда з адпаведным надпісам. Але... ужо пайшоў 2006 г., а камень так і стаіць пусты пасярод закінутага кавалачка зямлі. Без адказу заставалася пытаньне, ці з»явіцца ў Луна памятны знак па 1549 загінуўшых земляках?



Вынік працы амэрыканскіх студэнтаў на Луненскіх габрэйскіх могілках

Як адзначалася вышэй, габрэйскія могілкі зьнішчылі не ўсе. Невялічкія — зарасьлі лесам на ўскрайку Волі і в. Залескі, большыя — памерам 0,8 га — на паўночна-ўсходнім ускрайку Луна. На іх знаходзіцца каля 500 магільных камянёў. Могілкі ўвесь савецкі час знаходзіліся без догляду.

У пачатку 2002 г. Старшыня Луненскага сельсавета В. Карповіч зрабіла шэраг зваротаў пісьмовых і праз інтэрнэт, каб адшукаць спонсараў для ўпарадкаваньня могілкаў. Але ні ўлады, ні іншыя дзяржаўныя арганізацыі не адгукнуліся. Быў шэраг пісьмаў ад грамадзян замежных краін. Але да справы так і не дайшло. Раптам у канцы лета 2005г. у Луна прыбыла група студэнтаў-валанцёраў Дортмундзкага каледжа штата Нью-Хэмпшыр на чале з кіраўнікам Майклам Лозманам. За сродкі амэрыканскіх студэнтаў могілкі былі агароджаны, а рукамі белых, жоўтых і чорных дзяўчат і хлопцаў з ЗША могілкі прыведзены ў парадак. Многія камяні паднятыя і ачышчаныя, кусты высечаныя і гальлё вывезена.

Спадзяюся, што многім было сорамна на ўрачыстасьці па заканчэньні працы амэрыканскіх студэнтаў. Няўжо за 60 год нельга было самім гэта зрабіць? Але прадстаўнікам беларускай улады сорамна не было. Яны гор-

да і не чырванеючы чыталі па — расейску напісаныя паперкі. А раённая газэта «Зара над Нёманам» без сораму прысьвяціла падзеі цэлую старонку пад дзіўным загалоўкам:,,...І цяпло беларускай душы». Відаць гэта цяпло на столькі моцнае, што яго адчулі аж праз акіян амэрыканцы і прыляцелі са свайго холаду пагрэцца ў Луненскім,,цяпле беларускай душы».

Старшыня сельсавета Н. Воран запэўніла амэрыканцаў так,,...а наша місія зараз — захоўваць гэтае сьвятое месца і ўтрымліваць у належным парадку». Хай бы так было.



Развітальны мітынг з амэрыканскімі студэнтамі на габрэйсуіх могілках (2005 г.)

Божа, што зьлітаваўся над сваім абраным народам і зьвярнуў яму Радзіму Ізраіль, даў Свабоду і Незалежнасьць, прыслухайся да малітваў беларусаў і зьвярні нам Беларусь.

PS. У пачатку траўня 2006г. на Памятным знаку ўстаноўлены надпіс: «Вечная память 1549 жителям местечка Лунно безвинно убитых в годы ВОВ, июль 2005г».

PS. У жніўні 2008г. на памятным камяні ўсталявана дадатковы надпіс на габрэйскай мове.

Гэта, мабыць, было б усё, калі б я не пазнаёміўся з Рут Маркус. Гэта знаёмства яшчэ больш зьмяніла мяне і прывяло да новых вынікаў.

# «Дзьве схемы ГЕТА Луна-Воля: месца застаецца ў мінулым і сучаснасьці»

Рут Маркус і Лявон Карповіч

PS. 05.02.2009 г. Мастоўскі райвыканкам не ўбачыў неабходнасьці ўсталяваць у мястэчку Луна-Воля Мастоўскага раёна памятную шыльду на месцы габрэйскага ГЕТА якое разьмяшчалася на тэрыторыі мястэчка пад час Вялікай Айчыннай Вайны.

Адказ з адмовай дазволіць актывістам Руху «За Свабоду» усталяваць памятную шыльду атрымаў рэгіянальны каардынатар Руху «За Свабоду» у Гарадзенскай вобласьці Алесь Зарэмбюк. Старшыня Мастоўскага райвыканкама Аляксей Шафарэвіч спаслаўся на тое, што ў Луне ўсталяваны помнік ахвярам габрэйскага гета і таму няма неабходнасьці ўсталёўваць яшчэ адну памятную шыльду. Мы палічылі неабходным выправіць гэтую "немэтазгоднасьць" словам у кніжцы.

Даю слова Рут.

## Уводзіны. Дзьве схемы

На працягу апошніх сямі гадоў я займаюся дасьледаваньнем жыцьця габрэйскай суполкі Луна да Другой Сусьветнай вайны і яе горкім лёсам падчас Галакосту. Мястэчка Луна, у якім нарадзіўся мой бацька, сёньня разьмешчана ў Беларусі, прыблізна 39 км на паўднёва-усход ад Гародні. Некаторая частка маіх дасьледаваньняў была апублікаваная ў кнізе пад назовам «Аднойчы было маленькае мястэчка з назвай Луна» (на іўрыце, 2005 год) і разьмешчаная на сайце Луны: www.shtetlinks.jewishgen.org/Луна

У жніўні 2006 года я паехала ў Луну з Эліезерам Эйзеншмідтам, былым жыхаром Луны, які перажыў Галакост. Мы ішлі па вуліцах і каля кожнай хаты спадар Эйзеншмідт распавядаў гісторыю габрэйскай сям'і, якая жыла ў гэтай хаце да Галакосту. Уражаньні і разважаньні аб гэтым візыце можна прачытаць на сайце:

http://www.jewishgen.org/Belarus/newsletter/Луна.htm



Рут Маркус і Эліэзер Эйзеншмідт размаўляюць з жыхарамі Луна (2006 г.)

У траўні 2008 года я атрымала першы электронны ліст ад Лявона Карпавіча з Луны. Да свайго ліста Лявон прыклаў артыкул, які ён напісаў на беларускай мове «ЛІЧЫЦЬ, ШТО ІХ НЕ БЫЛО?» (пераклад: «Should we believe they were not there?»), аб былой габрэйскай суполцы Лунна-Воля. Лявон напісаў, што ён жадаў бы атрымаць больш інфармацыі аб габрэях, якія калісьці жылі ў Луна. З тых часоў мы перапісваемся, абменьваючыся электроннымі паведамленьнямі. Лявон даслаў мне некалькі артыкулаў, якія ён напісаў, і ён пазнаёміў мяне з гісторыяй, легендамі і прыродай Гарадзенскага краю, з польскай пісьменьніцай Элізай Ажэшка (1841—1910), якая некаторы час жыла і пісала свае творы ў гэтым раёне. Пазнаўшы аб Элізе Ажэшка з артыкула Лявона, я прачытала некалькі яе аповесьцяў, якія былі перакладзеныя на іўрыт, і з задавальненьнем паглядзела фільм «Над Нёмнам» (з ангельскімі субцітрамі), які быў пастаўлены па яе шэдэўру, раману «Nad Niemnem» (на польскім).

У кастрычніку 2008 года я паехала ў Луна зноў. У гэты раз са мной паехала Барбара Тайтл (Barbara Title), маці якой нарадзілася ў Луна. Лявон і яго жонка Валянціна запрасілі нас да сябе дахаты ў Луна. Мая сяброўка Вікторыя, якая жыве ў Гародні, была нашай перакладніцай. Без яе гэты візыт быў бы немагчымы. Мы правялі некалькі гадзін з Лявонам і Валянцінай у цёплай і сяброўскай атмасфэры. Лявон прапанаваў быць нашым гідам па Луна і мы наведалі некалькі месцаў, у якіх калісьці жылі габрэі Луны. Мы пабывалі на двух габрэйскіх могілках, разьмешчаных у Луна і Волі. Пасьля гэтага мы пайшлі ў тую частку Волі, дзе знаходзілася габрэйскае ГЕТА з пачатку кастрычніка 1941 года да дэпартацыі ў транзытны лягер Калбасіно 2 лістапада 1942. ГЕТА было разьмешчанае па абедзьвюх баках галоўнай вуліцы вёскі Воля. Кожны бок быў агароджаны плотам з калючага дроту, і дзьве часткі ГЕТА злучаліся драўляным

мостам, пабудаваным над вуліцай Ваўпянскай (цяпер Савецкай). Бо на вуліцу вязьням ГЕТА выходзіць было забаронена. Лявон паказаў нам месца, дзе быў разьмешчаны драўляны мост, а таксама межы ГЕТА. Ён таксама нам распавёў аб тым, што пасьля таго, як габрэі былі дэпартаваныя з ГЕТА, немцы абвясьцілі аб тым, што ўсе хаты на тэрыторыі ГЕТА павінны быць прададзеныя і вывезеныя.

Пакупнікі з суседніх вёсак разьбіралі хаты і перавозілі іх у новыя месцы. Старыя хаты былі замененыя новымі, пабудаванымі на гэтым жа месцы, але ўсё ж засталося некалькі ацалелых хат з часу існаваньня ГЕТА.



Воля. Тут было ГЕТА. Рут хоча ўбачыць кожную хату, якая ацалела з часоў існаваньня ГЕТА. 2010 год

Лявон быў нашым гідам таксама і ў паездцы па месцах, згаданых Элізай Ажэшка ў яе аповесьці «Над Нёмнам» («Nad Niemnem»). Барбара і я былі зачараваныя тымі краявідамі тых мясьцін, якія мы бачылі ў фільме «Над Нёмнам», і мы з задавальненьнем слухалі гісторыі, аповеды і легенды, якія нам распавядаў наш гід, Лявон, і перакладала наша перакладніца Вікторыя. Мае ўражаньні і разважаньні аб візыце ў Лунну ў 2008 годзе яшчэ не апублікаваныя; я спадзяюся, што неўзабаве змагу абнавіць сайт аб Луна і разьмясьціць на ім мае ўражаньні аб паездцы.

Вярнуўшыся ў Ізраіль пасьля другой паездкі ў Луна, я яшчэ раз зрабіла некалькі інтэрвію з Эліезерам Эйзеншмідтам. Апісаньне жыцьця габрэяў Луна-Волі ў ГЕТА, заснаванае на сьведчаньнях Эліезера Эйзеншмідта, можна прачытаць на сайце:

http://www.shtetlinks.jewishgen.org/Луна/German.html

Спадар Эйзеншмідт таксама намаляваў схему ГЕТА па памяці. Ён маляваў гэтую схему з вялікім цярпеньнем у адпаведнасьці з маімі просьбамі, напрыклад: «Калі ласка, адзнач месцы, дзе мая сям'я, ты і твая сям'я жылі ў ГЕТА, і месца, дзе быў разьмешчаны юдэнрат („габрэйская рада“)», і г. д. Я вельмі ўдзячная спадару Эйзеншмідту за тое, што ён падзяліўся са мной сваімі ўспамінамі аб габрэйскай суполцы Луна-Волі.




Схема ГЕТА, складзеная Эліэзерам Эйзеншмідтам

Lunno — Луна Wolpianska — вул. Ваўпянская

Wola — Воля Water pond — Сажалкі

Brook — ручай Small lake — маленькае возера

Lunnyanka brook — рэчка Лунянка Yablonova — Ябланова

Ghetto Wola — ГЕТА Воля Zaleski Eorest — Залескаўскі лес

Zaleski — Залескі Wolpa — Волпа

ЛЕГЕНДА

Агульныя ўмоўныя пазначэньні *

Wolpianska — галоўная дарога Волі, толькі не габрэйскі народ мог прайсьці па гэтай дарозе.

Калючым дротам ГЕТА было падзелена на дзьве часткі.

© — Студня, усе студні былі разьмешчаны ў адной частцы ГЕТА,

а ўваход у ГЕТА

b — Памяшканьне для польскіх паліцыянтаў

з — Драўляны мост (гэты мост над вуліцай злучаў дзьве часткі ГЕТА,

каб габрэі пераходзілі з адной часткі ГЕТА ў іншую, не выходзячы на дарогу)

d — Існы мост праз рэчку Лунянку

е — Сынагога

f — Месца, дзе скруткі Торы былі спалены

g — Вадзяны млын, належаў хрысьціяніну Кундзічу. Падчас існаваньня ГЕТА не працаваў. Не захаваўся.

h — Млын паравы. Прыводзіўся ў рух паравым рухавіком. Да вайны прыналежаў некалькім габрэйскім кампаньёнам, у тым ліку братам Галіньскім і Румшышкерам, У часы ГЕТА працай млыноў кіраваў нямецкі муніцыпалітэт. Не існуюць сёньня.

i — Трубаправод. Служыў для падвядзеньня вады з раўчука, каб астуджаць паравы рухавік млына. Трубаправод быў пракладзены на глыбіні 2 мэтры пад зямлёй, каб не дапусьціць замярзаньні. Але аднойчы ўзімку 1942 года трубаправод зьмёрз. На працягу трох дзён вязьні ГЕТА ўручную насілі ваду з ракі, пакуль трубаправод не адрамантавалі

j — Габрэйскія могілкі на Волі

k — Сажалка для гадоўлі рыбы

Месца пражываньня

Хрысьціянскія сем'і, якія пражывалі ў в. Воля да нямецкай акупацыі, выселены былі немцамі і пераехалі ў Луна ў хаты выселеных габрэяў.

1 і 2 — Дзьве хаты прыналежалі хрысьціянскім сем'ям (адна з іх-Куніцкіе).

У пэрыяд існаваньня ГЕТА сям'і чальцоў «Юдэнрата» пражывалі ў гэтых хатах, у тым ліку Яакова Вельбеля, Берла Капляна, Берла Бекера, Ізраіля Шніера і інш.

3 — Кантора « Юдэнрата»

4 — Старая хата Плускоўскіх

5 — Рэпляньскі і брат Ізраіля Шніера

6 — Мойше Эдваб

7 — Два малодшых брата Мойше Глаінскага (аднаго клікалі Ёсель)

8 — Пінцялеўскі

9 — Хата габрэйскага мясьніка

10 — Нісан Мулер і Берл Голанд

11 — Гальперын

12 — Хата габрэйскага цесьляра (яго мянушка была Курачка)

13 — Якаў Клачкоўскі (дырэктар Цэнтральнай школы на ідыш ў Луна)

14 — Тры хаты хрысьціян — жыхароў Волі. Падчас ГЕТА ў іх жылі габрэйскія сем'і

15 — Хата Дамброўскай. Падчас ГЕТА габрэйскія сем'і жылі ў гэтай хаце

16 — Рамшішкер. Падчас ГЕТА Эліазберг Касоўскі і іншыя габрэйскія сем'і жылі ў гэтай хаце

17 — Хата габрэйскай сям'і

18 — Новая хата Пуслоўскага. Падчас ГЕТА Іегошуа Эйзеншмідт, Якаў Ыайзел, Гершл Берачовіц і іншыя габрэйскія сем'і жылі ў гэтай хаце

19 — Выкапаная ў зямлі яма, у якой былі схаваны каштоўнасьці Фані Чбойнік — стрыечнай сястры маці Эліэзера Эйзеншмідта

20 — Зямлянка для жыльля, выкапаная ва ўнутраным двары хаты Плускалоўскага. Эліэзер Эйзеншмідт і два яго брата жылі ў гэтай зямлянцы.

21 — Аарон Фрыдман (яго пэўны адрас: Ваўпянская 30)

22 — Хата адпачынку ў Залескаўскім лесе

23 — Сучаснае месца пражываньня Раманавіча.

У дадатак да схемы, намаляванай спадаром Эйзеншмідтам, Лявон намаляваў яшчэ адну схему былой тэрыторыі ГЕТА і адзначыў некалькі старых хат, якія засталіся яшчэ з часоў існаваньня ГЕТА. Гэтая схема заснаваная на інтэрвію з спадарыняй Зітай Гарбачэўскай і яе мужам, якія ў цяперашні час жывуць у мястэчку, і якая жыла разам са сваёй сям'ёй побач з ГЕТА.

У жніўні 2010 года я зноў наведала Луна і зноў мяне вельмі цяпло прымалі Лявон і яго жонка. Мы яшчэ раз пабывалі ў тым раёне Волі, дзе было разьмешчанае ГЕТА. Потым мы абмеркавалі дзьве схемы і вырашылі іх разьмясьціць у сумесным артыкуле. Лявон апісаў большую колькасьць падрабязнасьцяў у сваім наступным артыкуле «Незьнікаючы боль». Нашы паводзіны абумоўленыя моцнай матывацыяй, мы лічым, што людзі, уключаючы цяперашніх жыхароў Луна, павінны ведаць і памятаць аб тым, што калісьці ў Луна была габрэйская суполка. Больш таго, мы думаем, што дзьве схемы, паказаныя ў артыкуле, могуць падаць некаторую інфармацыю нашчадкам былых габрэйскіх жыхароў Луна, якія змогуць прыехаць у Луна ў пошуках сваіх каранёў. Нашчадкі змогуць атрымаць некаторыя адказы на тыя пытаньні, дзе жылі іх продкі ў ГЕТА да таго, як яны былі дэпартаваныя ў свой апошні шлях...

І нарэшце, я жадаю падкрэсьліць, што Лявон і я мелі зносіны на працягу больш двух гадоў, не ведаючы мовы адзін аднаго. Мы вельмі ўдзячныя нашым выдатным перакладнікам: маёй дарогай сяброўцы Вікторыі з Гародні, унукам Лявона — Мікіту з Гародні і Антону з Кіева. Мы таксама ўдзячныя Тані Новікавай за яе прафэсійны пераклад нашых прац з беларускага на ангельскі і з ангельскага на расейскі.

Рут Маркус

Тэль Авіў, Ізраіль

сьнежань 2010

PS. Луна і Воля (Wola) калісьці былі суседнімі вёскамі, у якіх пражывала каля 1 600 габрэяў, што складала 66% ад агульнага насельніцтва. У цяперашні час Луна і Воля аб'яднаныя муніцыпальна і маюць адну назву Лунна.

## Незьнікаючы боль...

Вайна... Няма на сьвеце нічога больш гадкага і ненатуральнага.

А нам усё паказваюць яе як прыклад гераізму і патрыятызму ў фільмах, кнігах, у творах мастакоў...

Вайна... Страшныя рэчы зрабіла з людзьмі. Нават, калі хто ацалеў фізычна, дык душы ва ўсіх пакалечаны. І мне непрыемна з якой помпай сьвяткуюць на дзяржаўным узроўні і яе пачатак і яе канец. А яшчэ больш мне непрыемна, калі дзецям яшчэ з дашкольнага ўзросту падсоўваюць кампутэрныя гульні, у якіх яны гуляюць у вайну — вучацца забіваць і насычаюцца псыхікай забойцы.

Я вельмі чакаў Рут... Шчыра прызнаюся, што ў гэтым чаканьні было, акрамя шчырай сымпатыі, павагі і мажлівасьці атрымаць асалоду ад сустрэчы з сымпатычным і цікавым ва ўсіх адносінах чалавекам, і доля мэркантыльная. Рут абяцала ў чарговы раз прывезьці для мяне паштовыя маркі Ізраіля, так мне патрэбныя для паляпшэньня маёй выставачнай калекцыі «Сьлядамі Бібліі», каторая і так ужо часткова складалася з марак, падараваных Рут.

І вось Рут прыехала (9 жніўня 2010 г.) ...Не адна. Разам з Рут прыехалі яшчэ дзьве жанчыны, як я зразумеў — сёстры, чый бацька разам з бацькам Рут закончылі гімназію «Tarbut» у Гродна, перакладчыца з Гродна Вікторыя Міхайлаўна і малады чалавек, які ўсіх прывёз на сваім аўто. Сустрэча адбылася пасьля таго, як яны наведалі школьны музэй, што заняло спора часу, агледзелі Луна і былі прытомленыя. Таму гутарка ішла за сталом... Прыемныя падарункі, успаміны, знаёмства... Час ляцеў хутка. Неўзабаве госьці сабраліся ад'язжаць. Было прыемна, але сумна і як бы нечага бракавала.

Раптам увечары зазваніў тэлефон і Вікторыя Міхайлаўна сваім прыемным голасам паведаміла аб жаданьні Рут прыехаць назаўтра ў Луна. Гэта была прыемная навіна, але вялікі непакой выклікала тое, што прыедзе яна адна, без перакладчыка.

Эліэзер Эйзеншмідт –бадай адзіны з 1549 габрэяў — жыхароў Луны-Волі нявольнікаў ГЕТА (сучаснае Луна ў той час складалася з двух паселішчаў: Луна і Воля), якому ўдалося выжыць, намаляваў па памяці схему Луненскага ГЕТА. З Ізраілю Рут даслала мне гэтую схему, а Эліэзер падараваў кнігу ўспамінаў вязьняў Асьвенціма «...płakaliśmy bez łez...». На стар.69 гэтай кнігі ў разьдзеле 4.2. «Дакумэнтацыя гістарычная для будучых пакаленьняў» запісы, зробленыя вязьнем Залманам Градоўскім, запакаваныя ім у бляшанку і закапаныя ў зямлю на тэрыторыі лягера. Такія звароты, адрасаваныя ў будучыню, рабілі многія. У гэтым пекле знаходзілі сілы, каб апісаць, сьведкамі і ахвярамі чаго былі. Закаркоўвалі ў бляшанкі, бутэлечкі, скрыначкі і закопвалі з надзеяй, што прыйдзе час, калі іх спадчына будзе прачытана. Але дзеля чаго

прачытана? На што спадзяваліся, што прымушала ісьці на дадатковую небясьпеку і высілак у неўяўляльна нечалавечых умовах? Адказ у знойдзеных тэкстах:

«Дарагі чытач, у гэтых радках ты знойдзеш выраз пакут і бед, якія мы, нясчасьнейшыя дзеці гэтага сьвету, перанесьлі падчас нашага «жыцьця» у тым зямным пекле, якое завецца Біркенаў-Аўшвіц. Думаю, сьвету гэта назва ўжо добра вядома, але ніхто не будзе ведаць дакладна, што тут насамрэч адбываецца. Некаторыя падумаюць, што калі дзе-небудзь перададуць па радыё пра тое варварства, тую жорсткасьць, тое зьверства, якія тут пануюць, — усё гэта не больш чым «страшная прапаганда». Але я табе пакажу цяпер, што ўсё, што ты ўжо чуў, і тое, што я тут і цяпер пішу, — толькі нікчэмная частка таго, што адбылася ў рэчаіснасьці. Гэта месца бандыцкая ўлада ўладкавала для зьнішчэньня нашага народа і часткова — для зьнішчэньня іншых. Біркенаў-Аўшвіц — адно са шматлікіх месцаў, дзе living рознымі спосабамі нішчыцца наш народ.



Залман Градоўскі з жонкай Соняй

Мэта майго твору ў тым, каб сьвет пазнаў хоць пра малую кроплю таго, што тут рэальна адбывалася і адпомсьціў, адпомсьціў за ўсё.

Гэта адзіная мэта, адзіны сэнс майго жыцьця. Я жыву памяцьцю, надзеяй на тое, што, можа быць, мае запісы дойдуць да цябе і што хоць бы збольшага ажыцьцявіцца тое, да чаго мы ўсё імкнёмся і што было апошняй воляй маіх забітых братоў і сясьцёр, дзяцей майго народа.

Да знайшоўшага гэтыя запісы!

Я прашу цябе, дарагі сябар, — гэта жаданьне чалавека, які ведае, які адчувае, што настае апошні, вырашальны момант у яго жыцьці. Я ведаю, што і я, і ўсе габрэі, зьмешчаныя тут, ужо даўно прысуджаны да сьмерці, і толькі дзень выкананьня прысуду яшчэ не прызначаны. І таму, сябар, выканай маю волю, апошняе жаданьне перад няўхільным пакараньнем сьмерцю! Сябар мой, зьвярніся да маіх сваякоў па адрасе, які я перадам. Ад іх ты зможаш пазнаць, хто такія я і мая сям'я. Вазьмі ў іх нашу сямейную фатаграфію — і нашу з жонкай картку — і прыкладзі гэтыя фатаграфіі да запісак. Хай людзі, якія паглядзяць на іх, пусьцяць сьлязу ці хоць бы ўздыхнуць. Гэта будзе для мяне найвялікшым суцяшэньнем, бо маю маці, майго бацьку, маіх сяс-» Тут запіс абрываецца.

І далей:

«Я напісаў гэта дзесяць месяцаў назад. Я родам з Луна, Гарадзенскай вобласьці. Прыбыў з Калбасінскага лягера. Я закапаў гэта ў яме з попелам — мне здавалася, што там самае надзейнае месца, бо на тэрыторыі крэматорыяў абавязкова будуць капаць.

Толькі нядаўна [...]». Зноў запіс абрываецца.

## Залман Градоўскі «Дарога ў пекла»

Залман Градоўскі нарадзіўся ў 1908 ці ў 1909 годзе ў польскім горадзе Сувалкі недалёка ад Беластока. Яго бацька Шмуэл Градоўскі валодаў крамай адзежы. Ён валодаў вельмі добрым голасам і служыў кантарам галоўнай гарадзкой сынагогі, а таксама настаўнікам талмуда. Маці Сорэ — сьціплая, гасьцінная жанчына. Яе дзед, рабін Авром-Эйвер Йоффе, быў выбітным знаўцам і тлумачальнікам Закона (гаонам) і шаноўным талмудыстам, аўтарам кнігі «Махазе Аўраам» («Бачаньне Аўраама»), а бацька — Иегуда Лейб — аўтарам іншага тлумачэньня — «Эвен Лёваў» («Камень сэрца»).

Залман атрымаў габрэйскую і агульную адукацыю, ведаў эўрапейскія мовы і эўрапейскую літаратуру, шмат чытаў на ідыш і па-польску.

У яго была відавочная схільнасьць да пісьменьніцтва. Залман валодаў валявым і амбіцыйным характарам, быў фізычна моцны і ў той жа час сэнтымэнтальны.

Незадоўга да пачатку Другой сусьветнай вайны Градоўскі жаніўся на Соні Апфельгольд, кравецкай дачцэ з мястэчка Луна, з якой выпадкова пазнаё-

міўся ў Ласосна каля Гародні. На фатаграфіі, зробленай, мабыць, неўзабаве пасьля вясельля, у абодвух далікатны выраз твару, якое бывае толькі ў маладых, якія яшчэ не спазналі ні шчасьці, ні маршчын бацькоўскіх пачуцьцяў, але ўжо цалкам да іх прыгатаваліся. Соня добра сьпявала, і яе глыбокі грудны голас, які ўпрыгожваў малітву, зусім пасьпеў і для калыханак.

Калі пачалася вайна і Сувалкі апынуліся пад пагрозай нямецкай акупацыі, Соні з мужам ужо было не да дзяцей. Яны палічылі неабходным стаць уцекачамі і перабрацца да сьвёкра — у Луна. Мястэчка знаходзілася ў 40 км да паўднёвага ўсходу ад Гародні і было не пад немцамі, а пад саветамі. Пераезд у Луна не ўратаваў. Залмана Градоўскага спаткаў лёс вязьня спачатку ў гета, пасьля ў Асвенцыме.

Залман Градоўскі быў адным з кіраўнікоў беспрэцэдэнтнага ў сваім родзе паўстаньня, якое ўспыхнула 7 кастрычніка 1944 г. — на пяты дзень сьвята Суккот — у галоўным асьвенцымскім лягеры — Біркенаў, дзе дзень і ноч гарэлі чатыры з пяці асьвенцымскіх крэматорыяў.

Здавалася б, які сэнс у гэтым загадзя асуджаным бунце, усе ўдзельнікі і нават таемныя памагатыя якога амаль непазьбежна загінуць у бою ці будуць пакараны?

Адзін з адказаў на гэта пытаньне дае сам Градоўскі ў сваіх запісах. У яго галаве не ўкладвалася, чаму бязьдзейнічаюць саюзьнікі? Чаму з поўдня, з амэрыканскіх аэрадромаў у Італіі, ці ўжо тым больш з усходу (з ліпеня 1944 г. Чырвонае войска стаяла ўсяго ў дзевяноста кілямэтрах ад варот лягера), — не прылятаюць амэрыканскія ці савецкія самалёты і не бамбуюць гэтыя печы і гэтыя газоўні, гэты бесьперапынны канвэер з сутачнай прадукцыйнасьцю каля чатырох з паловай тысяч мерцьвякоў?!

Таму паўстаўшыя назапасіліся не толькі зброяй, але і выбухоўкай — яны падарвалі і падпалілі адзін з крэматорыяў, які з тых часоў ужо не быў адноўлены. Гэта была самая буйная спроба барацьбы ў гісторыі гэтага лягеру, у якой было забіта больш за 400 зьняволеных.

Загінуў і Залман, але на гэтым яго гісторыя не канчаецца. У яме, выкапанай у попеле пры крэматорыі, у 1945 годзе быў знойдзены алюмініевы посуд, у які быў уціснуты сшытак з 81 лістком запісак на ідыш і лістом да знайшоўшага сшытак. Гэта былі старанна запісаныя нататкі аб тым, што Градоўскі з зондэркаманды бачыў у Асьвенцыме. Знаходка праляжала ў былым Ленінградзе амаль чвэрць стагодзьдзя, перш чым яе не выявіў нейкі расейскі гісторык.

На працягу наступных трох месяцаў каля 75 чалавек з 212 членаў зондэркаманды былі забітыя эсэсаўцамі або памерлі. Эвакуацыя лягеру пачалася 18 студзеня 1945 г. Сярод 5 тысяч зьняволеных, эвакуяваных на тэрыторыю Германіі і Аўстрыі, былі і тыя луненцы, каму ўдалося выжыць. 7 тысяч чалавек, якія не маглі ісьці, былі пакінутыя ў лягеры, і 27 студзеня 1945 года яны былі вызваленыя байцамі Чырвонай Арміі.

Эліэзеру Эйзеншмідту ўдалося ўцячы падчас маршу. Яго схавала польская сям'я Тэндэраў, якая пазьней была ўзнагароджана Музеем Галакосту і

Мартыралёгіі Яд Вашэм у Ерусаліме мэдалём «Праведнік Сярод Народаў Сьвету».



Адзін з арганізатараў паўстаньня Юзаф Дзерасінскі родам з Луна. Загінуў пры падаўленьні паўстаньня

Градоўскі, які працаваў на мяцежным крэматорыі №4, загінуў у перастрэлцы ў няроўным бою.




Памятная пліта ў Асьвенцыме з імёнамі Язэпа Дзярэсінскага і Залмана Градоўскага

Большая частка яўрэйскага насельніцтва была зьнішчана ў лягеры Асьвенцым-Біркенаў. Але вядома, што габрэяў забівалі і на месцы. Вітольд Карпыза піша, што ў «Весьніку габрэйскага Гістарычнага інстытуту «№4, 1976, №3—4, 1982 ёсьць такая інфармацыя: «З Гродна мы паехалі ў Скідаль і Луну. Побач з кожным з гэтых мястэчак на полі, побач з падмуркамі зьнесенага дому нам загадалі выкапаць ямы. Ямы былі невялікія, але глыбокія на 2,5 м і на 10 слаёў. Я памятаю, што ў адной яме было 500, а ў другой-350 трупаў. У агульнай колькасьці мы адкапалі ад 2000 да 2500 трупаў». Сёньня невядома, дзе знаходзіліся гэтыя калектыўныя магілы і каго ў іх пахавалі. Ёсьць толькі два ўскосных сьведчаньні, якія пацьвярджаюць прыведзеную вышэй інфармацыю. Генавефа Сільвановіч успамінала, што 23 чэрвеня 1941 года, калі яна з бацькам адправілася ў Скідаль, на зваротным шляху пры пераправе праз Нёман у іх лодку селі некалькі габрэяў, уцекачоў ад немцаў, якія надыходзілі з боку Гродна ў напрамку Скідаля. Хутчэй за ўсё, такіх уцекачоў было значна больш. Магчыма, захопленыя гітлераўцамі, яны сталі тымі, каго забілі. Генавефа Сільвановіч яшчэ ўспамінала, што бачыла, як паліцэйскі Саковіч прывёў пецярых габрэяў, якія пасьля ліквідацыі ГЕТА хаваліся дзесьці ў ваколіцах вёскі Глядавічы. Ён пагнаў іх да сяла Залескі, а потым вярнуўся, несучы пяць пар ботаў.

Па дадзеных Рут Маркус, пасьля Другой Сусьветнай вайны ў жывых засталося ўсяго 20 чалавек з усёй яўрэйскай абшчыны: 1. Эліэзер Эйзеншмідт, жыве ў Ізраілі. 2. Эліэзер Уэлбел, памёр у Чыкага, ЗША, у 2006 годзе 3. Натан-Нізель Левін, памёр у Аргентыне. 4. Айзік Новік, памёр у Аргентыне каля 1980 года 5. Берл Бекер, памёр у ЗША. 6. Аарон Лейбавіч памёр у Канадзе. 7. Тьюел Гісэр, памёр у ЗША каля 1950 года 8. Аарон Уэлбел жыве ў ЗША. 9. Моня Беренхаус, памёр у ЗША ў 1995 годзе 10. Гершон Гісэр, памёр у ЗША ў 2002 годзе 11. Ной-Ёсель Давідовіч (без інфармацыі). 12. Рочкін Седранскі, памёр у Ізраілі. 13. Нахман Рэпланскі памёр у ЗША ў 80-х гадах. 14. Леў Рыўка, магчыма, жыве ў Польшчы. 15. Бэнджамін Перамога памёр у Ізраілі. 16. Абрахам Фрыдман Айзікавіч, нарадзіўся ў Расіі. 17. Аба Сухаўлянскі (інфармацыі няма). 18. Зэбулон Давідовіч быў у Чырвонай Арміі (зьвестак няма). 19. Ізраіль Фрыдман 20. Ізраіль Фрыдман, стрыечныя браты, якія зьехалі ў Расію да вайны. (Прозьвішчы могуць быць недакладнымі з-за перакладу. Л.К.).

З тых, хто выжыў тры чалавекі ў 2008 годзе яшчэ жывыя. Чатырохсотгадовая гісторыя габрэйскага насельніцтва Луна трагічна скончылася ў 1942 годзе. Толькі дамы ў мястэчку і могілкі побач зь ім нагадваюць аб тым, што калісьці тут жылі многія.

Для мяне падобным дакумэнтам, які заклікаў да дзеяньня, стаў дасланы плян ГЕТА, намаляваны Эліэзерам Эйзеншмідтам. Мне стала зразумела, што і маё жыцьцё набудзе дадатковы сэнс, калі я зраблю хоць якіясьці намаганьні, каб як мага больш людзей, найперш жыхароў Луна-Волі, ВЕДАЛА!

Рут прыехала. Мы ў чарговы раз абышлі трагічныя мясьціны. Перакладчыкамі былі мае ўнукі: Мікіта з Гродна і Антон з Кіева. Да майго зьд-

зіўленьня яны выдатна справіліся з сваімі абавязкамі. Ад Рут я атрымаў заданьне, высьветліць, што на былой тэрыторыі ГЕТА засталося з часоў яго існаваньня.

Аб ГЕТА вядома нямнога.




Схема ГЕТА, складзеная на аснове апавяданьня сям’і Гарбачэўскіх

ЛЕГЕНДА
====:===:=== — Дарога, пабудаваная пасьля вайны
o — студня
— Хаты, якія існуюць сёньня і былі падчас існаваньня ГЕТА
— Хаты, якія былі пабудаваны пасьля вайны
1 — Хата Раманавіча
3 — Хата Дамброўскай
4 — Хата Трубецкай
9 — Хата Шумеля
10 — Хата Хацяневіча
a — Падмурак хаты Куніцкай
b — Уваход у ГЕТА
c — Падмурак сынагогі
d — Мост над вуліцай Ваўпянскай
e — Хата Кузьміцкага
g — Хата адпачынку ў Залескаўскім лесе
h — Хата Гарбачэўскіх
42 — Хата Сідара

44 — Хата Кулака
® — Могілкі

З расказу Зіты Іосіфаўны і Вацлава Гарбачэўскіх:

«Ад ГЕТА засталося нямнога. Таму што пасьля таго, як усіх габрэяў вывезьлі 2 лістапада 1942 г., немцы абвясьцілі аб продажы дамоў на тэрыторыі ГЕТА на вываз. Пакупнікі дамы разьбіралі і перавозілі на новае месца ў іншую мясцовасьць. Засталіся нявывезенымі і стаяць па сёньняшні дзень: дом Дамброўскай Елены (сучасны адрас: вул. К. Лібкнехта, 3). Гэта быў крайні (апошні) дом, які ўваходзіў у склад ГЕТА. За ім праходзіла агароджа з калючага дроту. Уздоўж цяперашняй вуліцы К. Лібкнехта яшчэ засталіся з тых часоў дамы №4-дом Трубецкай, №9 — цяпер жыве Шумель Чэслаў, №10-за домам №9 Чэся Шумеля, ў бок Немна на поўнач — дом Хацяневічаў. Яшчэ застаўся фундамэнт дома Куніцкай, які згарэў у 2005 годзе. Уваход праз прахадную ў ГЕТА, дзе сядзеў вартавы, і вароты для ўезда былі каля дома Шумеля. На другой старане вуліцы Ваўпянскай (цяпер Савецкая) за хлявом дома Сідара (Савецкая, 42) застаўся фундамэнт ад сынагогі. Паміж дамамі Сідара-Савецкая,42 і Кулака — Савецкая, 44 знаходзіўся пераходны мост над вуліцай, які злучаў дзьве часткі ГЕТА. Граніца ГЕТА заходзіла аж у Залескі і захоплівала Дом Адпачынку і дом Кузьміцкага Фёдара, які стаіць і цяпер. А на фундамэнце Дома Адпачынку нядаўна пабудаваны новы дом.

Перад ГЕТА за мосьцікам праз Лунянку быў вадзяны млын і домік. Домік стаіць і цяпер, а ад млына няма і сьледу.

ГЕТА пільнавалі паліцэйскія і прызначаныя на варту жыхары Луна. Абходзіў вакол ГЕТА нарад з аднаго паліцэйскага і трох вартавых з жыхароў».

Сям'я Зіты Іосіфаўны Гарбачэўскай (дзявоцкае прозьвішча Дунецкая) жыла ў хаце насупраць каталіцкага крыжа. Гэта яшчэ Луна. Гэты крыж быў пастаўлены бацькам Зіты, а хата згарэла ў першы дзень вайны. Крыж не згарэў. Жыхары лічылі гэта за цуд. Нейкі час яны жылі разам з габрэем Прыпштэйнам?, які ўцёк ад расстрэлу з вёскі Воўпа. Зараз Зіта з мужам Вацлавам жыве прыблізна там жа па вуліцы Савецкай №33.У 1942 г. ёй было 10 гадоў.

Я вельмі ўдзячны Рут і Эліэзеру за зьдзіўляючы прыклад любові да месца, дзе нарадзіўся сам ці твае продкі, зьдзіўляючы прыклад патрыятызму, які праяўляецца і ў штогадовым наведваньні Луна-Волі і зьбіраньні па крупінах, па макаўцы зьвестак аб мінулым, каб надаць ім будучыню. Бо гісторыя ня вучыць, калі яе ня ведаеш.

Вялікімі высілкамі праз збор подпісаў, распрацоўку прапаноў, шматразовыя звароты да органаў улады ўсіх узроўняў — ад сельсавета да Канстытуцыйнага Суда — удалося дамагчыся каб у рэшце рэшт у 2005 годзе быў пастаўлены сьціплы памятны знак, які напамінае аб трагедыі 1549 жыхароў Луна-Волі. Ахвярная праца такіх людзей як Рут і яе сябры ўсяляе надзею, што Дабро пераможа Зло.

Лявон Карповіч, Луна-Воля, сьнежань 2010 г.

Знаёмства з Рут працягваецца. Мы перапісваемся праз інтэрнэт і абменьваемся інфармацыяй. Дзякуючы Рут я пазнаёміўся з адным з нешматлікіх, хто пражыў Галакост, жыхароў Луна Эліэзерам Эйзеншмідтам, які часам тэлефануе мне з Ізраілю. Рут падарыла мне кнігу «Адна з нешматлікіх» Хасі Барнштэйн — Беліцкай пра гераічнае жыцьцё юнай габрэйскай дзяўчыны з горада Гародні. Дзякуючы Рут я прачытаў запіскі Залмана Градоўскага — жыхара Луна, пазнаў шмат новай інфармацыі пра габрэяў Луна. Рут ласкава дазволіла мне карыстацца запісамі і фатаграфіямі з яе сайта... Але самае галоўнае, самае каштоўнае тое, што Рут — жывы прыклад для мяне, маёй сям'і, маіх унукаў, прыклад таго, як трэба кахаць, як трэба шанаваць, як трэба зьбіраць і захоўваць гісторыю месца, дзе жылі сям'я, сваякі — маленькай, але неацэннай і незабыўнай Радзімы. Гэты прыклад натхняе!




Рут Маркус і Лявон Карповіч

У 1951 годзе нашчадкі жыхароў Луна-Волі ў Ізраілі арганізавалі першы мэмарыял ахвярам Галакосту Лкна-Волі. У 1952 годзе аналягічная сустрэча была арганізавана ў Нью-Ёрку Іцхакам Эліяшбергам. У Ізраілі сустрэчы праходзілі ў 1953 годзе і ў 1957 годзе.

У сакавіку 2006 года ў Гіватайме, Ізраіль, адбылася чарговая сустрэча нашчадкаў жыхароў Луна. Удалося сабраць каля 150 чалавек з усяго сьве-

ту. Вялікую ролю ў арганізацыі гэтай сустрэчы адыграла Рут Маркус, якая шукала былых насельнікаў Луна па ўсім сьвеце, і Эліэзер Эйзеншмідт.

У верасьні 2006 года яны зноў наведалі Луна, сустрэліся са жыхарамі, успомнілі былыя часы.



Рут Маркус не забывае Луна-Волю

Аб'ява аб чарговай сустэчы ў 2009 годзе.  У 2010 годзе прыезд у Луна-Волю быў прасьвечаны дасьледваньню ГЕТА.



Камень у памяць габрэяў Гродзенскай вобласьці (у тым ліку Луна-Волі) на могілках «Кір'ят Шаўль» у Тэль-Авіве

## Рут Маркус пра сябе

Вось, што Рут піша пра сябе.

Наколькі нам вядома, пасьля Другой сусьветнай вайны ў жывых засталіся толькі 15 чалавек з усяго габрэйскага насельніцтва Луна, трое з іх жывыя дагэтуль.

Мой бацька Іцхак (Іцл) Эліашберг нарадзіўся ў Луна 14-га кастрычніка 1910 года. Яго бацькі — Бацья (у дзявоцтве Косовская) і Ехошуа Эліашберг.

Ён рос разам са сваімі чатырма сёстрамі Малкай, Йошевед, Хаей і Леяй. Скончыў пачатковую габрэйскую школу «Тора Ваадат», якая адкрылася ў Луна пасьля Першай сусьветнай вайны. Пазьней вучыўся ў габрэйскай гімназіі «Тарбут» у Гародні, якую скончыў у 1930 годзе. Быў актывістам і адным з лідэраў маладзёвага руху «Ха Шомер Ха Тцаір» у Гародні. У канцы 1932 года зьехаў з Польшчы ў Палестыну і абгрунтаваўся разам са сваімі сябрамі з «Ха Шомер Ха Тцаір» у кіббуце Бейт Альфа. Праз некалькі гадоў пасяліўся ў Тэль-Авіве. У канцы лета 1937 года ён караблём адправіўся ў Луна наведаць чальцоў сям'і, якія заставаліся там. Яго бацька да таго часу ўжо памёр, але маці Бацья з двума малодшымі дочкамі Хаяй і Леяй, а таксама іншыя сваякі з сем'яў Эліашбергаў і Касоўскіх працягвалі жыць у Луна.

За час гэтай паездкі ён адправіў некалькі лістоў у Палестыну сваёй нявесьце, з якой яны пажаніліся праз год (гэта мая маці Ахува, якая нарадзілася ў Ерусаліме). У гэтых лістах бацька апісваў свае хвалюючыя сустрэчы з сям'ёй, сваякамі, сябрамі і знаёмымі з Луна і Гародні.



Рут Маркус каля дома Іцхака Эліашберга, бацькі Рут. Цяпер вуліца Кірава

У 1939 годзе бацька і яго сястра Йошэвед жылі ў Палестыне, іх старэйшая сястра Малка Белаблоцкая з мужам і двума дзецьмі жыла ў Польшчы ў Рожыцы, а абедзьве малодшыя сёстры Лея і Хая жылі з маці ў Луна. Бацька мог перавезьці ў Палестыну толькі адну са сваіх малодшых сясьцёр. Для гэтага трэба было аплаціць усе дарожныя выдаткі аднаму са сваіх прыяцеляў, каб той зьезьдзіў у Луна, уступіў з ёй у фіктыўны шлюб, і такім чынам атрымаў дазвол на яе ўезд у Палестыну, дзе пазьней быў бы аформлены развод. Бацька вырашыў, што гэта будзе самая малодшая з сясьцёр, Лея. Лея прыехала ў Палестыну «у самы апошні» момант — 5-га красавіка 1940 гада. Іх маці і сястра Хая засталіся ў Луна і загінулі падчас Галакосту разам з іншымі 1549 габрэямі мястэчка.

Я нарадзілася ў Тэль-Авіве. Памятаю, што на працягу ўсяго майго дзяцінства кожны раз, калі мой бацька і абедзьве яго сястры, якія жылі ў Ізраілі, зьбіраліся разам, яны падоўгу ўспаміналі Луна, раку Нёман і акружаючыя мястэчка лясы. Са сьлязамі на вачах яны казалі пра сваякоў і сябраў, пакінутых у Польшчы і загінуўшых падчас Галакосту. Лея часта паўтарала, што бацька выратаваў ёй жыцьцё тым, што ў апошні момант вывез яе ў Палестыну.

# Зьмены

Дзякуючы Рут у Луна шматлікае зьмянілася. Луненцы ведаюць электронныя адрасы старонак Рут, прысьвечаных Луна, кожны прыезд у Луна Рут прывозіць з сабой новыя сабраныя ёю матэрыялы пра Луна і дорыць дыскі і электронныя запісы з гэтымі матэрыяламі.

Дзякуючы матэрыялам Рут у школьным музэі ў Луна зьяўілася экспазыцыя, прысьвечаная трагічнаму лёсу габрэяў Луна — Волі.

Валанцёры Дортмундзкага каледжа не толькі зрабілі вялікую працу па прывядзеньні ў парадак габрэйскіх могілкаў, але зьмясьцілі ў інтэрнэце сайт з падрабязным апісаньнем усяго працэсу працы на могілках, уражаньні ўдзельнікаў аднаўленчых прац, фатаграфіі надмагільных камянёў з кароткім апісаньнем...



Эліэзер Эйзеншмідт ля магілы бацькі

Наколькі гэта важна, можна судзіць па ўспамінах Рут пра наведваньне могілак у Луна — Волі разам з Эліэзерам Эйзеншмідтам:

«Затым ён (Эліэзер Эйзеншмідт) як апантаны стаў шукаць надмагільле яго дзеда па бацькаўскай лініі Шлема Эйзеншмідта. Ён успамінаў тое месца, дзе знаходзілася надмагільле да вайны, і правёў каля гадзіны ў пошуках яго. Знайсьці не атрымалася, бо надмагільлі ў гэтай частцы могілак зваліліся і пакрыліся зямлёй. На наступны дзень мы вярнуліся з лапатамі і капалі ў патрэбным месцы, пакуль не знайшлі верхні бок надмагільля яго дзеда па бацькаўскай лініі. Пакрыўшы мелам драпіны на надмагільлі, мы спрабавалі прачытаць надпісы. Эйзеншмідт, які стаяў каля надмагільля, раптам сказаў: „Мой каханы дзядуля, я ваш адзіны ўнук, які перажыў Хала-

кост з усіх вашых дзяцей і ўнукаў, якія загінулі ў Катастрофе. Я прыйшоў сюды са сваёй унучкай Ліат, і мы знайшлі ваша надмагільле, якое я не бачыў каля 70 гадоў. І я гавару Вам, што дынастыя Эйзеншмідтаў працягвае расьці“. Ён з зачараваньнем паўтараў малітву Кадыш яшчэ і яшчэ раз».

Я ж была вельмі расчаравана тым, што я не знайшла надмагільляў маіх сваякоў. Я ўзяла з сабой старыя фатаграфіі надмагільляў майго дзеда Іегошуа Эліашберга, маёй прабабулі Ціпоры Касоўскай і іншых сваякоў у надзеі знайсьці хоць бы аднаго зь іх, але не знайшла. Ёсьць некалькі сотняў камянёў, якія захаваліся ў цвінтарах. Шматлікія з іх увайшлі ў зямлю, іншыя зарасьлі высокім быльнікам. Я спадзяюся, што ў будучыні пры вялікіх рэстаўрацыйных працах больш камянёў будзе адшукана і паднятая».

Летам 2012 года прыежджы расіянін на гарышчы ў выкупленым ім доме на вуліцы Шасэйнай дом 3 знайшоў фрагмэнты кніжак на ідыш, сшытак з запісамі, даведку і некаторыя іншыя прадметы.



Старонка з сшытка-дзёньніка дзяўчынкі з Дому Адпачынку ў Залесках з апісаньнем экскурсіі на цагельню

Вельмі ўразіў сшытак з запісамі дзяўчынкі пра яе знаходжаньне ў Доме адпачынку Залесках.



Даведка выдадзена на імя Клавы Жоўтай у 1928 годзе з пазначаным адрасам вул. Падарэўскага №8 на польскай мове

Пры перакопваньні агароду былі знойдзеныя выкрайкі з скуры для вырабу абутку, а пад імі некалькі прадметаў сталовага посуду. Сярод іх прыгожая чарка ці вазачка, магчыма для рытуальнага ўжываньня.



Рытуальная чарка

Усе знойдзеныя прадметы былі выкуплены Рут Маркус і Эліэзерам Эйзеншмідтам і перададзены ў музэй пры Гродзенскай сынагозе.

Лявон Карпавіч, Луна-Воля

Заўвага: сучасная назва мястэчка — аграгарадок Лунно. Гістарычная назва, зафіксаваная на першых геаграфічных картах і іншых дакумэнтах: мястэчка Луна і мястэчка Воля, рачулка Лунянка.

# Луна- Воля ў гады Другой сусьветнай вайны

## Немцы ў Луна-Волі

З прыходам немцаў на дзяржаўных будынках у Луне замянілі чырвоны сьцяг з сярпом і молатам на чырвоны сьцяг са свастыкай. Жандармэрыю разьмясьцілі ў будынку цяперашняга банку.



Выхад працэсіі з прыкасьцельных варот.

Побач збудавалі бэтонны бункер, які стаіць і цяпер. 15 жніўня 1941 года Гародня з акругамі, у тым ліку і Луна, былі далучаны да нямецкага Рэйху і ўся адміністрацыя тут была нямецкай. Павятовым камісарам да 5 сакавіка 1943 г. быў доктар фон Плецт, а затым Бохум. З гэтае нагоды тут несла службу жандармэрыя і насілі чорную форму. У жандармэрыі служылі мясцовыя Саковіч, Трушыньскі, Урбановіч і іншыя. Усяго 12 чалавек. З немцаў быў камісар, які езьдзіў на «Опелі» і меў перак-

ладчыкам сына ўладальніка палаца на Волі Тарасовіча Казіміра. Войтам быў прызначаны Шчырскі. Новыя акупацыйныя ўлады строга рэглямэнтавалі ўсе бакі жыцьця мясцовага насельніцтва. Усе жыхары павінны былі прайсьці перарэгістрацыю. Падлягалі рэгістрацыі ўладальнікі фурманак, равароў, кароў, сьвіней. У пашпарце ў залежнасьці ад нацыянальнасьці ставіліся адзін ці два крыжыкі, а таксама рабілі адбіткі пальцаў. На кожным возе абавязкова былі катафоты: чырвоныя ззаду і белыя сьпераду, а таксама таблічкі з поўным адрасам і прозьвішчам уладальніка. Немцы жорстка сачылі за выкананьнем сваіх распараджэньняў. Успамінае Сырэй Расьціслаў, як 15-гадовым хлапчуком вёз на возе здаваць зерне. Ад стомы заснуў і коні перайшлі на левы бок дарогі. На няшчасьце спаткаўся нямецкі пост на матацыклах. Удар крагамі па твары чалавек помніць і сёньня. І ўжо ніколі не ехаў возам па левым боку вуліцы. Пастаянна ўзмацняліся рэпрэсіўныя меры пакараньня. Расстрэл прадугледжваўся за антынямецкую прапаганду і дзеяньні, за паўторнае самагонаварэньне, за прадстаўленьне сховішча для габрэяў, за ўступленьне і знаходжаньне на тэрыторыі гета, за сабатаж, за спэкуляцыю, за захоўваньне і нашэньне зброі, за заражэньне нямецкіх салдат вэнэрычнымі захворваньнямі, за крадзеж з узломам і г. д. Але людзі прыстасоўваліся. Так, каб забіць сьвіньню без дазволу і ніхто не пачуў візгу, надзявалі на галаву сьвіньні мяшок з мукою. Ды і немцы не заўсёды выконвалі загад: бывала знойдуць самагонку, каштавалі і, калі была добрай, вярталі гаспадару са словамі «Гуд». Самі не напіваліся. Некаторыя з нямецкіх салдат насілі па хатах розныя дробязі: ніткі, голкі і г. д., прадавалі за грошы і выменьвалі на прадукты, але ніколі не бралі гарэлкай.

Распараджэньнем Штэйна ад 19 студзеня 1942 г. законнымі сьвятамі абвяшчаліся Нядзеля, Вялікадзень, Троіца, Раство Хрыстова, Новы год, Страстная пятніца. Усе астатнія дні лічыліся рабочымі.

5 жніўня 1941 г. Розенбэрг, міністар па справах акупаваных усходніх тэрыторый, выдаў распараджэньне аб усеагульнай працоўнай павіннасьці насельніцтва ва ўзросьце ад 18 да 45 гадоў, за парушэньне якога была турма або катаржныя работы. Але каб рэгулярна плаціліся падаткі немцамі была арганізавана забясьпечваньне сялян, якія абрабляюць зямлю, гатунковай бульбай і зернем, пародзістымі сьвіньнямі і племяннымі быкамі. У пакінутых маёнтках гаспадарылі нямецкія ўпраўляючыя, дзе гаспадарка вялася на высокім узроўні. Патрэбы насельніцтва абмяжоўваліся. Так на памол мукі выдаваліся спэцыяльныя карткі «бітукшы», якія давалі магчымасьць змалоць 8 кг мукі на чалавека.

«Павестка на двухгадовую працу ў Германіі.

На падставе распараджэньня шэфа цывільнай управы Беластоцкай акругі з дня 15 красавіка 1943 г. і атрыманага Вамі сьціраваньня на службу працы, заклікаецца Вас да зьяўленьня (указваецца дата, час) дзеля распачацьця службы працы. Ваша праца да гэтага канчаецца ў сілу вызаву за два дні прад пададзеным вышэй тэрмінам. Рабочую вопратку, усялякія

асабістыя дакумэнты і прадукты на 4 дні трэба прынесьці з сабой. Незьяўленьне на заклік будзе сурова пакарана. Гэты вызаў зараз жа паказаць працадаўцам».

Прымусовы набор і вываз насельніцтва на працу ў Нямеччыну трываў увесь час нямецкай акупацыі. 19 чалавек значацца ў сьпісе краязнаўчага альбому Луненскай бібліятэкі, якім удалося вярнуцца з Нямеччыны і атрымаць статус малалетніх вязьняў.

А вось як на гэта рэагавала царква. Адозва: «...Гэта наша шчасьце, што наша краіна знаходзіцца пад апекай гэтага народу (немцаў–аўт.) і што можна прыняць удзел у абароне сваёй Бацькаўшчыны і свайго народу ад няволі камунізму... ...Таму ўжо выданыя і яшчэ сёньня апублікаваныя распараджэньні ў справе мабілізацыі рабочай сілы зьяўляюцца для нас указаньнямі, што і як нам трэба рабіць...»

Архіепіскап Венедыкт. Горад Гародня 27 кастрычніка 1943 г.



Бункер перад будынкам былой камэндатуры

Асаблівасьцю жыцьця пад нямецкай акупацыяй была партызанская вайна. Партызанская вайна разгаралася марудна, бо мясцовае насельніцтва слаба падтрымлівала савецкі рэжым. Луна партызанка асабліва не закранула, хоць праходзілі абапал групы сувязных і цэлыя атрады. Камандзір аднаго з партызанскіх атрадаў Коннаў А. А. успамінае: «Першага кастрычніка 1942 г. на хутары Станіслава Грабліса каля в. Юравічы агульным сходам партызан было вырашана назваць групу партызанскі атрад „Іскра". Камандзірам абралі капітана Аляксандра Грыгор'ева, начальнікам штаба Хведара Зямскова. Новае камандаваньне вырашыла адвесьці атрад у Белавескую пушчу і адтуль пачаць актыўную барацьбу супраць акупантаў. Атрад быў арганізаваны ў асноўным з групы партызан, якую я прывёў з Рыбацкага лесу — гэта паміж мястэчкамі Рось і Луна (Лунна) на беразе р. Нёман».

З адной з такіх груп адбылася няўдалая сутычка Луненскай жандармэрыі. Група стомленых партызан адпачывала ў лесе каля Круглік (Войтаўшчына). Іх угледзеў пастух, які данёс мясцоваму пану, а той патэлефанаваў у Луна. Луненскія жандары хацелі выслужыцца і, спадзяваючыся на лёгкую здабычу, на роварах рушылі на захоп. У сутычцы загінулі 4 жандары, адзін нямецкі салдат і пан-даносчык. Партызаны ўцяклі. Але партызанаў акупанты баяліся. Аб гэтым сьведчыць пабудова каля будынку жандармэрыі масіўнага бэтоннага бункера з байніцай і падземным уваходам толькі з будынку.

## Трагедыя Княжаводцаў

Недалёка ад Луна на правым беразе Нёмна разьмясьцілася вёска з дзіўнай назвай Княжаводцы. Сваю назву вёска атрымала ад найменьня сваіх першых засельнікаў. Княжаводцамі ў часы Вялікага княства Літоўскага называлі людзей, што абслугоўвалі княжацкую пераправу на шляху з Вільні ў Ваўкавыск і Бярэсце. Перад Вялікай Айчыннай у вёсцы налічвалася 260 двароў, 1020 жыхароў. Пасьля вайны людзі адмовіліся вяртацца на тутэйшы бераг Нёмана.



Трагедыя вёскі Княжаводцы

Немцы акружылі вёску яшчэ ўначы. Ранкам выганялі з хатаў, зьбіралі ў гурты і зганялі ў вялізны хлеў: старых, жанчын, дзяцей. З яго па дзесяць чалавек выводзілі на ўскраек вялізнай яміны, расстрэльвалі і кідалі ўніз. Адна дзяўчынка раптам залапатала: «Я не тутэйшая, я з Гродна!» Немцы

паверылі. І адпусьцілі дзяўчынку. Бацька і брат яе навекі згінулі ў той яміне. Сваю маці яна потым знайшла ў хаце пад печкай — з віламі ў грудзях.

23 ліпеня 1943 года свае жыцьці тут скончылі 922 жыхары прыгожай мастоўскай вёсачкі. Галоўную вясковую вуліцу, пасьля таго як вывезьлі нажытае людзьмі дабро, карнікі спалілі дашчэнту. Агонь паглынуў больш за 200 дамоў, якія стужкай цягнуліся ўздоўж маляўнічага берага Нёмна. Уцалела толькі некалькі хат, што стаялі воддаль: відаць, немцы палічылі іх за іншую вёску.



Помнік — Жанчына-маці над брацкай магілай 600 жыхароў Княжаводцаў

На ўскрайку лесу, на тым месцы, дзе разыгралася Княжаводзкая трагедыя, неўзабаве зьяўіўся помнік — Жанчына-маці ў смутку схілілася над брацкай магілай 600 вяскоўцаў. Непадалёк адсюль, у іншай магіле, знайшлі вечны спакой астатнія жыхары Княжаводцаў, а таксама тыя, хто загінуў падчас вызваленьня раёна. Штогод 23 ліпеня тут праходзяць жалоб-

ныя мітынгі. У апошнія гады зьяўілася і іншая традыцыя — да помніка людзі нясуць жытні сноп, перавязаны чорнай стужкай. Фашысты зьнішчылі людзей у той самы час, калі жнеі зьбіраліся выйсьці ў поле. Яны так і не пасьпелі сабраць ураджай...

У аповесьці «Пайсьці і не вярнуцца» пра Княжаводцы некалькі разоў успамінае Васіль Быкаў. Вось адзін з самых драматычных эпізодаў:

«Але чаму яна адна? Чаму паранена ў гэтым начным сьнежным полі? Дзе людзі? Дзе партызаны і як яна тут апынулася?

Трэба было некалькі доўгіх хвілін і немалых намаганьняў памяці, каб яна марудна аднавіла ў сьвядомасьці разрозьненыя ўрыўкі нядаўняга мінулага. Яна прыпомніла Антона і адчула, што побач яго няма. Памяць яе, ухапіўшыся за канец гэтай нітачкі, пацягнула яе далей, і праз некалькі няўцямных малюнкаў Зоська нагадала палявую грушу і крушню пад ёй, пасьля — апошнюю размову з Антонам... Яна кудысьці пайшла... Ага, яна ж скіравала ў Княжаводцы! Тут жа за полем, зусім блізка ад грушы, былі відаць княжаводзкія дахі, і яна пайшла ў вёску, кінуўшы Антона... А пасьля... Што ж было пасьля?

Пасьля быў здрадніцкі стрэл ззаду».

Зараз у Княжаводцах жывуць толькі некалькі пэнсіянэраў... Вёска памірае...

## Бітвы за вызваленьне Луна — Волі

Час немінуча набліжаў паразу немцаў. Аб апэрацыі па вызваленьню Луна раскажам больш падрабязна.

Яшчэ 13 ліпеня 1944 года дывізіі 70-га стралковага корпусу генэрал-маёра В. Г. Цярэнцьева 50-й арміі падышлі да ракі Нёман на адрэзку мястэчка Луна — вёска Каўшова. Першай да ракі падышла 64-я Магілёўская стралковая дывізія генэрал-маёра Ц. К. Шкрылёва. Перад падразьдзяленьнямі дывізіі стаяла задача хутка фарсіраваць Нёман і стварыць пляцдарм для 70-га корпуса. Так, у 16 гадзін 440- ы стралковы полк 64-й стралковай дывізіі пасьля непрацяглага бою заняў вёску Каўшова. Немцы, не ўступаючы ва ўпартыя баі, адышлі. 433-ці стралковы полк дывізіі заняў лясны масіў на паўночным беразе ракі Нёман насупраць мястэчка Луна. 451-ы стралковы полк, знаходзячыся ў другім эшалёне дывізіі, сканцэнтраваўся на поўдні ад в. Лаўна. Ноччу з 13 на 14 ліпеня групы 2-га стралковага батальёна 433- га стралковага палка 64-й стралковай дывізіі падышлі да ракі Нёман. У ваколіцах мястэчка абарону заняў 123-ці грэнадзерскі полк пад кіраўніцтвам палкоўніка Г. Гізэна. Нешматлікія нямецкія войскі вымушаны былі расьцягнуць свае пазыцыі ўздоўж берага. У мястэчку забясьпе-

чваў абарону 1-шы батальён 123-га палка, узмоцнены 9-й батарэяй 150-га артылерыйскага палка 50-й пяхотнай дывізіі. Першая спроба фарсіраваць раку Нёман савецкімі войскамі была няўдалай — батальён 64-й дывізіі быў разгромлены. Паводле інфармацыі М. Дзелянкоўскага, батальёну 433-га стралковага палка было загадана захапіць мост праз раку Нёман, які знаходзіўся ў мястэчку Луна. Распачаўшы атаку, рота батальёна імгненна апынулася на мосьце. Аднак немцы ўзарвалі мост разам з савецкімі салдатамі. Тады камандзір батальёна загадаў фарсіраваць раку ў раёне мястэчка падручнымі сродкамі. Узводы сяржантаў Паўлава і Палякова фарсіравалі раку Нёман і захапілі пляцдарм на супрацьлеглым беразе. У выніку нямецкіх контратак абодва ўзводы былі зьнішчаны.



ЛейтэнантСямён Сухін

Трэцяя спроба фарсіраваньня ракі ў раёне мястэчка Луна аказалася больш удалай. Група камандзіраў узводаў лейтэнантаў С. З. Сухіна і П. Я. Жолудзя з шасьці чалавек (ст. с-т С. М. Калінін, рад. І. І. Асінны, М. С. Майдан, А. П. Нічапурэнка, Т. І. Салапенка, І. Г. Шарамет) захапіла на левым беразе ракі Нёман пляцдарм каля 50 м у глыбіню і па фронце на ўсход ад мястэчка. Да гэтага часу невядома, колькі чалавек прымала ўдзел у гэтай апэрацыі. Да супрацьлеглага берагу змаглі дабрацца толькі 8 чалавек. Група фарсіравала раку Нёман у 14 гадзін дня, на вачах у немцаў. Каб пераплыць раку, байцы прывязалі абмундзіраваньне да галоваў. І як толькі па іх адкрыўся агонь, кожны кінуў вопратку і нырнуў у ваду. Такім чынам удалося пераплысьці раку. Трое з групы былі параненыя каля

самага берага. Група лейтэнантаў С. З. Сухіна і П. Я. Жолудзя заняла плацдарм на нізкім балоцістым адрэзку, дзе немцы не чакалі зьяўленьня савецкіх частак. Кінуўшыся ў атаку, С. З. Сухін, М. С. Майдан і А. П. Нічапурэнка захапілі нямецкі кулямёт. Абкапаўшыся, занялі пазыцыі. Падчас бою пашчасьціла захапіць яшчэ адзін нямецкі кулямёт.



Лейтэнант Павал Жолудзь

З баявых данясеньняў: «У баях за м. Луна Мастоўскага р-на Гродзенскай вобл. Праявіў геройства стралковы ўзвод 3-стралковай роты першага батальёна 433-га палка пад камандаваньнем лейтэнанта Сямёна Захаравіча Сухіна.

...У лютым крывавым баі праявілі мужнасьць і геройства сяржант С. Н. Калінін, М. С. Майдан, А. П. Нічэпурэнка, Н. І. Асінный, Т У. Салоненка, І Г. Шарамет. 14 ліпеня 1944 г. пад ураганным агнём праціўніка ўзвод перапрвіўся на заходні бераг ракі Нёман, захапіў пляцдарм каля 50 мэтраў па фронту і 50 мэтраў углыб. На заняты імі кавалачак зямлі рушылі адна за другой 12 контратакаў праціўніка. ... Апошняя атака немцаў была асабліва лютай, калі 300 фашыстаў рухалася ва ўвесь рост на занятыя пазыцыі мужнай сямёркі. І гэта атака была адбіта. Згубіўшы больш за 150 чалавек забітымі і параненымі, праціўнік адкаціўся на зыходны рубеж. Сямёрка адважных воінаў сваімі дзеяньнямі забясьпечыла посьпех дывізіі пры аваloданьні м. Луна».

Як бачым у баявым данясеньні зусім не ўспамінаецца адзін з удзельнікаў геройскага ўчынку лейтэнант П. Я. Жолудзь.

Напярэдадні 20-годзьдзя разгрому нямецка — фашысцкіх захопнікаў (1.04.1965 г.) у Палітупраўленьне Беларускай вайсковай акругі і ў савет «Музэю баявой славы» Луненскай школы зьвярнуўся з лістом былы камсорг і памочнік камандзіра ўзвода С. Калінін. У лісьце ён просіць аб хадатайніцтве перад Прэзыдыўмам Вярхоўнага Савету СССР аб прысваеньні званьня Героя Савецкага Саюза лейтэнанту Жолудзю П. У лісьце ён піша, што «восьмага ўдзельніка гэтай апэрацыі камандзіра ўзвода лейтэнанта Жолудзя ў сьпісе аб прысваеньні Званьня Героя Савецкага Саюза не аказалася... па чыстай выпадковасьці, бо лейтэнант Жолудзь прыбыў у роту за тры-чатыры дні да гэтай апэрацыі. (Захоп пляцдарму на Нёмне, аўт.)

Лейтэнант Жолудзь жа біўся так сама храбра, як усе. Ён поўзаў ад акопу да акопу, правяраючы наяўнасьць боепрыпасаў, падбадзёрваючы салдат, каму дасьць параду, каму падкіне жарт.

Я, носячы Зорку Героя Савецкага Саюза, лічу, што якаясьці у ёй доля лейтэнанта Жолудзя». І далей: «Зьвяртаюся да Вас па наступным прычынам: 1. Баявыя дзеяньні праходзілі на тэрыторыі Беларусі. 2. Лейтэнант Жолудзь па нацыянальнасьці БЕЛАРУС».

С. М. Калінін некалькі разоў пісаў у Палітупраўленьне Беларускай ваеннай акругі з прапановай узнагароджаньня лейтэнанта П. Я. Жолудзя, аднак яго лісты засталіся без адказу.

Жолудзь Павал Яўгенавіч памёр ад атрыманых ран 20 красавіка 1945 г.

Ужо раніцай 14 ліпеня падразьдзяленьні 433-га палка фарсіравалі раку і далучыліся да групы лейтэнанта С. З. Сухіна.

«У гэтых баях вызначыліся многія воіны батальёна. Сярод іх былі яфрэйтар Срокаў, камсамолец Васіленка, чырвонаармеец Качаткоў. Яфрэйтар Срокаў у час наладжваньня сувязі закідвае варожы бронетранспарцёр гранатамі і гіне сьмерцю героя. Камсамолец Васіленка прабраўшыся ў тыл ворага з двума байцамі, утрымлівае важную высотку на працягу сутак. Артылерыст Качаткоў у час контратакі ворага вядзе зьнішчальны агонь з 45-мм пушкі. Калі з разьліку выбылі два нумары ён адзін працягвае змаганьне».

Да раніцы наступнага дня ўсе падразьдзяленьні 70-га стралковага корпусу генэрал-маёра В. Г. Цярэнцьева павінны былі фарсіраваць раку Нёман і разьвіваць наступленьне на паўднёвым беразе. Аднак хуткае і пасьпяховае прасоўваньне 64-й дывізіі, якое не было, аднак, падтрымана астатнімі падразьдзяленьнямі корпуса, паставіла яе ў вельмі цяжкае становішча.

Выхад дывізіі да мястэчка Луна і в. Каўшова адкрылі магчымасьць фарсіраваць Нёман адразу ў двух месцах. Камандзір 64-й Магілёўскай дывізіі генэрал-маёр Ц. К. Шкрылёў плянаваў пачаць фарсіраваньне Нёмна ў в. Каўшова двума астатнімі палкамі дывізіі, аднак баі наступнага дня сарвалі яго пляны.

Фарсіраваньне Нёмна ў Каўшова давала магчымасьць савецкім часткам адразу ж адсячы нямецкі 123-ці грэнадзёрскі полк 50-й пяхотнай ды-

візіі, які ўтрымліваў мястэчка Луна. Акрамя таго, заняцьце вёскі Каўшова магло б прывесьці да акружэньня нямецкіх 121-га і 122-га грэнадзёрскіх палкоў 50-й пяхотнай дывізіі.




12 ліпеня 1944 г. Бой атрада генэрала Аляксандра Цюрына. Нямецкі фронт па рацэ Котра. «Нёманскі фронт. 15—25 ліпеня 1944 года. Баі за Гродна: аналіз падзей, данясеньні, ўспаміны, статыстыка» Дзімітрый Люцік 2012

14 ліпеня, улічваючы фарсіраваньне Нёмна на ўсход ад м. Луна часьцямі Чырвонай арміі, камандзір 50-й пяхотнай дывізіі генэрал-маёр Г. Хаўс вырашыў па-першае, атакаваць невялікі пакуль савецкі плацдарм сіламі 123-га грэнадзёрскага палка сваёй дывізіі; па-другое, пачаць перакідваньне сіл 121-га і 122-га палкоў на паўднёвы бераг Нёмна, каб выключыць магчымасьць іх адсекчы савецкімі войскамі. З 7.00 раніцы немцы ажыцьцяўлялі моцныя атакі па двух батальёнах 433-га стралковага палка 64-й стралковай дывізіі, якія ўтрымлівалі пляцдарм на паўднёвым беразе Нёмна на ўсход ад Луна. За дзень 433-ім палком было адбіта пяць нямецкіх атак, якія зьдзяйсьняліся пры падтрымцы адной мінамётнай, адной артылерыйскай батарэямі і трох самаходных артылерыйскіх установак.

У журнале баявых дзеяньняў 64-ай дывізіі было зафіксавана:

«13.7.44

У 18.30. 433 сп ачысьціў ад суперніка лес паўн — усходней Луна, захапіў пры гэтым 7 палонных.

У 19.00 пад моцным стрэльбава-кулямётным агнём 1/433 сп. фарсіраваў р. Нёман у раёне ўсх. Луна, у 21.00 на гэтым жа ўчастку фарсіраваў р. Нёман 2/433 сп.

451 сп да 20.00 засяродзіўся ў лесе 1 км паўднёва-зах. Лаўна. Спроба фарсіраваць р. Нёман уначы з-за моцнага агнявога супраціву праціўніка посьпеху не мела. На працягу ночы, пераправіўшыся на паўдн. бераг р. Нёман, падразьдзяленьні вялі бой з праціўнікам па пашырэньні пляцдарму. Штадзіў-Лаўна

14.07.44

З 7.00 праціўнік пачаў прадпрымаць адну за адной контратакі супраць падразьдзяленьняў 433 сп., які фарсіраваў р. Нёман. На працягу дня на гэтым участку полк адбіў 5 контратак суперніка сілаю да 150—200 чалавек пяхоты, якая дзейнічала пры падтрымцы трох самаходных гармат, адной мінбатарэі 81,4 мм, адной артбатарэі 105 мм і асобнай гарматы 75 мм.

440 сп на працягу дня адбіў 4 контратакі суперніка з лесу паўно. і паўно. зах. і заходней Коўшава. Кожная контратака прадпрымалася групаю пяхоты да 250 чалавек і падтрымлівалася дзьвюма самаходнымі прыладамі і дзьвюма мінбатарэямі 81,4 мм.

На працягу дня полк узяў двух палонных, якія належалі 122 пп. 451 сп да 15.00, 17.00 засяродзіўся ў лесе ўсх. Луна.

440 сп у 18.00 выступіў з раёна Каўшова ў раён лесу ўсх. Луна. У сувязі з моцным супрацівам суперніка на гэтым участку, камандзір дывізіі вырашыў усе палкі засяродзіць у лесе ўсх. Княжаводцаў і абыйсьці Луна з паўдн.-ўсходу. З выйсьцем 451 сп паўднёва-зах. Луна фарсіраваць р. Нёман 440 і 3/433 сп усходней Луна.

На працягу ночы часткі прыводзілі сябе ў парадак і рыхтаваліся да далейшага наступу.

451 сп уначы выступіў у кірунку Дубна, фарсіраваў р. Нёман і пачаў наступ у кірунку Луна, з задачай выйсьці ў сваю паласу і заставацца ў зададзенай паласе. Да 15.00 авалодаў Луна і 440 сп з раёна засяроджваньня лес 2 км паўн. ўсх. Луна выступіў за 451 сп, 433 сп адным батальёнам вёў бой на паўдн. беразе Нёмна за авалодваньне Лунам, другім сб выступіў за 440 сп. У 16.00 451 сп адбіў дзьве контратакі суперніка з раёна Шэльцэ сілаю да 100 чалавек кожная і працягваў наступ у зададзеным кірунку».

Вельмі моцныя атакі немцы пачалі прадпрымаць за ўтрыманьне вёскі Каўшова з поўначы на пазыцыі 440-га стралковага палка падпалкоўніка Юроўскага. У выніку гэтых атак камандзір 64-й Магілёўскай дывізіі генэрал-маёр Ц. К. Шкрылёў загадаў адыходзіць абодвум сваім палкам на ўсход да месца фарсіраваньня Нёмна батальёнамі 433-га стралковага палку ў раён в. Княжаводцы. У ноч на 15 ліпеня сіламі гэтых палкоў былі зьдзейсьнены спробы пераправіць на паўднёвы бераг падмацаваньне батальёнам 433-га стралковага палка, якія вялі баі за мястэчка Луна. Гэтыя спробы скончыліся беспасьпяхова.

Камандзір 64-й дывізіі загадаў фарсіраваць Нёман яшчэ больш на ўсход — ля в. Дубна. Пасьля фарсіраваньня ракі, яны павінны былі абысьці Луна з паўднёвага ўсходу і ўзяць яго. У в. Дубна фарсіравалі раку палкі 199-й стралковай дывізіі, якія занялі пазыцыі каля в. Касілы — Тупічаны і якія працягнулі баі ўжо на паўднёвым беразе Нёмана. Вось як гэтыя падзеі запісаныя ў баявым данясеньні:

«БАЯВОЕ ДАНЯСЕНЬНЕ №00186 на 6.00

15.07.44

1. Супернік падразьдзяленьнямі 122 пп на мяжы Міневічы, Мяшэтнікі, Навасёлкі, Луна, адзнака 105,8, арганізаваным агнём усіх выглядаў зброі перашкаджаў фарсіраваньню р. Нёман і прасоўваньню наперад нашых частак.

Артылерыя суперніка — адна батарэя 105 мм, адна мінбатарея 81,4 мм ў раёне Сьвіслач, Мартава, гай усх. Дубраўляны вяла агонь па баявых падразьдзяленьнях нашых падыходзячых частак. (Пазнака алоўкам начальніка штаба Баркова «3 самаходных гарматы).

2. Часткі дывізіі пасьля няўдалай спробы фарсіраваць р. Нёман у раёне Луна, на працягу ночы прыводзілі сябе ў парадак і рыхтаваліся да далейшых наступаў:

451 сп з раёна засяроджваньня ў лесе зах. Княжаводцаў у 5.00 выступіў у кірунку Дубна, фарсіраваў р. Нёман і да 6.00 дасягнуў Бабры, працягваючы рух у паўн.-зах. кірунку.

440 сп з раёна засяроджваньня лес 2 км паўночна-усх. Луна ў 5.30 выступіў за 451 сп і да 6.00 дасягнуў Княжаводцы (слова Княжаводцы закрэсьлена рукой Баркова).

433 сп адным стралковым батальёнам вёў бой на паўднёвым беразе р. Нёман за авалоданьне Луна, другі СБ выступіў за 440 сп.

3. СТРАТЫ:

а) Па папярэдніх дадзеных за 15.7.44 забіта — 2, паранена 6 чалавек.

б) Па ўдакладненых дадзеных за 14.7.44 забіта 40 чалавек, паранена 56 чалавек.

4. Лікавы склад дывізіі — 4452 чалавека, з іх афіцэрскага складу 638, сяржанцкага складу 898, радавога 2918 чалавек.

Актыўных багнэтаў — 488

Конскі склад 677 коней

5. Я вырашыў: фарсіраваць р. Нёман у раёне Дубна ўдарам з паўднёва-усх., авалодаць Луна, увайсьці ў сваю паласу і да зыходу дня засяродзіць дывізію ў лесе Зарубічы.

Камандзір дывізіі

генэрал-маёр (Шкрылёў)

Начальнік штаба

падпалкоўнік (Баркаў)»

15 ліпеня пазыцыі правага флянгу карпусной групы генэрала ад артылерыі Вейдлінга працягнуліся ад мястэчка Воўпа і далей па рацэ Нёман да

в. Мазанава. На гэтым адрэзку (па левым беразе) і заняла абарону ўсімі сваімі палкамі нямецкая 50-я пяхотная дывізія. Да 6.00 гадзін раніцы 451 -шы стралковы полк падпалкоўніка Стрэльнікава пераправіўся праз Нёман на левы бераг, выйшаў да вёскі Бабры і пачаў рухаць ўздоўж ракі да мястэчка Луна, атакаваўшы яго з паўднёвага ўсходу. За ім накіраваўся 440-вы стралковы полк дывізіі. Батальёны 433-га стралковага палка (сумесна з палкамі 199-й стралковай дывізіі) падпалкоўніка Мяншова пачалі баі за мястэчка, атакуючы яго з усходу. Дывізіі 70-га стралковага корпусу генэрал-маёра В. Г. Цярэнцьева ў гэтых баях падтрымлівалі 27-я зьнішчальна-супрацьтанкавая брыгада, 85-ты гаўбічны артылерыйскі полк, 4-ты асобны штурмавы інжынерны сапёрны батальён 1-й Гвардзейскай брыгады. Немцы сіламі 123-га грэнадзёрскага палка зьдзейсьнілі контратакі па пляцдарме 70-га корпуса ў в. Падбараны, Улазы, Гледнявічы, якія не мелі посьпеху. Мястэчка Луна было цалкам вызвалена ад немцаў. У баях за населены пункт 433-ці полк страціў забітымі 58 чалавек радавога складу. На працягу дня ў выніку атак войскаў 70-га стралковага корпусу генэрал-маёра В. Г. Цярэнцьева нямецкая 50-я пяхотная дывізія павінна была «плянамерна адводзіць» (сказана ў нямецкіх крыніцах) свой правы флянг на адрэзак в. Острава — Луна. Моцныя контратакі былі прадпрыняты немцамі ў раёне вёсак Мазанава — Падбараны, каб стрымаць савецкія войскі, якія фарсіравалі Нёман і на гэтым адрэзку.

Да ракі Нёман ў в. Коўшава падышоў перадавы 609-ты стралковы полк 139-й стралковай дывізіі. Ён атрымаў загад фарсіраваць раку. Падчас падрыхтоўкі да фарсіраваньня ў тыл палка выйшлі нямецкія падразьдзяленьні групы генэрал-лейтэнанта Г. Флёрке, якія прарываліся да ракі. Камандзір 609-га палка падпалкоўнік В. І. Грышаеў загадаў разьвярнуць на ўсход роту снайпэраў і аўтаматчыкаў. Група немцаў была разьбіта. Такім чынам, пераправа праз Нёман ажыцьцяўлялася ва ўмовах выхаду з акружэньня нямецкіх частак, якія атакавалі савецкія падразьдзяленьні ў тыл.

Першымі са 139-й сд на супрацьлеглы (левы) бераг пераправілася група пад камандаваньнем сяржанта Логінава (162- я асобная разведвацельная рота) у складзе трох чалавек. Група схапіла «языка» і такім чынам даведалася пра сыстэму аховы і агню немцаў. У 14.00 атрад добраахвотнікаў з 609-а стралковага палка ў складзе 7 чалавек (пад камандаваньнем камандзіра ўзвода 3-й роты лейтэнанта М. І. Баброва) захапіў пляцдарм у раёне вёсак Міневічы — Багатырэвічы. Немцы адразу ж контратакавалі пляцдарм, але былі адбіты артылерыйскім агнём з супрацьлеглага берагу. Да гэтага моманту атрад ужо быў узмоцнены перадавым падразьдзяленьнем 1-га батальёна пад камандаваньнем капітана В. В. Фаціна. За ім фарсіраваў раку і ўвесь полк. У мястэчку Луна тым часам пашырыўся пляцдарм 70-га стралковага корпуса (64-я і 199-я стралковыя дывізіі), які ў поўным складзе пераправіўся праз раку.

Усе падразьдзяленьні нямецкай 50-й дывізіі, якія не ўтрымалі лініі ракі Нёман і не спынілі савецкія войскі, пачалі адступленьне на захад,

да ракі Сьвіслач. Яны здолелі адарвацца ад савецкіх частак, якія прасьледавалі іх. Аднак ужо ўвечары таго ж дня немцы зноў былі вымушаны адступаць на захад. У выніку выхаду да Нёмна і фарсіраваньня яго ў раёне в. Каўшова савецкімі падразьдзяленьнямі, а таксама моцных атак па адыходзячым палкам нямецкай дывізіі ў раёне на поўнач ад вёсак Дубраўляны, Хамічі і Мартынаўцы, камандзір 50-й пяхотнай дывізіі генэралмаёр Г. Хаўс загадаў сваім палкам адыходзіць на рубеж р. Сьвіслач. Ён непакоіўся, што падразьдзяленьні 121-га стралковага корпуса генэралмаёра Д. І. Сьмірнова з 50-й арміі генэрал-лейтэнанта І. В. Болдзіна змогуць заняць даліну ракі Сьвіслач раней за яго падразьдзяленьні. Тады 50-я нямецкая дывізія была б адсечана з захаду ад групы генэрала артылерыі Г. Вейдлінга. Адступленьне немцаў ад мястэчка Луна прыкрывалі сілы 1-га батальёна 123-га грэнадзёрскага палку. У выніку баёў за мястэчка нямецкі батальён панёс вялікія страты. 9-я батарэя 150-га артылерыйскага палка была зьнішчана. Дарэчы, у баях у раёне м. Луна прапаў без вестак камандзір 122-га грэнадзёрскага палку маёр Хеінрых Гласмашэрс.

У выніку баёў савецкія войскі і выйшлі на лінію: вышыня 149,8 — Жылічы (64-я стралковая дывізія), в. Машталеры — Астрава (199-я стралковая дывізія). Дарогу Луна — Сьвіслач у в. Жылічы перакрыў батальён 123-га грэнадзёрскага полка. На некаторы час ён затрымаў наступаючыя савецкія войскі, аднак, хутка вымушаны быў адыходзіць далей.

Апавяданьне Зінаіды Глод:

«У час наступленьня нашых войскаў, усе жыхары вёскі пахаваліся, бо баяліся абстрэлу. Мужчыны пагналі скаціну ў лес, а мы, жанчыны і дзеці Залесак і цяперашняй РТМС, схаваліся спачатку ў доме рыбака на ставах, але потым вырашылі вырыць ямы і хавацца ў ямах. Разам са мной бала маленькая дачка, якая прасіла малака. Але малака не было і дачка ўвесь час плакала. Немцы пагражалі, што, калі дзіця не перастане плакаць, заб'юць. У яме мы хаваліся тры дні. Увесь час вёўся агонь. І вось упаў апошні снарад. Усё сьціхла. І адразу зьяўіўся савецкі самалёт. Адтуль гаварылі па радыё: «Внимание, внимание! Граждане, сегодня нашими войсками взяты Россь, Волпа, Лунно». Усе вельмі абрадаваліся, выбеглі. Па шашы, балоту, лесам ішлі нашыя. Усе салдаты былі абарваныя, разутыя... Новымі былі толькі пагоны. Яны нічога ў нас не прасілі. Наступалі вельмі хутка, увесь час бягом. Казалі, што гэта штрафнікі. Усе разышліся па дамам. Аказалася, што ў нас не ўпаў ні адзін снарад. У гэты час да паравой мельніцы падышла»кацюша». Яна разьвярнулася і дала залп па Хамічам. Там знаходзіліся немцы. Пасьля бою засталіся раненыя. За імі чамусьці ніхто не глядзеў. Жыхары прыносілі ім прадукты, але яны амаль усе памерлі, бо за імі ніхто не глядзеў».

На месцы баёў няма пахаваньняў нямецкіх забітых. Гэтаму ёсьць тлумачэньне. Паводле ўспамінаў жыхароў з в. Адамовічы і в. Навумавічы забітых у баях салдат і афіцэраў немцы заўжды стараліся забраць. І калі савецкія салдаты часта так і заставаліся ляжаць на месцы бою, то забітых

немцаў бачылі рэдка. Са слоў жыхара в. Навумавічы У. М. Гедрэвіча: « Немцы забітых падбіралі і закопвалі. А ў нас не. На гэта наша армія не гадзілася. Што б падабраць... У дом залезьці, карову ўкрасьці-гэта да. Гэтым займаліся. А каб падбіраць –не».

Успаміны Кузьміцкай І. з вёскі Залескі:

«У 1944 г., калі нашыя наступалі, я разам з дзецьмі сядзела ў падвале. Зьяўіліся немцы і закрычалі: „Яйкі, кура!". Усе спалохаліся. Я пайшла з немцамі і дала ім яйцаў. Яны злавілі яшчэ дзьве курыцы і пайшлі. Раптам пачулі крыкі „Ура!". Гэта былі рускія. Мы вельмі ўзрадаваліся. Выкапалі сала і іншыя прадукты, каб пачаставаць салдат. Але бой не заканчваўся. На Загаранскіх могілках і на стрэхах дамоў за пячнымі трубамі заселі кулямётчыкі і снайпэры. Яны не падпускалі рускіх. Ноччу было як днём. Увесь час бамбілі савецкія самалёты і скідалі асьвятляльныя ракеты. Недалёка ад нашага дома ў цяперашнім РТМС (Сельгасхімія пазьней) стаялі „кацюшы". Калі мы падышлі да іх, то салдаты сьмяяліся: „Удирай тётка, скоро „катюша" будет петь". Я думала, на самой справе „кацюша" будзе „петь". І тут як ударылі, што зямля затраслася. Усе пападалі, ніхто ня мог стаяць ад такога грукату. Стралялі па Хамічам і якімсьці Машляньскім гарам».



Першапачатковае і сучаснае, пастаўленае ў 2005 годзе, надмагільле на Вайсковым пахаваньні ў Залесках

У баях за мястэчка Луна загінула 64 савецкія вайскоўцы. 14 ліпеня толькі адна 64-я стралковая дывізія страціла 40 чалавек забітымі і 56 параненымі. Дзе яны пахаваныя, да гэтай пары невядома. Доўга стаяла за-

кінутым пахаваньне на могілках вёскі Залескі. Згодна з «Сводная учётная ведомость воинских захоронений на территории Республики Беларусь Мостовский район Гродненской области» там пахавана 26 воінаў і яшчэ знаходзяцца дзьве адзіночныя магілы. Да 2005 года на магіле стаяла драўляная пірамідка з чырвонай зоркай. Магілу наведвала толькі адна сэрцабольная жыхарка Залесак. У 2005 годзе на магіле пастаўлена новы помнік з «мраморной крошкі».

Які лёс Герояў, якія забясьпечылі магчымасьць вызваленьня м. Луна? Іван Рыгоравіч Шарамет загінуў у гэтым баі. Усе параненыя адразу былі адпраўлены ў шпіталь. Шарамета пахавалі ў брацкай магіле ў горадзе Скідаль. Імем героя названы вуліца і школа ў в. Луна. На жаль, толькі Сямён Захаравіч Сухін, Сьцяпан Мікітавіч Калінін і Іван Іванавіч Асінны дачакаліся ўзнагароды.

Іван Рыгоравіч Шарамет быў узнагароджаны пасьмяротна.

Марк Сьцяпанавіч Майдан памёр ад ран 10 лютага 1945 г., трохі больш за месяц да ўзнагароды. Пахаваны ў мястэчку Кішкунлацхаза (24 км на поўдзень ад Будапэшту). У родным сяле ўсталяваны яго бюст.

Аляксей Пятровіч Нічапурэнка прапаў без вестак 3 кастрычніка 1944 г.



І. Р. Шарамет. М. С. Майдан. А. П. Нічапурэнка

Цімафей Іванавіч Салопенка загінуў праз 11 дзён пасьля фарсіраваньня Нёмна, 25 ліпеня 1944 г., і пахаваны каля в. Рацава Беластоцкага ваяводзтва ў Польшчы.

Сямён Захаравіч Сухін з 1944г. — у запасе. Быў на адміністрацыйнагаспадарчай працы ў горадзе Новакуйбышаўск. З 1969г. жыў у Томску. Памёр 22.12.1971г.

Іван Іванавіч Асінны працаваў на камбінаце «Сібмэталстрой», а затым памагатым дырэктара ДПТВ №2 у горадзе Навасыбірску. Памёр

25.10.1979г. Адна з вуліц у новым мікраpaïне індывідуальнай забудовы Забалаць-3 у Гродне названая ў 2015 годзе ў яго гонар.

С. М. Калінін пасьля вайны жыў у Куйбышаве. У 1961 н. закончыў авіяцыйны тэхнікум. Памёр 8 сакавіка 1987 года.





Ц. І. Салопенка. І. І. Асінны. С. М. Калінін

Па запрашэньню дзяцей гістарычнага гуртка Луненскай школы да Луна прыяжджалі родныя загінуўшых Герояў.



Побач з С. З. Сухіным (крайні справа) маці і сястра І. Г. Шарамета, які загінуў пры вызваленьні Луна

У гонар ваяроў 64-ай стралковай дывізіі 49-ай арміі 2-ога беларускага фронту, якія 14.07.1944г. аднымі з першых фарсіравалі р. Нёман, захапілі

пляцдарм на заходнім беразе ракі і на працягу сутак адбілі 12 контратак суперніка, у 1974г. у парку, дзе яшчэ нядаўна былі габрэйскія могілкі, быў пастаўлены абэліск.



Абэліск загінуўшым пры вызваленьні Луна-Волі ў лістападзе 1944

«Описание: в июле 1944г., при освобождении д. Лунно от немецко-фашистских захватчиков, погибло 7 воинов. В 1974 г. было установлено надмогилье». Інфармацыя з сайта Луненскай школы.




Надмагільле над пахаваньнем двух воінаў, загінуўшых пры вызваленьні Луна-Волі ў лістападзе 1944

З 15 ліпеня 1944 г. амаль у пустым Луне пачалося «мірнае» жыцьцё. Савецкія ўлады адразу змабілізавалі ўсё мужчынскае насельніцтва ў вайсковаабавязаным веку. З іх арганізавалася апалчэньне, дрэнна ўзброенае і не абучанае адразу высылалася на перадавую. 27 луненцаў напаткала такая доля. Падчысьцілі і навакольныя вёскі.



Помнік землякам, удзельнікам вайны, у парку, на скрыжаваньні вуліц К. Лібкнэхта і Камсамольскай на былых габрэйскіх могілках

У 1973 г. у двары школы ўсталяваны помнік-бюст Героя Савецкага Зьвязу Івана Шарамета, імя якога носіць школа і адна з вуліц в. Луна. Цэнтральная плошча ў в. Луна носіць назву Плошча Герояў.



Помнік-бюст І.Г.Шарамету. За помнікам відаць самалёт, падараны школьнаму музэю генэрал-палкоўнікам С. Я. Жукоўскім.

Калі лічыць усіх загінуўшых пры захопе Луна фашыстамі і пры вызваленьні ад захопнікаў, то цыфра сягае пад сотню, калі ня больш. Дзе пахаваныя гэтыя воіны, нікому невядома. Вядома толькі, што некалькі чалавек пахаваны яшчэ на могілках у Залесках. Затое кожны год ускладваюцца кветкі да пустых абэліскаў і знакаў.

# Пасьляваенныя гады

## Гаспадарчае жыцьцё. Утварэньне калгасу. Перасьлед

Пасьля вайны склалася вельмі цяжкая эканамічная сытуацыя, бо параўнальна з іншымі савецкімі рэспублікамі тэрыторыя БССР зазнала найбольшыя разбурэньні. Пры гэтым дэфіцыт самага неабходнага ператварыўся ў неад'емную частку штодзённасьці. Большасьць жыла ў дамах без выгодаў. У горадзе і вёсцы не хапала прадуктаў і самых неабходных тавараў, лекаў. Агульная эканамічная сытуацыя характарызавалася затрымкамі выплаты заробкаў, высокімі цэнамі, штогадовымі прымусовымі дзяржаўнымі пазыкамі, павелічэньнем падатковага ціску. Асноўнай крыніцай існаваньня сялян заставалася асабістая гаспадарка, якая знаходзілася пад прэсам жорсткай падатковай сыстэмы. Прадукцыя асабістых гаспадарак абкладалася падаткам у форме абавязковых паставак дзяржаве ці ў грашовай форме.

У 1944—1946 гадах адбывалася перасяленьне палякаў з заходняга рэгіёна Беларусі ў Польшчу, а беларусаў з Польшчы, галоўным чынам з Беласточчыны. Некалькі сем'яў палякаў пакінула Луна. Прыехаўшыя з Польшчы беларусы мелі такую льготу, што маглі выбіраць любую сядзібу для пасяленьня, нават, калі там жылі ўладальнікі. Уладальнікаў перасялялі ў іншы дом, блага, што пасьля зьнішчэньня габрэяў, пустых дамоў хапала. Перасяленьне істотна паўплывала на асабістыя лёсы людзей. Яно разарвала трывалыя роднасныя, сяброўскія, суседзкія сувязі, паўплывала на зьмяненьне дэмаграфічнай структуры насельніцтва, аказала значны ўплыў на культуру і жыцьцёвы ўклад людзей, які складваўся стагодзьдзямі. На пытаньне да людзей, чаму яны хочуць выехаць у Польшчу, адказы былі розныя, але тыповымі былі такія:

«Маіх дваіх сыноў беспадстаўна асудзілі на 10 год зьняволеньня, зараз яны выйшлі з турмы, і таму я не жадаю болей жыць у Беларусі»,

«Я працаваў у памесьці, атрымліваў 72 пуды хлеба ў год і 30 злотых у месяц, і мне памешчык даваў морг зямлі. Любыя боты я мог купіць за 15 рублёў, а зараз я атрымліваю 140 рублёў у год і 500 грамаў хлеба ў дзень і хаджу босы. Вось чаму я еду ў Польшчу»,

«За палякамі я ў памешчыка ў памесьці на падзённай працы за два дні зарабляла на два добрых плацьці, а зараз і за месяц не зарабляю на плацьце, вось чаму я думаю, што лепш пераехаць у Польшчу».

Успамінае жыхар Луна Стасюкевіч Янак (Іван): Бацька ня здаў дзяржпастаўку ў тэрмін. Прыйшлі старшыня сельсавета, участковы і два салдаты

і забралі ўсё, нават жыта, што стаяла ў копках. Не стала з чаго і хлеб сьпячы. Я быў малы яшчэ ў школу не хадзіў, але ўжо пасьвіў статак сельскіх кароў і такім чынам зарабляў. Паехаў на возе зьбіраць заробак. Толькі ўехаў у падворак да дому, а ўжо тыя самыя прыйшлі забіраць і пачалі скідаць мае мяшкі з возу. Яны з возу, а я назад на воз і енчу, што сілы: «Гэта маё! Ня дам!» Пазьбягаліся людзі. Хіба спалохаўшыся, начальства сышло».

У 1949 г., калі ў Луна арганізоўвалі калгас, жыхары ў большасьці былі прыежжымі з навакольных вёсак і з Польшчы. Ужо ніколі мястэчка не змагло падняцца да даваеннага ўзроўню ні па колькасьці насельніцтва ні па эканамічнаму разьвіцьцю. Калгас ствараўся цяжка, людзей заганялі сілком. На тых, хто не быў у калгасе, як называлі «адзіналічнікаў», накладаліся непасільныя падаткі. Здаваць трэба было мяса, малако, яйца... Нават на грушы і яблыні накладаўся падатак. Людзі пачалі высякаць сады. Сьвіней хавалі ў балоце.



Раскулачаныя

Калгасны строй напамінаў рабства. Рабства асаблівае. Рабаўладальнік Рымскай імпэрыі па законе павінен быў карміць свайго раба і яго сям'ю і даць яму жыльлё. Калгасьнік павінен быў сам усім забясьпечваць сябе, а вынікі сваёй працы аддаваць калгасу. Калгасьнікі самі будавалі сабе

жыльлё з падручных матэрыялаў, і 20 гадоў пасьля вайны ў многіх хатах былі земляныя падлогі. Самі вырошчвалі лён, сушылі, мачылі, трапалі, часалі, пралі і ткалі палатно з мэтай каб зрабіць адзеньне. Я добра памятаю, як ішлі пеша з вёскі Цярэшкі, дзе жылі мой дзед Баніфацый і баба Эмілія, за 20 км босымі нагамі вяскоўцы да касьцёла ў Ваўкавыск, і, толькі дайшоўшы да яго, надзявалі абутак, адзіны на доўгія гады, на ногі. Плянавыя дзяржпастаўкі сельскагаспадарчай прадукцыі былі абавязковымі і для калгасаў і ажыцьцяўляліся па фіксаваных цэнах, таму калгасы былі вымушаны прадаваць прадукцыю ніжэй за сабекошт. Напрыклад, у канцы 1940-х гадоў 1 ц сьвініны калгасы і саўгасы прадавалі дзяржаве па 7 руб., а сабекошт гэтай жа сьвініны складаў 142 руб. Калгасы атрымлівалі вельмі мала прадукцыі. Сярэдні збор збожжа з аднаго гектара складаў толькі 7—10 ц, а надоі на адну карову за ўсе пасьляваенныя гады не перавышалі 790 кг.

Вытрымаць такое жыцьцё маглі толькі вельмі дужыя людзі. Засталося ў памяці людзкой, што жыхар в. Агрызкі Ярэміч па прозьвішчу Бусел ранкам пеша адпраўляўся ў Гародню за 40 км і вечарам вяртаўся дамоў з пудовым мяшком солі за плячамі.



Першы трактар

У 1947 годзе была адменена карткавая сыстэма і праведзена першая грашовая рэформа. У адзін дзень з Пастановай аб грашовай рэформе зьяўіўся дакумэнт аб нормах продажу харчовых і прамысловых тавараў у адныя рукі. У савецкіх магазынах за адзін заход пакупнік мог набыць хлеба — 2 кг, крупы і макаронаў — 1 кг, малака — 1 л, нітак у шпульках — 1 шт і г. д. Гэтыя нормы існавалі да жніўня 1958 года, затым былі крыху павялічаны і заставаліся аж да 1963 года.

Радавала толькі тое, што зарплаты ў 1947 годзе засталіся на старым узроўні. Напрыклад, настаўнікі і ўрачыараблялі прыкладна 250—

300 рублёў, пачынаючыя рабочыя на прадпрыемстве — 200, перадавікі вытворчасьці — да 800, радавыя міліцыянты — 300. Калгасьнік за год (!) мог атрымаць максымум 150 рублёў.


№ 3 Крупа и мак. изд. 200 гр
№ 2 Крупа и мак. изд. 200 гр
№ 1 Крупа и мак. изд. 400 гр
Детская
КАРТОЧКА
Норма:
Мясо и рыба . . . . . . . . 400 г
Жиры . . . . . . . . . . . 300
Крупа и макарон. изд. . . . . 800
Сахар и кондит. изд. . . . . 300
Ф. И. О.
При утере не возобновляется
Сахар № 3
Сахар № 2
Сахар № 1
№ 4
№ 3
№ 2
№ 1

Январь № 3 д КРУПА—МАК. 200 г
Январь № 2 д КРУПА—МАК. 200 г
Январь № 1 д КРУПА—МАК. 400 г
КАРТОЧКА
на ЯНВАРЬ 1945 год
Д
Норма:
Мясо-рыба . . . 400 г
Жиры . . . . . 300 г
Крупа—макароны . 800 г
Сахар и кондит. . 300 г
Ф., и., о.
При утере не возобновляется
Январь ТАЛОН № 4 детский
Январь ТАЛОН № 3 детский
Январь ТАЛОН № 2 детский
Январь ТАЛОН № 1 детский

Прадуктовыя карткі

А вось якія цэньнікі сустракалі ў той час савецкіх грамадзян у крамах. Бохан чорнага хлеба каштаваў 3 рублі, белага — 4 руб. 40 кап., кілеграм цукру — 15 руб., сьметанковага масла — 64 руб., літар алею — 30 руб., бутэлька папулярнага піва «Жыгулёўскае» — 7 руб. Але на жыцьці калгасьнікаў гэта ніяк не адбілася. Грошай ім ніхто не даваў, а карткамі карысталіся толькі гараджане. Карткавая сыстэма, гэта калі, нават маючы грошы, патрэбны тавар можна было купіць толькі маючы адпаведную картку — дазвол на набыцьцё тавару. Як бачна, замест карткавай сыстэмы ўвялі нормы. За працу ў калгасе налічваліся працадні. Прыкладам на працадзень давалі 20 гр. жыта. 90 працадзён налічвалі жанчыне на пэнсіі. Усяго 1 кг 800 гр. жыта на год! Калгасьнік цэлы год мусіў працаваць у калгасе, не атрымліваючы ніякай аплаты. Толькі ў канцы года ці ў пачатку наступнага, калі калгас «разьлічваўся» з дзяржавай, рабіўся неабходны разьлік і выдавалася аплата рэшткамі таго, што засталося з таго, што вырошчвалі.

Успаміны спадарыні Лунеўскай 1920 года нараджэньня: «У Луна я выйшла замуж у 1942 годзе. Габрэяў ужо вывезьлі. Некаторыя з Луненцаў былі ў АК (Арміі Краёвай). Я помню Пажарскую Эмілію. Яе арыштавалі пасьля вайны. Яшчэ быў арыштаваны ксёндз Радзішэўскі. Сядзеў да сьмерці Сталіна. Мой муж працаваў на цагляным. Акрамя працы прымушалі яшчэ выконваць заданьне на вывазцы лесу. Ён адмовіўся, дык арыштавалі і далі 6 гадоў Сыбіры. Я засталася адна з трыма дзяцьмі і старой сьвякрухай. Хадзіла працаваць у калгас на палявыя работы. Маю фатаграфію зьмяш-

чалі на Дошцы Гонару, а заробак быў 100 кг зерня за год працы. Старалася вельмі каб дзеці вывучыліся і не душыліся ў калгасе так як я душылася. Калі муж вярнуўся, то стаў працаваць цесьляром у МТС і ў школе. А я стала сьпяваці на хорах у касьцёле. Фота аддала ксяндзу. Пэнсія ў мяне малая, бо я не была ў штаце, а на палявых работах». Сярод іншых вуліц Луны спадарыня Лунеўская назвала яшчэ Азёрскую і Мсьцібаўскую.

Станюкевіч Юльян, майстар на ўсе рукі. Рабіў калаўроткі. Арыштаваны пасьля вайны і сасланы на 8 гадоў у Сыбір. Па вяртаньні працаваў у «хіміі». Майстар на рацаналізатарскія прапановы.



Станюкевіч Юльян з жонкай Антанінай і дачкой Аняй

Расказвае Сырэй Н. І.: «Нашу сьвіньню знайшлі ў балоце і прыйшлі забіраць. Калі пачалі прасіцца, паставілі ўмову: уступай у калгас, заставім сьвіньню. Мне было 19 гадоў, бацька ляжаў паралізаваны, была яшчэ маці і старэйшая сястра. Прыйшлося мне напісаць заяву. Сьвіньню заставілі, але ўсё астатняе забралі ў калгас, зерне выграблі з мякінаю. Працавалі ў калгасе я і сястра. За год зарабілі з сястрой 64 кг жыта, а ў хаце былі яшчэ дзьве маленькія сястры і паралізаваны бацька. Як можна было жыць? Але мяне ў 1953 г. забралі на 3 гады і 8 месяцаў у армію аж на Камчатку. Сям’я засталася без мужчыны».

Працягваліся чысткі. Арышты праводзілі ня толькі па эканамічным, але і па палітычным прычынам па любому навету. Многія луненцы былі арыштаваныя ў выніку гутарак за чаркай гарэлкі па даносах.

Каб калгасьнік не мог зьбегчы, яму не выдавалі пашпарт. Без пашпарта нідзе, акрамя вёскі, жыць было нельга. Уцячы з рабства было нельга нават у Юр'еў дзень. Таму з такім энтузіязмам моладзь рвалася на «асваеньне цаліны», на лесараспрацоўкі ў Карэлію і Сыбір. Але і там было тое ж, і многія з цягам часу вярталіся назад.



Стасюкевіч Ян з сябрамі ў форме вучылішча ФЗН у Ленінградзе. 1954 год

Як юнак з Луна апынуўся ў Ленінградзе? У прамысловасьці катастрафічна не хапала рабочых і камсамол абвявіў прызыў у школы фабрычна — завадзкога навучаньня (ФЗН). Каб вырвацца з вёскі, моладзь з задавальненьнем шукала магчымасьці папасьці ў ФЗН. Там выдавалі бясплатнае абмундзіраваньне, кармілі і вучылі рабочай прафэсіі. Стасюкевіч Ян зьвярнуўся ў Воўпенскі сельсавет, у складзе якога было Луна, за дакумэнтамі. Але старшыня сказаў, што пакуль не будзе апрацавана дзялка буракоў, надзеленая на сястру Яна, каб ён нават не заікаўся ні аб якіх дакумэнтах. Вясковы хлопец не разгубіўся і рушыў у Ваўкавыск у райкам камсамолу. Яшчэ з іншымі прыгодамі, але вырваў дакумэнт, як яму здавалася, на волю.

Пабыўшы некаторы час у ФЗН ён і яго сябры называлі гэту ўстанову «Физически Загнанный Осёл» ад расейскага ФЗО. Пасьля заканчэньня школы ФЗН разьмеркавалі на працу ў г. Пушкіна. Умовы былі невыносныя, бо не было яды. Тут падасьпела ўрачыстае з аркестрам на пэроне вакзалу адпраўка на цаліну. Спачатку думалі, што гэта выратаваньне, але, калі ў засушлівае лета за дзень камбайнэр не намалочваў нават бункер зерня, прышлося ўцякаць з цаліны на дахах вагонаў.

Старшыні калгасаў прысылаліся з Расіі. Калгас у Луна назвалі імем Калініна. Старшынёй быў прызначаны А. Круглаполаў. Калгас увесь час рэфармаваўся і ўзбуйняўся. У 1965г. набыў назву «Россия». Адзін старшыня-расіянін Кавалёў, па ўспамінах местачкоўцаў, быў прывезены ў Луна ў футболцы і шараварах з працёртымі каленямі, а праз некаторы час ужо езьдзіў на аўтамашыне «Волга» ГАЗ-21. З 1955 г. у калгасе сярэдняя выдача на працадзень складала 0,9 кг збожжа, 1,9 кг бульбы і 36 кап. грашыма. У калгасьнікаў нарэшце зьявіліся грошы. А за свае мізэрныя надзелы вяскоўцы павінны былі плаціць падатак.



2А кляс з настаўніцай Софьяй Ігнатаўнай Крывец. 1949 год. Будынак на вул. Камсамольскай З альбома Стасюкевіч Я.

Па ўспамінам жыхаркі Луна Стасюкевіч Ясі, пасьля вызваленьня Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Луна адразу пачала працаваць польская школа ў будынку сучаснай бібліятэкі. Выкладала настаўніца Брушкевіч. Яна не атрымлівала ніякай аплаты, а бацькі прыносілі ёй нешта з прадуктаў. Але неўзабаве па рашэньні Скідальскага выканаўчага камітэта ў 1944 г. была адкрыта сямігадовая школа, вядома, з рускай мовай навучаньня. Яна разьмяшчалася ў некалькіх будынках. Першы выпуск адбыўся ў 1948 г.



3А кляс з настаўніцай Софьяй Ігнатаўнай Крывец. 1950 год

Пасьля таго як у 1939 мястэчка Луна ўвайшло ў БССР, то 12 студзеня 1940 нават атрымала афіцыйны статус рабочага пасёлку Скідальскага раёну. Але ўжо ў 1955 годзе статус паселішча панізілі да вёскі. Станам на 1972 тут было 473 двары, на 1997 — 559 двароў.

Будынак сучаснай Луненскай бальніцы. З альбома Стасюкевіч Я.



4А кляс з настаўніцай Антанінай Мікалаеўнай. 1951 год. Будынак па вул. Кірава. З альбома Стасюкевіч Я.




Апошні выпуск у старой школе. 1954 год

У 1955 г. быў пабудаваны будынак для школы — дзесяцігодкі на месцы палацу Ромэраў. Перад школай у рэчышчы рэчкі Лунянкі засталіся з часоў Ромэраў два ставы з альтанкамі пасярэдзіне. Адну такую альтанку можна яшчэ ўбачыць на здымку выпускнікоў школы 1974 года. У зімовы час на ставах рабіўся каток — дзіцячая радасьць.



Будынак школы, пабудаванай у 1955 годзе. Каток на ставах

У 1984 г. навучэнцы і настаўнікі перайдуць ў яшчэ навейшы побач са «старым» будынак, тыпавы, прызначаны для навучаньня 464 чалавек. Азмрочана гэта значная падзея была тым, што будаўнічае сьмецьце бульдозэрам было сапхнутае ў тыя прыгожыя ставы з альтанкамі, які засталіся

яшчэ ад панскіх часоў. Але тады яшчэ нешта ў людзей захавалася, як тыя ставы і альтанкі: дзьве прыгожыя з неверагодным водарам амэрыканскія сасны былі пакінуты на адлегласьці мэтру ад сьцяны будынка школы. Не паднялася рука будаўнікоў на гэтыя прыгожыя экзатычныя дрэвы. Пазьней ужо будзе ня так.



Перад будынкам новай школы. Ля ўвахода ў школу скульптура піянэра. Такія скульптуры ставіліся ў той час хіба амаль кожнай школы.

Палітыка Масквы на заходніх землях Беларусі прыносіла свае плады. Памятаю, як у першыя пасьляваенныя гады кожную суботу над вёскай стаяла завеса пылу, бо кожная гаспадыня падмятала падворак і вуліцу насупраць дома. Вытаптаныя сьцежкі і земляная падлога пасыпалася жоўтым пясочкам. Людзі сьвяткавалі нядзелю ў чысьціні. Ля кожнага дома сьпераду быў гародчык–месца для кветак. Нават самая гаротная сям'я не садзіла ў гародчыку агуркоў ці памідораў. Кожны дом хацеў мець прыгажэйшы гародчык чым у суседзяў, ад раньняй вясны да позьняй восені тут цьвілі кветкі. Самагонку гналі на свае патрэбы: вясельле, хрысьціны, выправы... Пры новай уладзе гэта ўсё пачало мяняцца. Мужыкі пачалі піць, дзеці перасталі наведваць касьцёл і царкву, бо гэта было забаронена і строга каралася. Настаўнікі высочвалі, ці хто з вучняў не прыйшоў на службу. Зьмянілася аблічча вёскі і наваколья. Прыкладам, ніхто не скажа зараз, дзе пачынаецца рэчка Лунянка, бо толькі на былой Волі яна засталася рэчкай,

а ад вярхоўя гэта «канава», так называюць у народзе. У «канаве» ні рыбы ні ракаў, ні чорных баброў, якія былі гонарам луненскай мясцовасьці.



Вучні на ўборцы буракоў. Дапамога калгасу (1958 г.)

Дарэчы, луненскі бабёр прычыніўся да заснаваньня Гарадзенскага заапарку. Аб гэтым пісаў у адным са сваіх твораў Аляксей Карпюк:

«Аднойчы рыбакі ў Нёмне каля Луна заўважылі зьбітага, слабага бабра, які, мабыць, да сьмерці біўся з выдрай. З глыбіні гісторыі ў нашага народа вызначылася стаўленьне да гэтага зьвярка: «Калі заб'еш бабра, то не будзе табе дабра». Стаяўшыя на беразе ракі людзі, параіўшыся, вырашылі апавясьціць аб гэтай маленькай драме настаўніцу мясцовай школы Рэйнгард. А тая, нядоўга думаючы, адправіла ў Гародню прафэсару біялёгіі мясцовай гімназіі Яну Каханоўскаму кароткую тэлеграму: «Жывы бабёр. Прыязджайце».

Не мінула і гадзіны, калі Каханоўскі прыбыў у Луна.

Разам з рыбакамі і мясцовымі дзецьмі зьвярка атрымалася выцягнуць з вады. Біёляг перавязаў яму раны і павёз у Гародню. А праз нейкі час побач з ачунялым бабром у жывым кутку гімназіі зьяўіліся клеткі з зайцамі, вожыкамі, казой. І нават з ваўком і барсуком. Гэта і былі першыя пасяленцы будучага Гарадзенскага заапарка».

І ўсё ж у некаторай ступені луненцам спрыяў лёс. Калі ў верасьні 1951 г. Савет Міністраў СССР прыняў пастанову «Аб высяленьні кулакоў з Беларускай ССР», пасьля ўсіх бальшавіцкіх і фашыстоўскіх зачыстак, высяляць ужо не было каго. Абышлі Луна і «лясныя браты», якія аказвалі

актыўны супраціў калектывізацыі. У 1951 г. на сельсавеце ў мястэчку быў вывешаны чырвона-зялёны з арнамэнтам сьцяг. У тым жа годзе пачала працаваць бібліятэка. Палітаддзел накіраваў сюды загадчыцай Пабежка Надзею. Фонд складаў 50 кнігаў. На месцы жыдоўскіх могілак пад кіраўніцтвам дырэктара мясцовай школы дзеці заклалі парк і пазьней быў тут пастаўлены помнік, але толькі не габрэям. У 1947 г. распачалі будаўніцтва новага драўлянага мосту праз Нёман, які быў зьнішчаны немцамі ў першыя дні вайны. Мост будавалі луненцы, гэта давала хоць які дадатковы заробак.



Брыгада будаўнікоў мосту праз Нёман

Будавалі доўга, бо драўляная канструкцыя была даволі складанай, а мэханізмаў ды будаўнічых машын не было. Вясною на Нёмне лёд узрывалі сапёры, каб агромністыя крыгі не зьнесьлі мост. Пры вялікай вадзе на мост вазілі і навальвалі розны цяжар, мяшкі з пяском, каб мост вада не падняла і ён не паплыў. Трэба было збудаваць грувасткія ледарэзы, каб мост не зьнясло крыгамі падчас вясновай павадкі. Такім яго ўбачылі жыхары Луна-Волі ў 1953 годзе. Можна толькі дзівіцца ўменьню інжынераў і рабочых будаўнікоў мосту.



На гэтай фатаграфіі добра відаць складанасьць драўляных канструкцый.

У 1953 годзе па мосьце можна было прайсьці пеша, а неўзабаве новы мост уступіў у строй.



Гатовы мост

Самая вялікая павадка была ў 1957 г. Затапіла 136 населеных пунктаў. Старажылы кажуць, што вада паднялася на 13 м.



Павадка 1957 г.

На цагляным заводзе выраблялі даволі якасную добрую для кладкі печаў цэглу. А рабочыя арцелі «Освобождение», так афіцыйна называўся цагляны завод, арганізавалі хор. Вуглавы двухпавярховы дом на плошчы Герояў каля «Дзяжурнага» магазына быў канторай КААПСаюзу цаглянага завода і там жа быў клюб, дзе зьбіраўся хор. Жонка дырэктара заводу Валянціна Габрыянчык была кіраўніцай хору.



Хор арцелі «Освобожденіе» Луна 1954 г.

Баяніст Слуцкі Саша. Сярод удзельнікаў Навіцкі Канстанцін Ігнацевіч,

Янка Чаплінская, Жэня, Чэся, Лёня...

Выступалі перад сялянамі, перад лётчыкамі ў прафілякторыі...

Побач з клюбам працаваў цэх па вырабу чарапіцы.



Крама шматгаліновая (1958 г.)

У 1955 годзе вернікам удалося дамагчыся, каб у касьцёле быў сьвятар. Ім стаў былы вязень лягераў Уладыслаў Мончка. Уладыслаў Мончка нарадзіўся ў 1897 годзе ў Зімнадоле блізу Олькуша ў сялянскай сям'і. Адукацыю, пачатую ў пачатковай школе, ён працягнуў у клясычнай гімназіі ў Чэнстахове. У 1913 годзе, пасьля закрыцьця школы царскімі ўладамі, паступіў у камэрцыйнае вучылішча. Годам пазьней праз пачатак Першай Сусьветнай вайны перапынілася яго адукацыя. У школу вярнуўся ў 1916 годзе, калі пачаў вучыцца ў клясычнай гімназіі ў Олькушы. У 1921 годзе атрымаў Атэстат сталасьці і ўладкаваўся на працу ў страхавое бюро ў Вільні. У 1923 г. стаў настаўнікам пачатковай школы ў вёсцы пад Вільняй. У 1924 годзе паступіў у Вышэйшую духоўную сэмінарыю. Пасьля пяці гадоў станаўленьня ён прыняў сьвятарскае пасьвячэньне.

Вялебны Мончка служыў вікарыем пасьлядоўна ў парафіях Браслава і Дамброва. У 1931 годзе стаў настаяцелем у Сялявічах блізу Слоніма. Праз 7 гадоў быў пераведзены ў прыход Скрыбаўцы блізу Ліды. Тут ён разгарнуў дзейнасьць Каталіцкай Акцыі. Калі ў верасьні 1939 года Польшчу захапілі нямецкія і савецкія орды, ён не пакінуў сваіх вернікаў. Перажыў зь імі спачатку савецкую, а потым і нямецкую акупацыю. Не пакінуў сваю пасаду і пасьля заканчэньня Другой Сусьветнай вайны, калі Лідзкая зямля

была ўключана ў межы СССР. У 1947 годзе стаў настаяцелем парафіі Новы Двор.

1.02.1950 г. ксёндз Мончка быў арыштаваны агентамі КДБ. У абвінаваўчым заключэньні сказана: ён непрымірымы вораг Савецкай улады, вядзе актыўную антысавецкую дзейнасьць, накіраваную супраць кіруючай ролі партыі, і процідзейнічае рашэньням улады на вёсцы. (...) Падчас нямецкай акупацыі вёў антысавецкую агітацыю, хваліў нямецкую армію і распаўсюджваў правакацыйныя выдумкі пра савецкую ўладу. А пасьля выгнаньня фашысцкіх акупантаў з тэрыторыі Гродзенскай вобласьці стаў на шлях відавочнай варожай дзейнасьці. Выступае на царкоўным амбоне з пропаведзямі антысавецкага і правакацыйнага характару і кідае паклёп на дзяржаўны савецкі лад. У траўні 1943 года ў казаньні ён заявіў, што палякі ў Катынскім лесе блізу Смаленска былі забітыя не немцамі, а савецкімі войскамі. Яго таксама абвінавачвалі ў закліку бацькоў не адпраўляць дзяцей у савецкія школы і ў схаванай катэхізацыі.

**РАСПИСКА**

«20» января 1951 г.

д. Букино

(указать место где отобрана расписка)

Мне выселенну (ке) Резевские

(указать фамилию,

Арии Мартиновне 1934 г. р.

имя, отчество, год рождения)

...ъявлено, что я Верховным органом СССР выселен (а) в отдаленные рай...ы Советского Союза навечно, без права возвращения к прежнему месту ...тельства.

Мне также объявлено, что я не имею права выезжать, менять местожительство и работы, хотя и временно, без разрешения местных органов МВД.

Я знаю, что в случае нарушения данной расписки я буду привле...н (а) к уголовной ответственности по Указу Президиума Верховного Совета Союза ССР от 26 ноября 1948 года на 20 лет каторжных работ. Указ ...26 ноября 1948 г. мне объявлен.

*Подпись выселенца* Резевская.

*Подписку отобрал* пом. коменданта

(должность,

лейтенант Малинин

воинское звание, подпись)

С. Молотово, Омской обл., тип. газ. „Б путь". З. № 105. Т. 200.

Распіска аб высяленьні. Такія рпаспіскі атрымлівалі многія тысячы людзей

28.04.1950 г. ксёндз Мончка быў прысуджаны да 10 гадоў лягераў, 5 гадоў пазбаўленьня грамадзкіх правоў і канфіскацыі маёмасьці. Паколькі ён абскардзіў прысуд, адбылося паўторнае слуханьне, у выніку якога ён быў прысуджаны да 25 гадоў лягераў.

У 1954 годзе ксёндз Мончка напісаў з Камсамольска-на-Амуры просьбу да пракурора Гродзенскай вобласьці аб адмене прысуду і аднаўленьні грамадзянскіх правоў. Вызваленьне ён атрымаў і мог пасьля чатырох га-

доў рабскай працы пакінуць лягер. У 1955 годзе камуністычныя ўлады дазволілі яму прыняць прыход Луна. Тут ён працаваў наступныя 24 гады.

Памёр 24.02.1982 г.




Магіла ксяндза Мончкі на могілках у Луна

У 1998 годзе Ваенная калегія Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь рэабілітавала яго пасьмяротна. У тлумачэньні напісана: у матэрыялах справы адсутнічаюць доказы віны асуджанага адносна таго, што ён, працуючы як настаяцель царквы, у сваіх казаньнях вернікаў і ў прыватных гутарках з мясцовым насельніцтвам заклікаў да зьвяржэньня, падрыву або паслабленьня савецкай улады або да правядзеньня асобных, контррэвалюцыйных злачынстваў. Такім чынам, Мончка за правядзеньне антысавецкай агітацыі і прапаганды быў асуджаны без дастатковых падстаў. У 1961 годзе зноў адбылася грашовая рэформа. Асаблівасьцю гэтай рэформы было тое, што калі ва ў дзяржаўным гандлі кошты зьмяніліся

роўна ў дзесяць разоў, то на рынку яны зьмяніліся ў сярэднім толькі ў 4,5 разы. Рынак не ашукаеш. Так, калі ў сьнежні 1960 г. бульба каштавала ў дзяржаўным гандлі па 1 рублю, а на рынку ад 75 капеек да 1 руб. 30 кап., то ў студзені, як і было прадпісана рэформай, крамная бульба прадавалася па 10 капеек за кіляграм. Аднак бульбачка на рынку каштавала ўжо 33 капейкі. Падобнае адбывалася і з іншымі прадуктамі і, асабліва, з мясам — упершыню пасьля 1950 года рынкавыя кошты зноў нашмат перавысілі крамныя.



Вясельле. Традыцыйны праход вясельнай працэсіі праз мястэчка да касьцёлу (50 –е гады)

Гэта прывяло да таго, што крамная гародніна рэзка страціла ў якасьці. Загадчыкам крамаў апынулася выгодней сплавіць якасны тавар рынкавым спэкулянтам, пакласьці атрыманую выручку ў касу і адчытацца пра выкананьне пляну. Розьніцу ж у кошце паміж закупным коштам спэкулянта і дзяржаўнай цаной загмагі клалі сабе ў кішэнь. У крамах жа заставалася толькі тое, ад чаго спэкулянты адмаўляліся, гэта значыць тое, што на рынку было немагчыма прадаць. У выніку амаль усе крамныя прадукты людзі браць перасталі, і сталі хадзіць на рынак. Усе былі задаволены: і загмаг, і спэкулянт, і гандлёвае начальства, у якога было ўсё добра ў справаздачах, і з якім загадчыкі крамаў, натуральна, дзяліліся. Адзіным незадаволеным апынуўся народ, пра інтарэсы якога падумалі ў самую апошнюю чаргу.

Очередь за хлебом во время очередного продовольственного кризиса, СССР, начало шестидесятых. Этим людям ещё не сообщили радостную весть, что скоро Гагарин полетит для них в космос.



Чарга за хлебам у пачатку 60-х

У Савецкім Саюзе чарга стала сымбалям дзяржавы і з кароткімі перапынкамі праіснавала да яго развалу.

Сыход прадуктаў з крам на падаражэўшы рынак балюча стукнуў па дабрабыце народа. Калі ў 1960 годзе пры сярэдняй зарплаце ў 783 рубля чалавек мог купіць 1044 кілаграма бульбы, то ў 1961 пры сярэдняй зарплаце ў 81,3 рубля толькі 246 кілаграм. Можна было, вядома, адстаяўшы двухгадзінную чаргу, набыць танную крамную бульбачку, якой на зарплату можна было накупляць 813 кг, але ў выніку дахаты прыносілі адну гнілату, і пасьля ачысткі заставаліся ў страце.

Але сяляне, у тым ліку і луненцы, гэтую сытуацыю выкарысталі вельмі эфэктыўна. Жыхара Луна можна было сустрэць на рынку з мяшкамі бульбы на прасторы ад Калінінграда да Смаленска. За два-тры дні гандлю ў Калінінградзе можна было выручыць гадавы заробак калгасьніка ці настаўніка. Вёскі сталі спэцыялізавацца на рознай прадукцыі. Напрыклад у суседнім Дубне галоўнай культурай для вырошчваньня і продажу была цыбуля, у Сухінічах — часнык і г.д.

У сельскіх жыхароў паявіліся лішкі грошай, бо прамысловыя тавары заставаліся ў дэфіцыце. Чэргі былі паўсядзённай зьяўай. Як фізычныя, калі людзі суткамі стаялі ў чэргах, так і сьпіскавыя, калі чарга ўсталёўвалася ў спэцыяльным сьпісе.

У аптымістаў-гумарыстаў можна было пачуць жарт:

«Вы хочаце быць ШЧАСЬЛІВЫМІ? — Дык наперад! У краме па вуліцы Камуністычнай курэй даюць!»

У гэтых чэргах гадамі стаялі па набыцьцё халадзільніка, матацыкла, не гаворачы пра аўтамабіль, каторы стаў магчымым для набыцьця па наяўнасьці грошай, але недаступным з-за чаргі і ў савецкім лексыконе зьяўіўся цэлы набор тэрмінаў для пазначэньня падобнага гандлю: «гандаль з чорнага ходу», «з-пад прылаўка», «з-пад крыса», «па блаце».

На камуністаў гэтае афіцыйнае зьніжэньне нормаў, па сутнасьці, не пашыралася. Кожнага зь іх цалкам забясьпечваў вельмі распаўсюджаны ў савецкай рэчаіснасьці «блат», г. зн. узаемазабесьпячэньне з чорнага ходу падуладных ім складаў і крамаў.

Блат непарыўна зьвязаны са словамі «дастаць» і «дэфіцыт». Менавіта па блату даставалі лепшыя прадукты, лекі, мэблю, часам кватэры й машыны, а таксама пуцёўкі, модную вопратку і нават кніжкі. Гэта ня выдумкі. Каб зрабіць падпіску на клясыкаў, трэба было мець «блат» на ўзроўні раёна, а падпісацца, напрыклад, на сэрыю «Сусьветная дзіцячая літаратура» раённага «блату» ужо было недастаткова.

Маё дзяцінства прайшло не ў Луна, а ў Ваўкавыску і ў вёсцы Цярэшкі, куды мяне маці пасылала ад'ядацца. Найбольш запомнілася з дзяцінства, як я падскокваў ад радасьці, бягучы сьледам за маці, якой удалося купіць баханку чорнага хлеба. Помню доўгія гадзіны з вядром у чарзе за масьлянкай (сывараткай, што застаецца пасьля аддзяленьня масла), якую прадавалі прама з маслазавода па 10 капеек за вядро. У дзеда з бабай помню вялікі стол на кухні з земляной падлогай, на які баба ставіла пасярэдзіне вялізную місу з картаплянай кашай. Сям'я была вялікая, але за сталом зьмяшчаліся ўсе, трымаючы ў адной руцэ кубак з малаком, а ў другой тоўстую алюмініевую лыжку. Тоўстую, бо лыжкі адліваў з расплаўленага алюмінію мой дзядзька дзедаў сын Эдзік. Так я яго называў, бо ён быў толькі на некалькі гадоў старэйшы за мяне — першага дзедавага ўнука. Дзед першы зачэрпваў кашу лыжкай і пачынаў есьці, запіваючы малаком. Сьледам па чарзе кашу чэрпала ўся сям'я. Найвялікшай радасьцю было, калі ў лыжку разам з кашай трапляла скварка, велічынёй з муху. Але на вёсцы каша і малако былі кожны дзень і ўдоваль. Не раўня голаду ў горадзе.

У 1959 годзе я паступіў вучыцца ў Жыровіцкі тэхнікум мэханізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі. Такой была афіцыйная назва. Грашовую рэформу застаў на трэцім курсе. Я атрымліваў «павышаную» стыпэндыю, бо быў выдатнікам, і складала яна 9 рублёў. Гэта былі ўсе мае сродкі для існаваньня, бо маці ў той час зарабляла 27 рублёў і памагаць мне не магла. Ратавала тое, што пры тэхнікуме была свая студэнцкая сталоўка. Яда там была для ўсіх аднолькавая па купленых у бухгалтэрыі талёнах. Талён на дзень каштаваў 30 капеек. Так што маёй стыпэндыі хапала на яду роўна на 30 дзён. Калі трэба было купіць нешта акрамя яды, то прыходзілася эканоміць, або шукаць прыработак. Абед у сталоўцы складаўся з

міскі зупы і макаронаў ці той жа картаплянай кашы плюс гарбата, а мог быць кісель. Мяса ніякага ніколі не было, таму выручала тое, то хлеб ва ўсіх сталоўках, ня толькі ў нашай, у той час быў бясплатны! Еш, колькі хочаш! У мяне была такая норма: палову буханкі хлеба з міскай зупы. Гэта ежа была недастатковай для маладога, як кажуць, растучага арганізма. Таму голад усяроўна адчуваўся. Наеўся я ўволю толькі ў арміі, куды мяне прызвалі ў 1967 годзе.

Але вернемся ў Луна.

Непамерная праца пачала даваць вынікі. У 1961 годзе ў Луна зноў зьяўілася сьвятло, вёска была электрыфікаванай. У тыя ж 60-я гады абапал вёскі праляглі газаправоды, але сама газыфікацыя вёскі адбылася толькі ў 2000 г. Вёска будавалася, будаваліся і гаспадарчыя будынкі. Нягледзячы на тое, што Нёман страціў сваё транспартнае значэньне, тут у 1972 г. пачала працаваць спартыўная сэкцыя грэблі. Мясцовы хлопец Уладзімір Брыцько ў 1979 г. стаў нават майстрам спорту СССР, удзельнічаў у шматлікіх міжнародных спаборніцтвах, чэмпіён 14 спартакіяды школьнікаў, член зборнай маладзёвай каманды СССР па грэблі.



Уладзімір Брыцько на трэніроўцы. Луна. Нёман. 1979 г. З альбома У. Брыцько

У 2002 годзе была выдадзена, на мой погляд цікавая і карысная кніга: «Памяць: Гісторыка-дакумэнтальная хроніка Мастоўскага раёна.-Мн.: КП „Паліграфафармленьне“, 2002. 590 с.:іл». У кнізе ёсьць разьдзел «Спартсмены», у якім называюцца 8 спартсмэнаў-майстроў спорту, нашых землякоў. Але сярод іх няма Уладзіміра Брыцько. А прычына ў тым, што У. Бры-

цько зьяўляецца сябрам Беларускага Народнага Фронту. Гэтага было дастаткова, каб не ўключыць яго ў сьпіс лепшых спартсмэнаў раёна.


КОМИТЕТ по ФИЗИЧЕСКОЙ КУЛЬТУРЕ и СПОРТУ
при СОВЕТЕ МИНИСТРОВ СССР

УДОСТОВЕРЕНИЕ №157628
Тов. Брытько В. В.
является МАСТЕРОМ СПОРТА СССР
по гребле на каноэ

Заместитель
председателя Комитета

Звание
МАСТЕРА СПОРТА СССР
присвоено
приказом Комитета
по физической культуре
и спорту
при Совете Министров СССР
„27“ XI 1979 г.

(личная подпись)

Удостоверение
и значок мастера №157628
выданы „25“ XII 1979

Пасьведчаньне Майстра спорту Уладзіміра Брыцька

Але гэта ўсё ў мінулым: ад спартыўнай школы застаўся толькі адзін фундамэнт.

## Самалёт генэрал — палкоўніка Сяргея Жукоўскага

Калі мяне прынялі на працу ў Луненсую школу настаўнікам матэматыкі ў 1974 годзе, ля школы стаяў на пастамэнце самалёт. Таблічка інфармавала, што гэта падарунак школе генэрал-палкоўніка С.Я.Жукоўскага. Відарыс гэтага самалёта звычайна зьмяшчалі на агульных фатаграфіях выпускнікоў.

Пра С. Я. Жукоўскага вядома, што першы дзень вайны сустрэў малодшым лейтэнантам камандзірам зьвяна 127-го зьнішчальнага авіяпалка ў Чарлёне.

Да канца вайны выканаў больш 500 пасьпяховых баявых вылетаў, запісаў на свой баявы рахунак 28 паветраных перамог — 13 самалётаў зьбіў асабіста і 15 у складзе групы. Скончыў вайну маёрам, штурманам авіякорпусу ў Вене.

У кнізе М. Ю. Быкава — «Перамогі сталінскіх сокалаў» гаворыцца, што С.Я.Жукоўскі 22.06.1941 г. над Чарлёнай зьбіў два нямецкія самалёты Ju-87 (у групе — 1 / 10) і Ме-110. Але ў іншых крыніцах гэта не пацьверджана.

Пасьля вайны была вучоба ў Ваенна — Паветранай акадэміі і служба ў войсках. У 1966 годзе атрымаў званьне «Заслужаны ваенны лёт-

чык СССР». Скончыў службу ў 1970 годзе ў званьні Генэрал — палкоўніка авіяцыі, камандуючым 26-й Паветранага войска. Памёр 10 лістапада 1980 года. Узнагароджаны ордэнамі: Леніна, Чырвонага Сьцягу (шэсьць), Аляксандра Неўскага, Айчыннай вайны 1-й ступені, Чырвонай Зоркі (двойчы); 16 мэдалямі. Ганаровы грамадзянін горада Гародні.

Якое ж маё было зьдзіўленьне, калі самалёт нечакана зьнік дзесьці ў 1990 годзе. Аказалася, што яго парэзалі і выкінулі на мэталялом па загадзе дырэктара школы Семака М., гісторыка, стваральніка школьнага музэю Баявой Славы!?



На здымку самалёт перад будынкам Луненскай школы. Перад самалётам была замацавана таблічка: Самалёт Як — 12 м падарунак школе генэрал-палкоўніка С.Я.Жукоўскага

Цікавую гісторыю, зьвязаную з С.Я.Жукоўскім, апавядае Таццяна Лунгіна, многагадовая сяброўка Вольфа Месінга:

«Прыйшоўшы аднойчы на працу, пазнаю, што ўначы ў інстытут паступіў цяжкахворы, дзеля якога на кансыліюм памкнуліся ўсе медыцынскія сьвяцілы. У галоўнага пад'езда стаялі чорныя лімузыны, якія суправаджалі карэту «хуткай дапамогі», на якой прыбыў наш пацыент. Ім апынуўся генэрал-палкоўнік Жукоўскі, камандуючы ваенна-паветранымі сіламі Беларускай ваеннай акругі, даўні прыяцель Месінга. У яго канстатавалі шырокі інфаркт, утварыліся адтуліны ў сардэчнай перагародцы. Лячэньне падобнай хваробы апэратыўным шляхам яшчэ ні разу да гэтага не было ажыцьцёўлена.

Апэраваць такога важнага хворага меў права толькі сам дырэктар інстытута, прафэсар Буракоўскі. Ён выказаў асьцярогу, што апэрацыя толькі паскорыць канец. Але і нічога не прадпрымаць — фатальная страта часу. Толькі пасьля загада «зьверху» Буракоўскі мог прыняць канчатковае рашэньне.

Патэлефанаваў Месінг:

— Тайбеле (так клікаў мяне толькі Месінг), — перадай свайму шэфу, хай неадкладна прыступае да апэрацыі. Гэта мой сябар, і я раю не губляць часу, ні сэкунды!

Я распавядаю пра ваганьні Буракоўскага, але Месінг перабівае мяне:

— Усё скончыцца шчасьліва, зажыве, як на сабаку. А твой шэф будзе прадстаўлены да ўзнагароды. Так яму і скажы.

Не бачачы іншага рашэньня, Буракоўскі пагадзіўся на апэрацыю, разьлічваючы толькі на цуд.

Прайшлі першыя крытычныя дні, і вось ужо Жукоўскага перакладаюць у клініку ім. Бурдэнкі на далечваньне — небясьпека мінула. А Буракоўскаму прысвоілі званьне чальца-карэспандэнта Акадэміі мэдыцынскіх навук СССР і ўручылі ордэн за ўдала праведзеную апэрацыю».

## Прыход застойных гадоў

Нарэшце прыйшлі гады, калі назіраўся сацыялістычны эканамічны росквіт. У мястэчку пабольшала крамаў, а пры мясцовай сталоўцы быў нават адбудаваны «грэчаскі зал», дзе гулялі заезныя чыноўнікі. Частку вуліц заасфальтавалі, свая пякарня выпякала хлеб. На месцы былой сынагогі збудавалі кінатэатар, назвалі домам культуры. Расла колькасьць чытачоў у бібліятэцы: у 1970 г. іх было 700, у 2000 г.–1500 і 13 300 кніг. У 1983 годзе луненцаў напаткала цікавая прыгода.


Уважаемой Валентине Николаевне — с благодарностью за участие в наших кинематографических работах. Желаем Вам счастья!

Эдуард ХРУЦКИЙ

„Приступить к ликвидации"

(2 серии)

Режиссерская разработка Бориса ГРИГОРЬЕВА

Второе творческое объединение

Центральная ордена Октябрьской Революции и ордена Трудового Красного Знамени киностудия детских и юношеских фильмов имени М. Горького
МОСКВА, 1983 г.

Вокладка сцэнару фільму, падараваная Карповіч Валянціне

На цэнтральнай плошчы адбываліся здымкі савецкага двухсэрыйнага дэтэктыўнага мастацкага фільма «Прыступіць да ліквідацыі» рэжысэра Барыса Грыгор'евапа раману Эдуарда Хруцкого «Чацьвёрты эшалён» з сэрыі твораў пра начальніка аддзела па барацьбе з бандытызмам «МУР»а палкоўніка І. А. Данілава і яго таварышаў. Раман «Прыступіць да ліквідацыі» таксама ўваходзіць у гэту сэрыю, але ён апавядае пра падзеі 1943 гаду. Некаторыя жыхары Луна сталі часова «артыстамі» -прынялі ўдзел у масоўках.

У 1984 г. пабудаваны новы будынак школы, праўда заадно часткова былі зьнішчаны рэшткі паляца-паркавага ансамбля Ромэраў: сажалкі пазасыпалі сьмецьцем, многія дрэвы сьпілавалі. Пра гэты пэрыяд успамінае Карповіч Валянціна Мікалаеўна, якая з 1974 г. па 2004 год працавала старшынёй Луненскага сельскага савета, і робіць высновы.

## Успаміны Валянціны Карповіч

«1 верасьня 1974 г. адбыліся вялікія зьмены ў жыцьці нашай сям’і. У сувязі з абраньнем мяне старшынёй Луненскага сельскага савета мы пераехалі жыць у вёску Луна. Для нас калгас купіў звычайную драўляную вясковую хату, якая нам спадабалася адразу, бо тут мы былі самі сваёй сям’ёй на сваім падворку з сваім кавалкам агароду і садам, чаго ў нас ніколі яшчэ не было. Мястэчка Луна і вёска Сарочыцы, у якой мы жылі раней, былі недапараўнаньня. У мястэчку разьмяшчаліся: калгас «Расея» -вядучае прадпрыемства, Селгастэхніка –былая МТС (машына-трактарная станцыя), лясьніцтва, якое месьцілася на кватэры Гурынай Кацярыны, прарабскі ўчастак ДРБУ (дарожна-рамонтны будаўнічы ўчастак), цагельны завод, сэпаратарны пункт, пякарня з кандытарскім цэхам, «сельпо» (сельскае спажывецкае грамадзтва), працавала каля дзесяці розных крамаў і грамадзкая сталовая, базар, сярэдняя школа, дзе навучалася больш за 500 вучняў, дзіцячы садок на 25 месцаў, музычная школа, дзе вучылі дзяцей ігры на баяне, спартыўная школа па веславаньню, пошта, ашчадная каса, тэлефонная станцыя з прарабскім участкам сувязі, клюб, бібліятэка, дом быту, аўтобусная каса, участковая бальніца з амбуляторыяй, аптэка. Працавалі царква і касьцёл. За Нёмнам недалёка ад палявога аэрадрома разьмяшчаўся прафілякторый для лётчыкаў, якія прыяжджалі сюды на адпачынак пасьля палётаў. Аэрадром і прафілякторый абслугоўвала спэцыяльная воінская частка з салдатамі і наёмнымі рабочымі. На нас мястэчка рабіла ўражаньне амаль горада. Адначасова і людзі тут жылі вельмі розныя. Былі і такія, што цанілі багацьце і ўмелі яго набыць, не надта ўлягаючы ў працу. Да настаўнікаў тут ставіліся паблажліва і без пэўнай павагі.

Мяне напаткала другая, не настаўніцкая праца, жыцьцё ў новых абставінах на відавоку ў мноства людзей і мноства пытаньняў, якія трэба было вырашаць, ня ведаючы як і з якога боку да іх падыходзіць.

Тое, што першапачаткова паказалася прывабным, на практыцы для старшыні сельсавета апынулася сталым «галаўным болем». На той час за сельсаветам лічылася 128 камунальных кватэр, большасьць якіх былі старымі дамамі, застаўшыміся пасьля габрэяў. Іх прыстасавалі пад новыя патрэбы, зрабіўшы ў адным доме 2—3 кватэры з маленькімі і сырымі пакоямі. Двары пры гэтых дамах вельмі цесныя, без месца нават для невялікага агароду і «зручнасьцямі» пад акном. Увесь цэнтар вёскі (каля 30 дамоў) карыстаўся адной калёнкай пасярод плошчы для набыцьця вады. Таму пытаньні па рамонту печаў, перакрыцьцю дахаў, ачысткі прыбіральняў, рамонту пакояў, вывазу сьмецьця былі бясконцымі. Вырашэньне іх абцяжарвалася адсутнасьцю цывілізаванага і плянавага забесьпячэньня сродкамі, матэрыяламі, рабочымі… Гэта ўсё і многа іншага трэба было «знайсьці».

Зьнешні выгляд вуліц і стан дарог быў дрэнным. Агароджы каля хат дзе ёсьць дзе няма, заставаліся хаты напаўразбураныя яшчэ з часоў вайны. Клюб знаходзіўся на былой Волі ў крыле занядбанага палацу Тарасовічаў на самым ускрайку велькай вёскі.

Што не падлягала рэвізіі, дык гэта гандаль. Працавалі крамы: адзеньне, гаспадарчыя тавары, галянтарэя, мяса-малако, гародніна, прамысловыя тавары, дзьве крамы з харчовымі таварамі, хлебны, кніжны, шклотара, нарыхтоўчы ларок, сталовая. У цёплую пару года адчыняў свае дзьверы «Вецярок» для аматараў піва і безалькагольных напояў. Па нядзелям працаваў базар, дзе прадаваліся парасяты, цяляты, вырабы мясцовых майстроў: кошыкі, мэбля, гачкі, матыкі, ганчарныя вырабы, венікі і мётлы… Можна было купіць яйкі, сыры, масла, сьмятану, насеньне….

Найбольш заможнымі і ўдалымі ў разьвіцьці вёскі былі гады прыкладна 1980—1995. Была пабудавана новая школа і васьмікватэрны дом для настаўнікаў, дзіцячы садок на 90 месцаў, кінатэатар, куды перанесьлі клюб, да будынка бальніцы дабудавалі з двух бакоў памяшканьні для сталовай і дадатковых лячэбных кабінэтаў і лябаранцкай. У бальніцу можна было пакласьці 25 хворых на стацыянарнае лячэньне. Стары будынак амбуляторыі, напаўразвалены, быў куплены Аграпрамбанкам, які зрабіў з гэтага старога будынка мураванае двухпавярховае сваё аддзяленьне. На прыгожым ускрайку вёскі выбудавалі двухпавярховы будынак лясьніцтва з канторай і кватэрай для сям'і лясьнічага.

Ад школьнай воданапорнай вежы праклалі водаправод у бальніцу, банк, на пошту, у касьцёл і аптэку. А ад сьвідравіны Сельгасхіміі вада была праведзена на хлебапякарню і жыхарам вуліцы Перамогі.

Узьніклі, нават, цэлыя новыя вуліцы з двухпавярховымі катэджамі – вуліца Сонечная і вуліца Маладзёжная. Для забесьпячэньня вадой жыхароў новых вуліц была пабудавана і новая воданапорная вежа.



Калёна школьнікаў на чале з аркестрам рухаецца на ўрачыстае сьвяткаваньне Дня Перамогі. 1986 г.

Значна палепшылася лазьневае абслугоўваньне. Дарожнікі пабудавалі сваю лазьню з фінскай і рускай парылкамі, басэйнам і більярдам. У сельгасхіміі наладжваюць сваю лазьню на беразе рэчкі Лунянкі. Старая сельская лазьня капітальна адрамантоўваецца. У вёсцы ўзьнікаюць асабістыя лазьні: у Карповіча Л., Брыцька У., Ягнешкі В., Раманькова В., Івава У.... Капітальна рамантуецца і робіцца перапляніроўка старога габрэйскага двухпавярховага будынка, дзе астатнія разьмяшчаўся школьны інтэрнат, пад кантору ўтворанага замест калгаса саўгаса «Чарлёна» і кабінэты сельскага савета. Былыя школьныя будынкі вытворчага корпусу і сталовай бясплатна перадалі людзям пад кватэры. Актыўна праводзіцца добраўпарадкаваньне: вуліцы пашыраюцца, асфальтуюцца, некаторым вяртаюцца іх гістарычныя назвы; праводзіцца нумарацыя дамоў, ставяцца новыя і папраўляюцца існуючыя платы. Прыводзяцца ў парадак каталіцкія і праваслаўныя могілкі. Дзякуючы фінансавай дапамозе з боку саўгаса «Чарлёна» і калгаса «Сьвітанак» былі абгароджаны мэталічнай сеткай могілкі ў Навасёлках і Луне. Каталіцкія могілкі пры вялікай актыўнасьці ксяндза Л. Радомскага і прыхаджан значна пашыраюцца і абносяцца капітальнай каменнай агароджай.

Вёска зьмянялася на вачах. Жыхары мелі працу і нядрэнныя заробкі. У гэтым хіба карані той настальгіі па Савецкім Саюзе ў час узьнікненьня незалежнай Рэспублікі Беларусь. Голад, чорныя варанкі, войны забыліся, засталіся ўспаміны з апошніх гадоў.

Нельга сказаць, што ўсё адбывалася зусім гладка. Негатыўныя праявы давалі аб сабе знаць. Напрыклад, будаўніцтва вялося як бы не для сябе.

Праз вельмі кароткі час у новых будынках школы, дзіцячага садка, прыстройкі да адміністратыўнага будынку сельсавета дах стаў працякаць і яго неабходна было рамантаваць. Кінатэатар, ён жа клюб, спачатку зрабілі без ацяпленьня і, хоць падлога калгаснымі рабочымі была зроблена якасна, але з-за адсутнасьці вэнтыляцыі і наяўнасьці сырасьці вельмі хутка згніла. Школу адчынілі, а каналізацыённую помпавую станцыю не зрабілі. Як вынік у новай школе туалеты не працавалі. Гэтую КПС зрабілі толькі ў 2012 годзе і цяжка яшчэ сказаць, як яна будзе працаваць і куды пампаваць...



Спаборніцтва пасьля ўрачыстасьці. 1986 г.

Дзіўная зьява — будаўніцтва пажарных рэзэрвуараў. Гэта капітальныя збудаваньні, якія ніколі не выконвалі свайго прызначэньня. Вада ў іх не затрымлівалася, як у пасудзіне без дна. Такія дзіўныя парадкі: трэба каб было, а навошта, ніхто сказаць ня мог і не хацеў, і не цікавіўся.



Сьвяткаваньне Дня Перамогі. Луна-Воля, 1986. Ветэраны вайны на урачыстасьці ў іх гонар

Большасьць аб'ектаў будавалася так званым «хозспособом» — гаспадарчым спосабам, а гэта значыць без належнай праектнай і тэхнічнай дакумэнтацыі. Адпаведнай і была якасьць. Прайшлі гады. Будавалі «агрогородок» і водапravод па вуліцы Гродзенскай як і раней зрабілі без дакумэнтацыі, на вока. Цяпер штогод зімой вады няма, замярзае.

Калі параўнаць цяперашні «агрогородок» з вёскай канца васьмідзесятых, то гэта поўная дэградацыя. Чаму ж вёска прыйшла ў такі заняпад?

Лічу, што галоўная прычына ў поўным ліквідаваньні нават зародкаў самакіраваньня і грамадзкай супольнасьці, удзелу грамадзян у плянаваньні жыцьця сваёй вёскі, вызначэньні прыярытэтаў... Ліквідацыя гэта вялася пасьлядоўна і мэтанакіравана. Так быў фактычна ліквідаваны бюджэт сельсавету, калі ўсе бюджэтныя арганізацыі школа, бібліятэка, клюб, бальніца былі пераведзены на цэнтралізаванае фінансаваньне з раёна. Разам з ліквідацыяй бюджэту фактычна было ліквідавана магчымасьць уплыву на гэтыя арганізацыі з боку дэпутатаў сельскага савету. Дэпутаты ды і сельсавет сталі амаль непатрэбнымі, бо пазбаўлены былі фінансавага ўплыву. Тлумачылася гэта цэнтралізацыя эканоміяй. Але выходзіла ўсё якраз наадварот: у сельсавеце як быў бугальтар, так і застаўся, а ў раёне стварылі новыя пасады. Далей пазбаўленыя ўлады сельсаветы не маглі перашкодзіць павальнаму закрыцьцю мясцовых прадпрыемстваў. У выніку за кароткі пэрыяд былі зачынены Сельгастэхніка з заправачнай станцыяй, Сельгасхімія, хлебапякарня, а затым і застаўшыся кандытарскі цэх, сэпаратарны пункт, спартыўная школа, дарожна-рамонтны ўчастак, адпаведна зачыніліся і лазьні гэтых прадпрыемстваў, цэх сувязістаў, прафілякторый, спартыўная школа, «сельпо», каля дзясятка магазынаў і сталоўка і, нарэшце, базар... Катастрафічна зьнізілася колькасьць працоўных месцаў. У выніку моладзь уся стала пакідаць вёску ў пошуках працы. Насельніцтва пастарэла настолькі, што многія не ўстане весьці прысядзібную гаспадарку... У 2013 годзе грамадзкі статак складаецца з чатырох кароў... Усё больш зьяўляецца пакінутых сядзіб... І хоць на сёньняшні дзень у вёсцы ёсьць прыродны газ і многія дамы газыфікаваныя, ёсьць вада, шэраг сацыяльных паслуг, моладзь тут жыць ня хоча, бо працоўныя месцы ёсьць толькі ў калгасе (як бы яго цяпер не называлі) з нізкай у 200—300 даляраў аплатай і адсутнічае хоць якая пэрспэктыва. Многія луненцы аселі ў Расеі, Польшчы, Італіі... Вымушаны шукаць шчасьця не на Радзіме. Ідуць размовы аб ліквідацыі сельсаветаў. Сапраўды, іх роля зьведзена да чыста тэхнічнай працы па выдачы даведак і вядзеньню ўліку. Створаны такія ўмовы, што інстытут дэпутатаў сельскага савета фактычна ня мае ніякага сэнсу. Магчыма сельсаветы былі б ужо зачыненыя, каб не адно але, гэта але — арганізацыя, правядзеньне і фальсыфікацыя так званых «выбараў». 11 луненцаў працавалі на ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС, дзьве сям'і прыехала з забруджаных тэрыторый і жывуць тут, 4 юнакі ваявалі ў Аўганістане, на шчасьце вярнуліся цэлымі. Адным словам жыцьцё працягваецца...

# Нёман — рака часу

«Плыве праз роспач і гвалт
Паўзбоч гістарычных дат
.................................
Нам, людзям, у русьле сваім
Так часта бывае няўлежна.
А Нёман заўжды незалежны!
Ніхто не камандуе ім».
Раман Тармола — Мірскі
Рака часу

У сваім васьмітомным Геаграфічным апісаньні Клаўдзій Пталямей (I I ад Н. Х.) называе Нёман Хронасам. На «радзівілаўскай» карце, выдадзенай у Амстэрдаме і выгравіраванай у сваёй майстэрні Гесэлем Герытсам, Нёман падпісаны падвойнай назвай Chronon — Niemen. Хронан — час. Нёман — рака часу!

Пра Нёман напісана так многа наколькі мала напісана пра мястэчка Луна. I напісаць прыгажэй, лепей, з большым пачуцьцём мне не па сілам. Пра Нёман напісаны нават ПАЛІНДРОМ старажытны від магічнай паэзіі; суцэльны паэтычны тэкст, які аднолькава чытаецца як з пачатку ў канец, так і з канца ў пачатак:

Пра раку Нёман

О, Нёман! Сага снам ён!
Нёман мутны смак,
а сам —
у крамяны рышток рамонкавы ліся,
і нам дары, тытан,
і лад, і лёс, і арку марам,
хаду цуда — хмарам
у краі сёл і далін.
А ты... Ты рад:
манія сілы, вакно маркот, шырыня мар!
Кум асакам,
Сын туманам ён, Нёман, —
Сага снам ён.
О!
Віктар Жыбуль.

Але як можна пісаць пра мястэчка Луна і не ўспомніць пра Нёман?! Калісьці яны ўтваралі амаль адно цэлае. Але з цягам часу адносіны жыха-

роў мястэчка з ракою на жаль зьмяніліся і зьмяніліся недапазнаньня. Яго роля зьменшылася амаль на нет. На Луненскім узьбярэжжы ня знойдзеш нават дзіравай лодкі. Рыбацкія сьцяжынкі да яго ўтульных берагоў паволі зарастаюць... Страціў ён наш былы кармілец, наш апякун, і сваю незалежнасьць і сваю чысьціню... Цяпер, адурманеная цывілізацыяй галава, плянуе, як зьмяніць яго рэчышча, перагарадзіць, зрабіць прыгонным. Плывуць у яго з палёў, фэрмаў, гарадоў, фабрык і заводаў патокі бруду. А ў народзе кажуць: «Лыжкай дзёгцю бочку мёду змарнуеш». Трэба зазначыць, што раней прырода Наднёманьня выглядала зусім інačай. Найбольш гэта зьвязана з узроўнем Балтыйскага мора, які з цягам часу павышаўся. А таксама з «гаспадарчай» дзейнасьцю чалавека.

Таму варта ўспомніць, як было раней, калі чалавек, Нёман і лес былі ў адносінах раства. Сьведкамі таму будуць успаміны і запісы нашых далёкіх і блізкіх продкаў.

«Чысты, як шкло, сьветлы, як дзень, сумны і пекны, як хараство ў задуме, ходзіць ён смуклы юнак, цешыцца — песьціцца на матчыных грудзях, льецца — нясецца, сумуе — журбуе і не можа расстацца з роднай краінай...

Міл яму ціхі гаёк каля лесу, любы зялёныя доўгія ніўкі; мілы лясы, пясчаныя выдзьмы, горы, вазёры, груды, сенажаці, люб яму і жоўты пясочак на ўласным беразе. Ды, як скованы думкай вечнай разлукі, пахаджае ён смутна па роднаму краю — усё разглядае, з усім размаўляе, усё ціха жагнае, моў, цяжка ўздыхае. Падыдзе, засмучаны, к цёмнаму лесу — сьцішыцца, змоўкне, замрэ й абамлее, а потым завернецца — падасца ўперад ды зьнікне ў лесе. Там пагуляе, у цяньку сапачыне, пагамоніць задумліва з ёлкамі, соснамі, пазіхне, устрапянецца ды выбежыць у поле –заззяе, як срэбра, заблішчыць — засмяецца на сонцы ды разальецца ўстужкай па квяцістым лузе...

І куды б ні зьбег ён, дзе б ні разьліўся — скрозь, як пачэсная варта вяльможнага пана, бяжыць за ім усьлед і мігціцца абапал зялёна — купчастая пушча. Лозы, алешнік, касацісты дзягіль,, ажыньнік, маліньнік, аер з ачаротам — усё пазрасталась, зьліпла, сплялося і стаіць над вадою рагатай сьцяною. Сумны вярбняк, пастаўшы ў радок, моў, тыя пратэсы ў азнаку пашаны, параскідаў гальлё ва ўсе бакі і нахіліўся на ваду, а тонкае веццe яго павісла ўніз, як матчыны косы над дзіцячай калыскай. Чырвона каліна ірдзіцца на сонцы, трапечацца лісьце асіны ў паветры, з кустоў выглядае пурышка і глядзіцца ў ваду, як красна дзяўчына крыёма ў люстэрка, а па ўзгорках — магутна, як вежы, уздымаюцца ў неба дубы... Птушкі сьпяваюць, конікі граюць, і пчолкі гудуць, як арганы, у паветры...» (Язэп Лёсік, Нёман).

«Зялёна — купчастая пушча...» Яна была адметнасьцю Наднёманскага краю. Як уражвала «беззаконная Літва» прышэльцаў з захаду можна судзіць па таму, як зьдзіўляліся яе дзікім хараством суровыя манахі — крыжаносцы, якія імкнуліся выкараніць паганства, засеўшае ў першабытных

лясах над Нёмнам. Нідзе не бачылі яны столькі птушак і ня чулі такіх канцэртаў птушынага сьпеву. «Першую сваю крэпасьць, першы рэдут, пастроены ў глухім лесе, як апэрацыйны базіс для вайны з варварамі, празвалі яны Птушыным Сьпевам — Vogelsang. Прырода Літвы вялікасьцю сваіх стварэньняў падасьць нам нешта казачнае, калі мы ўспомнім, што гэты першы тэўтонскі замак, ля ўваходу ў яе дзікую вобласьць, быў пабудаваны не на зямлі, а на раскідзістым ствале волатаўскага дуба, падобна гнязду этнічнага Салаўя Разбойніка.



Рыбалка і лоўля птушак перавесам. Старажытны малюнак

Многія сотні гадоў працавала стыхійная сіла над стварэньнем падобных калосаў расьліннасьці ў краіне, занятай племем, каторае глядзела на велічныя дрэвы з пачуцьцём абагаўленьня. Калі нарэшце прамысловае жыцьцё прыйшло ў літоўскія лясы з вынішчальным сваім заняткам, і вырубка першабытных зарасьнікаў пераважыла над усімі галінамі мясцовай гаспадаркі — колькасьць драўлянага матэрыялу, здабыванага з аднаго дуба, прадстаўляла лічбу неверагодную. У тыя часы, калі ў Літве і Польшчы цэлая вёска куплялася часам «за два вала, за шэсьць локцяў сукна і за некалькі лісіных мяхоў», або «за дваццаць грыўняў серабра і за дзьве сукні», бывалі дубы, цанёныя ў сто грыўняў». (А. К. Кіркор. Жывапісная Расія).

Трэба тут мець на ўвазе, што пад Літвой Кіркор разумее Віленскую, Ковенскую і Гродзенскую губэрні, а пад літоўцамі — жыхароў гэтых губэрняў. Чуць ніжэй прачытаеце, што па Кіркору старажытная Літва заменена Беларусьсю.

Вялікі князь Ягайла, стаўшы польскім каралём, уцякаў ад дзяржаўных турбот і Эўрапейскай цывілізацыі ў родную пушчу. Ня мог наслухацца ўволю сьпеву Наднёманскіх салаўёў і памёр ад прастуды ў часе іх начных канцэртаў.

«Старажытныя літоўскія гарады можна параўнаць з астравамі. Яны асноўваліся або сярод азёр, злучаных паміж сабой непраходнымі багнамі,

або сярод такіх зыбучых месцаў, каторыя стрымлівалі толькі зьвярыную лапу ды лёгкі абутак пешага Літвіна, які па рускі называлі ходачкамі. Палюючыя на Літоўцаў тэўтонскія рыцары крыжакі не маглі зь імі ваяваць у «поўным узбраеньні»; а літоўская дзічына была небясьпечнай для сваіх перасьледавальнікаў, якія сьцякаліся з усяго цывілізаванага Захаду, усяго больш тым, што свабодна расхаджвала па родным тваням, неадольным для непрыяцеля». І далей: «Некаторыя з суднаходных некалі літоўскіх рэк цяпер зусім не суднаходныя, а некалькі рэк, вядомых па паперам гаспадарчымі сплавамі і рыбнымі промысламі, зусім зьніклі, не пакінуўшы назваў сваіх нават у мясцовых урочышчах. Такая вялікая разьніца паміж прыродай старажытнай Літвы і прыродай замяніўшай для нас Літву Беларусьсю...» (А. К. Кіркор. Жывапісная Расія»).



Нёман каля Луны. Рыбацкая прыстань. Сайт Рут

«Сеці, застаўленыя на азёрах, абцяжарваліся ўловам да такой ступені, што рыбныя тоні выцягвалі з дапамогай коней».

Я выдзеліў назву абутку, у якім хадзілі нашы продкі. Важна сказаць дадаткова некалькі слоў на гэту тэму. Бо ўсталявалася думка пра Беларусь у лапцях. Археолягі знайшлі вялікую колькасьць узораў абутку мінулага. Сярод іх ніводных лапцяў. Тады прыдумалі, што лапці пагнілі, а іншы абутак — не, бо быў скураны.? Самы просты і распаўсюджаны ўзор абутку сярод нашых продкаў — поршні, зробленыя з аднаго кавалку скуры. Больш складаным, бо сшытым з некалькі выкраек, быў чаравік. Бот сшываўся з чатырох пласьцін. Адкуль узялася легенда пра лапці? Адказ дае дзядзька Капцюг: «Як адзначаюць дасьледчыкі, яны (лапці) былі запазычаныя ў

расійскіх сялян і іх распаўсюджаньне, пераважна ва ўсходніх раёнах Беларусі, было зьвязанае з расьсяленьнем там старавераў, пасьля таго, як Масква пажадала стаць трэцім Рымам». Так што Расея абула нас у лапці і працягвае абуваць да сёньня.

«Валоданьне схованымі ў вадзе багацьцямі прыроды стварыла ў ім вадзяныя брацтвы, якія мелі нешта агульнае з рачнымі або воднымі казакамі на Дняпроўскім Нізе; а рыбалоўства было ў Літве заняткам штодзённым». «Рыбны промысел панаваў над усімі іншымі.

Цяпер ужо забытыя і назвы некаторых рыб, падлеглых казённым і ўладальніцкім пошлінам, як напрыклад берзаны, уклеі, кляшчы, сялявы і др».

У «Жывапіснай Расіі» Кіркора многа займальнага і забытага пра наш край у мінулым можа знайсьці зацікаўлены чытач.

Амаль у такой жа ступені прырода Наднёманьня спрыяла і разьвіцьцю паляваньня. У народзе надоўга захаваліся паданьні пра майстэрства паляўнічых, што здабывалі залатарогага тура, рагамі якога даражылі больш, чым шкурай і мясам.

«Другое месца пасьля тура займаў у літоўскім паляваньні таксама прывілеяваны законам зубар, аб якім заўзятыя аматары арыстакратычнай забавы сьцьвярджалі, быццам між яго рагамі маглі ўсесьціся тры чалавекі». Гэта пацьвярджае і Мікола Гусоўскі ў сваім знакамітым творы «Песьня пра зубра»:

«Волатным целам сваім ён настолькі вялікі,
Што, калі раняць сьмяротна і ранены ўкленчыць,
Трох паляўнічых садзіцца ў яго між рагамі».

Балотную рысь за яе плямістую шкуру называлі тыграм, Ласёў было так многа, што ласінае мяса нарыхтоўвалі для ваенных паходаў. У лясных азёрах купаліся цэлымі статкамі серны. Зімою на іх палявалі ваўкі, выганяючы на голы лёд. Але царом нашых лясоў лічыся мядзьведзь, які вылучаўся небывалымі памерамі, адвагаю, сілаю і лютасьцю. Вяндліна з дзіка прымалася ў казьне замест грашовых падаткаў. Зьвярынымі шкурамі плацілі пошліны ў судах. Нават на кракаўскіх рынках купцы з Гарадзеншчыны разьлічваліся з-за недахопу звонкай манэты пушнымі шкуркамі.

Нельга не сказаць яшчэ праз адзін занятак нашых продкаў». На Захадзе не захавалася нічога падобнага да вялікасных ліпавых лясоў, адзяваўшых вільготныя берагі Нёмна. — піша Кіркор.- Літоўскія дубы ўражвалі сваёй велічэзнасьцю тэўтонскіх рыцараў; а Палякі, гаспадарнічаючы ў краіне, якая зрабілася для іх даступнаю, дзівіліся акамянелым ствалам веліканскіх дрэў, «каторыя пароды ніхто не ўмеў назваць». Мноства пахучых злакаў і кветак, сілкаваных раскошна зацененаю, вільготнаю глебаю, вырабляла незьлічоныя раі пчол. Мядовая даніна ў Літоўскай дзяржаве ўступала адной рыбнай. Мёдам Літоўцы замянялі манэту гэтак жа, як і мяхамі. Некаторыя судовыя пені зьбіраліся вызначанай колькасьцю мёду, а васковыя кругі і сьвечкі зрабіліся ў свой час звычайнымі зборамі за царкоўныя грахі. «Камяні воску» вывозіліся з Літвы за граніцу, як адзін з са-

мых каштоўных прадуктаў. Літоўскім мёдам, па словам старажытных летапісаў, здавольвалася «уся Германія, Брытанія і аддаленыя краіны Еўропы». У Літве існавалі брацтвы бортнікаў. Яны мелі прысяжных лаўнікаў, старасту, судзьдзю, пісара. Мядовы стараста, які распараджаўся борцевай чэлядзьдзю, быў важным сябрам кожнай эканоміі. Існавала нават асобнае борцевае права».

Вось што пра гэты закон паўтысячагадовай даўнасьці пісаў Зыгмунт Глогер: «Паводле права борцевага, найсуворайшая кара, бо гарлавая, цераз павешаньне, датыкала злодзея, выдзіраючага пчолы з борці, але толькі ў тым выпадку, калі на гарачым учынку застаў схоплены. На выданьне прысуду сьмерці запрашаў падстараста ўсіх бортнікаў да горада, дзе суд борцевы засядаў (...), а перад выкананьнем прысуду ўсе бортнікі павінны былі дакрануцца рукою да вяроўкі, на каторай злачынец меў быць павешаны».

Лес аказваў вялізны ўплыў на жыцьцё мясцовага люду. Што гаварыць, у хаце беларуса амаль усе прылады першай неабходнасьці былі ляснога паходжаньня: чайка, мэбля, стол, дзіцячая калыска, бажніца, ступа, цэбры, вёдры, лыжкі, міскі, рыбалоўныя прылады, саха, кошыкі, калы, дугі, вазы, сані, нават вяроўкі ліпавыя, карыты, верацёны, бочкі, кадкі, кросны, калаўроткі, лялькі, цацкі, ..., на канец — дровы для апалу.

Увесь лясны масіў у Наднёманскім краі насіў назву Гарадзенская пушча, якая ўступала сваімі багацьцямі толькі Белавежскай, і займала прастору ў 97 тыс. дзесяцін (у Расеі з 1753 года дзесяціна — 11 197, 44 м2 або 1, 0925 га) яшчэ ў канцы 19 стагодзьдзя. Праўда тады ўжо не было ў Гарадзенскай пушчы мамантаў і паўночных насарогаў, косьці якіх знаходзяць каля Нёмна археолягі. Так на зуб маманта можна паглядзець у музэі пры Краснасельскім цэмэнтным камбінаце. Куды і як зьнікла пушча? Найбольш зьнішчалі нашы лясы захопнікі». Много лесов истреблено в 1863 года, вследствее принятой меры очистки железных дорог от прилегающих к ним лесов. Вокруг каждой станции вырублено на 300 саж. Во все стороны, а по всему протяжению дорог на 150 саж., как во дну так и в другую сторону». (Киркор. Живописная Россия. Стр. 49—50). Але не піша Кіркор, што яшчэ ў лютым 1863 у Гарадзенскай губэрні было ўведзенае вайсковае становішча. У насельніцтва рабілі ператрусы, шукалі зброю. У лясох рабілі прасекі, каб аблегчыць пошук паўстанцаў. Пасьля паўстаньня канфіскаваныя ўладаньні перадаваліся расейскім памешчыкам, многія зь якіх не наведваючыся ў свае новыя ўладаньні, прадавалі іх гандлярам лесам, якія вынішчалі лясы для ўзбагачэньня бяз іх аднаўленьня. У выніку: «Многие помещичьи имения были совершенно разорены; перешедшие в другие руки по принуждению подверглись, как уже мы заметили, эксплуатации Евреев истреблением лесов, земледелие же осталось в совершенном застое. Многие имения представляли страшную картину запустения и разорения. Одно сожжено, другое истреблено». Рабіце самі высновы аб ролі Расеі ў нашай гісторыі.

«Самую обычную принадлежность литовскаго ландшафта составляли бѣлѣющіеся паруса, съ наполняющими воздухъ и воду рыболовными птицами. То, что въ наше время, весною, представляютъ пиньскія озёра, усьянные рыбачьими лодками, плавичками и плавицами, шугалеями, барками и байдаками, то првсемѣстно виднѣлось в древней Литвѣ, среди ея густыхъ лѣсов, разрѣзанныхъ стоячими и текучими водами» — піша А. К. Кіркор у «Жывапіснай Расіі».

У раньнім сярэднявеччы плылі па Нёмне ладзьдзя купцоў з Кіева, дракары вікінгаў... Пазьней праз сыстэму канала Агінскага плылі да Гародні расейскія буякі, а праз Аўгустоўскі канал з Віслы аздобныя бэрліны, а з Балтыкі калі нікалі гасьцілі адна- ці двухмачтавыя марскія судны званыя прускімі батамі. Але самымі знакамітымі працаўнікамі на Нёмне заўсёды былі віціны.



Бэрліна

Будавалі віціны выключна для плаваньня па Нёмне. Гэта было найбольшае судно для плаваньня па нашай рацэ. Даўжыня яе дасягала 50 мэтраў пры 8-мятровай шырыні. Пагрузіць на віціну можна было да 250 тон розных грузаў. Але найчасьцей віцінамі перавозілі збожжа. Каманда матросаў дасягала 12 чалавек. Параўнаем віціну з другімі суднамі. Меншым па памерах тагачасным нёманскім караблём была барка. Памеры яе былі 40 мэтраў на 7. Тавару брала 80 тон. Пабудова каштавала 550 рублёў. Абслуга: 1 лёцман і 10 рабочых. Наступны вялікі плывучы сродак меў назву бэрліна. Ёй зручна было карыстацца пры пераходзе Аўгустоўскага канала. Бэрліна мела памеры 42—43 мэтра на 4,3 мэтра, грузу брала 40 тон і пабудова яе каштавала 1200 рублёў. Абслуга: 1 лёцман і 8—15 рабочых.

Віціна мела даволі вялікае памяшканьне падкармавое. У пярэдняй частцы знаходзілася памяшканьне для абслугі і кухня, дзе — толькі на віціне — была печ для выпечкі хлеба. На сярэдзіне ляжаў тавар, а на карме «шафярня», ці пакой для кіраўніка віціны. Гэты пакой, за звычай вельмі скромна абстаўлены, пры вяртаньні з Прусіі зьмяняўся недапазнаньня: застаўлены быў дарагой мэбляй і дыванамі. Рабілася гэта для таго, што за абсталяваньне віціны не трэба было плаціць мыта. Але ж як вярнуцца з закупленым таварам супраць цячэньня? Ды яшчэ ў рэчышчы Нёмна былі ўчасткі, дзе рака станавілася вузкай, а вада хутка ляцела над мелямі, над дном, поўным цьвёрдага і вострага граніту.



Віціна на Нёмне

Небясьпечным было падарожжа па цячэньні, але вяртаньне вымагала значна большых фізычных высілкаў: маглі плысьці пад парусам пры спрыяльным ветры, але часьцей віціну цягнулі бурлакі.

Яшчэ на пачатку дзевятнаццатага веку вельмі часта можна было назіраць карціну, калі ланцуг мужчын цягнуў віціну ці бат, ідучы берагам і сьпяваючы смутную песьню.

Клунак за плячамі,
Згорбленыя сьпіны, —
Валіць чарадамі
Люд на сплаў віціны.
Босыя іх ногі,
Твар іх загарэлы,
Вопратка ўбога,
Чуць прыкрыты целы.

Якуб Колас. Плытнікі.




Бурлакі на Нёмне. 19 век

Каб цягнуць бат, трэба было 10 — 15 бурлакоў, для віціны — 20 — 30. Першы сьпераду віціньнік называўся кароль, другі — маршалак, трэці — дружбант, як на вясельлі. У Нацыянальным гістарычным архіве ў Гародні захаваліся дакумэнты, якія распавядаюць пра нёманскіх бурлакоў. У адным з іх з 1838 года гаворыцца: «...на суднаходнай рацэ Нёман цэлая навігацыя праводзіцца пешым спосабам, бічэўнікі не патрабуюць вялікага ўпарадкаваньня маршруту, які да гэтага часу ўтрымліваецца прыбярэжнымі ўладальнікамі». Але на самой справе ўмовы працы бурлакоў памешчыкаў не цікавілі, таму бічэўнік (бурлацкая сьцежка) імі часта не расчышчалася. Цяжкая гэта была праца, ісьці і ў сьпёку і ў непагадзь босым па жвіровым, ці ў кустоўях, ці забалочаным беразе.

У бурлакі наймалі сялян не маладзей за 20 і не старэй за 48 год. «Каб былі ў здаровым стане і не скалечаныя... Для харчаваньня на кожнага ў дзень выдзяляецца не менш трох фунтаў добра выпечанага жытнёвага хлеба з дастатковай колькасьцю солі і два разы ў дзень пахлёбка, якая складалася з рэдкай кашы ці капусты з салам або алеем, у нядзельныя і сьвяточныя дні мясная ці рыбная порцыя па 1 фунту на чалавека». У нарысе «Людзі і кветкі над Нёмнам» Эліза Ажэшка апісвае сярод іншых расьліну падбел: «Падбел, інакш капуста стырнікаў. Другая назва іранічная. Тыя, хто дражніць так сялян, якія гоняць па Нёмне плыты і віціны, кажуць, што ў сваіх водных вандроўках яны харчуюцца гэтай расьлінай, што расьце па

берагах рэк над вадой, гэтаму плытагоны пярэчаць». Заробак быў 45 кап. за дзень і гонячыся за гэтым заробкам тысячы сялян адрываліся ад сваёй земляробчай працы. Ёсьць больш дакладныя дадзеныя аб заробках і цэнах у нашай мясцовасьці з часоў Расейскай акупацыі. «Прыгонныя сяляне з Яблынова за 6 месяцаў на сплавах атрымлівалі ад 10 да 21 рубля». І для параўнаньня цэны на прадукцыю з інвэнтару маёнтка Чарлёна за 1835 — 1845 гады: «За чвэрць пшаніцы — 4 рублі серабром, жыта — 2 рублі 60 капеек, ячменю — 1 рубель 80 капеек, аўса — 1 рубель 20 капеек, грэчкі — 1 рубель 80 капеек, гароху — 2 рублі 60 капеек, бульбы — 60 капеек, за пуд сьметанковага масла — 3 рублі, за пуд танкарунннай воўны — 10 рублёў 50 капеек, за вядро гарэлкі — 50 капеек серабром» (Памяць Мастоўскі раён). Чвэрць для сыпкіх цел у Расеі роўна 209,91 л, пуд роўны 16 кг, вядро — 12 літраў.

У 1863 годзе ў навігацыі ўдзельнічала 236 лёцманаў і 2582 сударабочых і плытагонаў. І першая і другая катэгорыя працаўнікоў набіралася з сялян і мяшчан прынёманскіх вёсак і мястэчак. Асабліва ганаровым быў занятак лёцмана. Лёцман вёў давераны яму карабель па рацэ, чытаючы карту рачной паверхні, наглядна вызначаючы па толькі яму вядомых прыкметах наяўнасьць глыбінь, меляў і хуткасьці плыні. Вялікая адказнасьць за тавар кампэнсавалася нядрэннай платай. Добрыя лёцманы былі вядомы па ўсім Нёмне. З сярэдзіны 70-х гадоў 19 стагодзьдзя па 90 гады таго ж стагодзьдзях вялікай славай і даверам карыстаўся лёцман Восіп Новік з вёскі Дубна. Гэты разумны селянін, дзякуючы свайму таленту змог вывучыць 5 з 7-мі сваіх дзяцей. Двое зь іх сталі народнымі настаўнікамі, адзін — сьвятаром, сярэдні, Павал, вывучыўся на адваката.

Бяда была, калі судно завісала на гаку ці мелі. Сьцягалі пры дапамозе барбары — тоўстай вяроўкі, якую выкарыстоўвалі яшчэ, прывязваючы карабель на прыстані. Не заўсёды ўручную ўдавалася сьцягнуць судно. Тады забівалі два стаўбы і закладалі на іх «казла» — вал з кольбамі, падобны як у студні. Накручваючы на «казла» барбару, сьцягвалі віціну з мелі ці гаку. Калі і барбара з «казлом» не дапамагалі, наступала ліхтуга, ці перагрузка тавару на меншы статак ліхтанец. Ці то ад нямецкага lichten — разгружаць, ці ад беларускага — ліха

Кажуць, што эскізы для сваёй знанай карціны «Бурлакі на Волзе» І. Рэпін маляваў у Беларусі з беларускіх бурлакоў і дзесьці пыляцца яны ў сховішчах Траццякоўскай галерэі.

Поўны цыкл маршрута са зваротам цягнуўся 10 — 12 тыдняў. Служыў карабель 6 — 10 гадоў. У якасьці «бурлакоў» бывала прымянялі коней ці валоў.

Чым гандлявалі нашы продкі? За мяжу вывозіліся: збожжа, кудзеля, футра, пянька, ільняное і канаплянае семя, алей, сала, салёнае мяса, мёд, воск, шэрсьць, паташ, вугаль, гарэлка, сьпірт... На зваротным шляху везьлі прамысловыя вырабы, вырабы з жалеза, тканіны, соль, селядцы, тытунь, галантарэю, віны, прадметы роскашы... Захаваўся дакумэнт ад 22 кра-

савіка 1582 года аб фрахтаваньні віцін на вываз 50 ламштаў попелу (лашт = 120 пудоў = 1920 кг). З попелу атрымлівалі шчолак-паташ патрэбны для вытворчасьці мыла, фарбаў і шкла. Попел выпальвалі ў пушчы, дзе таксама гналі дзёгаць, шкіпінар, выраблялі дрэўны вугаль для кузьняў, займаліся смалакурэньнем. Смала патрэбна была для прасмолкі суднаў, канатаў, рыбацкіх прылад...




Рыбак у чаўне на Нёмне. Старая паштоўка

Нёман служыў таксама для сплаву лесу. Беларускі лес плыў у Прусію, з беларускага лесу ў Кранштаце будавалі Імпэратарскі флёт...

Вясною бярвеньні вязалі ў плыты. Памеры, канструкцыя і абсталяваньне плытоў вызначаліся строгімі правіламі. У грабёнках бярвеньні ўкладаліся поперак цячэньня і зьвязваліся лазовымі хамутамі. Шырыня грабёнкі вагалася ад 6,4 да 17 мэтраў, даўжыня — ня болей 38,4 мэтра. Пленіца вязалася з бярвеньняў уздоўж плыні шырынёй да 25,6 м, даўжынёй 38,4 м. Плыт мог быць з некалькіх пленіц. На два плыты павінна была быць адна вялікая лодка — дуб з рабочымі і дубавіком. Партыі мачтавага дарагога лесу сплаўляліся перавязаныя ў лавы. Кожная з калодак мацавалася пры дапамозе віцаў альбо граздзялёў (вяровак са скручаных маладых бярозавых пруткоў, пазьней для гэтага стаў прымяняцца дрот) да жэрасьцяў, пакладзеных упоперак. Паміж сабой лаўкі злучаліся жэрдкамі, якія называліся паклёсамі.. На першай і апошняй для кіраваньня плытом ставіліся апачыны — рулявыя вёслы (на плытких і небясьпечных месцах ракі плытом кіравалі з дапамогай жэрдак), там жа знаходзіліся і

шарыгі — завостраныя калы, якія выкарыстоўваліся пры тармажэньні. Кіраваў плытом галоўнік, а заднік павінны быў упраўляцца з «хвастом». На апошняй лаўцы ставілі з галін будан, накрыты саломай, і горан (раней вогнішча на тоўстай посьцілцы) для прыгатаваньня ежы.




Фота182.Плытагоны па Віліі. Вілейка, Аўтар: Анатоль КАПЦЮГ http://www.rh.by/by/71/200/1704/?tpl=105

Плыты з вялікай колькасьцю лавак абслугоўвалі 2—3 сплаўшчыкі, а караван плытоў дастаўляла цэлая арцель, у якую ўваходзілі галоўны плытагон (стырнік, корнік), дубовікі і весьляры на лодках, рабочыя плытагоны. Каля Вільні з малых плытоў складалі вялікія, шырынёй 10 мэтраў, даўжынёй да 100 мэтраў, і адпраўлялі далей да Коўна і Каралеўца.

Пристані ў Мастах (маюцца на ўвазе Масты Правыя) і Луне былі транзытнымі, затока ля вёскі Ябланова выкарыстоўвалася дваяка. Тут у 1829 годзе было падрыхтавана для сплаву 1952 дубовыя загатоўкі, прывезеныя сюды з Белавежскай пушчы гужавым транспартам. Гадамі раней луненскія купцы Фрумкін, Гольберг і Собаль спляжылі прынёманскую дуброву, якая цягнулася ад вусьця р. Рось да вёскі Яблынова. Цяпер аб яе колішнім існаваньні, нагадвае толькі назва вёскі Дубна. Зімой Яблаоўская затока прымала на «пастой» увесь нёманскі пасажырскі і буксірны флёт. Сёньня Яблынова на памяці людзкой толькі тым, што тут у апошнія гады існаваньня СССР у памяшканьні былой школы быў арганізаваны «прафілякторый», дзе прымусова лячылі хранічных алькаголікаў. У затоцы некалькі мэталічных баржаў. Ды адзінока стаяць руіны колішняй капліцы.

Вось як апісаў Язэп Лёсік свае назіраньні за сплавам па Нёмні:

«Ужо ў самым пачатку, з першых крокаў свае падарожжы, Нёман не волен ад жыцьцёвых турботаў. Толькі парвуцца кайданы зімовай няволі, як слабым грудзям яго трэба ўжо напружацца і несьці ў чужыну багацьце і пыху роднага краю. І ад самай вясны да халоднай восені плывуць

ды ідуць жалобнай працэсіяй плыты: то нязграбныя, сухія і белыя. Як чалавечыя косьці, куртатыя згоны, то хмурыя і цёмныя, як моўчозна сінеючы навокала лес, дзябёлыя, лавак у трыццаць важкія плыты. Ды толькі і чуеш, як з ранку да вечара магільнаю эхай раздаюцца выгукі каманды:

«Тарнуй на барбару — у! За — кідай шары –гу — у!»

А то рахубны купец — скупяндзя махне, пасьміхнуўшысь, рукой на забароны ды пусьціць шаросьа. Тагды чыстыя хвалі яго ўкрываюцца брудам, як чалавечыя грудзі каростай. А ўброд — ні прайсьці ні праехаць; коні храпуць рыкае ад страху жывёла, крычаць аж да поўначы качкі, гусі дамоў не прыходзяць, плача пастух, і чуюцца ўсюды праклёны...» (Язэп Лёсік, Нёман).



Карціна беларускага мастака А. М. Шаўчэнка. Плытагоны. 1932

Якуб Колас прысьвяціў плытнікам і іх цяжкай працы свой верш «Плытнікі»:

:.........................
Срэбрам адлівае,
Як люстэрка Нёман,
Зранку не сьціхае
Над вадою гоман.
Ад крыку — лаянкі
Аж дрыжыць паветра:
— На «барбару», Янка!
— Гартоль бяры, Петра!
— Закідай шарыгу!
— Прысам папхні ўліва!

Варушыся! Мігам!
Не сьпі ў шапку! Жыва!
.............................
Гнецца плыт дугою,
Прэ яго да гаку,
Быстраю вадою
Ломіць, як вужаку.
На мель узагнала.
Крык, сярдзіты голас.
Порткі паскідалі,
Ўсе ў вадзе па пояс.
Бомы ўсе пабралі:
Разам, хлопцы! Рразам!
Ну, яшчэ! Што сталі?
Ну, яшчэ наляжам!
Вецер загуляе —
Хвойнік, лозы гнуцца.
Плытнік спачывае,
Як сабака ў будцы.
........................

Летам 1872 года вядомы польскі археоляг і падарожнік Зыгмунт Глогер разам са сваім сваяком з Ласосна Віктарам Мазуркевічам на чайцы праплылі Немнам з Гродна да Коўна. У сваіх запісах з падарожжа так апісаў працу плытагонаў:

«Усюды сустракаем многа сплаўляемага з Літвы да Прусіі будаўнічага дрэва, асабліва ёлкі (яліны). Бярвёны яліны аголеныя ад кары за выключэньнем маладога канца, у старшым канцу маюць звычайна выцесанае вуха. Дуба і сасны плыве вельмі мала. Каля дваццаці калод ці бярвён зьбітыя паміж сабою ў пралёт, тры ці чатыры такіх пралёты, увязаныя адзін за другім, называюць на Нёмне «казлом». Два казлы ўтвараюць плыт. На казёл трэба двух, а на плыт чатырох плытагонаў, па аднаму ці па два на кожны канец, каторыя плыты, нясомыя быстрым цячэньнем, кіруюць з дапамогай дрыгавак, а маюць таксама ў запасе прысы, ці жэрдкі даўжынёй у некалькі сажняў, якія служаць толькі для адштурхоўваньня ад берагу і дна. (Дрыгаўка — доўгае вясло 8 — 9 мэтраў для кіраваньня плытом).

Плытагоны маюць на плытах і казлах нізкія доўгія буды з яловай кары, а перад імі на плоскіх камянях і дзёрне вогнішча для гатаваньня ежы».

Калі плытоў гналі многа, то на адным з іх знаходзілася «скарбоўка», гэта значыць домік з дошак, у якім жыў у часе сплаву адміністратар купца, які аплачваў працу і забясьпечваў патрэбы ў часе сплаву.

«Над суднамі тут — палатняныя крылы.
Заморскія купіш тут мыла ды вілы.
Тут гонкія мачты, што бачылі моры,
Сягаюць пад зоры».

Я. Кляновіч. «Плытагон»

Захавалася статыстыка: у 1897 годзе па Нёмне адпраўлена 1525 плытоў і штогод на прыстанях Нёмна, Шчары і Вільлі грузілася да 1600 суднаў.

Нялёгкая была і праца плытніка, на яе адважваліся мясцовыя сяляне хутчэй з безвыходнасьці, чым з-за заробку. Першая беларуская газэта «Наша ніва» у 1910 годзе пісала: «У Віленскай губэрні варункі жыцьця плытнікаў не вельмі добрыя. Бярэ, напрыклад, з Вілейкі плыт гнаць за 25 рублёў, — з гэтых трэба аддаць задніку 6—7 рублёў і плытніку астаецца 18. Хлеб дае купец. Калі добра пойдзе, то вернешся за якія два тыдні. Але як разаб'ецца плыт, калоды згубяцца, — тады купец за кожную калоду адлічыць па 2—3 рублі. І вось, правёўшы месяц часу, хоць пехатой ідзі да хаты».




Плыт на Нёмне і баркас для суправаджэньня плытоў. Гародня. Пачатак XX ст.

Нёман, як месца працы, ня быў добрым бацькам для плытагонаў, а ні для віціньнікаў, ні для рулявых (стырнікаў) на старадаўніх драўляных статках, бо штогод забіраў да сябе кагосьці з сваіх адважных работнікаў.

Багацьця нёманскіх лясоў хапіла ўсім уладам аж да 70-х гадоў 20-га стагодзьдзя. Гэтым багацьцем удалося пакарыстацца кайзэраўскай Германіі, санацыйнай Польшчы, Трэцяму Рэйху і Савецкай уладзе. Пасьля 70-х гадоў сплаву не стала.

Яшчэ ў 1912 годзе на прыстані ў Луне будавалі баты, аб чым сьведчыць М. Арол (Сьцяпан Язэпавіч Пятэльскі) — паэт, які з восені 1910 года настаўнічаў у вёсцы Струга:

«5 красавіка ў Луне згарэла 7 мяшчанскіх гумен. Пагода была сухая і ветраная; усё шчасьце ў тым, што гумны гэтыя стаялі з краю і вецер дуў

у поле, а то было б дрэнна ўсяму мястэчку, бо хоць пажарная дружына тут і ёсьць, але яна нарыхтавана дрэнна — ніякага парадку і послуху няма.

Каля Лунны праходзіць Нёман; карыстаючы з гэтага, скупшчыкі лесу прыганяюць многа дрэва з Мінскай і другіх губэрняў да Лунны і тут яго дастаюць на бераг; строяць гумны, хаты, баты (баркі). Лесу каля нас мала, а хоць і ёсьць, дык усё панскі; а пажары бываюць кожны дзень. Вось сяляне і купляюць на беразе гатовыя гумны, хаты, а купцы дзяруць, як за сваю скуру. На беразе працуе многа народу беларусаў. Няма што і казаць, што за свой крывавы мазоль яны дастаюць вельмі мала.



Барка

Вось што я ўбачыў, прыехаўшы ў Лунну кірмашовым днём (у сераду). Народ толькі што стаў зьбірацца на кірмаш, і я пайшоў перш прывітацца з бацькам — Нёмнам. Дзень ясны, сонечны. Паром ідзе з аднаго берага на другі; народу на ём многа, бачу: стаіць каля берагу колькі аграмадных батаў недаконченых, а каля аднаго народу чалавек з семдзесят з каламі і крычаць: «Раз, раз, раз...». Падыходжу бліжэй. Спускаюць барку сажон 30 — 40 даўжыні на ваду. Калы трашчаць і ўядаюцца ў плечы, а аграмадная барка не хоча лезьці ў ваду. Народ худы, бледны; старыя і хлопцы напіраюць мацней... Адзін зацягвае маркотную песьню: „Разам, хлопцы, на-

пірайце, барку ў ваду вы спушчайце!“ — і далей, у часе перарыву, другія падхватваюць і пры словах: „разам“ — плечы паднімаюць калы, а барка паволі сунецца ў ваду. Купец крычыць, махае і рукамі і нагамі: „Хлопцы, разам, ну, ну, ну!.“. Пытаюся ў аднаго хлопца: „Што вам за гэта плацяць?“ — „А што? — па чарцы гарэлкі дасьць!“ Аглядаюся назад, аж бачу (я яе сперш не прымеціў), стаіць кабета і трымае ў кошычку колькі пляшак гарэлкі... Вось чым плацяць, мой родны браце, за тваю крывавую працу!» (Лунна. Гродз. Губ. І пав. М. Арол. «Наша ніва», 1912, №19 — 20, 10 (23) мая).

Час бег і на зьмену віцінам пачалі прыходзіць караблі паравыя. У 1807 годзе ў Злучаных Штатах быў пабудаваны першы карабель з паравым рухавіком. Але на Нёмне паравы статак зьяўіўся толькі ў 1856 годзе. Перавозіў пасажыраў паміж Гроднам а Друзьгенікамі і называўся «Вільня». Меў рухавік у дзесяць конскіх сіл. Праз 50 гадоў па Нёмне ўжо курсавала пятнаццаць паравікоў. Мелі прыгожыя назвы: Бірута», «Баярыня», «Дэвайціс», «Сірэна»», Кейстут», «Прыяцель», «Гродна» і «Гродно», але найбольш засталіся ў памяці старэйшых жыхароў Луна «Ягайла» і «Ядвіга». У 20 — 30 гадах дваццатага веку паравікі сталі найбольш ужываным пасажырскім транспартам. Ён быў даступным і танным для жыхароў Наднёманскіх ваколіц. Неўзабаве сярод праплываючых паравых суднаў можна было ўгледзець і турыстычныя статкі з дызельным рухавіком: «Міхал Агіньскі» і «Сміглы». Працягвалі сваю працу і традыцыйныя судна. За 1897 год іх адплыло па Нёмне 149 з грузам у 9 519 000 пудоў (152 304 тоны).

Для вывучэньня ўзроўню вады ў Нёмне ў граніцах Расейскай імпэрыі былі наладжаныя водныя назіраньні і з 1 студзеня 1877 года распачаты пастаянныя замеры. Устаноўлена было 15 назіральных станцый. На станцыях першага клясу назіраньні праводзіліся ўвесь год тры разы ў дзень, на станцыях другога клясу толькі ад лёду да лёду адзін раз на дзень.

«А часам спрадвесьня, у поўную ваду з мэтай баданьня, прыімчыць аднекуль жывец — параход, загудзе, залапоча чырвонымі крыльлямі, чмыхне, як бы праканаўшыся, што:

«Квол яшчэ, браце, — не ўздымеш віціны!» А штотыдня, у чацьвер, у пагоду й нягоду, узімку і ўлетку, варочае нетры Нямніска скарбовы рыбак. Закінуўшы волак і пабраўшы вяроўкі на плечы, ухаюць, пнуцца рыбакі — небаракі, стогнуць, ірвуцца з апошняе сілы, каб заможнае панства ў замку мела сьвежую рыбу да стала...» (Язэп Лёсік, Нёман).

Першыя паравікі дажылі да 50 -тых гадоў дваццатага стагодзьдзя. Разам зь імі мінула эпоха рамантычных падарожжаў па Нёмне, калі пры добрай пагодзе можна было дзівіцца прыгожымі краявідамі Наднямоньня.

Ёсьць такая дзіўная і рамантычная істота, ні то дзіця страказы ні то камар, з мноствам назваў: аднадзёнка, мятліца, аўсянік, падзёнка, ручайнік Але ў нас яе называлі аціца. Яшчэ нядаўна надзвычай папулярнымі ў рыбакоў былі лічынкі аціцы для нажыўкі. Хоць падобная да камара, баяцца яе ня трэба, бо не ўкусіць, не мае роту. Два гады жыве ў вадзе ў форме лічынак і кукалак.. А выходзіць з вады ўжо крылатым матыльком толькі

на адзін дзень. Выходзіць у такоў колькасьці, што ўлетку можна назіраць мяцеліцу з гэтых матылькоў. Толькі на дзень, дзеля каханьня, працягу роду. Таму ня маюць роту, ня маюць патрэбы ў харчаваньні. Жывуць адзін дзень, кахаюцца, паміраюць. Таму і завуцца падзёнкамі.

Лоў аціцы на Нёмне паблізу Луна маляўніча апісала Эліза Ажэшка ў сваім рамане «Над Нёмнам»:

«Усіх лодак было каля дваццаці. Быццам чароўныя прывіды, яны павolі сьлізгалі па нерухомай рацэ глыбока ўнізе; і таксама паволі калыхаліся іх адлюстраваньні ў цёмнай бездані, а твары і фігуры людзей, азораныя чырванаватым сьвятлом, са скульптурнай выразнасьцю вылучаліся на цёмным фоне неба і вады.

Але яшчэ больш дзіўнай, амаль што фантастычнай зьявай здавалася густая імгла, якая ахутала лодкі з людзьмі мірыядамі дробных, як сьняжынкі, камячкамі і засьцілала белай дымкай яркія кастры. Ні ў паветры, ні ў прамежках паміж лодкамі камячкоў гэтых не было, і нельга было зразумець, адкуль яны. Неўзабаве, аднак, усе ўбачылі, што гэта малюсенькія матылькі, якія выляталі з вады, трапечучы беласьнежнымі крыльцамі. Іх было незьлічонае мноства, як пясчынак на дне Нёмна, у глыбінях якога яны нараджаліся. Пакінуўшы родную стыхію, яны ў няспынным парыве ляцелі да асьляпляльных агнёў. Каварныя рыбакі, спрытна ўзмахваючы рукамі, зграбалі ў мяхі гэтую крылатую завіруху, якая заносіла беласьнежнымі камякамі іх саміх і іх лодкі.

Каб не ўспудзіць баязьлівае вадзяное стварэньне нават самым ціхім шоргатам, рыбацкія лодкі сьлізгалі паволі і бясшумна, нават не ўсплёскваючы вёсламі. Уздоўж усёй ракі, наколькі бачыла вока, мільгалі ў цемры чырвоныя агеньчыкі, а каля іх чырванаватыя сылуэты сядзячых людзей.

Ціха было ўсюды — і ў небе і ў паветры, на зямлі і ў вадзе; толькі дзесьці ўверсе над дрэвамі гудзелі, кружачыся ў вышыні, раі нёманскіх матылькоў. Здавалася, што гэта аднастайнае мэталічнае гудзеньне выпускала дрыжачая струна, нацягнутая паміж цёмнай стужкай ракі, якую ўсеялі вогненныя кропкі, і небам, дзе віселі воблакі, падобныя на лёгкі дым або на шматкі разарванага крэпу». (Эліза Ажэшка. Над Нёмнам).

Вялікае дзякуй табе, паважаная Эліза Ажэшка, за тое, што з такой цеплынёй і так прыгожа апісала ты наш Нёман і людзей, і кветкі, і звычаі над Нёмнам. Дзякуючы табе і мы самі і цэлы сьвет даведваецца аб нашай Радзіме.

У трагічную ноч на 22 чэрвеня 1941 года нямецкія пілёты адзначылі ў сваіх справаздачах, што наглядалі мноства вогнішч незразумелага прызначэньня ўздоўж беларускіх рэк і рачулак. Беларусы сьвяткавалі Купальле.

З самых старажытных часоў штогод чакалі нашы продкі самага доўгага дня і самай кароткай ночы, каб зрабіць спробу зьдзейсьніць свае самыя запаветныя мары. А калі не ўдасца, то добра пагуляць. Сьвята, якое называецца Купальле, пачыналася з другой паловы дня. Дзяўчаты зьбіраліся кучкамі і ішлі зьбіраць сьвятаянскія зёлкі: багаткі, папараць, браткі, васількі, купену ды іншыя толькі ім вядомыя. Частку пакідалі ў хаце на ежу,

на лекі, утыкалі ў сьцены для аховы, з астатняга плялі прыгожыя вянкі для варажбы і ўпрыгожваньня, адзяваючы на галаву.



Купалінка

Лічылася, што многія расьліны валодаюць магічнай, прываражваючай сілай. Дзяўчаты называлі іх «прываротным зельлем» і ўпляталі ў вянкі, аздаблялі вопратку, каб прыцягнуць да сябе жаніхоў.

Галоўным у абрадах і гульнях было купальскае вогнішча, якое рыхтавалі хлопцы на беразе Нёмна. Яны ўкопвалі ў зямлю слуп, на вяршыні якога мацавалі зьежджанае драўлянае кола. Ад яго ўніз да слупа ішла прамасьленая вяроўка ці скрутак з саломы. З двароў зносілі яшчэ ссохлыя бярозкі, якімі ўпрыгожвалі сядзібу на Тройцу, звальвалі пад слуп. З надыходам вечара, калі сонейка пачынала садзіцца, наваколье напаўнялася мэлёдыямі купальскіх песень. Гэта дзяўчаты ў прыгожых вяночках ішлі да купальскага агню:

Ішла Купалка сялом, сялом,
Закрыўшы вочкі чубром, чубром...
Прыйшоўшы на месца, прасілі:
Божа наш, ды ўзыдзі раненька,
Разьвядзі купальлейка, Божа наш.

Да 19 стагодзьдзя агонь здабывалі трэньнем сухіх палак з дапамогай прыстасаваньняў, што патрабавала добрага майстэрства. Як толькі сонейка хавалася, запальвалі вогнішча.



Нёман каля Луна.

Ад сухіх галінак агонь па вяроўцы ці скрутку саломы падымаўся да кола. На агні гатавалі абрадавую вячэру: яешню, бліны, ячменную кашу. Полымя купальскага агню надзялялася ачышчальнай сілай ад злых духаў, на ім прасушвалі сарочкі хворых, да яго падносілі дзяцей, якія занядужалі. У агонь кідалі ў якасьці ахвяры пучкі лёну ці жыта са словамі-заклінаньнямі: «Зарадзі лён» або «Зарадзі жыта». Моладзь сьпявала купальскія абрадавыя песьні, вадзіла карагоды, скакала праз агонь. Па павер'і, калі двое пераскочаць агонь узяўшыся за рукі, то яны будуць разам усё жыцьцё. Закаханыя перад скокам зьвязвалі рукі ручніком, каб ніхто ў жыцьці ніколі іх не разлучыў. Дзяўчаты кідалі ў агонь вянкі. Калі хлопец выхапіць вянок з агню, то яго ўладальніца павінна выйсьці за яго замуж. На заканчэньне гульняў каля агню моладзь пускала на ваду вяночкі. Унутры вяночка рабілі перапляценьне са сьцяблінак лёну або жыта і ставілі туды сьвечачку, якую запальвалі ад купальскага вогнішча. Па пушчаных папарна на плынь ракі вянках сачылі, сыдуцца ці расплывуцца ў розныя бакі, чый вянок паплыве далей, чый прыстане да берага або патоне. Потым дзяўчаты ўцякалі ў «патаемнае» месца і скакалі ў ваду ў «купальніках» з лісьця. Хлопцы стараліся ўпільнаваць месца купаньня і, калі ім гэта ўдавалася, хавалі дзявочыя сукенкі і спаднічкі і вярталі іх толькі за выкуп: песьні, танцы, пацалункі і абяцанкі. Потым усе разам ішлі на пагорак сустракаць сонца песьняй:

Ай на Купала
Рана сонца йграла,
На добрыя лёсы,
На цёплыя росы,
На дзявочы косы...

Купальскаю раніцаю жанкі бралі чыстае саматканае льняное палатно і цабэрак, зь якімі ішлі на луг. Палатном зьбіралі расу, накрываючы ім

траву, і выкручвалі расу ў цабэрак. Гэтай расой потым шмат дзён абмывалі твар каб быў прыгожы і чысты, акраплялі ложак і сьцены. Мужчыны на Купальле павінны былі зрабіць хоць адзін пракос. З гэтага дня пачыналася касьба.

Самыя сьмелыя і адважныя перад апоўначы ішлі ў самы гушчар лесу шукаць папараць — кветку. Папараць — кветка расьцьвітае роўна апоўначы і цьвіце толькі адну гадзіну. З шырокага лістоўя раптам зьяўляецца зародак кветкі і падымаецца ўсё вышэй і вышэй. Роўна апоўначы раздаецца моцны і прыемны гук і зьяўляецца ярка — вогненная зорачка — кветка, такая зіхотная, што на яе балюча глядзець. Калі шчасьліўчык нават знойдзе папараць — кветку, то не заўсёды ўдасца яе сарваць, бо мяшаюць нябачныя перашкоды, якія трэба пераадолець. Толькі той, хто дасьць рады пераадолець жах і застацца самім сабой, мае магчымасьць сарваць цудоўную кветачку. Тады перад ім адкрываюцца ўсе таямніцы сьвету, ён пачынае разумець мову расьлін і жывёл, перад ім раскрываюцца таямніцы былога і будучага, ён можа зьдзейсьніць сваю запаветную мару — зрабіць сваю каханую шчасьлівай.

Сёньня, калі больш надзённыя справы, падзеі ды іх разуменьне пераблыталіся — перамяшаліся ў дажываючых «аграгарадкоўцаў», як тыя жаўток з бялком у баўтуне, калі моладзі ў Луне амаль не засталося, небясьпечнае шуканьне папараць — кветкі замянілі «Спортлото» і іншыя лахатроны. Былі спробы аб'яднаць Купальле з хрысьціянскім Янам, але з гэтага выходзіла звычайная папойка з спальваньнем сьмярдзючай і дымнай старой аўтамабільнай пакрышкі. Паступова і гэта заняпала.

Але адзін разумны чалавек напісаў: «Купальская ноч — самая кароткая ў годзе. На яе працягу трэба многа пасьпець зрабіць. І пераскочыць цераз вогнішча, і ў лесе пашукаць кветку, пра якую складзена столькі легендаў і песень, і знайсьці свайго суджанага. Трэба пасьпець адагнаць ведзьмаў у чорным адзеньні з проразямі для вачэй і выгнаць іх з свайго жыцьця. Таму выкідвайце чорныя думкі са сваёй душы, вычысьціце яе зацягнутыя павуціньнем куткі і з чыстым сумленьнем ідзіце сьвяткаваць Купальле. Яно ж бывае толькі раз у годзе. У такую ноч грэх спаць».

Мястэчка Луна
Дарога цягнецца. Сьпякота дражніць громам.
Перапаўзае абмялелы Нёман
аўтобусам падняты ў неба пыл.
Царква. Тры крамы. Белая авечка.
Ці дажывае, ці то сьпіць мястэчка,
Бялізну зьвесіўшы, як мах апошніх крыл...
На аўтастанцыі мужчыны цягнуць піва
З літровых слоікаў, і цягнецца цярпліва
Размова вечная, як гэтая зямля...
Алесь Чобат

# Эпілёг

## Незалежнасьць і яе вынікі

Тое, за што змагаліся лепшыя сыны Беларусі на працягу двух стагодзьдзяў, зьдзейсьнілася 27 ліпеня 1990 г. Вярхоўны Савет БССР прыняў Дэкларацыю аб Дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі — гэта найвялікшае Сьвята нашай Радзімы. Нягледзячы на эканамічныя цяжкасьці, якія прыйшлі разам з Незалежнасьцю, людзі зьмяніліся. Пасьвятлелі твары, заблішчэлі вочы, зьяўілася НАДЗЕЯ. І нават страта грошай, назьбіраных за ўсё жыцьцё па капейцы, часам коштам недаяданьня, забаронай для сябе і дзяцей многіх жаданьняў і патрэб, значных сродкаў, якія ў адначасьсе зрабіліся нічога ня вартымі, не вызвала шоку ў людзей. Усе цяжкасьці ўспрымаліся ў каго дасьведчана, у каго як непазьбежная, але часовая плата за галоўнае — НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ. Вызначаліся рысы новай беларускай дзяржавы.

Луненская СШ пачала пераход на беларускую мову, загаварылі на роднай мове ў дзіцячым садку, і нават з трыбунаў загучала матчына слова. Як картачныя домікі разваліліся партыйныя арганізацыі КПСС у Луненскай школе, у саўгасе, у «Сельгасхіміі», сельпо... Засталася невялічкая частка членаў гэтых арганізацый, але тады яны ад страху затаіліся. Пачалі дзейнічаць добраахвотныя грамадзкія арганізацыі: суполка Зьвязу палякаў на Беларусі, суполка БНФ «Адраджэньне», суполка ТБМ. У мястэчку аднавіліся традыцыі ушаноўваць народныя сьвятаты Дзяды, Купальле, Радаўніца, Яна і Цэцыліі... Удалося зьмяніць назвы вуліц. Вуліцы Леніна вярнулі яе гістарычную назву Гродзенская, вуліцу Энгельса назвалі ў гонар Міхася Явара. Яна была абсаджана яварамі, а на могілках у Радзівонаўцах сумеснымі высілкамі сельскага савету і сябрамі суполкі БНФ «Адраджэньне» наведзены парадак ля магілы Міхася Явара. З луненцамі сустракаўся Зянон Пазьняк.

Рэгулярна праз два гады, пачынаючы з 1998 года, у Рэспубліцы Беларусь сталі праводзіцца Айчынныя філятэлістычныя выставы. Але першыя тры выставы былі арганізаваныя пад кіраўніцтвам вядомых філятэлістаў Фрэдэрыка Гушчы і Аляксандра Сьцепанчэнкі з Беластоку (Польшча) пры ўдзеле Лявона Карповіча: першая — «Прырода і мы» адбылася ў 26.03. 1995 г. у Скідалі, другая — «Мой родны Кут» — 06.07.1997 г. у мястэчку Луна, а трэцяя — «Наша спадчына» 19.12. 1998 г. у Гудзевіцкім музэі Алеся Белакоза.

Але падзеі першых гадоў былі недастатковымі, каб абудзіць нацыянальную сьвядомасьць людзей. Больш за 60% выбаршчыкаў з Луна ў ліпе-

ню 1994 г. аддалі свае галасы на выбарах прэзыдэнта за Лукашэнку. Гэта было пачаткам вяртаньня камунізму ў гратэскавым яго абліччы. У выніку сфальсыфікаваных вынікаў рэфэрэндумаў 1995 і 1996 гг. у рэспубліцы адбыліся зьмены ў горшы бок. Беларусь страціла ўсе набыткі як сувэрэнная дзяржава. Пачаўся шалёны націск на ўсё беларускае. Пачалася непрыхаваная нянавісьць да ўсяго беларускага.




Гашэньне другой у гісторыі Незалежнай Беларусі філятэлістычнай выставы 06.07.1997 г. «Мой родны Кут» у мястэчку Луна

Калі сябрам беларушчыны ўдалося арганізаваць сьвяткаваньне 95-х угодкаў нараджэньня Міхася Явара, многім стала зразумела сутнасьць вэртыкалі. У клюбе м. Луна з савецкіх часоў застаўся намаляваны на чырвоным кумачы плякат з надпісам «Жыві, Беларусь!» У заключнай частцы сьвята паэзіі плянаваліся выступы ў клюбе мясцовых паэтаў і ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасьці. Сцэну ўпрыгожылі вышэй названым плякатам. Калі яго ўбачыла былы трэці сакратар КПБ і тагачасны намесьнік старшыні райвыканкаму Таісія Мурына, то ў момант выскачыла з клюбу і забараніла работнікам культуры з Мастоў заходзіць у залю.

Апамятаўшыся камуністы стварылі ў Луна сваю суполку, потым зьяўіўся «лукамол», а цяпер ёсьць і піянэры. Луненская грамадзтва падзялілася на прыхільнікаў новай улады і прыхільнікаў незалежнай дэмакратычнай Беларусі. Патрыёты спачатку легальна, а калі легальная дзейнасьць стала забараняцца, то ў нелегальных умовах сталі працаваць над тым, каб ажыцьцявіць ідэю пабудовы дэмакратычнага жыцьця ў незалежнай Беларусі. Улады чынілі перашкоды. Не давалі дазволу на сустрэчы з прадстаўнікамі БНФ «Адраджэньне» з Менску, адмаўлялі ў правядзеньні пікетаў, сходаў, вывешваньні нацыянальных сымбаляў. Сябры БНФ не дапускаліся ў выбарчыя камісіі, чыніліся перашкоды назіральнікам на выбарах. Патрыёты распаўсюджвалі ўлёткі, расклейвалі плякаты, вывешвалі бел-чырвона-белыя сьцягі, правялі альтэрнатыўныя выбары. За што Лявон Карповіч выклікаўся да сьледчага мастоўскага РАУС і ў пракуратуру. У Луна зьяўіўся

мясцовы Мірон. Ён пачаў на нацыянальныя сьвяты вывешваць сьцягі ў самых неверагодных месцах: на трубах кацельных, на правадах высакавольтных ліній перадач над Нёмнам і над шашой, пад нёманскім мостам...



Наш Сьцяг

Каб іх зьняць, чыноўнікі доўга ламалі галаву, як гэта зрабіць. Але былі і добраахвотнікі, якія, ломячы пазногці, зьдзіралі ўлёткі, рызыкуючы скруціць карак, лазілі па сьцягі. Быў такі выпадак. Мірон вывесіў бел-чырвона-белы сьцяг на воданапорнай вежы, то адзін з такіх прыхільнікаў цяперашняй улады паспрачаўся з сябрамі па чарцы, што дасьць рады зьняць сьцяг. Не ведаў небарака, што Мірон вымазаў падыход да сьцяга дзярмом. Увесь у дзярме, але ганаровы, што выспрачаў паўлітра, вярнуўся ў кампанію. Засмактаў выспрачаную пляшку, ды так у дзярме і заснуў да ранку. Дзярмо яму жонка з адзеньня і твару змыла, але душа засталася ў дзярме. Таксама актывізаваліся камуністы. Калі зьмену назвы вуліц Леніна і Энгельса яны ў страху нават не спрабавалі бараніць, то спроба назваць вуліцу, па якой хадзіла знакамітая пісьменьніца Эліза Ажэшка, выклікала буру на цэлы раён і за яго межамі. Нягледзячы на станоўчае галасаваньне дэпутатаў Луненскага сельсавету, вуліца так і засталася Камсамольскай. Сьвяткаваць сталі 80 год КДБ, ва ўгоду Расеі, якая фактычна ў свой час акупавала гэтыя землі, 200 гадоў Гродзенскай губэрні... У моду ўвайшлі Дажынкі. Мясцовы

мастак на луненскія дажынкі ўпрыгожыў галоўную сцэну малюнкам сонца з бел-чырвона-белымі праменямі. Так і прайшлі дажынкі з роднымі колерамі пры пільным наглядзе дзясятка міліцыянтаў і КДБістаў у цывільным.

22-га чэрвеня 2003 г. у рэанімацыйным аддзяленьні анкалягічнага шпіталю ў Бараўлянах, што пад Менскам, памёр народны пісьменьнік Беларусі Васіль Быкаў, гонар нашай нацыі, жывы клясык сусьветнай літаратуры. Сябры Луненскай суполкі БНФ напісалі тэкст спачуваньня і зьвярнуліся да некалькіх чалавек Луненскай інтэлігенцыі яго падпісаць. Спачуваньне было надрукавана ў незалежным выданьні «Мастоўскі весьнік». На наступны дзень усе тыя інтэлігенты, хто падпісаў спачуваньне, былі выкліканы да начальства, дзе яны былі вымушаны напісаць тлумачэньні, што не падпісвалі ніякага спачуваньня. Гэта такі вельмі красамоўны выпадак, які яскрава характарызуе тых, хто пры ўладзе і стан грамадзтва.

За шэсьць апошніх гадоў у мястэчку засталіся толькі чатыры крамы з 12, нават саму кантору «Сельпо» не выратавала новая чырвоная шыльда на расейскай мове — зачынілі.

Ноччу вёска патанае ў цемры, вулічнага асьвятленьня няма. Найбольш годны тавар–віно і гарэлка ў дзяржаўнай краме і ў дзясятку «кропак» на даму. Па выхадных днях у доме культуры зьбіраюцца падлеткі 12—15 гадоў. Адбываецца дзіўнае мерапрыемства пад назовам «дыскатэка»: расійская папса, заходнія цыгарэты, расійскі мат і беларускі алькаголь. Зьбіраюцца старыя кавалеры і падпітыя непаўналетнія дзяўчаткі. І нікому да такіх мерапрыемстваў няма справы: ні ўладам, ні камуністам, ні нацыяналістам, ні дэмакратам. Калі на пачатку XX стагодзьдзя ўзьнікла беларускае адраджэньне, то на чале яго была беларуская інтэлігенцыя. А ў пачатку XXI стагодзьдзя ў Луна можна пачуць тыповы маналёг настаўніцы беларускамоўнай школы: «Вчера, панімаеш, ехала на лісапедзе і парвала панчоху».

На ўсё аддае грошы луненскі настаўнік: у фонд суботніку, у фонд міру, на будаўніцтва стадыёну, на бібліятэку, і ні адзін не паставіў свой подпіс на ахвяраваньні на крыж у Курапатах. Гутарыш з чалавекам пра ахвяраваньні на крыж, а ён як уюн: «Денег не жалко, но понімаеш..». Кажу, што разумею, але папраўдзе нічога не разумею. Як можна баяцца ахвяраваць на крыж? Можа больш падыходзіць да цяперашняга Луна другая тэорыя паходжаньня назвы Луна–ад яцьвяскага liunas — балота?

Калі ідзеш па мястэчку, то бачыш цераз адзін дом або апусьцелы, або жыве тут адзінокі пэнсыянер ці пэнсыянерка. Хто адказвае за лёс гэтых людзей?! А ніхто! Яны выміраюць ціха і пакорліва. Выміраюць ад недаяданьня, ад недагляду, ад хвароб, ад гарэлкі. Гэтых абяздоленых і пакінутых зрэдку наведваюць толькі члены выбарчых камісій, каб атрымаць галасы патрэбныя ўладзе.

З гісторыі населеных пунктаў Мастоўшчыны.

«На 01.01.2002 г. у в. Луна 1093 жыхары. Да 16 год — 182, працаздольных–523, пенсіянераў–588. Нарадзілася за год 14 немаўлят. Пахавалі–

56 чалавек. Закончыла школу, выехала і ўжо не вернецца ў вёску−11. За год вёска зьменшылася на 53 чалавекі». Што далей?

Але я ўсё ж веру ў лепшае! Веру ў тое, што гэтае старадаўняе мястэчка займее годнае жыцьцё і будзе ганарыцца сваёй багатай, хоць і пакутнай гісторыяй.

Прайшло 10 гадоў… Ці адбыліся якія зьмены ў маём мястэчку за гэтае дзесяцігодзьдзе? І так, і не!

На жаль, не зьмянілася прынцыповае. Не зьмяніліся сутнасьць улады, яе адносіны да ўсяго беларускага, нацыянальнага. Не зьмяніліся дзеі, а дакладней бязьдзейнасьць прызначаных уладай дэпутатаў, якіх ніхто не бачыць і не памятае нават іх прозьвішчаў. Не зьмяніліся члены выбарчых камісій і фальсыфікаваньні імі вынікаў выбараў. Не зьмянілася сутнасьць і функцыяваньне калгаснай сыстэмы. Не зьмяніліся задачы і мэтады працы Луненскай школы — кузьніцы вінцікаў для дыктатарскага рэжыму. Не зьмяніўся падаўляючы колькасны склад і ўдзел настаўнікаў у выбарчых камісіях. Гаротным застаецца жыцьцё большасьці мясцовага насельніцтва, якое, як і стагодзьдзя назад, працягвае выжываць дзякуючы працы на сваіх прысядзібных палетках і гадаваньню дамашняй жывёлы. Такім застаўся клюб, які больш не працуе, чым працуе. Як і раней па дзіўнаму гучыць яго назва: «Дом культуры». Не зьмяніўся перасьлед любой думкі ці справы, якая не адпавядае ўладзе. Каб ня доўжыць сьпіс нязьменнага, «стабільнага», бо становіцца ён занадта доўгім, падагульнім. НЕ зьмянілася жыцьцё не па ЗАКОНАМ, а па ПАНЯЦЬЦЯМ. Не зьмяніўся страх «як бы чаго не выйшла», не зьмянілася сьвядомасьць беларусаў. І гэта сельмі сумна…

Але жыцьцё не стаіць на месцы. Зьмены адбываюцца. На жаль ня бачу зьмен на лепшае. Але ад агульных слоў лепей перайсьці да канкрэтных зьяў і падзей. Што запомнілася, зафіксавалася ў памяці за гэтыя дзесяць гадоў? Што зроблена і што ня зроблена? Як бы тут дапамог дзёньнік з запісамі! На жаль наіўнае спадзяваньне, што не сёньня дык заўтра ўсё павінна стаць па-разумнаму, па-чалавечы не прывяло да разуменьня, што трэба рабіць фіксацыю, дакумэнтаваньне хоць бы значных падзей.

У 2005 годзе ў адпаведнасьці з Дзяржаўнай праграмай адраджэньня і разьвіцьці сяла на 2005—2010 гг. быў праведзены капітальны рамонт школьнага будынку (было выдаткавана каля 1 млрд. руб.).

Калі спыніцца толькі на гэтай фразе, то пачуцьцём ад яе будзе радасьць і захапленьне. На жаль у «гэтай бочцы мёду палову бочкі дзёгцю». Не, будаўнікі зноў зьберагглі тыя дзьве амэрыканскія сасны. Самай галоўнай і, напэўна, самай каштоўнай была задача зьмяніць дызайн, а галоўнае, даволі якасную плітку перад уваходам школы. Як бачыце на здымку, гэта зрабіць пасьпяхова ўдалося. Куды падзелася «старая» але дабротная плітка? Вядома ж яе не вывезьлі за граніцу! Нехта яе пасьпяхова скарыстаў. Не парушылі будаўнікі і стары будынак школы, які разьмешчаны ў дваццаці кроках ад новага. На здымку гэта самае скромнае з таго, што там напі-

сана на сьценах. Калі ў чэрвені 2008 г. дэпутат сельскага савету Аляксандар Пудаўкін зьвярнуўся да старшыні Луненскага сельскага савету, што на сьценах старой школы намалёваны фашыстоўскія свастыкі, то атрымаў адказ: «А што, толькі вам пісаць на сьценах? А калі дзеці гуляюць, дык вам не падабаецца!» Тут «тонкі» намёк на тое, што ў нелегальных умовах існаваньня апазыцыі на сьценах у Луна пачалі зьяўляцца патрыятычныя надпісы, а спадар Пудаўкін зьяўляўся членам Камуністычнай партыі.

Калі ў 1984 годзе пабудавалі новы будынак школы «старому» споўнілася няпоўных 30 гадоў. Ён мог яшчэ служыць ды служыць, напрыклад, у якасьці кватэр для настаўнікаў. Але вырашана было разьмясьціць у ім бальніцу. Не лепшы варыянт-бальніца ў 20 кроках ад школы, але атрымалі сродкі і пачалі рамонт і перабудову будынка пад бальніцу. Выбудавалі па новай пляніроўцы кабінэты, уставілі дзьверы... Але ў грошай ёсьць такая недарэчная якасьць, што яны нечакана могуць закончыцца. Будаўніцтва прыпынілася, але будынак быў пад пільнай аховай. Калі, гуляючы ў футбол, адзін са школьнікаў разьбіў шыбу ў гэтым будынку, то адбыўся вялікі скандал з выклікам бацькоў у школу, якіх абавязалі ўставіць выбітую шыбу. З цягам часу гэта пільная ахова некуды зьнікла, будаўніцтва не аднавілі, а блёкі, якімі выгарадзілі кабінэты, дзьверы і ўсё, што можна было выкарыстаць у гаспадарцы, з будынка вынесена, вядома, невядома кім. Гэты сымбаль безгаспадарчасьці наглядна дэманструе школьнікам прынцыпы гаспадараньня сучаснай улады.



Новая і старая школа. Школы-суседкі.

Калі памёр наш сябра і сябра Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі Беларускага Народнага Фронту Віктар Сымонавіч Дубіцкі, памінальная вячэра адбывалася ў школьнай сталовай. Я з жахам назіраў, як па шыфэрнаму даху старой школы бегаюць дзеці. Але настаўнікі школы не зьвярталі на гэта ніякай увагі, хоць няшчасьце магло адбыцца кожную хвіліну. Яны прывыклі. І так працягваецца па сёньняшні дзень. Будынак хіба служыць ім працягам кампутэрных гульняў. Асваеньне будынку школьнікамі і ня толькі, як сьведчаць застаўленыя там горы бутэлек і іншых красамоўных прадметаў, працягваецца.

Дзіўным зьяўляецца і тое, у якім стане знаходзіцца школьны стадыён, калі ўвогуле гэтую частку прышкольнай тэрыторыі можна так назваць. Усе палічылі, што замена пліткі перад школай намнога важнейшая за пабудовы, няхай просьценькага, але сапраўднага школьнага стадыёну. І гэта пры тым, што дырэктарам школы з 1988 года зьяўляецца Віктар Чэрнік-«Известный в недавнем прошлом арбитр (па футболе, аўт.), ныне он возглавляет судейский корпус Гродненщины». Школа-гэта аддзельнае вялікае пытаньне. Але некалькі слоў усё ж трэба сказаць. Не буду аб дасягненьнях. Аб дасягненьнях можна прачытаць на сайце Луненскай школы: http://lunno-sch.grodno.unibel.by/. Хіба існаваньне сайта гэта не дасягненьне? Вядома дасягненьне. А калі яшчэ ўлічыць, што сайт школы з беларускай мовай навучаньня на... правільна, на расейскай мове! А «лукамольцаў» — 90,9% (хіба знайшлася палавінка ад вучня, якая не ўступіла ў БРСМ), а піянэраў — 100%, а «октябрят» — 100%! Вось апошняе хіба і насьцярожыла! 100% нашчадкаў рэвалюцыі! І атрымаўся адлуп ад Аляксандра Рыгоравіча. Высьветлілася, што «дальше нетерпимо так... так школа развиваться не может... Налицо уже не в отдельных, а во многих случаях массовое нарушение элементарного порядка, отсутствие контроля, видимой перспективы». І далей: «Самое главное-заложить в подрастающем поколении твёрдый идейный и нравственный стержень, который позволит противостоять всяческим политическим проискам и. провокациям. Сегодня во главу угла необходимо поставить патриотическое воспитание Ну «залажыць», на гэта мы майстры, але калі трэба паставіць, то паставім. Ды і як заложыш, як не пастаўлена? І сайт Луненскай школы тут жа адказаў на прызыў фюрэра сваім эпіграфам: «Школа — это мастерская, где формируется мысль подрастающего поколения, надо крепко держать её в руках, если не хочешь выпустить из рук будущее». Я параіў бы разьмясьціць на сайце гэтую мэту больш простымі і зразумелымі словамі: «Некаторые дзеці яшчэ маюць звычку думаць — галоўная мэта школы заключаецца ў тым, каб пазбавіць іх гэтай звычкі».

На пачатку Адраджэньня ў школе дзейнічалі суполкі Таварыства Беларускай мовы, Таварыства Беларускай школы, дэлегаты з ліку настаўнікаў прымалі ўдзел у зьездах гэтых грамадзкіх арганізацый... Сёньня пануе Белая Русь і БРСМ.

У 2006 годзе да нас у Луна завітала Вольга Іпатава. Разам зь ёй і маім сябрам па партыі аднавяскоўцам Віктарам Дубіцкім мы аб’ехалі ўсе мясьціны, якія вартыя наведваньня і пашаны і якімі цікавілася знакамітая пісьменьніца ў Луне і навакольлі. А праз год 29 верасьня 2007 года Вольга Іпатава прывезла нам у Луна кніжку «Свабода да апошняга дыханьня». У ёй сярод іншых два апавяданьні пра тую сумесную вандроўку: «Па сьлядах легенды» і «Явар на вуліцы Міхася». Прачытаўшы гэтыя апавяданьні, я зразумеў, што, слухаючы так уважліва нашыя апавяданьні, што мы ажно заганарыліся, Вольга Іпатава ведала больш за нас. І цяпер мы ўважліва вычытваем новае для нас, расказанае пісьменьніцай, і зноў ганарымся. Га-

нарымся, што сьледам за Элізай Ажэшка піша пра нашу мясцовасьць Вольга Іпатава, ды ўспамінае нашы прозьвішчы і разьмясьціла фатаграфіі. Гэта значыць, што ўсё больш людзей у сьвеце будуць ведаць пра Луна. Дакладна так «ЛУНА» называе пісьменьніца наша мястэчка.



Вольга Іпатава, Лявон Карповіч і Віктар Дубіцкі ля крыжа 40 паўстанцам. Мінявічы. 2006 год. Ілюстрацыя з кнігі Вольнгі Іпатавай «Свабода да апошняга дыханьня»

На працягу стагодзьдзяў Беларусь страціла незьлічоную колькасьць сваіх гісторыка-культурных каштоўнасьцяў. Вынішчалася ўсё: пачынаючы ад мовы і канчаючы лясамі і балотамі. У 1919 годзе быў забіты апошні зубр. У 1961-узарвана Фара Вітаўта...

Гэтаму ёсьць тлумачэньне: вынішчалі ворагі, акупанты. Здавалася, што з атрыманьнем Незалежнасьці лавіна вынішчэньня павінна спыніцца. Але гэтага не адбылося. Цяпер вынішчэньнем заняліся? грамадзяне Незалежнай Беларусі. Дзе з ініцыятывы ўладаў, дзе зь іх «молчаливого согласия». Не мінаваў гэты працэс і навакольлі Луны. У 2005 годзе зьнішчаны «цікавы камень», што ляжаў «каля в. Камянчаны Луненскага сельсавету, паблізу дарогі з Луна на Гродна. У народзе яго завуць Турэцкая шапка і расказваюць, што падчас нашэсьця туркаў адзін з іх згубіў тут сваю шапку» (стар. 34, «Памяць» Мастоўскі раён). За зьнішчэньне гэтага помніка прыроды і гісто-

рыі ніхто не панёс адказнасьці, хоць спраўцы вандалізму добра вядомыя. Раз няма адказнасьці, то вандалам зялёная дарога.

У жніўні 2009 года ля Луненскай школы зьнішчана больш за 20 дрэў з таго, што яшчэ заставалася ад старажытнага цудоўнага парка вакол былога палаца Ромэраў. Вынішчаны самыя каштоўныя забытковыя дрэвы, у тым ліку найпрыгажэйшыя амэрыканскія сосны. Гэта тыя сосны, якія перажылі і будаўніцтва новай школы і рэканструкцыю 2005 года! Гэтым летам знайшлася рука, што падняла пілу. Але па чыйму загаду. Лічу, што такіх «герояў» павінна ведаць уся Беларусь. Не пашкадавалі і самага вялікага, магчыма на ўсю Беларусь, топаля (больш 6 мэтраў у абхваце).

Ляжыць ён як паверժаны волат ля сваёй укаханай рачулкі Лунянкі, абняўшы яе сваімі магутнымі, але ўжо мёртвымі, галінамі-рукамі. Ляжыць як сымбаль усяго Беларускага, непрынятага, нялюбага, зьнішчанага сваімі сынамі.





Дрэва, якое бачыла Элізу Ажэшка і якога ўжо няма з чалавечай волі. Паверажаны волат

Сакратар сельскага савету казала, што пілавалі старыя дрэвы. Але ад таго, што сьпілавалі кедравую хвою, яна ў шоку. Няхай жа гэты шок выльецца ў справядлівае згодна з заканадаўствам пакараньне вандалаў!

Але будынак «старой» школы, ці тое, што ад яго засталося застаўся стаяць непарушна як сымбаль «новага парадку». Уваход у гэты стары будынак «упрыгожаны» фашысцкай свастыкай, над дзьвярным праёмам надпіс «БАР», вакол кучы сьмецьця і бутэлек. Гэта і вынік і сымбаль выхаваўчай працы, сымбаль узроўню адукацыі і культуры. І нікога ўсё гэта не турбуе. Мы ж талерантныя.

Зьнішчэньне магутнага топаля некаторыя «абаронцы прыроды» тлумачаць небясьпекай, якую стварала дзерава. Маўляў галіны маглі абламацца і само дзерава магло ўпасьці. Можна было б зразумець гэтыя тлумачэньні, калі б з такіх пазыцый аднясьліся б да будынка старой школы. Але ж не. У былой сельгасхіміі пазьнішчалі прыгодныя для ўжытку капітальныя бу-

дынкі, узарвалі воданапорную вежу — помнік архітэктуры, на былым цагельным заводзе ўзарвалі высозную трубу, літаральна закапалі ў зямлю будынак амбуляторыі, дзе маглі бы быць зроблены добрыя кватэры. Гэтыя збудаваньні нікому не пагражалі. А будынак старой школы, які штодня можа прынесьці дзіцячую трагедыю, стаіць нерухома. У нашых суседзяў за мяжой зусім другі падыход да помнікаў прыроды. Падобныя дрэвы агароджваюць і ўсталёўваюць спэцыяльныя знакі і таблiцы.

## Аграгарадок

Фэномэн «аграгарадка» зьяўіўся ў сярэдзіне 2000-х у Беларусі ў сувязі з прыняцьцем Дзяржаўнай праграмы адраджэньня і разьвіцьця сяла на 2005–2010 гады. Ідэя гэта ня новая. На маёй памяіці Мікіта Хрушчоў, калі заплянаваў, што «нынешнее поколение советских людей будет жить при коммунизме», а папярэдне вырашыў дагнаць і перагнаць Амэрыку, размахнуўся зьнішчыць «непэрсьпэктыўныя» вёскі і пабудаваць «агрогорода». Пачалася «хімізацыя, мэліярацыя» і «кукурузацыя» сельскай гаспадаркі. Як вынік у крамах узьніклі чэргі за хлебам.

Ідэя не памерла. Так на Ўкраіне поўным ходам ідзе праца над сумесным Украінска-Польскім праектам «Аграгорад» у Луганскай вобласьці. Чатыры Вышэйшыя навучальныя ўстановы працуюць над распрацоўкай і рэалізацыяй праекта коштам у 300 млн. эўра. Вучоныя і студэнты прымаюць непасрэдны ўдзел у ажыцьцяўленьні сваіх напрацовак і нясуць адказнасьць за іх эфэктыўнасьць. Будуюцца магутнасьці па вытворчасьці, захаваньні і перапрацоўцы сельскагаспадарчай прадукцыі. У адпаведнасьці з плянам праекта, цэнтральная частка аграрнага гарадка будзе ўтрымліваць лягістычныя аб'екты, склады, а таксама арганізацыі вытворчых фірмаў. На частцы тэрыторыі будзе разьмяшчацца прамысловая зона. Прадугледжваецца ажыцьцяўленьне дзейнасьці будаўнічых прадпрыемстваў, захоўваньне гародніны і садавіны, будзе функцыянаваць завод па іх перапрацоўцы і глыбокай замарозцы, заплянавана дзейнасьць завода хіміі для фэрмэраў, завода ўпакоўкі і плястмасавых вырабаў.

Тут разьмесьцяць офісные цэнтры аграрных арганізацый, крытыя і аптовыя рынкі, лябараторыі, а таксама будуць створаны месцы для гандлю сельскагаспадарчай тэхнікай і абсталяваньнем, чакаецца арганізацыя таварнай біржы сельгаспрадукцыі, дзейнасьць прадпрыемстваў, якія ажыцьцяўляюць упакоўку прадуктаў.

Кіраўніцтва нашай краінай, як заўсёды, вырашыла ісьці сваім шляхам. Па выніках таго, які «агрогородок» атрымаўся з Луна, гэты шлях выглядае так. Распрацоўшчыкі Праграмы выбралі самае дабітае беларускае мястэч-

ка і на яго аснове сфармулявалі «нарматывы дзяржаўных сацыяльных стандартаў». І тады выйшла, што «Аграгарадок — гэта добраўпарадкаваны населены пункт у сельскай мясцовасьці, у якім створана вытворчая і сацыяльная інфраструктура для забесьпячэньня сацыяльных стандартаў насельніцтва. Як правіла, у аграгарадку пражывае менш за тысячу чалавек». Далей працэс ішоў так. Якісьці там намесьнік раённага архітэктара маляваў на кавалку паперы, як з яго пункту гледжаньня павінен выглядаць так званы «агрогородок». Астатняе начальства не гледзячы зацьверджвала «дакумэнт», а далей заставалася дробязь: «асвоіць» выдзеленыя сродкі. У Луна большую частку грошай засвоілі на разбурэньне асфальту на плошчы Герояў і прылягаючых вуліцах. Гэта была складаная і аб'ёмная праца, бо ў некаторых месцах таўшчыня пакладзенага асфальту даходзіла да 30 см. Павыдзіралі магутнай тэхнікай і камяні бруку, укладзенага паштучна на плошчы і па большасьці вуліц мястэчка. І зьнікла надзея, што праз пэўны час гэты нібыта асфальт, згодна з сваёй карэннай якасьцю развальвацца, праз некалькі гадоў зноў адкрые той першапачатковы брук. Потым увесь гэты груз трэба было вывезьці на сьметнік. У выніку падрыхтаваны для бытавога сьмецьця сьметнік быў поўнасьцю завалены выдраным з плошчы асфальтам. Паклалі новы асфальт згодна з новай пляніроўкай плошчы і з газонамі, які сталі галаўной боллю ўстаноў, да якіх гэтыя газоны прылягаюць. Бо ні тэхнікі, ні людзей па дагляду гэтых газонаў няма. На плошчы стала недастаткова месца для стаянкаў легкавых аўтамабіляў, асабліва на хрысьціянскія сьвяты і пахаваньні. Нашы продкі плошчу замасьцілі камянямі так, што на ёй ніколі не было лужынаў. Новы асфальт паклалі так, што лужыны стаяць нават у сухую пагоду. Наступнай задачай стваральнікаў «агрогородка» было зьнішчэньне ўсяго таго, што было звыш «нарматывыаў дзяржаўных сацыяльных стандартаў».

Вось кароткае паведамленьне аб этапах «адраджэньня вёскі» у Луне: «І без таго нялёгкае жыцьцё ў вёсцы Луна некалькі месяцаў таму перастала быць салодкім. Кандытарскі цэх зачынілі. Гарадзкія дзеці, што прыяжджаюць на вакацыі да бабуляў зь дзядулямі, болей ня змогуць ласавацца пернікамі. Але гэта ўсё дробязі ў параўнаньні з тым, што чатыры чалавекі згубілі працу. Сярод ахвяраў скарачэньня — спадарыня Алена. 2007. Віталіна Грахоўская».

Наступным этапам было змаганьне за бальніцу. Ачоліў гэта змаганьне дэпутат мясцовага савету, сябра Партыі камуністаў Беларускай Аляксандар Пудаўкін. Тады яшчэ ўлады дазволілі ўвайсьці ў склад дэпутатаў сельскага савету прадстаўніку ад Партыі камуністаў Беларускай. Цяпер гэта ўжо выглядае фантастычна. Аляксандар Пудаўкін пісаў ва ўсе інстанцыі, хадзіў на прыёмы да мясцовых чыноўнікаў... Але і ён нічога ня мог дамагчыся.

Яшчэ ў 2003 годзе Мастоўскі райвыканкам заплянаваў рэарганізацыю бальніцы ў Луна на 25 ложак у амбуляторыю. Прычым бальніца гэтая існавала ў вёсцы амаль з пасьляваенных часоў. Жыхары не пагадзіліся з яе за-

крыцьцём і накіравалі ў райвыканкам больш за тысячу подпісаў. Тады бальніцу захавалі.

У 2004 годзе яе закрылі на рамонт. І да пачатку мая 2006-га яна працавала як стацыянар на 10 ложкаў. Пасьля зноў пачаліся размовы пра закрыцьцё. Вяскоўцы зноў сталі дасылаць лісты: у прэсу, Міністэрства аховы здароўя, адміністрацыю прэзыдэнта. Адказ заўсёды быў аднолькавы: як вырашыць мясцовы райвыканкам, так і будзе.

Старшыня мясцовага сельсавету Ніна Воран разводзіць рукамі: «Мясцовае рашэньне не прымалася, каб закрыць шпіталь. Мы самі бачым, што ён патрэбны. Гэта было зроблена на загад міністэрства».

Галоўны ўрач Мастоўскага ТМА Алег Трушко лічыць, што шпіталь перавялі ў рэжым дзённага стацыянару абгрунтавана. Ён сам удзельнічаў у падрыхтоўцы даведкі на гэты конт. Маўляў, усё было ўлічана і ніякіх скаргаў ад насельніцтва няма: «Тут усё нармальна. Па Мастоўскім раёне паказчык па месца-ложках перавышае сацыяльна-мінімальны стандарт, і ён значна вышэйшы, чым мінімальны. Таму людзі ў нашай дапамозе не абмежаваны».

У жніўні мінулага года райвыканкам вырашыў бальніцу ліквідаваць. Засталася толькі амбуляторыя. У выніку ўжо ёсьць чалавечая ахвяра ад такога рашэньня.

Васьмігадовы Максім Якубеня памёр у роднай вёсцы Луна Мастоўскага раёну Гродзенскай вобласьці, не патрапіўшы ні ў мясцовую бальніцу — яе ліквідавалі, ні ў амбуляторыю — у нядзелю яна не працуе.

Бліжэйшая лякарня знаходзіцца ў 25 кілямэтрах. «Хуткая» адтуль едзе каля гадзіны. Як адбылася гісторыя, расказвае бацька Максіма Юрый Якубеня:

«Максім ехаў на аўтобусе з яго бабуляй. Бегаў каля аўтобуса, гуляў. І перад аўтобусам упаў. Яго данесьлі ў аўтобус. І адразу хутка паляцелі ў Луна ў амбуляторыю. Луненская амбуляторыя была закрытая. Папрасілі кіроўцу, каб ён адвёз да нашых мясцоых урачоў.

Ну, урача выклікалі, пад'ехалі пад яго дом. Урач выйшаў і сказаў, што ўжо ўсё... дзіця мёртвае».

Зьдзіўляе, як мэтанакіравана і пасьлядоўна зьнішчаўся ў Луне мясцовы базар.

На першым этапе быў зьнішчаны стацыянарны навес, сьцены якога былі вымураваны з белай цэглы. На фоне гэтай сьцяны на Сьвята 25 сакавіка я сфатаграфаваў майго ўнучка Мікіту. Калі гэты навес разбурылі, старшыня сельсавету Ніна Воран з задавальненьнем паціраючы рукі сказала: «Ай як добра. Нарэшце Карповічу ня будзе дзе пісаць свае лёзунгі». Хоць мне няёмка адмаўляцца, але і прысвойваць чужыя патрыятычныя ўчынкі я не магу. Таму павінен шчыра прызнацца, што ні разочку на гэтай сьцяне я нічога не пісаў. Вядома, я ведаю хто гэтыя надпісы зрабіў. Але па пэўных і зразумелых прычынах да пары гэтага напісаць не магу.




Дзень Волі

Але базар працягваў дзейнічаць. Тады вырашылі на месцы базару пабудаваць дамы. Што і зрабілі. І што б вы думалі? Людзі працягвалі гандаль на праежджай частцы пад вокнамі пабудаваных дамоў. Праўда ён звузіўся толькі да куплі-продажу парасят. Гандлявалі паводле дзіўнай традыцыі з 3 гадзін ночы да 6 гадзін раніцы і таму не надта заміналі транспарту. Але нагода да ўмяшальніцтва ўладам была. Базар перанесьлі на... скрыжаваньне на ўезьдзе ў мястэчка, дзе праходзіць галоўная шаша. Нарэшце дадумаліся перанесьці гандаль парасятамі, бо гэта ўжо быў не базар, на пустую тэрыторыю за варотамі былой Сельгасхіміі і прызначылі свой час гандлю: з 9 гадзін раніцы, калі пачынаўся рух транспарту да складоў у былых памяшканьнях Сельгасхіміі. Так базар у мястэчку, на вядзеньне якога ў былыя часы каралі і Вялікія князі давалі прывілеі, канчаткова быў зьнішчаны.

Як ацанілі жыхары Луна «адраджэньне» вёскі? Вось запіс інтэрв'ю адной з жыхарак для радыё «Свабода»:

«24.04.2008. Вось на лаўцы, побач з домам, сядзіць бабуля і пра нешта даволі голасна размаўляе — напэўна, з суседкай. Я знаёмлюся: Лізавета Жураўлёва — пэнсіянэрка, былая мэдсястра. Зараз спадарыня Лізавета жыве адна.

Жураўлёва: «Зусім адна. Праўда, сын у Горадні, але ведаеце, як сыны дапамагаюць — не прыедзе часта, вось і ўсё».

Карэспандэнт: «Пэнсіі хоць хапае на пражыцьцё?»

Жураўлёва: «Я прапрацавала 40 гадоў мэдсястрою й маю 360 тысяч пэнсіі».

Карэспандэнт: «Можа, дзяржава яшчэ нечым дапамагае вам?»

Жураўлёва: «Ды чым яна дапамагае. Нават ніхто ў хату не загляне, як я жыву».

Карэспандэнт: «Ну, суседзі ўсё ж заходзяць?»

Жураўлёва: «Няма ніякіх суседзяў. Як памру, то буду тры дні ляжаць. У гэтай хаце пуста, у наступнай таксама, і насупраць ніхто не жыве».

Карэспандэнт: «Здаецца, у вас тут такое вялікае мястэчка некалі было».

Жураўлёва: «А працы няма. Зачынілі сьвінарнік, малочны комплекс таксама, цагельню зачынілі, бальніцу — засталася толькі амбуляторыя. І ўсё. Людзі ходзяць толькі ў калгас».

Карэспандэнт: «А там хоць трохі зарабляюць?»

Жураўлёва: «Ды што яны зарабляюць... Вось трактарысты зараз 150 тысяч у месяц атрымліваюць. Гэта летам трохі болей выходзіць, а зараз няма работы».

Карэспандэнт: «А вы тэлевізар глядзіцё?»

Жураўлёва: «Вядома».

Карэспандэнт: «Там жа паказваюць, што ня ўсё так дрэнна ў нас?»

Жураўлёва: (сьмяецца) Махляр. Дабавіць нейкіх 10 тысяч, а ў краме цэны на 20 тысяч падымуцца. І няма чаго ўжо ісьці ў тую краму».

Карэспандэнт: «Дык што, ня вераць людзі ўладзе ўжо?»

Жураўлёва: «Ня вераць, ня вераць. Дый што верыць? Цэны паднялі, пэнсіі не дабаўляюць, вось людзі й кажуць, што прэзыдэнт наш дрэнны, грошай мала дае».

Такі вось парадокс: Дзяржаўнай праграмы адраджэньня і разьвіцьця сяла прывяла ў былом мястэчку Луна да новых зьнішчэньняў і скукожваньня вёскі.

## «Выбары»

«Выбары ня толькі Закон, але
і ПАЛІТЫКА. Ад ПАЛІТЫКІ ЎСЁ
ЗАЛЕЖЫЦЬ».
З выступу Старшыні ЦВК Л. Ярмошынай
На БТ 10.07.2008

Думаю варта адвесьці некалькі слоў тэме выбараў ужо з-за таго, што я быў непасрэдным удзельнікам амаль усіх так званых «выбарчых кампаній» або ў якасьці назіральніка, або ў якасьці кандыдата, або ў якасьці, нават, «члена» выбарчай камісіі. Гэтыя матэрыялы дадаюць спэцыфічную рысу да разуменьня агульнай сытуацыі, даюць магчымасьць зрабіць высновы, чаму час, як прынята казаць, стаў такі. Як часта мы гэта чуем: «Такі час!» І гэтым выразам лічым, што вытлумачылі ўсё і ўжо ня трэба шукаць адказу на пытаньне, чаму ж гэты час «такі»? Я з гэтай фразай катэгарычна не пагаджаюся, бо лічу, што час заўсёды аднолькавы, такі, якім яго стварыў Бог. А мы яго напаўняем сваімі дзеяньнямі, размалёўваем у той ці іншы колер і, калі размалявалі няўдала ці зусім пачварна, адкідаем ад сябе віну: «Не, мы тут не пры чым, такі час».

Немагчыма растлумачыць Эўрапейцам факты прымусовага датэрміновага галасаваньня. Свабодны чалавек ня можа зразумець чалавека, які жыве ў краіне з прыгонным правам! Начальнік на прадпрыемстве адкрытым тэкстам загадвае сваім падначаленым абавязкова прагаласаваць датэрмінова, пагражаючы ў выпадку невыкананьня загаду, звальненьнем з працы. Спробы абскардзіць ці абнародаваць такія факты аўтаматычна вядуць да звальненьня з працы і ніякі суд не дапаможа аднавіць справядлівасьць.

У адпаведнасьці з арт. 53 ч.1 Выбарчага Кодэксу Рэспублікі Беларусь «Выбаршчык, удзельнік рэфэрэндуму, НЕ МАЮЧЫ МАГЧЫМАСЬЦІ ў дзень выбараў, рэфэрэндуму ЗНАХОДЗІЦЦА ПА МЕСЦУ СВАЙГО ЖЫХАРСТВА, мае права...» і г.д. па тэксту.

Па «беларускаму» радыё і тэлебачаньню вядзецца агітацыя за датэрміновае галасаваньне і СКАЖАЕЦЦА Выбарчы Кодэкс Рэспублікі Беларусь. Дыктарскі тэкст гучаў так: «Калі хто ня мае магчымасьці прагаласаваць 28 верасьня, то МАЕ ПРАВА ПРАГАЛАСАВАЦЬ ДАТЭРМІНОВА» — што не адпавядае арт.53 ч.1 Выбарчага Кодэкса Рэспублікі Беларусь і чым выбаршчыкі ўводзяцца ў зман і парушэньне Закону. У справе датэрміновага галасаваньня парушэньні Выбарчага Кодэкса ўведзена ў ранг дзяржаўнай палітыкі.

Для вырашэньня гэтых самых задач служыць галасаваньне па месцы жыхарства. Таму і тут улады ідуць на прамое і адкрытае парушэньне Выбарчага Кодэксу. Як звычай, ніякіх заяў ад выбаршчыкаў аб галасаваньні па месцы жыхарства, за рэдкім выключэньнем, не паступае. Пачакаўшы да гадзін 12 у дзень галасаваньня, сакратаром камісіі робіцца выбарка са сьпісаў выбаршчыкаў, хто яшчэ не прагаласаваў. Даюцца бюлетэні членам камісіі і тыя адлоўліваюць людзей, у лепшым выпадку, дзе змогуць: на вуліцы, на працы, у гасьцях і г. д. Пра ніякія пашпарты, якія павінны прад'яўляцца пры атрыманьні бюлетэня, тут ужо размова не ідзе. У горшым выпадку, члены камісіі нікога не ловяць, а самі ўкідваюць бюлетэні ў скрынку. Часьцей за ўсё спалучаюцца гэтыя абодва «мэтады».

Па афіцыйным дадзеным на Луненскім участку па месцы жыхарства прагаласавала тых жа 28%-217 выбаршчыкаў. Фактычна-больш за 300.

Нават згодна з афіцыйнымі дадзенымі, пры адсутнасьці датэрміновага галасаваньня і галасаваньня па месцы жыхарства, выбары на Луненскім выбарчым участку №58 не адбыліся б. Пра парушэньні Закона пры фармаваньні выбарчых камісій нават сорамна пісаць. Можа ўспомнім толькі пра адну акалічнасьць. У складзе выбачай камісіі на Луненскім участку былі: дырэктар школы-старшыня і два настаўнікі з гэтай школы, сакратар камісіі — сакратар сельсавету, яшчэ тры работніка сельсавету і тры калгасныя чыноўнікі...

Праводзімыя ў часы кіраваньня Лукашэнкі «выбары» не адпавядаюць ня толькі крытэрыям Эўразьвязу, але цалкам не адпавядаюць існуючаму на Беларусі Выбарчаму Кодэксу. Таму, перш чым мяняць Выбарчы Кодэкс,

трэба выпрацаваць мэханізмы яго строгага выкананьня. Без гэтых мэханізмаў ніякія зьмены выбарчага права плёну не дадуць.

Праз год апазыцыя вырашыла прыняць удзел у «выбарах» у мясцовыя Саветы. Я паслухаўся сяброў і вылучыў сваю кандыдатуру. Абышоўшы пакватэрна сваіх суседзяў па вуліцы Гродзенскай і сабраўшы адпаведную колькасьць подпісаў, я падаў дакумэнты на рэгістрацыю. Калі і засталіся ў мяне добрыя ўспаміны аб гэтым маім кандыдатстве, дык гэта тое, што ў рамках выбарчага турнэ па Гарадзеншчыне наведаў Луна старшыня партыі «Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада» Станіслаў Шушкевіч.



Першы кіраўнік незалежнай Беларусі наведаў Луна. Здымак у двары дому Карповіча на разьвітаньне. 19.04.2010 11:17

Першы кіраўнік незалежнай Беларусі прыехаў у мястэчка падтрымаць Лявона Карповіча, які балятуецца ў Луненскі сельскі і Гродзенскі абласны Саветы дэпутатаў ад партыі БСДГ. Чым зьдзіўляе постаць Станіслава Шушкевіча найбольш? Гэта яго свойскасьць. Ніхто не адчувае сябе няёмка пры гэтым выбітным чалавеку, не адчувае сябе непаўнавартнастным, бо паводзіць ён сябе з усімі проста, з павагай, без ніякага намёку на сваю выключнасьць.

На вялікі жаль у сельскім клюбе сабралася ня больш 30 чалавек, зь якіх палову — «байцы ідэалягічнага фронту» ня толькі мясцовыя, але і з

раёну. Але асабліва нешта казаць гэтым «байцам» не выпадала. Загадалі ім папрысутнічаць, вось яны і «павялічылі аўдыторыю».

Ідучы на «выбары» ні я ні мае сябры ня мелі ілюзіяў. Штуршком да балятаваньня ў кандыдаты ў дэпутаты стала цяперашняя прафанацыя дэпутацкага мандату. Мае выступленьні перад выбаршчыкамі былі такога зьместу:

Шаноўныя землякі!

Я, Лявон Карповіч, жыхар вёскі Луна Мастоўскага раёна, на працягу 40 гадоў вучыў дзяцей у школе і вучыўся сам. Пра сябе магу дадаць, што маю жонку, трох дачок і трох унукаў.

Чаму я вырашыў балятавацца кандыдатам у дэпутаты?

Перадусім я і мае сябры хочам, каб выбары былі сапраўды рэальнымі выбарамі, а не фармальным галасаваньнем, каб людзі выбіралі свайго прадстаўніка, а не проста галасавалі за выстаўленага ўладай адзінага і незаменнага кандыдата. Каб выбары былі галосныя, адкрытыя і справядлівыя.

Вам не даводзілася бачыць як ідзе падлік галасоў? Калі хто не ведае, раскажу. З выбарчых скрынак пасьля галасаваньня высыпаюцца бюлетэні і раздаюцца членам камісіі. Яны падлічваюць галасы «за» і «супраць», запісваюць лічбы на лісток, які пераварочваюць напісаным уніз і перасоўваюць па стале старшыне камісіі так, каб ніхто не ўбачыў напісаную лічбу. Затым старшыня абвяшчае агульны вынік. Пры тым ніхто не можа яго праверыць і сапраўдную лічбу ня ведае ні адзін член камісіі, акрамя старшыні.

Мы супраць такога падліку, бо пры нармальным падліку кожны член камісіі мусіць аб'яўляць вынік голасна.

Каб не было падману на кожныя выбары мы стараліся вылучаць у склад участковых выбарчых камісій нэйтральных і незалежных людзей, якіх прапаноўвалі самы выбаршчыкі, падпісаўшыся за іх у адпаведнай заяве. Аднак, яшчэ не было такога выпадку, каб такі незалежны чалавек быў уключаны ў камісію.

Мы супраць такога падыходу пры фармаваньні камісій.

Але чаму ж я ў такіх умовах вылучаюся кандыдатам у дэпутаты? Таму, каб расказаць праўду і каб вы самы маглі праверыць, што ў нас: сапраўды выбары ці проста галасаваньне.

Хто такі дэпутат і якім ён мусіць быць?

У кожнага з нас цэлых чатыры дэпутаты: сельскага, раённага, абласнога Саветаў і Палаты Прадстаўнікоў. У нашай вёсцы, калі ўзьнікла патрэба, цэлай вуліцай успаміналі прозьвішчы тых дэпутатаў, але так аніводнага і не ўспомнілі. Таму сам надумаўся стаць дэпутатам, але не такім, прозьвішча якога праз тыдзень пасьля выбараў ніхто ня можа ўспомніць. Па беларуску дэпутат — гэта паўнамоцны прадстаўнік насельніцтва, упаўнаважаны выконваць даручэньні выбаршчыкаў. Гэта і ёсьць мая праграма-мінімум: быць прадстаўніком насельніцтва і выконваць даручэньні выбарцаў.

Праблем на вёсцы безьліч. Найперш пра тое, што зьвязана з нашай будучыняй — пра дзяцей. У школах не хапае падручнікаў, спартыўнага і іншага абсталяваньня, абсалютна непрыгодныя для заняткаў фізкультурай школьныя стадыёны. Многія школьнікі кураць, брыдкасловяць... Настаўнікі, якія запрыгоненыя кантрактамі, атрымліваюць жабрацкія заробкі. У вёсцы бракуе годна аплочваемых працоўных месцаў. Паўсюль п'янства, нецэнзурная лаянка, дрэнныя вуліцы і дарогі (па вуліцы «Победы» у вёсцы Луна не толькі праехаць, нават прайсьці цяжка). Дрэннае і асьвятленьне гэтых кепскіх вуліц, няякасныя вадастокі, поўна закінутых сядзіб і безгаспадарчых будынкаў, нікчэмны асартымэнт тавараў у магазынах і г. д. Да навакольных вёсак зімой і вясной няма даезду... А калі ты захварэў, то ўсе кажуць, што лепш адразу памерці.

Многія з гэтых і іншых праблем вырашальныя, не патрабуюць вялікіх сродкаў. А чаго бракуе? Няма прадстаўнікоў насельніцтва, якія б выконвалі даручэньні выбарцаў.

У дэпутаты прызначаюць людзей, якія не хочуць займацца праблемамі людзей або не могуць імі займацца, бо баяцца. Праблемы існуюць паўсюдна і будуць заўсёды існаваць, а вось галоўнай праблемы — страху — не павінна быць. Пазбавіць людзей ад страху, знайсьці ў кожнай вёсцы актыўных сьвядомых грамадзян, пазнаць разам з імі шляхі разьвіцьця вёскі, магчымасьць пераадольваньня перашкод і вырашэньня праблемаў, нарэшце, стварыць грамадзянскую супольнасьць і закласьці асновы самакіраваньня. Каб чалавек паверыў у свае сілы і мажлівасьці і, галоўнае, перамог страх — гэта задача максымум.

Ці гэта мажліва? Калі нічога не рабіць, то не. Але я і мае сябры лічым, што не толькі мажліва. Мы верым, можам, пераможам!

Усе мы разам — людзі, здольныя з Божай дапамогай, зрабіць сваё жыцьцё і жыцьцё нашых блізкіх заможным, справядлівым і годным.

Таму я, Лявон Карповіч з вёскі Луна, і хачу стаць дэпутатам, што веру — я змагу годна прайсьці гэты шлях, і мае выбарцы будуць ведаць, хто іх дэпутат.

Паспрабуйце выбраць свайго дэпутата!»

Як і можна было чакаць, на «выбарах» я праляцеў. І мне і майму сябру кандыдату па суседняй вуліцы налічылі па 9 галасоў. Перамогу атрымалі альтэрнатыўная кандыдаты: прадавец крамы «Хозтовары» і намесьнік старшыні саўгаса па ідэалягічнай працы. На выбарах дзейнасьць гэтых абраных народам дэпутатаў пачалася і адразу пасьля «выбараў» закончылася.

Плянамернае зьнішчэньне мястэчка працягваецца... У 2018 годзе «прапала» наша рачулка Лунянка, пра якую вучаніца Луненскай школы Алена Сільвановіч напісала:

Цячэ каля хаты рачулка Лунянка
Якая ж радная яна!
Мне часта здаецца, што песенны Янка

З такой менавіта напоіць каня.
А побач Алёна ручнік свой упусьціць
І ён паплыве ў далягляд
Над ёю вярба свае косы распусьціць
І Нёман магутны заўсёды ёй рад.
Над ёю калісьці стаяла Ажэшка
Крашынскі маёнтак над ёй збудаваў
Лунянка- хрышчоная маці мястэчка
Яцьвяг легендарны яе ўпадабаў.
І Лунна не Лунна ўжо без Лунянкі
Як пэўна і тысячы іншых мясьцін
Дзе коцяцца воды маленькіх рачулак,
Сярод беларускіх раўнін.
Мне хочацца вельмі, каб нашы нашчадкі
Сказалі з любоўю ня раз:
«Вам дзякуем, продкі, за рэкі малыя,
Што вы захавалі для нас!»

Няма Лунянкі ў Луна-Волі! Па нечай абсурднай волі яе назвалі Стружкай. На запыт: Чаму? Адказ быў падобны да адказу Мітрафанушкі з «Недарасьля» Фанвізіна:

«Правдин. Дверь, например, какое имя: существительное или прилагательное?

Митрофан. Дверь? Котора дверь?

Правдин. Котора дверь! Вот эта.

Митрофан. Эта? Прилагательна.

Правдин. Почему ж?

Митрофан. Потому что она приложена к своему месту. Вон у чулана шеста неделя дверь стоит еще не навешена: так та покамест существительна.

Стародум. Так поэтому у тебя слово дурак прилагательное, потому что оно прилагается к глупому человеку?

Митрофан. И ведомо».

Зьмена назвы рачулкі Лунянкі на Стружку раённые начальнікі растлумачылі тым, што рэкі называюцца ад назвы месца, дзе яны пачынаюцца!? Калі яны ўзначаляць міністэрства, то ўсе рэкі Беларусі згубяць свае назвы.

Хуткімі тэмпамі ідзе зьнішчэньне ўнікальнай архітэктуры мястэчка.

Вось як пра гэта піша кандыдат гістарычных навук (доктар гісторыі) дацэнт Леанід Смілавіцкі: «У старыя дамы ўстаўляюць плястыкавыя вокны, мяняюць форму аконных праёмаў, памяншаюць уваходныя парталы. Такімі тэмпамі былое мястэчка Луна неўзабаве рызыкуе пацьвердзіць статус, які яму надало дзяржава: „аграгарадок“. Сытуацыю можа зьмяніць толькі наданьне ўсяму ансамблю старога Луна статусу гісторыка-культурнай каштоўнасьці. Гэта патрабуе афіцыйнага дазволу і фіксацыі помнікаў, абазначэньня іх на архітэктурным пляне, складаньня архіўна-бібліягра-

фічнай даведкі і гістарычнага абгрунтаваньня. Вядома, краязнаўцам гэта не пад сілу».

Што станоўчага адбылося ў мястэчку за апошнія гады, чым можна пахваліцца? Не вельмі багата. Але адна з такіх падзей гэта тое, што стала харошай традыцыяй штогадовае ўрачыстае адзначэньне народзінаў паэта Міхася Явара. Зьбіраюцца ўшанаваць памяць паэта ня толькі Луненцы, але і госьці з Мастоў, Гродна... Абавязкова прымаў ўдзел Алесь Белакоз.



Ўдзельнікі акцыі па ўшанаваньні памяці Міхася Явара на могілках у Падбаранах (Радзівонаўцах) ля магілы Міхася Явара. Фота Мікіты Ганца

Міхась Карась (Явар) — будучы паэт нарадзіўся 8 лістапада 1903 года ў вёсцы Мінявічы, якая знаходзіцца ў непаўторных па прыгажосьці мясьцінах на беразе Нёмана.



Мінявічы. Домік, дзе нарадзіўся і жыў Міхась Явар

Тут прайшло яго дзяцінства. Распачалася Першая сусьветная вайна, і ён з бацькамі ў 1915 годзе ў прымусовым бежанстве. У дваццатыя гады вярнуліся дамоў ды пабачылі, што вёску спалілі казакі. У дарозе дамоў абрабавалі бальшавікі і ў дадатак польскія памежнікі. Зямлі было мала, а сям'я вялікая: маці, малодшы брат Васіль і сёстры Люба ды Вольга. Каб дапамагчы сям'і, пачаў рыбачыць. Добра ведаў рыбныя мясьціны, лавіў шмат ды прадаваў у мястэчку Луна. Па дарозе сьпяваў. Меў цудоўны голас. Стаў актыўным дзеячам Беларускай сялянска-рабочай грамады. Вось толькі тэрор, які разьвязалі камуністы ў Савецкай Беларусі супроць нацыянальных патрыётаў, успрыняў балюча. Акрамя грамадзкай дзейнасьці, піша вершы, друкуецца ў часопісе «Шлях моладзі», беларускіх газэтах, арганізоўвае вечары з пастаноўкай п'ес, з песьнямі і танцамі. Кахаў вясковую дзяўчыну Анісю. Аднак бацькі не дазволілі ім пажаніцца. Нёман даў хлопцу пра сябе знаць, і ён захварэў на сухоты, невылечную тады хваробу. 24 ліпеня 1933 года быў прыгожы сонечны дзень. Анiся падымалася ад ракі на бераг. Насустрач ёй ішоў Міхась. Ён узяў дзяўчыну за руку і запытаў: «Ці хочаш ты жыць?» — «Я баюся сьмерці», — адказала яна. «Тады жыві сабе», — сказаў хлопец. Падышоў да грушы, зьняў каптан, акуратна паклаў яго воддаль і выстраліў сабе ў грудзі. Малодшая сястра здагадвалася аб яго намеры, падкралася і ў момант стрэлу штурхнула ў локаць. Гэта спрычынілася да таго, што куля не патрапіла ў сэрца. Хлопца адвезьлі ў Гродзенскі шпіталь, дзе ён памёр 27 ліпеня.



Алесь Белакоз ля помніка на магіле Міхася Явара

Міхась Явар меў вялікую пашану ў людзей, таму, нягледзячы на яўнае самагубства, яго пахавалі на могілках у Навасёлках, непадалёку ад Нёмана. У 1991 годзе Алесь Белакоз на сэсіі Луненскага сельсавета распавёў дэпутатам пра лёс Явара, яго творчасьць, прачытаў вершы паэта. Пасьля гэтага дэпутаты выказаліся аднагалосна за перайменаваньне вуліцы Энгельса ў вуліцу Явара (па гэтай дарозе шмат разоў хадзіў паэт у мястэчка з рыбаю на продаж). Заблішчэў ярка падаючай зоркай, рана пакінуў сьвет, затым вярнуўся да нашчадкаў цярністым шляхам з небыцьця дзякуючы намаганьням Алеся Белакоза. Стараньнямі Алеся Белакоза і старшыня сельсавета Валянціны Карповіч на магіле паэта паўстаў мармуровы помнік. Грамадзкія актывісты Мастоўшчыны некалькі разоў рабілі талаку па ўпарадкаваньню месца пахаваньня паэта і традыцыйна праводзяць штогод напрыканцы ліпеня літаратурны фэст у гонар Міхася Явара. На яго часам зьяжджаюцца творцы з усяе Гарадзеншчыны.

«О, мой Нёман мілы,
О, мой Нёман родны,
Толькі ты застаўся верным
У маім жыцьці, у маім каханьні...»

Вось і 25 жніўня 2012 г. адбылася традыцыйная імпрэза па ўшанаваньні памяці беларускага сялянскага паэта, актывіста ТБШ і Грамады Міхася Явара.



Удзельнікі акцыі па ўшанаваньні памяці Міхася Явара ля памятнага каменя «Марам Міхася Явара». Сярод іншых Алесь Белакоз і Тацьцяна Грыневіч

«Зь зямлі, вякамі, што ў няволі
Стагнала пад чужой пятой,
Зь зямлі, палітае крывёй,
Узрасьце сьвятая кветка волі.»




Талака ля каменю Міхася Явара 28.06.2014

24 студзеня 2013 г. у гродзенскай галерэі «Крыга» адчынілася выстава мастацкіх работ, прысьвечаная 150-годзьдзю Паўстаньня пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Мастак, вядомы не толькі ў Гродне, але ў Польшчы, Літве, Расеі як майстар пэйзажу, нацюрморту, гарадзкога пэйзажу, марыніст Валер Стратовіч намаляваў партрэт Яна Каменьскага і прапанаваў яго для агляду на гэтай выставе.



Ян Каменьскі. Праца мастака Валера Стратовіча

На мясцовых каталіцкіх могілках ушаноўваецца магіла невядомага жаўнера і магіла паўстанца Яна Каменьскага.



Жыхары Луна і госьці з Гродна ля магілы паўстанца Яна Каменьскага. 2011 год

Сюды штогод наведваецца дэлегацыя з генэральнага Консульства Рэспублікі Польшча ў Гродне і сябры Саюзу палякаў на Беларусі.

3 кастрычніка 2009 года на турыстычнай карце Беларусі зьяўілася, бадай, першая тэматычная вёска. 40 дарослых і 20 дзяцей зрабілі вандроўку «Наднёманскія легенды».



Удзельнікі вандроўкі «Наднёманскія легенды»

Падзея азнамянавала нараджэньне тэматычнай вёскі «Луна-Вёска Наднёманскіх Легендаў» і прысьвячалася Году Роднай Зямлі.



Хор з Камянкі сьпявае песьні на беразе Нёмна на заканчэньне вандроўкі

Вандроўка суправаджалася аповедам легенд, знаёмствам з гісторыяй Луны, рознымі адукацыйнымі і разьвіваючымі гульнямі на працягу 4 гадзін і закончылася пачастункам ля вогнішча на беразе Нёмна печанымі каўбаскамі, гарбатай з травяных збораў ад сяброў са школы імя Элізы Ажэшкі з Мількаўшчыны і чароўнымі сьпевамі хору з Камянкі. У вёсцы зьяўілася супольнасьць улюбёных у свой край энтузіястаў, якія гатовыя прыняць у любы час групу турыстаў, каб правесьці іх шляхам «Наднёманскіх легендаў» — шляхам, напоўненым легендамі, гульнямі й забавамі.

23.12.2016, нядзеля быў у касьцёле. Звычайна ў касьцёле на службе прысутнічае каля 100—150 вернікаў. На гэты раз уразіла прысутнасьць каля 30 дзетак, якія з запаленымі сьвечкамі абышлі касьцёл па пэрымэтру і сталі перад алтаром, дзе прынялі ўдзел ва ўсёй службе. Па заканчэньню выйшлі з касьцёла з запаленымі сьвечкамі. Гэта было прыгожа. Магчыма для некаторых гэта першы крок насустрач Богу. Арганізатарам была выхавальніца з дзіцячага садка Лунеўская Елена Антонаўна.

Прыгожа сьпявалі на хорах. Харысты-людзі розных пакаленьняў, у тым ліку цудоўныя маладзенькія хлопчыкі і дзяўчынкі. Сьпевы суправаджаюцца прыгожай арганнай музыкай.

На найвялікшае Сьвята па Луне вандруюць каталіцкія і праваслаўныя Калядніки. Вось і 25.12. а 19-й гадзіне прыходзілі прыгожанькіе дзяўчынкі з Каляднай зоркай. Цудоўна расказвалі вершыкі і сьпявалі Калядныя песьні на польскай і беларускай мове.

Час рухаецца наперад. У 2016 годзе была выдадзена кніжка Лявона Карповіча «Маё мястэчка Луна — Воля» з гэтым зьместам у сэрыі «Краязнаўцы Беларусі», дзякуючы выдавецкай ініцыятыве «Гарадзенская бібліятэка». Улады не дазволілі правесьці публічна прэзентацыю кніжкі ў мястэчку Луна. Прэзентацыя адбылася ў падворку дома Лявона Карповіча. Сабралася каля 40 чалавек.



Прэзентацыя кнігі «Маё мястэчуа Луна-Воля» у двары дому Лявона Карповіча 2 ліпеня 2016 года

У 2021 годзе за падобнае мерапрыемства зьбіваюць, судзяць, штрафуюць і кідаюць у турму...

У 2019 годзе я зрабіў пераклад і была надрукаваная кніжка пра мястэчка Луна-Воля на польскай мове «Moje miasteczko Łuna-Wola».

Прайшлі яшчэ гады... Гады падобныя адзін на адзін, калі амаль нічога, вартага апісаньня, не адбываецца. Час як бы запыніўся. Толькі мястэчка і людзі ў ім старэюць... І па ранейшаму тячэ прыгажун-Нёман, нібы не зьвяртаючы нінашто ўвагі. Калі наведваюць Луна-Волю рэдкія турысты і пападаюць на вуліцу "Перамогі" ("Победы"), то неяк пераглядваюцца і загадкава ўсьміхаюцца. У год сьвяткаваньня 75-годзьдзя Перамогі вуліца «Победы» у аграгарадку Лунна выглядае вось так:



Вуліца «Победы». 2020 г.

2020. Чаша цярпеньня перапоўнілася... Усенародны пратэст...



Неверагодныя

і крывавае падаўленьне...



«Касманаўты» на вуліцах Беларускіх гарадоў

2021. Год поўны НАДЗЕІ і жахлівых падзей... Каранавірус працягваецца... 25.03.2021 - Дзень Волі і Дабравесьце - мяне арыштавалі за Бел-Чырвона-Белы Сьцяг, вывешаны ў гонар Сьвятаў на маім доме...



Каранавірус у беларускіх фарбах

# Храналёгія падзеяў з гісторыі мястэчка Луна — Воля

*Дадзяржаўны пэрыяд (да 1248 г. да Н.Х.)*

100 000 г. таму першабытны чалавек пакінуў свае сьляды на этнічнай тэрыторыі Беларусі.

7—6 тысяч гадоў да Н.Х. вызваленыя ледавіком землі заняў лес.

Прыблізна 4 тысячы гадоў да Н.Х. ў жыцьці першабытных людзей адбыліся вельмі важныя зьмены, або, як іх называюць, тэхналягічная рэвалюцыя: чалавек авалодаў новай тэхнікай апрацоўкі крэмню, пачаў шліфаваць прылады працы, навучыўся вырабляць гліняны посуд, вынайшаў лук і стрэлы, ткацтва. Дзякуючы гэтаму людзі сталі пераходзіць да аселага ладу жыцьця, асвойваць земляробства ды жывёлагадоўлю. Магчыма тады і ўзьнікла паселішча на месцы сучаснага Луна.

2-я пал. 3-га тыс. да Н.Х. — З часоў позьняга нэаліту вядомыя так званыя «бурштынавыя шляхі». Адзін з іх праходзіў па Нёмне і Заходняму Бугу. Ці не існавала Луна ўжо тады? А ці не мог існаваць «крамянёвы шлях» з Краснасельскага комплексу крамянёвых вырабаў праз Луненскі «порт»?

Каля 500 гадоў да Н.Х.-У Панямоньні пачалі вырабляць жалеза з балотнай руды.

9—13 ст. — Дзейнічаў і на Нёмне шлях з «варагаў у грэкі». Запіс у кнізе «Памяць. Мастоўскі раён»: «Лічыцца, што гэта паселішча (Луна. Аўт.) узьнікла не пазьней 12 ст».

10—13 ст. — Праславяне мелі свой альфабэт, які быў зьнішчаны разам з ідаламі з прыходам хрысьціянства.

13 ст. — Гісторык Павал Бароўскі, апісваючы спусташэньне Гродзеншчыны ў 1241 г. піша: «З упадку сталіцы ўпала ўдзельнае княства Гарадзенскае. Пасярод спустошанай краіны, яшчэ стаяць рэшткі ўмацаваньняў, калі ў тым жа годзе прыйшлі з поўначы літоўцы (літвіны?) пад кіраўніцтвам сваіх князёў Эрдзівіла, Вікінда, Таўціла Манцівілавічаў, высланых дзядзькам сваім, Вялікім князем Міндоўгам, для заняцьця спустошаных і безабаронных зямель славянскіх. Эрдзівіл без супраціву зрабіўся ўладаром гораду, аднавіў умацаваньні і паблізу вала з драўлянай сьцяной, па звычаю Славянаў, пабудаваў умацаваную вежу. Усё гэта было зроблена з такой хуткасьцю і з такім посьпехам, што, калі манголы, у спадзяваньні новай здабычы, рушылі з поўдня пад началам царэвіча Шэйбака і разьбілі Міндоўга на берагах Нёмна бліз Луна, Эрдзівіл, маючы апору на Гарадзенскія ўмацаваньні, сьмела рушыў на дапамогу свайму дзядзьку і садзейнічаў бліскучай парадзе мангольскіх полчышчаў дзесьці ў Лідзкім уезьдзе. Шэйбак за-

гінуў, манголы ўцяклі і Міндоўг, трыюмфуючы і ў другіх перамогах зрабіўся ўладальнікам многіх зямель, складаючых цяперашнюю Гарадзенскую губэрню»...

*Пэрыяд існаваньня ў Незалежнай Дзяржаве Вялікім Княстве Літоўскім (1248 — 1772)*

1248 г. — Утварэньне Вялікага Княства Літоўскага

1409 г.- З прац пісьменьніка-краязнаўца Дзімітрыя Гаўрыліна можна зрабіць выснову, што ў 1409 г. — Паміж Луна і Ваўкавыскам адбылася бітва Гарадзенскіх дружын з крыжакамі, якія ў 1284 г. упершыню зьяўіліся ў нашых мясьцінах і пасьля каля 20 разоў паўтаралі напады аж да 1410 г.

8 красавіка 1503 г. — Князь Канстанцін Фёдаравіч Крошынскі акольнічы і казначэй Смаленскі атрымаў ад Вялікага князя Літоўскага Аляксандра маёнткі Дубна і Луна ў Гарадзенскім павеце. Вялікі князь Жыгімонт пацьвердзіў гэтае наданьне 8 сьнежня 1506 г., а затым лістом ад 30 кастрычніка 1509 г., бо «многие люди хотели ся в насъ подъ нимъ того двора и людеи подъпрохивати», і нарэшце трэцяе пацьверджаньне было ад 5 кастрычніка 1512 г. Ачышчэньня вотчыны ад «непрыяцеля Маскоўскага» аднак у хуткім часе не адбылося і не прадбачылася. Выдаючы дачку Анну за пана Яна Багданавіча Сапежыча, Канстанцін Іванавіч 8 ліпеня 1513 г. запісвае ў якасьці пасагу дварэц на рацы Луннай.

1531 г., травень — Княгіня Анна ўжо пасьля сьмерці мужа князя Канстанціна і двух зяцёў Сапегі і Копця просіць у траўні 1531 г. апекі і абароны ў вялікай княгіні Боны ад наездаў і рабаваньня з боку суседзяў — ад уціску з боку ўладаньняў Воўпы, князя, біскупа луцкага й берасьцейскага, Паўла і з боку ўладаньняў, якія меў каля двара Дубна Мікалай Юр'евіч Пацэвіч. Разам з гэтым княгіня Анна «по своемъ животе» перадала двор Дубна Боне, заручыўшыся аднак аб захаваньні сваім дочкам і ўнукам іх уладаньняў.

1531 г. — Намесьнік каралевы Боны Ежы Заляпуха з яе загаду на рацэ Лунянцы заснаваў у 1531 г. месца Луна, дзе Бона Сфорца фундавала драўляны касьцёл. (Па іншых зьвестках першы касьцёл пабудаваны Бонай у 1546 г.). Наведваючы свае ўладаньні, каралева «часта ў гэты касьцёлік заходзіла». Луна заставалася ўласнасьцю каралевы Боны да 1557 г., аж да яе сьмерці і ўваходзіла ў склад Гарадзенскага староства.

1558 г.- Луна стала «уласнасьцямі сталовымі», значыць даход з Луненскіх земляў быў прызначаны на ўтрыманьне караля, і ўвайшло ў склад «эканоміі Гарадзенскай», якая дзялілася на воласьці, а тыя на ключы.

1589 г. — Мястэчка ж Луна працягвала заставацца ў складзе Гарадзенскай эканоміі, створанай з дзяржаўных маёнткаў Гарадзенскага павету.

7 лютага 1589 г. кароль здаў у арэнду мястэчка Луна разам з вёскамі Марцінаўцы і Петрашоўцы Мікалаю Сапегу. Па некаторых дадзеных Сапегі арандавалі мястэчка па 1680 г.

1606 г. — Першая зьвестка аб габрэях у Луна, калі «жыд з Луны вёз на гандаль 40 цялячых вырабленых шкур».

1612 г. — Вялікі пажар. Амаль усё мястэчка згарэла.

1613 г. — На карце Вялікага Княства Літоўскага, выдадзенай Мікалаем Радзівілам-Сіроткам у 1613 годзе складзенай Томашам Кшыштафам Макоўскім у Нясьвіжы выразна напісана Luna.

У 1654—1667гг. адбылася Маскоўская навала на землі ВКЛ. У Мастах Маскоўскае войска спаліла касьцёл. У Гарадзенскім павеце, у склад якога ўваходзіла Луна, колькасьць насельніцтва скарацілася з 174 398 чал. да 115 323. Маскоўцамі было забіта 59 075 чалавек або 33,9% насельніцтва павету.

У 1655 г ад маскоўскага войска ў Чарлёнскім кляштары хаваліся менскія манахі базыльяне.

ў 1680 г.- Ключ Луненскі Гарадзенскай эканоміі прынёс 9866 злотых польскіх грошаў гадавога даходу.

Значныя страты эканоміі нанесьлі войны 17—18 стст., эпідэмія чумы ў 1709—10 гг. У другой палове 18 ст. у выніку галоснай рэфарматарскай дзейнасьці Антона Тызэнгаўза гаспадарка аднаўляецца, уводзяцца новыя тэхналёгіі ў жывёлагадоўлі, садоўніцтве.

*Пад Расейскай акупацыяй (1772—1918)*

Пасьля захопу расейцамі зямель Вялікага княства Літоўскага, пачынаючы з 14.11.1795 г. Луна ў складзе Гродзенскага павету, з 14.12.1795 г. — у Слонімскай губэрні, з 11.12.1795 г. — Літоўскай, а з 1801 г. зноў у Гродзенскай губэрні.

Луненскі ключ (адміністрацыйная адзінка эканоміі) у складзе маёнтка Луна з вёскамі Стральцы, Жылічы, Камянчаны, Гледавічы, Шчарбавічы 12 лістапада 1795 г. быў падараваны сапраўднаму стацкаму саветніку графу Мікалаю Самойлаву. Але ён чамусьці не зьяўіўся. Луна становіцца ўласнасьцю графа Міхала Валіцкага. Род Валіцкіх вядомы ў Ваўкавыскім павеце з 1567 г.

4 лютага 1799 г.- Францішак Сапега прадае свае ўладаньні Чарлёна, Лаўна, Воля і Сямаскаўшчына за 500 тыс. польскіх злотых князю Францішку Друцка-Любецкаму.

У «Сьведчаньнях аб маёнтку Воля» за 1845–1848 гг. ёсьць запіс аб тым, што маёнтак знаходзіцца ў вотчынным валоданьні Юльяна Крывіцкага, перайшоў яму ў спадчыну ад бацькі Ксавэрыя Крывіцкага, а апошні набыў яго ў князя Любецкага ў 1809 г.

Юзэфа Памела Крывіцкая выйшла замуж за Уладыслава Тарасовіча, які паходзіў з Гнезна. У выніку Воля і Зяльвяны сталі ўласнасьцю Тарасовічаў.

У 1821 г. маёнтак Луна куплены Чахоўскім.

Юзэфа Чахоўская гербу «Окша» у 1833 г. выйшла замуж за Эдварда Матэуша Ромэра, які стаў уладальнікам маёнтку.

З 1839 г. забаронены казаньні ў цэрквах і касьцёлах на беларускай мове. З 1840 г. па ўказу цара тэрмін «Літва» як і «літвін» сталі таксама забароненымі.

1856 г.- На Нёмне зьяўіўся паравы статак.

У 1859 г. на тэрыторыі, ахопленай Воўпай, Росьсю і Луна, адбыўся «цьвярозы» рух.

25 верасьня 1859 г. Віленскі генэрал-губэрнатар зрабіў прадпісаньне гродзенскаму губэрнатару «Аб правядзеньні неадкладна найстражэйшага дасьледаваньня аб буянскім учынку сялян маёнтку Луна».

3 верасьня 1861 года Гродна і губэрня абвешчаны на ваенным становішчы (зьнятае 28 кастрычніка 1862 г. і зноў абвешчана 26 студзеня 1863 г.).

22 ліпеня 1863 года Гродзенскі губэрнатар Уладзімір Бобрынскі па прапанове Віленскага генэрал — губэрнатара Міхаіла Мураўёва распараджаецца «о строжайшем запрещении женщинам носить траур, а мужчинам польские национальные костюмы или же другие революционные знаки».

1864 г. — Пачынае працаваць у Луне «Начальное училище Министерства народного просьвещения», дзе дзеці простых людзей навучаліся парасейску.

1866 г.- У мястэчку было 1392 жыхары (з іх 1115 габрэяў), дзейнічала валаснoe праўленьне, касьцёл, сынагога, габрэйскія малітоўныя дамы, багадзельня, 20 лавак, заезныя двары, 2 харчэўні, лазьня, 2 млыны, народнае вучылішча (89 вучняў, з іх 11 дзяўчынак), праводзіліся базары, пры сядзібе валаснога праўленьня вінакурны завод.

23 жніўня 1879 года ў Луна адбыўся вялікі пажар. Мястэчка напалову згарэла.

«Мястэчка мае 1211 жыхароў, у тым ліку 965 жыдоў. Парафіяльны касьцёл Сьв. Ганны вымураваны праз Станіслава Аўгуста. Парафія Каталіцкая мае 1649 верных. Капліцы філіяльныя ў Ябланове і Чарлёне» запісана ў слоўніку Геаграфічным Каралеўства Польскага (T.V.c.831).

1883 г.- Адчыняецца тэлеграфная станцыя ў доме Сары Райнес, з якой прыстаў 3 стану Шышкевіч падпісаў кантракт па найму. У мястэчку адчыняецца аптэка правізара Курачыцкага, працуе вольна практыкуючы ўрач І. Л. Казакевіч. З 80-х гадоў ХІХ в. ходзіць пасажырскі параход Гродна-Масты (параход кампаніі О'Брыен дэ Лассі).

1884 г. — У польскім «Геаграфічным слоўніку» запісана, што ў мястэчку Луна 1211 жыхароў, у тым ліку 465 габрэяў і што ў 1879 г. палова Луна згарэла. Парафія Гродзенскага каталіцкага дэканату 1679 душ. Капліцы ў Ябланаве і Чарлёне. А таксама, што ў Луна ёсьць абсэрвацыйная станцыя на Нёмне.

1886 г. — Энцыклапэдыя па гісторыі Беларусі даводзіць, што мястэчка Луна цэнтар Луненскай воласьці, 1392 жыхары, касьцёл, сынагога, 3 габрэйскія малітоўныя дамы, 40 крам, 3 шынкі, 2 харчэўні. Гаспадарчая сфера–

гандаль, рачны транспарт, рамесьніцтва, сельская гаспадарка. Уверх па цячэньні баржы цягалі нёманскія бурлакі.

1889 г. — У Луна была пабудавана царква. Яе настаяцель Іван Халічэўскі за посьпехі ў русыфікацыі насельніцтва атрымаў ад Аляксандра ІІ мэдаль.

31 сакавіка 1896 г. — Памёр Ян Каменьскі «...Знаходзімся пад смутным цёмным уражаньнем сьмерці Яна Каменьскага. Амаль не хочацца верыць, што яго больш не ўбачым» — піша Эліза Ажэшка.

1897 г. — Захавалася статыстыка: у 1897 годзе па Нёмне адпраўлена 1525 плытоў і штогод на прыстанях Нёмна, Шчары і Вільлі грузілася да 1600 суднаў.

1901 г.- Мешчанін Іосель Рубіновіч зьвярнуўся за дазволам на адкрыцьцё фатаграфічнага салёну, на што атрымаў згоду.

1902 г.- Эліза Ажэшка была ў Луне ў час канікул з 2 ліпеня па 24 жніўня 1902 года. Пісала згэтуль у паштоўцы Тадэвушу Грабоўскаму: «4.VII.1902 г. З-над Нёмна блакітнага, з ціхага двара, з ценю белых акацый, якія сьнегам цьвітуць, віншаваньне і падзяка за картку пасылаю. Вясьцей новых і рукапісаў чакаю. Аб добразычлівым захоўваньні памяці прашу». (E. Orzeszkowawa. Listy zebrane. Tom 3, s.188).

1910 г. — З паведамленьня з Луна: «У мястэчку ёсьць двухкляснае вучылішча; цяпер жыды складаюць грошы, каб адкрыць гарадзкое 4-кляснае вучылішча; нашыя-ж сяляне пакуль-што ня вельмі руляцца а прасьвеце». (Наша ніва.1910. №15.).

Яшчэ у 1912 годзе на прыстані ў Луне будавалі баты, аб чым сьведчыць М. Арол (Сьцяпан Язэпавіч Пятэльскі) — паэт, які з восені 1910 года настаўнічаў у вёсцы Струга.

1914 г.- Пачынаецца першая сусьветная вайна. З 1914 года Луна ў каторы раз зноў у зоне актыўных ваенных дзеяньняў. На Беларусі разьмясьцілася 1,5 мільённая групоўка расейскай арміі.

1915 г.- Адступленьне расейскіх войскаў у 1915 г. суправаджалася масавым, часта прымусовым бежанствам соцень тысяч людзей, у большасьці старых, жанчын і дзяцей, на ўсход.

З 3 верасьня 1915 года па 1919 год Луна пад нямецкай акупацыяй.

*Пэрыяд Незалежнасьці (25.03.2018—1.01.1919)*

25 сакавіка 1918 абвешчана Незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі

*Пэрыяд Грамадзянскай вайны і падзелу Беларусі (1919—1939)*

У сярэдзіне лютага 1919 г. Луна было занятае палякамі.

19 ліпеня 1920 г. у Луна былі ўжо бальшавікі.

28 ліпеня 1920 года ў Луна быў створаны ваенна-рэвалюцыйны камітэт (вэлрэўком).

1921 г.- Пасьля Рыскай дамовы 1921 г. бальшавікоў з палякамі без удзелу беларусаў Луна зноў у складзе Польшчы як мястэчка, цэнтар гміны Гродзенскага павету Беластоцкага ваяводзтва.

15 лістапада 1921 г. было забаронена ўжываньне ў школах беларускай мовы.

1924 г. -У Луна 1884 жыхары, 107 двароў.

У 1938 г. — 1671 з 2522 жыхароў Луна, гэта значыць 60%, зьяўляліся габрэямі.

*Пэрыяд Другой Сусьветнай вайны (1.09.1939—8.05.1945)*

1 верасьня 1939 г.- для беларусаў пачалася Другая Сусьветная вайна

24 верасьня 1939.г. — Чырвоная Армія заняла Луна.

1939 — 1940 гг. — Арыштаваныя былі: Ян Вежаль, Ян Швед, абое праўдападобна не вярнуліся ўжо ніколі. Станіслаў Куніцкі-кавалер Ордэну Віртуці Мілітары, Казімір Шчырскі-швагер майго айчыма, Ігар Калішэвіч-сын ксяндза праваслаўнага падпаручнік войска польскага. Гэтыя трое з арміяй Андэрса перабраліся на Захад. Станіслаў Тарасовіч і Эдвард Тарасовіч арыштаваныя ў Вільні. Бацька Эдвард памёр або забіты ў турме. Эдвард Лунеўскі і Казімір Лунеўскі-асаднікі, арыштаваныя і не вярнуліся. Вывезьлі ж: Сабіну Шчырскую-сястру айчыма да Казахстану. Па доўгіх і трудных падарожжах злучыліся з Казімірам у Лондане. Абое ўжо не жывуць. У 1987г. памерла таксама іх дачка Марыя Трывусь. Гэлена Шуроўская настаўніца і загадчыца школы ў Луне, таксама ўжо не жыве. Але ня ўпэўнена, што памерла ў ссылцы. Марыя Гавэнцкая з Шведаў, дачка Яна, сястра афіцэра 3 палка PSK, жонка паліцэйскага з маткаю і дзецьмі вывезена да Казахстана. Пасьля вайны жыла ў Элку. Станіслаў Кундзіч таксама ніколі не вярнуўся».

12 студзеня 1940 г. — Мястэчка Луна атрымала афіцыйны статус рабочага пасёлку Скідальскага раёну.

У лютым 1940 г. вывозілі асаднікаў і іншых «клясавых ворагаў». Быў страшны мароз. Людзей выкідалі з дамоў, не дазваляючы нават дастаць хлеб з печы. Фактычна ж рэпрэсаваны былі дзясяткі ні ў чым непавінных людзей, імёны ўсіх да гэтага часу невядомыя.

Ранак 22 чэрвеня 1941 г. для Луна пачаўся трагічна. Бомбы паляцелі на дарогу і нашыя хаты. Вуліца загарэлася. Згарэлі амаль усе дамы на правым баку вуліцы. У адным з дамоў згарэла дзіця. Была забіта жонка Рабіна Ротберга Раха Міна.

У верасьні 1941 года немцамі было ўтворана ГЕТА на тэрыторыі Волі.

13 кастрычніка 1941 г. дзяржаўны камісар Лёзэ выдаў загад, паводле якога ўся рухомая і нерухомая маёмасьць жыдоўскага насельніцтва Остлянду належала канфіскацыі.

2 лістапада 1941 г. з 12 да 18 гадзін усе габрэі (а Луна было габрэйскім мястэчкам) былі абавязаны перасяліцца ў ГЕТА.

Падчас нямецкай акупацыі дзейнічалі заставы Арміі Краёвай. Аб гэтым успамінае Ірэна Алізар.

«Не выключана, што і застава Воўпа вяла сваю партызанскую дзейнасьць, асабліва ў пэрыяд „Буры“. На шосах і дарогах, якія вядуць з Гродна ў Бераставіцу, Адэльск, Капцёўку, Саколку, дзейнічалі атрады лейтэнанта Баляслава Вольскага, пс. „Межынэк“, харунжага Казіміра Кашубовіча пс. „Тадэвуш“ і іншыя. Кашубовіч быў камандзірам заставы Воўпа. Тэрыторыю Воўпы кантралявалі таксама партызаны з суседняй заставы Луна Яна Сезенеўскага. Яны дзейнічалі ў ваколіцах: Луна, Воўпа, Рось, Адэльск». (Ліст І. Алізар дня 7. YII.1991 г.).

Ян Сезенеўскі-лётчык, партызан, які дзейнічаў са сваім атрадам на тэрыторыі гмін Луна, Воўпа і Рось. У 1945 годзе ён паверыў у амністыю, раскрыў сябе і атрымаў 25-гадовы тэрмін за барацьбу з савецкай уладай. Быў высланы ў лягер у 1947 годзе. Ян Сезенеўскі, сын Юльяна і Юзэфы, нарадзіўся ў 1905 годзе ў Сезеневічах, актыўную службу праходзіў у 11 палку паляўнічым і застаўся на капрала прафэсійнага 5-га палку авіяцыі. Мяняў эскадрыльлі і аэрадромы (Ліда, Парубанак, Торунь). 18 верасьня ён быў узяты ў палон Чырвонай Арміяй. Аднак ён зьбег з транспарту, вярнуўся ў родны дом, дзе перайшоў у падпольле.

«У маі 1942 г. нас паліцаі забралі (мяне з бацькам). Разам забралі Наташу Стрэшку, Лізу Ігнацюк, Валю Вазьняк, Маню Трубецкую. Спачатку завязьлі нас у Сувалку. Там нас прадавалі за 1,5 маркі за аднаго рабочага. Затым я папала ў Кукурнезе (?) у Германіі. Даілі кароў, кармілі сьвіней, хлеб убіралі. Бацька ад мяне быў далёка Ў Кенісбергу. Там памёр. Вызвалілі нас у сакавіку 45 г.». Ірэна Алізар.

1 лістапада 1942 года з навакольных вёсак у Луна былі сабраны сяляне з вазамі.

Ноччу 2 лістапада 1942 года жыхарам гета Луна-Воля было загадана сабрацца на рынкавай плошчы. Было дазволена ўзяць з сабой толькі асабістыя рэчы. Стараліся ўзяць з сабой хоць трохі ежы: збожжа, цукру... Некаторыя хавалі ўпрыгожваньні, у тым ліку гадзіньнікі і кольцы, у сваю вопратку. 1549 чалавек: 100% габрэйскага насельніцтва Луна было пасаджана на вазы і вывезена ў транзытны лягер Калбасіно, адкуль быў адзін шлях — у крэматорый.

23 ліпеня 1943 года — Спалена вёска Княжаводцы. Свае жыцьці тут скончылі 922 жыхары. Зараз у Княжаводцах толькі 38 пастаянных жыхароў, у асноўным пэнсыянеры...

Ноччу з 13 на 14 ліпеня 1944 г. групы 2-га стралковага батальёна 433-га стралковага палка 64-й стралковай дывізіі падышлі да ракі Нёман. Трэцяя спроба фарсіраваньня ракі ў раёне мястэчка Луна аказалася ўдалай. Група камандзіраў узводаў лейтэнантаў С. З. Сухіна і П. Я. Жолудзя з шасьці чалавек (ст. с-т С. М. Калінін, рад. І. І. Асінны, М. С. Майдан, А. П. Нічапурэнка, Т. І. Салапенка, І. Г. Шарамет) захапіла на левым беразе ракі Нёман пляцдарм каля 50 м у глыбіню і па фронце на ўсход ад мястэчка.

У баях за мястэчка Луна загінула 64 савецкія вайскоўцы. 14 ліпеня толькі адна 64-я стралковая дывізія страціла 40 чалавек забітымі і 56 параненымі.

З 15 ліпеня 1944 г. амаль у пустым Луне пачалося «мірнае» жыцьцё. Савецкія ўлады адразу змабілізавалі ўсё мужчынскае насельніцтва ў вайскоўаабавязаным веку. З іх арганізавалася апалчэньне, дрэнна ўзброенае і не абучанае адразу высылалася на перадавую. 27 луненцаў напаткала такая доля. Падчысьцілі і навакольныя вёскі.

*Савецкі пэрыяд (1944—27.07.1990)*

Студзень 1944 г.- З успамінаў І. Алізар: «Бальшавікі нас вызвалілі 15 ліпеня 1944г. Ужо 12 і 13 студзеня гэтага года пачаліся масавыя арышты палякаў (у невялікай частцы і беларусаў). У Луне арыштаваны: Юзэфа Трацьцяк, Віктар Трацьцяк, Мячыслаў Трацьцяк- сям'я айчыма. Вінцэнт Аляксейчык-мой дзед, тады 64-гадовы, Казімір Тарасовіч, Яўген Булай-лекар праваслаўны, але разумеючы па-польску, яго брат Анатоль Булай, Антон Кадзевіч, Юзаф Лунеўскі, Станіслаў Швед і многія другія. Клікс-асаднік ваенны. Ян Сезенеўскі арыштаваны ў 1945г., падафіцэр прафесійны кіраўнік партызанкі ў ваколіцах Сезяневічы-Эйсманты-Індура, таксама яго брата (забыла імя). Знаю Паўла Сезянеўскага, пляменьніка Яна, бо разам са Скідаля высылалі мы пасылкі да сваіх блізкіх, што было не малым дасягненьнем, бо пасылак прымаць не хацелі. Я вынайшла такі спосаб, зь якога карысталіся многа асоб і пасылкі даходзілі. Зразумела, давалі тоўсты хабар начальніку пошты. Неабходна была таксама мая пратэкцыя і прысутнасьць. Знаю, што Ян Сезянеўскі не вярнуўся з лягераў у Комі. Вярнуўся затое яго брат і бацька Паўла, які таксама ўжо не жыве. Аляксандр Антушэвіч... майго добрага кузэна. Вярнуўся з Комі АССР (усе ў той час там знаходзіліся), цяпер ужо не жыве. Браніслава Стэрповіча».

У 1944—1946 гадах адбывалася перасяленьне палякаў з заходняга рэгіёна Беларусі ў Польшчу, а беларусаў з Польшчы, галоўным чынам з Беласточчыны. Некалькі сем'яў палякаў пакінула Луна. Прыехаўшыя з Польшчы беларусы мелі такую льготу, што маглі выбіраць любую сядзібу для пасяленьня, нават, калі там жылі ўладальнікі.

1944 г. была адкрыта сямігадовая школа, вядома, з расейскай мовай навучаньня. Яна разьмяшчалася ў некалькіх будынках.

«У ліпеню 1948 г. пачаліся новыя арышты ў Луне, у тым ліку была мая мама і я (Ірэна Алізар). Выдаў нас Мячыслаў Занеўскі, адзін з салдатаў АК. Перад трыбуналам ваенным у кастрычніку 1948 г. стаяла нас 19 асоб. Некаторыя былі з ваколіц Луны, іх нават ня ведала. Адольф Плахетка-Камандзір атрада „Сіп". Памёр у 1991г. Аляксандр Кананові́ч, Цэзар Кананові́ч-браты. Аляксандр Шчырскі-памёр у лягеры. Юліан Станюкевіч-памёр у 1957г. у Луне. Казімір Алізар. Урбановіч (ня помню імя). Юзаф Міхал-

кевіч. Мечыслаў Занеўскі. Юзэфа Трацьцяк-памерла ў 1982г. Браніслава Дамброўская-памерла ў 1984г. Леакадзія Багуцкая, Эмілія Плахетка-Пажарская».

«Зараз прадстаўлю постаць Мечыслава Занеўскага. Ён даўно жыў у Луне, быў мэханікам на паравым млыне. Ён быў вядомы як высакародны чалавек, і так ацэньвалі ўсю яго сям'ю. Метэк ажаніўся з мясцовай дзяўчынай, і ў іх нарадзілася дачка. Аднойчы ён пайшоў у клюб, дзе напіўся, хоць п'яніцам не быў і разам з беларусам вылупіў вочы на партрэт Сталіна. НКВД беларуса выключылі з справы і да паляку ўмела падышлі. Верагодна, яны паабяцалі яму, што адпусьцяць яго ў абмен на выдачу іншых суайчыньнікаў. У раёне была партызанка, за якой сачыў беларускі міліцыянт, дражніў партызан, таму яны яго і забілі. Вынік перасягнуў самыя сьмелыя чаканьні НКУС. Метэк, да няшчасьця, быў сакратаром узвода, і ў яго вядомым месцы захоўваліся дакумэнты, у тым ліку пералік прозьвішчаў з псэўданімамі, чынам і займаемай пасадай. Менавіта гэты сьпіс, дакладней, яго частку ён прадставіў. Затым няшчасныя выпадкі пакаціліся ў гару. Памятаю ваенны суд усёй нашай групы. Метэк таксама атрымаў вышэйшую меру пакараньня. У апошнім слове ён сказаў, што гэта несправядліва. У адказ судзьдзя-кат іранічна ўсьміхнуўся. Выйшаўшы з лягеру, ён не вярнуўся да Луна, так як калегі абяцалі, што заб'юць яго. Жонка тым часам знайшла сабе іншага, а бацька памёр ад турботы і сораму за сына». (Ім і. Алізар 7.07.1991 г.).

У 1949 г., калі ў Луна арганізоўвалі калгас, жыхары ў большасьці былі прыежжымі з навакольных вёсак і з Польшчы. Ужо ніколі мястэчка не змагло падняцца да даваеннага ўзроўню ні па колькасьці насельніцтва ні па эканамічнаму разьвіцьцю. Калгас ствараўся цяжка, людзей заганялі сілком. Старшыні калгасаў прысылаліся з Расіі. Калгас у Луна назвалі імем Калініна. Старшынёй быў прызначаны А. Круглаполаў.

У 1953 годзе па мосьце можна было прайсьці пеша, а неўзабаве новы мост уступіў у строй.

1955 г. — Статус Луна панізілі да вёскі

У 1955 г. быў пабудаваны будынак для школы — дзесяцігодкі на месцы палацу Ромэраў.

Калгас увесь час рэфармаваўся і ўзбуйняўся. У 1965г. набыў назву «Россия».

1972 г. — У Луна было 473 двары.

У 1973 г. у двары школы ўсталяваны помнік-бюст Героя Савецкага Саюзу Івана Шарамета, імя якога носіць школа і адна з вуліц Луна. Цэнтральная плошча ў Луна носіць назву Плошча Герояў.

У гонар ваяроў 64-ай стралковай дывізіі 49-ай арміі 2-ога беларускага фронту, якія 14.07.1944 г. аднымі з першых фарсіравалі р. Нёман, захапілі пляцдарм на заходнім беразе ракі і на працягу сутак адбілі 12 контратак суперніка, у 1976г. у парку, дзе яшчэ нядаўна былі габрэйскія могілкі, быў пастаўлены абэліск.

Нарэшце прыйшлі гады, калі назіраўся сацыялістычны эканамічны росквіт.

У 1984 г. пабудаваны новы будынак школы, праўда заадно часткова былі зьнішчаны рэшткі паляца-паркавага ансамблю Ромэраў: сажалкі пазасыпалі сьмецьцем, многія дрэвы сьпілавалі.

*Пэрыяд Незалежнасьці і дыктатуры (27.07 1990 -9.08.2020)*

Тое, за што змагаліся лепшыя сыны Беларусі на працягу двух стагодзьдзяў, зьдзейсьнілася 27 ліпеня 1990 г. Вярхоўны Савет БССР прыняў Дэкларацыю аб Дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі–гэта найвялікшае сьвята нашай Радзімы.

Пачалі дзейнічаць добраахвотныя грамадзкія арганізацыі: суполка Зьвязу палякаў на Беларусі, суполка БНФ «Адраджэньне», суполка ТБМ. У мястэчку аднавіліся традыцыі ўшанаваньня народных сьвятаў, як Дзяды, Купальле, Радаўніца, Яна і Цэцыліі... Удалося зьмяніць назвы вуліц. Вуліцы Леніна вярнулі яе гістарычную назву Гродзенская, вуліцу Энгельса назвалі ў гонар Міхася Явара. Яна была абсаджана яварамі, а на могілках у Радзівонаўцах сумеснымі высілкамі сельскага савета і сябрамі суполкі БНФ «Адраджэньне» наведзены парадак ля магілы М. Явара. З луненцамі сустракаўся Зянон Пазьняк.

Больш за 60% выбаршчыкаў з Луна ў ліпеню 1994 г. аддалі свае галасы на выбарах прэзыдэнта за Лукашэнку.

1997 г. У Луна — 559 двароў.

На 01.01.2002 г. у Луна 1093 жыхары. Да 16 год — 182, працаздольных–523, пенсіянераў–588. Нарадзілася за год 14 немаўлят. Пахавалі–56 чалавек. Закончыла школу, выехала і ўжо не вернецца ў вёску–11. За год вёска зьменшылася на 53 чалавекі.

19 студзеня 2004 г. дэпутат Луненскага сельскага Савета Валянціна Карповіч напісала зварот у Луненскі сельскі Савет з прапановай выканаць свой маральны абавязак перад загінуўшымі 1549 жыхарамі Луна, устанавіўшы памятны знак напярэдадні 60-годзьдзяя Перамогі.

У канцы 2005 г. быў прывезены і ўстаноўлены валун, на якім павінна была быць замацавана шыльда з адпаведным надпісам. Але... ужо пайшоў 2006 г., а камень так і стаіць пусты пасярод закінутага кавалачка зямлі

2005 г.-Луна перастала быць вёскай у канцы 2005 г. Гэта быў першы «агрогородок» у Мастоўскім раёне.

2005 г. — зьнішчаны «цікавы камень» Татарская шапка, што ляжаў «каля в. Камянчаны Луненскага сельсавета, паблізу дарогі з Луна на Гродна».

2005г.- У Луна прыбыла група студэнтаў-валанцёраў Дортмундзкага каледжу штата Нью-Хэмпшыр на чале з кіраўніком Майклам Лозманам.

У пачатку траўня 2006 г. на Памятным знаку ўстаноўлены надпіс: «Вечная память 1549 жителям местечка Лунно безвинно убитых в годы ВОВ, июль 2005г».

У 2006 годзе да нас у Луна завітала Вольга Іпатава.

У жніўні 2009 года ля Луненскай школы зьнішчана больш за 20 дрэў з таго, што яшчэ заставалася ад старажытнага цудоўнага парка вакол былога палаца Ромэраў.

3 кастрычніка 2009 года на турыстычнай карце Беларусі зьяўілася, бадай, першая тэматычная вёска. 40 дарослых і 20 дзяцей зрабілі вандроўку «Наднёманскія легенды».

19.04.2010 г. — Луна наведаў Першы кіраўнік незалежнай Беларусі Старшыня партыі «Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада» Станіслаў Шушкевіч.

*Пандэмія каранавірусу COVID-19 (28.02.2020-...). Рэвалюцыя супраць дыктатуры (9.08.2020-...)*

28 лютага 2020 года выяўлены першы хворы каранавірусам у Беларусі.

9 жніўня 2020 — Сфальсыфікаваныя выбары і пачатак пратэстаў.

